Пераклад Васіля Раманава 2015 год.

Марозаў Мікалай Аляксандравіч

# Новы погляд на гісторыю рускай дзяржавы.

## Змест



# Прадмова да першай кнігі

У нас зараз шмат разважаюць пра планаванне ўсякай дзейнасьці наперад на год і больш. Вядома, планаванне неабходна, як у галіне фізічнай і навучальнай, так і ў галіне выкладчыцкай дзейнасьці. Але ў дачыненні да даследніцкай дзейнасьці, дзе чалавек заўсёды стаіць напярэдадні яшчэ чагосьці невядомага, пастаянна даводзіцца адхіляцца ад загадзя складзенага плана.

Даследнік усё адно што паляўнічы. Ён ідзе праз невядомы лес, прызначыўшы сабе агледзець адну яго частку, але раптам заўважае напалову занесеныя снегам сляды буйнога невядомага звера, цалкам іншай пароды, чым

чакаў. Што яму рабіць? Ахвяраваць зверам, дзеля захавання свайго папярэдняга плана ці, пакінуўшы план, ісьці па выявіўшамуся сляду? Вядома, ён не быў бы годным назвы дасьледніка ці следчага, калі б не ахвяраваў папярэднім планам дзеля ўзнікаючай магчымасьці.

Так было і са мной вясной 1934 гада. Я выправіўся ў вёску на лета, захапіўшы з сабой асноўныя рускія летапісы із бібліятэкі Акадэміі Навук, каб праверыць іх дакладнасць грунтуючыся на апісаных у іх сонечных і месяцовых зацьменнях. Такім быў план, а зараз паглядзім, куды ён мяне завёў.

Я перачытаў некалькі разоў асноўны, так званы «Несьцеравы» летапіс згодна з выданнем «Гісторыка-Археалагічнага Інстытута Акадэміі Навук» і не знайшоў там ніякіх астранамічных дадзеных, якія б паддаваліся матэматычнай праверцы, аж да зацьменняў 1064 і 1106 гадоў, калі гэты летапіс заканчаецца і, такім чынам, пад час жыцця яе кампілятара. Толькі іх ён і апісаў, а ўсе астатняе, верагодна, сам жа і скампанаваў грунтуючыся на нейкіх чужых — грэцкіх. Урыўкавыя летапісныя запісы пачалі аб’ядноўвацца адны з другімі праваслаўнымі грамацеямі, якімі да XVII стагоддзя былі, можна проста сказаць, выключна сьвятары і манахі. Для іх, вядома, невыноснай была думка, што Русь і яе князі і сьвятары, якія пераняли грэцкае веравызнанне пры сьвятым Уладзіміру і Вользе, перамянілі пазней пры кіеўскім князю Рурыку Расьціслававічу (з якога спісаны і Рурык Вараг) гэтае праваслаўнае веравызнанне на паганую лацінскую ерась, аж да заснавання «Турэцкага царства». Але гэтага ніяк не магло і не павінна было здарыцца. Русь самім богам была прызначана быць ад свайго пачатку і да канца стагоддзяў нязменным слупам праваслаўя. З гэтага боку гледжання і былі (верагодна пры Нікану, адразу пасьля 1654 гада) «выпраўлены» не толькі набажэнскія, але і летапісныя рукапісы, са знішчэннем усіх тых, нібы сапсаваных, тэкстаў, з якіх можна было выразна пабачыць першасную лакалізацыю падзей і іх першасны заходніцкі сэнс ці славянскія паданні, якія былі ў той час.

Цалкам іншае ў прадаўжальнікаў гэтага псеўда-летапісу, із якіх Лаўрэнцьеўскі летапіс, дапасуемы да Кіева, заканчваецца 1305 годам, а іншыя даводзяць апавяданне да канца XVII стагоддзя і пералічваюць вялікую частку назіраемых зацьменняў старажытнага часу. І вось, тут і выявілася нешта нечаканае для мяне, яшчэ не ведаўшага, што і Карамзін іншым шляхам прыходзіў да той жа думкі, хоць і не зрабіў із гэтага належных высноваў. Я лічыў, што рускі год усяго дапятроўскага часу быў візантыйскім, пачынаючымся 1-шым верасня, г. азн. ад Ісуса Прарока (Ісуса Навіна па-жыдоўску), нібы прывёўшага «боскі народ» у «Запаветную зямлю», які згодна з маімі дасьледаваннямі атаясамляецца з Ісусам Памазанікам (Ісусам Хрыстом па-грэцку). Але раптам выявілася, што датаванне зацьменняў атрымліваецца слушным толькі ў тым выпадку, калі мы будзем лічыць летапісны год не ад 1 верасня, па-візантыйску, а ад 1 сакавіка, класічна, пра што сведчаць і ўжываемыя ў тых жа летапісах лацінскія назвы месяцаў: сэтэмбрый, актобрый, навэмбрый, дэцэмбрый (г. азн. сёмы, восьмы, дзявяты, дзясяты месяцы, так што адзінаццаты прыпадаў на студзень і дванаццаты на люты, а сакавік быў першым месяцам года)[1].

Здзіўлены гэтым нечаканым вынаходніцтвам, я паспрабаваў праверыць яго і яшчэ адным спосабам, грунтуючыся на днях тыдня. Мы ведаем, што ў кожным наступным простым годзе першае студзеня (а з ім і ўсе наступныя дні ўсіх месяцаў) прыпадаюць на наступны дзень тыдня (а пад час высакоснага года, з сакавіка па

[1] Гл. пра гэта главу I гэтай часткі па табліцах I і II.

сакавік, яшчэ праз адзін дзень). І гэта дало мне магчымасць праверыць усе гады, якія датаваны адразу і юліянскім злічэннем месяца і днём тыдня, як, напрыклад: «У лета 6681 (ад стварэння сусвету, г. азн. у 1173 г. згодна з хрысьціянскім злічэннем) памёр благаверны князь Мсціслаў Андрэевіч месяца сакавіка, у 28 дзень, у аўторак».

Праверыўшы ўсе такія выпадкі[2], я зноў знайшоў, што амаль усе яны адпавядаюць рэчаіснасьці толькі ў тым выпадку, калі летапісны год мы будзем пачынаць з сакавіка, а не з верасня ці са студзеня, прытым і гэты спосаб праверкі выявіўся недапасуючымся да псеўда-Нестаравага летапісу: там няма ніводнага падобнага падвойнага пазначэння, а ў яго прадаўжальнікаў дзясяткі[3].

Але як жа, – падумаў я, – пагадніць такі пачатак года з візантыйскім, калі думаць, што рэлігія і культура прыйшлі да нас із Цар-Горада, а не із Рыма, раней чым класічны лацінскі сакавіцкі год быў заменены на студзеньскі, што відаць, было ўжо пасьля падзення лацінскай крыжацкай феадальнай імперыі на Балканскай паўвыспе, як сапраўднай родапачынальніцы класіцызму?[4]

І тут мне прыйшлі ў галаву некалькі іншых дзіўных параўнанняў:

1. Чаму рускае слова **царква** паходзіць ад лацінскага **цір-кус** (кола вернікаў), а не ад грэцкага **эклесія** (адкуль французскае **eglise**). Грэцкая назва пераскочыла ў лацінскую Францыю, а лацінская класічная перанеслася із Рыма ў Расію! Ці не дзіўна гэта?

2. Чаму рускае слова “**крэст”**, як і польскае **кржыж**, пажодзіць ад лацінскага **крукс**, а не ад яго грэцкага наймення стаўрас?

3. Якім чынам патрапіла ў славянскую і ў рускую Біблію 3-я кніга Ездры, якой няма ні ў грэцкай ні ў жыдоўскай бібліях, а толькі ў лацінскай у каталікоў?

4. Чаму ў гісторыі Кіеўскага княства часоў крыжовых паходаў, а таксама і іншых княстваў таго ж часу, няма ніводнага князя з імем знакамітых грэцкіх сьвятых: Яна, Васіля і г. д., калі яны хрысьціліся згодна са звычаямі Візантыйскай царквы (як практыкавалася пазней у Маскоўскай Расіі), а толькі амаль адны славянскія імёны: Уладзімір, Святаслаў, Яраслаў, Усевалад і г. д., як было ва ўніяцкіх славянскіх дзяржавах? Таму што гэтых славянскіх імёнаў нават і няма ў грэцкіх сьвятцах.

5. Чаму рускія сьвятары ў летапісах заўсёды маюць назву **папы**, як па-ангельску і дагэтуль завецца **рымскі папа (pope),** ды і сама руская назва «поп», мусібыць, толькі перайначанае слова папа? Бо, калі б сьвятары прыйшлі да нас із Візантыі, то яны б мелі такую ж назву як і там – іярэі?

6. Чаму рускае слова **пост** таго ж кораня, як і нямецкае Fasten, ангельскае **fas**, лацінскае **fasti** – судовыя дні, тады як па-грэцку пост мае назву **нестэйя** (rjoxcia) і асіція (aoixia)?

7. Чаму рускае слова **алтар** паходзіць ад лацінскага **altar-ium** (па-нямецку **Altar**, па-французску **altar**), а не ад грэцкага **цю-сіатэрыён** (dvoiaaxepiov) ці **бомас** (pco^oc)?

---

[2] Яны паказаны тут у главе I у табліцы III.

[3] Ужо пазней мой супрацоўнік па Дзяржаўнаму Навуковаму Інстытуту імя Лесгафта В. Т. Сумакоў паказаў мне заўвагі да “Гісторыі Дзяржавы Расійскай” Карамзіна із якіх відаць, што і ў гэтым летапісе год пачынаецца з сакавіка.

[4] Гл. “Хрыстос” кн. V і кн. VII.

8. Чаму на стара-царкоўнай мове замест слова «**ўксус**» ужываецца слова **оцат** ад лацінскага **acetum**, тады як па-грэцку воцат проста і завецца оксас (o£oc), як па-руску.

9. Чаму язычнік на стара-царкоўнай мове мае назву *паганін* (адкуль слова паганы (ад лацінскага paganus), ангельскае pagan), тады як па-грэцку язычнік мае назву **этнікос** (eflvixoc;).

10. Чаму на стара-царкоўнай мове замест «прычашчаць» ужывалася «**комакаці**» (ком каці) ад лацінскага communicare (французскае communier), тады як па-грэцку прычашчэнне мела назву **кайнонія** (xoivcovia)?

11. Чаму рэчыва для царкоўнага каджэння мае назву **ладан**, ад лацінскага слова **ladanum** (ад кораня laudo — усхваляю), тады як па-грэцку яно мае назву лібанас (Xi(3avoc;)?

12. Чаму само слова «**вера**» паходзіць у нас ад лацінскага слова **vera**, г. азн. праўдзівая, адкуль і французскае verite, а не ад грэцкага **дакса** (6o£a) ці **пісціс** (матк;), адкуль і французскае слова **piete** – набожнасць?

13. Чаму палоса тканіны, апранаемая дыяканам пры служэнні, мае назву **арар** ад лацінскага orarium – рушнік?

14. Чаму слова **віно**, ўжываемае пры прычашчэнні, паходзіць ад лацінскага слова **vinum**, а не ад грэцкага **ойнас** (otvoc)?

Я ўжо не разглядаю іншыя царкоўна-славянскіх словы, накшталт «**Пасудзіна скудзельная**» – ад лацінскага **scandula** – трэскі, дранкі, і г. д. Бо ўсе прыведзеныя мной словы – гэта асноўныя словы нашага клерыкалізму.

Астатнія ж хрысьціянскія словы і найменні, хаця і грэцкага кораня, але таксама маглі патрапіць да нас не ад грэкаў, а ад лацінянаў, бо яны тыя ж самыя і ў лацінскай Бібліі, напрыклад: angelus, apostolus, daemon, diabolus і г. д.

Толькі адно «Астрамірава Евангелле» мае відавочныя прыкметы перакладання із грэцкай мовы, бо ў ім без перакладу засталіся нават цэлыя грэцкія фразы. Нам кажуць, што яго спісаў (ці пераклаў?) яшчэ да крыжовых паходаў на славянаў, у 1056 годзе ў Ноўгарадзе дыякан Рыгор для наўгародзкага пасадніка Астраміра і ў ім, напрыклад, у 12 главе Евангелля Яна (12. 3) замест сучаснага рускага перакладу: «Марыя ўзяла фунт мюра нардавага чыстага», чытаем на напалову грэцкай мове: «Марыя прыемшы фунт мюра нарда пісцікес» – г. азн. пакінута без перакладу грэцкае выказванне: «лютран мюру нарду пісцікес» – літра мюра (із) нарда чыстага[5].

Адной такой фразы, вядома, ужо дастаткова, каб зрабіць выснову, што гэты пераклад быў зроблены із грэцкага тэксту. Але «Астрамірава Евангелле» ж і вылучаецца якраз сваёй мовай. Існуючую на ім прыпіску з пазначэнем 1056 год наўрад ці можна браць да ўвагі, таму што і без мяне ў яго мове адзначана дастаткова шмат русіцызмаў, а таму і магчыма дапусьціць, што гэты пераклад быў зроблены патрапіўшым у Ноўгарад баўгарынам ужо пры Яне III, ці нават пазьней[6].

Я пачаў пазней і далей распрацоўваць гэтую тэму, чытаючы адпаведную літаратуру і даведаўся, што апроч таго і ў самім «Кірылы-Мяфодзіеўскім» перакладзе даследнікі знайшлі вельмі шмат сярэдне-еўрапейскіх гоцкіх слоў і гоцкіх выказванняў у тых жа самых месцах тэксту, як і ва ўрыўках перакладаў

---

[5] Па-грэцку: **Xuipotv ^lupu vapSu manxec.**

[6] Пра гэта больш падрабязна ў Я. В. Ягіча: Словауказальнік да Марыінскага Чацьвёраевангелля, а таксама ў Буслаева "Пра ўплыў хрысьціянства на славянскую мову".

Ульфілы, самым важным узорам якога з'яўляецца «Срэбны кодэкс», які захоўваецца ў Швецыі ва Ўпсальскай Універсітэцкай бібліятэцы і выдадзены ўпершыню ў 1665 годзе Францам Юніюсам[7]. Лічачы готаў выйшаўшымі на гістарычныя падмосткі ў той жа час, як і гатычны стыль і гатычны альфабэт, г. азн. у эпоху крыжовых паходаў (пачынаючы з паловы XII стагоддзя), я не мог не адзначыць, што готы, пра якіх мы ведаем толькі са сведчанняў Тацыта, папярэдзілі яшчэ ў II стагоддзі ўсе крыжовыя паходы.

Сапраўды, узнікшы ў абласцях сучаснай нам Германіі, яны, як і крыжакі, рушылі да Татраў і да Дуная на Балканскую паўвыспу, дзе заснавалі сваю імперыю, якой былі вымушаны падпарадкавацца большасць суседніх славянскіх, літоўскіх і германскіх плямён. Адсюль яны – як і крыжакі праз тысячу гадоў пасьля іх – распапачалі як марскія, так і сухапутныя паходы на Рамейскія вобласьці – Фракію, Эладу і Малую Азію, нанёсшы жорсткую паразу «Дзясятаму» імператару (Дэцыю па-лаціне). І вось за тысячу гадоў да Лацінскай імперыі Балдуіна імі засноўваецца Гоцкая імперыя «Германскага цара» (Герман-рыха па-гоцку), і толькі замест «туркаў» яна была знішчана «гунамі».

Ці не праўда, якое дзіўнае падабенства ад пачатку і да канца? І ці магчыма гэта, калі «тацытавых готаў» не атаясаміць з немцамі-крыжакамі, а тацытавых гунаў з туркамі?

Пагэтаму я не магу не прыйсці да думкі, што і пераклад Евангелляў на славянскія мовы зроблены крыжакамі толькі падчас крыжовых паходаў, а таму і Ульфіла быў хутчэй за ўсё манахам нейкага каталіцкага ордэна ці арыянінам і калі і жыў у Царгорадзе, то не пры імператару Хвядосу ў IV стагоддзі, а пры імператару Балдуіну ў XII ці XIII стагоддзі.

Ды і самі першыя прапаведнікі хрысціянства сярод славянаў – Кірыла і Мяфодзій – (імёны якіх па-грэцку азначаюць – Гасподні і Метадычны) былі рымскімі каталікамі, так як езьдзілі за тлумачэннямі да папы Адрыяна ў Рым, а не ў Цар-Горад да патрыярха Фоція. Гэта азначае, што і атрымаўшы дазвол ад папы перакладаць (у піку грэкам) Евангеллі на славянскую мову, яны наўрад ці маглі абраць для гэтага не папскі лацінскі тэкст, а грэцкі, тым больш, што і самі яны не былі грэкамі. Ды і ці сапраўды «папа Адрыян», які дазволіў ім гэты пераклад, быў рымскім пантыфікам Адрыянам II (867-872), не меўшым звання папы[8], а не сапраўдным «рымскім папам» Адрыянам (1154-1159), празваным чацьвёртым, пасьля няшчасьця 2-га крыжовага паходу ў 1147 годзе? Бо нумарацыя аднайменных папаў была ўведзена толькі ў XVIII стагоддзі, і таму лёгка было пераблытаць.

І ўсё гэта ў суме паказвала мне, што першапачатковыя славянскія пераклады Бібліі і іншых набажэнскіх царкоўнаславянскіх кніг утрымліваюць у сабе не толькі лінгвістычныя, але і гістарычныя сляды ўніяцкага паходжання з Захаду.

Пазней я знайшоў гэта і ў гісторыкаў царквы.

«Вядома, – выказваецца Ф. Вігуру, – што зборнік славянскай Бібліі быў зацверджаны толькі напрыканцы XV стагоддзя. Да самых апошніх гадоў гэтага стагоддзя ў рускай пісьмовасьці, а таксама і на абшарах усяго славянскага сусвету не існавала вызначанага «Збору біблейскіх кніг». Яны прапаноўваліся славянскаму

[7] Гл. Шафарык “Славянскія старажытнасьці”.
Вігуру Ф. Кіраўніцтва да чытання і вывучэння Бібліі. 1916. стр. 114.
[8] Нагадаю, што рымскія вялікія панціфікі (pontifici maximi) пачалі называцца папамі толькі з 1073 года пачынаючы з Рыгора VII.

чытачу ў самых разнастайных па зместу кнігах. Толькі на самым пярэдадні XVI стагоддзя наўгародзкі архібіскуп Генадзь упершыню вылучыў біблейскія кнігі із гэтага хаосу, сабраў іх у адзіны кодэкс і, такім чынам, заклаў першы камень у будынак сучаснай славянскай Бібліі, якой мы яе зараз ведаем. «Кодэкс Генадзя», аднак, далёка не вызначаецца адзінствам тэксту з боку мовы. Толькі Пяцікніжжа Майсея, Псалтыр і Прароцкія кнігі, магчыма былі ўключаны ў яго згодна з Кірыла-Мяфодзіеўскім перакладам[9]... » «Дзве кнігі Параліпаменон, тры кнігі Ездры, кнігі Тавіта, Юдыфі і Прамудрасьці Саламона перакладзены проста із Лацінскай (каталіцкай) Бібліі-Вульгаты і перакладзены прытым недастаткова спрактыкавана, без добрага ведання як лацінскай, так і рускай моў»[10].

Але якім жа чынам, — прыходзіла мне ў галаву, калі я пра гэта даведаўся, – архібіскуп Генадзь мог дапусьціць перакладанне з «боганенавіснай лацінскай мовы», калі ён быў праваслаўным і аддаваў анафеме лацінян? Няўжо ён не змог здабыць грэцкіх арыгіналаў гэтых кніг?

Ды калі і не змог, то якім жа чынам ён мог быць упэўненым, што не разыйдзецца з грэцкімі версіямі (як і здарылася) у сваім тэксце? Згадайце толькі, як стараверы абурыліся супраць патрыярха Нікана за выпраўленне нават асобных слоў ці правапісання ў рэлігійных кнігах, якія здаваліся ім, згодна з узроўнем некрытычнай думкі таго часу, прадыктаванымі самім «святым духам»?

І я зразумеў, што ў нас у гэтым выпадку няма іншага выйсьця, як прызнаць, што Генадзь быў яшчэ ўніятам.

А пазней пачалося "адрачэнне".

Сабраны Генадзем кодэкс паслужыў асновай для першага друкаванага выдання Славянскай Бібліі – Бібліі Астрожскай, надрукаванай у 1580-1581 гадах. Хоць яна і носіць прыкметы параўнаньня з грэцкім тэкстам, але больш за ўсё грунтуецца на напаловулацінскім тэксце Генадзя, часам да граматычных апісак.

Менавіта яго і спрабаваў беспаспяхова агрэчыць патрыярх маскоўскі Нікан з дапамогай грэка Арсеня паміж 1651 і 1658 гадамі. Другое (няправільна называемае "першадрукаваным") выданне славянскай Бібліі ў Маскве ў 1668 годзе толькі паўтарыла Астрожскае выданне.

Затым Пятро I выдаў такі загад 14 лістапада 1712 года: "Павелеваем архімандрыту Маскоўскага Заіконаспаскага кляштара Феафілакту Лапацінскаму і настаўніку эліна-грэцкіх школ Сафронію Ліхуду з памагатымі, быўшае да гэтага часу ва ўжыванні першадрукаванае Маскоўскае выданне Бібліі 1663 года, параўнаць з грэцкім тэкстам сямідзесяці (перакладчыкаў), выправіць для другога друкаванага выдання".

Але і тут кнігі Тавіта і Юдзіфі засталіся з усімі ранейшымі адзнакамі перакладу із лацінскай Вульгаты, не кажучы ўжо пра трэццюю кнігу Ездры, якая цалкам адсутнічае як на грэцкай так і на жыдоўскай мовах.

Пятро I памёр раней заканчэння гэтых выпраўленняў у 1725 годзе. Дадатковае параўнанне з грэцкім тэкстам было здзейснена толькі пад час царавання Лізаветы Пятроўны і Біблія была надрукавана ў Маскве ў 1751 годзе.

Тэкст гэтага лізавецінскага выдання і з’яўляецца тым, які мы маем у рускай царкоўна-славянской Бібліі.

---

[9] Вігуру Ф. Дапаможнік да чытання і вывучэння Бібліі. 1916 г. стр. 114.

[10] Усё гэта можна знайсьці, прыкладам, у Горскага і Новоструева: "Апісанне славянскіх рукапісаў Сінадальнай Бібліятэкі", т. 1, з. 1-128, ці ў Мітрапаліта Макарыя: "Гісторыя рускай царквы", т. VII, з. 177-190.

Такой з'яўляецца гісторыя яе позняга ўзнікнення і яе "агрэчвання", як нам яе паведамляюць самі рускія клерыкалы.

Здавалася б, што із такой абноўленай Біблii ўжо даўно павінны былі б быць выкінутымі ўсе лацінізмы і гацізмы першапачатковых лацінскіх перакладаў, але традыцыя ўжо настолькі замацавалася, што такія агульнаўжываемыя лацінскія словы, як царква, вера, поп, алтарь, пост, крэст, ладан і г. д. ужо выявілася немагчымым замяніць на адпавядаючыя ім грэцкія словы, нават і пасьля "перамогі праваслаўя" ў рускай царкве. Ды і кнігі, відавочна перакладзеныя із лацінскай Вульгаты, якімі з'яўляюцца Эсфір, Тавіт, Юдзіф, Ездра, Мудрасць Саламона і абедзве кнігі Паралiпаменона – ужо было немагчыма агрэчыць да такой ступені, каб не засталося ў іх шматлікіх слядоў лацінскага арыгінала.

Цікава адзначыць таксама, што нават і ў грэцкім тэксце Евангелляў сустракаюцца лацінізмы. Так, у Мацвея (17, 25) даніна названа **кенсос** – ад лацінскага слова **census**; у Яна (18, 28) судзілішча названа **прайторыён** – ад лацінскага **praetorium**, у Марка (15, 15) збраяносец названы **спекулятарам** – ад лацінскага слова **speculator** – назіральнік і г. д. Але гэта яшчэ б нічога, але вось мы маем у грэцкай Біблii нават і своеасаблівыя выказванні, такія ж самыя, як у лацінскай школе фразеалогіі. Так, замест "прабач мяне" лаціняне выказваліся "май мяне прабачаным", і раптам, ў Лукі мы знаходзім і па-грэцку такое ж самае выказванне. Дакладна гэтак жа замест "мець нараду" па латыні гаворыцца "узяць нараду", і такое ж саме выказванне мы знаходзім у Евангеллі Мацвея і г. д.

Такія значныя лінгвістычныя сьляды разам з сакавіцкім пачаткам года павялі мяне замест цар-Горада ў Рым, насуперак усталяваўшыміся ў мяне, згодна са школьнай традыцыяй, уяўленнямі пра візантыйскае паходжанне рускай культуры.

Але гэтым справа не скончылася. Рускія летапісы пачынаюцца напярэдадні Крыжовых паходаў і заканчваюцца, як я ўжо казаў, у XVII стагоддзі. Апрацаваўшы астранамічную частку, якая навяла мяне на думку пра моцны ўплыў каталіцызма на першую эпоху развіцця рускага хрысьціянства, а з ім і на адукацыю да-Маскоўскай Русі, у мяне з'явілася жаданне перагледзець усе месцы ў рускіх летапісах, дзе знайшлі адлюстраванне грымеўшыя тады на ўвесь сьвет здзяйсненні крыжакоў.

Вось, у 1204 годзе, крыжаносцы-каталікі заваёўваюць Візантыю, якая лічыцца маці рускага праваслаўя, выганяюць у Малую Азію грэчаскіх цароў і патрыярха, ператвараюць праваслаўныя цэрквы, папярэдне абрабаваўшы іх, у каталіцкія і засноўваюць на руінах Візантыі каталіцкую Лацінскую феадальную імперыю.

Што кажа пра гэтую гаротную для кожнага праваслаўнага сэрца падзею Кіеўскі летапіс?

Гляжу і не веру сваім вачам: яму нічога пра гэта не вядома. Гляжу ў іншыя летапісы каля таго ж года, і там нічога. Толькі ў Сінадальным спісе Наўгародзкага летапісу пад 1204 годам дададзена адсутнічаючае ва ўсіх іншых і відавочна маючае пазнейшае паходжанне месца пра заваяванне цар-Горада фрагамі.

Але такім асобным "згадваннем" толькі падкрэсліваецца неадпаведнасць адсутнасьці гэтай падзеі ў першапачатковых спісах, а староннясць самога дадатку бачна ўжо із таго, што слова фрагі нідзе больш не згадваецца; ёсць толькі варагі, ды і то ў іншы час.

У недаўменні гляжу далей. Вось у 1261 годзе Лацінская імперыя крыжакоў аслабела, дзякуючы сваркам яе феадалаў, і грэкі, назапасіўшы магутнасць у Малой

Азіі, забіраюць у іх цар-Горад. Адбываецца вялікая ўрачыстасць ўсходняй царквы, да якой прылічваецца і русская.

Як адлюстравалася ў летапісцах гэтая радасная падзея? – Ім таксама нічога пра гэта невядома.

Вось яшчэ раней, 15 чэрвеня 1099 года, крыжакі заваёўваюць у Палестыне "Ерусалім" (хаця, як мы бачылі, ён з'яўляецца сярэднявечнай падробкай), вызваляюць ад улады "няверных" "труну Гасподнюю", 2 кастрычніка 1187 года яго назад забірае мусульманін Саладзін. Як адгукнуліся рускія летапісцы хаця б на гэтыя дзве падзеі? І пра іх асноўным рускім летапісам нічога невядома. Толькі ў моцна папаўненым Іпацьеўскім летапісе, пад 1187 годам стаіць: "*Таго ж лета было знаменне месяца ў верасні ў 16 дзень. Цьма была па ўсёй зямлі на здзіўленне ўсім чалавекам. Бо загінула сонца і неба пагарэла палаючымі воблакамі*".

Згодна з астранамічнымі вылічэннямі гэтае зацьменне было не 16 а 4 верасня. Паласа поўнай нябачнасьці солнца тады ішла із Грэнландыі праз Балтыйскае мора, дзе зацменне было паўдзённым, а потым праз Еўрапейскую Расію і Каўказ да Індыі, дзе сонца і заўшло ў зацменні. Памылка ў дні месяца сведчыць толькі пра тое, што гэтае месца ўстаўлена ўжо пазней. А затым дададзена, відавочна для пагаднення з папярэднім тэкстам: "Такія знаменні не на дабро бываюць бо ў дзень той таго ж месяца быў заваяваны Ерусалім бязбожнымі сарацынамі (зноў няправільна: Ерусалім быў узяты Саладзінам не 16 верасня, а 2 кастрычніка 1187 года)."

І гэты тлумачальны дадатак, адсутнічаючы ў іншых спісах (акрамя 1-ага Наўгародзкага летапісу) і, відавочна, тендэнцыйны, дададзены ўжо вельмі позна, так як дзень зацмення і дзень ўзяцця "Ерусаліма" аднесены да 16 верасня, хаця затменне было на 12 дзён раней, а ўзяцце Ерусаліма – на 16 дзён пазней.

І абодва дадаткі зроблены ў аддаленых ад месца падзей паўночных летапісах, тады як у бліжэйшай да Царгорада – Кіеўскай – пра гэта нічога няма.

Я звярнуў увагу і на тое, што ў паўднёварускіх летапісах ні словам не згадваюцца генуэзскіх калоніі на паўночным узбярэжжы Чорнага мора і ў Крыме, паўстаўшыя ў сувязі з Крыжовымі паходамі і пад заступніцтвам крыжаносных ордэнаў у той жа самы час, і што на іхным месцы лакалізуюцца полаўцы, найменне якіх сугучна са словам плаўцы, г. азн. плавацелі, так як "палавать" лёгка вырабляецца ад "плавать", аналагічна паходжанню галасіць ад гласіць, сабіраць ад збірать і г. д. А пазней, калі Генуэзскія калоніі яшчэ квітнелі ў Крыме, там размяшчалася Крымская татарская Арда і на месцы Генуэзскай калоніі паблізу сучаснай Адэсы – Эдэская Арда.

Я звярнуў увагу таксама і на тое, што толькі пачынаючы ад Маскоўскай Русі князі пачалі называцца грэцкімі імёнамі наўзамен пашыраных ва ўніятаў Ізяславаў, Святаполкаў, Усеваладаў і гэтак далей.

Я таксама пачаў шукаць у летапісах і іншыя згадкі пра Крыжовыя паходы.

Вось, падчас Лацінскай імперыі на славянскія, у тым ліку і на Кіеўскае, княствы з захаду насядаюць духоўныя і свецкія ордэны крыжакоў з мэтай навязаць ім унію, а у летапісах замест гэтага апісваецца, што насядаюць на гэтыя княствы з усходу татарскія орды. Орды ідуць із мясцовасьці, якая мае назву "Татары", чаму і жыхары яе маюць назву татарве (рускае – татарва), г. азн. татараўцы. Ва ўсіх асноўных летапісах Татарамі завецца мясцовасць, (якой нідзе зараз няма), а не народ, як зрабілася толькі значна пазней. А ордэны ідуць із Татраў, як і да гэтага часу называецца галоўная частка Карпацкіх гор.

Ордэны із Татры, орды із Татарыі – круцілася ў маёй галаве, і раптам, прачнуўшыся ноччу, я зразумеў, што псеўдататарскае слова Арда і лацінскае слова Ордо (ordo) – ордэн[11] – адно і тое ж; што слова Іга з’яўляецца лацінскім jugum – ярмо, а мясцовасць Татры і мясцовасць Татары – толькі два розныя вымаўленні той жа самай мясцовасьці.

І тут я ўпершыню адчуў, як паляўнічы ў лесе, што патрапіў на сляды, якія могуць мяне прывесьці да важнага гістарычнага адкрыцця, хаця яны і напаловузасыпаныя снегам нейкіх пазнейшых завеяў.

# Том I

## Новы пагляд на гісторыю рускай дзяржавы на працягу яе дадрукарскага перыяду грунтуючыся па яе ўласных крыніцах.

# Глава I.

## Храналогія рускіх летапісаў і яе праверка грунтуючыся на днях тыдня. З якога месяца пачынаўся летапісны рускі год?

Для чалавека, мала звыкшагася з матэматычным мысленнем, часам вялікую цяжкасць выклікаюць пытанні, злучаныя з перакладам падзей, дакладна датаваных грунтуючыся на нейкім чужым злічэнні часу, на наша звычайнае злічэнне, асабліва, калі само злічэнне аўтара яшчэ невядома.

Я ўжо не згадваю пра перавядзенне дат падзей, разлічаных згодна з месяцовым арабскім ці больш складаным месяцова-сонечным юдэйскім календарамі, для пераліку якіх складзены асобныя дапаможныя табліцы; не кажу і пра дробныя недакладнасьці, якія залежаць ад невядомасьці таго, ці лічыў аўтар пачатку сутак з поўначы, як мы, ці з заходу сонцы, як юдэі, ці з узыходу сонца, як класікі, ці нават з поўдня, як астраномы да нядаўняга часу. Адрозненні ад гэтага не перавышаюць плюс мінус адзін дзень.

Але ёсць патрэба паказаць тут характар недакладнасьцей, якія ўзнікаюць ад розніцы пачатку і заканчэння юліянскага года, які ўжываўся на працягу ўсяго сярэдневечча і нават у новы час на Ўсходзе. Дзякуючы таму, што мы лічым год з 1 студзеня, візантыйцы з 1 верасня і лацінскія класікі з 1 сакавіка, ваганні ў перавядзенні іхнага злічэння часу на наша могуць дасягаць плюс мінус аднаго года.

Спачатку пакажу на недакладнасьці датавання нашага злічэння ад "Нараджэння Хрыстова". Не кажучы ўжо пра тое, што ў наш час аспрэчваецца існаванне такога чалавека, а тым больш бога, само "Нараджэнне Хрыстова" датуецца тэолагамі 25 снежня, тады як год імі ж самімі пачынаецца на адзін тыдзень пазней, 1 студзеня. Ужо із гэтага бачна, што мы лічым наш год якраз ад святкавання памяці хрысьціянскай літургіі Вялікага цара (Васіля Вялікага па-

[11] Ад гэтага ж французскае ordre, ангельскае order, нямецкае Ordnung – у сэнсе калектывы (а у іншым адгалінаванні і ў сэнсе простага статку, як па-ангельску herd, і па-нямецку – Heerde).

грэцку), адзначаемай 1 студзеня. А сярэднявечныя і пазнейшыя візантыйцы пачыналі свой год з 1 верасня, г. азн. сапраўды ад дня памяці "Ісуса", але толькі не Ісуса Хрыста, а Ісуса Навіна (г. азн. па-жыдоўску Выратавальніка Прарока). Памяць гэтага Ісуса, які прывёў боскі народ "ў запаветную зямлю", сапраўды і святкуецца дагэтуль хрысьціянамі 1 верасня, чым адзначаецца пачатак візантыйскага (усходняга) новага года, і тым самым паказваецца, што на Ўсходзе Ісус Хрыстос лічыўся проста "прарокам" (Ісусам Навінам па-жыдоўску).

Што ж да пачатку злічэння года ад 1 сакавіка, то яно, відаць, з'яўляецца чыста філасофскім, і заснавана, напэўна, на тым, што ў гэты дзень "стварыў бог неба і зямлю". А так як пачатак сусвету мог адбыцца не інакш, як пад час "веснавога раўнадзенства" (тады яшчэ не ведалі, што ў паўднёвым паўшар'і Землі гэта – восеньскае раўнадзенства), то, відавочна, такое злічэнне было прыдумана, калі вясновае раўнадзенства прыпадала на першы дзень, нейкага яшчэ не юліянскага календара.

Узнікае пытанне: калі ў нейкім летапісе мы маем шэраг падзей, датаваных не толькі ў гадах, але таксама і ў днях юліянскіх месяцаў, якія дапускаюць матэматычную праверку дзякуючы іхнай вылічаемасьці грунтуючыся на сонечных і месяцовых зацьменнях і г. д., то ці не можам мы не толькі праверыць тут факты, але і вызначыць, згодна з якім пачаткам году аўтар вёў сваё злічэнне часу? Адказ на гэта пытанне ў нас цалкам вызначаны:

– Можам.

Таму што усе нашы вылічальныя табліцы да грыгарыянскай рэформы 1582 г. у каталікоў, і аж да XX стагоддзя ва ўсходніх хрысьціян, дадзены ў юліянскім злічэнні згодна са студзеньскім пачатку года.

Таму:

1) Калі большасць паказаных у дадзеным летапісе ў розных месяцах падзей супадаюць дзень у дзень з нашымі іх вылічэннямі, то і аўтар лічыў падзеі грунтуючыся на юліянскім студзеньскім календары, а частковыя хаатычныя ўхіленні павінны быць аднесены ці да апісак, ці да фантазёрства аўтара.

2) Калі ў значнай большасьці выпадкаў падзеі ад сакавіка да снежня ўключна адпавядаюць вылічэнням, а у студзені і лютым нашы вылічэнні адносяць іх да наступнага года, то аўтар пачынаў свой год ад сакавіка згодна з накладаннем А (яно дадзена ў табл. I на прыкладзе 1000-га сакавіцкага года, які налёг на 1000-ы год нашага студзеньскага злічэння ад сакавіка да снежня, а у студзені і лютым ужо на наступны 1001-ы год), што пазначана +1.

3) Калі наша вылічэнне дае гады на 1 меншыя за летапісныя (-1) ад сакавіка да снежня, а у студзені і лютым абодва злічэнні супадаюць, то год аўтара пачынаўся з сакавіка згодна з накладаннем Б (табл. I).

4) Калі даты аўтара супадаюць з нашымі вылічэннямі толькі ад студзеня да жніўня ўключна, а ад верасня да снежня наша вылічэнне дае гады на 1 меншы (-1), то год аўтара пачынаўся з верасня згодна з накладаннем Б (як гэта і паказана ў табліцы II для 1000-га года вераснёўскага злічэння).

5) Калі з нашымі вылічэннямі супадаюць толькі даты аўтара ад верасня да снежня ўключна, а ад студзеня да ліпеня ўключна наша вылічэнне дае гады на 1 большы (+1), чым пазначана ў аўтара, то год аўтара пачынаўся з верасня згодна з накладаннем А (табл. II).

Разгледзім з гэтага боку нашы асноўныя рускія летапісы.

Перадусім адзначу, што пры першым жа іхным чытанні мне кінулася ў вочы, што ўся анамастыка месяцаў у іх лацінская: тыя ж самыя январы, феўралі, марты і гэтак далей, як і ў лацінскіх класікаў. Гэта азначае, каляндар (на якім (заўважце!) была заснавана ўся штогадовая дзейнасць людзей!) прыйшоў у нашы летапісы не із Візантыі, а із італійскага Рыма. Але ў класікаў лацінянаў, як я ўжо пазначаў, год пачынаўся з сакавіка, перажыткам чаго з'яўляюцца назвы апошніх месяцаў: “сенцябр” (г. азн. на лаціне – сёмы), “акцябр” (г. азн. восьмы), “наябр” (г. азн. дзявяты) і “декабр” (г. азн. дзясяты), так што дванаццатым прыпадае люты, а першым сакавік. А ў візантыйцаў год пачынаўся з верасня і, з гэтай нагоды, пачатак візантыйскага юліянскага года прыпадае на палову года класічнага: такім чынам, наш студзеньскі пачатак з’яўляецца сярэдзінай паміж абодвума ранейшымі.

Табліца I.

*Два магчымыя накладанні сакавіцкага (класічнага лацінскага) гада на суседнічаючыя адзін з адным студзеньскія гады нашага сучаснага злічэння (на прыкладзе накладання 1000-га сакавіцкага года на 1000-ы студзеньскі з захопам частак суседніх гадоў)*

| папраўка | Студзеньскае злічэнне | | Сакавіцкае злічэнне | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 998 | XI | | | |
| | 998 | XII | | | |
| | 999 | I | | | |
| | 999 | II | | | |
| -1 | 999 | III | 1000 | III | 1000-ы сакавіцкі год<br><br>Накладанне Б |
| -1 | 999 | IV | 1000 | IV | |
| -1 | 999 | V | 1000 | V | |
| -1 | 999 | VI | 1000 | VI | |
| -1 | 999 | VII | 1000 | VII | |
| -1 | 999 | VIII | 1000 | VIII | |
| -1 | 999 | IX | 1000 | IX | |
| -1 | 999 | X | 1000 | X | |
| -1 | 999 | XI | 1000 | XI | |
| -1 | 999 | XII | 1000 | XII | |
| 0 | 1000 | I | 1000 | I | |
| 0 | 1000 | II | 1000 | II | |
| 0 | 1000 | III | 1000 | III | 1000-ы сакавіцкі год<br><br>Накладанне А |
| 0 | 1000 | IV | 1000 | IV | |
| 0 | 1000 | V | 1000 | V | |
| 0 | 1000 | VI | 1000 | VI | |
| 0 | 1000 | VII | 1000 | VII | |
| 0 | 1000 | VIII | 1000 | VIII | |
| 0 | 1000 | IX | 1000 | IX | |
| 0 | 1000 | X | 1000 | X | |
| 0 | 1000 | XI | 1000 | XI | |
| 0 | 1000 | XII | 1000 | XII | |
| +1 | 1001 | I | 1000 | I | |
| +1 | 1001 | II | 1000 | II | |
| | 1001 | III | | | |
| | 1001 | IV | | | |
| | 1001 | V | | | |
| | 1001 | VI | | | |
| | 1001 | VII | | | |

*Тлумачэнне выкарыстання: мы бачым, што ў сакавіцкага года пры накладанні Б, падзеі васьмі месяцаў (ад сакавіка да снежня) трапляюць у папярэдні студзеньскі год (у дадзеным выпадку ў 999-ы замест 1000-га), так што пры перавядзенні дат гэтых падзей*

*з сакавіцкіх летапісных гадоў на нашы трэба памяншаць 1 год (папраўка -1 злева), а студзеньскія і лютаўскія падзеі пераводзяцца проста (папраўка = 0).*

*Гэта азначае і наадварот: калі мы можам давесьці датамі дакладна вылічваемых падзей, якімі з'яўляюцца сонечныя і месяцовыя зацьменні, пасхаліі ці дні тыдня (прыпадаючыя на дадзены дзень дадзенага месяца), што ў нейкім летапісе студзень і люты адпавядаюць студзеньскаму пачатку года (папраўка=0 на маёй табліцы), а падзеі астатніх 10 месяцаў ад сакавіка да снежня выяўляюцца меўшымі месца пад час папярэдняга студзеньскага года (папраўка-1), то аўтары ўжывалі сакавіцкі пачатак года згодна з накладаннем Б (гл. маю схему).*

*Калі ж, наадварот, падзеі ўсіх дзесяці месяцаў ад сакавіка да снежня адпавядаюць (папраўка =0 злева схемы) і толькі студзеньскія і лютаўскія падзеі выяўляюцца ў наступным студзеньскім годзе (папраўка +1), то аўтары карысталіся сакавіцкім годам згодна з накладаннем А маёй схемы.*

Ужо із гэтага відаць, што перавядзенне ўжываемых у летапісах гадоў "ад стварэння сусвету" на наша сучаснае злічэнне ў цэлых ліках (як звычайна робіцца гісторыкамі згодна з дапушчэннем, што сусвет быў створаны за 5508 гадоў да Нараджэння Хрыстова) з'яўляецца толькі прыблізным, бо як пачаткі так і заканчэнні гадоў абодвух падлікаў не супадаюць. Але гэтае не цалкам дакладнае перакладанне мімаволі даводзіцца рабіць, таму што для большасці летапісных паведамленняў не пазначаецца ні месяц ні дзень.

Маючы толькі адзін "Пачатковы летапіс"[12], у якім няма амаль да самага канца датаваных месяцам сонечных, ці месяцовых зацьменняў, у нас не было б ніякай магчымасьці вызначыць, ад якога месяца лічылі аўтары рускіх летапісаў пачатак сваіх гадоў. Толькі пры самым заканчэнні гэтага так званага "Пачатковага летапісу", пад годам 6615, якім лічыцца наш 1107 год, мы чытаем: "*У лета 6615 (*што прыраўноўваецца да нашага 1107 года*) "кола" месяца (было) 4, кола сонца 5*".

Але гэтыя колы адбыліся толькі ў 6616 (1108) годзе нашага студзеньскага злічэння, што азначае: пры пералічэнні зроблены зрух назад на 1 год.

Але мы пакінем пакуль пры сабе гэтае наша назіранне і паглядзім на выпадкі, дзе пазначаны, акрамя дня месяца, таксама і дзень тыдня.

Згадаўшы, што не высакосны год змяшчае ў сабе 52 тыдні і адзін дзень, мы бачым, што кожны дзень тыдня пачынаецца ў наступным годзе з наступнага дня тыдня, а з ім і ўсе далейшыя месяцы таксама. А высакосны год, дзякуючы свайму дадатковаму дню 29 лютага, дадае ў наступных (пасьля лютага) месяцах яшчэ адзін дзень, так першы дзень сакавіка высакоснага года пачынаецца не наступным днём тыдня, а пераскочыўшы праз яго, – "наступным днём". Мы бачым, што на падставе гэтага мы імгненна можам праверыць дату аўтара, калі акрамя дня месяца ў ёй пазначаны і дзень тыдня, зірнуўшы толькі адным вокам на табліцу XXXV IV тома "Хрыста".

Я ўжо адзначаў, што так званы "Пачатковы летапіс" нідзе не пазначае дзень падзеі, а толькі яе год і зрэдку месяц, хаця б гаворка ішла і пра такія аднадзённыя здарэнні, як бітва, пажар, народзіны ці сьмерць таго ці іншага князя. Але гэтым самым ужо даводзіцца, што яна была складзена не падставе перыядычных запісаў, калі дзень і месяц абавязкова б пазначаліся імкнуўшымся запісваць кожную падзею ранейшым летапісцам, а нашмат пазней згадваеных падзей.

Адзіная падзея, датаваная і днём месяца, і днём тыдня, выявілася, на жаль, устаўленай у Радзівілаўскі летапіс яе працягвальнікам.

---

[12] Раней меўшы назву "Летапіс Нестара".

Справа ў наступным. У першапачатковым Радзівілаўскім спісе было сказана проста: "*У лета 6609 (*год 1101*) памёр Усяслаў, Полацкі князь*".

Гэтым запіс і абмяжоўваўся, дакладна гэтак жа, як і ў копіі Радзівілаўскага летапісу рукапісу былой Маскоўскай Акадэміі. А ў яго Лаўрэнцьеўскай копіі замест гэтага паведамляецца: "*У лета 6609 (*1101 г.*) памёр Усяслаў Палавецъскій князь месяца красавіка ў 4 дзень у 2 гадзіны дня, у сераду*".

Нават і гадзіна пазначана!

А пасьля праверкі выяўляецца, што 14 красавіка 1101 года згодна са студзеньскім злічэннем была нядзеля, а у папярэднім 1100 годзе гэта была субота, а у наступным 1102 – панядзелак. Бліжэйшая серада 14 красавіка было толькі ў 1098 годзе. Тут выяўляецца чыстая фантазія, што цалкам кампраметуе дату аўтара.

Зусім іншае ва ўсіх "паслядоўнікаў Нестара-Сільвестра". Там пазначэнні дзён тыдня пры месяцы года адразу робяцца звычайнымі.

Вось некалькі выпадкаў із Радзівілаўскага летапісу:

1) "*Пад час  лета 6631 (*год 1123*) траўня звалілася царква каменная ў Пераяслаўлі ў суботу перад вячэрняй*".

А вылічэнне дае, згодна з нашым студзеньскім годам, 10 траўня 1123 гада – чацьвер. У наступным жа 1124 годзе 10 траўня сапраўды было ў суботу (папраўка +1 у табліцах І і ІІ).

2) "*У лета 6681 (*год 1173[13]*) памёр пабожны князь Мсціслаў Андрэевіч месяца сакавіка на 28 дзень у аўторак*".

А вылічэнне згодна са студзеньскім годам дае на 28 сакавіка 1173 года сераду, а аўторак 28 сакавіка быў пад час папярэднічаўшага 1172 студзеньскага году (папраўка -1).

3) "*У лета 6683 (*год 1175*) адружыўся (*Яраполк Расьціслававіч Уладзімірскі князь з дачкой Віцебскага*) у Валадзімеры ў Багародзіцы месяца генеара 3 на мясапосным тыдні ў аўторак*".

А вылічэнне згодна са студзеньскім годам дае аўторак 3 студзеня толькі ў наступным 1176 годзе (папраўка +1).

4) "*У лета 6685 (*год 1177*) памёр верны і хрысталюбны князь Міхалка сын Гюргеў (ці Георгеў) у суботу заходячу сонцу месяца чэрвеня ў 20 дзень*".

А вылічэнне згодна з нашым студзеньскім пачаткам года паказвае, што 20 чэрвеня 1177 года быў панядзелак, самыя блізкія суботы 20 чэрвеня былі ў 1170 і ў 1181 гадах студзеньскага злічэння. Гэта памылковая пазнейшая ўстаўка[14].

5) "*У лета 6693 (*год 1185*) быў пажар вялік на Ўладзіміры, красавіка ў 18 дзень пад час памінання сьвятога Сімяёна ў сераду*".

Памінанне Сімяёна зараз святкуецца 27 красавіка, а не 18. Вылічэнне згодна са студзеньскім пачаткам паказвае, што 18 красавіка 1185 года быў чацвер, і 27 красавіка таго ж 1185 года – субота. Серада 18 красавіка была годам раней, у 1184 г. студзеньскага злічэння, а па даце 27 красавіка нічога не атрымліваецца (папраўка -1).

6) У Радзівілаўскім летапісе сказана: "*У лета 6693 (*год 1185*) дапамог бог і сьвятая багародзіца Валадзіміру (*перамагчы полаўцаў*)"*. А ў Лаўрэнцьеўскай копіі

[13] Зноў памылка друку (у кнізе значыцца 1175), і ў той жа хроніцы. На жаль лічбы патрабуюць праверкі.

[14] Вось мае разлікі:20-06-1181, субота; 20-06-1180, пятніца; 20-06-1179, серада; 20-06-1178, аўторак; 20-06-1177,  панядзелак; 20-06-1176, нядзеля; 20-06-1175, пятніца; 20-06-1174, чацвер; 20-06-1173 серада; 20-06-1172,  аўторак; 20-06-1171, нядзеля; 20-06-1170, субота.

з яго ў "Спісе Маскоўскай Духоўнай Акадэміі" дададзена: "*Месяца чэрвеня ў 31 дзень, панядзелак, пад час памінання святога Еўдакіма Новага*".

Але Еўдакім Новы святкуецца 31 ліпеня, а не чэрвеня, ды і дзён у чэрвені толькі 30! Лічачы, што чэрвень увесь час блытаецца з ліпенем, зробім гэтую папраўку і тады знаходзім, што 31 ліпеня пад час году 6693 (1185 г.) прыпадала не на панядзелак, а на сераду, а год назад, у 1184 г. дзень 31 ліпеня прыпадаў на аўторак. Не атрымліваецца.

## Табліца II.

*Два магчымыя накладанні вераснёўскага (візантыйскага) гада на суседнічаючыя адзін з другім студзеньскія гады нашага сучаснага злічэння (на прыкладзе накладання 1000-га вераснёўскага года на 1000-ы студзеньскі з захопам суседніх студзеньскіх гадоў)*

| папраўка | Студзеньска злічэнне | | Сакавіцкае злічэнне | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 999 | IV | | | |
| | 999 | V | | | |
| | 999 | VI | | | |
| | 999 | VII | | | |
| | 999 | VIII | | | |
| -1 | 999 | IX | 1000 | IX | 1000-ы вераснёўскі год<br><br>Накладанне Б |
| -1 | 999 | X | 1000 | X | |
| -1 | 999 | XI | 1000 | XI | |
| -1 | 999 | XII | 1000 | XII | |
| 0 | 1000 | I | 1000 | I | |
| 0 | 1000 | II | 1000 | II | |
| 0 | 1000 | III | 1000 | III | |
| 0 | 1000 | IV | 1000 | IV | |
| 0 | 1000 | V | 1000 | V | |
| 0 | 1000 | VI | 1000 | VI | |
| 0 | 1000 | VII | 1000 | VII | |
| 0 | 1000 | VIII | 1000 | VIII | |
| 0 | 1000 | IX | 1000 | IX | 1000-ы вераснёўскі год<br><br>Накладнне А |
| 0 | 1000 | X | 1000 | X | |
| 0 | 1000 | XI | 1000 | XI | |
| 0 | 1000 | XII | 1000 | XII | |
| +1 | 1001 | I | 1000 | I | |
| +1 | 1001 | II | 1000 | II | |
| +1 | 1001 | III | 1000 | III | |
| +1 | 1001 | IV | 1000 | IV | |
| +1 | 1001 | V | 1000 | V | |
| +1 | 1001 | VI | 1000 | VI | |
| +1 | 1001 | VII | 1000 | VII | |
| +1 | 1001 | VIII | 1000 | VIII | |
| | 1001 | IX | | | |
| | 1001 | X | | | |
| | 1001 | XI | | | |
| | 1001 | XII | | | |

*Тлумачэнне ўжывання: мы бачым, што пры накладанні Б, чатыры восеньскія месяцы: верасень, кастрычнік, лістапад, снежань – трапляюць у папярэднічаўшы год, так што пры перавядзенні летапісных гадоў у наша студзеньскае злічэнне патэбна да гэтых чатырох месяцаў рабіць папраўку -1 год, як пазначана злева на схеме, а астатнія восем месяцаў не патрабуюць перакладання ў студзеньскае злічэнне гадоў (папраўка =0).*

*Гэта азначае і наадварот: калі мы можам давесьці датамі дакладна вылічваемых падзей, якімі з'яўляюцца сонечныя і месяцовыя зацьменні, пасхаліі ці дні тыдня,*

*(прыпадаючыя на вызначаны дзень вызначанага месяца), што ў нейкім летапісе вераснёўскія, кастрычніцкія, лістападаўскія ці снежаньскія падеі пыпадаюць на папярэднічаўшыя гады параўнальна з пазначанымі ў летапісе (папраўка -1), а астатнія месяцы адпавядаюць (папраўка =0), то аўтары карысталіся вераснёўскім пачаткам года згодна з накладаннем Б (гл. маю схему).*

*А калі, наадварот, супадаюць толькі верасень, кастрычнік, лістапад і снежань, а падзеі, пазначаныя астатнімі васьмю месяцамі спазняюцца на год ад сапраўдных, якія взначаюцца вылічэннем (папраўка +1) ,то аўтары ці кампілятары ўжывалі вераснёўскі пачатак года згодна з накладаннем А гэтай маёй схемы.*

7) Пад час года 6694 (1186 г.) 1 траўня, пры памінанні сьвятога Ерамея паказана серада і поўнае зацьменне сонца. Але і серада, і сонечнае зацьменне згодна са студзеньскім злічэннем адбыліся на год раней – 1 траўня 1185, а у 1186 годзе 1 траўня быў чацьвер, і ніякага зацьмення (папраўка -1).

8) "*У лета 6696 (*1188 г*.) сакавіка 18, у сераду вербнага тыдня памёр Валадзімір Глебавіч у Пераслаўлі*".

Але вылічэнні згодна са студзеньскім пачаткам года даюць для 18 сакавіка 1188 года пятніцу, а серада прыпадае на 18 сакавіка толькі пад час папярэднічаўшага 1187 года (папраўка -1).

9) "*У лета 6701* (1193 г.) *чэрвеня 23 на пярэдадні пакутнікаў Барыса і Глеба быў пажар у Валадзіміры горадзе ў чацьвярток, у палову ночы*".

Але Барыс і Глеб святкуюцца 24 ліпеня, а не чэрвеня. Пры гэтай папраўцы, вылічэнні на 23 ліпеня 1193 студзеньскага года даюць пятніцу, а чацвер атрымваецца для 1192 г. Гэта азначае, ліпень летапісца налягаў на ліпень не гэтага, а папярэднічаўшага года – нашага студзеньскага 1192 года (папраўка -1).

10) "*У лета 6709 (*1201 г*.) снежня 24 пры памінанні сьвятой Яўгеніі з'явілася адзнака на месяцы*".

Але такога не было, а было годам раней, і не 24, а 22 снежня 1200 згодна са студзеньскім пачаткам, пры памінанні сьвятой Настассі, а не Яўгеніі. Яно было звыш поўнае з сярэдзінай у 7 гадзін 42 хвіліны кіеўскага вечара ў пятніцу 1200 года, а сонца зайшло ўжо ў 4 гадзіны 5 хвілін за $3^{1/2}$ гадзіны да гэтага. Гэта азначае, снежань летапісца налягаў на снежань папярэднічаўшага яму года згодна з нашым студзеньскім злічэннем (папраўка -1).

11) "*У лета 6714* (1206 г.) *сакавіка 20 пры памінанні сьвятога Мікіты* (прыйшоў Кастусь Усеваладавіч у Ноўгарад Вялікі на княжанне) *у дзень нядзельны (*г. азн. у нядзелю*)*".

Вылічэнні на 20 сакавіка 1206 студзеньскага года даюць панядзелак, а нядзеля 20 сакавіка была год назад у 1205 годзе. Гэта азначае, сакавік летапісца налягае на сакавік не гэтага, а нашага студзеньскага папярэдняга года (папраўка -1).

Тут Радзівілаўскі спіс заканчваецца і спыняюцца ўсе датаванні з пазначэннем дня месяца і дня тыдня, якія я змог у ім адшукаць.

Каляндарныя рэзюмэ гэтых выпадкаў я даў у прыкладзенай табліцы IV. І што ж мы бачым? Нешта цікавае.

Аўтары рускіх летапісаў паміж 1123 і 1206 гадамі не былі візантыістамі ці ўсходнікамі. Даючы месяцам лацінскія назвы, яны і пачатак года лічылі грунтуючыся на класічным лацінскім злічэнні з сакавіка. Із дзесяці пазначаных намі выпадкаў (яны рэзюмаваны ў табліцы III), вераснёўскаму злічэнню згодна з накладанем А выпадкова задавіў толькі адзін першы прыклад, а згодна з

накладаннем Б – толькі два. Атрымліваецца цалкам іншае калі грунтавацца на сакавіцкім злічэнні.

У гэтым Радзівілаўскім спісе із усіх 11 знойдзеных мной дsecurityаванняў восем выявіліся адпавядаючымі сакавіцкаму злічэнню, згодна з накладаннем Б у табліцы II па якому летапісны год заканчваецца за восем месяцаў да нашага студзеньскага. А із іншых дат дзьве (3 і 6), наадварот, адпавядаюць таму ж сакавіцкаму злічэнню пры накладанні А. Толькі першая дата не задаволіла ніводнаму выпадку. Гэта азначае, што яна запісана ў гэты год памылкова і толькі выпадкова задаволіла вераснёўскаму злічэнню.

## Табліца III.

*Пагадненне дат паміж 1123 і 1206 гадамі, прыведзеных у Радзівілаўскім Кёнігсбергскім летапісе для дзён тыдня пры злічэнні года з пачаткам са студзеня, з верасня і з сакавіка.*

| Дадзена ў летапісе ў злічэнні ад стварэння сусвету | Вылічана мной у юліянсіх гадах студзенскага пачынання (і ў хрысьцянскіх) | Мая папраўка да даты | Вераснёўскі год. пач.Б | пач.А | Сакавіцкі год. пач.Б | пач.А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1) 6631 (1123)-V-10 субота | 1124-V-10 субота | +1 | Е | З | З | З |
| 2) 6681 (1173)-III-28 аўторак | 1172-III-28 аўторак | -1 | З | З | З | Е |
| 3) 6683 (1175)-I-3 | 1176-I-3 | -1 | З | З | З | Е |
| 4) 6685 (1177)-VI-20 серада | 1176-VI-20 серада | -1 | З | Е | З | Е |
| 5) 6735 (1227)-I-7 чацвер | | +1 | З | Е | Е | З |
| 6) 6693 (1185)-VI-31 панядзелак | 1185-VI-31 панядзелак | 0 | З сумнеўна | Е | Е | З |
| 7) 6694 (1186)-V-1 серада | 1185-V-1 серада | -1 | З | З | З | Е |
| 8) 6696 (1180)-III-18 серада | 1187-III-18 серада | -1 | З | З | З | Е |
| 9) 7701(1193)-VI-23 чацвер | 1192-VI-23 чацвер | -1 | З | З | З | Е |
| 10) 6709 (1201)-XII24 зацменне месяца | 1200-XII-22 зацменне месяца | -1 | З | З | З | Е |
| 11) 6714 (1206)-III-20 панядзелак | 1205-III-20 панядзелак | -1 | З | З | З | Е |

*У слупку III рознасць нуль (0) азначае, што летапісная дата задавальняе студзеньскаму пачатку года; +1 азначае, што такое спалучэнне дня тыдня з днём месяца было ў наступным годзе, а -1 – што яно было пад час папярэднічаўшага юліянскага студзеньскага года.*

*Наверсе Б і А вераснёўскагавага пачатку года паказваюць, якое іх двух накладанняў, дадзеных вышэй у табліцы II, апраўдалася. Е – азначае рашэнне, паказанае зверху слупка, існуе, і З – азначае яго няма.*

*У апошнім слупку паказана тое ж самае для кожнага іх двух сакавіцкіх накладанняў. Із рэзка пераважаючай колькасьці Е (існуе) у апошнім стоўбіку (А) відаць, што злічэнне месяцаў (а гэта азначае і год) у аўтараў тут пачынаўся з сакавіка згодна з накладаннем А (гл. табл. II).*

*Лічачы тры выпадкі “З” за прыватныя памылкі і бяручы да ўвагі астатнія васем “Е”, мы прыходзім да высновы, што аўтары Радзівілаўскага спіса (пачынаючыя сваё апавяданне, не згадваючы пра гэта, з часоў распаду імперыі Карла Вялікага і пачатку феадалізма ў Яўропе і заканчваючыя момантам утварэння на Балканскай паўвыспе крыжацкай Лацінскай імперыі ў 1204 годзе) несумнеўна лічылі свае гады згодна з заходнім сакавіцкім пачаткам. Із гэтага зразумела, што наступныя рускія гісторыкі, якія перакладалі гэтае сакавіцкае злічэнне (якое яны лічылі за вераснёўскае) на студзеньскае, несвядома ўжывалі накладанне Б. Але яно пяраходзіць у накладанне А, калі перакладаючы гады аўтара "ад стварэння сусвету" ў хрысціянскія ("ад Н. Х."), мы будзем дадаваць да іх адзін год. І гэта будзе нашмат лепш, таму што пры накладанні Б (табл. I) зрух храналогіі назад будзе ў сярэднім на 10 месяцаў у 0 выпадках, а пры накладанні А зрух яе наперад будзе ў сярэднім толькі на два месяцы ў двух выпадках.*

## Табліца IV.

*Пагадняемасць дат паміж 1206 і 1305 гадамі, пазначаных у Радзівілаўскім летапісе і яго копіях для дзён тыдня са студзеньскім, вераснёвым і сакавіцкім пачаткамі года.*

| Дадзена ў летапісах у злічэнні ад стварэння сусвету | Вылічана мной у юліянсіх гадах студзенскага пачынання | Мая папраўка | Вераснёўскі год. | Сакавіцкі год. |
|---|---|---|---|---|

| | (і ў хрысьцянскіх) | да даты | пач.Б-пач.А | пач.Б-пач.А |
|---|---|---|---|---|
| 1) 6714 (1206)-II-28 серада | 1207-I-28 серада | +1 | З Е | З Е |
| 2) 6715 (1207)-X-22 субота | 1207-IX-22 субота | 0 | З Е | Е З |
| 3) 6715 (1207)-XI-21 серада | 1207-XI-21 серада | 0 | З Е | З Е |
| 4) 6715 (1207)-X-18 чацвер | 1207-X-18 чацвер | 0 | З Е | З Е |
| 5) 6735 (1227)-I-6 чацвер | 1228-I-6 чацвер | +1 | З Е | З Е |
| 6) 6735 (1227)-II-12 субота | 1228-II-12 субота | +1 | З Е | З Е |
| 7) 6745 (1237)-II-7 мясапуст | 1238-II-7 мясапуст | +1 | З Е | З Е |
| 8) 6809 (1301)-VII-3?? пятніца | 1306-VII-3 панядзелак | 7? | наблытана | |
| 9) 6810 (1302)-VII-5 чацвер | 1302-VII-5 чацвер | 0 | Е З | З Е |
| 10) 6812 (1304)-III-5 аўторак | 1303-III-5 зацменне месяца | -1 | З З | Е З |
| 11) 6813(1305)-VI-23 аўторак | 1304-VI-23 аўторак | -1 | З З | Е З |
| Суздальскі спіс | | | | |
| 1) 6724 (1216) – III-1 аўторак | 1216-III-1 аўторак | 0 | Е З | З Е |
| 2) 6724 (1216) – IV-21 чацвер | 1216-IV-21 чацвер | 0 | Е З | З Е |

*Е – азначае што існуе рашэнне задавальняючае пачатку года пазначанага зверху слупка. З – азначае адсутнасць задавальняючага рашэння (гл. табл. I і II вышэй). У трэцім слупку – рознасць. 0 – азначае, задавальняе студзеньскаму пачатку года, +1 ці -1 азначае, падзея была ў наступным ці папярэднічаючым студзеньскім годзе параўнальна з пазначаным у летапісе (гл. вышэй табл. I, II).*

*Мы бачым, што сакавіцкае злічэнне згодна з накладаннем А тут з'яўляецца найбольш задавальняючым: із 12 выпадкаў яму задавольняюць 10, а астатнія два выпадкі задавальняюць яму згодна з накладаннем Б, якое пераходзіць у накладанне А пры дадаванні 1 года. Вераснёўскія ж накладанні тут менш задавальняючыя: №10 і 11 не задавальняюць ніякаму із вераснёўскіх накладанняў; із астатніх сем задавальняюць накладанню А і тры – Б.*

Разгледзім зараз і працяг Радзівілаўскага летапісу ў Лаўрэнціеўскім рукапісе.

Нагадаем, што адпаведна з цікавым супадзеннем ён (не згадваючы пра гэта) пачынае сваё апавяданне якраз з моманту ўзнікнення Лацінскай крыжацкай федэрацыі на тэрыторыі захопленай крыжакамі ў 1204 годзе Візантыйскай імперыі і даводзіць апавяданне да 1305 года, г. азн. (таксама не згадваючы пра гэта) якраз да Авіньёнскага заняволення рымскіх пап у Заходняй Еўропе (1309 г.) і ўзвышэння Маскоўскага княства на ўсходдзе Яўропы (1305 г.).

Вось адзінаццаць знойдзеных мной ў ім паведамленняў, датаваных і днём месяца і днём тыдня.

1. У лета 6714 (1206 год) 28 лютага ў сераду сырнага тыдня апісана частковае сонечнае зацьменне, калі "сонца як месяц, і шматлікія верныя балтыйскія і беламорскія чалавецы, бачачы гэта, маліліся богу". Але гэтае зацьменне было толькі 28 лютага 1207 года, годам пазней, ды і серада прыпадала на гэты дзень толькі ў 1207 годзе, праз год грунтуючыся на студзеньскім злічэнні (папраўка +1).

2. У лета 6715 (1207 год) 22 верасня паказана субота пры памінанні святога Тамаша. Так і было згодна з нашым студзеньскім злічэннем (папраўка =0).

3. “У тое ж лета 6715 (1207 год) 21 лістапада прыйшоў князь Вялікі Усевалад у Валадзімір у сераду на Ўводзіны святой Багародзіцы. І была радасць вялікая ўградзе Валадзіміры". Так і было згодна са студзеньскім злічэннем (папраўка =0).

4. У тое ж лета 6715 (1207 год) 8 кастрычніка, "пры памінанні евангеліста Лукі" паказаны чацвер. Так і было згодна з нашым студзеньскім злічэннем (папраўка =0).

5. "У лета 6735 (1227 год) 6 студзеня ў чацвер на сьвята Богаз'яўлення Госпада нашага Ісуса Хрыста памёр князь Валадзімір… І пакладзены быў у царкве святыя Багародзіцы". Але чацвер прыпадаў на 6 студзеня толькі ў наступным 1228 г. (папраўка +1).

6. "У тое ж лета 6735 (1227 год) 12 лютага пры памінанні сьвятога Мялеція ў 1-ю суботу паста прыйшоў хрысталюбны князь Васілька ў свой Растоў са сваёю княгіняй". Але субота прыпадала на 12 лютага толькі ў 1228 годзе, годам пазней (папраўка +1).

7. "У лета 6745 (1237 год), 7 лютага пры памінанні сьвятога Хведара Стратылата на тыдні мясапустным пасьля ютрані прыступілі да горада (Валадзімера) татараве". Але мясапусны тыдзень прыпадаў на гэтую дату толькі ў наступным 1238 годзе (папраўка +1).

8. "У лета 6809 (1301 год) 3 ліпеня на 8 тыдні пасьля вялікадня ў пятніцу пагарэў (горад) Таржок". А згодна з вылічэннямі тады быў панядзелак. Тут нешта наблытана!

9. "У лета 6810 (1302 год) 5 ліпеня ў чэцьвярток была бура вялікая, шмат (ад яе) стратаў было: па вёсках яна дуб'ё падрала". Ды і згодна з нашым студзеньскім злічэннем тады быў чацьвер (папраўка =0).

10. "У лета 6812 (1304 год) 5 сакавіка ў аўторак безназоўнага тыдня памёр князь Даніла Аляксандравіч на Маскве, у сваёй отчыне, у чарняцах і схіме". Але аўторак быў згодна з нашым студзеньскім злічэннем толькі год назад 5 сакавіка 1303 года (папраўка -1).

11. "У лета 6813 (1305 год) 23 чэрвеня ў дзень пакутніцы Агрыпіны ў аўторак стукнуў гром вельмі моцна ў макаўку царквы святога Хведара, запаліў (царкву і яна) згарэла да вячэрні". Але і гэта было згодна з  нашым студзеньскім злічэннем год назад у 1304 годзе (папраўка -1).

Тут Лаўрэнціеўскі спіс заканчваецца. А ў спісе Маскоўскай Духоўнай Акадэміі (так званым Суздальскім летапісе), таксама працягваючым Радзівілаўскі рукапіс з 1205 года, але самастойна, незалежна ад Лаўрэнціеўскіх паведамленняў, мы знаходзім толькі тры даты:

1) "У лета 6724 (1216 год) 1 сакавіка ў аўторак пайшоў Вялікі князь Мсціслаў із Ноўгарада на зяця свайго князя Яраслава". І згодна з злічэннем тады быў аўторак (папраўка =0).

2) "У лета 6724 (1216 год) 21 красавіка ў чацвер другога тыдня пасьля вялікадня (ў спісе Маскоўскай Духоўнай Акадэміі пазначана 22 красавіка) пераможаны былі моцныя палкі суздальскія". Ды і згодна з нашым падлікам тады быў чацвер (папраўка =0).

3) У лета 6918 (1410 год) 22 красавіка паведамляецца: "Прыйшоў вялебны Фоцій, мітрапаліт Кіеўскі і ўсёй Русі ў Маскву пад час Вялікага дня". А ў друкаваным поўным зборы Летапісаў (т. XV, старонка 485) гэтая дата выпраўлена на 23 сакавіка, каб прыкрыць памылку летапісца, бо Вялікдзень у 1410 годзе прыпадаў на самай справе на 23 сакавіка. У наступным 1411 годзе ён прыпадаў на 12 красавіка, а пад час папярэднічаўшага 1409 года – прыпадаў на 7 красавіка. Адкідаем гэтае блытанае паведамленне, як ні для чаго не прыдатнае.

Рэзюмуючы ўсё гэта ў табліцы IV, мы знаходзім, што (пасьля выключэння відавочна наблытанага № 8) у прамежку ад 1206 да 1305 года згодна з сакавіцкім злічэннем пачатка году і накладаннем А із 12 выпадкаў адпавядаюць рэчаіснасьці 10, а астатнія два выпадкі (№10 і 11) адпавядаюць рэчаіснасьці згодна з тым жа сакавіцкім злічэннем пачатку года, але пры накладанні Б, якое пераходзіць у А, калі мы дапусьцім, што кампілятар летапісаў перанёс пазначаемыя падзеі на год раней, чым яны былі ў рэчаіснасьці. А візантыйскае вераснёўскае злічэнне, хаця і

задавальняе першым 7 выпадкам, але, відаць, толькі выпадкова, таму што далей пераходзіць у накладанне Б ці цалкам не мае рашэння (№ 10 і 11).

Але калі тут і сакавіцкае злічэнне, то ўсё ж яно не пагадняецца з сакавіцкім злічэннем Радзівілаўскага летапісу. Яго сакавіцкі год налягае на наш студзеньскі (правераны астранамічнымі вылічэннямі) толькі згодна з накладаннем Б, пачынаючы сакавіцкі год за 10 месяцаў да пачатку студзеньскага, а не праз 2 месяцы пасьля яго, як пры накладанні А. Тут жа наадварот. Толькі дапусціўшы, што пры пераліку гадоў Радзівілаўскага летапісу на наша студзеньскае злічэнне быў зроблены сістэматычны зрух летапіснай нумарацыі на год назад, мы атрымаем пагадненне паміж ім і яго прадаўжэннямі з 1111 года.

Ва ўсякім разе факт застаецца фактам: першакрыніца рускіх летапісаў на працягу ўсяго часу крыжовых паходаў і аж да Авіньёнскага заняволення рымскіх пап лічыць пачатак сваіх гадоў ад сакавіка, а не ад верасня, згодна з лацінскім, а не з візантыйскім календарамі, г. азн. як быццам бы рускія манахі-летапісцы, а такім чынам і ўсё атачаючае іх грамадзкае асяроддзе, былі ў стане ўніі з папскім Рымам.

# Глава II

## Сонечныя і месяцовыя зацьменні ў рускіх пасьля-нестаравых летапісах як паказчык іхнай праўдзівасьці.

Зараз выкарыстаем астранамічны метад праверкі. У "Пачатковым псеўда-летапісе" за першыя 200 гадоў, як я ўжо пазначаў, не паказана ніводнага зацьмення, ні сонечнага, ні месяцовага, і ніводнай каметы, і толькі пры самым заканчэнні апісаны ў розных месцах тры-чатыры астранамічныя з'явы, якія паддаюцца праверцы шляхам вылічэнняў.

У гэтым дачыненні я ўжо меў нагоду паказаць на паведамленне: "У тое ж лета (г. азн. пад час 1102 года) была месяцовае знаменне у месяцы лютым на 5 дзень".

Тут справа можа мець дачыненне толькі да месяцовага зацьмення, бо 5 лютага сапраўды быў поўны месяц з чаканнем (пры недакладных астранамічных ведах) месяцовага зацьмення… Але вось бяда! У рэчаіснасьці (г. азн. згодна з сучаснымі нашымі дакладнымі вылічэннямі) яно адбылося толькі праз два абарачэнні месяца, не 5 лютага, а 5 красавіка 1102 года, са значнай максімальнай фазай 9"2, каля 8 гадзін раніцы згодна з кіеўскім часам, г. азн. ужо пры захадзячым месяцы. Як жа аўтар мог пазначыць чакаемае, але не існаваўшае лютаўскае зацьменне і не пазначыў сапраўднае, адбыўшаяся праз два месяцы?

Памылка ў найменні месяца? На гэтую адгаворку сапраўды можна было б спаслацца, калі б у XIV стагоддзі (да якога, хутчэй за ўсё, можна было б аднесьці рэальны пачатак складання рускіх летапісаў, згодна з наяўнымі замежнымі і ўласнымі яшчэ нікчэмнымі пісьмовымі паведамленнямі) не адбылося б запар тры зацьменні грунтуючыся на 19-летнім цыкле, якраз 5 лютага:

1) У годзе 1319-II-5 месяцовае няпоўнае з максімальнай фазай 4"8 каля 4 гадзін 37 хвілін ад грынвіцкай поўначы і каля 6 гадзін 40 хвілін кіеўскага вечара.

2) У годзе 1338-II-5 у 14 гадзін 50 хвілін ад грынвіцкай поўначы і каля 4 гадзін 52 хвілін кіеўскага вечара, звыш поўнае.

3) У годзе 1357-II-5, няпоўнае (10"4), у 14 гадзін 18 хвілін ад грынвіцкай поўначы і каля 4 гадзін 20 хвілін кіеўскага вечара.

А сонца заходзіла ў гэты час у Кіяві каля 5 гадзін 13 хвілін мясцовага вечара, так што яны былі добра бачнымі ў межах ўсіх славянскіх зямель усходняй Яўропы пасьля заходу сонца на толькі што ўзышоўшым месяцы. А гэта магло даць нагоду аўтару выправіць на 5 лютага вычытанае ім недзе паведамленне пра месяцовае зацьменне 5 красавіка 1102 года, толькі ў тым выпадку калі летапіс складаў чалавек, які асабіста назіраў гэтыя тры зацьменні і таму склаў уяўленне пра 5 лютага, як пра адмысловы дзень пагражаючы месяцовым зацьменнем.

Ва ўсякім разе, месяцовае зацменне 5 лютага 1102 года паказана аўтарам няправільна. А яно ж адзінае ва ўсім "Пачатковым летапісе".

Зараз разгледзім і сонечныя зацменні:

За час, які быў адзначаны ў "Начальным летапісе", было 10 сонечных зацменняў, якія ішлі ў поўным або колападобным выглядзе па Дняпроўскай Русі і былі бачнымі ў дзевяці выпадках у вельмі вялікай фазе ў Кіеве. Вось яны:

Год 939-VII-19 – моцнае для Кіева, перад поўднем (не апісана).

Год 945-IX-9 – значнае для Кіева, раніцай (не апісана).

Год 970-V-8 – моцнае для Кіева, раніцай (не апісана).

Год 986-VII-9 – поўнае ў Кіеве, перад змярканнем (не апісана).

Год 990-X-21 – амаль поўнае ў Кіеві, пасьля поўдня (не апісана).

Год 1021-VIII-11 – амаль поўнае ў Кіеві, пасля поўдня (не апісана).

Год 1033-VI-29 – значнае ў Кіеві, пасьля поўдня (не апісана).

Год 1065-IV-8 – ледзь ці бачнае ў Кіеве, і толькі ў Ягіпце, і ў малай фазе ў Грэцыі і Сіцыліі (апісана).

Год 1091-V-21 – значнае ў Кіеві раніцай (апісана).

Год 1098-XII-25 – вялікае ў Кіеве перад вечарам, у самый дзень Каляд (не апісана).

І толькі адно з іх, і прытым менш за іншыя эфектнае для Кіева зацменне 21 траўня 1091 года, ды яшчэ папярэднічаўшае яму зацменне 8 красавіка 1065 года, хоць і ледзь ці бачнае ў Кіеве, адзначаны аўтарам, нягледзячы на тое, што прапушчаны ўсе астатнія, якія павінны былі выклікаць нашмат большае ўражанне як у Кіеві, так і на прасторы ўсёй Прыдняпроўскай Русі. Асабліва можна гэта сказаць пра апошняе (1098 года), тое, якое здарылася ў дзень Нараджэння Хрыстова, у разгар першага крыжовага походу, калі крыжакі ішлі вызваляць "труну господню" у Эль-Кудс, лічымі імі за Ерусалім. Дапусціць, што ўсе пазначаныя мной зацменні здарыліся пад час воблачнага надвор'я – немагчыма, ды і тады давялося б нагадаць, што наступала часовая "цёмная ноч пасярод дня", а выказаць здагадку, што жыўшы ў Кіеві першапачатковы манах-летапісец усё гэта праспаў пасярод дня, яшчэ менш адпавядае рэчаіснасьці. Такім чынам, ужо адна адсутнасць такіх сведчанняў у летапісе псеўда-Нестора показывае, што ён больш позняга паходжання, чым апошняя із апісваемых у ёй падзей, і што яна не спісана з нейкіх ранейшых, пазней згубленых сістэматычных "пачасовікаў", а напісана адразу самастойна, грунтуючыся часткова на заходне-славянскіх запісах, часткова на чутках, здагадках і легкадумных высновах самага аўтара і яго сучаснікаў, прычым падзеі, якія адбываліся ў іншых краінах або іншаземныя легенды, накшталт Алегава каня, паслужылі матэрыяламі.

Такім з'яўляецца наша тлумачэнне факта адсутнасьці згадак пра падзеі, якія не маглі не быць адзначанымі ў летапісе іхным сучаснікам, а зараз прывядзём

аргументы і пра прысутнасць у дадзеным летапісе такіх падзей, якіх не мог адазначыць іхны сучаснік, таму што яны насамрэч не адбываліся. Я ўжо прывёў із іх месяцовае зацьменне 5 лютага 1102 года, якога не было ў прыродзе, а зараз паведамлю і іншыя.

Перш за ўсё пакажу, што сонечнае зацьменне 21 траўня 1091 года апісанана правільна ў Лаўрэнцьеўскім рукапісе, на якім я тут і грунтаваўся. У ім запісана:

"*У гэтае лета* (ў 6599 годзе згодна з летапісам і ў 1091 згодна з сучасным злічэннем) *знаменне ў сонцы, як бы загінуці яму, і мала яго засталося, як месяц было, у 2 гадзіны дня, траўня на 21 дзень*".

Яно сапраўды і адбылося 21 траўня ў 8½ гадзін раніцы згодна з кіеўскім часам, пры гэтым засланілася каля 4/5 сонечнага дыяметра.

Але вось тымі ж самымі словамі яно апісана і ў III Наўгародзкім рукапісе:

"*Было знаменне ў сонцы, як бы загінуці яму і яго мала засталося, і як месяц было ў 2 гадзіны дня траўня на 21 дзень*".

А аднесена яно раптам на 13 гадоў назад у 6586 год (1078 год згодна з нашым злічэннем), калі на абшарах Расіі не было ніякага зацмення. Як жа гэта мог напісать відавочца?

Затым яно ж перапісана і ў Пскоўскім I, і ў Васкрасенскім рукапісах і зноў у той жа самай рэдакцыі, але ў абедзвюх дапасавана да 6596 г. (1088 год згодна з нашым злічэннем), г. азн. за 3 гады да сябе, калі было толькі зацменне 20 ліпеня, ды і то каля самога паўночнага полюса. Ці не пастаўлена яно сюды памылкова замест зацмення 25 снежня 1098 года, выдатна бачнага на абшарах ўсёй Расіі?

А ў так званым "Ніканаўскім летапісе" яно пазначана ўжо на 2 гады пасьля сябе ў 6601 годзе (1093 год згодна з нашым злічэннем, замест 1091 года). У гэтым годзе сапраўды адбылося зацьменне, бачнае ў моцнай фазе па ўсёй Заходняй Расіі, але толькі не 21 траўня, а 23 верасня.

А вось летапісец апісвае падзеі і нябесныя знаменні далёка адстаячыя ад яго і па часе і па месцы іх здзяйснення.

"*Такія знаменні бываюць не на дабро. Мы гэта разумеем, таму што ў старажытнасьці пры Антыёху ў Ерусаліме раптам на 40 дзён у паветры з'явіліся палкі са зброяй, у залатым адзенні, прадказваючы напад Антыёха на Ерусалім. Пазней пры Няроне цэзару заззяла ў тым жа Ерусаліме зорка, у выглядзе дзіды, прадказваючы напад рымлян і яшчэ пры Ўсьцініяне (Юстыніян) цэзару зорка заззяла на захадзе, выпускаючы прамяні. Яе ж празвалі Бліставіцай, і блішчала дзён дваццаць, а потым была плынь зорак з вечара да раніцы, здавалася, як бы падалі зоркі і зноў сонца ззяла без праменяў. Потым пры Маўрыкіі цэзару жанчына нарадзіла стварэнне без вачэй і без рук і ад сцёгнаў яго быў рыбін хвост. І ... нарадзіўся шасьціног, а ў Афрыцы (у іншых спісах у Фракіі) два стварэнні нарадзіліся: адно мела чатыры нагі, а другое мела дзьве галавы. Потым пры Кастусю Іконазмагальніку, сыну Лявонаве, плынь зорная была на небе, падалі (зоркі) на зямлю, так што бачыўшыя думалі канец. Тады ж і паветра палілося (хлынула) па вяліку. Па Сурыі (Сірыі) было трасенне вялік (землятрус) зямля расселася на тры попрышчы, і дзівосна выйшла із зямлі аблічча (маска), гаварыўшая чалавечым голасам, прадказваючы нашэсьце паганцаў, як і было: напалі сарацыны на палестынскую зямлю*".

Мы бачым тут, што аўтар не цураўся і замежных спраў і паведамляе (збольшага грунтуючыся на Рыгору Амартоле, збольшага па заходнееўрапейскіх аўтарах накшталт Лікасфенавай "Хронікі адзнак і дзіваў") пра нябесныя прадвесьці

нападаў на Ерусалім і пры "Антыёху", і пры "Рымлянах", і пры "Сарацынах"… Дык чаму ён нічога не паведамляе пра прадвесьці сучасных яму гучных падзей, якімі былі распадзенне яго ўласнай царквы на заходнюю і ўсходнюю ў 1054 годзе ўсяго за 11 гадоў да так красамоўна апісванага ім 1065 года? Чаму ён пазней праспаў крыжовыя паходы? Чаму пра іх няма ні слова ні ў адным із маючыхся зараз спісаў "Пачатковага летапісу"?

Але пра гэта мне яшчэ давядзецца адмыслова выказацца ў адной з наступных глаў, а зараз я закончу пытанне пра зацьменні, якія так паказальна адсутнічаюць у "Пачатковым Летапісе" Нестара-Сільвестра.

Паглядзіце самі на прыкладзенай табліцы спіс пазгнейшых зацьменняў, якія я бяру із кнігі Данілы Свяцкага "Астранамічныя з'явы ў рускіх летапісах", напісанай у 1915 годзе, калі ён быў супрацоўнікам Астранамічнага аддзялення ў Дзяржаўным Навуковым Інстытуце імя Лесгафта пры ўдзеле другога майго супрацоўніка па той жа ўстанове М. А. Вільева. Гэта было зроблена згодна з ініцыятывай акадэміка А. А. Шахматава, які яшчэ раней прасіў мяне пра гэта, а я, праз адсутнасць часу, папрасіў зрабіць гэта сваіх памочнікаў Вільева і Свяцкага.

Але ні Шахматаў, ні Свяцкі, ні Вільеў не адважыліся зрабіць із гэтага параўнання належных высноваў, хаця гэтыя высновы самі кідаюцца ў вочы. Пагледзіце толькі на маю паказальную табліцу (табл. V).

## Табліца V.

*Навочнае статыстычнае параўнанне сонечных зацьменняў, адзначаных у псеўда-летапісі псеўда-Нестара, з апісаннямі яго "псеўда-працягвальнікамі" (а на самай справе: першых летапісцаў)*

| Працягвальнікі нестаравага летапісу | | | | Нестаравы летапіс | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сонечныя зацьменні | Гады | Сонечныя зацьменні | Гады | Сонечныя зацьменні | Гады |
| 1386,1390, 1399 | 1390 | 1113 і 1115 | 1120 | 850 | 850 |
| 1406 | 1400 | 1120, 1122, 1124 | 1130 | | 860 |
| 1415 | 1410 | 1131, 1133, 1140 | 1140 | | 870 |
| 1426 | 1420 | 1146 і 1147 | 1150 | | 880 |
| 1433 | 1430 | 1162 | 1160 | | 890 |
| | 1440 | | 1170 | | 900 |
| 1460 | 1450 | 1185 і 1187 | 1180 | | 910 |
| | 1460 | | 1190 | | 920 |
| 1476 і 1475 | 1470 | 1207 | 1200 | | 930 |
| 1486 і 1487 | 1480 | | 1210 | | 940 |
| 1491 | 1490 | | 1220 | | 950 |
| | 1500 | 1236 | 1230 | | 960 |
| | 1510 | | 1240 | | 970 |
| | 1520 | | 1250 | | 980 |
| 1533, 1540 | 1530 | 1270 | 1260 | | 990 |
| 1544 | 1540 | 1283 | 1270 | | 1000 |
| | 1550 | | 1280 | | 1010 |
| 1563 | 1560 | | 1290 | | 1020 |
| | 1570 | | 1300 | | 1030 |
| | 1580 | | 1310 | | 1040 |
| | 1590 | 1321 | 1320 | | 1050 |
| 1605 | 1600 | 1331 | 1330 | 1064? | 1060 |
| | 1610 | | 1340 | | 1070 |
| | 1620 | | 1350 | | 1080 |
| | 1630 | 1361 і 1366 | 1360 | 1091 | 1090 |
| 1645 | 1640 | 1375 | 1370 | 1106 | 1100 |
| | 1650 | | 1380 | | 1110 |

У першым аддзеле прыведзены паслядоўна ўсё 27 дзесяцігоддзяў, запоўненыя больш-менш незвычайнымі падзеямі, якія быццам бы пераемна запісвалі кіеўскія манахі-навукоўцы згодна з узорам Пушкінскага летапісца пры Барысе Гадунове:

"Яшчэ адно апошняе паданне
І летапіс закончаны мой".

Вы самі бачыце, што ад 852 года, калі пачаўся іхны "летапіс" і да 1065, на працягу 212 гадоў, тут не запісана ніводная із гэтых нябесных з'яваў, якія так палохалі нашых продкаў, не разумеўшых іхнай нагоды і часовасьці наступаўшага псавання сонца, ды і пра зацьменне 1064 гада павядамляецца толькі ўрыўкава, як бы грунтуючыся на аддаленых успамінах:

"*Перад гэтым оке часам (*г. азн. перад 6572 годам "ад стварэння сусвету" і 1064 г. грунтуючыся на нашым злічэнні*) і сонца перамянілася і не было светлым, але як месяц было. Яго оке – кажуць невегласы (*г. азн. невукі*) знедаемы сушчу*".

А потым, як мы ўжо бачылі, прыводзіцца сонечнае зацьменне 1091 года, дапасаванае ў розных копіях да розных гадоў каля таго ж часу, г. азн. зноў запісанае не на месцы, а таксама грунтуючыся на ўспамінах.

Усё гэта і пазначана па нашым дзесяцігадовым храналагічным маштабе ў верхнім аддзеле табліцы V.

Але вось, вы пераходзіце да "працягвальнікаў" гэтага "Пачатковага летапісу", запісы якіх я прасачыў да 1650 года, і вы бачыце цалкам іншую выяву. Амаль палова сонечных зацьменняў, бачымых на абшарах Расіі ў значнай фазе, правільна адзначана ў паказаныя на табліцы гады, а адсутнасць астатніх добра тлумачыцца хмарным надвор'ем. Але ж нямагчыма сцвярджаць, што пад час папярэднічаўшых дзвухсот гадоў, ад 850 да 1064 года, Кіеў засланялі суцэльныя хмары! І на працягу тых гадоў павінна была назірацца прыблізна такая ж сярэдняя колькасць сонечных зацьменняў, як і ў гады працягвальнікаў "Нестара" і, калі б "Нестар" (ці Сільвестр) карысталіся пры складанні свайго летапісу сапраўднымі запісамі папярэднічаўшых манахаў, то ён у першую чаргу і паведаміў бы пра вельмі палохаўшыя ўсіх сонечныя зацьменні.

А калі ў яго не было запісаў пра зацменні, то не было і ніякіх іншых, а таму і ўсё астатняе, пра што піша псеўда-Нестар, напалову фантазія пачатку XIII стагоддзя, калі не больш пазнейшага часу.

Каб вызначыць час складання гэтай напаловуфантазіі, скарыстаемся месяцовымі зацьменнямі, якія менш эфектныя, чым сонечныя, і таму няма вялікай нагоды ўключаць іх у запісы із замежных крыніц.

Вось яны ўсе ў табліцы VI, і што ж вы там бачыце? У "псеўдалетапісе Нестара (ці Сільвестра)" не пазначана ніводнага зацьмення, а у яго псеўда-працягвальнікаў яны адразу пачынаюцца і, прытым, не ў забабонным, а у дзелавітым выкананні.

## Табліца VI.

*Навочнае статыстычнае параўнанне месяцовых зацьменняў, адзначаных у псеўда-летапісі псеўда-Нестара, з апісаннямі яго "псеўда-працягвальнікамі" (а на самай справе: першых летапісцаў)*

***Працягвальнікі нестаравага летапісу Нестаравы летапіс***

| Сонечныя зацьменні | Гады | Сонечныя зацьменні | Гады | Сонечныя зацьменні | Гады |
|---|---|---|---|---|---|
| 1389* 1392* | 1390 | 1122 | 1120 | | 850 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1395* 1396* | 1400 | | 1130 | | 860 |
| 1399* 1403* | 1410 | 1146* | 1140 | | 870 |
| 1406* 1407* | 1420 | | 1150 | | 880 |
| 1431* 1432* | 1430 | 1161* | 1160 | | 890 |
| 1433* | 1440 | | 1170 | | 900 |
| 1460 | 1450 | | 1180 | | 910 |
| 1461* 1465* | 1460 | | 1190 | | 920 |
| 1468* 1471* | 1470 | 1200* 1208* | 1200 | | 930 |
| 1476* 1477* | 1480 | | 1210 | | 940 |
| | 1490 | | 1220 | | 950 |
| | 1500 | | 1230 | | 960 |
| | 1510 | | 1240 | | 970 |
| | 1520 | 1259) | 1250 | | 980 |
| 1536) | 1530 | | 1260 | | 990 |
| | 1540 | 1276* 1280* | 1270 | | 1000 |
| | 1550 | 1282* 1289* | 1280 | | 1010 |
| 1566* | 1560 | 1291* | 1290 | | 1020 |
| | 1570 | | 1300 | | 1030 |
| | 1580 | 1316* | 1310 | | 1040 |
| | 1590 | | 1320 | | 1050 |
| | 1600 | | 1330 | | 1060 |
| | 1610 | | 1340 | | 1070 |
| 1624* | 1620 | | 1350 | | 1080 |
| | 1630 | 1360* | 1360 | | 1090 |
| 1645 | 1640 | 1378* | 1370 | | 1100 |
| | 1650 | | 1380 | | 1110 |

***** – поўнае зацьменне, **)** – не поўнае зацьменне.

Вось хоць бы два прыклады:

А. Із Лаўрэнцьеўскага летапісу: "*У лета 6715 (*1207 год згодна з нашым злічэннем*)... Таго ж лета было знаменне у месяцы: быў як бы крывавы, і потым прэлажыўся ў цемру*". Такое месяцовае зацьменне і было годам пазней, 3 лютага 1208 года з сярэдзінай звыш поўнага зацьмення (20"5) у 7 гадзін 53 хвіліны кіеўскага вечара.

Б. Із Троіцка-Сергіеўскага летапісу, былой Маскоўскай Духоўнай Акадэміі: "*У лета 6798 (*1290 год згодна з нашым злічэннем*). Таго ж лета было знаменне ў месяцы: быў як бы крывавы, і потым прэлажыўся ў цемру*". Месяц і дзень тут не пазначаны, але прыдатнае месяцовае зацьменне таксама, як і папярэднічаўшае, было годам пазней пазначанага ў 1291 годзе 14 лютага, звыш поўнае (19"5) з сярэдзінай у 22 гадзіны 21 хвіліну ад грынвіцскай поўначы, а адносна кіеўскага часу ўжо 15 лютага, праз 24 хвіліны пасьля поўначы.

Пазней падобныя з'явы пачалі запісваць радзей, напэўна, таму што натуральная нагода зацьменняў была ўжо высветлена, месяцовыя зацьменні пачалі прадказвацца загадзя.

Із гэтага можна зрабіць выснову, што і сонечныя зацьменні 1064, 1091 і 1106 гадаў занесены ў "Пачатковы летапіс" нашмат пазней яе складальнікам грунтуючыся на замежных (візантыйскіх ці баўгарскіх, чэшскіх, польскіх, калі не лацінскіх) першакрыніцах, і гэта пацвярджаецца і пазначанымі ў ёй каметамі, відавочна запазычанымі із грэцкіх хронік.

Каб разабрацца ў пытанні і разам з тым праверыць храналогію рускіх летапісаў, выкарыстаем апісанні сонечных зацьменняў, якія маюць тую перавагу, што яны бачны не на прасторы цэлага паўшар'я зямлі, а толькі на вузкай паласе зямнога шара, а сабліва, калі пазначана іх максімальная фаза. Вось ўсе яны із Радзівілаўскага, а потым із Лаўрэнцьеўскага і Троіцка-Сергіеўскага спісаў Маскоўскай Духоўнай Акадэміі.

1. Зацьменне У лета 6572 (1065 год згодна з нашым злічэннем), якое я ўжо вышэй цытаваў: ("*Прэд сім часам і сонца змянілася і не было светлым, але як месяц было. Пра яго ж невегласы (*невукі*) кажуць снедаему сушчу*"). У 1065 такога на абшарах славянскіх земляў бачна не было, але так як мы ўжо сустракалі памылкі на год пазней, то глядзім у 1066 годзе. Не знаходзім. Глядзім на год раней і, раптам, знаходзім зацьменне 19 красавіка 1064 года, якое праходзіла ў колападобным выглядзе із Шатландыі праз Рэвель, Вялікі Ноўгарад, Яраслаўль, Кастраму, Казань і Уфу. А ў частковым выглядзе яно магло назірацца і ў Кіеве.

2. Зацьменне У лета 6599 (1091 год, згодна з нашым злічэннем), якое я таксама ўжо цытаваў: ("*У гэтае ж лета знаменне ў сонцы, як загінуці яму, і мала яго засталося і як месяц было ў 2-ой гадзіне дня месяца траўня на 21 дзень*"). І сапраўды, 21 траўня 1091 года, раніцай было відаць на абшарах усіх славянскіх зямель, у тым ліку і ў Кіеві, у значнай фазе сонечнае зацменне, хаця яно і ішло ў колападобным выглядзе даволі далёка: із Малой Азіі праз Тыфліс да Арэнбурга. Гэты першы раз, калі зацьменне датавана цалкам дакладна.

3. "*У лета 6622 (*1114 год згодна з нашым злічэннем*). Было знаменне ў сонцы ў 1 гадзіну дня* (г. азн. пасьля ўзыходжання солнца*), можна было бачыць ўсім людзям. Засталося яго мала, як месяц долу рагамі (*уніз рагамі*), месяца сакавіка 29 дня (*у Лаўрэнцьеўскім спісе памылкова напісана 19 сакавіка)". Сапраўды, на 29 сакавіка прыпадае сонечнае зацьменне, але толькі не ў 111 г., а ў 1112 годзе. Паласа яго поўнай бачнасьці ішла ў вячэрні час па Паўночнай Афрыцы на Суэцкі пярашыек, за якім яно і закончылася на заходзе солнца. У Кіяві яно магло быць бачным на самым заходзе сонца, але ў малой фазе. Гэтае апісане, відаць, запазычана із Цар-Гародзкіх звестак. А думаць, што гаворка ідзе пра зацьменне 23 ліпеня 1115 года, як меркаваў Вільеў, няма падставаў, таму што час пазначаны дакладна: 29 сакавіка. Хутчэй можна дапусьціць, як лічыць В. Г. Сушакоў, што гаворка ідзе пра зацьменне 19 сакавіка 1113 года.

4. "*У лета 6832 (*1124 г. згодна з нашым злічэннем*). Было знаменне ў сонцы. У 9 гадзін дня было яно, як месяц мал. І ледзь не змеркласе да паловыдзёння, месяца жніўня на 11 дзень*". Такое зацьменне і было як раз 11 жніўня 1124 года. Паловудзённая бачнасць яго поўнай фазы была ў Нарвегіі, а затым полоса поўнага зацьменні прайшла праз Фінляндыю, Ноўгарад Вялікі, Пскоў, Цвер, Маскву, Уладзімір на Клязьме, Разань і Саратаў у Тыбет, дзе і закончылася. У Кіяві і Польшчы яно было добра відаць.

5. У лета 6694 (1186 год згодна з нашым злічэннем). "*Траўня 1 у дзень памінання Ерамея ў сераду (*середа на 1 траўня прыпадала годам раней у 1185 годзе*) на вячэрні было знаменне ў сонца і змрочным было велъмі (так што зоркі бачыць можна было). І ў чалавекаў у вачах як бы зялёна было, і сонца ўчынілася яка месяц, із рагоў яго як быццам бы вугаль жароў (*пылаючы*) зыходзіў. Жахліва было бачыць человекам знаменне Божае*". Тут яскравае апісанне поўнага сонечнага зацьмення: і зеленаватае напаловусвятло, і вуглепадобныя пратуберанцы. Такое зацьменне сапраўды і было, але годам раней: 1 траўня 1185 года каля 3 гадзін мясцовага дня, як і пазначана ў І Пскоўскім, І і ІІ Наўгародскім і ў Іпацьеўскім летапісах. Але, – на жаль! – у такім выглядзе яно магло быць апісана толькі ў Стакгольме, Рэвелі і Вялікім Ноўгарадзе, а потым, калі хочаце, у Яраслаўлі, Кастраме, Ніжнім Ноўгарадзе, Уфе і Казані. Верагодней за ўсё, вышэйпрыведзенае апісанне паходзіць із Эстляндыі, дзе яшчэ пад час памятання гэтага зацмення паўстаў Лівонскі ордэн мечаносцаў, заснаваны ў 1202 у Рызе біскупам Альбертам

Буксгеўдэнам. Гэта Гэта азначае , што і ўвесь Радзівілаўскі летапіс редактаваўся ўжо не на Дняпры, а на Западняй Дзьвіне.

6. "*У лета 6714 (*1206 год згодна з нашым злічэннем*). Было знаменне на небе, у сонца, пад час месяца лютага на 28 дзень у сераду сырнага тыдня (*серада 28 лютага была не ў 1206, а ў 1207 г.), *і стаяла (*працягвалася*) ад поўдня да мефімона*[15]*. Засталося яго, як месяца ў настацці 1 дня (*пасьля маладзіка*). Шматлікія бо верныя чалавецы бачачы, маляхуся богу дабы павярнуць тое знаменне на дабро*". І зноў;, такое зацьменне было, але толькі годам пазней, не у 1206, а ў 1207 годзе 28 лютага. Паўдзённым яно было ў Швецыі, а пасьля таго яго паласа колападобнай бачнасьці ішла праз ўсходнюю частку Балтыйскага мора, Рэвель і Гельсінгфорс ў Белае мора да вусьця ракі Абі. Гэта азначае, і яно хутчэй за ўсё магло быць апісана ў Прыбалтыцы, а не на Ўкраіне.

7. "*У лета 6738 (1230 год згодна з нашым злічэннем). Таго ж месяца* (травень) *на 14 дзень у аўторак 6 тыдня пасьля Вялікадня другое за год* (перад ім было толькі прыпалярнае зацьменне 17 снежня 1229 студзеньскага год*а*) *сонца пачало гінуці, усім бачыўшым людзям мала засталося яго і было як месяц 3-х дзённы* (пасьля маладзіка) *і пачало зноў поўніцца і шмат хто думалі, што месяц ідзе праз неба, так як было межмесячча, а іншыя думалі сонца ідзе назад, як аблокі малыі і частыі, з паўночнага боку борза беглі на сонца на поўдзённы бок*". І пра яго ж згадваецца, але ўжо незалежнымі словамі ў Троіцка-Сергіеўскім спісе Маскоўскай Духоўнай Акадэміі:

8. "*У лета 6738 трэслася зямля і сонца азмрочылася*". Такое зацьменне і было якраз 14 траўня 1230 года, але паласа яго поўнай фазы ішла праз Данію і Швецыю да Паўночнага полюса. У выглядзе частковага зацьмення яно добра назіралася на схіле сонца перад заходам із усяго Прыбалтыйскага краю і нават із Кіева. Выказванне, што гэтае зацьменне было другім у 1230 годзе, паказвае, што пачатак году аўтар лічыў з верасня. Толькі ў такім разе першым зацьменнем гэтага ж года і будзе прыпалярнае 17 снежня 1229 студзеньскага (і 17 снежня 1230 вераснёўскага) гада. Але яно магло быць апісана толькі ў паўночных рускіх летапісах.

9. "*У лета 6744* (1236 год згодна з нашым злічэннем). *Было знаменне ў сонца пад час месяца жніўня 3 дня, у нядзелю пасьля абеду. Было можна бачыці ўсім, як бы месяц четырохдзённы* (на чацьвёрты дзень пасьля маладзіка)". І яно ж *згадваецца пад тым жа годам (але як незалежны запіс) і ў Троіцка-Сергіеўскім спісе* Маскоўскай Духоўнай Акадэміі.

10. "*Таго ж лета загінула сонца па ўсёй зямлі*". А потым у тым жа летапісе яно зноў запісана і пад наступным (1237) годам у такім выглядзе: "*У лета 6745* (1237 год згодна з нашым злічэннем) *было знаменне у сонца пад час месяца жніўня на 3 дзень пры памінанні святых айцоў Далмата, і Фаўста, і Ісака. Цемра найшла на сонца з захаду, яно было як месяц пяці начэй* (пасьля маладзіка)*, а з усходу было светлым, і потым з усходу цемра была,* (і сонца стала) *такім жа як месяц пяці начэй, а з захаду* (зрабілася) *светлае* (звычайны ход сонечнага зацьмення)". Такое зацьменне было 3 жніўня 1236 года. Яно прайшло ў колападобным выглядзе праз Петразаводзк, Волагду і Казань, а у частковай форме магло быць бачным і ў Вільні, і ў Мінску, і ў Кіеві.

11. "*У лета 6829* (1321 год згодна з нашым злічэнне*м) месяца чэрвеня 26, у 3 гадзіны дня загінула сонца, і засталося яго, як бы з двухдзённы месяц* (пасьля

[15] Меміфонанам называлася вячэрня на сырным і на першым тыдні "Вялікага паста"

маладзіка) *і праз гадзіну пакі папоўнілася*". Такое зацьменне якраз і было 26 жніўня 1321 года і прайшло яно ў колападобным выглядзе праз Варшаву, Віцебск, паміж Цверру і Масквой, у Вятку, у Японію і Ціхі акіян.

12. "*У лета 6914* (1406 год згодна з нашым злічэннем) *чэрвеня 16 у 3 гадзіны дня была ізгібелъ сонцу*". Такое зацьменне ішло ў поўнай фазе паўночней Рыгі, праз Рэвель і Архангельск у ранішні час, і было бачным ў частковай форме і ў Кіеві.

13. "*У лета 6923* (1415 год згодна з нашым злічэннем) *загінула сонца чэрвеня 7 у пятніцу, і схавала прамяні свае сонца ад твару зямнога*".

## Табліца VII.

*Дакладнасць дат, даваемых ў Радзівілаўскім (Лаўрэнцьеўскім) спісах і вырабляемых ад яго летапісах для сонечных і месяцовых зацьменняў ад 1064 г. да 1415 г. згодна са злічэннем пачатку года ад студзеня, верасня і сакавіка.*

| Дадзена ў летапісах у гадх ад стварэннясусвету | Вылічна мной у юліянскіх гадах студзеньскага злічэння (і ў хрысьцянскіх) | Мая папраўка да даты | Вераснёўскі год | | Сакавіцкі год | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Наклад Б | Наклад. А | Наклад Б | Наклад. А |
| 1. | 1064-IV-19 | -1 | З | З | Е | З |
| 2. | 1091-V-21 | 0 | Е | З | З | Е |
| 3. | 1112-111-29 | -2 | З | З | З | З |
| 4. | 1124-VIII-11 | 0 | Е | З | З | Е |
| 5. | 1185-V-1 | -1 | З | З | Е | З |
| 6. | 1207-XI-28 | + 1 | Е | З | З | Е |
| 7. | 1230-V-14 | 0 | Е | З | З | Е |
| 8. | 1236-VIII-3 | 0 | Е | З | З | Е |
| 9. 6829 (1321)-VI-26 | 1321-VI-26 | 0 | Е | З | З | Е |
| 10. 6914 (1406)-VI-16 | 1406-VI-16 | 0 | Е | З | З | Е |
| 11. 6923 (1415)-VI-7 | 1415-VI-7 | 0 | Е | З | З | Е |

*Е – азначае што існуе рашэнне, якое задавальняе пачатку года, паказанаму зверху;*

*З – не існуе задавальняючага рашэння.*

*У III слупку нуль (0) азначае, што гэтая частка года аўтара непасрэдна адпавядае юліянскаму студзеньскаму году; +1 азначае, што гэтая дата аўтара адпавядае наступнаму студзеньскаму юліянскаму году, а -1 паказвае, што для пераводу на наша злічэнне патрэбна для дадзенага летапіснага года зрабіць папраўку мінус адзін год.*

Мы бачым із яе, што 11 пералічаных намі сонечных зацменяў, 8 задавальняюць класічнаму сакавіцкаму пачатку года згодна з накладаннем А, адно (№ 3) выявілася ногул памылковым, а два, не задавальняючыя накладнню А на наш студзеньскі год, задавальняюць яму згодна з накладаннем Б. А візантыйскі вераснёўскі год выяўляецца праўдзівым (як і непасрэдна наш студзеньскі) у сямі із дзесяці выпадкаў. Атрымліваецца, што і астранамічныя першакрыніцы нашых летапісцаў былі напісаны згодна з сакавіцкім пачаткам года, але пераведзены на студзеньскі пачатак не згодна з адным толькі накладаннем А, а часам і з накладаннем Б.

Такім чынам, і сонечныя, і месяцовыя зацменні падцярджаюць нашу выснову (зробленую грунтуючыся на днях тыдня ў папярэдняй главе), што рускія летапісцы (а з імі, вядома, і ўсе рускія адукаваныя людзі) карысталіся ў XIII-XV стагоддзях лацінскім класічным злічэнне гадоў, пачынаючы год ад веснавога месяца сакавіка, а не з восеньскага верасня, як візантыйцы. І гэта яскрава сведчыць,

што разумовая культура з часоў захопу крыжаноснымі ордэнамі (па-руску ордамі, ад лацінскага слова ordo – таварыства) цар-Горада і аж да павароту маскоўскіх князёў да праваслаўя як наступства адружання Яна III на Сафіі Палеолог, і наступіўшаму за гэтым адкладанню ад Рыма, ішла з запада ад "лацінцаў".

# Глава III

## Прыватная праверка "Наўгародзкага Хартыйнага летапісу Сінадальнага спіса" і яго копій грунтуючыся на сонечных і месяцовых зацьменнях. Меркаванні Карамзіна пра веснавы пачатак года ў рускіх летапісах да Ніканаўскага спісу.

"Наўгародзкі летапіс згодна з Сінадальным спісам" з 945 года пачынаецца літаральным перапісваннем сваіх меркаванняў із Радзівілаўскага спіса, але пасьля 1015 года такія літаральныя выпіскі становяцца радзейшымі і пастаянна заменяются сваімі меркаваннямі, часам неверагоднымі. Так, пад 1107 годам напісана: "*У лета 6615. Трасецца зямля ў дзень 5 лютага*".

І яшчэ для 1230 года: "*У лета 6738. Трэслася зямля ў пятніцу пятага тыдня пасьля Вялікадня ў абед, а зараз ужо і атабедаўшы. Гэта, браціе, не на дабро, а на зло. З нагоды грахоў нашых бог паказвае нам знаменні, каб мы пакаяліся ў грахах нашых*".

Ды і ў Траецка-Сергіеўскім спісе Маскоўскай Духоўнай Акадэміі гаворыцца: "*У лета 6738* (=1230) *трэслася зямля і сонца памрачылася*". І сапраўды, ў 1230 годзе ў Прыбалтыйскім краі магло быць хутчэй за ўсё 14 траўня сонечнае зацьменне, якое ішло ў поўным выглядзе ўздоўж Швецыі...

Але ж Ноўгарад Вялікі і Москва знаходзяцца па-за вобласьцю землятрусаў! Гэта азначае, што паведамленне ўзята із нейкіх паўднёвых крыніц, калі не прыдумана.

Месяцовыя і сонечныя зацьменні ў Наўгародзкім летапісе пачынаюць згадвацца з 1115 года. Вось усе яны:

А. Сонечныя зацьменні.

1. "*У лета 6623* (=1115 студзеньскаму году). *Бысцъ знаменне на сонцы, як бы загінула*". Гэта зацьменне ў рэчаіснасьці пачалося каля вусцяў Дуная на Балканах, на ўзыходзе солнца, і паласа поўнай бачнасьці ішла праз Японію. У Ноўгарадзе яно магло быць назіраемым толькі ў частковым выглядзе, так што выказванне "загінула" перабольшана.

2. "*У лета 6632* (=1124 студзеньскамуі году). *Месяца жніўня ў 11 дзень перад вечаровай пачало знікаць сонца і загінула ўсё. О, які вялікі жах і цемень былі! І зоркі былі* (бачнымі) *і месяц. І зноў* (сонца) *пачало прыбываць і зноў напоўнілася. І ўсе радаваліся ў горадзе*". Тут зноў толькі невялікае перабольшанне. Паласа поўнай бачнасьці ўсяго зацьмення праходзіла ад паўночнага-ўсходу на паўднёвы-захад не праз Ноўгарад, а праз Няву.

3. "*У лета 6639* (=1131 студзеньскаму году). *Было знаменне ў сонцы пад час вячаровай пары сакавіка 30*". І, сапраўды, 30 сакавіка 1131 года згодна са студзеньскім злічэннем паласа поўнага зацьмення прайшла із Ісландыі ў Новую Зямлю каля Норд-Капа. У Ноўгарадзе яно магло быць бачным у няпоўнай фазе.

4. "*У лета 6641* (=1133 студзеньскаму году). *Было знаменне ў сонцы перад вечаровай*". Паласа гэтага зацьмення прайшла 2 жніўня 1133 года із Англіі праз Цэнтральную Яўропу і каля Босфора ў Аравійскі заліў пад час поўдня. У Ноўгарадзе яго ледзь ці заўважылі.

5. "*У лета 6648* (=1140 году) *сакавіка 20 было знаменне ў сонцы і столькі яго засталося, якім бывае месяц на 4 дзень, і зноў напоўнілася да заходу*". Але зацьменне 20 сакавіка 1140 года ў поўным выглядзе ішло амаль прама праз Коўна, Віцебск, Маскву і Казань ў вечаровы час і павінна было б быць апісана ў больш выразных фарбах, калі пісаў ноўгарадзец.

6. "*У лета 6693 (=1185 году) траўня 1, у 10 гадзін дня, сонца пакрачылася як бы на час і больш у вячэрні звон і зоркі былі* (бачнымі), *а потым прасвятлела. І радаваліся*". Тут мы знаходзім амаль правільнае апісанне. Паласа поўнага зацьмення 1 траўня 1185 года прайшла побач з Ноўгарадам перад вечарам із Шатландыі, праз Рыжскі заліў у Цэнтральную Азію.

7. "*У лета 6695* (=1187 году)... *У тое оке лета было знаменне ў сонцы: апоўдні яно стало як месяц і змерклася. А праз малы час зноў напоўнілася і прасвятлела 9 верасеня*". Такое зацьменне было, але не 9, а 4 верасня 1187 года, і паласа поўнага зацьмення прайшла пад час поўдня ад Стокгольма праз Заходнюю Расію, побач з Крымам ў Індыю.

8. "*У лета 6745* (=1237 году). *Было знаменне ў сонцы 3 жніўня, у память святых айцоў Далмата, Фауста і Ісакія пры пілнаванні, такое: цемень была ў сонцы спачатку з заходу, яно зрабілася як месяц на пятую ноч* (пасьля маладзіка)*, а з усходу было светлае. Потым з усходу зрабілася цемень, як месяц на пятую ноч, а з захаду было светлае. І напоўнілася* (сонца) *зноў*". Такое зацьменне было згодна з нашым студзеньскім пачаткам году не ў 1237 годзе, а годам раней – 3 жніўня 1236 года. Паласа поўнага зацьмення ішла ў пасьля паўдзённы час із Фінляндыі праз Волагду і Казань ў Тыбет.

9. "*У лета 6779* (=1271 году). *Памрачылася сонца ў 5 тыдзень паста ў сярэдзіне раніцы і зноў напоўнілася, і* (ўсе) *радаваліся*". Такое зацьменне было таксама годам раней, у нядзелю 23 сакавіка 1270 года згодна са студзеньскім злічэннем і ішло із Венгрыі праз Кішынёў, Палтаву, побач з Казанню і Пермю на паўночны Урал. Вялікдзень тады быў 13 красавіка, у нядзелю, так што справа адбывалася на пачатку 5 тыдня паста, лічачы нядзелю за 1 дзень тыдня.

10. "*У лета 6829* (=1321 году). *26 чэрвеня пры чыстым небе раптоўна памеркла сонца, як бы на гадзіну, і было як месяц на 5-ю ноч* (пасьля маладзіка). *І цемра была як у зімовую ноч і зноў напоўнілася, і* (усе) *радаваліся*". Такім яно і было 26 чэрвеня 1321 года. Паласа яго колападобнай бачнасьці, начаўшыся ў Гішпаніі на ўзыходзе солнца, прайшла амаль прама праз Варшаву, Віцебск, паміж Цверру і Масквой у Вятку ў перадпаўдзённы час і закончылася ў Ціхім акіяне за Японіяй, і яно было відаць у Ноўгарадзе ў вялікай фазе.

Гэта апошняе сонечнае зацьменне у Наўгародзкім летапісе, які заканчваецца 1352 годам.

Б. Із месяцовых жа зацменняў у ім апісаны толькі тры:

1. "*У лета 6625* (=1117 году)... *Было знаменне ад грома ў Ноўгарадзе. У святой Сафіі 14 траўня ў гадзіну 10, пад час вечаровага спявання адзін дзяк быў уражаны громам, а ўвесь клірас з людзьмі упаў ніцма, але засталіся жывымі, і на вечар было знаменне ў месяцы*". Але тут невялікая памылка. Зацьменне месяца ў гэтым годзе было не 14 траўня, а 16 чэрвеня 1117 года свышпоўнае (14"8) у 0

гадзін 49 хвілін ад Грынвіцкай поўначы і добра бачнае праз 2 гадзіны пасьля таго на абшары ўсёй Еўрапейскай Расіі. А ў траўні ці наогул 14 дня не было ні ў гэтым, ні ў суседнія гады. Відавочна, гаворка ідзе пра яго, але запісанае на падставе пазнейшых успамінаў.

2. "*У лета 6657 (=1149 году). Было знаменне ў месяцы, увесь загінуў і потым напоўніўся да ютрані лютага*". Месяц люты названы толькі ў Хартыйным Сінадальным спісе, а ў спісе Археаграфічнай камісіі, у Таўстоўскай і Тацішчаўскай Акадэміі Навук слова люты няма, хаця асноўны тэкст такі ж самы, толькі з прыватнымі варыянтамі.

У гэтым годзе і было месяцовае зацьменне, але толькі 26 сакавіка 1149 года з сярэдзінай у 0 гадзін 51 хвіліну ад Грынвіцкай поўначы, бачнае гадзіны праз тры пасьля мясцовай поўначы ў Ноўгарадзе. Ды яшчэ ў наступным годзе – 5 сакавіка 1150 года – было звышпоўнае (21"8) месяцовае зацьменне з сярэдзінай у 3 гадзіны 16 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, і бачнае ў Ноўгарадзе перад світаннем. А ў 1148 годзе месяцовых зацменняў не было наогул. Гэта азначае, год зсунуты.

3. "*У лета 6767* (=1259 году). *Бысць знаменне ў месяцы, яка ні знамення не бысць*". Гэтае таямнічае выказванне адпавядае частковаму зацменню 1 лістапада 1259 года з максімальнай фазой 8"6 у 20 гадзін 18 хвілін перад Грынвіцкай поўначчу, а ў Ноўгарадзе хутка пасьля поўначы. У наступным 1260 годзе месяцовых зацьменняў наогул не было, а пад час папярэднічаўшага 1258 года 18 траўня было звышпоўнае (14"5) у 22 гадзіны 31 хвіліну перад Грынвіцкай поўначчу і бачнае хутка пасьля поўначы ў Ноўгарадзе.

Вось і ўсе зацьменні ў Асноўным Наўгародзкім летапісе згодна з Сінадальным спісам.

Паспрабуем, грунтуючыся на іх, адказаць на пытанне: з якога месяца яе аўтары пачыналі адлічэнне сайго года.

Кіруючыся нашымі агульнымі табліцамі I і II, мы бачым, што ўсе даты зацьменняў тут задавальняюць нашаму студзеньскаму і сакавіцкаму пачатку года згодна з накладаннем III, А (гл. нулявыя розніцы на табліцы IV), за выключэннем двух сонечных зацьменняў (№8 і 9). Гэтыя апошнія атрымліваюцца пагодненымі са злічэннем пачатку года ад сакавіка толькі згодна з накладаннем III, Б. А згодна з вераснёўскім Візантыйскім пачаткам не спраўдзіліся чатыры (№7, 8, 9 і 13). Із гэтага атрымліваецца, што як быццам бы гады сонечных і месяцовых зацьменняў запазычаны складальнікамі Наўгародзкага летапісу із першакрыніц, якія ўжывалі сакавіцкае злічэнне, але яго перавялі на студзеньскае (а ніяк не на вераснёўскае) злічэнне у 11 выпадках згодна з накладаннем III, а і ў дзвух – згодна з накладаннем III, Б.

## Табліца VIII.

*Пагадняемасць дат, прыведзеных у "Наўгародзкім летапісе" сонечных і месяцовых зацьменняў са злічэннем пачатку года са студзеня, верасня і сакавіка.*

| Дадзена летапісе ў гадах ад стварэння сусвету | Вылічана мной у юліянскіх гадах студзеньскага пачатку (і ў хрысьціянскіх) | Мая папраўка да даты | Вераснёўскі год | Сакавіцкі год |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| 1. 6623 (1115)-VII-23 | 1115-VII-23 | 0 | Е Н Н | |
| 2. 6632 (1124)-VIII-11 | 1124-VIII-11 | 0 | Е Н Н | |
| 3. 6639 (1131)411-30 | 1131-Ш-ЗО | 0 | Е Н Н | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 4. 6641 (1133)-?-? | 1133-VIII-2 | 0 | Е Н Н | |
| 5. 6648 (1140)-Ш-20 | 1140-111-20 | 0 | Е Н Н | |
| 6. 6693 (1185)-V-1 | 1185-V-1 | 0 | Е Н Н | |
| 7. 6695 (1187)-IX-9 | 1187-IX-4 | 0 | Н Е Н | |
| 8. 6745 (1237)-VIII-3 | 1236-VIII-3 | -1 | Н Н Е | |
| 9. 6779 (1271)-III-23 | 1270-111-23 | 0 | Е Н Н | |
| 10. 6829 (1321)-VI-26 | 1321-VI-26 | 0 | Е Н Н | |
| 11. 6625 (1117)-V-14 | 1117-V-14 | 0 | Е Н Н | |
| 12. 6657 (1149)-?-? | 1149-111-26 | 0 | Н Е Н | |
| 13. 6767 (1259)-?-? | 1259-XI-1 | | Е Н Н | |

*Е – гэта азначае існуе задавальняючае рашэнне;*
*Н – няма здавальняючага рашэння;*
*0 – дата летапісу непасрэдна задавальняе нашаму студзеньскаму календару.*

Паглядзім зараз з гэтага боку і на "Працяг Наўгародзкага летапісу" згодна са спісам Археаграфічнай Камісіі Акадэміі Навук. Гэта, уласна кажучы, не працяг. Апавяданне пачынаецца 1333 годам, тады як папярэдні Асноўны летапіс заканчваецца 1345 годам, г. азн. на 12 гадоў пазней пачатку "працягу", і, пры гэтым, паведамленні гэтых 12 гадоў не паўтараюць адзін аднаго ў абодвух спісах, а амаль усюды самастойныя.

Із сонечных зацьменняў у гэтым "Працягу" адзначаны наступныя:

1. "*У лета 6883* (=1375 году) *ліпеня 29, пры памінанні сьвятога пакутніка Калініна ў нядзелю было знаменне у сонцы*". І, сапраўды, у гэты год і дзень было сонечнае зацьменне, паласа колападобнай бачнасьці якога пачалася паблізу берага Нарвегіі і пайшла па Паўночным Ледавітым акіяне да Камчаткі. У вельмі няпоўным выглядзе, яго пачатак мог быць заўважаным і ў Наўгародскім краі, на ўзыходзячым сонцы.

2. "*У лета 6893* (=1385 году)… *Было знаменне ў сонцы на зіму 1 студзеня пры памінанні сьвятога айца Васіля*". А ў рэчаіснасьці, гэтае зацьменне было годам пазней, 1 студзеня 1386 года. Паласа поўнай бачнасьці праходзіла апоўдні праз Цар-горад і далей праз Чорнае мора на Астрахань, але дзякуючы касаму становішчу сонца зімой, нязначны цень мог дасягаць і да Ноўгарада.

3. "*У лета 6907* (=1399 году). *Той жа восенню было памрачэнне сонца і цемра. І загінула сонца і зьявіўся серп на небе, і потым зноў з'явілася сонца, выпускаючае крывавыя прамяні з дымам месяца кастрычніка пры памінанні сьвятой пакутніцы Настассі*". Настасся ж святкуецца 29 кастрычніка і ў гэты дзень сапраўды было зацьменне солнца 29 кастрычніка 1399 года, але толькі частковае прыпалярнае, з сярэдзінай у 12 гадзін 20 хвілін, г. азн. каля Грынвіцкага поўдня, а згодна з наўгародзкім часам ўжо каля 3 гадзін вечера. Магчыма, што дзякуючы нізкаму становішчу над гарызонтам, непаўнавартае сонца мела ў Наўгародзкім краі крывавы выгляд і было аточана дымкай облакаў.

4. "*У лета 6923* (=1415 году). *Было знаменне ў сонцы 7 ліпеня*". Яно і было 7 ліпеня 1415 года. Паласа яго поўнай бачнасьці, пачаўшыся паблізу Гішпаніі ў моры, прайшла каля Ноўгарада праз Віцебск, Цвер і Сібір да Японіі і закончылася за ёй таксама ў моры.

5. "*У лета 6931* (=1423 году). *Было знаменне ў сонцы*". Але ў гэтым годзе два сонечных зацьменні былі ў студзені і ліпені на супрацьлеглым баку зямлі. Гэтая заўвага магла мець дачыненне толькі да зацьмення солнца 26 чэрвеня 1424 года, годам пазней. Начаўшыся каля Каліфорніі, паласа яго поўнай бачнасьці прайшла

апоўдні каля Грэнландыі і ў вячэрні час перасякла Еўрапейскую Расію, закончыўшыся ў Персіі.

А із месяцовых зацменняў у "Працягу Наўгародскага летапісу" адзначана толькі:

1. "*У лета 6968* (=1360 году). *Пад час Філіпава паста* (г. азн. ад 14 лістапада да 25 снежня) *было знаменне ... як бы цёмнай крывёю пакрыўся на чыстым небе дыск месяца...*". Але ў 1360 годзе на працягу пазначанага прамежку было толькі адно месяцовае зацьменне 23 лістапада 1360 года, звышпоўнае (13"5) у 14 гадзін 51 хвіліну грынвіцкага дня, а годна з наўгарозкім часам гэта было каля 5 гадзін вечера, г. азн., верагодна, на ўзыходзячым месяцы следам за заходжаннем солнца. У наступным, 1361 годзе не было ніводнага месяцовага зацьмення, а на працягу папярэднічаўшага 1359 года было толькі нездавальняючае 5 снежня ў 7 гадзін 15 хвілін ад грынвіцкай поўначы, а згодна з наўгародзкім часам пасьля 9 гадзін раніцы, калі сонца ўжо ўзышло, а месяц зайшоў.

Рэзюмуючы ўсё гэта ў табліцы IX і зноў імкнучыся вызначыць з яе дапамогай, з якога месяца аўтар "Працягу Наўгародзкага летапісу" лічыў пачатак свайго года, мы бачым:

## Табліца IX.

*Пагадняемасць дат, прыведзеных у "працягу Наўгародскага Летапісу" для сонечных і месяцовых зацменняў са злічэннем пачатку года са студзеня, верасня і сакавіка.*

| Дадзена летапісе ў гадах ад стварэння сусвету | Вылічана мной у юліянскіх гадах студзеньскага пачатку (і ў хрысьціянскіх) | Мая папраўка да даты | Вераснёўскі год | | Сакавіцкі год | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пач. Б | Пач. А | Пач. Б | Пач. А |
| Сонечныя зацьменні | | | | | | |
| 1. 6883 (1375)-VII-29 | 1375-VII-29 | 0 | Е | Н | Н | Е |
| 2. 6893 (1385)-1-1 | 1386-1-1 | | Н | Е | Н | Е |
| 3. 6907 (1399)-X-29 | 1399-X-29 | 0 | Н | Е | Н | Е |
| 4. 6923 (1415)-VII-7 | 1415-VII-7 | 0 | Е | Н | Н | Е |
| 5. 6931 (1423)-?-? | 1424-VI-26 | +1? | Н? | Е? | Н? | Н? |
| Мясяцовае зацьменне | | | | | | |
| 6. 6868 (1360) – восень | 1360-XI-23 | 0 | Н | Е | Н | Е |

*Е – гэта азначае існуе задавальняючаерашэнне;*
*Н – няма здавальняючага рашэння;*
*0 – дата летапісу непасрэдна адпавядае нашаму студзеньскаму календару.*

1. ліпень (№1 і 4), кастрычнік (№3) і лістапад (№5) супадаюць са студзеньскім годам, а студзень (№ 2) летапісу спазніўся на год, г. азн. аўтар не лічыў грунтуючыся на студзеньскім злічэнні, калі № 2 не з'яўляецца памылковым запісам, дададзеным пазьней.

2. Вераснёўскае злічэнне тры разы не дапасуе згодна з вераснёўскім накладаннем Б і не дапасуе два разы (Н) па абодвух вераснёўскіх магчымых накладаннях А і Б.

Гэта азначае, аўтар даследуемага намі "Працягу" Наўгародзкага летапісу не лічыў свае гады згодна з вераснёўскім злічэннем, інакш ён бы не блытаў накладанне А і накладанне Б адпаведна зрухам летазлічэння на год назад і наперад.

Аўтар браў зацьменні із першакрыніц, напісаных грунтуючыся на сакавіцкім пачатку гада, таму што ва ўсіх выпадках накладанне А на наш студзеньскі год атрымалася задавальняючым (У). Але магчыма і тое, што ён тут ужо перавёў

сакавіцкае злічэнне на студзеньскае згодна з накладаннем А (табл. I) таксама, як і ў той частцы, якая лічыцца асноўным "Наўгародзкім летапісам згодна з сінадальным хартыйным спісам".

Цікава, што да тых жа высноваў пра сакавіцкі пачатак года ў рускіх летапісцаў, якія я зрабіў астранамічным шляхам, прыйшоў яшчэ задолга да мяне і Карамзін шляхам непасрэднага параўнаньня летапісных дат. Пра гэта мала вядома таму, што ён схаваў іх у заўвагах і не зрабіў адпаведных высноваў, так што і да гэтага часу археографы пераводзяць летапіснае злічэнне на наша студзеньскае згодна з восеньсьскім накладаннем.

Так, цытуючы "Летапісы Нестара", Карамзін у заўвазе 50 да II-ога тама "Гісторыі Дзяржавы Расійскай" паведамляе:

1. "Ізяслаў, згодна са сведчаннем летапісца (Нестара) пайшоў із Кіева 15 верасня 6576 (= 1068) года, а вярнуўся ў сталіцу праз сем месяцаў, 2 траўня 6577 (= 1069) года. А гэта адбылося б не ў двух, а ў адным годзе, калі б год пачынаўся з верасня".

2. "У 6621 (=1114) годзе памёр Давыд 25 траўня, і ў той жа год 3 лістапада памёрла Янка: г. азн, новы год не пачынаўся з верасня".

Гэтыя высновы Карамзіна, з ужо вышэй пералічанымі, даюць падставы думаць, што ўнія з Рымам існавала ўжо і тады, а таму ўсе шансы за тое, што і "Ўладзімір Сьвяты", які памёр у 1015 г., усяго за 54 годы да таго, таксама хрысьціўся згодна з лацінскім звычаем, а не з грэцкім: таму што каляндар з’яўляецца асновай рэлігійных сьвятаў.

Нагадаю, што ў Заходняй Яўропе ў той час год лічыўся менавіта з вясны і да студзеньскага пачатку пачалі пераходзіць, верагодна, толькі пры дэкрэтаванні папай Рыгорам XIII ў 1582 годзе Грыгарыянскага календара[16].

Пра толькі што павядомленыя карамзінскія меркаванні я даведаўся ўжо пасьля таго, як самастойна астранамічным шляхам прыйшоў да высновы пра вясновы пачатак года ў рускіх летапісцаў ад іхнага пачатку да заканчэння XV стагоддзя нашай эры.

А іншыя даследчыкі відавочна недастаткова ацанілі гэтыя ўказанні, магчыма праз тое, што яны ў Карамзіна былі пазначаны толькі ў некалькіх "заўвагах". Усё гэта робіць відавочным, што ні сам Карамзін ні яго чытачы не зразумелі вялізнага значэння гэтага адкрыцця, як скасоўваючага саму падставу ўкаранiўшыхся ў нас уяўленняў: пра візантыйскі пачатак і характар рускай дзяржаўнасьці і культуры пад час сярэдніх стагоддзяў. Згодна з меркаваннем яго ж самога, не кажучы ўжо пра "гісторыкаў праваслаўнай царквы", рускае хрысьціянства ад свайго пачатку мела так сказаць грэцкае адзенне, а пасьля гэтага адкрыцця атрымліваецца, што яно аддзялілася ад папскай курыі толькі пры Яне III і яго жонцы грачанцы Сафіі Палеолаг ў 1492 годзе.

# Глава IV

## Каметы ў рускіх летапісах[17]

[16] Гл. у гэтым томе "Логіка нябёс"

[17] Фактычныя сведчанні бяру часткова із артыкула К. Д. Пакроўскага "Каметы ў Рускіх летапісах" ("Свет Божы", 1903, красавік), часткова із Д. О. Свяцкага (Паведамленні Акадэміі Навук. Аддзяленне рускай мовы і славеснасьці, 1915) і часткова із фундаментальнага выдання Археаграфічнай камісіі "Летапіс згодна з Лаўрэнціеўскім спісам" 1872 года.

Першае паведамленне пра камету мы знаходзіўся ў Лаўрэнціеўскім спісе, калі камета Галея ў 912 годзе прайшла праз пэрыгелій 12 ліпеня. Больш ранніх камет ў рускіх летапісах не пазначана. Вось яно:

"*У лета 6419* (= 911 году згодна з нашым злічэннем). *Зьявілася зорка веліка на захадзе, капейнай выявы*".

Тацішчаў перадае гэтае месца ў некалькі іншай рэдакцыі:

"*У лета 6419* (911). *Зьявілася зорка вяліка на захадзе, нібы куст*".

Але параўнанне зоркі з кустом з'явілася на падставе непаразумення. У рукапісе Тацішчава мы чытаем: "з’явіся зорка вяліка на захадзе купіна выявай", а "купіна" азначае па-славянску "куст" (стар. 127). Але тут у арыгінале, відавочна, было проста неразборліва напісана слова "капійнага" (г. азн. дзідападобнага) і яно было перароблена перапісчыкам Радзівілаўскага спіса ў купіну, што і паўтарыў Тацішчаў.

А ў хроніцы Рыгора Амартолы пад 912 годам мы чытаем ў грэцкім тэксце:

"*Пры гэтым з’явілася зорка-камета на захадзе, якую, кажуць, назвалі дзідай* (kcpic), *і яна прадказвала кровапраліцце ў горадзе*"[18]

У старажытна-рускім перакладзе хронікі Амартолы гэта месца перароблена так:

"*Пры гэтым зорка з’явілася вяліка ад захаду, капііціцай* (яе) *нарыцалі. Тая зорка кровапраліцце празнаменуе*"[19].

Такім чынам, паведамленне Лаўрэнцьеўскага летапісу пра тое, што "*з’явілася зорка вяліка на захадзе капійнага выгляду*", не з’яўляецца запісам сучасным падзеі. Усё гэта паведамленне ўзята са славянскага перакладу хронікі Амартолы пра камету 912 года, гэта азначае што гэта ўжо пазнейшы запіс, а не летапісны.

Пры такім дапушчэньні станавіцца цалкам зразумелым і факт замоўчвання ў нашым "Пачатковым летапісе" наступстваў з'яўлення каметы Галея ў 989 годзе. Калі б мы мелі перад сабой арыгінальны запіс пра падзеі, то наўрад ці з'яўленне бліскучай каметы восенню 989 года, якре было адзначана і арабскім гісторыкам Эльмацінам, і Лікасфенам, і Баронiем, і кітайскімі хронікамі, магло прайсьці незаўважаным для рускіх назіальнікаў. Відавочна, запісы пра каметы ў рускіх летапісах таксама пачынаюцца пазней. Гэта падцвярджаецца і памылкай на два годы ў запісе пра наступнае эфектнае з'яўленне каметы Галея ў сакавіку 1066 года.

У Лаўрэнцьеўскім летапісе чытаем: "*У лета 6572* (= 1064 г. замест 1066.). *Бысць знамение, зорка прэвяліка, промні маючы якы крававы, усходзячы з вечера пасьля заходу сонечным, і прэбысць 7 днiй. Се оке праяўляшэ не на дабро: пасём бо быша ўсобіц шмат і нашэсьце паганых на Рускую зямлю, сі бо зорка бе акы кравава, праяўляюшчы кровапраліцце*".

У Англіі камета ззяла з пачатку красавіка да заканчэння траўня. У Канстантынопалі і на Ўсходзе яе заўважылі на пачатку траўня; грэкі яе назіралі 40 дзён, італьянцы і немцы 20-30 дзён, камета была ранішняй, 24-га стала вячэрняй і ішла за сонцам. Да пачатку траўня яна не заходзіла да сьвітання і 40 дзён рухалася на ўсход.

Усюды яна вырабіла такое вялікае ўражанне, што калі б ў XI стагоддзі летапісы ў нас пісаліся своечасова, згодна з падзеямі, то несумненна, гэтая нябесная з'ява была б распісана на цэлыя старонкі і прытым без памылкі нават на адзін год.

[18] Навуковыя Запіскі Імп. Акадэміі Навук. Кн. VI. 1861 с. 797.

[19] Літаграф. выд. хронікі Амартола згодна са спісам бібліятэкі Маскоўскай Духоўнай Акадэміі.

Із гэтага мы бачым, што ў "Пачатковым летапісе" абодва запісы пра камету Галея дададзены ўжо пазней і уключаны ў яе грунтуючыся на замежных паведамленнях.

Але вось, пераступім праз "Нестара" да яго, нібыта, працягвальнікаў, а на самай справе – першых летапісцаў, пасьля 1111 года, г. азн. з часоў Уладзіміра Манамаха, мы знаходзім цалкам дакладныя запісы.

У Іпацьеўскім летапісе маецца наступны запіс:

"*У лета 6653* (=1145 году)... *Усевалад па брацію сваю, па Ігару і Святаслава, і па Давыдавіча, па Валадзіміра і Ізяслава, і прыдоша Кіеву; і тады зьявілася зорка прэвяліка на захадзе, іспушчаюшча прамяні..."*

Далейшым радкі ў летапісе, на жаль, сапсаваны, верагодна, каб схаваць нейкую занадта відавочную лухту. Але і без гэтага зразумела, што тут пазначана камета Галея, прайшоўшая праз перыгелій 29 красавіка 1145 года, якая да 14 траўня была ў ранішняй, а пасьля ў вечаровай бачнасьці .

Затым у Лаўрэнцьеўскім летапісе маецца наступны запіс:

"*У лета 6731* (= 1222 году, згодна з візантыйскім вераснёўскім пачаткам году гэта ўжо быў пачатак 1223 года) *з'явілася зорка на захадзе, і былі ад нея два прамяні не ў зрак чалавекам, але яка ў палудзенне, па два прамяні ўсходзілі з вечера пасьля заходу сонечным, і была яна вялікасьцю пачэ інэх зорак; і прэбыла тако 7 дзён, і пасьля 7 дзён явіліся прамяні ад нея да ўсходу, прабыла яна так 4 дні, і зрабілася нябачнай*".

Зноў вельмі правільнае апісанне з'яўлення каметы Галея ў 1222 годзе, якая прайшла праз пэрыгелій 15 верасня. І тое ж можна сказаць пра наступнае з'яўленне, калі яна праходзіла праз пэрыгелій 22 кастрычніка 1301 года.

У Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 6810 год (г. азн. у 1302 годзе згодна з вераснёўскім візантыйскім злічэннем і 1301 годзе згодна з нашым студзеньскім) паведамляецца: "*Таго оке лета ў восені явілася зорка на захадзе, імушча прамяні і хвост да гары* (да верху) *на палудзень абліччам*".

У Ніканаўскім летапісе знаходзім амаль такое ж апісанне ў наступнай редакціі: "*Таго ж лета 6810* (= 1302 году) *бысть знаменне на небесі: явілася зорка на захадзе, іспушчая прамяні ўверх, яка хвост, на поўдзень ніц*".

А ў дадатку да Іпацьеўскага летапісу (так званым Густынскім) знаходзім пад тым жа годам 6810 краткую заўвагу: "*Явілася зорка жахлівая, свецячая* (на захадзе) *і прамяні іспускаюшчая*".

Але вось і дзіўны недагляд.

Наступнае з'яўленне каметы Галея было ў 1378 годзе, калі яна прайшла праз пэрыгелій 8 лістапада. Гэта было пры добрых умовах бачнасьці. Згодна з кітайскімі хронікамі Шэ-Ке і Ма-Туан-Лінь камета была бачнай 45 дзён і 26-га верасня была на паўночным усходзе паміж Вазьнічым і Цялём, узыходзячы, такім чынам, у 11 гадзін ночы.

Некалькі раней яна павінна была з'явіцца перад "ранішняй заркай". Пазней яна ператварылася ў незаходячае сьвяціла, прайшла праз В. Мядзьведзіцу і Цмока, а затым у лістападзе перайшла на захад, дзе паступова знікла ў промнях сьвітання пасярод зорак Змея. І раптам мы яе не знаходзім ні ў адным із рукапісаў-хронік пад гэтым годам, а выяўляецца яна размешчанай памылкова праз 4 гады, і прытым у відавочна перайначаным выглядзе.

Пад 6890 годам (= 1382 году нашага злічэння) у IV-ы Наўгародзкі летапіс запісана цэлае апавяданне "Пра паланенне і пра паходжанне Тахтамыша цара із

Залатой арды" і пра "маскоўскае ўзяцце". Яна непасрэдна пачынаецца із апісання назіраўшайся перад гэтым каметы: "*Бысць нейкая праява. Па шматлікія ночы яўляшася такавое знаменне на небе: на ўсходзе, перад ранішняй зарніцай, зорка нейкая акі хвастата і яка капейным выглядам. Овагда* (яна з'явілася на) *вячэрняй зары, овагда оке на ранішняй, таксама шмат разоў бываша. Се жэ знаменне прояўляша злое прышэсьце Тахтамыша на Рускую зямлю, і горкае поганых Татар находжанне на крэсьяны*".

Падобным жа чынам пачынаецца гэтае апавяданне ў Пскоўскім 1-ым, і Васкрасенскім летапісах, і ў летапісе Аўраамкі. У Цвярскім летапісе пазначана і пара года, калі з'явілася камета: "*той жа зімой знаменне праявілася на ўсходзе*".

У захадно-еўрапейскіх хроніках яна связваецца з руйнаваннем туркамі Босніі, Краацціі і Ілірыі і з пачаўшайся моцнай чумой.

У Васкрасенскім летапісе, акрамя паказанага апісання, існуе яшчэ пад папярэднічаўшым 6889 годам (= 1381 году згодна з нашым злічэннем) іншае апісанне каметы: "*тоя ж зімы і тоя ж вясны явілася нейкае знаменне на небе; на ўсходзе, перад ранішняй зарою акі слуп вогненны і зорка капейнага выгляду*". Гэтае ж паведамленне змяшчаецца і ў Мікольскім летапісе з дадаткам: "*Се оке праяўляшэ на Рускую зямлю злое прышэсьце Тахтамышава і горкае поганых знаходжанне*"; падрабязнасьці апісання не дазваляюць засумнявацца, што ўсё яно мае дачыненне да з'яўлення каметы Галея ў 1378 годзе, а між тым, яно разам з казкай пра Тахтамыша патрапіла ў 1382 год. Із гэтага відавочна, што і легенда пра Тахтамыша, цара Залатой Арды, забраўшага пасад у Мамая і, быццам бы, абрабаваўшага Маскву ў 1382 годзе, позднейшая ўстаўка. Гэта азначае, сумнеўна і тое, што ён пачаў вайну з Тамерланом ў 1406 годзе.

Не менш здзіўляе і адсутнасць запісаў у рускіх летапісах пра наступнае з'яўленне каметы Галея, якая прайшла праз пэрыгелій 8 чэрвеня 1456 года.

Яе з'яўленне ў гэтым годзе хутка пасьля падзення Канстантынопаля (1453) мела настуствам жах па ўсёй Яўропе. Хрысьціяне бачылі ў ёй турэцкую выгнутую шаблю, а туркі – крыж. Асабліва эфектнай яна тады была праз тое, што падчас перыгелія праходзіла вельмі блізка ад солнца і зямлі. Яе хвост працягнуўся на 60 град., яго велічыня і выгляд змяняліся, прычым ён нагадваў хвост паўліна, у якім налічвалі да 30, часам нават 100 адгалінаванняў.

І вось, пры ўсёй сваёй пышнасьці і грандыёзнасьці гэтае з'яўленне Галеевай каметы цалкам не патрапіла ў рускія летапісы. А ў заходнееўрапейскіх яна прысутнічае паўсюдна. Пра яе згадваюць і Функцыус, і Кальвіцыус, і Эксторліус, і Річыолі, а папа Калікст выдаў загад па ўсіх цэрквах служыць малебны пра яе сыход. Султан Магамет II у гэты час аблажыў Белград, абараняемы Янам Гуніядам. Як жа мог летапісец, назіраўшы яе з жахам шмат начэй, не прысьвяціць ёй цэлыя старонкі?

Гэта азначае, што ніякіх самастойных летапісаў і не вялося ў гэты час. Меркаваць, што яна была нябачнай з нагоды "белых начэй" можна толькі для паўночнай, а ніяк не для Сярэдняй Расіі.

Але вось, нарэшце, правільнае і на гэты раз, несумненна, самастойнае назіранне каметы Галея, якая прайшла праз пэрыгелій 26 жніўня 1531 года. У Васкрасенскім летапісе маецца наступны запіс: "*7039* (па нашаму 1531 год). *Таго оке лета, жніўня, яўляшася зорка веліа над летнім узыходжаннем сонечным па шматлікія зары ранішнія, прамень сіяшэ ад неа ўверх велій, а ідучы* (ішла) *не па звычайнаму шляху на паўночную страну; і пасярод, таго ж месяца, з'яўляецца тая*

*ж зорка ў вячэрняй зары пасьля заходжання сонечнага чырванёным* (чырвоным) *выглядам, і прамень ад нея смашэ чырванёвы ўверх жа над летнім захадам*".

У Кітаі гэтую камету пабачылі за тры тыдні да перыгелія 5 жніўня, у сузор'і Двайнят, якое сапраўды ўзыходзіць над "*летнім узыходам сонечным*", потым яна прайшла праз Вялікую Мядзведзіцу і Валасы Веранікі, сапраўды "*ідучы не па звычайнаму шляху* (зорак) *на паўночную страну*", дзе знаходзіцца Мядзведзіца. Потым яна накіравалася да сузор'я Панны, у якім сонца бывае ў верасні, дзе камета і з'явілася яшчэ на прыканцы жніўня ў прамянях вечаровай зары, пафарбаваўшай яе ў чырвоны колер, пры гэтым яе хвост працягнуўся над "*летнім захадам*", г. азн. быў адхілены на паўночны-захад.

Гэтым я і закончу згадванні пра камету Галея ў рускіх летапісах да 1600 года нашай эры. Мы бачым, што яна паказвае нам не толькі на адсутнасць запісаў пра яе ў "Пачатковым Летапісе Нестара", але і выклікае сумненні ў праўдзівасьці запісаў яго "працягвальнікаў", у якіх ці адсутнічаюць самыя эфектныя яе праявы, якія не маглі не быць адзначанымі сапраўдным летапісцам, або яны змешчаны са сваіх гадоў, што сведчыць пра вельмі позні час іхнага запісвання пасьля з'яўлення.

Але ў летапісах існуюць запісы і пра іншыя каметы, і калі мы параўнаем іхную прысутнасць у "працягвальнікаў" з адсутнасьцю іх у "Пачатковым летапісе", то атрымаем згодна з ужо прынятым намі ўзорам наступную схему (табл. X).

## Табліца X.

*Навочнае статыстычнае супастаўленне камет, паказаных у "Пачатковым летапісе", з каметамі, апісанымі яго псеўда-прадаўжальнікамі (а на справе: першымі летапісцамі)*

| Працягвальнікі нестаравага летапісу | | | | Нестаравы летапіс | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1390 | | 1120 | | 850 |
| 1402 | 1400 | | 1130 | | 860 |
| | 1410 | 1145* | 1140 | | 870 |
| | 1420 | | 1150 | | 880 |
| | 1430 | | 1160 | | 890 |
| | 1440 | | 1170 | | 900 |
| Няма!* | 1450 | | 1180 | ‹912›* | 910 |
| 1468 | 1460 | | 1190 | | 920 |
| 1472 | 1470 | | 1200 | | 930 |
| | 1480 | | 1210 | | 940 |
| 1490 | 1490 | 1222* | 1220 | | 950 |
| 1500? | 1500 | | 1230 | | 960 |
| | 1510 | | 1240 | | 970 |
| 1520? | 1520 | | 1250 | ‹989›* | 980 |
| 1531 | 1530 | 1264 | 1260 | | 990 |
| 1532 | 1540 | 1266? | 1270 | | 1000 |
| 1533 | 1550 | | 1280 | | 1010 |
| 1556 | 1560 | | 1290 | | 1020 |
| | 1570 | 1301* | 1300 | | 1030 |
| 1580 | 1580 | | 1310 | | 1040 |
| | 1590 | | 1320 | | 1050 |
| | 1600 | | 1330 | ‹1064›* | 1060 |
| Няма!* | 1610 | | 1340 | Замест1066 | 1070 |
| 1618 | 1620 | | 1350 | | 1080 |
| | 1630 | 1366 | 1360 | | 1090 |
| | 1640 | 1382? | 1370 | | 1100 |
| | 1650 | | 1380 | | 1110 |

*Зорачкамі пазначаны з'яўленні каметы Галея, а кропкамі іншыя каметы. У кутападобных дужках <*> з'яўленне каметы Галея, запазычаныя із візантыйскіх запісаў.*

Каб мець уяўленне пра якасныя характарыстыкі і іншых запісаў пра каметы, я паказваю іхныя літаральныя апісанні.

1) У Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 6536 годам (=1028 году) чытаем: "*Знаменне* (зьміева) *явіся на небе, яка відзеці ўсёй зямлі*". Слова "зьміева" захавалася толькі ў адным са спісаў. У Цвярскім летапісе гэты запіс пазначаны пад 6535 годам (= 1027 нашаму). Астраном К. Д. Пакроўскі[20] ў сваім даследванні нават і не спыняецца на гэтым самым старажытным згадванні, лічачы найбольш адпавядаючым рэчаіснасьці тое, што тут гаворка ідзе не пра камету (так як каметы ў летапісах называюцца мячамі або дзідамі, але ніколі зьмеям), а пра метэарыт, так як метэарыты сапраўды ў летапісах і мелі назву агністы змей. А ў дадзеным выпадку меркаванне Пакроўскага падмацоўваецца і тым, што ў замежных запісах у гэтым годзе камет не адзначана. Тая акалічнасць, што ў шматлікіх копіях-варыянтах слова "зьміева" адсутнічае, лёгка тлумачыцца пазнейшай чысткай, калі "зьмеі на небе" ўжо выйшлі із моды.

2) Дакладна тое ж можна сказаць і пра цытату Тацішчава, ўзятую ім із нейкай невядомай нам крыніцы[21].

Там пад 6608 (=1100) годам мы чытаем: "*А зімою бачылі на поўначы зорку з хвастом вялікім працяглым да захаду, уверх паднятым, і быў чэрэн*". А ў заўвазе да гэтага месца напісана: "Лікастэн сказуе год 1099 можа быць адно». І само гэтае ўказанне на Лікасфенаву лацінскую "Хроніку знаменняў і цудаў" наводзіць на думку, ці не карыстаўся ёю Тацішчаў, калі яму не хапала рускіх летапісаў?

Ва ўсякім разе, адносна з'яўлення ў 1100 годзе нейкай каметы няма дакладных паведамленняў ні ў заходніх хроніках, ні ў вывезеных із Кітая місіянерамі Майлья і Гобілем. У Лерша гэтая камета прама пазначана як уяўная камета, а ў Пінгрэ пад 1099 проста спасылка на Вебера. Ды і ў самім рукапісе Тацішчава пад 1100 і сумежнымі гадамі такога тэксту няма. Адкуль жа ён патрапіў у друкаванае выданне яго кнігі?

3) У Тацішчава ж пад 6613 (1105) годам мы чытаем: "*Тагож лета з’явілася камета з хвастом, і бачная была цэлы месяц*". А ў тлумачэнні да гэтага месца (Заўвага 343) змешчана: "гэтую камету Лікастэн 1106 паклаў, у чым рознасць такма ад розносьці пачатку года".

І вось сам Карамзін ў заўвазе 204 да тома II сваёй "Гісторыі" заўважае: "Тацішчаў, меўшы ў сябе пераклад Лікастэнавага Хранікона[22], ведаў, што 5 лютага 1106, з’явілася камета, і таму адзіна і піша пра яе ў сваёй гісторыі. Нашы летапісцы не заўважылі гэтую камету, паведамляючы тут толькі пра паўночнае ззянне і інш."..

І Карамзін цалкам мае рацыю.

Але вось у дайшоўшоўшых да нас спісках Іпацьеўскай і Хлебнікаўскай копій "Пачатковага летапісу", а таксама ў Густынскім пад 6613 (1105) годам мы зноў чытаем літаральнае паўтарэнне прыдумкі Тацішчава: "*Тым оке летам з’явілася зорка з хвастом на захадзе, і стая месяца*". Як быццам бы атрымліваецца, што і

[20] Пакроўскі К. Д. Каметы ў рускіх летапісах // Свет Божы. 1903. Красавік.

[21] Тацішчаў. Гісторыя Расійская з самых старажытных часоў, праз трыццаць гадоў сабранная. Т. 2. с. 197. – Рукапіс закончаны каля 1749 года, згарэў, але яго чарнавікі захаваліся, і з іх у 1769 годзе надрукаваны першыя тры тамы, а чацьвёрты ў 1784 годзе.

[22] Lycostheni Prodiorum інш Ostentorum Chronicon.

яны ўжо карысталіся кнігай Лікастэна, каб "аднавіць" з яе дапамогай самы старажытны рускі "летапіс Нестара", само імя якога азначае "вярнуўшыся з таго сьвета".

Што ж мы бачым? Не толькі сонечныя і месяцовыя зацьменні адсутнічаюць у псеўда-Нестаравым або Сільвестравым псеўда-летапісе, але і каметы запісаны ў ім апакрыфічна із грэцкага Рыгора Амартолы, а то і з лацінскага Лікастэна. І запісаны яны цалкам без забабонных параўнанняў.

Цалкам не тое пасьля сьмерці ўяўнага Нестара або Сільвестра ў 1111 годзе, калі пачалі, нібыта, пісаць яго працягвальнікі, а на самай першыя летапісцы. Вось першая іхная камета.

У Іпацьеўскім летапісе пад 6773 годам (=1265 нашаму) мы чытаем: "Я*віся зорка на ўсходзе хвастатая, выявай жахлівая, іспушчаюшча ад сябе прамяні вялікія, сі ж зорка нарачаецца власатая* (відавочны пераклад із лацінскай назвы "камета" – валасатая)*; ад бачання ж сея зоркі жах аб'яў уся чалавекы і ўжасць, хітрыцы ж глядзеўшы тако рэкоша: "оже мяцеж вялік будзеш у зямлі", але Бог спасе сваёю воляю і не бысть нічтожэ*".

Ды і ў Густынскім летапісе пад 6772 годам (=1264 нашаму) чытаем пра яе ж: "*Явіся зорка жахлівая, свяцяшчы праз месяцы тры, прамяні да поўдня іспушчаюшча*".

І сапраўды, у 1264 годзе назіралася яскравая камета, адзначаная шматлікімі заходнімі хронікамі, іззяла на працягу 3 месяцаў – ліпеня, жніўня і верасня (г. азн. пачалася ў 1264 і скончылася на пачатку 1265 года, лічыўшагася на Русі з верасня).

Але вось і ў спісе камет ў Лерша, у выпісцы із хронікі Мартына, і гэтая камета апісана ў выказваннях настолькі падобных з тымі, якія маюцца ў Іпацьеўскім летапісе, што з'яўляецца вялікае падазрэнне пра перайманне[23].

Але існуе і другі варыянт, адзначаны годам пазней.

У Густынскім летапісы пад 6774 годам (=1266 нашаму) чытаем:

"*Тоей жа зімы явіся зорка, а хвастата, па трынадзесяцъ нашчэй*".

І ў Цвярскім пад тым жа годам:

"*Тоя оке зімы явіся зорка на захадзе, і бе ад неа прамень доўгі, яка хвост, да паўдзённай стране, прэбысць ношчэй 13, і пакі не відена бысць пасём*".

Дапускаць памылку на адзін або два гады, думаючы, што гаворка ідзе пра камету папярэднічаўшага 1264 года, тут немагчыма, таму што і час з'яўлення, і становішча абедзвюх камет на небе рознае.

Дакладна гэтак жа нельга атаясаміць гэтую камету з яркай каметай 1265 года і з сумнеўнай каметай 1266 года. А таму і запіс гэты патрэбна лічыць занесеным у летапіс ўжо шмат пазней.

У Сімяёнаўскім летапісе пад 6875 годам (=1367 нашаму) чытаем:

"*Тое оке восені і тое оке зімы на паказанне па шматлікі вечары і па шматлікі ношчы явіся зорка капейнай выявы. Се оке праява бывае не проста, не ў прыбытак*".

У Васкрасенскім пад тым жа годам: "*Тое ж восені і тоя оке зімы явіся зорка хвастата*". У летапісе Авраамкі ўжо пад 6876 (=1368 нашаму) пасьля падзей, якія адбываліся зімой, коратка пазначана: "*тады явіся зорка хвастата*". У Наўгародзкім IV таксама пад 6876 годзе (=1368 нашаму) сказана: "*явіся зорка*

[23] Ab oriente cum magno fulgore surgens usque ad medium emisperii (г. азн. hemis-phaerae) versus occicdentum comam pelucidam protrapewat (падымаючыся з вялікім ззяннем ад усхода да захаду да сярэдзіны нябеснага скляпення прасьцірала яна блiскучыя валасы).

*хвастата, а на восень хадзіў раццю да Тферы князь Зьміцер Янавіч*". У Ніканаўскай пад 6876 (=1368): "*таго ж лета явіся зорка хвастата*". Магчыма, запісы пар гэтую ж камету, зробленыя ў летапісах Авраамкі, Наўгародзкай IV і Ніканаўскай з пазначэннем часу года і падрабязнасьцей, пастаўлены пазнейшымі зводчыкамі пад наступным 6876 (1368) годам, што і дало нагоду Карамзіну, а ўслед за ім і Пакроўскаму, дапасаваць іх да каметы 1368 года, але яна назіралася цалкам у іншыя месяцы[24]. Зноў атрымліваецца пазнейшая ўстаўка.

У Наўгародзкім I летапісе і ў летапісе Авраамкі пад 6910 годам (=1402 нашаму) чытаем: "*Явіся знаменне на небе, зорка хвастата, на захадзе прамень маючы светлы; і прэбысць месяц сакавік увесь*".

У Наўгародзкім IV пад тым жа годам: "*У вялікае гавенне месяца сакавіка, явішася нейкае знаменне на небе: у вячэрнюю зару, на захадзе, зорка немала акі капейным выглядам, зверху жа яе акі прамень сіяшэ, іжэ на ўсходзе восхадзяшы і на захадзе летнім яўляшася, южэ відэхам увесь той месяцъ тако васхадяшчу*".

У Сафійскім II летапісе пад 6910 (=1402) годам усё гэта перапісана: "*месяца сакавіка, яўляшэся на захадзе, у вячэрняй зары, зорка немала капейнай выявай, версе оке ея акі прамень сіяше, на ўсходзе всхадзяшчымі, на летнім захадзе яўляшэся па 12 дній*".

У Васкрасенскім летапісе: "*Знаменне. У лета 6910, месяца сакавіка, яўляшэся, на захадзе, у вячэрнюю зару, зорка немала капейнай выявай, версе жа ея акі прамень сіяшэ, на ўсход всхадяшчымі і на летнім захадзе яўляшэся, южэ відзехам па 12 дзён тако васхадяшчу і сіяюшчу*",

У Ніканаўскім пад тым жа 6910 (=1402) годам: "*Знаменне. Тое ж зімы ў вялікае гавенне, месяца сакавіка, явіся знаменне на захадзе, у вячэрняй зары, зорка вяліка зело капейнае выявы, версе прамень вялікі сіяша, обхадяшчы, южэ відэхам за двана-дзесяць дній на ўсходзе восхадяшчу і на захадзе летнім ў вечаровай зары сіяшчу; се ўбо праяві знаменне, панежэ возсташа языцы ваявата адзін на аднаго...*"

У Пскоўскім I летапісе пад 6911 (1403) годам: "*Явіся зорка хвастата на заходнім боку, месяца лютага, а пагібе месяца сакавіка, у Вербную суботу*".

У дадатак да пазначаных тут месцаў пра гэтую камету трэба яшчэ дадаць яе апісанне із іншых летапісаў, якія змяшчаюць яшчэ большыя падрабязнасьці; так, у Пскоўскім II летапісе пад 6911 (1403) годам чытаем: "*явіся зорка хвастата, на заходняй стране, і ўзыходзяшча з іншымі зоркамі ад вяселляў да вербнай суботы; і така пагібе*".

А ў Суздальскім летапісе (ПСРЛ t.XVII) пад 6910 (1402) годам чытаем: "*У вялікае гавенне месяца сакавіка знаменне явіся на небесі: явілася ў вечаровую зару на захадзе вялікая, акі капейнай выявай, зверху ж яе яка прамяні ззялі іжэ вастоцэ ўзыходзяшчы на захадзе летнім, іжэ відохам усё гавенне вялікае ў пятніцу вялікую, і ішла тая зорка ўвесь дзень прад сонцам, есі мы бачылі яе ідушчу*".

Гэтую камету бачылі ўдзень таксама і на Захадзе, эгодна са сведчаннямі шматлікіх хронік, як цытуе і Агаро ў яго "Агульназразумелай Астраноміі", (т. II, с. 237): "камета была такой яскравай, што сонечнае святло, пад канец сакавіка, не перашкаджала бачыць у самы поўдзень яе ядро і нават хвост на адлегласьці дзвюх сажань".

* * *

[24] Свяцкі Д. Указ. творы. с. 144.

Я тут не пішу адмысловую хроніку камет. Яна ўжо была дадзена мной у VI томе "Хрыста", і таму абмяжуюся павядомленым. Гэтага дастаткова для нашай мэты. Мы бачым, што і каметныя запісы самастойна пачаліся ў рускіх летапісах толькі ў так званых "працягвальнікаў Нестара", а у ранейшых матэрыялах, зводку якіх быццам бы зрабілі Нікан і Сільвестр да 1111 года, ніякіх запісаў пра каметы, сонечныя і месяцовыя зацьменні не было, а, такім чынам, не было і ніякіх іншых нацыянальных хранікёрскіх запісаў. Іншымі словамі, тое, што мы да гэтага часу называлі "працягвальнікамі", на самай справе было пачаткам, а тое, што мы называлі Пачатковым Летапісам – аж да Ўладзіміра Манамаха – міф, маючы толькі выгляд летапісання. І складзены гэты міф быў, магчыма, ужо значна пазней таго часу, калі першыя рэгулярныя запісы, пачатыя ўжо пасьля 1111 года, былі выкарыстаны для стварэння Рускай гісторыі і ўзнікла патрэба яе паглыбіць, каб узвялічыць сваю дзяржаву, "із павагі да бацькаўшчыны і народнага гонару", як пісаў наш асноўны гістарыёграф Карамзін.

Адсутнасць якіх бы то ні было паведамленняў пра крыжовыя паходы і, асабліва, пра "вызваленне гроба господняга із рук няверных" 15 чэрвеня 1099 года не менш падцвярджае гэтую нашу астранамічную выснову. Які б монах не ўзрадаваўся б з гэтай нагоды і не прысьвяціў бы гэтаму дню не адну, а шмат старонак як радаснай падзеі для ўсяго хрысьціянскага свету?

І раптам выяўляецца што пра першы крыжовы паход нічога не вядома яго сучасніку Нестару або Сільвестру нават і ў 1110 годзе, да якога ён даводзіць сваё апавяданне.

Але калі ён не ведаў пра тое, што адбывалася і паўсюдна грукатала пры ім, то як жа ён мог ведаць што-небудзь пра прызванне за 250 гадоў да яго цара Рурыка, пра Вешчага Алега (інакш Валега), які загінуў ад свайго каня, пра жонку Ігара Вольгу, пра Валадара свету Чырвонае Сонейка, сына нейкага Сьвятога і Слаўнага цара (г. азн. Святаслава), ахрысціўшага Русь яшчэ за сто гадоў да Нестара? Ці не з'яўляецца гэтае "Чырвонае Сонейка" толькі простым сонечным міфам, із тых, якакія мы бачым без канца ў апавяданнях пра пачатковую гісторыю ўсіх народаў?

Ва ўсякім разе, так званы "Пачатковы летапіс" пераходзіць, дзякуючы адсутнасьці ў ім "нябесных запісаў", цалкам на становішча позняга апокрыфа, першакрыніцамі якога ўжо былі творы і ўяўленні пра мінулае пасьля XIII стагоддзя, калі крыжовыя паходы ўжо былі забытыя публікай. А з гэтага боку нам становіцца прама неабходным даследаваць тое, якім чынам адлюстравалася ў галовах пабожных манахаў "працягвальнікаў хронікі Нестара" (ужо дастаткова правільна апісаўшых нябесныя з'явы) такая грандыёзная падзея, адбыўшаяся на іхных вачах, як заваяванне крыжакамі ў 1204 годзе іхнай духоўнай сталіцы Цар-Горада і ўсталяванне там "багамерзкага" лацінскага набажэнства замест праваслаўнага.

Гэтае пытанне да такой ступені захапляюча цікавае, што я прысвячу яму асобную главу. А тут адзначу ўражваючае супадзенне.

Заваяванне Цар-Горада крыжакамі (1202 год) адбылося ні больш, ні менш як пры Рурыку, на сёмым годзе яго княжання над Руссю ў Кіяві ад 1195 па 1201 год. Праўда, яго зараз завуць Рурыкам II, жыўшым, быццам бы, праз трыста з гакам гадоў пасьля першага свайго міфічнага цёзкі, нібыта заснаваўшага рускую дзяржаву, але сам-та другі Рурык, вядома, і не падумаць не мог, што ён другі, а не першы, ды і падобнага наймення ў хрысьціянскіх святцах няма, а толькі – у "варагаў".

Усё гэта так дзіўна, што даследаванне адлюстравання крыжовых паходаў у рускіх летапісах таго часу робіцца неабходным.

# Частка першая

## Летапісная гісторыя Русі

# Глава I

## Гісторыя рускай гісторыі. Першыя думкі пра пачатак рускай дзяржавы.

У кнізе Кастуся Багранароднага "Пра фемы" і "Пра народы" у главе пра падарожжы росаў (Ρως) із Расіі (Ρωσιας) у Канстантынопаль ў манаксілах (μονοξυλων – лодка прыгатаваня із аднаго суцэльнага бервяна) даецца назва дняпроўскіх парогаў. Вось гэтае месца.

"*Перш за ўсё яны прыходзяць да першага парога, які мае назву Эсупі (Εσουπη), што азначае па-роскі і па-славянскі (Σκλαβηνιστι)"Не спі" (μη κοιμασαι)... калі яны пройдуць гэты першы парог, то зноў, забраўшы з сушы іншых, адплываюць і прыходзяць да другога парога, маючага назву па-роску Улворсі (Ουλβορσι), а па-славянску Вострабуніпрах (Οστροβουνιπραχ), што азначае "Выспа порога" (το νησιον του φραγμου)... Падобным жа чынам яны праходзяць і трэцці парог, які мае назву Геландры (Γελανδρι), што па-славянску азначае "шум порога" (ηχος φραγμου), а потым гэтак жа – чацьвёрты парог, вялізарны, маючы назву па-роску Аіфор (Αειφορ), па-славянску ж Неасіт (Νδασητ), так як у каменнях порога гняздуюцца пеліканы... Падступіўшы ж да пятага парога, маючага назву па-роскі Варуфорас (Βαρουφορος), а па-славянскі Вулінпрах (Βουλνηπραχ)... яны даходзяць да шостага порога, маючага назву па-роскі Леандзі (Λεαντι), а па-славянску Веручы (Βερουτξη), што азначае "Кіпенне вады" (βρασμα νερου)... Ад яго яны адплываюць да сёмага парога, маючага назву па-роскі Струкун (Στρουκουν), а па-славянскі Напрэзі (Ναπρεζη), што перакладаецца як "Малы парог" (μικρος φραγμος)"*.

Ён дае апісанне сямі найбуйнейшых дняпроўскіх парогаў, назвы якіх, як лічыцца, ён дае ў грэцкай транскрыпцыі і з тлумачэннем назвы на грэцкай мове. У пяці выпадках ён прапануе па дзве назвы, якія ён называе "па-роску" і "па-славянску".

Парогі там завуць па-руску не Целяндры і Варуфорас, а Воўчае горла, Ненасыцец, Пярун, Вольніцкі, Званецкі, Кайдацкі, Лаханскі, Вольны і Будзілоўскі.

Але няхай іх ранейшыя псеўдарускія назвы зараз і забыліся, гэта для нас не мае значэння. Нам у дадзеным выпадку тут цікава толькі іх тлумачэнне Байерам і Пагодзіным. Пакінем пакуль у баку Целяндры і разгледзім Варуфорас. Багранародны сведчыць, што "Варуфорас" – гэта руская назва порога, а па-славянскі ён мае назву "Вульніпраг". Апошняе, славянское слова, тлумачыцца лёгка як Вольны парог (так і ёсць), ну, а што ж азначае нібыта яго рускай назвай з'яўляецца Варуфорас? І Лерберг, і Байер, і Пагодзін адзначылі, вядома, што такага слова па-руску няма. А якую ж выснову яны зрабілі із гэтага? Кіруючыся сваім ужо прадузятым меркаваннем пра заснаванне Рускага Царства на Дняпры прышлымі

людзьмі із далёкай заморскай Скандынавіі, яны палічылі, што ў нарвежскай мове "war" азначае – ціхі, а "fors" – парог, а ў суме "Ціхі парог". На падставе гэтага нібыта лінгвістычнага сляда, хаця крок са Скандынавіі на Дняпро і быў вельмі гіганцкі, яны прыйшлі да высновы, што словаВаруфорас скандынаўскае, і, як следства, грэк Багранародны назваў русамі не каго іншага, як кіеўскіх скандынаўцаў. Із гэтага відавочна, – ці не праўда? – што руская дзяржава (нават і на Ўкраіне) скандынаўскага паходжання.

Але, дазвольце! – запярэчыце вы, – які ж рачны парог мог быць названы ціхім, калі ён згодна са сваёй прыродай вечна шуміць? Ды і навошта было выпраўляцца так далёка ад Днепра за тлумачэннем яго наймення, калі яно з'яўляецца агульнародным шмат бліжэй, у Візантыі? Бо гэта ж чыста грэцкае слова, з выдатна дапасуючым для порога сэнсам: выносячым цяжкасьці[25].

Якім жа чынам гісторыкі-класікі Лерберг, Байер, Пагодзін і іншыя не ведалі гэтага? Чаму не ведаў грэцкай мовы і сам грэцкі цар-пісьменнік Кастусь Багранародны? Бо калі яго кніга не апакрыфічны пераклад з латіны, прычым латінскі аўтар сапраўды мог палічыць грэцкае слова Варуфорас за рускае, то якім чынам растлумачыць такі казус? Не дзіўна пагэтаму, што знакаміты крытык сярэдзіны XIX стагоддзя Дабралюбаў высмеяў падобнае словаутварэнне нават у вершах, выказваючыся ад імя Погодзіна у сваім "Свістку":

Геляндры і Варуфорас,
Вось два мае слупы,
На іх маю тэорыю
Паставіў Лёс!
Геляндры і Варуфорас,
Вось, так бы мовіць, быкі,
Аб якія адаб’це вы
Дарэмна кулакі!

Ды і ўсю нармандскую тэорыю ён справедліва параўнаў з не маючым сэнсу патрыятычным парывам, усклікаючы таксама ад імя Пагодіна:

Нейкай звышмернай
Я магутнасьцю ахоплены,
Мне шэпча голас таемны,
Што Рурык быў нарман!

І, сапраўды, акрамя "таемнага голосу" нічым немагчыма даказаць скандынаўска-нармандскую тэорыю. Разчараваўшыся ў гэтым накірунку, некаторыя "гаманлівыя" філолагі, таксама забыўшыся, што сугучным словам у розных мовах можна надаваць аднолькавае значэння толькі ў тым выпадку, калі яны не толькі сугучныя, але і асэнсаваныя, спрабавалі знайсьці і іншыя тлумачэнні "парфірародным порогам".

Так Болцін ў сваіх "Крытычных заўвагах да першага тому Гісторыі Расійскай князя Шчарбатава" спрабаваў з надзеяй на поспех патлумачыць паходжанне іхных найменняў з больш блізкай вугорскай мовы. Для парога Ульворсі ён знайшоў у вугорскай мове "ulo" – седзячы і "warsa" – верша. Для Геляндры для яго выявілася вугорскае "helo" – урочышча і "graga’s" – каштоўнае, прыемнае, а парог Леанці выявіўся сугучным з венгерскім "leany" – дзяўчына. Бяспрэчна, няма ніякіх сумневаў, што паходжанне паўднёварускай дзяржавы ад вугорскага завоевання

[25] Варуфорас па-візантыйску і Варуфорас па-лаціне паходзіць ад ад слоў (βαρος – цяжар, адкуль слова барометр і φορος – нясучы).

геаграфічна больш адпавядае рэчаіснасьці, чым ад "прызвання скандынаўцаў". Эверс не без падстаўна сцвярджаў, што калі б руская дзяржава пачалася ад нарманаў, то ў рускай мове і да гэтага часу засталіся б не дзесяткі, а сотні не выклікаючых сумневаў слоў нарманскага паходжання. І акрамя таго, чаму ў скандынаўскіх сагах не згадваецца пра такіх нацыянальных героях, якімі былі б у іх Рурык і яго браты?

І так, і Скандынавія, і Ісландыя, і як быццам нават і Вугоршчына адпадаюць, але ці адпадаюць з імі і нарманы наогул? Бо найменне нарманы толькі тэндэнцыйна навязана скандынаўцам, так як і да гэтага часу Нармандыяй называецца не Скандынавія, а паўночна-захадная частка Францыі, ды і імя іхнага трэццяга правадыра – Трувор – вельмі блізка нагадвае французскае слова "trouveur", г. азн. трубадур[26].

Праўда, што легенда пра пачатак дзяржавы выводзіць яе нават і не ад нарманаў, а ад варагаў, але слова "варагі" – хутчэй за ўсё пераіначанае найменне франкаў, перайшоўшае праз грэцкую мову ў варангі і па руску ў варагі[27], і гэтая назва "Варангі" (франкі) прыводзіць нас у Франкскую імперыю Карла Вялікага, якая ў 843 годзе распалася на Францыю, Германію і Італію. А да гэтага ж часу, да 862 годзе, адносіцца і ўзнікненне рускага княства з Рурыкам, Сіневусам і Труворам. Гэтыя-та франкі (пры гучным ўсходнім вымаўленні "варангі" і затым "варагі") і маглі быць хутчэй за ўсё заснавальнікамі Паўднёва-Рускай дзяржавы са сталіцай у Кіяві. А такая падзея перш за ўсё магла адбыцца пры дапамозе русінаў у Вугоршчыне.

"Варагі, – выказваецца Эверс[28], – пакрыты густой цемрай, і надзея асьвятліць яе знікала тым больш, чым больш рознымі былі перспектывы, падказваемыя ілжывым святлом этымалогіі. Гэтыя "прызначальнікі падаткаў" лічыліся наперамену галштынцамі, шведамі, прусакамі, французамі, і ў асаблівасьці за ерданавых еваргаў (ад грэцкага еваграс – счастлівы паляўнічы (гл. ў "Гістарычных пошуках Каралеўскага Навуковага т-ва ў Копенгагене", 280))". За галштынцаў іх лічыў Герберштэйн ("Rerum Moscovitarum auctores", 2, 3), за шведаў – Ірэ ("Glossarium sucogothic", II, 1069), за прусакаў – Кацэбу ("Древнейшая Гісторыя Прусіі", 305), за французаў – Ціт Дыён Касій Кокеан (гл. яго пераклад на нямецкую мову Панцеля 1, 351). "Пазней іх лічылі за скандынаваў, нарманаў, марскіх рабаўнікоў ці наогул купцоў, выводзячы апошняе ад Waarenjager (г. азн. паляўнічы за таварамі, патлумачым мы ад сябе, каб падкрэсьліць кур'ёз такога словаўтварэння)".[29]

І Эверс справядліва заканчвае свой пералік словамі: "кожнае із гэтых меркаванняў памяншае дакладнасць астатніх, не павялічваючы ўласную".

Тут справа ўскладняецца яшчэ і познім іх з'яўленнем. "Варагі, – выказваецца Шлёцэр, – згадваюцца па-грэцку толькі пасьля 1100 года нашай эры г. азн. з часоў крыжовых паходаў)[30]. Яны завуцца па-славянску варагі, што набліжае іх да фрызаў,

---

[26] Я не магу не паведаміць тут пра кур'ёзнае тлумачэнне адным навукоўцам-філолагам імёнаў: Рурык, Сіневус і Трувор. Ён бачыць тут цэлае скандынаўскае выказванне: **Rurik Sine hus och trover** ці ў гэтым жа сэнсе, але яшчэ лепш па-нямецку: **Rur-reich sein haus und Treuwer**. Рускі цар, яго дом і адданае войска. Але ці не занадта гэта дасьціпна для таго, каб быць праўдападобным?

[27] Эверс Г. Папярэднія крытычныя даследванні для рускай гісторыі. Кн. 1. с. 38, заўв. 32.

[28] Эверс Г. . Папярэднія крытычныя даследванні для рускай гісторыі. 1825 с. 18.

[29] Апошняе ў Ремера (Булеўз: "Література рускай гісторыі" 1, 316). А пра марскіх рабаўнікоў згодна з фінскім вывядзеннем Байера, а таксама із мясцовай назвы Ірландскага мора.

[30] Цытую па Эверсу 1, 42. І ён жа сцвярджае: "франкі" мелі назву фрагі, адкуль і варагі (1, 112).

якія з'явіліся на крайнім паўночным усходзе Германіі ў падпарадкаванні ў франкаў". А мы да гэтага дадалі, што слова "фрызы" сугучна з "парызамі", г. азн. парыжанамі, як называліся не толькі жыхары Парыжа, але і наогул французы ў Бібліі[31], і таму яны ледзь ці былі на ўсходзе Германіі асобным народ, а не карпарацыяй місіянераў або духоўных ордэнаў. Мы між іншым адзначым, што аўстрыйскі ордэн крыжакоў узнік пад найменнем Віфляемскага духоўна-рыцарскага ордэна ў Палестыне яшчэ ў лета 1217 года із ураджэнцаў Багеміі, Маравіі, Сілезіі і Польшчы. Ён быў зацверджаны папай Рыгорам каля 1238 года. Яго гросмайстар, командор і шэраговыя сябры мелі назву "Крыжаносцы чырвонай зоркі". Іхны гросмайстар зараз знаходзіцца ў Празе.

Дзеля завяршэння ўсяго, слова варагі сугучна і са словам валахі, а валахаў грэкі блыталі з баўгарамі (па-візантыйску – валгары), і гэтаму нельга здзіўляцца, так як абодва найменні паходзяць ад таго ж самага слова Волга. Баўгары азначае валгары, а валахі ўяўляюць сапсаванае валогі, г. азн. волжцы. Мікіта Акамінат, даючы нарыс гісторыі баўгараў да 1206 года, заўсёды называе іх влахамі.

Дакладна так жа і пра готаў.

Бо і да гэтага часу мы маем гатычны стыль у архітэктуры і ведаем, што гэта стыль германскі. Із гэтага прасьцей за ўсё зрабіць выснову, што готамі былі германцы часоў заходне-рымскай імперыі Карла Вялікага.

Заходнія готы, сцвярджае Ярдан[32], г. азн. Вэст-Готы, былі прыняты згодна з іхным уласным жаданнем імператарам Валентынам у 377 годзе ў склад Рымскай імперыі і паселены ў Фракіі.

Выказванне "паселены" мы ні ў якім разе не павінны разумець ў літаральным сэнсе, быццам бы нейкі народ цалкам прывялі адкульсьці кудысь. Гэта звычайны спосаб старажытных гісторыкаў патлумачыць прысутнасць у дадзенай мясцовасьці нейкага народа, а ў рэчаіснасьці патрэбна разумець, што тут іх і знайшлі першыя гістарычныя згадванні.

Усё гэта мае дачыненне і да толькі што згаданых валахаў-варагаў-баўгараў. Несумненна, і яны атрымалі сваё найменне не на нашай сучаснай Волзе, а на берегах Дуная. Але калі так, то Дунай, г. азн. Дадзеная рака, дзе вандруючыя народы плацілі даніну[33] візантыйцам ў сваім ніжнім цячэнні першапачаткова і меў назву Волга або, як раней пісалі, Вольга (верагодна, ад біблейскага слова Фалег, г. азн. памежная рака, адкуль і рускае: воля) назва Дон, таксама ад слова дона – дары, а потым і сучасная нам – Волга.

Із гэтага мы бачым: да якой ступені ненадейныя нашы ўяўленні пра ўзнікненне нават пазнейшых дзяржаў, накшталт рускай, калі мы, пакінуўшы падручнікі, звернемся да першакрыніц. А што ж казаць пасьля гэтага пра "старажытныя царствы"?

Як узор гістарычных кур'ёзаў я прывяду яшчэ народзец Весь, які ўтварыўся дзякуючы непаразуменню ад выказвання "увесь народ". Так, Стрытэр пры пералічэнні Алегава войска замест "усе крывічы" прачытаў "весь і крывічы", хаця Эверс (с. 57) і не згаджаецца дазволіць яму лічыць гэтую “весь” за "асобны народ".

[31] Па-жыдоўску ПАРЫЗІ, па-грэцку і па-руску пераіначана спачатку ў Фэразеі, а потым у фарысеі. Пра фрызаў і партаў гл. Быццё 3,7; Ісус 5,1; Царств 2.20; Ездра 2.1. Пра фарысеяў як ілжэмудрствуючых навукоўцаў, крытыкаваўшых вучэнне Езуса, ва ўсіх грэцкіх евангеллях гаворыцца больш за 35 разоў.

[32] **Jordan: De rebus Goticis** (с. 16).

[33] Потым Раздельнай ракой, г. азн. ад словы Фалгой-Волгай.

"Падобнымі кур’ёзамі перапоўнены нашы першакрыніцы пра ўзнікненне ўсіх народаў і дзяржаваў. Так, не жартам, нам кажуць, што наўгародзкі князь Уладзімір Яраславіч (1052) быў адружаны з дачкой графа Гаральда, стаўшага ў 1066 годзе ангельскім каралём (Эверс, 1, с. 47 ). Але хіба нейкі ангельскі граф, нават не ўмеўшы размаўляць па-руску, аддаў бы сваю дачку за тысячы кіламетраў дзікаму князю, нават не разумеўшаму па-нямецку?"

Толькі з сярэдзіны XV стагоддзя пачалі ў Расіі весьціся афіцыйныя летапісы "прыказнымі дзякамі" – паведамляюць нам самі ж нашы гісторыкі. Гэта было амаль аднaчасова з заваяваннем Цар-Горада туркамі (1453 год), а таму і надзейныя матэрiялы для дзяржаўнай гісторыі Расіі мы маем толькі праз 200 гадоў пасьля заканчэння крыжовых паходаў. Да таго ж часу адносяць рукапіс “Нестаравага Летапісу” (пераклад якога выкананы Аўгустам Шлёцэрам і то на нямецкую мову, ўпершыню надрукаваны ў 1802-1809 гг.: Nestor Russiche Annalen. Гётынген, 1802-1809). Пазней ужо ў 1809-1819 гадах гэтае выданне пераклаў Д. Я. Языкоў і на рускую мову, прысьвяціўшы свой пераклад імператору Александру I. I да гэтага ж часу, да самага канца XVIII стагоддзя або да пачатку XIX, адносіцца адкрыццё "Лаўрэнцьеўскага лепісу" графам Мусіным-Пушкіным, які падараваў яго імператару Аляксандру I, а той передаў летапіс у Публічную бібліятэку. А канчаткова надрукаваны ён быў толькі ў 1846 годзе. I тым жа Мусіным-Пушкіным у 1795 годзе быў знойдзены і рукапіс "Слова пра паход Ігараў", прапаўшы падчас акупацыі Масквы Напалеонам у 1812 годзе.

Первая звязаная "Гісторыя Расійскай дзяржавы" з часоў яе ўяўнага ўзнікнення была складзена толькі Карамзіным, які ў 1816-1825 гг. надрукаваў пры субсідаванні ўрада першыя яе адзінаццаць тамоў (а апошні дванаццаты том быў надрукаваны толькі ў 1826 годзе пасьля яго сьмерці).

Праўда, што і раней Карамзіна спрабаваў выкласьці гісторыю рускай дзяржавы Тацішчаў пад назвай "Гісторыя Расійская з самых старажытных часоў да цара Міхала", якая была надрукавана Мілерам толькі пасьля смерці аўтара ў 1769-1774 гг., і, акрамя таго, князь Шчарбатаў напісаў "Гісторыю расійскую з самых старажытных часоў" у сямі тамах, якія былі надрукаваны ў прамежку ад 1770 па 1791 год, дзе ён даводзіць апавяданне да 1610 года. Але гэта былі толькі як бы пралогі да Карамзіна.

А хто ж паслужыў фундаментам да ўсёй гэтай гістарычнай пабудовы?

Нам кажуць, што – Нестар, але не той Нестар-герой, які браў удзел ў барацьбе з цэнтаўрамі пад час паходу арганаўтаў і ў Траянскай вайне, а быццам бы Нестар-манах Кіева-Пячэрскага кляштара, памёршы там каля 1114 года пасьля "нараджэння Хрыстаўа". Але і гэтае імя даўно аспрэчваецца і некаторыя даследчыкі пачалі лічыць яе аўтарам "Сільвестра, прабашч Выдубіцкага кляштара". А на прыканцы XIX стагоддзя ўсе гісторыкі ўжо пагадзіліся, што ні той, ні другі не маглі быць аўтарамі так званага, але нідзе не згадваемага ў першакрыніцах і нікім не бачанага да гэтага часу, "Пачатковага Летапісу Дзяржавы Расійскай", якім, бяспрэчна, павінен быў карыстацца Нестар, хаця і піша ўсюды ад свайго імя, так як у іншым выпадку ён чыстая фантазія, тым больш, што ўяўляе із сябе нешта накшталт хрэстаматыі, у якую ўключаны і дамовы з грэкамі, і маральныя павучанні і апавяданне пра "пачатак Русі", заснаванай быццам бы ў Вялікім Ноўгарадзе Рурыкам-варагам із племені Русь у 862 годзе, на пачатку царавання Міхала П'яніцы ў Візантіі, кажучы: "*У лета 6860, 15 дзень індыкта начашу Міхалу царавацi начася празывацi Руская зямля*".

Далейшым дінастычныя падзеі Расійскай дзяржавы аўтар вядзе год за годам аж да 1110 года, г. азн. да часоў Уладзіміра Манамаха (1093-1125). Гэты рукапіс ніяк немагчыма лічыць за падробку новага часу, таму што да XIX стагоддзя было знойдзена некалькі яе варыянтаў, самымі старажытнымі із якіх лічацца "Іпацьеўскі" спіс, напісаны, як мяркуюць, на пачатку XV стагоддзя, і "Лаўрэнцьеўскі", пазначаны 1377 годам, якім я тут карыстаюся.

Але як бы шмат ні было знойдзена такіх копій, аднак, дзякуючы таму, што ў іх распавядаецца ўжо пра падзеі XII стагоддзя, узнікае пытанне: якім чынам аўтар, жывучы ў кіеўскім кляштары ў XII стагоддзі, мог ведаць пра тое, што адбылося ў 862 годзе ў Вялікім Ноўгарадзе, пры велізарнай цяжкасьці тагачасных шляхоў зносін і поўнай непісьменнасьці ўсёй краіны? Адказ тут можа быць толькі адзін: не мог ніяк. А таму і ўвесь "Нестараў летапіс" з'яўляецца простым літаратурным складальніцтвам.

Паколькі ж Нестар з'яўляецца аўтарам неабгрунтаванага тэзіса пра скандынаўскую каланізацыю Русі, варта больш уважліва разгледзець нагоды яго ўзнікнення і замацавання ў гісторыі Расіі. Вось з чаго пачынаецца скандынаўская версія.

"*Пайшлі пасланнікі за мора да варагаў, да Русі, як клічуць тых варагаў руссю, як іншыя клічуцца свеямі (шведамі), іншыя – урманамі (германцамі), іншыя – Англамі, іншыя готамі. Так і гэтыя сказалі Русі, Чудзь, славяне, крывічы і ўсе: "зямля наша вяліка і абільна, а парадку ў ёй няма. Прыйдзіце княжыць і валодаць намі*"[34].

Заснавальнік псеўда-крытычнай (а ніяк не навуковай) гісторыі Рускай дзяржавы Шлёцэр нікольні не здзіўляецца той супярэчнасьці, што ў некаторых месцах гаворыцца, быццам бы за тры гады перад тым тыя ж варагі былі, наадварот, прагнаны. Вось літаральныя словы аўтара: "У 859 годзе варагі былі прагнаны, у 862 пазваны зноў (Нестар, 11, 100, у вытрымцы із сп. Архіва)".

– Што ж тут незвычайнага? – пытаецца Шлёцэр сам у сябе, і адказвае сабе:

– Дакладна так жа паставіліся ў 499 годзе брыты да Генста і Горса (Шлёцэраў "Нестар", II, 187), і так жа паставіўся ў 91 годзе французскі ўрад да Горса[35].

Але вось і працяг Нестара:

"І абраліся із немцаў[36] тры браты з роднымі сваімі і ўзялі сабе ўсю Русь і прыйшлі перш да славян і заснавалі горад Ладагу. І сеў у Ладазе старэйшы Рурык, другі – Сіневус на Белым Возеры, а трэцці – Трувор у Ізборску. І ад тых варагаў празвалася Русская Зямля Ноўгарад"[37]..

---

[34] Вось сапраўдны тэкст згодна з Лаўрэнцьеўскім рукапісам: "Ідоша за мора, да Варягаў, Да Русі, сіцэ бо тыі звахуся Варагі Русь, яка яе друзіі клічуцца Свіе, друзіі жа Ўрмане, Англяне, друзіі Гоцэ, така і сіі. Рэша Русі чудзь і Славені, і Крывічы і ўсе: зямля наша вяліка і абільна нараду ў ёй няма Ды пайдзіце княжыці іваладзеці намі".

[35] Эверс Г. Папярэднія крытычныя даследванні для рускай гісторыі. с. 62. – відаць, прысутнасць Горса ў абодвух выпадках не друкарская памылка.

[36] "Ад немцаў" значыцца ў большасьці спісаў і толькі ў адным ад варагаў і немцаў, у некаторых толькі ад варагаў. Але яны чамусьці цалкам выключаны ў Лаўрэнцьеўскім рукапісе, дзе гэтае месца чытаецца так: "І ізбраша ся 3 браты з роды сваімі і паяша па сабе ўсю Русь, і прыдоша: старэйшы Рурык седзе Ноўгарадзе (а не ў Ладазе), а другі Сіневус на Белы Возеры, і трэцці Ізборіцэ Трувор. І ад тых Варагаў празвася Руская зямля Новугародьцы "(пад 862 годам).

[37] Шлёцэр далучыў сюды яшчэ і гішпанскае імя Радэрык.

(Найболей дасьціпным із усіх гэтых словаўтварэнняў я лічу сугучнасць імёнаў Рурык, Сіневуса і Трувора з германскім выказваннем перакладаемым, як Рурскае царства, яго дынастыя і вернае ваярства).

Калі мы будзем разглядаць кожнае імя самастойна, то давядзецца прызнаць, што на заходне-еўрапейскіх мовах яны не маюць сэнсу, гэта азначае прыйшлі із чужой краіны. Лічыцца, што гэта занесена із Візантіі.

Назва "немцы" тут мала бянтэжыць гісторыкаў, якія дапусьцілі, што немцамі у рускіх летапісцах называліся ўсе не размаўляючыя на іхнай мове. А для вызначэння нацыянальнасьці трох прыйшоўшых княжыць і валодаць Руссю, зрабілі так: Рурык, – вырашылі, – скандынаўскае імя. Яно паходзіць зусім не ад імя Рурыкія Пампеяніна, візантыйскага вайсковага правадыра, змагаўшагася быццам бы ў 312 годзе з Вялікім Кастусём за Ліцынія, а ад скандынаўскага імя Грорэкур, Рорэк, Рорыкрь, Рурык, я дапускаю паходжанне імя Рурык ад візантыйскага слова "руорыка" – цар выратавальнік. Імя Трувор больш за ўсё сугучна з французскім трувер (trouveur), г. азн. трубадур, як я ўжо згадваў, і гэта, дрэчы, дае і асэнсаванае значэнне. А імя Сіневус ніякім чынам не дапасуе паходжання ні ад якой із моваў акрамя грэцкай, дзе Сіневус азначае гераічны. І мне здаецца, што гэтае словаўтварэнне найбольш верагоднае, так як не скандынаўская, а візантыйская культура мела ўплыў на рускую. Згадаем толькі, што большасць і сучасных нашых імёнаў – грэцкага паходжання. А словаутварэнне Сіневус цалкам натуральнае, выявіўшаяся, напрыклад, у словах: сінтаксіс (параўнанне), сінтэзіс (параўнанне, складанне), сінтэтыкос (параўноўваючы) і так без канца. Я ўжо не раз даводзіў, што ўсе найменні людзей першапачаткова былі толькі іхнымі мянушкамі, якія мелі сэнс на сваёй мове, і што сугучныя словы на розных мовах могуць лічыцца маючымі агульнае паходжанне толькі тады, калі яны не толькі сугучныя, але і асэнсаваныя. А пры ўсіх словаўтварэннях са скандынаўскіх моваў імёны Рурык, Сіневус і Трувор (па-руску трубар) не маюць сэнсу. Толькі пры маім атаясамленні Трувора з французскім Труверам, Рюрыка з візантыйскім Руарыкам, Сіневуса з грэцкім Сін-Еўсо атрымліваецца прыдатны сэнс[38].

Меркаванне знакамітых мовазнаўцаў Міхаэліса і Бютнера, што біблейскі Навуходаносар быў славянінам, так як гэтае імя сугучна з рускім "Небу-заўгодны-цар" (Эверс, 1, 7), значна больш пераканаўча, чым усе прыдумкі раманістаў.

Ітак, філалогія не даказвае скандынаўскае паходжанне Наўгародзкай Русі. А калі возьмем паўднёвую Кіеўскую Русь, то цікава, што найбольш культурны народ сярэдніх стагоддзяў рамеі-візантыйцы выводзілі яе ад франкаў. Так, працягвальнік Феафанавай хронікі, які жыў – кажуць нам – каля 963 года, піша: "Іх (русаў) клічуць вандраўнікамі і выводзяць ад рода франкаў"[39].

І гэта ж самае выказванне перапісвае і Сямён Метафраст, адносімы да 1140 года: "Рускія, – піша ён, – якіх клічуць вандраўнікамі, паходзяць ад рода франкаў"[40].

Выклікаюць цікавасць дачыненні першапачатковай Русі з хазарамі (chozari, chazari, les khazars). "Яны, – кажуць нам, – цалкам зніклі з гістарычных падмосткаў у X стагоддзі, і іхныя парэшткі некаторыя бачаць у крымскіх караімах"[41].

---

[38] Я бяру гэта ў Эверса на веру, але дадам ад сябе і Эрыка-Дацкага.

[39] Hos (russos) dromitas vocant atque a Francisgenus.

[40] Russos quos drjmitas vocant ex Francis genus ducentus (Historiae Byzantinae Scriptores post Theophanum, стар. 489). Відавочна, перепісаў у папярэдніка (Феофана).

Але знікненне цэлага народа, быццам бы "прасьціраўшагася да Індыі", можа быць толькі ў дзіцячым уяўленні. Вось чаму, нягледзячы на ўжо пазначаную мной небяспеку кіравацца выпадковымі лінгвістычнымі мркаваннямі, я не магу не адазначыь, што вугорскае коннае войска аж да нашага часу мела назву гусары, верагодна, ад грэцкага – кесары (кайзеры), і што пераймаючы ад вугорскіх гусараў і ў самой Расіі вядомая частка коннага войска атрымала найменне гусары, а пазней з'явіліся і ўланы (ад жыдоўскага вул – моцны, перадавы, адкуль, магчыма і аланы). Такім чынам і даніну, якую плацілі паўднёвыя русы хазарам, была хутчэй за ўсё данінай вугорскім гусарам, а бо проста "кесару". А Хазарскім морам у такім разе з'яўляецца, магчыма, не Каспійскае, куды цячэ наша Волга, а Чорнае, у якое цякла першапачатковая Волга-Дунай, да якога лёгка магла распасьцірацца ў X стагоддзі і вугорская ўлада.

Гаворачы пра самыя старажытныя сляды наймення Расія, Густаў Эверс, між іншым, адзначае[42], што словы Бібліі пра "Россах" (Іезекііл, 38.2) у старажытнасьці лічылі маючымі дачыненне да рускіх.

"Шматлікія славутыя пісьменнікі, – кажа ён, – ад Іёна-тана-бен-Узеля да Марціна Лютара, хаця і лічылі слова Рос імем асабістым, аднак думалі, што (Іезекііл) тут разумее рускі народ, існаваўшы такім чынам амаль за 600 гадоў да Хрыста. І гэта тым больш верагодна, што гэтак жа лічылі амаль праз 300 гадоў александрыйскія перакладчыкі яго прароцтваў і пісалі гэта імя так, як у візантыйцаў сустракаецца найменне рускіх: Rc (Рос). Што ж заахвоціла іх да такога, як не паведамленні пра такі народ?"

Але калі ўжо тады існавалі росы, то дзе ж яны заставаліся да сярэдніх стагоддзяў? Ці нельга іх пазнаць у раксаланах? Магчыма!

І вось, грунтуючыся на памылковым меркаванні, што кнігі Страбона, Пталямея і г. д. вельмі старажытныя, Эверс выказваецца:

"Раксаланы[43] пачынаючы з першага стагоддзя па Хрысьце ўяўляюцца нам як асноўны народ на поўначы непасрэдна каля Чорнага мора (нічога сабе ПОЎНАЧ!) паміж яго Азоўскім разлівам і Дняпром". І ён спасылаецца на Страбона[44], Плінія[45], Тацыта[46], Пталямея[47], Дыёна-Касія[48], Аміяна-Марцэліна[49] і дадае, што таксама і Спартыян, і Трэбелій Паліён, і Флавій Вопіск, і Юлій Капіталін, выказваюцца пра раксаланаў як пра ўсім вядомы народ, "не даючы іхнаму найменню ніякага тлумачэння", што было б непазбежным, калі б у іх час пра рускіх ведалі мала".

Але куды ж дзеліся пазней гэтыя раксаланы? Вось як на гэта адказвае Эверс:

"Калі готы (г. азн. немцы) патрохі пачалі рухацца ад берагоў Віслы да Карпацкіх гор і, нарэшце, падпарадкавалі краіну на поўнач ад Чорнага мора, ад Цейсы да Дона, тады раксаланы, пазбаўленыя остготамі незалежнасьці, вымушаны (??) былі знікнуць (!!!) із Візантіі (I, 15)".

---

[41] Тунман ў сваёй працы: "Даследванні па гісторыі ўсходніх народаў" (I, 160) лічыць назву – хазары – перайначаннем слова карсары. Але ці не больш праўдападобна параўноўваць яго са словам кесары, г. азн. па-грэцку царскія, а па-жыдоўску – ўстойлівыя, дужыя.

[42] Эверс Г. Папярэднія крытычныя даследванні для рускай гісторыі. / Пер. з ім. 1825 г. Москва, пп., С. 194

[43] Мне здаецца тут адчуваецца нямецкі ўплыў слова **Russland**, г. азн. Русланд, ад гэтага ж і слова Руслан.

[44] Страбон, Кн. 2, гл. 5; Кн. 7, гл. 2, с. 4, 17.

[45] Кніга IV., гл. 25

[46] Гісторыя, Кн. I, гл. 79.

[47] Кн. III, гл. 8.

[48] Кн. 21.

[49] Кн. 22, гл. 8.

Але чаму ж знікнуць? Адказу няма.

Грунтуючыся на скалігеравай храналогіі Эверс адносіць гэты цуд да пачатку III стагоддзя "ад Хрыста", а з нашага боку гледжання, прыняўшы да ўвагі, што ў Іезекііла ўжо показваецца іхнай сталіцай Масква (заснааная ў 1147 годзе[50]), усе гэтыя згадванні маюць дачыненне да часу не раней узвышэння Маскоўскай дзяржавы.

І ў гэтым у наш час не можа быць нават і сумневаў. Арабскі пісьменнік X стагоддзя Ібн-Фадлан[51] дае нават падрабязнае апісанне русаў каля ракі "Волгі" грунтуючыся на той жа самай транскрыпцыі, як і ў Бібліі. Пра гэты ж народ згадвае і Гамер[52], а пра Маскву мы чытаем не толькі ў Іезекііла[53], але і ў кнізе Быцця (10), і ў Параліпаменоне (1.11.1.5), і ў Герадота (3,94; 7,48).

Ва ўсіх жыдоўскіх сярэднестагоддзевых навукоўцаў біблейскае найменне Рош-Мосаха азначае Русь-Масковію, ды і самі масквічы аж да Кацярыны II пісалі ў геаграфічных кнігах, што Масква заснавана біблейскім патрырхам Мосахам, унукам Ноя.

Але гэта, вядома, даказвае не старажытнасць Русі-Масковіі, быццам бы пачаўшай сваю гісторыю неўзабаве пасьля "сусветнай потопа", а толькі навізну тых кніг, у якіх яна згадваецца.

Лічачы готаў немцамі-франкамі, а раксаланаў русамі, мы не можам не прыйсьці да высновы, што вышэйзгаданае заваяванне готамі Русі павінна мець дачыненне не да пачатку III стагоддзя нашай эры, а хутчэй да XIII стагоддя, г. азн. да часу крыжовых паходаў.

Раксаланы ў Плінія і Аміяна Марцэліна лічацца суседзямі аланаў, якіх Пракоп лічыць таксама за гоцкі, г. азн. германскі народ, а Аміян Марцэлін называе іх горнымі жыхарамі[54]. Ды і самі раксаланы лічацца Аміянам готамі. Тацыт жа называет іх сарматамі, а Страбон і Пліній – "жыхарамі кібітак"[55]. Такім чынам, усё прыводзіць нас да высновы, што дзяржаўнае ўладкаванне на абшарах нашай Усходняй Яўропы пачалося толькі каля часу крыжовых паходаў.

Зараз поразважаем і пра старажытнасць галоўных нашых першакрыніц па пытанню старажытнасці Русі.

"Не існуе, – сведчыць Эверс, – ніводнага спіса Нестаравага летапісу, наколькі мне вядома, без працягу да 1203 года". (Густаў Эверс, 11, 249).

Але ж у гэты самы час крыжакі захапілі Канстантынопаль і ўтварылі на месцы Візантыйскай імперыі федерацыю крыжацкіх дзяржаў, а ў Кіеўскай Русі зацараваў як раз Рурык (1195-1221), які праўда лічыцца другім, хаця яго сучаснікі ледзь ці ведалі пра гэта!

"Ніканавы летапіс" складзены, – працягвае Эверс, – Толькі ў XVI стагоддзі[56]. Сваю назву ён атрымаў ад свайго першага ўладальніка патрыярха Нікана. Ён працягаецца да 1630 года і вельмі падобны ў частцы старажытнай гісторыі з Патрыяршым Спісам, які заканчвацца 1549 годам". (Эверс, II, 245, заўв. 5).

[50] Пад напісаннем МШК або МСК, па-грэцку Рос-Мосах адкуль Русь-Масковія.
[51] ibn Fadlan. Пераклад Frahn'a 1823, Petersburg.
[52] Hammer. Origines russes, Petersburg.
[53] Іезекіiл, 27,3; 32.26; 38. 2 і 3; 39.1.
[54] Выд. Грановія с. 476.
[55] Гамаксабіямі па-грэцку.
[56] Эверс, II, 250.

А пра ўзгодненасць гэтых летапісаў з візантыйскімі паведамленнямі таго ж часу аўтар выказваецца вельмі не ўхвальна.

"Пра алегавы паход 907 года на Цар-Горад, – кажа ён, – упарта маўчаць усе візантыйцы, хаця рускія летапісы апісваюць яго вельмі падрабязна". (II, 258).

Застаецца толькі вырашыць, із якога шмат пазнейшага пахода, калі не "русаў", то паўднёва-заходніх славян, спісаны гэты міф.

# Глава II.

## Агульная характарыстыка рускіх летапісаў.

Да Пятра I (г. азн. амаль да 1700 года) на рускай мове не пісалі, а толькі на царкоўна-славянскай літаратурнай гаворцы, роднаснай славацкай мове. Першай кнігай на рускай мове да-Ламаносаўскага часу быў пераклад твора Леанарда Фронспергера "Пра вайсковую справу", зроблены згодна з загадам цара Аляксея Міхайловіча на другім годзе яго цараваня, г. азн. у 1647 годзе, а першы вопыт рускай граматыкі з'явіўся за мяжой на лаціне пад назвай "H. W. Ludolfii Grammatica Rossica* (Oxonii, 796).

Гэта азначае, і ўсе помнікі рускай літаратуры да 1647 года павінны вяўляць прыкметы ўплыву паўднёва-захоніх славян, якія і з'яўляюцца, такім чынам, нашымі першымі настаўнікамі і культуртрегерамі. У пацверджанне гэтага меркавання і рускі летапіс, меўшы раней назву Нестаравы, а зараз, пасьля таго, як Я. С. Казанскі ў 1851 годзе ўпершыню разжаловаў Нестара із летапісцаў, называецца проста "Пачатковым рускім летапісам" і мае паўсюдна сляды заходнеславянскага ўплыву.

Ён дайшоў да нас у некалькіх копіях, із якіх на пачатку XIX стагоддзя былі знакамітымі наступныя:

1) "Аповесьці мінулых гадоў Нестара чернарызца Феадосіева кляштара Пячэрскага". Гэты спіс, із нешматлікіх змяшчаючых імя Нестара, належыў, – кажуць нам, – спачатку вядомаму збіральніку рукапісаў Пятру Кірылавічу Хлебнікаву ў Маскве, памёршаму ў 1777 годзе, затым С. Д. Паўтарацкаму (1803-1884), а адкуль узяў яго Хлебнікаў невядома. Напісаны гэты дакумент на паперы, у малы ліст, паўуставам і даведзены да 1098 года.

2) "Рускі Пачасавік, або Летапісец, змяшчаючы рускую гісторыю ад 6370 (=862 г.) да 7189 (=1681 г.). 2 часткі. Масква 1790г.".

3) "Летапісец, утрымліваючы ў сабе рускую гісторыю ад 6360 (=862) да 7106 (=1598) гады. Масква, 1781 г.". Гэта Архангельскі спіс.

А зараз, калі гэтыя спісы ўжо прызнаны больш познімі, самым раннім можна лічыцца так званы "Радзівілаўскі летапіс".

Гэта самы цікавы із усіх існуючых спісаў і, можна думаць, больш старажытнага за яго не знойдзецца. Ён напісаны паўуставам канца XV стагоддзя і ўпрыгожаны 604 цікавымі малюнкамі, якія маюць важное археаграфічнае значэнне. На аркушы, прымацаваным да вокладкі, знаходзіцца тры запісы на беларускай гаворцы, відаць, гумарыстычнага зместу парадзіруючы летапісца. Вось гэтыя прыпіскі:

1) "Два тыдні пад час Піліпава гавейна (праз два тыдні Піліпава паста) Парфен Пырчкін жыта зняў у року девятьдзесятым".

2) "У року шэсцьсот трэццім за 6 тыдняў перад велікаднем водлуг (згодна са злічэннем) старога календара, кабыла сівая ажарабілася".

3) "У року шэсцьсот шостым месяца сакавіка 30 дня адружыўся пан Цыпля Крыштаў перад велікаднем старым, – за тры тыдні перад велікоднем старым хрысьціянскім".

4) "У року шесцьсотным Крыштоп (Крыштаў) Цепля адружыўся ў вялікі пост одлуг (згодна са злічэннем) старого календара за тры тыдні перад велікоднем".

Паўторнасць такога надпісу (не кажучы ўжо пра яго анамістыку) дастаткова сведчыць пра яе юмарыстычнасць, хаця заўвага зроблена дакладна: вялікдзень у 1606 годзе сапраўды быў 20 красавіка, праз 3 тыдні пасьля 30 сакавіка.

У канцы рукапіса маецца пріпіска, што ён быў падораны Станіславам Зяновічам князю Янушу Радзівілу. А потым ён у 1671 годзе поступіў у Кёнігсбергскую бібліятэку ад князя Багуслава Радзівіла, як відаць із пячаткавага ярлыка з гербам гарада Кёнігсберга і подпісам:.. "A celissime pricipe Dno (г. азн. domino) Boguslo Radcivilio bibliothecae quae Regiomontani (г. азн. у Кёнігсберзе) est electorato do-nata".

Ужо у 1716 годзе Пятро I даў загад зняць з гэтага рукапісу копію, якая магла быць затым перапісана ў Расіі не ў адным экзэмпляры, а падчас сямігадовай вайны ў 1760 годзе і сам Кенігсбергскі арыгінал быў набыты для нашай Акадэміі Навук.

I ўжо праз шэсць гадоў пасьля гэтага ён быў надрукаваны "ў Пецярбургу ў 1767 годзе так як ёсць, без якіх бы то ні было паправак ў складзе і выказваннях" у выданні "Бібліятэка Расійская Гістарычная. Старажытныя летапісы".

Вось сапраўдны пачатак рускіх летапісаў, і калі мне скажуць, што і раней Пятра існаваў "Ніканаўскі летапіс", то мне двядзецца папрасіць чытача даць доказы гэтага цверджання. Само сабой зразумела, што распаўсюдзіўшыся ў сотнях асобнікаў па тагачасных яшчэ малалікіх аазісах адукаванасьці, якія ўзніклі, галоўным чынам, у кляштарах, Радзівілаўскі спіс моцна ўзбуздіў уяўленне сваіх чытачоў, яшчэ ніколі не бачыўшых нічога падобнага і выклікаў натуральнае жаданне папоўніць гэтыя паведамленні і працягнуць іх за 1206 год, якім ён заканчваецца ці дакладней абрываецца, услед за такімі словамі:

"*Таго ж месяца* (сакавіка) *19* (дня*) 1206* (года) *прэставілася* (памёрла) *велікая княгіня Ўсеваложа* (г. азн. жонка Ўсевалада Юрьевіча, вялікага князя). *Прэбысць бо ў кляштары 18 дні пастрыгшыся, а ўсяе хваробы ея – 8 гадоў. Сучаснаму 9-му лету пойдзе* (яна) *да богаву сушу ту* (тут) *вялікаму князю, плачушчуся і не хоцяшчуся суцешыцца; за не бе любім ёю, і* (былому) *Всеславве тут жа і біскупу Ёну і смаленскаму біскупу Міхалу і ігумену атрочага кляштара, зане беста прыехаў і* (са) *Смоленьска ад Мсціслава моліцца і ізвіненіі* (прабачэння) *яго. І* (быўшаму тут) *Сымону ігумену, айцу яе духоўнаму і іншым ігуменам і прэзвітарам, спяваўшым абычна песьні. Апраціўшыцела яе, влажышча ю* (яе) *у труну каменн, і палажыша ю ў царкве Святой Багародзіцы*".

Зразумела, што раптоўнае спыненне Радзівілаўскага летапісу на такім "цікавым" месцы павінна была ўявіцца прама невыносным для дапытлівага чытача, упершыню пазнаёміўшагася з ім пасьля яе друкаванага выдання ў 1767 годзе (ці нават раней, пачынаючы з 1716 года, калі Пятро I упершыню загадаў зняць копію з яго Кёнігсбергскага спісу і прывезьці яе ў Расію). Таму і пачаліся яго перапісванні з працягамі. Важнейшімі із гэтых працягаў копіі з'яўляюцца:

А. Лаўрэнцьеўскі спіс (інакш называемы Суздальскім або Мусін-Пушкінскім) з такім загалаўкам: "Се повесьці мінулых гадоў, адкуль ёсць пайшла Руская зямля, хто ў Кіяві нача пярвее княжыці і адкуль Руская зямля стала ёсць". А

пад загалоўкам рукапісу можна прачытаць: "Кніга Каляднага кляштара Валадзімірскага".

Гэты рукапіс на пергаменце. Перапісаўшы з дробнымі папраўкамі ўвесь Радзівілаўскі спіс, яе аўтар даводзіць апавяданне да 6833 (=1305 згодна з нашым злічэннем) года, але раптам нечакана заканчвае прыпіскай не таго часу, а праз 72 гады пасьля заканчэння летапісу. Пад 1377 годам (6885 згодна са злічэннем аўтара) мы чытаем:

"*Радуется купец, прыкуп зрабіўшы і стырнік прыстаўшы да прыстані, і падарожнік, прыйшоўшы ў сваю бацькаўшчыну. Так радуецца і кніжны пісьменнік, заканчваючы кнігу.* (Радуюсь) *і я худы, і нягодны, і шматгрэшны раб божы Лаўрэнцій манах. Пачаў я пісаць гэтыя кнігі, званыя Летапісец месяца генвара 4 на памяць святых айцоў нашых аввад* (абатаў), *у Сінаі і Раіфе забітых, князю вялікаму Дзімітрыю Канстанцінавічу, па благаславенню свяшчэннага біскупа Дыянісія* (Суздальскага) *і закончыў месяца сакавіка 20 ў лета 6885 (г. азн. = 1377 нашаму году). І сёньня, спадары, айцы і брація, калі дзе апісаўся, ці перепісаў не кляніце, занежэ кнігі* (якімі я карыстаўся) *ізветшаліся, а розум* (мой) *малады, не дайшоў*".

А пытанне пра тое, чаму аўтар сваё "апошняе апавяданне" скончыў за 72 гады да сваёй прыпіскі, так і застаецца не вырашаным.

Як і калі атрымалі мы гэты "Лаўрэнцьеўскі спіс"? Яго гісторыя не выходзіць глыбей за межы самага заканчэння XVIII або пачатку XIX стагоддзяў. На пачатку XIX стагоддзя ён быў, – як я ўжо згадваў, – паднесены вядомым калектарам кніг графам А. Я. Мусіным-Пушкіным (памёр у 1817 годзе) імператору Александру I, які передаў яго ў Публічную бібліятэку. Вось і ўсё.

Б. Другая важнейшая копія Радзівілаўскага спісу – гэта "Рукапіс Маскоўскай духоўнай Акадэміі", напісаны паўуставам на 261 аркушы. На першым яе аркушы пазначана: "Жывапачынальныя Тройцы". Таму ў I томе поўнага збору Рускіх летапісаў ён атрымаў назву "Траецкі", ды і на апошнім яго аркушы напісана: "Сергіева кляштара".

Да 1206 года і ён, як і спіс, капіруе Радзівілаўскі летапіс амаль літаральна толькі з нікчэмнымі зьмяненнямі. А з моманта, на якім заканчваецца Радзівілаўскі арыгінал, ён вядзе неперарыўны па знешнасьці працяг, але ўжо у цалкам іншым тоне, чым Лаўрэнцьеўскі за тыя ж гады. Ён даводзіць сваё апавяданне да 1419 года даволі самастойна, не паўтараючы арыгінальныя часткі Лаўрэнцьеўскага летапісу і заканчваецца такім "важным" паведамленнем:

"*У лета 6927* (=1419 нашаму*) прэставілася княгіня Настасся Канстаўтынаўна Дзьмітрыевічы, месяца кастрычніка*".

Якімі нікчэмнымі з'яўляюцца змены ў першай частцы Лаўрэнцьеўскага і Троіцка-Сергіеўскага спісаў, параўнальна з Радзівілаўскім, бачна із узятых мной із усіх трох (табл. XI) пачаткаў і заканчэнняў Радзівілаўскага спіса, які абрываецца паказальна якраз пасьля ўзяцця Цар-горада крыжакамі і заснавання на Балканскай паўвыспе Лацінскай імперыі ў 1204 годзе, пра што як я ўжо згадваў, няма ні слова ў рускіх летапісах.

Мы бачым, што апроч малых стылістычных паправак, накшталт пераробкі "дожэ" на "тожэ" і на "дожы", ды ўставак накшталт "і да Ні-ракурыя" (перайначанага да таго ж із Рынакурура[57] Амартолы, асноўны тэкст той жа самы. А тым часам усе тры спісы "знойдзены" ў аддаленых адно ад другога месцах:

[57] Гл.: Хранаграфія Рыгора Амартолы. с. 39. Акадэмічнае выданне.

Радзівілаўскі ў Кёнігсбергу, Лаўрэнцьеўскі, кажуць нам, у Суздалі, а Троіцка-Сергіеўскі – у Маскоўскай губерніі.

Калі б яны ўсе былі копіямі, хаця б нават толькі ў "пачатковай частцы" нейкага больш старажытнага арыгінала, належачага дадрукарскаму часу, то даводзіцца зрабіць выснову, што ён меў пашырэнне ад Кёнігсберга да Ўладзімірскай губерніі, калі нават не далей, і таму немагчыма зразумець, як атрымалася, што ў такіх аддаленых і не спалучаючыхся адзін з адным яго асобніках не назапасілася непараўнальна больш значных адрозненняў змен у тэксце.

Пагэтаму даводзіцца зрабіць выснову, што як Траецка-Сергіеўскі ананімны пераймальнік, так і суздальскі манах Лаўрэн карысталіся ўжо параўнальна шырока-разышоўшымся выданнем 1767 года і пісалі на прыканцы XVIII стагоддзя, незадоўга да таго, як іхныя рукапісы былі знойдзены руплівымі шукальнікамі старажытнасьцей, накшталт Мусіна-Пушкіна, ці ж кампілятары карысталіся Радзівілаўскім рукапісам. А вось далейшы працяг у кожным спісе, як я ўжо адзначыў, не паўтараецца ў іншых спісах. Возьмем, напрыклад, хаця б 1305 год, якім заканчваецца Лаўрэнцьеўскі летапіс.

"*У лета 6813 (= 1305), індыкта 2, месяца чэрвеня, пры памінанні пакутніцы Агрыпіны ў дзень аўторак* (які, дарэчы прыпадае на 23 чэрвеня 6813 (=1305) года толькі згодна з лацінскім злічэннем года з сакавіка, а не з візантыйскім з верасня) *а поўдні бысць хмара вяліка з усходу і ўдары гром вельмі моцна ў макаўку сьвятога Хведара царкву* (у іншым спісе дададзена: на Кастраме) *і зажоюе* (яе) *і згарэла да вячэрні"*.

А вось для таго ж года ў "Суздальскім" летапісе Маскоўскай Духоўнай Акадэміі, які літальна пераняў Радзівілаўскі летапіс (разам з Лаўрэнцьеўскім) ад самага пачатку да самага заканчэння, мы знаходзім толькі такі запіс:

"*У лета 6813* (= 1305) *ізбішася ў Растаўе два званы вялікія. Таго ж лета преставіша* (памёр) *баскак Кутлубуг. Таго ж лета прыйдзі із Арды князь Міхал Яраславіч на вялікае княжанне. Таго ж лета прэставіся Максім мітрапаліт*".

Вось і ўсё. Ніводнага агульнага слова, як і павінна быць у незалежна складзеных запісах, дзе гаворыцца пра адну і тую ж падзею, якая звыш таго павінна быць вельмі гучнай, каб абудзіць увагу ў аддаленых адзін ад аднаго месцах.

## Табліца XI.

*Параўнанне тэкстаў Радзівілаўскага спісу з Лаўрэнцьеўскім і Троіцка-Сергіеўскім, належаўшым Маскоўскай Духоўнай Акадэміі*

| Радзівілаўскі | Лаўрэнцьеўскі | Троіцка-Сергіеўскі |
|---|---|---|
| А. На пачатку усіх спісаў | | |
| *Се пачнем повесць сію. Па патопе трыі сынове Ноеві раздзеліша зямлю: Сім, Хам, Афет. І яся ва ўсход Сімаві: Персіда, Ватр* (Бактрыя згодна з Рыгорам Амартолай). *Дожэ і да Індыкія ў даўгату і ў шырыню,* (Нiракурыя няма). *Яка жэ рэшы ад усходу дажэ і да полудзення і г.д.* | *Се пачнем повесць сію. Па патопе першыя сынове Ноэві раздзеліша зямлю: Сім, Хам, Афет. І яся ва ўсход Сімаві: Персіда, Ватр (Бактрыя згодна з Рыгорам Амартолай). Тожэ і да Індыкія ў даўгату і ў шырыню, і да Нiракурыя. Яка жэ рэшы ад усходу* (няма: дажэ і) *да полудзення і г.д.* | *Се пачнем повесць сію. Па патопе трые сынове Ноеві раздзеліша зямлю: Сім, Хам, Афет. І яся ва ўсход Сімаві: Персіда, Ватр (Бактрыя згодна з Рыгорам Амартолай). Дожы і да Індыкія ў даўгату і ў шырыню, і да Нiракурыя. Яка жэ рэшчы ад усходу нават і да полудзення і г.д.* |
| Б. На прыканцы Радзівілаўскага і пасярэдзіне іншых спісаў | | |
| *У лета 6712.* (=1204 згодна з | *У лета лета 6712.* (=1204 згодна з | *У лета 6712.* (=1204 згодна з |

| | | |
|---|---|---|
| нашым рахункам) *пасла Раман мужа свайго да вялікага князя Ўсевалада маляся пра Ольгавічаў, каб яго прыняў мір і да крыжа вадзіў. Вялікі ж князь Усевалад пасла мужа свего Міхала Барысавіча і вадзі Ольгавічы да крыжа, а Ольгавічы прасла-віша мужы свае і г.д.* | нашым рахункам) *пасла Раман мужа свайго да вялікага князя Ўсевалада маляся пра Ольгавічаў, каб я прыняў мір і да крыжа вадзіў. Вялікі ж князь Усевалад пасла мужа свайго Міхала Барысавіча і вадзі Ольгавічы да крыжа, а Ольгавічы прасла-віша мужы свае і г.д.* | нашым рахункам) *пасла Раман мужа свайго да вялікага князя Ўсевалада маляся пра Ольгавічаў, каб я прыняў мір і да крыжа вадзіў. Вялікі ж князь Усевалад пасла мужа свайго Міхала Барысавіча і вадзі Ольгавічы да крыжа, а Ольгавічы прасла-віша мужы свае і г. д.* |

Такім чынам, незалежныя рускія летапісы пачынаюцца толькі з часоў Чацьвёртага крыжовага паходу, калі рыцары захапілі ў 1204 годзе Цар-Горад і заснавалі на грэцкіх і славянскіх землях Балканскай паўвыспы сваю знакамітую Лацінскую імперыю.

Пазней яны пашырылі свае рыцарскія ордэны па заходнеславянскіх краінах, аж да Кіеўскага, Смаленскага, Літоўскага, Наўгародзкага і, вельмі магчыма, нават Маскоўскага княстваў, (у рускім вымаўленні орды[58]), а пры варожым стаўленні ўсходняй царквы да заходне-лацінскай – яны лёгка маглі пераназвацца і ў пякельныя, па-грэцку татарскія[59] орды. І гэта тым больш праўдападобна, што ні нагайцы, ні туркмены, ні кумыкі, ні карачаі, ні нейкія іншыя плямёны Ўсходняй Яўропы ці Паўночна-заходняй Азіі, якія аб’ядноўваюцца намі, рускімі, пад імем татараў, ніколі не аб’ядноўвалі сябе адзін з адным пад гэтым найменнем (хіба што толькі ў апошні час, засвоіўшы рускую школьную назву), падобна таму як і германцы засвоілі сабе ў нас назву немцы, не існаваўшую на іхнай радзіме. Выводзіць слова татары ад варажбавальнага кітайскага слова татань – намёт, жытло, можна толькі із роспачы, таму што не існуе ніводнага народа, які назваў бы сябе такім найменнем. Бо і ў саміх летапісах "Татарамі" называецца не народ, а мясцовасць, аднайменная толькі з Карпацкімі "Татрамі", а народ "татары" мае назву "татараве", г. азн. "татравы", інакш татраўцы. Тут грэцка-лацінская тэрміналогія тым больш адпавядае рэчаіснасьці, што і само татарскае ярмо з’яўляецца нічым іншым, як рускім вымаўленнем слоў jugum tartaricum, г. азн. пякельнае ярмо[60]. У гэтым выпадку лёгка тлумачыцца і поўная адсутнасць у рускіх летапісах звестак пра крыжовыя паходы, якія мелі такое велізарнае значэнне не толькі ў дачыненні да візантыйскага, але і да рускага святарства, прызнаваўшага вяршэнства над сабой Цар-Гародзкага патрыярха.

Крыжовыя паходы з гэтага боку гледжання ў рускіх летапісах былі выкладзены вельмі падрабязна, і толькі пазнейшыя тлумачальнікі перакінулі падзеі з захаду на ўсход.

Само слова "баскак" (якім два разы завуцца "татарскія" палітычныя наглядальнікі ў рускіх летапісах: у Лаўрэнцьеўскім пад 1283 годам, адразу пасьля кімсьці выдраных лістоў, і ў толькі што цытаваным мной рукапісе Маскоўскай Духоўнай Акадэміі пад 1305 годам), ні ў якім выпадку не можа паходзіць ад цюркскага слова, якое азначае "душыцель". Таму што гэтае слова дакараючае, і з якой бы такой нагоды давалі б сабе такое найменне самі збіральнікі падаткаў і палітнаглядальнікі часоў якога б там ні было іга? А рускія называлі б іх "душыцелямі" не па-цюркску, а на сваёй роднай мове. Вось чаму я схільны думаць,

[58] Лацінскае "ordo" – па-руску спачатку "арда", а зараз "ордэн" (корань гэтага слова ordin).
[59] Ад грэцкага ταρσαροζ (тартарос) – падземнае царства, адкуль і рускія тартарары.
[60] Іга паходзіць ад лацінскага слова jugum – ярмо, падпарадкаванне.

што найменне "баскак" зусім не цюркскае, а чыста рускае "башкак", г. азн. правадыр, аналагічна нямецкаму Haupt-man і французскаму Capitain[61], ды і прозвішча згаданага пад 1305 годам "баскака Кутлубуга" нагадвае хутчэй нешта нямецкае, накшталт Культур-бурга, перароблене неадукаваным напалову пісьменным чалавекам на рускі лад. І такая здагадка тым больш дарэчная, што ў вышэйцытаваным мной месцы сказана: "*Таго оке лета* (=1305) *прэставіся* (а не памрэ) *баскак Кутлубуг*". Так як слова "прэставіся" (перад богам) замест простага "памрэ" ўжывалася толькі ў дачыненні да хрысьціянаў.

Але мне далей яшчэ давядзецца падрабязна абмяркоўваць "пякельнае іга", а зараз закончу гэтую главу толькі ўказаннем на тое, як быў скасаваны пашыраны на пачатку XIX стагоддзя міф пра Нестара-летапісца.

У першай чвэрці XIX стагоддзя ніхто не сумняваўся, што яму належыць тая першая частка, літаральна перапісанная ва ўсіх разабраных намі летапісах, якая даводзіць апавяданне ад Ноева потопа да 1111 года, г. азн. да заканчэння першага крыжовага похода, пра які аўтару ў Кіяві нічога, аднак, не было вядома.

Але вось, пры друкаванні высветлілася, што ў Радзівілаўскім, і ў Лаўрэнцьеўскім, і ў Траецка-Сергіеўскім спісах пад 1110 годам знаходзіцца такі запіс:

"*У лета 6618* (=1110 згодна з нашым злічэннем)... *ігумен Сіліверст* (царквы) *Святога Міхала напісах кнігі сіі Летапісец, спадзяючыся ад бога міласьці прыяці пры Вялікім князі Валадзіміры Кіеўскім, а мне ігуменам быўшу ў сьвятога Міхала ў 6624 (г. азн. = 1116 ) індыкта 9 лета. І іжэ чыешь кнігі сіі, будзі мі малітва іх*".

Але як жа так? Вось сам паслядоўнік Нестара, памёршага згодна са сведчаннямі перапісчыкаў яго твораў яшчэ ў 1114 годзе, г. азн. за два гады да прыведзенага намі запісу, сцвярджае, што ўсё папярэднічаўшае пісаў не Нестар-манах, а Сілівестр-ігумен. Усё гэта паўторана літаральна і ўсімі іншымі "працягвальнікамі". Хто ж у такім разе паставіў імя "Нестар" ў копію, выявіўшуюся ў XIX стагоддзі ў руках Паўтарацкага і ў некаторыя падобныя іншыя?

Другім засумняваўшымся ў існаванні Нестара-Летапісца быў Я. С. Казанскі, напісаўшы пра гэта артыкул у "Айчынных Запісках" у 1851 годзе, а зараз, наколькі мне вядома, у яго летапісанне із рускіх гісторыкаў не верыць ніхто. Sic transit gloria mundi!

Перамяніўся з тых часоў і ранейшы погляд на летапісы, як на пераемны працяг запісаў, передаваемых паслядоўна ад настаўніка да вучня ў тым жа самым кляштары.

"Несумненна, – выказваецца акадэмік Шахматаў у сваім "Аглядзе летапісных зводаў Русі Паўночна-Усходняй", – што ўсякае летапісанне пачынаецца з асобных запісаў і паданняў і што пакіданне іх у тым выглядзе, як мы зараз маем, было справай вельмі складанай. Перш за ўсё на пачатку XII стагоддзя ў Кіеве быў складзены шырокі летапісны звод "Апавяданні Мінулых гадоў", так званы "Летапіс Нестара", які меў дастаткова значнае распаўсюджванне і рашучы ўплыў на далейшае развіццё летапіснай справы не толькі ў паўднёвай, але таксама і ў паўночнай (Наўгародзкай) і паўночна-ўсходняй (Суздальскай і Маскоўскай) Русі".

"Наўрад ці ў разных аддаленых і глухіх кутках старажытнай Русі, – пацягвае ён, – тады магло пачацца самастойнае мясцовае летапісанне і самабытныя летапісныя зборы. Але "Апавяданні Мінулых гадоў" і пазнейшыя зборы, складзеныя грунтуючыся на ім патрапілі і ў Ноўгарад, і ў Цвер, і ў глухі Пераяслаў-

[61] Магчыма таксама паходжанне і ад грэцкага басканья – паклёп, фіскальства.

Залескі, і тут яны зведалі перапрацоўку і дапаўніліся мясцовымі паданнямі і гістарычнымі падзеямі. Таму вывучэнне пазнейшых збораў прыводзіць да высвятлення і аднаўлення збораў самых старажытных. А вывучэнне самых старажытных збораў і нават самой Аповесьці Мінулых гадоў паказвае, як на іхныя крыніцы, на нейкія яшчэ больш старажытныя зборы. Із іх летапісны збор, даведзены да 1305 года і захаваўшыся ў спісе прыгатаваным ў 1377 для суздальскага князя Зьміцера Канстанцінавіча манахам Лаўрэнціем[62], звяртае на сябе асаблівую ўвагу даследчыкаў рускіх летапісаў, як на адзін із больш старажытных, дайшоўшых да нас, летапісных збораў. Параўнанне яго з іншымі летапіснымі зборамі паказвае, што яго складальнік, які жыў, верагодна, на прыканцы XIV стагоддзя, карыстаўся вельмі абмежаванай колькасьцю збораў, аб'ядноўваўшых нейкі разнастайны матэрыял. Адна із гэтых яго першакрыніц і дайшла да нас у выглядзе Радзівілаўскага спіса". Але і тут, – дададзім мы, – даводзіцца быць вельмі асьцярожнымі, так як часта меркавані даследчыкаў зводзяцца да простага гадання.

Вось, напрыклад, Я. А. Ціхаміраў лічыў, што запісы сучасных падзей вяліся ў XIII стагоддзі і ў Суздалі, і ва Ўладзіміры, а Шахматаў лічыў, што ні для Суздаля, ні для Яраслаўля мы не маем ніякіх падстаў сцвярджаць гэта.

"Чаму летапісныя паведамленні, – ставіць пытанне А. Шахматаў, – пісаліся пераважна ва Ўладзіміры (да сьмерці Ўсевалада III), а потым у Растове і Цвяры?[63]" Растоў жа больш старажытны чым Уладзімір, у ім жыў біскуп яшчэ тады, калі Ўладзімір быў нязначным прыгарадам Растова, у ім бы і належала чакаць з’яўленне першага "суздальскага" летапісу. Магчым, такі летапіс і існаваў, але ён не мае нічога агульнага з тым Растоўскім летапісам, сляды якога так выразна заўважаюцца ў Лаўрэнцьеўскім зборы: гэты апошні летапіс, апошні згодна з паходжаннем, быў бы, відавочна, княжым летапісам і злучаўся б не столькі з лёсам старога Растова, колькі з лёсам Кастуся Ўсеваладавча і яго сыноў. Натуральна паўстае пытанне, ці не з’яўляецца Лаўрэнцьеўскі звод дадаткам да таго летапіснага збору, якім уяўляў із сябе Растоўскі летапіс?

Але сам аўтар і робіцца справядлівае пярэчанне сабе:

"Выяўляецца, – сведчыць ён, – што Лаўрэнцьеўскі збор цалкам не згадвае пра важную ў жыцці горада Растова падзею – пра перанясенне парэшткаў святога Лявонція із царквы святога Яна, як гэта відавочна із 1-ага Сафійскага і 4-ага Наўгародзкага, Васкрасенскага і Ніканаўскага летапісаў, і старэйшага із Суздальскіх летапісаў згодна з акадэмічным спісам. Перанясенне парэшкаў адбылося 25 лютага 1230 сакавіцкага, г. азн. 1231 студзеньскага года"[64].

Замоўчванне гэтай падзеі ў Лаўрэнцьеўскім летапісе тым больш здзіўляе, што пад 1231 годам мы падрабязна ў ёй чытаем пра ўпрыгожванне і асьвячэнне храма Багародзіцы. Бо, калі гэты летапіс пад 1230 годам згадаў пра пачатак будавання собора "на першым месцы падшай царквы", то натуральна чакаць, што

[62] Ужо із гэтага мы бачым, што ніяк нельга сказаць, што летапісы даводзілі сваё апавяданне да таго года, якім яны заканчваліся. Вось сам Лаўрэнцій, пісаўшы летапіс для князя Зьміцера ў 1377 годзе не давёў апавяданне да часу гэтага князя, а закончыў 1305 годам за 72 гады да яго княжання. І аднак жа ён не памёр, не давёўшы да заканчэння сваю працу, так як яго летапіс мае закончаны характары. М. Маразоў.

[63] Шахматаў А. Агляд летапісных збораў Русі Паўночна-Ўсходняй 1899 годзе. с. 8.

[64] Летапіс Ільвова замест 25 лютага дае 5 лютага, пры гэтым згодна з яго "сведчаннем" у той жа дзень была асвечана Царква Багародзіцы. Такое ж паведамленне і з той жа датай ёсць у Цвярскім летапісе. (Поўны Збор рускіх летапісаў XV, с. 357) Яно паўтараецца ў рэдакцыі Сафійскай, Наўгародзкай і іншых летапісаў (с. 358).

пад 1231 годам ён паведаміць і пра заканчэнне будаўніцства гэтага храма і па перанясенне ў яго парэшткаў Лявонція[65].

І вось на падставе гэтага Шахматаў прыходзіць да высновы пра заканчэнне ўяўляйшагася яму княжацкага растоўскага летапісу (які быў нібы-та падмуркам Лаўрэнцьеўскага) "каля 1232 г.". Але ж так можна прыдумаць цэлы раман! І Шахматаў, сапраўды, прыдумляе яго на наступных старонках свайго даследавання. А потым сам дадае:

"Я не адважваюся падрабязна спыняцца на доказах выказаных мной палажэнняў. Вызначэнне складу Лаўрэнцьеўскага спісу, а таксама дачыненне яго да іншых летапісных збораў павінна быць прадметам шырокага даследавання. Толькі пазначу, што выключна параўнальнае вывучэнне розных спісаў і рэдакцый можа прывесьці да дакладнага вызначэння спосабу скадання таго ці іншага помніка, а ў асаблівасьці такіх помнікаў, як летапісы. У дадзеным выпадку даследаванне павінна пачынацца ад сістэматычнага параўнання Лаўрэнцьеўскага спісу з бліжэйшымі – Радзівілаўскім, Акадэічным і Пераяслаўскім. Лаўрэнцьеўскі спіс часам уяўляе амаль літаральнае падабенства з названымі спіскамі, а часам значна адступае ад іх, выяўляючы больш старажытнае чытанне. Так, напрыклад, Радзівілаўскі і Акадэмічны спісы паведамляюць пра першапачатковае пасяленне Рурыка ў Ладазе і толькі пра пазнейшае заснаванне Ноўгарада. А Лаўрэнцьеўскі спіс передае апавяданне у тым яго выглядзе, у якім яно захавалася ў Пачатковым зборы (адлюстраваным ў першай частцы 1-ага Наўгародзкага летапісу у яго другой рэдакцыі (г. азн. у рэдакцыі ўсіх яго спісаў, акрамя Сінадальнай).

"Я думаю, – працягвае ён, – што Лаўрэнцьеўскі зборнік захаваў пры гэтым чытанне сваёй асноўнай крыніцы "княжага Растоўскага летапісу" – Уладзімірскага збору 1230 года".

А трохі далей сам жа аўтар прызнаецца, што трывалай падставы для цверджання пра сапраўднае існаванне ўяўляеага ім "княжацкага летапісу ў Раставе" у яго няма.

"Няхай вынікі такага даследавання, – кажа ён, – здадуцца гаданнем і пазней выявяцца памылковымі, але гэта ніколькі не скасоўвае таго цверджання, што абмяжоўваючыся нейкім адным помнікам, даследчык ніколі не атрымае магчымасьці вызначыць яго слад і паходжанне, і што адзіна надзейным шляхам павінен быць прызнаны шлях параўнальна-гістарычны. Падобна таму, як даследаванне мовы становіца навуковым толькі пасьля далучэння да сістэматычнага параўнання некалькіх моваў (прычым гэта параўнанне перш за ўсё прыводзіць да аднаўлення самых старажытных эпох ў жыцці даследуемых моў, а потым і да аднаўлення той агульнай мовы, із якой яны паходзяць) – так і даследчык літаратурнага помніка павінен, перш за ўсё, здзейсніць параўнане гэтага помніка з бліжэйшымі, найбольш падобнымі, для таго, каб вызначыць пасьлядоўны ход яго равіцця і аднавіць той першапачатковы выгляд, да якога ён сыходзіць".

З гэтым, вядома, нельга не пагадзіцца, але ўсё ж, імкнучыся па магчымасьці паглыбіць старажытнасць нашых гістарычных помнікаў, шаноўны аўтар дарэмна папракае Я. А. Ціхамірава за яго меркаванне, што летапісныя зборнікі ўзніклі ў Маскве толькі далёка пазней яе з'яўлення на старонках гісторыі.

"Да гэтага часу вядомы, – выказваецца Ціхаміраў, – тры Маскоўскія летапісныя зборы:.. Васкрасенскі, Ніканаўскі з яго працягамі і Сафійскія: 1-ы і 2-і.

[65] У Ільвоўскім і Цвярскім летапісах сказана, што царква закончана 5 лютага (памылкова вм. 25), пры гэтым туды перанеслі парэшткі Лявонція, і што асьвяцілі царкву ў той жа дзень.

Акрамя таго, маскоўскія летапісы былі ўключаны ў склад некаторых спісаў так званага Чацьвёртага Наўгародзкага летапісу. А Шахматаў дадае да іх яшчэ:

1) "Траецкі пергаментны спіс пачатку XV стагоддзя, зараз згублены, дастаткова добра вядомы дзякуючы выпіскам із яго ў заўвагах да "Гісторыі Дзяржавы Расійскай" Карамзіна (I-V тамы).

2) Ільвоўскі летапіс, названы так згодна з імем выдаўцы, які выпусціў яго ў сьвет у 1792 годзе ў пяці тамах (пры гэым рукапіс, паслужыўшы арыгіналам для яго друкавання – невядомы).

3) Хранограф, часткова захаваўшыся ў рэдакцыі 1512 года (гэта яго першая редакцыя згона з меркаваннем А. Н. Папова), і часткава адлюстраваны ў некаторых іншых летапісных зборах.

4) "Рускі Пачасовік", або так званы Кастрамскі летапіс, выдадзены пад першай назвай два разы ў 1792 і 1820 гг. ў двух тамах, і некаторыя іншыя зборнікі.

І вось як іх характэрызуюць:

"Апісаннем Эдыгеева нападу 1409 года, – кажа Карамзін, – заканчваецца Траецкі летапісец. Відаць, што стваральнік памёр[66]". Карамзін называе Траецкі летапіс "галоўным сучасным летапісам княжання Васіля Зьмітравіч[67]".

А мяркуючы па дайшоўшых выпісках, у ім ужо ўтрымліваліся тыя паведамленні маскоўскіх летапісаў, якія Ціхаміраў прасачыў грунтуючыся на пазнейшых маскоўскіх летапісных зборах. Так, у ім паведамлялася пра пажар у Маскве 3 траўня 1331 года[68], пра падпісанне ў Маскве закладання двух цэркваў – Успенскай і Архангельскай у 1344 годзе[69] і закладанні царквы святога Спаса ў 1345 годзе.

У ім ужо мела адлюстраванне і крытычнае стаўленне масквіча да атачаючага яго палітычнага жыцця. Так, з нагоды непаразуменняў, узнікшых у 1386 годзе паміж маскоўскім вялікім князем і наўгародцамі, летапісец заўважае:

"*Такім бо ёсць звычай наўгародцаў: часта* (прысягаюць)*ка Князю вялікаму, і пакі сварацца з ім, і не чудзісь таму: быша бо чалавецы суровы, непакорлівы, упрамчывы, непастаяны*"[70].

На ўвазе усяго гэтага, а ў асаблівасьці не выклікаючай сумневаў сваёй старажытнасьці, Траецкі летапіс павінен бы занять першае або адно із першых месцаў у даследаванні, прысвечаным маскоўскім летапісным зборам.

"Ільвоўскі летапіс", г. азн. летапіс выдадзены Ільвовым у 1792 годзе, (са згубленнем арыгінала) уяўляецца для даследчыка маскоўскага летапісання XVI стагоддзя ў вышэйшай ступені важным: бясспрэчна, – выказваецца аўтар , – што яе пратаграфія, яе найстарэйшыя рэдакцыі былі злучаючымі звеннямі паміж некаторымі із дайшоўшых да нас летапісных збораў. Так, у частцы да 1518 г. уключна ён выяўляецца амаль тоесным з Сафійскім 2-ім летапісам (Архіўны спіс гэтага летапісу заканчваецца як раз на тым месцы, дзе другі спіс – Васкрасенскі – пачынае адрозніваецца ад Ільвоўскага, г. азн. на 1518 годе). У той жа рэдакцыі ён уплываў на Ніканаўскі летапіс, які з 1518 года грунтуецца не на трох, а толькі на двух крыніцах, а з 1521 года ўжо толькі на адной крыніцы – Васкрасенскім зборы[71].

---

[66] Гісторыя Расійскай Дзяржавы, т. V, заўв. 207.
[67] Там жа, т. V, заўв. 144.
[68] Там жа, т. IV, заўв. 322.
[69] Там жа, т. IV, заўв. 372.
[70] Там жа, т. IV, заўв. 372.
[71] Там жа, т. V, заўв. 148.

У рэдакцыі 1533 года Ільвоўскі летапіс быў адной із крыніц Васкрасенскага збору. У ім захавалася летапіснае апавяданне 1534-1560 гадоў, тоеснае з тым маскоўскім зборам, на падставе якога дапоўнены спісы: Ніканаўскі і Карамзінскі (Васкрасенскі летапіс)"[72]

"Рускія летапісныя артыкулы Хранографа, – працягвае Шахматаў, – Вядомыя галоўным чынам па рэдакцыі 1512 года, узяты із нейкага не дайшоўшага да нас летапіснага збору маскоўскага паходжання. Гэта відавочна із апошніх артыкулаў рэдакцыі 1512 года, маючых дачыненне да падзей XV стагоддзя , у якіх, напрыклад, апісана даволі падрабязна барацьба Васіля Васільевіча з яго дзядзькай і стрыечнымі братамі".

"Я думаю, – працягвае ён далей, – што Хранограф складзены ў Расіі сербам (і менавіта Пахоміем) у 1442 годзе[73].

Ужо ў першай асноўнай рэдакцыі "Хранограф" утрымліваў рускія летапісныя артыкулы, што асабліва выразна праглядаецца із апавядання пра забойства Батыя, бяспрэчна знаходзіўшагася ў першапачатковай рэдакцыі і належаўшага пяру Пахомія. Грунтуючыся на гэтым, я думаю, – працягвае аўтар , – што ў асноўнай рэдакцыі "Хранографа" летапіснае апавяданне даходзіла да 1441 ці 1442 года, але што пазней да яго было дададзена апавяданне пра далейшыя падзеі, прычым пасьлядоўны шэраг рэдакцый Хранографа давёў яго да 1508 года. Але якім бы ні было, дарэчы, паходжанне "Хранографа", мы павінны дапусьціць існаванне і такага гістарычнага помніка, дзе першапачатковыя артыкулы Хранографа былі працягнуты рускім летапісам, даведзеным да 1508 года".

"Рускі Пачасовік" дайшоў да нас, безумоўна, у перайначаным і няпоўным выглядзе, так як спіс, із якога зроблена выданне, адносіцца да XVII, а магчыма і да пачатку XVIII стагоддзя . Ёсць падставы думаць, што пазнейшы редактар узяў із яго адны рускія летапісныя артыкулы, пакінуўшы ў баку самую старажытную частку "Хранографа" (да артыкула "Пра славенскую мову і пра рускую") і выключыўшы із наступнай часткі ўсе грэцкія і паўднёваславянскія артыкулы. Так, у маючымся у нас тэксьце "Рускага Пачасовіка" захавалася некалькі слядоў ад выключаных пазнейшым рэдактарам артыкулаў не рускага паходжання, напрыклад "Пра хрышчэнне вуграў" ("*Вдевше жэ Піоны, глаголеміі вугры*" і г. д.), на прыканцы якой тая ж спасылка на Брэтанейскую (Брытанскую) выспу, якой гэты артыкул суправаджаецца ў "Хранографе". Дакладна так жа тэкст большасьці паведамленняў XII і XIII стагоддзя ў "Рускім Пачасовіку" цалкам адпавядае тэкстам "Хранографа" рэдакцыі 1512 года. Так, у ім змешчана тая ж прадмова да ўмільнага апавядання пра "татарскае нашэсьце", як і там:

"*Хошчу рэшчы пра друзі і брація, апавяданне, яже не точыю чалавекі, але і не маючыя мовы жывёлы, і неадчувалнае каменне можа падзьвігнуці на плач*".

Святаслаў і Святаполк завуцца, як і ў шматлікіх спісах "Хранографа" 1512 года, Цветаславам і Цветаполкам. Гэта азначае – што мы маем справу з запазычваннем із "Хранографа". Што ж да месца складання "Рускага Пачасовіка",

---

[72] Тоеснасць Ніканаўскага і Васкрасенскага збораў пачынаецца не з 1526 года, як лічаць Праснякоў і Ціхаміраў, а менавіта з 1521 года.

73 "Указанне на гэты год, – кажа Шахматаў, – Я знаходжу ў спісах (не падзеленых на главы), дзе колькасць гадоў царавання Яна VI вызначана 17-ю гадамі, між тым як ён цараваў больш за 23 гады (1425-1449). Гэта азначае, Хранограф складзены на семнаццатым годзе яго царавання". Такая выснова Шахматава... А я да яго магу дадаць толькі адну заўвагу: некалькімі радкамі назад ён жа сам прыводзіць тлумачэнне Карамзіна наконт таго, чаму Траецкі летапіс заканчваецца на 1469 годзе: "верагодна летапісец памёр", і таму не працягваў далей. Дык чаму б і гэтаму не памерці?

паравання роўную нулю гадоў, а ў выпадку перехода пасада ад старэйшага брата да малодшага з нагоды адсутнасьці нашчадка, патрэбна ўлічваць толькі малодшага брата, дадаўшы да працягласьці яго царавання гады 2-3, так як ён нарадзіўся ў сярэднім на 2-3 гады пазней першага.

І я падцвердзіў правільнасть падобных разлікаў прыкладамі із навейшай гісторыі. Так, у Германіі ад уцараваньня Генрыха IV (1056 г.) да пазбаўлення пасаду Вільгельма II (1918 г.) прайшло 862 гады і было 40 змен, прычым нават і пры валавым падліку на кожную змену прыйшлося ў сярэднім каля 21 года, г. азн. стацевая сталасць вызначылася каля 18 гадоў ад роду. Так, у ангельскай дынастычнай гісторыі ад уцаравання Эдуарда III Іспаведніка (1042) да ўцаравання Вікторыі (1837) прайшло 795 гадоў і было 37 змен, каля 21 года на кожную. Зноў стацевая сталасць атрымалася каля 18 гадоў. Так і ў французкай гісторыі ад уцараваня Анры I (1030) да пазбаўлення пасада Напалеона III прайшло 840 гадоў і было 42 змены, на кожную у сярэднім 20 гадоў, што дае стацевую сталасць каля 17 гадоў. Так і ў рускай гісторыі ад дынастычнага ўцаравання Міхала Хведаравіча (1613 г.) да пазбаўлення пасаду Мікалая II (1917) прайшло 304 гады, і, калі выключыць са спіса забітых адразу пасьля ўцараваня Яна Антонавіча і Пятра III, то было 15 змен, на кожную у сярэднім 20 гадоў. Зноў атрымліваецца стацевая сталасць у 17 гадоў. Мы бачым, як на працягу новай гісторыі усё атрымалася фізіялагічна правільна. Але вось я там жа, у VII томе "Хрыста" (с. 28), пачаў правяраць гэтым спосабам старажытныя храналогіі, і што ж атрымалася?

Ад нараджэння Адама да сьмерці Ноя, – кажа нам Біблія, – прайшло 2006 гадоў і было толькі 11 змен. Лічачы нават, што іхныя першынцы нарадзіліся толькі праз 50 гадоў пасьля дасягнення палавой сталасьці бацькамі, мы бачым, што яны дасягалі яе толькі на 51 годдзе ад нараджэння, ды і пасьля гэтага на працягу 50 гадоў не маглі нарадзіць нашчадка. Ці адпавядае гэта рэчаіснасьці?

Паглядзім зараз з гэтага боку гледжання і на наш "Пачатковы Псеўда-летапіс".

На параўнальнай табліцы мы бачым, што асноўная дынастыя (ад бацькі да сына-першанца) перебіваецца тут уцараванямі братоў бацькі, але мы можам лічыць іх як бы апекунамі, і тады атрымліваецца за прамежак ад 913 па 1093 безперапынны шэраг:

Ігар Рурыкавіч (пачатак з 913 года)
Святаслаў Ігаравіч
Св. Уладімір Святаславіч
Яраслаў Уладзіміравіч
Ізяслаў Яраславіч
Святаполк Ізяславіч

Ад 913 па 1113 год прайшло роўна 200 гадоў і было 6 змен, на кожную у сярэднім 33 з $^{1}/_{3}$ года, г. азн. роўна па тры змены ў стагоддзе, цалкам адпаведна схематычным разлікам Бругша, аднаўляўшага ў сярэдзіне XIX стагоддзя нашай эры дынастычную гісторыю дапатопных ягіпецкіх фараонаў – па тры фараоны на стагоддзе. Ці выпадковае тут супадзенне меркаванняў двух незалежных дасьціпных людзей, ці гэта водгалас таго, існуючага і да гэтага часу ўяўлення, што за стагоддзе перамяняецца тры чалавечыя пакаленні?

Але калі мы нават і не будзем разглядаць гэтае далікатнае пытанне, то ўсё ж выходзіць, што нашы продкі ў прамежку ад X па XII стагоддзі дасягалі стацевай сталасьці толькі на 30-м годзе свайго жыцця. Хаця гэта і менш чым у біблейскіх

дапатопных патрыярхаў, але ўсё ж настолькі пазнавата, параўнальна з прыведзенымі вышэй ангельскай, нямецкай, рускай і французкай пазнейшымі дынастыямі, што паверыць такой храналогіі ніяк немагчыма.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

Арда або ордэн?

## Глава I

### Крыжовыя паходы рыцарскіх і манаскіх "ордэнаў" на руска-славянскія краіны з рымскага Захаду і адначасовае нашэсьце татарскіх "орд" на тыя ж краіны нібыта із мангольскага усходу У XIII стагоддзі нашай эры.

Чітаючы рускія летапісы (пры іхным сучасным традыцыйным тлумачэнні) мімаволі згадваецца байка Крылова:

– Прыяцель дарагі, прывітанне! Дзе ты быў?
– У Кунсткамеры, мой сябра. Гадзіны тры хадзіў;
Ужо сапраўды, там цудаў палата!
Куды на выдумкі прырода таравата!
Якіх звяроў, якіх там птушак я не бачыў.
Якія матылькі, букашкі,
Казюлькі, мушкі, таракашкі!
Адны як смарагд, іншыя як карал.
Якія маленечкія кароўкі!
Існуюць, праўдзіва, менш чым булавачная галоўка.
– А ці бачыў ты слона? Які сабой на выгляд?
Мне, здаецца, падумаў ты, што гару сустрэў?
– Ды хіба ён там? – Там.
– Ну, брат, вінаваты: Слана-та я і не прыкмеціў.

Сапраўды, падумайце самі. Вось я прывёў вам шэраг цытат із рускіх летапісаў – Кёнігсбергскага, Радзівілаўскага, Лаўрэнцьеўскага, Суздальскага згодна са спісам б. Маскоўскай духоўнай Акадэміі і інш., справядліва лічачыхся за менш усяго зведаўшых перапрацовак і дапаўненняў познейшых редактараў – капіістаў. У іх мы чытаем, у які дзень тыдня і месяца такі-та князь адружыў сваю дачку, у які дзень ён памёр і дзе быў пахаваны, ці знаходзім цалкам нязначныя прыватныя заўвагі пра розныя дробязі, а пра слана таго часу – пра крыжовыя паходы, хваляваўшыя ўвесь тагачасны культурны і некультурны свет – ні адзінага слова! Само найменне Цар-Горад згадваецца да захопу яго крыжакамі ў 1204 годзе ў гэтых асноўных летапісах толькі мелькам, без якіх бы то ні было каментараў, як быццам бы ў ім нічога годнага ўвагі не адбывалася.

Вось усё, што там ёсць пра гэтую сталіцу ўсходняга свету згодна з Лаўрэнцьеўскім, Суздальскім і Траецкім спісамі:

"*У лета 6630* (1122)*... прыйдзе мітрапаліт із Цар-Града ў Святую Сафію імем Мікіта... і зямлі траскія бысць* (хаця землятрусаў у Суздалі, дзе лічыцца быў складзены гэты летапіс, і не бывa)".

І яшчэ:

"*У лета 6672* (1164*). Ідзе* (Леон, няправільна прызначны суздальскім біскупам) *ко ісправленіе* (да) *Цесарю-Гораду і тамо упрен* (выкрыты) *бысть владыкаю Хведарам і Андрыянам Баўгарскім перад царем Мануілам*".

І потым апавядаецца, што калі ён пры гэтым пачаў пярэчыць самому цару, які стаяў над ракай, яго ударылі ў шыю царскія служкі і ледзь не ўтапілі ў рацэ.

Мне скажуць:

"Хаця гэтыя два запісы зроблены ўжо пасьля таго, як у 1099 годзе крыжакі ўзялі палестынскі Элькудс, лічымы за Іерусалім і, вызваліўшы "труну пана бога", заснавалі там Ерусалімскае Каралеўства, але ўсё ж яны зроблены да ўзяцця Цар-Горада крыжакамі".

Хай будзе так, адкажу я. Возьмем пазнейшыя паведамленні. Перш за ўсё мы заўважаем, што ад 1204 года, калі ў Цар-Горадзе зацвердзіліся крыжакі, і да 1218 гада мы нічога не знаходзім пра Цар-Горад.

Але вось перад намі 1218 г., усяго праз 14 гадоў пасьля таго, як крыжакі ўзялі Цар-Горад і заснавалі там сталіцу Лацінскай імперыі. У гэты час грэцкі праваслаўны патрыярх разам з грэцкім царом збеглі ў Нікею, і ў Цар-Горадзе ўжо быў каталіцкі патрыярх. А запіс паведамляе:

"*Таго ж лета прыйдзе біскуп Полацъскі із Цесаря-града да вялікага князя Кастуся Валадзіміравіча ведая яго любоў і жаданне да ўсяго боскага царкоўнага ўладкавання, да сьвятых ікон і мошчаў сьвятых і да ўсяго душакарыснага шляху і прынёс яму нейкую частку ад страсьцей Гасподзен, яжэ нас радзі, Владыка Езус Хрыстос ад людзей прэцярпеў, пастрадал, і мошчы сьвятога Логіна Мучаніка сотніка, связые яго руці обе, і моцы святыя Мары Магдаліны, хрысталюбны ж князь Кастусь з радасьцю вялікаю сатварыў празднества светлае аб прыходзе іх* (да яго) *і паставіў іх каля Ушэсьця ў кляштары перад Залатымі варотамі*".

Далей шматслоўна апісваецца і сама ўрачыстасць, а пра тое, што ў гэты самы час у Цар-Горадзе панавалі з праваслаўнага боку гледжання "*багамерзкі*" лаціны – ні слова.

Вось 1211 год згодна з летапісам б. Маскоўскай духоўнай Акадэміі, усяго праз 7 гадоў пасьля захопу Цар-Горада крыжакамі.

"*Прыйшоў Дабрыня Ядрэйкавіч із Царъя-Града і прывёз з сабой дрэва ад Гроба Господняга, а сам пастрыгся на Хутыне ў святога Спаса*".

Але тут ужо прама недарэчнасць: бо "труну Хрыстову" і да гэтага часу паказваюць ўсім жадаючым ў Эль-Кудсе, званым намі Ерусалімам, і яна ніколі не была ў Цар-Градзе, аб завяванні якога лацінамі ўсяго 7 гадоў таму назад аўтар як быццам нават і не ведае.

Затым, у 1261 грэкі зноў забіраюць Цар-Горад, і Лацінская імперыя на Балканах перастае існаваць. Зноў у рускіх летапісах мы не знаходзім ні слова радасьці з гэтай нагоды ці нават згадвання пра такую значную для манахаў падзею. І толькі праз 120 гадоў мы зноў сустракаем найменне Цар-Горад з нагоды такога нікчэмнага здарэння:

"*У лета 6889 (1381). Пад час свята Ўваскрасення* (у некаторых спісках Усшэсьця) *Господняга прыйшоў із Цар-Горада на Русь прэсвяшчэнны Кіпрыян*

*мітрапаліт на сваю мітраполію на Маскву. Князь оке вялікі Дзімітрый Іванавіч прыняў яго з вялікай чэсьцю..."*

А між тым, у тых жа самых асноўных летапісах паведамляецца і пра іншаземныя падзеі па розных нагодах. Так, пад годам 1065, з нагоды каметы Галея (якая згодна з нашым злічэннем з'явілася не ў 1065 г., а ў сакавіку 1066 года) паведамляецца, у сувязі з гэтым "знаменнем", нават пра даўно мінуўшыя іншаземныя падзеі. Паведамляецца, напрыклад, пра тое, што пры Кастусю "сыне *Лявонаве Іканаборцэ*" (741-775 гады) "*у Сурыі* (Сірыі) *быў трус вялікі* (землятрус) *і із зямлі, расшэдшэйся на тры попрышча, вышла маска, глаголюшча чалавечым голасам і прапаведуюшча наіціе язычніка, як і было: напалі сарацыны на зямлю Палестынскую*".

Такіх "знаменняў" (г. азн. прадказанняў) у рускіх летапісах апісана шмат. Дык чаму ж ні адно із іх не дапасавана да падзей крыжовых паходаў, якія пасьля 1204 года, калі была заснавана Лацінская імперыя, павінны былі здавацца праваслаўнаму рускаму найвялікшай і непасрэднай справай самога сатаны?

Адзіным выйсьцем із гэтага гістарычнага непаразумення з'яўляецца думка, што адлюстраваннем крыжовых паходаў у рускіх летапісах з'яўляецца сучаснае ім татарское ярмо. Якім ні нечаканым здаецца з першага погляду такое атаясамленне, але яно само сабой навязалася мне пры чытанні асноўных рускіх летапісаў, пасьля таго як я пераканаўся, дзякуючы астранамічнай праверцы, што з 1111 гада яны не апокрыфы, а складзены грунтуючыся на адпавядаючых рэчаіснасьці непасрэдных запісах разных асоб.

Спачатку гэтая думка мне самому здалася парадаксальнай, таму што і я нават у найменшай ступені крытычна не разглядаў зацверджанае ва ўсіх нас меркаванне, што наша культура не заходняга лацінскага, а ўсходняга грэцкага паходжання. Але чым больш я думаў над гэтым пытаннем, тым больш знаходзілася фактаў на карысць "заходнічаства".

Частку гэтых фактаў я ўжо тут паведаміў. Гэта – лацінскія назвы месяцаў календара ў нашых летапісах, якія ўжываюцца таксама і ў нашых славянскіх "Чэцці-Мінеях", дзе ў дадатак амаль палова імёнаў сьвятых маюць лацінскае або славянскае паходжанне (Аўгуст, Агрыпіна, Аквіліна... Вера, Надея, Любоў, Уладзімір, Усевалад, Вячаслаў, Раман, Кастусь і г. д.), а другая палова уяўляе із сябе запазычаныя лацінамі ж у вельмі старажытныя часы грэцкія і жыдоўскія найменні (Аляксандр, Аляксей... Якаў, Мацвей і г. д.). Із гэтага відавочна, што і грэцкія імёны маглі патрапіць да нам із лацінскіх жа першакрыніц, нараўне з жыдоўскімі. Бо выключна грэцкіх імёнаў, якія не сустракаюцца ў лацінскіх святцах, няма ў нас амаль ніводнага. Скажу больш: сама назва "царква" паходзіць ў нас ад лацінскага слова "цырк", а не яе грэцкай назвы "эклесія" хаця гэтая апошняя назва адбілася (верагодна толькі з часоў крыжовых паходаў) нават на французскім нйменні царквы – eglise.

А калі мне запярэчаць, што словы Біблія і Евангелле ў нас грэцкага паходжання, то я адкажу, што і яны былі яшчэ задоўга да нас адаптаваны лацінамі ў іхную анамастыку, а таму ад лацін жа маглі перайсьці і да нас, а не непасрэдна ад грэкаў, як нас у гэтым запэўнівалі.

Мне таксама запярэчаць, што Біблія была перакладзена на славянскую мову із грэцкай, доказам чаго служыць кніга Эсфір, у якой у славянскім перакладзе паўтораны значныя ўстаўкі, зробленыя грэкамі ў першапачатковы лацінскі тэкст. Але ці не ўвайшлі яны сюды ўжо пасьля таго, як маскоўскі патрыярх Нікан (1652-

1681) прызначыў саборна ў 1654 выправіць усе богаслужбовыя кнігі згодна з сабранымі ім грэцкімі рукапісамі? І ці не маглі гэтыя папраўкі быць уключанымі нават і ў стараверчаскія кнігі, так як раскол ў Расіі пачаўся грунтуючыся на чыста знешніх прызнаках: праз загад хрысьціцца трыма пальцамі замест ранейшых двух, і праз змену першапачатковай арфаграфіі імя Ісуса на ІІсуса.

І тут жа мы зноў западаем у здзіўленне: калі да рэформы Нікона, г. азн. да 1654 гада пісалі Ісус, як гэта значыцца і ў суздальскім летапісе, належаўшым Маскоўскай духоўнай акадэміі, то якім жа чынам у Лаўрэнцьеўскім і Радзівілаўскім спісках ўжываецца ўжо скарочаная пасьля-Ніканаўская арфаграфія, як быццам бы гэтыя спісы складзены ўжо не раней заканчэння XVII стагоддзя?

Згадаўшы, што толькі патрыярх Нікан, гэты першы знаўца грэцкай мовы і збіральнік грэцкіх рукапісаў у Расіі, прызначыў аўтарытэт грэцкай навукі ў рускай царкве і зацвердзіў грэцкае царкоўнае ўладкаванне, здзейсніўшы адлучэнне і спасылку сваіх праціўнікаў Авакума і Няронава, мы прыходзім да пераканання, што і цітаты рускіх летапісаў із Бібліі і Евангелляў трэба яшчэ старанна параўнаць з да-Ніканаўскімі славянскімі текстамі, а гэтыя апошнія з лацінскімі і грэцкімі перакладамі Бібліі і Евангелляў. Я ж тут толькі пакажу на адзін вельмі істотны факт. У славянскай царкоўнай Бібліі змяшчаецца цэлая "Трэцяя кніга Ездры", якой няма ні па-грэцку, ні па-жыдоўску, а толькі ў лацінскай Вульгаце. А із гэтага вынікае, што наша славянская Біблія або цалкам, або часткова была перакладзена першапачаткова із лацінскай мовы, а не із грэцкай. Ва ўсякім разе ўплыў лацінізма на да-Ніканаўскую рускую царкву пасьля гэтага красамоўнага факта адкідваць немагчыма.

Пойдзем зараз далей.

Я ўжо меў выпадак паведаміць, што слова "арда" зусім не татарское, а лацінскае слова Ordo, г. азн. рыцарскі крыжацкі ордэн (каардынацыя).

Я паведамляў таксама, што і татар, як тэрытарыяльнага народу з такім найменнем, нідзе не існуе; ёсць толькі туркмены, нагайцы, кумыкі, карачаеўцы, трухмены, ахалцекінцы і г. д.

Выводзіць слова татары ад наймення "татань", якім быццам бы кітайцы называлі ў V стагоддзі адно із пазней знікшых мангольскіх плямёнаў у Манчжурыі, можна толькі із роспачы. Із геагафічных мясцовасьцей Усходняга СССР і на кантыненце Азія няма нівай з найменнем Татань або Татарыя. За Азіяй жа ёсць толькі "Татарскі праліў", які аддзяляе Японскае мора ад Ахоцкага, але і ён атрымаў такое найменне толькі ў XIX стагоддзі ад нашых рускіх маракоў, а мясцовыя насельнікі ніколі яго так не называлі. Тое ж самае можна сказаць і пра татараў, жывучых на месцы, ранейшага існавання Казанскага ханства, дзе зараз размешчана Казанская губернія. І тут назва татары не нацыянальнага, а рускага паходжання, так жа як і "немецкая" калонія на Ніжняй Волзе. Бо немцы толькі ў Расіі завуць сябе немцамі, а сапраўднае іхнае найменне – германцы.

І вось, да здзіўлення, толькі два месцы, якія і ў сябе маюць назву "татарскіх", знаходзяцца толькі ў Баўгарыі ці каля яе. І да гэтага часу там на рацэ Марыцы існуе з 16-тысячамі жыхароў горад Татар-Базарджык, г. азн. Базарчык. Ды яшчэ недалёка ад вусьця Днястра, паблізу гарада Акермана існуе вялікае баўгарскае мястэчка з некалькімі тысячамі жыхароў, якое называе сябе Татар-Канчак.

Такімі з’яўляюцца адзіныя дзьве геаграфічныя мясцовасьці, да гэтага часу маючыя назву татарскіх, як бы намякаючы, што самі жыхары тых мясцовасьцей некалі называлі сябе татарамі, а зараз называюць сябе ўжо "ваўгарамі" (згодна з

заходнееўрапейскім вымаўленнем баўгарамі)[81]. Дунай, да якога яны прылягаюць, не называецца больш Волгай, але відавочна ён некалі так называўся, таму што дапусьціць, што ваўгары-баўгары і ваўгары-валахі перакачавалі сюды ад Рускай Волгі, меўшай назву пад час сярэднevечча зусім не Волга, а Ітыль, азначае не лічыцца ні з якімі культурна-геагафічнымі ўмовамі.

Шмат лягчэй дапусьціць, што перакачавала на ўсход толькі ранейшае найменне Дуная – Падзяляючая рака (Фалег па біблейску, перайшоўшае ў Валег і затым ў Волгу, адкуль з'явіліся і імёны Алег і Вольга; адзначу, што і абедзве гэтыя міфічныя асобы жылі бліжэй да Баўгарскага Дунаю, чым да рускай Волгі).

І побач з той жа прыдунайскай мясцовасьцю паднімаецца вялізарны горны краж Высокія Татры (Высокія Татары) на мяжы Галіцыі, Маравіі і Вугоршчыны, з галоўнымі вяршынямі Герлахоўка, Ламенецкі Верх і Ледзяніцкі Верх, паднімаючыміся вышэй чым на 2600 метраў над узроўнем мора. А на поўдзень ад іх яшчэ ўзвышаюцца Ніжнія Татры (Ніжнія Татары), званые таксама Літоўскімі Татрамі і Зволенскімі Альпамі, галоўная вяршыня якіх Думбер паднімаецца на 2045 метраў. Вось адзіная Татарыя на зямным шары.

А яшчэ, у дадатак да ўсяго, із Татарскіх гор выцякае рака Гран, па берегам якой як і па абодвух баках гэтай часткі Дуная знаходзіцца графства Гран, дзе і амаль да нашага часу ў горадзе Гран існавала рэзідэнцыя каталіцкага прымаса (г. азн. намесніка папы для Вугоршчыны і Славянскіх краін ).

Гэты горад Гран згодна з мясцовым найменнем Астрыгом (Ostrihom ад Istro-Granum) быў падчас крыжовых паходаў важнейшым горадам Вугоршчыны. Пілігрымства туды рускіх князёў із Дняпра, з нагоды адсутнасьці сухапутных шляхоў, магло лягчэй за ўсё здзяйсняцца па Прыпяці і Стыры праз Львоў і Татарскія горы, з нагоды чаго і ўся гэтая мясцовасць магла атрымаць у рускіх назву Татры (Татары) згодна з самай заўважальнай для іх, жыхароў раўнін, прыкметай – цясьнінамі Татрскіх гор, а дкуль і выказванне: "праваліцца ў тартарары".

А на поўдзень ад іх, на Балканскай паўвыспе, мы маем, звыш таго, адзіныя два гарады на зямным шары, аднайменныя са сталіцай Залатога Ордэна (па стара-руску Залатой Арды) – Сараева, па-турэцку Босна-Сарай, галоўны горад Босніі, і проста Сарай, старажытны фарпост Цар-Горада, зараз маленькі гарадок.

Але я дадам яшчэ і нешта большае. Бо найменне Сарай паходзіць ад жыдоўскага слова Сара, г. азн. царыца, і па-руску замест Сарай належала б чытаць Царэя, г. азн. горад цара, інакш Цар-Горад. Яшчэ ў першым томе я пазначаў, што і горад Цір па-жыдоўску Цор (або Цур, або Цар), памылкова перанесены ў Сірыю, на самай справе з'яўляецца тым жа Цар-Горадам. А зараз мне даводзіцца адзначыць, што і "Сарай" Залатой Арды патрэбна было б чытаць ў рускіх летапісах: Царэя (г. азн. Цар-Горад) Залатога Ордэна. Дакладна гэтак жа і слова кесар, грэцкае Кай-Сар, г. азн. святы цар, таму што Кай, інакш Гай, ці проста Ай, азначае сьвяты, адкуль, напрыклад, і назва храма Мудрасьці ў Цар-Горадзе Айя-Сафія, і назва гары Ай-Петры – Святы камень – у Крыме і шэраг іншых мясцовасьцей[82]. Гэтую ж прыстаўку далучаюць і да некаторых царскіх іменаў, напрыклад Гай Юлій Цэзар, пры гэтым і само слова Цэзар, як я толькі што сказаў, з'яўляецца пераіначаным

[81] Нагадаю, што грэцкая літара В і ёсць па-руску В, і што толькі ў лацінскім шрыфце грэцкае В вымаўляецца як Б.

[82] Напрыклад, у тым жа Крыму Ай-Серэс (св. Сергій), Ай-Сава (св. Сава), Ай-Даніль (св. Даніiл), Ай-Прокл (св. Прокл), Ай-Тодар (св. Хведар)... І цікава, што ўсе яны хрысьціянскага паходжання, згодна з анамістыкай.

лацінамі словам Кай-Сар – Сьвяты-цар і горад Цезарэя (першапачаткова Кай-Сарайя) азначае "Сьвяты Цар-Горад".

Мы бачым, што ўсе анаматычныя сляды прыводзяць нас не на Волгу, а на Дунай, які, відавочна, раней і называўся ў славян Волгай.

Шукаць гэты Сарай – сталіцу залатога Ордэна, заснаванага Ба-цю-Ханам (г. азн. бацюшкай-святаром), або Батыем па-стараруску і проста Бацюшкай (папай) па-італьянскі, у стэпе за сучаснай Волгай можна было толькі таму, хто кіраваўся папярэднім перакана314нем, што для бога ўсё магчыма! І, усё ж, не знайшоўшы там нічога, давялося зрабіць выснову, што гэты скрозь зямлю праваліўшыся Сарай быў зьнішчаны не інакш як у 1502 крымскім (?) ханам Менлі-Гірэем, хаўруснікам Масквы[83].

І вось, адзначыўшы, што і само татарское ярмо ёсць нішто іншае, як рускае вымаўленне лацінскага jugum tartaricum, г. азн. пякельнае ярмо, і адзначыўшы, што яно было адначасова з крыжовымі паходамі, і з заснаваннем лацінскай імперыі на парэштках Візантыі, і што з грэцкага і рускага праваслаўнага боку гледжання рыцарскія ордэны павінны былі сапраўды здавацца пякельнымі ордамі (Ordines tartarici), я ўпершыню пачаў сумнявацца ў тым, ці сапраўды рускія летапісцы, у якіх апісаны, як у Крылова ў байцы, усе гістарычныя:

Казюлькі, маленечкія кароўкі,
якія, сапрады, меншыя чым булавачная галоўка...

не заўважылі "слана свайго часу" – крыжовых паходаў, з іх духоўнымі і свецкімі рыцарскімі ордэнамі, якія ў гэты самы час ціснулі іх жа Ўсход, ствараючы на славянскіх землях залежныя ад іх дзяржавы і распаўсюджваючы каталіцкую культуру?

Бо ў гэты самы час, у 1202 годзе (у момант заканчэння "пачатковага рускага летапісу" псеўда-Нестара і пачынання яе Радзівілаўскага працягу) на самым пачатку стварэння Лацінскай імперыі на Балканах ў Рызе біскупам Альбертам Буксгеўдэнам быў заснаваны рыцарскі Ордэн (або Арда) мечаносцаў, які пазней у 1237 годзе злучыўся з тэўтонскім ордэнам, існаваўшым да 1561 года.

І каля гэтага ж часу Тэўтонскі ордэн (па-стараруску "Нямецкая арда"), заснаваны крыжакамі ў 1128 годзе "ў вызваленым Іерусаліме", пакінуў яго і усталяваўся ў Варшаве і распаўсідзіўся на ўсход, прычым яго рыцары былі пераможаны ў 1242 годзе Аляксандрам Неўскім на Чудзкім возеры.

У "Летапісе згодна са спісам Лаўрэнція" пра гэта гаворыцца: "*У лета 6750* (1242 год згодна з нашым злічэннем). *Вялікі князь Яраслаў сына свайго Андрэя ў Ноўгарад Вялікі на дапамагу Александраві на немцы і перамажы іх у Плесковым* (пад Псковам) *на возеры і ў палон шмат каго паланіў і вярніся Андрэй да бацькі свайго з гонарам*".

А згодна са спісам Маскоўскай духоўнай акадэміі: "*У лета 6750* (1242). *Хадзіў Аляксандр Яраславіч з наўгародцы на немцы і біўся з імі на Чудзьскім возеры каля Вароніна каменя і перамог Аляксандр і гнаў* (немцаў) *па лёдзе 7 вёрст, сякучі іх"*.

Вось адзінае згадванне ў нашых асноўных летапісах пра сутыкненне рускіх князёў з рыцарскімі ордэнамі, але без ужывання назвы арда. Пераможаны Аляксандрам Неўскім Тэўтонскі ордэн к гэтаму часу ужо набыў нямецкі нацыянальны характар, вёў (разам з Лівонскім ордэнам) у XIII-XIV стагоддзях пастаянныя войны з Літвой, Польшчай і Паўночна-Западняй Руссю, але пасьля

[83] Гл.: Врун. Працы III Археалагічнага Сходу. 1879 т. I.

паразы, нанесенай яму палякамі і літаўцамі ў Таненбергскай бітве (1410), ледзь існаваў, перасяліўшыся ў Прырэйнскі край ці Франконію, дзе і існаваў аж да Напалеона I. Але самым цікавым з нашага боку гледжання з'яўляецца "ордэн Святога Крыжа". Праз 13 гадоў пасьля заснавання Лацінскай імперыі рыцары гэтага ордэна пачалі пранікаць (з 1217 года) з паўднёвай Францыі ў Багемію, Маравію, Сілезію і Польшчу і, верагодна, таксама і ў Паўднёва-Заходнюю Русь. Іхны камандор і благачынныя насілі на грудзях залаты мальтыйскі крыж, а таму і сама гэтая корпарацыя лёгка магла атрымаць назву "Залатога Ордэна", або "Залатой Арды" па стара-руску, хаця яе сябраў звычайна называлі рыцарамі "Чырвонай Зоркі", таму што шэраговыя сябры насілі на сабе толькі крыж з чырвонага атласу з шасьцікутнай чырвонай зоркай.

Мы бачым, што гэтая "Залатая Арда" распаўсюдзілася па балканскіх славянскім землях з захаду як раз у той час, калі згодна з рускімі летапісамі ў Паўднёва-Заходнюю Русь прыйшлі татары (1237-1240 гг гг.) І адбылося на яе Бацяева (Батыева) нашэсьце, якое пазней мела наступствам пераход да Польшчы і Літвы ўсяго Кіеўскага княжества аж да Чорнага мора.

Гістарычная наука, як я ўжо не раз выказваўся, павінна перш за ўсё пагадняцца з фізічнымі і геаграфічнымі магчымасьцямі паведамляемых ў яе першакрыніцах падзей.

Вось, напрыклад, мапа Крыжовых і "Татарскіх" паходаў, складзеная згодна з маім прашэннем праф. К. Р. Мрочакам. Яе правая частка паказвае "татарскія паходы", нанесеныя на "мапу Русі ад 1054 па 1240 гады" із навучальнага Атласа па рускай гісторыі", складзенага М. М. Тарнау і выдадзенага ў 1916 годзе. Западозрыць яе ў якім-небудзь "адхіленні" ад артадаксальнай наукі нельга, так як яна, разам з усім атласам, была ўхвалена тагачасным Міністэрствам Народнай Асветы для выкладання ў яго навучальных установах, тоўстая лінія направа ўнізе, ідучая ад Татраў да Данца і губляючаяся тут, падзяліўшыся на два адгалінаванні, паказвае шлях татар пад правадырствам Баці-хана (Батыя) у 1240-1241 годах.

Скажыце, адкінуўшы зацвердзіўшыяся ў вас уяўленні, якія могуць быць і тэндэнцыйнымі, а кіруючыся адным толькі здаровым сэнсам: адкуль павінен быў ісьці гэты вайсковы "татарскі" паход? Ці із Татарскіх (г. азн. Татрскіх) гор – з моцнай і шматлюднай Венгрыі – у бязлюдныя тады (як відаць і па мапе) стэпы навокал ракі Данец, каб скончыцца тут з нагоды малюднасьці? Ці, наадварот: узнікшы ў малалюдных стэпах і адначасова нават у двух пунктах каля Данца, зліцца потым у Пераяслаўцы паблізу Кіева, і затым пераможна, узяўшы магутныя гарады Кіеў, Уладзімір Валынскі і Галіч – згубіцца ў Вугоршчыне ў Татрах?

І здаравы сэнс, і геаграфія кажуць нам, што такі паход, які тут намаляваны, мог ісьці толькі са шматлюднага, заможнага і культурнага захаду, на амаль бязлюдны ўсход качуючых народаў. А калі хто-небудзь скажа, што географ Тарнау толькі пачаў маляваць яго з гэтага пустога месца, а пачаўся ён яшчэ ў аддаленых мангольскіх стэпах, то я адкажу: тым больш немагчымым робіцца такі паход. Ды і не намаляваны ён тут на ўсход ад ракі Данец толькі таму, што для далейшага працягвання гэтай лініі на ўсход, хаця б да Волгі, няма ніякай магчымасці: нідзе пра падобнае не згадваецца ў гісторыі гэтага пахода.

А вось і яшчэ сюрпрыз. Бітва на Калцы, на беразе Азоўскага мора, паведамляе нам летапісец, была ў траўні 1223 года, а ў Атласе Тарнау гэты "татарскі паход" адбыўся ў 1224 годзе і іншага не было. Але тут зацвердзіліся

генуэзцы, а гэта азначае, што і гэтая бітва адбылася паміж татрскімі крыжакамі і генуэзскімі каланістамі. А на чыім баку былі рускія?

А тая акалічнасць, што артадаксальныя гісторыкі XIX стагоддзя лічаць, што Батый тут, на Данцы, быў летам 1240 года, а ў Татрах летам 1241, то я адкажу, што лета 1240 года, злічваемае згодна з вераснёўскім усходнім пачаткам года, і будзе летам 1241 гада згодна з заходне-еўрапейскім сакавіцкім пачаткам года. А акрамя таго, падмена магла быць зроблена і тэндэнцыйна, калі пажадалі замяніць татрскі крыжацкі духоўны ордэн – татарскай ардой[84].

Усё гэта станавіцца яшчэ больш відавочным, калі вы параўнаеце паход Арды Батыя (ордэна Баці-Папы) з папярэднічаўшымі паходамі крыжакоў той жа самай эпохі. Зірніце на заходнюю частку той жа самай мапы Яўропы, паказваючую папярэднічаўшыя Батыю шляхі крыжкоў і, калі школьны гіпноз не асляпіў канчаткова вашы вочы, то вы самі скажаце, што паход Батыя ў 1239 годзе з'яўляецца працягам таго ж Drang nach Osten, якім выкліканы і 4-ы крыжовы паход. Толькі згадайце: у 1238 годзе быў зацверджаны папай Рыгорам магутны духоўны ордэн "Носьбітаў крыжа ў Багеміі, Сілезіі, Маравіі, Татрах і Польшчы", гросмайстар якога лічыцца першым прэлатам Багеміі і да гэтага часу знаходзіцца ў Празе, носячы разам з камандзірамі залаты крыж, так што ў прастамоўі мог называцца Залатым ордэнам або – Залатой ардой. Яго мэтай было – распаўсюджванне папскага хрысьціянства ў славянскіх краінах ў хаўрусе з рыцарскімі ордэнамі, із якіх тут быў тэўтонскі. І ў гэты ж час мы бачым на мапе паход Баці-хана. Заходні канец Залатой Арды гэтага пахода знаходзіўся як раз у мясцовасьці гэтага Залатога ордэна, а правы, раздваіўшыся ў Кіяві на дзва разгалінаванні, губляецца ў апошніх населенных местах таго часу паміж Донам і Данцам. Дык як жа можна нават падумаць, што рух Бацяевай арды было ў адваротным накірунку.

Вось, на той жа мапе ў Прыбалтыцы вы бачыце, ўзнікшыя якраз за некалькі гадоў да пахода Батыя "Валоданні Лівонскага ордэна крыжакоў (1202-1237) і валоданні "Тэўтонскага ордэна (1226)". А дзе ж духоўны Ордэн Святога крыжа, самы ўплывовы із усіх? Бо ён жа і быў у Татрах, і па ўсёй Вугоршчыне, і па рэках Прут і Днестр, дзе на мапе пазначаны печанегі, г. азн. печнікі, сугучна з найменнем галоўнага вугорскага гарада Пешт, па-славянскі град "Пешчь" і па-нямецку да гэтага часу Ofen... А ў Заволжжы ніякіх "ордаў" на гістарычных мапах яшчэ не пазначана. Такія назвы для вандруючых нагайцаў, а потым і манголаў, з'явіліся ўжо пазней і, можна думаць, таксама не без сувязі з каталіцкімі місіянерамі, калі не вайсковых, то чыста духоўных ордэнаў:... францысканцаў, мінарэтаў і г. д., даўшых пачатак і будызму. Само слова татары відавочна выйшла із Татрскіх гор і распаўсюдзілася на ўсход, ахапіўшы рознапляменнае насельніцства, прычым, напрыклад, у Грузіі гэта слова набыло сэнс нацыянальнай назвы турак.

Але вернемся да нашай гістарычнай мапы. Вось, на яе сярэдзіне направа вы бачыце, як той жа ордэн Батыя (або баці-хана) абышоў недарэчным чынам ўсю сярэднюю Расію паміж 1236 і 1238 гадамі. Для мухі, ходзячай па нашай мапе, такая вандроўка цалкам магчымая, але наколькі яна геагафічна, кліматычна (тры зімы !!!) і фізічна дапасее да вялікага войска сярод напалоханага рэдкага насельніцства,

---

[84] Слова "ордэн" (ordo) пры зневажальным ўжыванні ў рускіх таксама лёгка павінна было набыць сэнс дзікай "арды", як, напрыклад, і імя мудрага цара Саламона, па жыдоўску Шалома, набыло сэнс шэльмы; імя Юлія Цезаря (па-французску Жуля) ператварылася ў памяншальнае слова "жулік" і як імя Карла Вялікага дало нагоду насмешліва называць вельмі маленькіх людзей карлікамі.

разбягаючагася ва ўсе бакі ад чужынцаў-іншаверцаў, якія прыйшлі з невядомай Манголіі праз пустыні і стэпы.

Іншая справа, калі пад імем Батыя мяркуецца "баця" (па заходняму "папа"), а пад найменнем яго паходу – два асобныя крыжовыя паходы папскага Лівонскага ордэна. Пачаўшыся каля Русы, у Наўгародзкай вобласьці, адзін сапраўды мог ісьці на поўдзень да Курска, а другі ў Кастраму, а затым разам з масквічамі і ў Разань, і нават на Волгу. А для аднаго і таго ж пахода, і прытым ад Каспійскага мора (слядоў да якога таксама няма) усякая магчымасць такой вандроўкі цалкам выключаецца.

Такім чынам, ужо просты погляд на геагафічную мапу "татарскага нашэсьця" кажа нам, што яно было ў сувязі з крыжовымі рыцарскімі паходамі, і што слова "арда" з'яўляецца нічым іншым, як ordo, па-руску – ордэн.

Зірніце зараз і на наступную мапу, на якой параўнаны геагафічна і храналагічна татарскія паходы з крыжовымі. Што ж вы тут бачыце? Нешта вельмі дзіўнае: на берегах Балтыйскага мора заснаваліся два ордэны – Тэўтонскі і Лівонскі, а каля Чорнага мора – дзве арды: Эдэская і Крымская. Якое дзіўнае супадзенне, калі гэта не разныя станавішчы аднаго і таго ж крыжацкага паходу лацінян на ўсход.

А далей мы бачым яшчэ больш уражваючыя супадзенні:

Два паўночныя пахода арды Батыя (г. азн. ордэна бацюшкі, баці) відавочна ідуць із лівонскага папскага ордэна, праз Русу: адзін – у 1237 на Таржок, дзе дае адгалінаванне на Маскву і Разань, а другое адгалінаванне на Яраслаўль, Уладзімір на Клязьму і відаць уздоўж Волгі аж да Казані, дзе і заканчваецца ў 1237 жа годзе. А другі паўночны паход ідзе з Русы на Казельск і заканчваецца ў 1238 годзе ў Варонежы.

А паўднёвы паход "татаравей" відавочна ідзе із Татроў, дзе усталяваўся "Залаты ордэн" крыжакоў ("Залатая Арда" бацюшкі-Батыя), правадыры якога насілі на грудзях залатыя крыжы. Пачаўшыся ў Татрах ў 1239 годзе, ён у гэтым жа годзе дайшоў да Галіча, Уладзіміра-Валынскага і закончыўся за Кіевам у Переяслаўлі, а другое яго адгалінаванне, ідучы на Чарнігаў, закончылася ў Зьміяве ў 1240 годзе.

Незалежно ад гэтага была яшчэ бітва з Нагайскай Ардой (нагайскім ордэнам генуэзцаў) у 1224 годзе.

Вось і ўсе "татарскія нашэсьці". Відавочна і геагафічна і храналагічна, што гэта быў працяг крыжовых паходаў, намаляваных на гэтай жа самай мапе. Гэта быў той жа Drang nach Osten (напор на Ўсход). Першы паход быў ў 1096 годзе із Метца; другі ў 1202 годзе із Венецыі; трэцці (згодна са злічэннем нашай мапы) з Рыгі праз Русу ў 1237 годзе і чацьвёрты із Татраў у 1239 годзе.

Із усяго відавочна, што дайшоўшыя да нас тэксты рускіх летапісаў некім тэндэнцыйна адрэгаваны ўжо нашмат пазней чым былі крыжовыя паходы, г. азн. скасавання ўніі (г. азн. Татрскага іга) на Русі. Адзначу тут красамоўнае храналагічнае супадзенне: у 1441 Ерусалімскі сабор ўсходняга святарства адхіліў "унію" ўсходняй царквы з заходняй, а пасьля гэтага вялікі князь Маскоўскі Ян III Васільевіч адружыўся з грэцкай царэўнай Сафіяй, скасаваўшы татарскае (г. азн. татрскае) ярмо, інакш кажучы, ярмо заходне-еўрапейскіх крыжакоў.

У дадатак я змяшчаю яшчэ адну мапу із афіцыйнага гістарычнага атласа, які ўжываўся пры царскім рэжыме ва ўсіх сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Расіі.

"*Ужо пры* (відавочна, прапушчана старонка) *свайго Кондафларэнда* (таго ж compte de Flandre)[85] *са сваімі біскупамі і раздзялі: цару* (Кондафларэнда) *далі ўладу, Маркасу (Маркізу) – суд, а дужу* (Венеціянскаму дожу) – *дзесяціну* (дзесятую частка)*", траўня 30 пры памінанні сьвятога пакутніка Ярэміі. А Васілька пачуўшы пра адбыўшаяся на Русі, вярнуўся ад Чарнігава, захаваны Богам, і магутнасьцю сумленнага крыжа, і малітвай бацькі свайго Кастуся і стрыя свайго Рыгора, і ўвайшоў у свой Растоў, славячы бога і святую багародзіцу*".

Доказам таго, што гэтая ўстаўка вельмі позняя, зробленаная чалавекам знаёмым з Крыжовымі паходамі ўжо гістарычна і здзіўленым, што пад 1204 годам у яго першакрыніцы нічога няма пра такую сусветную падзею, як ўзяцце Цар-Горада франкамі, служыць тое, што 1) слова фраг лічыцца ўжо адрозным ад слова вараг; 2) што яно ўжыта толькі ў Наўгародзкіх копіях і 3) толькі для дадзенага выпадку толькі пад 1204 годам і больш нідзе. А франкі ж сядзелі валадарамі ў Цар-Горадзе да 1261 года! Ды і пад 1261 годам, калі Міхал III забраў у іх назад Цар-Горад і аднавіў у ім праваслаўе, пра такое вялікае сьвята, з боку гледжання праваслаўнага монаха, няма ні слова не толькі ў больш асноўных, але і ў самім гэтым Хартыйным Наўгародзкім летапісе.

Із гэтага відаць, што першапачатковыя рускія летапісы не адзін раз тэндэнцыйна падчышчаліся і папаўняліся аж да таго часу, калі яны патрапілі ў нашы дзяржаўныя кнігасховішчы.

Сучасны іх даследчык павінен мець усё гэта на ўвазе і кіравацца перш за ўсё не літарай тэкста, а сваім уласным здаровым сэнсам.

Цікава прасачыць, з гэтага боку гледжання, кім лічылі татары ў асноўных рускіх летапісах.

Упершыню яны згадваюцца пад 1223 (6731) годам, г. азн. праз 7 гадоў пасьля таго, як рыцары толькі што заснаванага Ордэна Залатога Крыжа дайшлі із Паўднёвай Францыі да Багеміі, Маравіі і Польшчы. Вось, што гаворыцца ў Суздальскім летапісе згодна са спісам Лаўрэнція і паўторана амаль ва ўсіх іншых, у тым ліку і ў толькі што цытаваным "Хартыйным спісе Наўгародзкага летапісу".

"*Таго ж лета (1223) з'явіліся языцы (г. азн. іншаземцы), іх жа ніхто добра ясна не весць, хто суць і одколе ізашлі, і якая мова іх і якога яны племені і якая вера іх. І клічуць іх татары, а іншыя глаголюць таумены* (у іншым месцы таурмены), *а іншыя завуць іх печэнезамі (печнецы? ад Буда-Пешта, Афена?), а іншыя глаголюць, яка яны суць, пра якіх Мяфодзій Патарскі біскуп сведчыць, што сышлі із пустыні Етрыўвскай між усходам і поўначчу... Мы ж іх не вемы, хто суць, але тут запісалі пра іх дзеля памяці пра бяду рускіх князёў, якая была ад ніх*[86]*. І мы чулі, што яны шматлікія краіны паланілі: Ясы* (Ясы, першапачатковая сталіца Малдавіі, зараз румынскі горад, які згодна з заходнімі першакрыніцамі як раз у гэты час і быў захоплены рыцарамі святога крыжа), *Абезы* (Abbazia ў Істрыі на Адрыятычным моры)*, Касогі* (Косава ў Сербіі?) *і ізбілі шмат палавец бязбожных, а іных загналі, так што яны* (полаўцы) *ізмёрлі забіваемыя гневам Божым і прачыстай яго маці, шмат бо зла сатварылі ці акаянніі полаўцы Рускай зямлі. Таго радзі ўсяміласьцівы бог, хацяпагубіці і пакараці бязбожных сыноў Ізмайлавых Куманаў, паслаў*

[85] Цікава, што гэтыя імёны бліжэй да ангельскага, чым да французкага вымаўлення: Кандоф Афландр больш падобна на count of Flandre, чым на compte de Flandre і г. д.

[86] Слова "таумен" сугучна з англа-саксонскім Town man, гарадзкі чалавек, а слова "таурмен" сугучна з англа-саксонскім Tower man – вежавы чалавек, а таксама з франкскім Thurmman – таксама вежавы чалавек, так як рыцары жылі ў замках, якія мелі выгляд агароджаных веж.

(татар[87]) *адпомсьціць кроў хресцьянскую, што і адбылося над беззаконнымі. Прайшлі бо тыя Таурмены ўсю краіну Куманскую* (краіну кумаў) *і пайшлі паблізу Русі там, дзе вал Палавечскі. Пачуўшы гэта Рускія князі Мсціслаў Кіеўскі і Мсціслаў Тарапечскі і Чарнігаўскі, і іншыя князі, задумалі ісьці на іх, думаючы, што тыя* (татары-таумены) *ідуць да іх. І паслалі яны ў горад Валадзімер да вялікага князя Юрпо* (Рыгора), *сыну Всеваложу, просячы помачы ў яго. Ён жа паслаў да іх благачасьцівага князя Васільку, сынаўца свайго, Кастусёвіча, з растоўцамі, але не паспеў Васілька прыйсьці да іх у Русь. А князі Русіі пайшлі і біліся з таурменамі, і пераможаны былі ад іх, і мала іх пазбегла сьмерці. Тыя, што жывымі засталіся збеглі, а іншыя ізбіены былі. І Мсціслаў, стары добры князь, тут забіты быў, і другі Мсціслаў, і іншыя 7 князёў ізбіены былі, а баяраў і іншых ваяроў многае мноства; глаголюць бо тако, яка кіян адных ізгібла на палку тым 10 тысяч. І быў плач і туга ў Русі і па ўсёй зямлі, калі чулі гэтую бяду. Зло ж сіе сключылась месяца*".

Зараз палаўцы або куманы, а таксама таўмены або таурмены-татары лічацца цюркскімі плямёнамі, прыйшоўшымі із Азіі. Але гэта ўсё здагадкі народашуканікаў XIX стагоддзя, якія імкнуліся ўсе незразумелае для сябе ў летапісах пераносіць у Азію. Такое дзеянне было самым лёгкім, каб выйсьці із цяжкасьці: у Азію можна было выправіць што заўгодна бяручы да ўвагі адсутнасць тамашняй уласнай гісторыі. А факт той, што XIII стагоддзе застае таурменаў-татар ў Вугоршчыне, на Балканскай паўвыспе, у заходняй Русі і бачыць іх, як крыжакоў, заходзячымі нават у Ягіпет і ў Закаўказзе. Ды і назву куманы, нагадваючую славянскую звычку хрысьціянскага перыяду называць адзін аднаго кумамі і братушкамі, нам няма патрэбы шукаць далёка: і да гэтага часу Ўсходняя Вугоршчына паміж Дунаем і Татрскімі (г. азн. татарскімі) гарамі называецца Куманіяй, а яе жыхары куманамі.

Згадаем, акрамя таго, што ў тых жа пазначаных краях існавала сугучнае з палаўцамі Полацкае княства, у склад якога ўваходзілі і да гэтага часу існуючыя гарады Полацк, Віцебск, Магілёў і Менск, дзе і да гэтага часу, акрамя асноўнага земляробчага насельніцтва, маецца значны адсотак гарадзкіх жыдоў[88] і нават частка агаран. Лічачы іх за пераараджэнне першапачатковага арыянства (так як мне ўжо давялося давесьці, што Арый і Арон адна і тая ж асоба), мы можам прыйсьці да высновы, што пануючы стан Полацкага княства быў у XII стагоддзі арыянскага веравызнання, аднолькава непрыемлемы і крыжакамі, і рускімі, а дсюль паходзіць ідэя, што татарамі ці, дакладней, тартарамі (людзьмі, асуджанымі ў тартарары) называліся евангельскімі хрысьціянамі наогул усе арыяне.

Лацінское слова Ordo (адкуль наше слова каардынацыя) вымаўляемае намі зараз як ордэн у сэнсе карпарацыі, а летапісцамі як арда, ні разу не сустракаецца ў "пачатковым летапісе", як і павінна быць, таму што ён заканчваецца 1110 годам да з'яўлення крыжацкіх рыцарскіх ордэнаў у славянскіх краінах. А на працягу гэтага летапісу і як раз толькі ў перыяд валадарання рыцарскіх ордэнаў у славянскіх землях, гэтую назву сустракаем шмат разоў.

[87] Г. азн. "татары" лічыліся абаронцамі хрысьціян ад магаметан.

[88] У Магілёўскай губерніі на прыканцы XIX стагоддзя праваслаўныя беларусы складлялі 84% насельніцтва, юдэі – 12% і палякі і рускія – 4%. У Віцебскай губерніі, дзе знаходзіўся Полацк, беларусы на прыканцы XIX стагоддзя складлялі 60% насельніцтва, латышы 20%, юдэі (ў гарадах і местечках) 10%, рускія раскольнікі 5%, 4% палякі і немцы 1%; у Менскай губерніі было 71% беларусаў, 13% юдэяў, 10% палякаў, але тут жа ёсць і агаране, званыя хрысьціянамі татарамі.

Паглядзім, што атрымаецца, калі ў текстах рускіх летапісаў я замяню слова арда на ордэн.

Вось, напрыклад, у Суздальскім спісе Лаўрэнцьеўскага летапісу:

"*У лета 6792* (1284 год). *Прыйшоў* (Курскі князь) *Алег із Ордэна з татарамі і забіў Святаслава* (Ліпавічскага князя) *згодна з цесаравым словам* (за тое, што той зрабіў напад на праходзячы караван)".

А пра месцазнаходжанне ордэна ні слова. Затым у Суздальскім летапісе згодна са спісам Маскоўскай духоўнай акадэміі мы знаходзім: "*У лета 6752* (1244 года*). Прыйшлі ў Ордэн Валадзімір Каньсьцянцінавіч* (князь Вугліцкі) *Васіль* (князь Яралаўскі) *Усеваладавіч, Барыс* (Князь Растоўскі)*, ды Глеб Васількавічы* (Князь Белазёрскі) *просячы сваю отчыну, і пажаловаў іх князямі Батый* (г. азн. Бацяй-Бацюшка, гросмайстар ордэна)".

А ў Лаўрэнцьеўскім Суздальскім працягу Радзівілаўскага спіса мы маем пад тым жа годам 1244: "*У лета 6752. Князь Валадзімер Кансцянцінавіч, Васіль Усеваладавіч, Барыс Васількавіч са сваімі мужамі паехалі ў Татары* (г. азн. Татры?) *да Батыеві* (прасіць) *пра сваю отчыну. Батый оке ўшанаваў іх гонарам, годнаю і адпусьціў кажнага у сваю отчыну*".

Мы бачым, што тут замест Арды паказана нейкае месца, званае Татары. А месцы з падобнымі назвамі (Татар-Базарджык, Татар-Канчак і горы Татры) маюцца толькі ў Вугоршчыне, Баўгарыі і Бесарабіі.

Для 1257 гада ў Суздальскім летапісе пазначана: "*У лета 6765. Прыйці ўсе князі ў Ордэн ушанаваць Улоўчыя* (пераемніка Бацяя) *і ўсіх ваяводаў яго і возвраціліся ва сваясі*".

А ў Лаўрэнцьеўскім працягу Радзівілаўскага спіска знаходзім пад тым жа годам: "*У лета 6765* (г. азн. у 1257 годзе*). Паехалі князі ў Татары* (Татры-Карпаты)*, Аляксандр* (Неўскі)*, Андрэй* (Суздальскі)*, Барыс* (Растоўскі) *ўшанаваць Улоўчыя і вярнуліся на бацькаўшчыну. Той оке зімой прыехаў Глеб Васількавіч* (князь Белазёрскі) *з Кану-зямлі* (із зямлі Хана) *ад цесара (Kaiser'a) і адружыся ў Ордэне*".

У 1282 годзе ў Суздальскім летапісе знаходзім: "*У лета 6790 хадзі Ігнацій біскуп другі раз у Ордэн з нагоды царкоўнага прычту*" (А якая была справа да прычта магаметаніну?)

У 1293 годзе (ў Суздальскім летапісе) знаходзім: "*У лета 6801. Прыйшлі ўсе князі ў Ордэн і* (з імі) *ўладыка Тарасій. Таго ж лета прэставіўся князь Міхал Глебавіч у Ордэне і прынесены быў у Растоў. Таго ж лета прыйшлі із Ордэна князі Андрэй, Зьміцер (Растоўскі), Хведар* (Растоўскі)*, Кансцянцін* (Растоўскі), *і з імі* (г. азн. у дапамогу ім) *цар Дюдзень* (Дзю-Дэні?), *з рацыю на вялікага князя Зьміцера Ўладзімірскага). Князь жа збег ў Пскоў. Татараве ж узялі Валадзімір, Пераяслаў, Маскву, Волак і 14 гарадоў і шмат зла стварылі ў рускай зямлі*". (У спісе Лаўрэнція гэты ліст запісаў кімсьці вырваны).

Тут, як бачыць чытач, татары (г. азн. татрскія горцы) знаходзяцца на службе ў Ордэна, які зацверджвае князёў. А далей мы знаходзім: "*У лета 6803* (1295 года). *Князь вялікі Андрэй ідзе* (ішоў) *у Ордэн, з княгіняй*". (Гэта ёсць толькі ў Суздальскім летапісе).

"*У лета 6803* (1302 год). *Адружыўся князь Кансцянцін* (Растоўскі) *ў Ордэне ў Кутму-Корткі* (нейкае пераіначанае іншаземнае найменне), *а Хведар Міхайлавіч* (таксама Растоўскі князь) *у Велбласмыша* (толькі ў Суздальскім летапісе)".

Гэта азначае там меліся і святары для вянчання князёў.

"*У лета 6813* (1305 год). *Прыйдзе із Ордэна князь Міхал Яраслававіч* (зацверджаны там) *на вялікае княжанне* (у Цвяры, і гэта толькі ў Суздальскім летапісе)".

Тут заканчваецца Суздальскі летапіс згодна са спісам Лаўрэнція. Далей бяру із Суздальскага ж летапісу згодна са спісам Маскоўскай духоўнай Акадэміі.

"*У лета 6821* (1313). *У Ордэне сеў на царства Азбяк".* Гэтае імя лічаць за Узбека або Уз-бега, але якім бы ні было яго сапраўднае вымаўленне, ён моцна ўзвысіў Маскву сваім асаблівым заступніцтвам за яе князя Юр'я Данілавіча, адружанага з яго сястрой Канчакай[89] (інакш Агафіяй), і абвясьціў у 1328 Маскоўскае княства Вялікім Княствам.

"*У лета 6823* (1315 год). *Прыйшоў із Ордэна* (зацверджаны на княжанне) *князь Міхал Яраслававіч* (вялікі князь Цвярскі) *і з ім пасланнікі Тайтмер, Махража і Інды* (нейкія пераіначаныя іншаземныя прозвішчы) *і былі яны ў Расттове і шмат зла сатварылі*".

"*У лета 6822* (1314 год). *Прыйшоў із Ордэна князь Растоўскі Васіль, і з ім паслы Сабанчы і Казанчы* (нейкія пераіначаныя італьянскія прозвішчы)".

"*У лета 6825* (1317 год). *Прыйшоў із Ордэна князь Юры* (Рыгор) *Данілавіч* (зацверджаны на княжанне ў Маскве)*, і з ім Каўгадзі* (зноў пераіначанае іншаземное імя). *І біўся Юры з князем Міхалам* (Цвярскім) *і дапамог бог Міхалу князю* (а Юры быў забіты) *і княгіню Юр'еву* (Кончаку-Агаф'ю) *узяў* (сабе) *Канчак* (пасланнік Ордэна)".

"*У лета 6826* (1318 г.) *Прыехаў Конча* (той жа Канчак[90]) *у Растоў і шмат зла сатварыў. Царкву Святыя Багародзіцы парабаваў і ўсе цэрквы і кляштары, і вёскі, і людзей паланіў* (прызначыў даніну?)".

"*У лета 6830* (1322 год). *Прыйшоў із Ордэна князь Ян Данілавіч, а з ім паганы Ахмул* (пасланнік Ордэна, пераіначанае іншаземнае прозвішча) *і паланілі* (яны) *шмат людзей і пасеклі, і горад Яраслаўль спалілі мала не ўвесь. Той жа зімой прыйшоў із Ордэна князь Зьміцер Міхайлавіч* (зацверджаны) *на вялікае княжанне* (у Цвер)".

"*У лета 6835* (1327 год). *Прыйшла із Ордэна раць на Русь 5 цемнікаў, і з імі* (г. азн.  прывёў іх) *князь Ян Данілавіч* (г. азн.  Ян Каліта) *і паланіў град Цвер і ўсёй зямлі шмат зла сатварыў. А князь* (Цьвярскі) *Аляксандр збег із Цьвяры ў Пскоў. Тады забілі князя Яна Яраславіча Разанскага*".

А для наступнага 1328 года маем:

"*У лета 6836. Сеў* (г. азн.  быў прызначаны Ордэнам) *князь Ян Данілавіч* (Каліта) *на вялікае княжанне* (у Маскве) *і была цішыня па ўсёй зямлі*".

Мы бачым, такім чынам, што калі пасланнікі Ордэна і сваволілі дзе-небудзь, то заўсёды згодна з запрашэннем якога-небудзь рускага князя за якога яны заступаліся, а калі і забівалі аднаго, то заўсёды праз нагавор іншага. Але пойдзем далей:

"*У лета 6849* (1344 год). *Прэставіўся вялікі князь Ян Данілавіч* (у Маскве). *Той жа вясной* (сын яго) *Сямён Янавіч з брацііяй пайшоў у Ордэн* (для зацвярджэння вялікім князем) *і тым жа летам выйшаў із Ордэна на вялікае княжанне*".

"*У лета 6865* (1357 год). *Аляксей мітрапаліт* (усяе Русі) *хадзіў у Ордэн* (на зацверджанне)".

---

[89] Падобнае найменне сустракаецца толькі ў Бессарабіі, дзе ёсць пасяленне Татар-Канчак.

[90] Такая назва ёсць у Бесарабіі: горад Татар-Канчак.

Мы бачым, што нават і мітрапаліты атрымлівалі прызначэнне ў Ордэне! Гэта азначае, былі адзінавернымі з ордэнскімі рыцарамі.

"*У лета 6867* (1359 год). *Прэставіўся князь Ян Янавіч* (сын "Каліты") лістапада 12. Хадзілі ўсе князі ў Ордэн і той оке зімой быў забіты цар (Ордэна) Кульпа".

"*У лета 6868* (1360 год). *Забілі цара* (ордэна) *Паўруза* (Paulus) *і па ім сеў Хадзір* (пераіначанае іншаземнае імя) *і даў княжанне вялікаму Зьміцеру Суздальскаму і кажнаму князю отчыну яго*".

"*У лета 6869* (1362 год). *Забілі цара* (гросмейстэра Ордэна) *Хадзіра. Тады оке парабалі* (праз нагаворы) *князёў растоўскіх у Ордэне і пусьцілі іх нагіх*".

"*У лета 6900* (1391 год). *Месяца 24 кастрычніка прыйшоў із Ордэна ў Маскву вялікі князь Васіль Зьмітравіч*".

І, нарэшце, для 1413 года.

"*У лета 6920... пайшоў вялікі князь Васіль Зьміцеравіч* (із Масквы) *у ордэн, а із Ордэна* (прыйшоў назад) *той жа восенню*".

Услед за гэтым на 1419 годзе Суздальскі летапіс і заканчваецца.

Падумаем трохі з нагоды толькі што прыведзеных мною фактаў і не будзем, як малалетнія дзеці, якія вераць усяму, што ім скажуць іншыя.

Вось, у перыяд ад 1244 па 1413 гады рускія князі знаходзіліся ў відавочнай леннай залежнасьці ад нейкага магутнага Ордэна (па латыні ordo, па стара-руску Арда). А за сем гадоў да пачатку гэтага перыяда, у 1237 Лівонскі вайсковы рыцарскі ордэн аб’ядноўваецца з Тэўтонскім і пачынае з Захаду насядаць на славянскіе землі, у якіх яшчэ не склалася буйной дзяржаўнасьці... Поспех дастаецца яму, вядома, не без барацьбы.

Возьмем звычайную рускую гісторыю. Што нам яна паведамляе? Вось звычайная версія, пра якую я ўжо вышэй згадваў. Аляксандр Неўскі, стаўшы наўгародзкім князем, не толькі апынаецца на Няве ў 1240 годзе супраць шведаў, якія ішлі на Ноўгарад "крыжовым паходам" згодна з загадам папы, за што і атрымлівае сваё пайменне, але і выганяе із Пскова рыцараў Лівонскага ордэна. І аднак жа, перамогшы такую магутную арганізацыю, праз 8 гадоў падпарадкоўваецца, каму б вы думалі? Князьку вандруючых заволжскіх іншаверцаў, да якога і дайсьці-та із Ноўгарада было амаль немагчыма ў той час! Зірніце толькі на геаграфічную мапу! І падумайце хоць бы трохі пра тое, што тамашні Баця-хан (г. азн. Бацюшка святар[91]) не інакш як па бяздротаваму телеграфу са сваіх прыкаспійскіх заволжскіх вандроўных стэпаў зацверджвае яго ў 1252 годзе яшчэ і князем Уладзімірскім. Але ж Уладзімір на Клязьме, хаця і бліжэй да заволжскім стэпах, але ўсё ж на недасягальнай для тамашняга хана адлегласьці! Прыміце да ўвагі культурныя ўмовы Ноўгарада Вялікага і Прыкаспійскіх стэпаў, ацаніце проста на прыкідку суадносіны эканамічнай, а адпаведна ёй і палітычнай, і стратэгічнай, і вайсковай магутнасьці абодвух гэтых мясцовасцей на процілеглых канцах еўрапейскай часткі СССР і вы пабачыце, што ўсё гэта так жа праўдападобна, як было б, напрыклад, прызначэнне і зацверджанне рускіх імператараў у XIX стагоддзі із Чукоцкага носа насельнікамі Берынгава пралівa!

[91] Слова Хан, якое вымаўляецца як Кхан, адлюстравалася ў назве караля па-ангельску Кін, дзе канечны гук чыста насавы, а сучасная транскрыпцыя, з нагоды адсутнасьці асобнага насавога гука Н, раздваіла гэты гук на НГ, так што маецца king. Такое ж раздваенне яшчэ мацней адлюстравалася ў нямецкім Konig, а па жыдоўску слова Кхан набыло значэння святара – коган.

Цалкам інакш, калі дапусьціць, што пасварыўшыся са шведамі і з дапамаўшымі ім лівонцамі, Аляксандр Неўскі шукаў сабе заступніцтва ў таго ж Бацюшкі-Кагана праз больш магутны Ордэн Святога Крыжа, які к гэтаму часу дзейнічаў у Маравіі, Сілезіі і Польшчы і які атрымаў назву Залатога Ордэна (або Залатой Арды згодна са старарускім вымаўленнем лацінскага слова ordo). Тады і згодна са стратэгічнымі, і культурнымі дачыненнямі, і нават у рэлігійным сэнсе ўсё становіцца зразумелым, а сабліва, калі згадаем тое, што я выказваў пра доказы лацінскага (праз заходніх славян), а не грэцкага паходжання першапачатковай рускай разумовай і матэрыяьнай культуры, і толькі з гэтага боку гледжання тое, што здаецца свядомаму чытачу недарэчнейшай із усіх казак, пачынае набываць цалкам праўдападобны выгляд.

Нам даводзяць, што, абапіраючыся на сяброўскія дачыненні з крымскім ханам Менглі-Гірэем, вялікі князь Маскоўскі Ян III (1462-1505) перестаў пачынаючы з 1480 гада плаціць даніну Залатому Ордэну, і разам з гэтым "спынілася 240 гадовае ярмо", (г. азн. лацінское jugum – ярмо). Але ж гэта і супадае з канчатковым крушэннем крыжаноснай Лацінскай імперыі ў Візантыі. Адваротнае заваяванне Цар-Горада туркамі адбылося толькі за 27 гадоў да гэтага ў 1453 годзе, а із крыжацкіх дзяржаў Лацінскай імперыі княства Ахайскае спыніла сваё існаванне ў 1432 годзе, княства Афінскае ў 1460, а графства Кефаланікскае ў 1483 годзе, толькі праз 3 гады пасьля таго, як падбадзёраны такімі паразамі рыцарскіх крыжацкіх ордэнаў маскоўскі вялікі князь Ян III, абапіраючыся на крымскага хаўрусніка турак Менглі-Гірэя, адмовіўся далей плаціць даніну "Залатому Ордэну". А калі б справа ішла пра адзінаверных і адзінапляменных Гірэю заволжскіх вндраўнікоў, то з якой бы нагоды ён пачаў бы дапамагаць супраць іх маскоўскаму гяўру Яну?

Так, пачаўшыся адначасова з крыжовымі паходамі, jugum tartaricum і скончылася разам з імі.

Хаця і пасьля гэтага рыцарскія ордэны існавалі, але гэта была ўжо толькі цень іхнай ранейшай могутнасьці, і плаціць ім із Масквы даніну стала таксама смешным, як і вазіць яе да гэтага не ў Аўстрыю ці Цар-Горад, а ў прыкаспійскія стэпы. І гэтая даніна спынілася натуральным чынам.

Мы бачым, што панаванне Залатой Арды і ў рускіх летапісах з'яўляецца як згодна з часам так і згодна з сутнасьцю як бы адлюстраваннем валадарання на славянскім Усходзе ордэна Св. Крыжа. І гэтае адлюстраванне толькі перакідвае падмосткі падзей на процілеглы бок, замест захаду на ўсход, і прытым, як і кожнае люстэрка, у адваротным выглядзе: правы бок налева і левы бок направа. Але так і павінна быць з супрацьлеглых бакоў гледжання. Тыя, хто з лацінскага боку гледжання былі героямі, здаваліся з грэцкага і рускага бакоў гледжання пякельнымі прыгнятальнікамі.

Зрабіўшы гэтае параўнанне, паглядзім зараз, ці нельга нам і саміх татар, якіх рускі летапісец называе таксама таурменамі (Thurmann'амі, а грэкі тартарамі), атаясаміць з якім-небудзь заходнім народам.

Мы ўжо бачылі, што самі летапісцы не ведаюць, адкуль яны прыйшлі і навошта, міжволі атаясамляючы іх гэтым з крыжакамі.

Але разгледзім і іншыя згадкі маючыя дачыненне да гэтага пытання.

# Глава II.

# Татарскае або татрскае ярмо? Хто такія "татараве" ў рускіх летапісах?

"Гэтыя татары змаглі здзейсніць тое, падобнага чаму не чуваць ні ў старажытны час, ні ў новы. Выступае натоўп із межаў Кітая; не праходзіць і года, як яго частка пераможна дабіраецца да зямель Арменіі, а з боку Хамадана заходзіць за Ірак. Клянуся Аллахом! Я не сумняваюся, што хто ацалее пасьля нас і пабачыць гэтае апісанне, той будзе аспрэчваць яго, палічыць за байку, і праўда будзе на яго баку..."

(Ібн-эль-Асір: "Паўнейшы із летапісаў")

Мы ўжо бачылі ў папярэдняй главе гэтага даследавання, як пад 1223 годам нашага злічэння, аднначасова з нашэсьцем крыжацкіх ордэнаў із Аўстра-Венгрыі на славянскія зямлі, Лаўрэнціеўскі летапіс паведамляе пра прыход іншаземцаў, пра якіх ніхто дасканала "*не ведае, хто яны суць і отколе ізыдоша і якіх адны клічуць татарамі, іншыя тауменамі, а іншыя печанегамі*".

Частку гэтага паведамлення, амаль ліаральна, паўтарае і Суздальскі спіс былой Маскоўскай духоўнай Акадэміі[92], як відаць із прыведзеных цытат. І тое ж самае напісана і ў Наўгародзкім летапісе ва ўсіх яго трох копіях. Але ёсць і цікавыя варыянты, якія паказваюць, што аўтар апошняга спіса Маскоўскай духоўнай Акадэміі і "Наўгародзкіх спісаў", карыстаўся, акрамя Лаўрэнцьеўскага летапісу, яшчэ нейкімі іншымі першакрыніцамі. Назваўшы Калкай верагодна рэчку, на якой стаіць польскі горад Кельцы (ці, магчыма, Каліш), ён даў магчымасць наступным гісторыкам, не цікавіўшымся ні стратэгіяй, ні эканомікай, ні нават проста геаграфіяй, прыдумаць такую вялікую недарэчнасць, як, начаўшы бітву на Дняпры каля Кіева, закончыць яе, – можаце сабе ўявіць! – на ўсходнім канцы Азоўскага мора, недалёка ад сучаснага Растова-на-Доне, каля Марыупаля, на рэчачцы Калец, прычым пабітыя ардынцамі (або ордэнцамі) рускія князі выявіліся такімі натрэніраванымі фізкультурнікамі, што здолелі дабегчы ад іх без аглядкі назад да свайго Дняпра.

Але перанясем дзеянне ад рэчкі Калец на Азоўскім моры ў польскі горад Кельцы[93], назавем арду – ordo (ордэн), яе месцазнаходжанне Татары-Татры, народ татараве – татраве, г. азн. татраўцы, і тады ўсё не толькі эканамічна, геаграфічна, але нават і гістарычна будзе мець належны выгляд. Крыжацкія ордэны, прыходзячы із аўстра-вугорскіх Татр і із Сілезіі, не адзін раз захоплівалі абодва гэтыя гарады, а пераможнае з'яўленне тут качавых ордаў із-за Волгі магчыма хіба толькі ў тым разе, калі тамашнія качэўнікі ўжо валодалі аэрапланамі.

І вось, выправіўшы пераінакчаныя вымаўленнем найменні, мы атрымліваем у "Суздальскім летапісе згодна са спісам Маскоўскай духоўнай Акадэміі" такое апісанне знакамітай бітвы "каля ракі Калка" у 1223 (г. азн. пад Кельцамі або Калішам – гэтымі, так сказаць, фарпастамі Варшавы). Я знарок пакідаю ў гэтым месцы мову рукапіса слова ў слова, не пераводзячы яго літаральна на нашу мову, як раблю звычайна для зручнасьці чытання ў большасьці іншых цытат.

---

[92] Стр. 243 і 247 выданя Археаграфічнай камісіі, 1872.

[93] Горад Кельцы, на поўдзень ад Варшавы (на невялікай рэчцы, якая зараз мае назву Сільніца), згодна са словамі саміх рускіх гісторыкаў, "шмат цярпеў ад нашэсьцяў "татарскіх ордаў", г. азн. у перакладзе "татарскіх ордэнаў". А горад Каліш (найменне якога таксама сугучна з р. Калец) знаходзіцца на рэчцы, маючай зараз назву Просна, на захад ад Варшавы на мяжы з Сілезіяй, і, згодна са словамі саміх гісторыкаў, у XIII-XIV стагоддзях ён часта зведваў аблогі ад крыжакоў.

"*Таго ж лета пабіла Татараве* (а не Татары, як называюць іхную радзіму) *князёў Рускіх. Па грахам нашым, прыідоша языцы незнае-мі, пры Мьсціславе князю Раманавічы, у дзесятае лета княжання яго ў Кіяві. І прыідзе неслыханная* (рацъ), *бязбожніі Маавіцяне, рэкоміі Татараве, іх жа добрэ ніхто жэ не весць ясна, хто суць і отколе прыідоша, і што язык іх, і якога племя суць, і што вера іх; і клічуць іх Татары* (сапсавана перапісчыкам із Татраве) *а ініі глаголюць Таурмені, а друзіі Печенезі, іныі жа глаголюць, яко се суць, пра іх жа Мяфодзій, біскуп Патаромьскій сведчыць: яко сіі суць вышлі із пустыня Етрыеўськія* (сугучна з Аўстрійская)*, сушчэй межы между усходам і поўначчу, – ко сканчэнню времені явіцца к ім, – яжэ загнал Гедэон, – і папляняць ўсю зямлю ад Усхода і да Бфрата і ад Тыгра да Панійскага мора* (як і крыжакі), *акрамя Эфіопія. Бог жа адзін весць іх; але мы тут пісахам пра іх памяці радзі, Рускіх князёў і беды, яже бысць ім ад іх. Слышахом бо яка многі страны папленішча: Ясы* (Ясы у Румыніі), *Абезы* (Абазію ў Аўстрыі)*, Косагі* (Kashau ў паўночнай Вугоршчыне) *і прыідоша на зямлю Палавецьскую"* (Палавецкае княства, уключаючае ў сябе Магілёў, Менск і Вільню).

Я не працягваю далей гэтай выпіскі па-славянску, а паднаўляю для лёгкасьці чытання мову летапісу, ужываючы замест "пабегоша" – побеглі, замест "быста" – былі і г. д., як у астатніх маіх цітатах. Вось што гаворыцца там далей:

"*Князю* (палавецкаму) *Юр'ю Канчакавічу было горш за ўсіх полаўцаў, не мог стаці проціву ліца іх. Ён збег. Полаўцы ж не маглі працівіцца ім* (таурменам), *пабеглі да ракі Дняпро, а іншых* (таурмены) *загналі да Дон і ў луку мора, і там* (яны) *памёрлі забіваемы гневам Божым і прачыстай яго маці. Шмат бо тыя полаўцы зла стварылі Рускай зямлі. Таго дзеля Ўсяміласьціўы бог меў жаданне загубіць бязбожных сыноў Ізмайлавых, Куманаў*[94]*, каб адпомсьціць кроў хрысьціянскую. Перамаглі тыя Татары* (першапачаткова Татараве) *і іншых языкоў* (народы). *І прайшлі ўсю краіну Куманск*ую (Вугорскую) *і прайшлі паблізу Русі. А Кацян* (палавецкі князь) *з іншымі князямі і з рэшткамі полаўцаў прыбег туды, дзе вал палавецкі. Даніл Кабякавіч* (палавецкі князь) *і Урый* (Юры Канчакавіч) *убіены былі, а іншыя і шматлікія полаўцы* (палякі або палачане) *разбегліся ў Рускую зямлю. Кацян жа быў цесць Мсціславу Мсціславічу Галіцскаму, і прыйшоў з паклонам* (князямі) *палавецкімі ў Галіч* (і вядома, не ў сучасны нам кастрамскі Галіч, а ў Галіцію, славянскую зямлю на паўночным усходзе ад Карпат) *да князя Мсціслава, да зяця, і да ўсіх князёў рускіх і дары прынёс шматлікія, коней, вярблюдаў і буйвалаў, і дзевак, і адарыў князёў руськіх, кажучы так*:

"*Нашу зямлю забралі сёння, а заўтра возьуць* (таурмены) *прыйшоўшы. Абараніце нас, а калі не дапаможаце нам, мы зараз высечаны будзем, а вы заўтра высечаны будзеце (*із гэтага ўжо відаць, што нашэсьце было з Захаду, будзем мы лічыць полаўцаў за палякаў, або за жыхароў Полацкага княства[95]".

*І памаліўся Кацян* (палавецкі князь*) зяцю свайму пра дапамогу. Мсціслаў жа* (із Галіцыі із Карпат) *пачаў* (таксама) *маліцца князям, брацііі сваёй кажучы:*

"*Калі мы, брацііі, не дапаможам ім, то яны перададуцца тым* (таурменам) *і ў іх большай будзе магутнасць*".

---

[94] Нагадаем, што Куманіяй і да гэтага часу называецца ўсходняя частка Вугоршчыны паміж Дунаем, Татрамі і Карпатамі, прычым Вялікай Куманіяй называецца краіна паміж ракой Ціса і Карпатамі, а малой Куманіяй – паміж Цісай, Дунаем і Татрамі.

[95] Адзначу, што паляне рускіх летапісаў і палякі – адно і тое ж найменне, так як палякі і да гэтага часу па-французку маюць назву polonais (паляне). А полаўцы азначае полеўцы, зноў тое ж найменне, адкуль і горад Полацк каля Віцебска. На яго ў той жа час асабліва насядаў Лівонскі ордэн крыжакоў, які ў такім выпадку і будзе таурменамі (Thurmanner).

"*І так, падумаўшы шмат, рускія князі вырашылі дапамагчы Кацяну, слухаючы маленні князёў палавецкіх. Па быўшай нарадзе ўсіх князёў у градзе Кіеве, учынілі рашэнне:*

"*Лепш нам сустрэць* (таурменаў) *на чужой зямлі чым па сваёй", – і пачалі войска рыхтаваць кожны ў сваю ўладу*".

Затым ідзе ўстаўка адсутнічаючая ў наўгародзкіх копіях.

"*Тады быў Мсціслаў у Кіяві, Мсціслаў ў Чарнігаве, і Мсціслаў у Галічы* (вядома ў Галіцыі, а не ў Кастрамской губерніі). *Яны былі старейшыны ў Рускай зямлі. Князя ж вялікага Юр'я Суздальскага не было ў нарадзе той, а былі яшчэ младыя князі: князь Даніла Раманавіч, князь Міхал Усеваладавіч, князь Усевалад Мсціславіч кіеўскі, і іныі шматлікія князі. Тады ж князь вялікі палавецкі хрысьціўся ў Баеце*"..

А затым зноў працягваецца агульны тэкст летапісу:

"*І спалучылі яны ўсю зямлю Рускую супраць Татараве* (татраўцаў) *і прыйшлі да ракі Дняпра на Заруб выспу Варажсскую*.

"*Татараве ж* (г. азн. татраўцы) *пабачыўшы, што ідуць супраць іх князі Рускія, прыслалі паслоў да князёў Рускіх*:

"*Мы чуем, што супраць нас ідзеце, паслухаўшы Полаўцаў, а мы вашай зямлі не занялі, ні гарадоў вашых, ні вёсак, і не на вас ідзём, але прыйшлі, богам папушчаны, на халопаў нашых і на конюхаў сваіх, на паганых Полаўцаў. Заключыце з намі мір, у нас з вамі барацьбы няма. Калі бягуць да вас полаўцы, вы біце іх, а тавар* (маёмасць) *іх, бярыце сабе, бо мы чулі, што і вам яны шмат зла твораць, таго оке радзі мы іх і атселе б'ём*".

*Князі ж Рускія таго не паслухалі, забілі паслоў татарскіх* (татрскіх), *а самі пайшлі супраць іх, але не дайшоўшы Алешша* (г. азн. Палесся, лясістай мясцовасьці па р. Прыпяць, прытоку Дняпра, вышэй Кіева) *сталі на Дняпры. І прыслалі Татараве* (татраўцы) *другое пасольства, глаголюшчэ*:

"*Хаця вы паслухалі Полаўцаў* (палякаў ці палачан) *і паслоў нашых забілі, і ідзеце супроць нас, але ідзіце назад. Мы вас не зачэпім нічым, усім нам (оршч) бог*".

*Але* (князі) *адпусьцілі ні з чым іхных паслоў. І прыйшла тут уся зямля Палавецкая і ўсе іхныя князі: із Кіева князь Мсціслаў з усёю магутнасьцю, із Галіча князь Мсціслаў з усёю магутнасьцю, Валадзімір Рурыкавіч з чарнігаўцамі, і ўсе князі Рускія і ўсе князі Чарнігаўскія, і са Смаленска 400 мужоў і з іншых краін на Заруб* (лічыцца вёскай Зарубінцы на Дняпры, кіламетраў за сто на поўдзень ад Кіева)".

І тут пачынаецца геагафічная і стратэгічная бязглуздзіца. У гэтым накірунку ўніз па Дняпры – рускія маглі толькі бегчы ад таурменаў, захапіўшых Куманію-Вугоршчыну, а атрымліваецца, што яны самі гналіся за таурменамі.

"*Тады ж князь Мсціслаў Галіцкі,* – паведамляе летапісец, – *перайшоў Дняпро з 1000 мужоў, напаў на вартавыя атрады "Татарскія" і перамог іх, а іхныя рэшткі збеглі з іхным ваяводай Гемя-бегам, і ім не было дапамогі. Пачуўшы гэта, рускія князі пайшлі ўсе за Дняпро у мностве людзей: і галічане, і валынцы, і куране* (Курскія), *і Трубчане, і Пуціўльцы* (Пуціўль Курскай губерні*), кожныя са сваімі князямі. Яны прыйшлі на конях, а выганцы галіцкія паехалі ў ладзях па Дняпры, і пайшлі ў мора (??) тысяча ладзей і сталі каля ракі Хорціцы на родзе на рукаве ракі* (г. азн., калі верыць сучаснай лакалізацыі, то на павароце Дняпра ад паўднёва-ўсходняга накірунку на паўднёва-заходні накірунак, дзе на выспе была пазней "Запарожская Сеча". А калі разглядаць справу стратэгічна, то недзе на р. Прыпяць

у накірунку не да Чорнага, а да Балтыйскага мора). *Быў тут з імі дамамерыч Юр'я Держыкрай Владзіслававіч. Прыйшлі веставыя ў стан, кажучы, што бачылі раць. Юры адказаў, што гэта стральцы, іншыя казалі, што простыя людзі. Юры Дамамерыч прамовіў*:

"*Гэта ратнікі і добрыя ваяры! Мсціслаў і другі Мсціслаў! Не варта! Пойдзем проціву іх!*"

"*Усе людзі, усе князі і Мсціслаў Чарнігаўскі перайшлі раку Дняпро, і пайшлі на конях у поле Палавецскае* (якога на поўдзень ад Дняпра няма і сляда, а толькі вышэй Кіева ў накірунку да Польшчы, па Прыпяці). *І сустрэлі Татараве палкі Рускія, але стральцы руськія перамаглі іх і гналі ў поле далеча, сякучы іх і ўзялі быдла іх. Адтуль яны ішлі за імі 8 дзён да ракі Калкі* (якая, калі верыць сучаснай лакалізацыі, была рэчкай Калец каля Марыупаля на Азоўскім моры, а калі разважаць стратэгічна, то хутчэй каля горада Кельцы, на поўдзень ад Варшавы. Дапусьціўшы, што гістарычная традыцыя на гэты раз правільная, мы гэтым самым прыйдзем да высновы, што "вартавымі татарамі" тут названы Генуэзскія калоніі каля Азоўскага мора (гл. мапу крыжовых паходаў), як мы гэта зараз пабачым*)*".

"*Тут сустрэлі іх,* – працягвае летапіс, – *вартавыя Татараве, і пайшлі на рускіх, і полаўцаў* (палякаў), *якія біліся з палкамі рускімі, і забіты быў тут Ян Зьмітравіч* (і яшчэ два з ім). *Татараве ж ад'ехалі прэч. На рацэ Кальцы сустрэлі Татараве палавецкія і рускія палкі. Князь Мсціслаў Мсціслававіч загадаў Данілу перайсьці раку Калку са сваім палком і яшчэ з іным палком, а сам пасьля іх перайшоў і зайшоў за раку Калку, і паслаў у вартаўнікі Яруна з полаўцамі, а сам стаў станам, і князь Мсціслаў паехаў хутка пасьля іх. Пабачыўшы Татарскія палкі ён загадаў хутка ўзброіцца. А князь Мсціслаў і другі Мсціслаў, седзячы ў сябе ў стане, не ведалі нічога. Мсціслаў не сказаў ім із зайздрасьці, бо звада паміж імі была вялікая. Даніл выехаў наперад і* (з ім) *Семьюн Алюевіч і Васілка быў паранены і Даніла паранены ў грудзі, але із-за маладосьці і буясьці не чуў рану, што была на целе яго, бо быў ён узростам 18 гадоў і моцны. Даніла ж моцна збіваў Татары.*

*Пабачыўшы гэта Мсціслаў Немый падумаў, што Даніла паранены, і пабег сам у бой. Татары збеглі. Даніла забіваў іх сваім палком, і Алег Курскі біўся моцна. А Ярун і іншыя палкі палавецкія пабеглі* (ад татаравей) *і патапталі бягучы станы князёў рускіх, а князі не паспелі апалчыцца супраць іх. Прышлі ў замяшанне ўсе палкі рускія і была сеча зла і люта. Із за грахоў нашых рускія палкі пераможаны былі, і нават Даніла пабачыўшы, што мацнее брань татарская, павярнуў назад свайго каня і таксама бег ад напору праціўных. Зажаждаў воды, ён піў, пачуўшы рану на целе сваім. І была тады перамога ворагаў над усімі князямі рускімі, якой не бывала ніколі ад пачатку Рускай зямлі. А вялікі князь Мсціслаў Кіеўскі, бачачы гэта зло, не рухаўся з месца. Ён стаў на гары над ракой Калкай, дзе месца камяністае, і тут учыніў горад* (агароджу) *із калоў, і біўся з ворагамі ў агароджы тры дні. Астатнія ж татараве пайшлі следам за рускімі князямі да Дняпра… І забойства незлічонае сатварылі. Яны забілі: князя Святаслава Янеўскага, Ізяслава Інгваравіча, Святаслава Шумскага, Мсціслава Чарнігаўскага з сынам, Юр'я Нясвіжскага і Аляксандра Паповіча з 70 адважнымі. І тады ж князь Мсціслаў Мсціслававіч перабег Дняпро, і прыйдучы да лодак, загадаў паліць іх, а іншыя пасекчы і адрынуць ад берага, баючыся пагоні па сабе ад Татар. Ён ледзь збег у Галіч (г. азн., вядома, у Галічыну), а князь Уладзімір Рурыкавіч прыбег у Кіеў і сеў на сваім стале.*

*Сія злоба ўчынілася ад татар на 16 дзень чэрвеня. Татары перамогшы рускіх князёў за грахі хрэсцьянскія, дайшлі да Ноўгарада Святаполчычага. Рускія, не ведаючы ліслівасьці татарскай, выходзілі проціву іх з крыжамі, а яны забівалі іх*".

Пасьля гэтага ў Лаўрэнцеўскім спісе зроблена пазнейшая тлумачальная ўстаўка, якой няма ні ў адной із наўгародзкіх копій таго ж летапісу:

"*Але чакаў бог пакаяння хрысьціянскага, і вярнуў Татар назад ад ракі Дняпра на Зямлю ўсходнюю (Oester-reich – Аўстрыя?) і заваявалі яны зямлю Танагоцкую* (г. азн. Данаагоцкую)[96] *і іншыя краіны і тады оке і Чага-ніз кан* іх (Чынгісхан) *забіты быў*[97]".

А потым пасьля гэтай устаўкі зноў працягваецца тэкст агульны для ўсіх копій: "*Сіе было нам за грахі нашы, бог паклаў неразуменне ў нас і загубіў без ліку шмат людзей; і былі вопль, і ўздыханне, і смутак па ўсіх гарадах і па валасьцях. Сіх жа злых Татар Таурмен не зведаем, адкуль прыйшлі на нас і куды падзеліся зноў. Толькі бог ведае…*"

Такім з'яўляецца летапіснае апісанне паразы рускіх князёў ад таурменаў у 1223 годзе. Зараз трохі паразважаем над гэтым паведамленнем.

Із апошніх слоў "*не ведаем куды* (татараве) *дзеліся зноў, толькі бог адзін ведае*" – відавочна, што гэтыя радкі напісаны ніяк не ў 1223 годзе, калі так званае "татарскае іга" (jugum tartaricum) ледзь пачалося, а ўжо значна пазней пасьля таго, як вялікі князь маскоўскі Ян III у 1480 адмовіўся плаціць даніну гэтым самым "татарам", "таурменам" ці "печанезам", якія, згодна з толькі што прыведзенымі славамі летапісца, невядома куды дзеліся яшчэ за 257 гадоў назад да адмаўлення Яна плаціць ім даніну. Бо нават сам суздальскі спіс Маскоўскай духоўнай Акадэміі даводзіць сваё апісанне толькі да 1419 года, калі "татарам яшчэ плацілі даніну". А Асноўны Наўгародзкі, дзе пра Тана-гоцкую зямлю і яе уладальніка Чінгіс-Кагана нічога няма, заканчваецца ў 1333 годзе. Як жа можна было сказаць тады: "*не ведаем адкуль прыходзілі татараве і куды сышлі зноў адзін бог ведае*?"

Із гэтага відавочна, што калі рускія летапісы і былі напісанымі грунтуючыся на нейкіх заслугоўваючых даверу першакрыніцах (як гэта відаць із нашых астранамічных і месяцаслоўных праверак шматлікіх іхных дат), то яны зведалі неаднаразовыя тлумачальныя ўстаўкі і пераіначванні нават і ў XVII стагоддзі, калі "татарскага (або дакладней татрскага, г. азн. карпацкага) іга", а з ім і "крыжовых паходаў" ужо не памяталі старажылы. Першапачаткова ж гэтае ярмо мела назву "тацерскае" і прама "татрскае". Сярод сярэднявечных хронік, згадваючых татар, маецца цікавая рыфмаваная хроніка чэха Даляміла, якая напісана праз некалькі дзесяцігоддзяў пасьля гэтага нашэсьця. У ёй татары маюць назву Tateri (Тацеры):

| | |
|---|---|
| Na leto Tateri wznidu. | Улетку Тацеры прыйшлі |
| A trmi prameny pojidu. | І трыма шляхамі пайшлі, |
| jako po swejzemi jduchu... | Ідучы як па сваёй зямлі...[98] |

---

[96] Я вывожу пачатак гэтага слова ад Данаас-данаец, такую назву мелі аргівяне і грэкі ў звязку з ракой Дунаем, адкуль і легенда пра яго дочак данаід, г. азн. шматлікіх вусьцях Дуная, напаўняючых вадой не маючую дна бочку – Чорнае мора. А заканчэнне гэтага слова – гот, г. азн. германец, адкуль слова гатычны. Называць тангутамі жыхароў кітайскай правінцыі Кан-су, якія там мелі назву Сіфан, няма ніякіх падстаў.

[97] Чынгізхан (1155-1227) цалкам містычная асоба, яму прыпісваюцца цалкам неверагодныя паходы, але пра яго будзе далей.

[98] Цытавана згодна з працай: Palacky Franz; Der Mongolen Einfall im Jahre 1241. Abhandtungen der k.bohm. Gesellschaft der Wissenschaften, н Folge, Bd II, Prag 1842, c. 389..

А нямецкі рыфмаваны тэкст гэтай хронікі, зроблены праз год ці два ў 1342-1346 гг, прама называе іх Tatrer (Татрцы).:

Cartossi also gnant
do gingin in dera lant
di weroubtin dy tatrer...
Dez andera jars zcuhant
di tatrer in daz lant...
Dar noch komen si mit iren her
fur olmunez dy tatrer...
Di tatrer kartin wider...
Do trugin dy tarter
sin houbt vfeinen sper...[99]

Вось вольны пераклад гэтага нямецкага ўрыўка:

Людзі, званые картасамі, ездзілі па краіне (Чэхіі).
Яны былі шпіёнамі татрцаў.
На наступны год з'явіліся ў краіне самі татрцы.
Затым яны, татрцы, падыходзяць да горада Аламоуц (Ольмюц)...
Татрцы вярнуліся...
І насадзілі татрцы яго (Генрыха Броды) галаву на дзіда...

Старанямецкая легенда пра св. Рыгора, напісаная не пазней чым вышэй прыведзеная хроніка, распавядаючы пра адну татарскую прынцэсу, называе яе tatterische Keuszerin (г. азн. Тацерская царыца)[100].

У працы Феслера (Dr. J. A. Fesler: Die Geschichte der Ungarn und ihrer Landsassen (teil 1, с. 193), надрукаванай у Лейпцыгу ў 1815 годзе гаворыцца:.. "назва "татары" упершыню сустракаецца ў рускіх летапісах пад 1154 годам. Пад гэтай назвай там разумеюцца полаўцы (г. азн. генуэзскія плаўцы), якія хутка ўтварылі адзін народ разам з татарамі".

А згодна з Энгелем, (Geschichte des Ungarischen Reich, Teil 1, с. 345) "назва "татары" паходзіць із Вугоршчыны ад куманскага князя Татары, які прыйшоў туды ў часы Стэфана II, незадоўга да 1130 года".

А сучасныя нашым заходне-еўрапейскія паведамленні, напісаныя на лаціне, прызнаюць толькі адну форму напісання наймення татар, а менавіта: tartari (г. азн. пякельныя). Нямецкія хронікі, напрыклад Люнебургская хроніка, даюць форму Tateren (пар. Палацкі, там жа, с. 383).

Па-французкі татарын – tatar, па-ангельскі – tatar и tartar, па-італьянску – tartaro. Із аднаго гэтага ўжо можна бачыць, што крыжовыя паходы Батыя (інакш "бацяя", г. азн. "рымскага папашы") набылі на ўсходзе Яўропы найменне Татрскага іга. Яны былі перайменаваны ў пякельныя (тартарскія) паходы, якія ішлі быццам бы насустрач крыжовым паходам із Манголіі, хаця бяручы да ўвагі як геаграфічныя адлегласьці, так і малалікасць і разрозненасць тамашняга насельніцства нічога падобнага не магло быць.

Вось чаму, перш, чым працягваць далейшае вывучэнне зместу летапісаў, зробім анаматычны[101] разгляд ужытых у іх найменняў для гэтых "бязбожных

[99] Цытавана із той жа працы Палацкага, с. 388, 389.

[100] Палацкі, там жа, с. 403, пар. с. 383.

[101] Навукі анамастыкі, паўтараю, яшчэ няма, але яна павінна быць абавязкова. Гэта было б вельмі вялікай дапамогай для гісторыкаў. У ёй акрамя агульнага ўвядзення па фанетыцы моў і сістэматычнага выкладання асноў параўнальнага мовазнаўства павінен быць і алфабэтны спіс усіх уласных найменняў, геагафічных і

маавіцян", якіх адны завуць "татараве", другія – "печанезы", а трэццція – "таурмены", і якія "невядома адкуль прыйшлі і куды пазней сышлі".

Назва печанегі згодна са сваёй фанетыкай відавочна славянскае. Печанезі па-нашаму азначае – печнецы, печнікі, г. азн. жыхары нейкай адмысловай краіны печаў. І такая спецыяльная краіна сапраўды існавала ў той час. Згадаем графства Пешт (Pest-Pilis) у Вугоршчыне паміж Дунаем і Цісай з галоўным горадам Буда-Пештам. Яго найменне – Пешт – з'яўляецца злёгку пераіначаным згодна з нямецкай фанетыкай славянскае слова пешч, як пра тое сведчыць нямецкае найменне Пешта – Ofen, якое таксама азначае печ.

Па-славянску словы пешчь і пячора відавочна ад аднаго і таго ж лінгвістычнага кораня, так як рускія печы і да гэтага часу маюць пячору, але назва вобласьці Пешта паходзіць не ад такіх печаў, а ад асобных – вежападобных збудаванняў для выплаўкі із руд железа, меўшых назву домны, не таму, што яны падобныя на дамы, а таму, што вечна дымяць. Іхнае першапачатковае найменне "дымны", натуральна, магло перайсьці ў домны, у тых местах, дзе іх не ведалі, а ведалі толькі жылыя хаты. Ды і само слова дом, хаця яно і адлюстравалася ў лацінскім domus, ці не паходзіць ад таго ж: ад славянскага дым[102]. Бо і ў нас у старыну блыталі абодва словы, кажучы, што ў той ці іншай вёсцы столькі-та "дымоў", а ў першым томе я ўжо паказваў на падставе культурна-гістарычных меркаванняў, што назва Ян Дамаскін, ледзь ці паходзіць ад імя за-палестынскага Дамаска, а хутчэй ад першапачатковай назвы вугорскага Пешчнага горада, тым больш, што і біблейская транскрыпцыя Дамаска ДМШК нагадвае славянское слова Дымішка.

Ва ўсякім разе, тут мы бачым, што найменне гэтай вобласьці Печная, было цалкам натуральным, так як там і пачалася ўпершыню ў гісторыі чалавецтва массавая вытворчасць жалеза, дзякуючы таму, што па прытоках Дуная сюды маглі лёгка дастаўляцца жалезныя руды із Карпацкіх гор. Зведаўшы тут апрацоўку, дзякуючы багаццю паліва, жалезныя вырабы павінны былі развозіцца па Дунаю ў выглядзе зброі і прылад вытворчасьці па балканскіх славянскіх землях і ў Цар-Горад, а адтуль па ўсяму ўзбярэжжу Міжземнага мора, ствараючы гэтым самым палітычную магутнасьць Візантыі, пакуль у Саксонскіх Рудных гарах (Erzgebirge) не знайшлі новыя велізарныя залежы гэтага носьбіта культуры, які пачаў распаўсюджвацца із Дрэздэна па Эльбе ў Няметчыну, зрабіўшы яе канкурэнтам Візантыі, і прывёўшы, нарэшце, да ўтварэння Нова-рымскай імперыі Карла Вялікага, якая, аднак, не змагла доўга існаваць, дзякуючы хуткаму адкрыццю такіх жа руд на Рэйне.

Мы тут бачым, як уся еўрапейская культура ў агульным ішла па шляху адшуканя жалезных руд зручных для апрацоўкі, а не дзякуючы простым выпадковасьцям. Так і "татарскае іга" у старажытную Русь магло прыйсьці толькі із закованай у жалеза заходняй Яўропы, а не із азіяцкіх стэпаў, дзе яшчэ нічога не было, акрамя зарасляў кавылю, ды няздольнага з нагоды сваёй рассыпанасьці і радавога побыту ні да якіх агульных здзяйсненняў рэдкага вандруючага насельніцтва. Усе сляды культуры ў Сярэдняй Азіі павінны быць аднесены да часоў не раней Тымура (памёр у 1405 годзе), а сам Тымур, г. азн. Закаваны ў

этнаграфічных з пазначэннем іхнага першапачатковага сэнсу і міграціі із краіны ў краіну з адпаведнымі гукавымі пераменамі. Гэта было б цяжка пераацэненым дапаможнікам для гісторыкаў.

[102] Гаварыць пра праеўрапейскае паходжанне слова "дом" ледзь ці магчыма, так як на некаторых еўрапейскіх мовах для дома, як жытла, мы бачым іншыя найменні.

жалеза, больш за ўсё падобны на нашчадка крыжакоў, чым не мангола. Праўда ж што пра Ўральскія жалезныя руды тады ніхто яшчэ не ведаў...

* * *

І так, вугорскае графства Пешчь (Пешт) з яго дымнымі пешчамі (домнамі) і дало сваім жыхарам найменне печанегаў (г. азн. пячнікоў), а на поўначы ад Карпат славянская Галіцыя[103] атрымала сваё імя не інакш, як з часоў крыжовых паходаў, калі тут валадарылі галлы-французы, дакладна гэтак жа як і найменне Франконія ўсталалявалася ў прырэйнскіх абласьцях ад валадарання франкаў.

Такім з'яўляецца анаматычнае даследванне ў гэтай вобласьці. Паглядзім зараз, што кажуць нам пра пешчнікаў-печанегаў і летапісныя апавяданні.

Візантыйскі аўтар, Рыгор Кедрон, напісаўшы хроніку (сінопсіс), даведзеную да 1057 года, г. азн. закончаную толькі за 43 гады да заканчэння Кіеўскага пачатковага летапісу псеўда-Нестара, кажа, што ў яго час "паміж Балканскімі гарамі, Дунаем і Чорным морам, у мясцовасьці, багатай лесам і пашамі жылі піхцінакі" (г. азн. печанегі рускіх летапісаў, атаясамлямыя, як мы толькі што бачылі, з татарамі). Але гэтая вобласць дакладна адпавядае сучаснай Баўгарыі, а калі лічыць Балканскімі гарамі Татры-Карпаты, то Вугоршчыне.

Сам П. Галубоўскі[104] лічыць магчымым, што рускія запазычылі найменне печанегаў ад вугорцаў (г. азн. таксама не з усходу, а з захаду), і што вугорцы перайначылі назву, "калі, – дадае ён, – адпавядае рэчаіснасьці тлумачэнне Еўрапеуса, што гэта назва вугорская і азначае сасновец"[105]. Але пазней ён сам жа сцвярджае, што ў вугорскіх хроніках існуе, як у грэкаў, і імя піцэнаты[106].

Што ж да злучанага з імі наймення васерарыяў (Wosserarii), то (на маю думку) тут не цяжка пазнаць бесарабцаў, а ў найменні Ўнясены – басняки.

У грэцкіх пісьменнікаў звычайнае іхнае найменне – патцынакіты, як, напрыклад, у Кедрэна.

У арабскіх апавяданнях іх бачаць пад назвай баджынакаў. Напрыклад, у Эль-Балхі[107] мы знаходзіўся такое месца:

"Туркі выйшлі са сваёй краіны і занялі прастору паміж Хазарам і Румам (г. азн. Візантыяй), іх клічуць баджынакі. У старадаўнія часы яны не занімалі сучасных сваіх жылішчаў і толькі пазней падзялілі, заваяваўшы гэтыя ўладанні".

Аднак, не варта забывацца на тое, што амаль усе арабскія творы да 1492 года, калі Фердынанд каталіцкі знішчыў апошнюю культурную маўрытанскую дзяржаву ў Гішпаніі (а магчыма і пазней), былі напісаны не жыхарамі Багдада, а ў Андалузіі, і апісваемыя ў іх падзеі даюць нам толькі гістарычную перспектыву Еўрапейскага Захаду. Так і ў дадзеным выпадку пад Румам у Эль-Балхі (андалузец ён ці не!) маецца на ўвазе Рамея-Візантыя. А што яго туркі – сучасныя туркі, сумненняў быць не можа. Тут застаецца толькі вырашыць, дзе шукаць яго Хазарыю, інакш званую Цьмутаракань? Не цяжка бачыць, што апошняе слова грэцкае ад наймення Тэма-Туракані, г. азн. Турэцкая вобласць Візантыі, а дзе менавіта, ледзь ці ведае і сам Эль-Балхі.

---

[103] Згадаем, што грэцкая назва Францыі – Галія, адзіна ўжываемая грэкамі і да нашага часу ад gallus – певень, г. азн. пеўневая краіна.

[104] Галубоўскі П. Печанегі, торкі і полаўцы да нашэсьця татар. Кіеў, 1884. С. 84.

[105] Еўрапеус Д. П. Пра вугорскі народ. СПб., 1874. Па асьцяжскі – сасна і pitsent-сасновы (Галубоўскі, с. 34).

[106] У польскіх хроніках печанегі маюць назву печэнгі ці пецэнігі (pieczinigi), а таксама паводле грэцкага вымаўлення piencenakiti. У грэцкіх пісьменнікаў звычайнае іхнае найменнне патцынакіты, як, напрыклад, у Кедрэна.

[107] Цыт. па: Гаркаві. Апавяданні мусульманскіх пісьменнікаў. с. 275.

П. Галубоўскі прыводзіць яшчэ словы Кастуся Парфірароднага (912-959, с. 36) пра тое, што "суседзямі печанегаў былі мазары і вузы", і сцвярджае, што вузамі зваліся торкі. Але торкаў нам няма нагоды адрозніваць ад туркаў, ды і мазары існуюць да гэтага часу амаль пад той жа назвай. Гэта польскія сяляне, ад якіх у XIX ст. паўсюдна распаўсюдзіліся скокі полька-мазурка. І акрамя таго, назву мазылы меў клас дробных землеўладальнікаў у Бесарабіі. Гэта азначае, што і грунтуючыся на першакрыніцах атрымліваецца, што печанегі жылі зусім не вандраўнікамі ў Паўднёва-Рускіх стэпах паміж Дунаем і Донам, а былі аселымі насельнікамі недзе каля Балканскіх гор.

Толькі пры дапушчэньні такога тлумачэння і прыходзяць у парадак усе геагафічныя неадпаведнасьці, і набываюць сэнс цэлы шэраг інакш цалкам недарэчных паведамленняў накшталт таго, што ў 1078 годзе гэтыя печанегі разам з куманамі (г. азн. кумамі, як называлі адзін аднаго прыняўшыя хрысьціянства славяне і як да гэтага часу завуцца ўсходнія вугоры) абложваюць Адрыянопаль[108], што яны маглі здейсніць толькі із глыбіні Балканскай паўвыспы.

Станавіцца зразумелым і выказванне Кастуся Парфірароднага (912-959 гады), што ў яго час на захад ад печанегаў жылі вугорцы, на поўдзень хазары, а на ўсход нейкія "Хузы" ці "Вузы", найменне якіх хутчэй за ўсё паходзіць ад нямецкага слова Haus (дом) у сувязі з даменнымі пячамі Вугоршчыны, ці ж гэта проста назва аседлых жыхароў.

Іх усіх магчыма аднесьці да балканскіх жа аседлых народаў. Сама назва паўночна-усходняй Вугоршчыны паміж р. Цісай і Карпатамі вугорская Русь показвае, што яна была "каля гор", адкуль і народ вугры, сучасныя руснякі, адсюль жа і нямецкае Hungaren, па-нашаму вугорцы. А лінгвістычнае сваяцтва з імі пермскіх вагулаў і табольскіх асьцякоў патрабуе, на мой погляд, яшчэ праверкі.

Толькі ў якасьці старажытных мясцовых жыхароў трывала ўсталяваўшых дзяржаву маглі гэтыя печнікі-печанегі ў 968 годзе выправіць дастаткова ўзброенае і ўладкаванае войска, каб – як паведамляе "Іпацьеўскі летапіс" – у 997 годзе абложваць Белгарад. Вандруючыя ж народы згодна з характарам свайго жыцця павінны быць шырока раскіданымі па вялікай некультывуемай мясцовасьці асобнымі патрыярхальнымі згуртаваннямі, няздольнымі да агульнага дысціплінаванага здзяйснення, якое патрабуе эканамічнай цэнтралізацыі, г. азн. падаткаў, на якія была б магчымасць утрымліваць войска дарослых халастых людзей. У кожным вандруючым народзе, як у скапленні малекул, кожнае із патрыярхальных згуртаванняў павінны адштурхоўвацца адно ад другога, дзякуючы пошукам усё новай і новай травы для харчавання іхных статкаў.

Злучыўшыся разам у колькасьці хаця б некалькіх тысяч чалавек, яны былі б таксама вымушаны разам злучыць і некалькі тысяч кароў і коней, і яшчэ больш авечак і баранаў, належачых разным патрыярхам. Вынікам такога аб'яднання было б тое, што ўся бліжэйшая навакольная трава была б хутка з'едзенай і ўсёй кампаніі давялося б зноў разыходзіцца ранейшымі патрыярхальнымі згуртаваннямі ў разныя бакі, каб мець магчымасць жыць больш менш працяглы час на адным месцы, не пераносячы сваіх палатак кожны дзень на новае месца. І акрамя таго, пры збіранні ў адным месцы вялікай колькасьці вандруючых насельнікаў было б наступствам тое, што пастаянна ўзнікалі б вялікія цяжкасьці (што прыводзіла б да пастаянных сварак) безперапыннае вылучэнне сваіх ранейшых статкаў із іхнага вялізнага згуртавання.

---

[108] Міхала Атгалейята Гісторыя. Воппае. 1853 Р. 300-301. 164

Вось чаму апрыёрна павінна быць адкінута, як чыстая фантазія, і сама ідэя пра магчымасць арганізаванага калектыўнага дзеяння і пераможнага нашэсьця на аселыя народы якога б там ні было шырока раскіданага вандруючага народа, харчуючагася ад статкаў, накшталт манголаў, самаедаў, бедуінаў і г. д., за выключэннем такага выключнага выпадку, калі нейкая вялічэзная, стыхійная катастрофа, пагражаючая агульнай сьмерцю пагоніць такі народ цалкам із гінучага стэпу на аседлую краіну, як ураган гоніць пыл із пустыні на прылягаючы да яе аазіс. Але ж нават і ў самой Сахары ні адзін вялікі аазіс не быў назаўсёды засыпаны атачаючым пяском, і пасьля заканчэння ўрагана зноў вяртаўся да ранейшага жыцця. Аналагічна гэтаму, і на ўсім працягу нашага дакладнага гістарычнага гарызонту мы не сустракаем ніводнага выпадку пераможнага нашэсьця дзікіх вандруючых народаў на аселыя культурныя краіны, а толькі як раз наадварот. Гэта азначае, не магло быць падобнага і ў да-гістарычным мінулым. Усе гэтыя перасяленні народаў туды сюды напярэдаднічаўшыя іхнаму выступленню на гістарычныя падмосткі павінны быць зведзены толькі да перасялення іхных найменняў ці ў лепшым выпадку – правадыроў, ды і то з больш культурных краін у менш культурныя, а не наадварот.

Разгледзім зараз і само найменне татары.

Перш за ўсё адзначу, што звычайна назва народа паходзіць ад месца яго жыхарства. Так не Парыж арымаў сваю назыву ад пасяліўшыхся тут парыжан, а наадварот; не Масква ад масквічоў, а масквічы ад Масквы. У найменні асоб мы сустракаем гэта і зараз на кажным кроку. Ян Дамаскін – азначае жыхар Дамаска, самарын – жыхар Самары і г. д.

Із гэтага відавочна, што і слова татарын паходзіць ад таго, што іх продкі жылі ў нейкай мясцовасьці, званай Татары, або скарочана Татры. Да гэтай жа высновы прыводзіць і летапісная назва татар – татараве, г. азн. татараўцы, або, скарочана, татраўцы. І я ўжо пазначаў, што адзінай мясцовасьцю з падобным найменнем на зямным шары з’яўляецца толькі вобласць на мяжы Вугоршчыны і Галіціі, дзе самая высокая і сярэдняя частка Карпацкіх гор і да гэтага часу мае назву Татры, уключаючы ў сябе нават дзьве заўважальныя ў фізічным і гістарычным дачыненні вобласьці: высокія Татры (ці згодна з вульгарным рускім вымаўленнем высокія Татары) і нізкія Татры. І акрамя таго, каля Балканскай паўвыспы захаваліся і іншыя мястэчкі, назвы якіх паходзяць ад гэтага ж лінгвістычнага кораня, напрыклад гарадок Татар-Канчак (Малы Татр) і пасёлак Татар-Базарджык, сведчачы, што краіну летапісных татаравей патрэбна шукаць менавіта ў гэтай мясцовасьці.

А цікавейшым за ўсё з’яўляецца тое, што і ў рускіх летапісах "Татарамі" называецца не народ, а краіна, насельнікаў якой звычайна завуць татараве, г. азн. татараўцы.

Калі ж мне запярэчаць, што ў паданнях, прыводзімых ад імя арабскіх і іншых аўтараў перыяду крыжовых паходаў гаворыцца нават пра дзве Татарыі, Вялікую і Малую, і яшчэ што іхная сярэдняя частка мае назву Высокая Татарыя, то я адкажу, што першакрыніцай апошняга наймення – Высокая Татарыя – і з'яўляюцца высокія Татры, і што цалкам аналагічна легендзе пра Вялікую і Малую Татарыю існуе легенда пра Вялікую і Малую Вугоршчыну, якія таксама змяшчаюцца ў Азію, ды і Куманій і Вугоршчын было дзве: Вялікая і Малая Кумания, аналагічна Вялікай і Малой Татарыі.

Такія памылкі лакалізацыі у той час, калі не існавала геагафічных мап усходняй Яўропы і ўнутранай Азіі, былі прама непазбежнымі, тым больш, што вугорская дзяржаўнасць і нават рэлігія былі пераменнымі. У самой гісторыі Вугоршчыны паведамляецца, што яе насельнікі былі вельмі перамешанымі, і панаванне пераходзіла то да славянам, то да мадзьяраў, а рэлігія і да гэтага часу толькі на 50% каталіцкая. Астатнія 50% насельнікаў там праваслаўныя, уніяты, лютаране і да 5% равіністаў, якія раней, верагодна, нават перавышалі.

Мы не павінны забывацца, што толькі напярэдадні крыжовых паходаў Рымскі пантыфік каранаваў Вугорскім Каралём Стэфана Святога (997-1038 гг.), з якога, уласна кажучы, і пачынаецца заслугоўваючая даверу гісторыя гэтай краіны, прычым Стэфан, бяручы да ўвагі шматмоўе сваёй краіны, абвясціў мову каталіцкіх набажэнстваў – лаціну – агульнадзяржаўнай мовай сваёй краіны, падзяліўшы яе на 72 самакіруючыяся графствы – жупанствы. А следам затым, пасьля падзялення царквы на Заходнюю і Ўсходнюю ў 1054 годзе, у рознаплямennай Вугоршчыне пачалася ўпартая барацьба каталіцызма з праваслаўем, асабліва набыўшая пашырэнне пры наступным вугорскім "сьвятым жа" каралю Ўладзіславе (1077-1095 гады), калі Вугоршчына стала, як кажуць, "славянскай дзяржавай". І што ж мы бачым?

Як раз на пачатку "татарскага нашэсьця" заходне-еўрапейскія паданні распавядаюць нам пра "крыжовы паход" вугорскага (як следства, і татарскага) караля Андрэя II. Гэта азначае, і ён быў крыжак... Затым з 1222 года, калі адбылася бітва пры Калцы, у якой "загінулі печанегі, гнаныя гневам божым і прачыстае яго маці", у вугорскай гісторыі апісвацца паўстанне супраць гэтага караля Андрэя II (1205-1235), вымусіўшае яго выдаць "Залатую булу", узаконіўшую ў Вугоршчыне феадалізм згодна з узорам толькі што ўмацаваўшайся ордэнскай "Лацінскай імперыі" крыжакоў. Затым згадваецца пад час царавання Андрэя Белага (1235-1240) ўварванне ў Вугоршчыну "татаравей", г. азн., верагодна, галічан із Татраў з паўначы ў хаўрусе з рускімі, што, як і патрэбна было чакаць, выклікала спачатку адступленне караля на паўднёвы захад у сучасны Заграб у Краацііі, а потым татраўцы і рускія былі адціснуты назад. Наступіў даволі складаны перыяд, які працягваўся аж да таго часу, калі (ўжо пасьля заканчэння крыжовых паходаў) Карл Роберт із Анжуйскай дынастыі атрымаў ад папы ў 1308 годзе вугорскую карону, а яго сын – Людовік Вялікі – падпарадкаваў сабе Малдову і Валахію і атрымаў нават польскую карону, так што да 1382 гады вугорская дзяржава, застаючыся пераважна каталіцкай і славянскай, працягвалася ад Балканскай паўвыспы да Балтыйскага мора і ад Чорнага да Адрыятычнага мора. Але хутка Польша, Харватыя і Далмацыя аддзяліліся, і ў XV стагоддзі пачалася барацьба з туркамі, захапіўшымі ў 1453 Цар-Горад і ўсю Балканскую паўвыспу. І вось, нарэшце, утварылася Аўстра-Вугорская манархія, існаваўшая аж да нядаўняй агульнаеўрапейскай вайны ў XX стагоддзі.

Такім чынам, мы бачым, што і вугорская гісторыя у агульным не супярэчыць атаясамленню рускага і татарскага іга ў Расіі з ігам крыжакоў. Але і яе яшчэ давядзецца перагледзець грунтуючыся на першапачатковых крыніцах для смутнага перыяду крыжовых паходаў, якія нарадзілі так шмат разнастайных захапленняў і супярэчлівых апперцэнцый.

Ітак, нават і летапісная назва татар прыводзіць нас, як і само слова "татарын", не ў заволжскія стэпы, дзе калышацца адзін кавыль, а ў магутныя Татрскія горы і, разам з імі, у Вугоршчыну, у краіну вежападобных дыменных печаў, адкуль паходзіць і другая назва іхнага галоўнага горада: па-славянску

Пешчь, а па-нямецку Ofen (таксама печ), пасьля чаго знаходзіць тлумачэнне і трэцяя летапісная назва гэтага народа – таурмены, г. азн. людзі вежаў: Тауер-мэны (Towermen) па-англа-саксонскі і турмены (Thurmenschen) па-нямецку[109]. Ужо із гэтага вынікае, што татарскай Залатой Ардой рускіх летапісах часоў крыжовых паходаў называўся нейкі Татарскі Залаты Ордэн крыжакоў.

Усе толькі што прыведзеныя анаматычныя тлумачэнні з'яўляюцца ў нас не асноўнымі доказамі, а толькі падцвярджэннем высноваў, зробленаных на падставе агульнакультурных, эканамічных і геагафічных фактаў, даступных для праверкі ў які б то ні было час.

Возьмем хаця б гэтую самую бітву на рэчцы Калка, 16 чэрвеня 1223 года, праз 19 гадоў пасьля заваявання крыжакамі Цар-Горада, ад якой бярэ пачатак "татарское ярмо" на Русі, і апісанне якой я прывёў літаральна із летапісаў некалькі старонак назад.

Паглядзіце самі на мапу. Пачалася бітва на рацэ Дняпро на "зарубе каля выспы Варажскай, дзе пазней была "Запарожская сеча", так добра апісанная Гогалем ў яго творы "Тарас Бульба". Там Мсціслаў Галіцкі перамог татарскі атрад. Пачуўшы пра гэта, усе руския князі ідуць на "татар".

І вось адразу ж пачынаюцца этнаграфічныя і эканамічныя недарэчнасьці, калі лічыць татар не вугорскімі крыжакамі, насядаючымі з захаду, ад Татрскіх гор, а вандраўнікамі, якія прыйшлі із-за Волгі. Вядома, што ў той час у паўднёвых стэпах на ўсход ад Дняпра і на поўнач ад Азоўскага мора не было ніводнага аселага пасялення, за выключэннем генуэзскіх берагавых калоній на вусьцях рэк, а як следства, было немагчыма здабыць і правіянт для атрада вершнікаў. Вакол быў адзін не маючы заканчэння стэп. Як жа скакалі па ім рускія князі і іхнымі атрадамі, перасследуючы бягучых татар да Марыупаля на працягу амаль 600 кіламетраў, г. азн. не менш, чым ад Масквы да Ленінграда?

Але вось яны перабраліся, перасследуючы бягучыя рэшткі абрабаваных імі яшчэ на самым пачатку татар па неабсяжнаму бязлюднаму стэпу, за раку Калец, на паўночным беразе Азоўскага мора, а ўцякаючыя пераможаныя татары павярнулі за ракой і пабілі іх саміх! Дзе яны там здабылі свежыя рэзервы, уцякаючы без дарог і без компаса, калі гэта не былі генузскія каланісты, натуральныя хаўруснікі крыжакоў? Мсціслаў Кіеўскі будуе для сябе ад іх агароджу із калоў, а дзе ж ён здабыў дастаткова бярвенняў у не маючым лесу стэпе? Аднак, нягледзячы на гэтую фантастычную абарону, усе ацалелыя рускія князі з парэштками сваіх конных ваяроў бягуць назад, на працягу 600 кіламетраў да Кіева і (што больш за ўсё цудоўна) пачынаюць даваць дзікім, разрозненым згодна з прыродай вандраўнікам штогадовую даніну, прызнаўшы іх сваімі сюзэрэнамі на 250 гадоў!

Чытач бачыць сам, што пачатак татарскага іга ў яго звычайнай версіі так жа не адпавядае рэчаіснасьці, як і яго працяг, і яго заканчэнне. І, толькі павярнуўшы падмосткі гістарычнай пастановы з усходу на захад, на што паказваюць нам шматлікія лінгвістычныя сляды і прызнаўшы што рускае летапіснае слова "арда" і лацінскае слова "ordo" – ордэн адным і тым жа словам, і затым пагадзіўшыся, што

---

[109] Даклаждна так жа і манголы. Ці не паходзіць найменне Манголія ад грэцкага слова мегалос (μεγαλος), г. азн. Велікая краіна, а слова мангол ад першапачатковага грэцкага мегал, г. азн. Вялікі? Бо прыгук г тут з'яўляецца толькі новым вымаўленнем гука о, у пагадненні з чым знаходзіцца і еўрапейская назва Бабура, турэцкага аб'яднальніка Індыі ў 1509 годзе, Вялікі Магол, хаця ён і яго нашчадкі самі сябе называлі султанамі і лічылі туркамі згодна з паходжаннем. Але калі Манголія і мангол грэцкія словы, то і занесьці іх з сабой у цэнтральную Азію маглі толькі грэцкія месіянеры, яны ж магі (магутныя).

мясцовасць Калка была Калецкім краем у Польшчы, мы зразумеем гэта паданне. Бо на ўсім працягу паміж Кельцамі і Кіевам была ўжо культывіруемая ў той час мясцовасць з паўсюдна раскіданымі паселішчамі, дзе заўсёды можна было нарабаваць нейкую колькасць правіянту, пакінутага разбегшыміся напалоханымі жыхарамі пры набліжэнні чужога войска. Так і харчаваліся ў тыя часы ўсе войскі, якія нават не мелі ўяўлення пра інтэндантаў.

А што ж было на ўсход ад Дняпра? Паглядзіце самі на мапу. На ёй пазначаны ўсе аседлыя населеныя пункты, згадваемыя ў рускіх летапісах не толькі да 1223 года, калі адбылася гэтая бітва, але і пазней – да 1420 года, калі пякельнаму ярму (Jugum tartaricum) ужо прыходзіў канец. Дзе тут можна было каго-небудзь парабаваць, каб хаця б паснедаць? А прыгадаўшы, што для разпальвання вогнішча тады яшчэ не існавала запалак, і гарачыя вуглі захоўваліся ў печах да наступнага дня, каб раздуць на іх папярэдне высушаную лучынку і запальвання новай вязанкі дроў, – скажыце самі: на якіх вогнішчах гэтыя князі і іхныя ваяры гатавалі сабе шашлык або варылі што-небудзь на працягу свайго вельмі працяглага стэпавага шляху? Мне запярэчаць: у іх былі і крэмень і агніва, г. азн. насычаныя салетрай тоўстыя шнуркі, якія пачыналі тлець, калі на іх патрапляла іскра... Але без серных запалак яны былі годнымі толькі для запальвання папярос, а для здабывання полымя тады ўжывалася стамляючае вярчэнне сухой палачкі ў дзірцы сухой дошкі, ды і то на працягу цэлых гадзін... Гэта азначае, вялікія стэпы, дзе не было сухога дрэва тады былі такімі ж непераадольнымі для хутка ідучых атрадаў ваяроў, як і акіян.

"Татары" маглі прыйсьці тады на Русь толькі з больш культурнага і ўжо асела-заселеннага захаду. Паглядзім з гэтага боку гледжання на ўсе згадванні пра іх або ў сувязі з імі ў рускіх летапісах.

Вось пад 1229 годам (лета 6737) у Лаўрэнцьеўскім рукапісе: "*Таго ж лета* (была) *страсць (г. азн. пакутніцкая смерць) новага пакутніка хрыстова, забітага баўгарамі ў Вялікім градзе іх* (г. азн. справа адбывалася ў Баўгарыі на Балканскай паўвыспе). *Ён быў іншай мовы не рускай, хрысьціянін заможны, падарожнічаў па гарадах і прыйшоў у іхны горад. Яны ж нудзілі яго і прэльшчалі шмат дзён адрачыся ад Хрыста і хрысьціянскага веравызнання, але ён не скарыўся і ўсечаны быў 1 красавіка, а рускія хрысьціяне, узяўшы яго цела, паклалі ў труну*[110]*, ідзежа ўсі хресцьяне ляжаць*".

"*І за кроў яго пагарэў горад іхны Вялікі, і таго ж лета Саксіны* (саксонцы) *і полаўцы* (відавочна із Полацка) *ізбегоша* (падняліся) *із нізу* (із раўніны) *да Баўгарам перад Татары* (не інакш як перад Татрскімі гарамі)".

А затым ідзе ўжо тендэнцыйная блытаніна: "*І вартавыя баўгарскія пабеглі, "біены", ад Татар,* (г. азн. Татрскіх гор) *блізу ракі ёй жа найменне Яік* (тендэнцыйная блытаніна: із Татраў выцякае рака Дунаец, прыток Віслы, а Яік – старажытная назва ракі Ўрал, дзе ніколі не было баўгар)". І тут просты здаровы сэнс выказваецца на карысць таго, што "татарамі" тут названы карпацкія Татры, найменне якіх старажытны рускі летапісец і не мог вымавіць інакш (праз уласьцівую рускай мове поўнагалоснасьці) як Татары.

Відавочна таксама, што названныя тут саксіны былі саксонцамі, а, як следства, і іхныя хаўруснікі полаўцы былі палякамі або палачанамі (із Полацкага княжества), а вялікім горадам баўгар названа ніяк не пустое месца за Волгай. Здзіўляцца ж таму, што нейкія каталіцкія або арыянскія фанатыкі таго часу мелі

---

[110] Імя яго не пазначана, але на 1 красавіка святкуецца "Аўраамій Баўгарскі".

жаданне прымусіць заможнага праваслаўнага падарожніка прыняць іхнае веравызнанне, таксама няма ніякіх падставаў.

Пойдзем далей.

Праз тры гады пасьля гэтага, пад 1232 годам (у лета 6740) знаходзім: "*Таго ж лета прыдоша татараве і зімаваша не дашэдша вялікага града Баўгарскага*".

Зноў татары ў Баўгарыі, і як раз у той час, калі па ёй хадзілі крыжаносныя ордэны, згодна з летапісным выказваннем – орды.

А пасьля гэтага, праз чатыры года, тыя ж самыя баўгары із бязбожных катаў "*заможнага падарожніка*", як у сне, самі гінуць ад бязбожнікаў.

"*У 1236 годзе (лета 6744). У тоі ж восені прыйшлі з усходняга боку ў Баўгарскую зямлю бязбожныя татары* (відавочна із Вугоршчыны па р. Прут*) і ўзялі слаўны Вялікі горад Баўгарскі* (відавочна Прэслаў на Дунаі, а ніяк не паселішча Ўспенскае за горадам Казанню на адлегласьці 6 кіламетраў ад Волгі на шляху ў Цецюшы, якое "разуму насуперак, наперакор стыхіям" было прaзвана рускімі гісторыкамі XVIII стагоддзя сталіцай Вялікага Баўгарскага царства, быццам бы знішчанай Бацюшкай-Ханам – Батыем) – пры такіх абставінах:

"*І ўзялі татары,* – заканчвае летапісец, – *гэтае месца слаўны Вялікі горад Баўгарскі* (Прэслаў) *і збілі зброяй ад старца да юнака і да суяга дзіцяці і ўзялі* (далей два радкі адсутнічаюць)".

Так, – пераконваюць нас гісторыкі XVIII стагоддзя, – на адлегласьці ў 25 вёрст ад былога павятовага гарадка Спаска, не даязджаючы да іншага павятовага гарадка Цецюшы, на адлегласьці 6 кіламетраў ад берага Волгі, знікла вялікае царства Баўгарскае, якое мела, – кажуць нам, – шырокія гандлёвыя сувязі нават з Багдадам у Месапатаміі, з Ноўгарадам і Масквой, і яшчэ раней каланізаваўшае да Дуная сучасную Баўгарыю.

Але ці не адбывалася толькі ўсё гэта на самым Дунаі падчас крыжовых паходаў.

Паглядзім на гісторыю Баўгарыі. У ёй налічваюць два царствы. Першае, – кажуць нам, – было заснавана царом Асперухам у 679 годзе. Яно было паганскім і змагалася з Вялікай Рамеяй (Візантыяй) да таго часу, пакуль нашчадак Асперуха цар Барыс (зацараваўшы як раз у 862 годзе, калі рускія прызвалі Рурыка з варагамі із-за мора) прыняў хрысьціянства. З'явіліся Кірыл і Мяфодзій, узнікла нацыянальная літаратура, а затым "Славны горад баўгарскі – Прэслаў" быў разбураны візантыйцамі, захапіўшымі Баўгарыю. Але вось баўгарскі народ паўстаў у 1186 годзе пад правадырствам братоў Асеней і заснаваў Другое Баўгарскае царства са сталіцай у Тырнава, існаваўшае да 1396 года, калі турэцкі султан Баязет захапіў краіну.

Нам тут толькі застаецца разабрацца, якім чынам Першае Баўгарскае царства паслужыла падставай для стварэння міфа пра Вялікую Заволжскую Баўгарыю, а заваяванне яго сталічнага горада Прэслава падчас Другога Крыжовага паходу паслужыла падставай да міфа пра ўзяцце яго Батыем? І ці не быў гэты сам Бацяй-Хан крыжаком? Якім гэта ні здаецца дзіўным, але ёсць шмат падставаў так думаць.

Імя Батый з’яўляецца злёгку пераіначаным словам Бацяй, так як ва ўсходніх аўтараў ён называецца Бата-Хан, г. азн. бацюшка-каган, бацюшка-святар, як і належала б гросмайстару ордэна храмаўнікоў, насядаўшых у гэты час на славян із Аўстра-Вугоршчыны.

Мы толькі што бачылі яго зараз у Баўгарыі, а ў наступным 1237 годзе яго ордэн (арда) знаходзіцца ўжо ў Вугоршчыне і Польшчы, а ў 1238 (а не ў 1237, як

няправільна пералічваюць[111] у Расіі пад Масквой, а затым і пад Уладзімірам і аж да Кастрамы).

Вось як сведчыць пра гэта Лаўрэнцьеўскі спіс з маёй папраўкай у годзе, якую я пазначаю ў косках пры даце.

"*Таго ж лета* (г. азн. 1238, гл. далей), *на зіму прыйшлі ад усходняе краіны на Разанскую зямлю, лесам, бязбожніі татары* (замест татараве), *і пачалі ваяваці Разанскую зямлю і паланілі яе да Пронска. Пaпляніл і ўсю Разань і папалілі, і князя яе забілі, шмат святых цэркваў полымю перадалі, кляштары і вёскі папалілі і абрабавалі, потым пайшлі ў Каломну. Той жа зімой пайшоў Усевалад, сын Юр'еў, супраць татар, і сустрэліся каля Каломны. І была сеча вялікая і забілі ва Ўсевалада ваяводу Ерамея Глебавіча, і іншых мужоў шмат забілі. І прыбег Усевалад ў горад Валадзімер з малой дружынай, а татараве пайшлі да Масквы, і ўзялі Маскву і ваяводу Нянка Філіна забілі за прававерную хрысьціянскую веру, а князя Валадзіміра, сына Юр'ева, узялі рукамі, і людзей збілі ад старца і да існага дзіцяці; горад і цэрквы святыя полымю аддалі і кляштары ўсе і вёскі папалілі і узяўшы шмат маёмасьці адышлі. Той жа зімой прыдоша татараве да* (горада) *Валадзімера, месяца лютага ў 3* (дзень), *на памяць святога Сымона, у аўторак раней мясапуста за тыдзень* (3 лютага 1237 гада сапраўды быў аўторак і памінанне св. Сымона, але толькі не за тыдзень да мясапуста, які прыпадаў тады на 22 лютага пры памінанні Хведара Сіксота). *Валадзімерцы затварыліся ўградзе. Прыехалі татары* (татараве-татраўцы) *да Залатых варот, вядучы з сабой Валадзімера Юр'евіча, брата Всеваложа і Мсціслаўля. Валадзімірцы пусьцілі па страле на татары, і татараве такажа пусьцілі па страле на Залатыя вароты; і пасём рэкоша татараве валадзімірцам: "не страляйце". Прыехалі блізка да варот і пачалі татараві мовіць: "Ці ведаеце княжыча вашага Валадзіміра*?"

*Усевалад жа і Мсціслаў стаялі на Залатых воротах і пазналі брата свайго. О, падзея замілавання і слёз годная. Усевалад і Мсціслаў з дружынай сваёю, і ўсе граждане плакалі, бачачы Валадзімера. А татараве адыйшоўшы ад Залатых варот, і абъехаўшы ўвесь град, сталі станам перад Залатымі вратамі, шмат ваяроў каля града. Усевалад жа і Мсціслаў пашкадавалі брата свайго Валадзімера, і прамовілі дружыне сваёй і Пятру ваяводзе:*

*– Браты! Лепш нам памерці перад Залатымі враты за святую Багародзіцу і за прававерную веру хресцьянскую!*

*Але не выканаў волі іх ваявода Пятро Аслядзюковіч. І сказалі абодва князя:*

*– Гэта навёў на нас бог радзі грахоў нашых.*

*У суботу мясапусную* (1237 год) *пачалі* (татараве) *снаражаць лясы і ставілі* (іх) *да вечера, а на ноч абгарадзілі тынам увесь горад Валадзімер. А ў нядзелю мясапусную*[112] *пасьля ютрані прыступілі да горада месяца лютага 7 пры памінанні святога пакутніка Хведара Страцілата*".

Але Страцілат святкуецца 8 лютага, і акрамя таго ў 6745 г. азн. у нашым 1237 годзе, мясапуст быў не 7, а 22 лютага, 7 лютага ён быў у наступным 6746, г. азн. 1238 годзе і, сапраўды, у нядзелю. І, такім чынам, выходзіць, што Баця-Каган прыйшоў да нас ужо пасьля Польшчы і Вугоршчыны, а не перад імі, і не быў адбіты чэшскім каралём і герцагам аўстрыйскай вобласьці падчас шляху із Расіі, а насупраць выпраўлены імі на Расію. Цікава: хто і навошта паменшыў тут год нападу Баці-Кагана на Расію, не падумаўшы, што яго можна аднавіць па

[111] Пра гэта я скажу далей.

[112] "Нядзеляй" называецца завяршэнне тыдня, чаму і наступны за нядзеляй дзень мае назву панядзелак.

мясопусту? Бо цалкам відавочна, што русская храналогія тут паменшана на 1 год не выпадкова (як відаць і із главы гэтага раздзела), а для таго, каб заваяванне Расіі Батыем выглядала ранейшым чым яго з'яўленне ў Аўстрыі і ў Польшчы. Інакш было б відавочна, што яго Ордэн ішоў з захаду.

"*І быў плач вялікі ў горадзе, а не радасць, грахоў радзі нашых і няпраўды, – працягвае летапісец. – За памнажэнне беззаконняў нашых дапусьціў бог паганых, не мілуючы іх, але нас караючы. Карае нас бог нашэсцямі паганых, яны батог яго, каб мы зышлі са шляху свайго злога. Сяго радзі пад час сьвятаў наводзіць нам бог сетаванне, як прарок сказаў:.. "прэложа сьвяты вашы ў смутак, і песьні вашы ў плач". І ўзялі* (татараве) *горад да обеда; ад Залатых варот ў сьвятога Спаса ўвайшлі; і така неўзабаве ўзялі Новы град...*

*Паланіўшы Валадзімер, татараве пайшлі на вялікага князя Рыгора, акаянныя ці крывапіўцы, а іншыя да Растава, а іншыя да Яраслаўля, а іншыя на Волгу на Гарадзец* (на рацэ Сара Растоўскага краю) *і паланілі ўсё па Волзе, нават і да Галіча Мерскага* (у Кастрамскім краю)*; іншыя пайшлі на Пераяслаў, таксама да Кастрамы і ўзялі яго, а адтоле паланілі ўсю тую краіну і грады шматлікія, дожэ і да Таржка, і няма мясьціны, якой бы не заваявалі* (яны) *на зямлі Суздальскай. І пайшлі бязбожнікі татараве на Сіць супраць вялікага князя Юр'я. Пачуўшы гэта князь Юры з братам сваім Святаславам і з сыноўцамі, Васількам, Усеваладам і Валадзімірам, і з мужамі сваімі пайшоў супраць паганых. І бысць сеча зла, і пабеглі нашы перад іншаземцамі; і тут убьен быў князь Юры, а Васілка ўзялі рукамі бязбожнымі і павялі ў станы свае. Гэта ж зло садзелалася месяца сакавіка ў 4 дзень, пры памінанні святога пакутніка Паўла і Ўлляны. І тут убьен быў князь вялікі Юры на Сіці на рацэ, і із дружыны яго шмат забілі. Блажэнны ж біскуп Кірыл взя мёртвага князя, ідучы з Белаозера, і прынёс у Растоў, і спяваў над ім звычайныя песьні са ігумены і з клірашаны і з папы, са шматлікімі слязамі, і паклаў яго ў труну ў святыя Багародзіцы. А Васілька Кастусёвіча вялі* (татараве) *са моцнай нужаю да Шэрньскага лесу, і як сталі станам, нудзілі яго шмат праклёну бязбожніі татараве* (падпарадкавацца) *звычаю паганскаму, быці ў іхнай волі і ваяваці разам з імі. Але ён ніяк не пакараўся іхнаму беззаконню, і шмат аблічаў іх глаголючы:*

*– О глухое цесарства, апаганенае! Ніяк мяне не адвядзеце ад хрысьціянскай веры, калі і ў веліцей вельмі бядзе буду. А богу як адказ дасьце за тое, што шмат душ загубілі без праўды? За іх катаваць будзе вас бог у бясконцыя вякі, і прыме бог душы тых, якіх вы загубілі.*

*Яны скрыгаталі зубамі на яго, жадаючы насыціцца яго крывёю. А блажэнны князь Васілька памаліўся, глаголіў:*

*– Пане Езусе Хрысьце дапамагаўшы мне шматразова! Ізбаві мяне ад гэтых плотаядзец!*

*І яшчэ памаліўшыся сказаў:*

*– Пане ўседзяржыцель нерукатворны цэсар! Выратуй шануючых цябе і выканай просьбу маю, дапамажы хрысьціянам і выратуй рабоў тваіх, чад маіх Барыса і Глеба, і бацьку майго, біскупа Кірыла.*

*І яшчэ трэцці раз памаліўся:*

*– Дзякую ця, пане божа мой! Якую бачу ўхвальную памяць пра мяне за тое, што маладое маё цела ад жалеза гіне, і тонкае маё цела завядае! – і яшчэ памаліўся:*

*– Пане Езусе Хрысьце ўсемагутны! Прымі дух мой, каб і я спачыў у славе тваёй. – І калі сказаў гэта без літасьці забіты быў. Убачыла яго кінутага ў лесе адна жанчына верная і паведаміла мужу богабаязненнаму паповічу Андрыяну, і ўзяў ён цела Васілька і паклаў яго ў патаемнае месца. Даведаўшыся пра гэта багашануючы біскуп Кірыл і княгіня Васількава паслалі за князем, прынеслі яго ў Растоў, і калі ўнясьлі яго ў горад, шмат народу выйшла насустрач яму, жаласныя слёзы выпускаючы, страціўшы такое суцяшэнне. Галасіла шмат народу прававернага, бачачы адыходзячым бацьку і карміцеля сірых, сумных суцяшэнне вялікае, омрачных зорку светаносную зашэдшую. На весь царкоўны чын атверз яму бог вочы шчырыя, усім царкоўнікам і бедным і сумным быў ён як шануючы бацька і больш усяго міластыню* (тварыў), *успамінаючы слова господава, якое кажа: блажэныі міласьцівіі, бо яны памілаваны будуць… і гэтага блажэннага князя Васілька спадобіў бог сьмерці падобна Андрэю мучанічаскай крывёю абмыўшагася ад грахоў сваіх, з братам і з бацькам Рыгорам з вялікім князем. І цудоўна было тое, што і па сьмерці злучыў бог целы іх. Прынеслі Васілька і паклалі яго ў царкве святыя багародзіцы ў Растове, дзе і маці яго ляжыць, і тады ж прынеслі галаву вялікага князя Рыгора, і паклалі ў труну да яе цела*".

Так апісана фатальная для рускіх бітва на рацэ Сіці, прытоку Малогі на яе павароце да Рыбінска. А Баця-Каган, які нарабіў усё гэта, з'яўляецца пазней ужо не як вораг і вайсковы правадыр, а як апякун. Праз 5 гадоў пасьля толькі што апісанага, мы маем пра яго такі запіс:

"*У лета 6751* (г. азн. у 1242), – сведчыць Лаўрэнцьеўская копія, – *паехаў вялікі князь Яраслаў* (Усеваладавіч, князь Уладзімірскі) *у Татары* (г. азн. у Татры) *у Батыеву* (Баццяеву), *а сына свайго Кастуся паслаў да Канаў*(нік)*а* (г. азн. да каталіцкага каноніка для праверкі правільнасьці веравызнання[113]. Нам кажуць, што кановічамі і хановічамі зваліся нашчадкі Чынгіз-хана, г. азн. Чынгіз Кагана, але з заходняга боку гледжання і само імя Чынгізхан, як пабачым далей, хутчэй за ўсё з'яўляецца пераіначаным нямецкім Kenigs-chan, спачатку Konig-Kahan, г. азн. цар святар*). Батый жа* (г. азн. Бацяй, Pater) *ушанаваў Яраслава і мужоў яго вялікім гонарам і адпусьціў яго сказаўшы яму:*

*– Яраслаў! Будзь ты найстарэйшым над усімі князямі ў Рускім народзе!*

*І Яраслаў вярнуўся ў сваю зямлю з вялікім гонарам*".

А Наўгародзкі варыянт паўтарае гэту нататку ў такім выглядзе:

"*У тое ж лета Яраслаў Усеваладавіч пакліканы быў царом* (г. азн. цэзарам) *татарскім* (Тарскім) *і пайшоў да яго ў Арду* (г. азн. у ордэн крыжакоў)".

Мы тут бачым адразу, што і краіна Татары, і Ордэн былі адным і тым жа, і што іхны валадар называўся і цэзарам, пры рускім скарачэнні царом, і Бацюшкай (Бацяй або Батый), інакш Бата-ханам, г. азн. Бацюшкай Каганам, а Каган згодна з Бібліяй – азначае: першасьвятар.

Тое ж самае мы бачым і далей. Я буду спачатку прыводзіць Лаўрэнцьеўскі спіс, а потым буду да кожнага года дадаваць вытрымкі і із Наўгародзкіх копій-варыянтаў.

"*У лета 6752* (1244 год), – паведамляе Лаўрэнцьеўскі спіс, – *князь Валадзімер Кастусёвіч* (Вугліцкі), *Барыс Васількавіч* (Растоўскі), *Васіль Усеваладавіч* (Яраслаўскі) *са сваімі мужамі, поехалі ў Татары* (Татры) *да Батыева*

---

[113] У дадзеным выпадку замест Каноніку перапісчык напісаў Канову, г. азн. як бы "да ханава", але гэтая падробка выяўляецца далейшымі выкарыстаннямі гэтай назвы, якія я прывяду тут далей пад гадамі 1224, 1227, і 1249. Усюды гаворыцца: кановічы, г. азн. каноніки.

*прасіць сабе отчыну* (княства). *Батый жа* (Баця-Каган), *ушанаваўшы іх вартым шанаваннем, адпусціў, рассудзіўшы паміж імі, кажнага ў сваю отчыну, і прыехалі ўсе з гонарам на сваю зямлю*".

"*У лета 6753* (1245 год). *Князь Кастусь Яраславіч* (Уладзімірскі) *вярнуўся із Татар* (Татраў) *ад канонічаў* (канонікаў) *да бацькі свайго з гонарам. Таго ж лета вялікі князь Яраслаў і са сваёю браціяй і з сыноўцамі поехаў* (зноў) *у Татары да Батыеву*".

У Наўгародзкіх спісках пра гэта няма.

"*У лета 6754* (1246 год). *Святаслаў, Ян князь, з сынамі сваімі, прыехаў із Татар у сваю Отчыну* (спадчыннае княства). *Таго ж лета Міхайла, князь Чарнігаўскі, са унукам сваім Барысам, паехалі ў Татары* (Татры) *і калі яны былі ў станах* (гарадах) *паслаў Батый* (Баця) *да Міхала князя, вялючы яму пакланіцца агневі і балванам іх* (г. азн. каталіцкім статуям з лампадамі перад імі), *Міхайла ж князь не выканаў загад іх, але ўкарыў глухіх яго куміраў* ( г. азн. статуі), *і за тое без міласьці заколаты быў ад бязбожных, і прыняў канец жыццю свайму 20 верасня на память святаго пакутніка Яўстафія. А князя Борыса выправіў Батый да сына свайго Сартака. Сартак жа, ушанаваўшы князя Барыса, адпусьціў яго васваясі. Той жа васенню князь Яраслаў, сын Усеваладавіч, прэставіўся ў іншапляменных, ідучы ад katовічаў* (канонікаў) *пасьля іхных увяшчанняў месяца верасня 30, пры памінанні святога Рыгора*".

Пра адмову Міхала пакланіцца статуям існуе і вялікае варыянтнае паведамленне і ў Наўгародзкіх спісках, але не пад 1245 годам, і прытым у сувязі з агульнай прапановай Баці-Кагана ўсім прыняць яго веравызнанне.

Пачынаецца так: "*прыйшлі паслы ад цара* (г. азн. цезара) *Батыя* (Баці-Кагана) *да Міхала, трымаўшага тады Кіеў. Ён жа бачачы славесы іхнага спакушэння, загадаў забіць іх, а сам збег у "Вугры" са сваімі хатнімі. А із кіяўлян адны збеглі ў дальнюю краіну, другія схаваліся ў пячорах і лясах, а з нешматлікіх застаўшыхся пачалі браць даніну*".

Затым ідзе цэлы фантастычны раман, з размовамі і з загадам прайсьці праз полымя і пакланіцца кусту вогненнаму, і што шмат хто саўраціліся, а Міхал, параіўшыся з духоўным айцом, пайшоў выкрываць Бата-хана і яго веравызнанне. І памёр "*ухваляючы госпада..."* У гэты час сапраўды і было нашэсьце каталіцкіх духоўных ордэнаў "братоў-мінарэтаў" і "братоў-прапаведнікаў" на славянскія зямлі із Аўстрыі.

"*У лета 6755* (1247 год), *пачуўшы пра смерць бацькі свайго, Аляксандр* (Неўскі) *прыехаў із Ноўгарада ў Валадзімір і плакаўся па бацьку сваім. Таго ж лета паехаў князь Андрэй Яраславіч у* ***Татары*** (Татры) *да Батыева* (Баці-Кагана), *ды і Аляксандр князь паехаў ўслед за братам да* ***Батыева; Батый*** *жа ўшанаваў іх, выправіў іх да* ***Каневічаў*** (канонікаў для праверкі іхнаг веравызнання)".

Пра гэта ў Наўгародзкіх спісках сказана пад 1246 годам.

"*У лета 6756* (1248 г.)... *Той жа зімой забіты быў Міхал Яраславіч ад поганыя* ***Літвы*** (г. азн. лівонскімі рыцарамі). *Блажэнны біскуп Кірыл паслаў забраць цела яго, і прывёз яго ў Валадзімір. Плакалі браты яго і баяры над ім, спявалі песні пахавальныя, і паклалі яго каля сьцяны ў святой багародзіцы. Той жа зімой каля Зупцава суздальскі князь перамог Літву* (г. азн. Лівонскі рыцарскі ордэн)".

"*У лета 6757* (1249 год*). Паехаў князь Глеб Васількавіч ў Татары* (Татры), *да Сартака* (я пакуль не магу асэнсаваць гэтае імя). *Сартак ўшанаваў яго і выправіў у*

*сваю отчыну. Той жа зімой прыехаў Аляксандр і Андрэй ад **каповічаў*** (канонікаў, а ў Наўгародзкіх спісках сказана:. "прыехаў князь Аляксандр із **Арды**", г. азн. ордэна, і справа аднесена да наступнага 6758 года). *Аддалі яны Аляксандру – Кіеў і ўсю Рускую зямлю, а Андрэй сеў ва Валадзіміры на стале. Той жа зімой Валадзімір князь Кастусёвіч прэставіўся* (памёр) *у Валадзімеры пры ўшанаванні святога першапакутніка Стэфана. Плакаўся над ім князь Аляксандр з брацією шмат, і праводзіў яго з гонарам із Залатых варот, і адвёз яго ва Ўнлеча поле, а блажэнны біскуп Кірыл з ігуменамі спявалі песьні пахавальныя і паклалі яго ў святога Спаса, і шмат плакалі*".

"*У лета 6758* (1250 год). *Паехаў князь Барыс да Сартака* (спадкаемца Батыя). *Сартак, ушанаваўшы, адпусьціў яго ў сваю отчыну. Той жа восенню паехаў Святаслаў Усеваладавіч з сынам у **Татары*** (Татры)".

"*У лета 6760* (1252 год). *Хадзіў князь наўгародзкі, Аляксандр Яраславіч у **Татары*** (Татры). *Адпусьцілі яго з гонарам вялікім, даўшы яму старэйшынства над усёй браціяй яго. У тое ж лета задумаў князь Андрэй Яраславіч* (Суздальскі) *са сваімі баярамі лепш збегчы, чым цэсарам* (г. азн. лацінянам) *служыць, і пабег у невядомую зямлю з княгіняю сваёю і з баярамі сваімі. Пагналіся за імі **татараве** (г. азн. татраўцы) спасьцігглі каля горада Пераяслава, але бог і малітва яго бацькі выратавалі яго. **Татараве** разышліся па зямлі, і ўзялі княгіню Яраслаўлю і дзяцей злавілі, і ваяводу Жыдаслава забілі, і княгіню забілі, а дзяцей Яраслаўлевых у палон паслалі. Яны забралі без ліку людзей, і коней, і быдла, і шмат зла ўчынілі адыходзячы. У тое ж лета адпусьцілі **татараве** Олга* (Алега), *князя Разанскага, у сваю зямлю. У тое ж лета прыйшоў Аляксандр князь вялікі із **Татар** (Татраў) у град Валадзімір. Яго сустрэў з крыжамі ў Залатых варотах мітрапаліт і ўсе ігумены і гараджане, і пасадзілі яго на стале бацькі яго Яраслава… Была радасць вялікая ў горадзе Валадзіміры і па ўсёй зямлі Суздальскай*".

"*У лета 6764* (1256 год). *Князь Барыс паехаў у **Татары** (Татры), а Аляксандр князь паслаў туды дарункі, Барыс жа быўшы ва Ўлаўчыя* (князя Татарскага, нешта накшталт улавіцеля, лоўчага; гэтае імя цалкам адсутнічае ў Наўгародзкіх варыянтах). *Даў дарункі яму і прыехаў у сваю отчыну з гонарам*".

"*У лета 6765* (1257 год). *Паехалі ў **Татары** (Татры) князі Аляксандр, Андрэй, Барыс і, ушанаваўшы Улаўчыя, вярнуліся ў сваю отчыну. Той жа зімой прыехаў Глеб Васількавіч із Кану* (ханавай) *зямлі ад цэсара, і адружыўся ў Ардзе* (ордэне, г. азн. згодна з каталіцкім звычаем). *Той жа зімой прыехаша* (із ордэна) *чысленіцы, злічылі ўсю зямлю Суздальскую, і Разанскую, і Мурамскую, і паставілі дзясятнікаў, і сотнікаў, і тысячнікаў, і цемнікаў* (дзесяцітысячнікаў) *і пайшлі ў Арду* (ордэн), *не злічыўшы толькі ігуменаў, чарняцоў, папоў, крылашан, і хто служыць святой багародзіцы і ўладыку*".

"*У лета 6766* (1258 год). *Прыйшлі ў Татары князі Аляксандр, Аўдзей, Барыс і Яраслаў Тферьскі, ушанавалі Улаўчыя і ўсіх яго ваявод, і адпушчаны былі ў сваю отчыну*".

"*У лета 6770 (1262 год). Пазбавіў бог Растоўскую зямлю ад лютай знямогі бесерменскай* (г. азн. ад гвалту збіральнікаў падаткаў. Гэта нямецкае слова Besteuermann; ад besteuern – абкладаць падаткам і Mann – чалавек. Ужо із гэтага бачна, што "бусурманы" былі ордэнскімі збіральнікамі падаткаў нямецкага паходжання). *Уклаў бог лютасць у сэрцы сялян, не пераносячых гвалту паганых. Яны зрабілі веча і выгналі (бесерменаў) із гарадоў Растова, і Суждаля, і Яраслаўля. Бралі бо тыя акаянныя бесурмене даніны, і ад таго вяліку згубу людзям чынілі…*

*Бачыўшы гэта чалавекалюбец бог паслухаў маленні сваёй маці і пазавіў людзей сваіх ад вялікай бяды*".

А ў Наўгародзкіх спісах замест гэтага сказана:

"*У тое ж лета пайшоў князь Аляксандр* (Неўскі) *у Татары* (Татры) *і затрымаў яго там Берка (Берг?), але пусьціў у Русь. Ён зімаваў і расхварэўся ў Татарах* (Татрах) *і прыйшоў* (у наступнае лета) *із Татар* (Татраў) *вельмі нездаровы, пастрыгся 14 лістапада і ў тую ж ноч прэставіўся*".

Вельмі цікава, што з гэтага месца ў Лаўрэнцеўскім летапісе тэндэнцыйна то там, то сям выдраны цэлыя лісты, часам без якіх бы то ні было слядоў, а часам з устаўкамі іншым почыркам. Мне здаецца, што гэта зроблена адмыслова наступнымі чытачамі, якія намагаліся знішчыць тыя месцы першапачатковага тэксту, із якіх было бачна, што татарскія орды былі каталіцкім рыцарскімі ордэнамі.

Потым Лаўрэнцьеўскі летапіс перапыняецца на 20 гадоў і пасьля некалькіх выдраных лістоў пачынаецца сыходам із Русі нейкага Капітана-Баскака[114] Ахмата ў 1283 годзе:

"*Ахмат пакінуў двух сваіх братоў выконваць і мацаваць свае свабоды* (правы), *а сам не смеў застацца на Русі, бо не мог узяць ніводнага князя, і пайшоў у Татары* (Татры), *трымацца палку Татарскага* (Тацкага)".

А затым:

"*У лета 6792* (1284 год). *Два бесурменіна* (зборшчыкі падаткаў, Bestauermann'a) *ішлі із адной слабады ў другую слабаду, а русі* (рускай аховы) *з імі было больш за 30 чалавек. Пачуўшы пра гэта, Ліпавіцкі князь Святаслаў, задумаў са сваёю дружынай без Алегавай згоды стварыць розбой над імі. Два браценікі-бесерменіна збеглі, а рускіх ён забіў 25 чалавек і двух бесерменінаў. Алег князь прыйшоў із Арды* (ордэна) *і паслаў да Святослава, кажучы: " навошта ўсклаў ты імя разбойнічае на мяне і на сябе? Ведаеш нораў татарскі: ідзі ў **Арду*** (у ордэн) *і адказвай". А Святаслаў адказаў: "Я сам ведаюсь ў сваёй справе". Тады прыйшоў Алег із **Арды*** (ордэна) *з **Татары*** (татраўцамі) *і забіў Святослава па **цесараву** слову, а потым брат Святаслава Аляксандр забіў Алега і двух яго малых сыноў. І стварылася радасць дз'яблу і яго паспешніку Ахмату*".

Ці можна із гэтага заключыць, што крыжакі нанімалі зборшчыкаў падаткаў із магаметан, або із юдэяў, якіх рускія блыталі з магаметанамі? Пакідаю гэтае пытанне нявырашаным і вяртаюся да фактаў. Далей зноў вырваны із летапісу ліст, і пасьля яго пачынаецца так:

"*І была яму вестка, што на Маскве палкі татарскія і Андрэй князь. Але знайшоўся* (чалавек, які) *праводзіў яго на шлях. Дык абараніў бог князя малітваю дзеда і бацькі яго і не пагрэбаваў бог слязамі і малітвамі яго маці. Татараве ж і Андрэй князь, слыша прыход князя Міхала* (Цвярскога), *не пайшлі на Тферь, а наступілі на Волак* (Вышэйшы Валочак) *і зрабілі тое ж зло:із лясоў людзей вывелі і пайшлі назад да Переяслава. Татараве ж пайшлі васваясі. Той жа зімой – цесар Татарскі* (Татрскі) *прыйшоў у Цвер, імя яму Так-Тамер (Цітмар?), і шмат цяжару народу ўчыніў*".

---

[114] Слова баскак спрабуюць вывесьці ад сугучнага з ім цюркскага слова, азначаючага "душыцель". Але такое найменне маглі б даць сваім прыгнятальнікам толькі рускія па-руску ж, а ніяк не самі ўладары на сваёй уласнай мове. Іншая справа, калі гэта – рускае слова са значэннем кіраўнік, башка, як маглі перакладаць для рускіх сваю назву нямецкія Hauptmann'ы, г. азн. капітаны (прытым і слова капітан паходзіць ад лацінскага caput – галава, башка).

А затым яшчэ:

"*У лета 6805* (1297 год). *Прыйшоў Андрэй князь із Татар (Татраў) і сабраў войска. Хацеў ісьці на Пераяслаў раццю, ды ад Переялава да Масквы і да Цвяры. Пачулі гэта князь Міхайла Цвярскі і Даніла Маскоўскі. Злучыўшы свае войскі і сталі паблізу Юрьева і не далі ісьці Андрэю на Пераяслаў*".

А для 1300 ггода знаходзім:

"*Таго ж лета мітрапаліт Максім, не чакаючы Татарскага (татрскага) насілля, пакінь мітраполлю і збег із Кіева, і ўвесь Кіеў разбегся. Мітрапаліт пайшоў да Бранска, і адтуль у Суздальскую зямлю з усім сваім жыццём*".

Вельмі магчыма, што ён і вывез з сабой Лаўрэнцьеўскі летапіс, так як да яго заканчэння застаецца толькі дзве старонкі, напоўненыя дробнымі заўвагамі.

Хутка пасьля таго, на 1337 годзе заканчваецца асноўны тэкст і яе Наўгародзкага варыянта. А ў яе "працягу згодна са спісам Археаграфічнай камісіі", пачынаючымся 1333 і заканчваючымся 1446 годам, мы маем яшчэ такія паведамленні пра "татраўцаў":

"*У лета 6847* (г. азн. у 1339 годзе) *хадзіў вялікі князь Ян* (г. азн. Маскоўска-Ўладзімірскі Ян Каліта "збіральнік зямлі рускай") *у* ***Арду*** (г. азн. у Ордэн). *Паводле яго даносаў позвалі туды татараве (татраўцы) і ўсіх князёў, але калі яны прыйшлі, князь Ян* (Каліта) *ужо выйшаў адтуль*".

Гэта быў апошні візіт рускіх князёў на суд у ордэн. Затым пачынаецца сварка.

"*У лета 6890 (г. азн. у 1382 годзе) прыйшоў цар* (г. азн. цесар) *татарскі* (Татрскі) *Тэктамыш* (перайначанае іншаземнае слова) *у вялікай сіле на зямлю рускую. Ён узяў сабе горад Маскву і Пераяслаў* (Уладзімірскі, Залескі), *і Каломну, і Серпухаў, і Зьмітраў, і Уладзімір, і Юр'еў* (Юр'еў Польскі паміж Уладзімірам і Пераяславам-Залескім). *Князь* (Серпухаўскай) *Уладзімір* (па празванню Храбры) *з'ехаў на Волак* (Вышні Валочак), *княгіня ў Таржок, а мітрапаліт ў Цвер* (г. азн. ўсе на паўночны ўсход па сучаснай лініі чыгункі). *А каломенскі ўладыка Герасім збег у Ноўгарад. І хто із нас, браціе, не ўстрашыцца, бачачы такое засмучэнне Рускай зямлі, паводле слова Госпада прарокам "калі паслухаеце мяне, будзеце есьці зямныя блага і накладу жах на вашых ворагаў, а калі не паслухаеце мяне, то пабяжыце нікім не гнаныя: пашлю на вас жах і ўжас і пабяжыце вы сто ад пяці і цьма ад сотні*".

Мы бачым, што і тут нашэсьце "татаравей" было з захаду ці дкладней з паўднёвага-захаду, із Карпат, а не з усходу, таму што ад іх із Масквы беглі на ўсход, у Кастраму, чаго не магло быць, калі б нашэсьце паходзіла із прыволжскай краіны. Але напад татраўцаў, відаць, на гэты раз закончыўся іх хуткім сыходам назад, так як пасьля свайго патэтычнага разважання пра паслухмянасць богу, аўтар нават і не згадвае пра тое, як і куды сышлі "татараве", і як вярнуўся ў Маскву "збіральнік зямель рускіх". Ды гэта і зразумела. Тут мы ўжо шчыльна падыходзім да таго часу, калі на шырокай пустцы паміж Босніяй і Македоніяй, амываемай рэкамі Сітніцай і Нерадзімкай і званай Косавым Полем, адбылася 15 ліпеня 1389 гада знакамітая бітва паміж туркамі і сербамі, меўшая наступствам падзенне Сербскага царства і, разам з тым, і паслабленне каталіцкіх ордэнаў.

Апошні раз слова "арда" (г. азн. ордэн) ужыта ў Наўгародзкіх копіях ў 1445 годзе, калі Маскоўскі Вялікі князь Васіль (г. азн. Васіль Васільевіч Цёмны, 1425-1462) спачатку "*выправіў двух татарскіх царэвічаў* (відавочна хаўруснікаў) *на літоўскія гарады, на Вязьму і на Бранск* (г. азн. на захад і на паўднёвы-захад ад

Масквы) *ледзь не да Смаленска, і за гэта літоўскі князь Казімір выправіў сваіх паноў і войска на Мажайск* (да Масквы) *і ўзяў пяць litарадоў* (маскоўскага княства), *паланіў і захапіў шмат зямлі, і была вялікая хрысьціянская пагібель*".

Але на прыканцы таго года становішча раптам перамяняецца.

"*Таго ж лета* (г. азн. 1445 года) *вялікі князь* (Васіль Маскоўскі) *пайшоў у Арду* (Ордэн), *дзе знаходзіўся ўжо цар Магамет*".

Затым пад 1446 годам чытаем:

"*Адпусьціў цар Махмет князя вялікага Васіля ў рускую зямлю і ўзяў з яго выкуп дзве тысячы рублёў, а што яшчэ мное ведае толькі бог ды яны* (двое)".

А ў гэты ж самы час сапраўды існаваў цар Магамет, але толькі не ў Казані, куды яго зараз змяшчаюць, а зноў на Балканскай паўвыспе. Гэта Магамет II Вялікі (1430-1481), пераемнік Мурада II, які 29 траўня 1453 гада забраў у крыжакоў Цар-Горад, а пачынаючы з 1473 года забраў у іх Крым і Грэцкія выспы і заснаваў замест Візантыйскай – Турэцкую імперыю. Да яго-та, відавочна, і хадзіў згодна са звычкай з паклонам Васіль Цёмны, але быў нявётліва прыняты магаметанінам. І тут разам з татрскім (інакш з татарскім) ярмом са старонак рускіх летапісаў знікаюць і магутныя дагэтуль ордэны, атрымаўшыя назву ордаў (ordo), і сама гэтая назва з пачаткам XVIII стагоддзя пераходзіць на палітычна не маючых ніякай магутнасьці згодна з самім сваім спосабам жыцця кіргіз-кайсакаў (а не татар!) ўнутранай Азіі. Іхная Вялікая "арда", нягледзячы на дастаўшаяся ёй у спадчыну рыцарскае найменне, мірна вандруе і да гэтага часу ў сціплых кібітках разрозненымі патрыярхальнымі згуртаваннямі ў стэпах паміж ракой Сыр-Дар’я і возерам Балхаш на поўнач ад перадгор'яў Цянь-Шаня. "Сярэдняя арда" таксама мірна разышлася на паўночны-ўсход ад яе аж да Сямірэчанска, Сяміпалацінска і Акмалінска, а "Букееўская арда" блукае па пяшчаніста-глінянаму нізіннаму стэпу за прыкаспійскай Волгай, дзе раскіданы толькі салёныя азёры ды сыпучыя пяскі, і дзе праз адсутнасць рэк даводзіцца капаць калодзежы для вады. Іхная ханская стаўка мае назву не «Сарай", а Рынь-Пяскі, і прывёў іх сюды (відаць із-за ракі Ўрал) не Батый, а Букей і не ў XIII стагоддзі, а ў 1801 годзе, і ў дадатак да гэтага, яны ніколі не называлі сябе татарамі і не называюць зараз.

Нам кажуць, што Вялікай Татарыяй некалі звалася сучасная Бухара. Але ніхто ў Бухары пра гэта і не чуў інакш як ад прыязджаючых туды еўрапейскіх гісторыкаў, запазычыўшых гэта із псеўда-арабскіх твораў, якія ўпершыню з'явіліся ў XVIII стагоддзі на французском мове, ды і ў грэка-лацінскіх класікаў Бухара называлася толькі Согдай і Трансаксаніяй, а не Вялікай Татарыяй. Нам кажуць, што ханствы Крымскае, Астраханскае і Казанскае мелі назву Малая Татарыя, але гэта толькі са слоў "арабскіх падарожнікаў", пісаўшых свае творы большай часткай спачатку на французкай мове ў XVIII стагоддзі, а ў Казані і ў Астрахані вы таксама нічога пра Малую Татарыю не пачуеце.

Я не буду, вядома, аспрэчваць, што мы называем татарамі іншародцаў мусульманскага веравызнання, якія і зараз жывуць у Крыму і дзе-нідзе на паўднёвай Волзе, але мы не павінны забывацца, што і Крым ніколі не меў назву Татарыя (хаця б і Малая), а толькі Таўрыда. Мы не павінны забывацца, што і ён быў каланізаваны візантыйскімі рамейцамі, галоўным чынам баўгарамі, румынамі і македонцамі, і існуе нават міф пра існаваўшае тут на пачатку нашай эры Басфорскае царства на чале з царом Мітрыдатам.

"Татары, – запэўніваюць нас самі артадаксальныя гісторыкі, – з’явіліся ў Крыму толькі адначасова з генуэзцамі ў 1170 годзе, падчас крыжовага пахода і

зацвердзіліся тут толькі ў XIII стагоддзі, г. азн. як раз пасьля зававаявання крыжакамі Цар-Горада і ўтварэння імі Лацінскай імперыі на Усходзе. І ў гэты ж час генуэзцы, суправаджаўшыя крыжакоў, утварылі на берагах Таўрычаскай паўвыспы свае факторыі, парэшткі якіх існуюць і зараз каля Керчы, Феадосіі, Севастопаля, Бахчысарая і іншых гарадоў. А пазней, пасьля выгнання крыжакоў, Крымскую паўвыспу ў 1475 годзе захапілі туркі з таго ж амусульманіўшагася Цар-Горада. Дадам дарэчы, што і само слова мусульманін – муслімнец – утрымлівае ў сваім корані імя Мусы, як згодна з Каранам зваўся Майсей, і што гэтае веравызнанне, як я ўжо не раз даводзіў у ранейшых тамах, з’яўляецца ні чым іншым, як першапачатковым арыянствам, якое нічым не адрознівалася ад юдаізма (г. азн. богаслаўя), ды і яго характэрнай рысай было, як і ў крыжакоў, абавязак "распаўсюджваць веру мячом".

Із гэтага відаць, што з'яўленне ў Крыму татараўцаў (татаравей або татраўцаў) адбылося адначасова з яго каланізацыяй генуэзцамі, як вельмі дзейных ўдзельнікаў крыжовых паходаў. Гэта азначае, калі назва татараве (або татраўцы) стала агульнай на славянскім ўсходзе для крыжакоў (а грэкі, са свайго боку, ператварылі гэтую назву нават у тартараў, г. азн. пякельных людзей), то і сучасныя крымскія татары павінны быць сумессю першапачатковага насельніцтва гэтай краіны, меўшага назву ў грэкаў скіфы, з прыйшоўшымі да іх спачатку грэка-славянскімі рамейцамі, а пазней генуэзцамі і іншымі крыжацкімі шукальнікамі прыгод. А пасьля гэтага станавіцца зразумелай і міграцыя гэтага наймення разам з купцамі-мараходамі із Крыма ў Марыупаль на паўночным беразе Азоўскага мора і, затым, на Дон да яго зближэння з Волгай і, як наступныя прыступкі, ўніз па Волзе. На поўдні па гэтай рацэ ў месцы яе зливання з Каспійскім морам, узнік горад рыбаловаў Астрахань, а з ім і Астраханскае царства, існаваўшае да 1554 года. Яно часта зведвала набегі прыазоўскіх качэўнікаў нагайцаў або нагаеў, якія, з гэтага боку гледжання, зьяўляюцца не нашчадкамі "татар Залатой Арды" (г. азн. крыжацка ордэна з Татрскіх гор, якія прыйшлі праз Крым і Дон ў гэты край), а першапачатковых насельнікаў паўднёвага Паволжа.

На поўнач ад месца найбольшага зближэння Дона і Волгі берегавая каланізацыя рамейскіх грэкаў, баўгар і розных франкаў і лацінян часоў крыжовых паходаў дайшла па Волзе, як натуральнаму першапачатковаму шляху (асабліва пад час тагачаснага перыяду росквіту судаходства), спачатку да Саратава, потым да Самары і Казані і, заснаваўшы гэтыя гарады, як апорныя пункты на шляху па Малозе і Сіці і да Разані, Яраслаўля, Цвяры і нават Масквы, але ўжо толькі ў якасьці летніх берагавых рабаўнікоў, збягаўшых назад да зімовага з’яўлення лёду на ладзях у свае апорныя аселыя пасяленні разам з нарабаваным і захопленым дабром. Але гэтыя рачныя рабункі маглі здзяйсняцца толькі у такіх местах, дзе прытокі Волгі былі дастаткова шырокімі, каб было немагчымым перакрыць русла ракі бярвеннямі або плытамі спераду або ззаду з мэтай не прапусьціць рачных рабаўнікоў далей ці не выпусціць назад прыплыўшых.

Наглядным прыкладам гэтаму служаць прыбярэжныя набегі данскога казацкага атамана Сьцяпана Разіна. Спачатку, з 1667 гада ён рабуе, выйшаўшы праз Данскі ліман у Азоўскае мора, тамашнія турэцкія гарады, а затым пераходзіць у Волгу з флатыліяй парусных і вяславых краблёў, у якіх можна было везьці і харчовыя прыпасы і хутка выйсьці із вобласьці берагавога абстрэлу, дзякуючы шырыні ракі. Ён захоплівае нечаканымі нападамі спачатку Астрахань і прыбярэжную паласу Каспійскага мора да ракі Ўрал, і самую гэтую раку меўшую

тады назву Яік. Вясной 1670 года ён паплыў уверх па Волзе пад сьцягам абароны старой веры і вызвалення жыхароў ад падаткаў. Ён захапіў нават Ніжні Ноўгарад, кажучы, што вязе з сабой патрыярха. Але з пачаткам зімы 1670 года Волга пачала замярзаць, і яму давялося хутка плыць на поўдзень. А за зіму Маскоўская дзяржава паспела падрыхтавацца: да студзеня 1671 года значная частка ўсходняй Украіны была падпарадкавана Маскве, а ў красавіку 1671 года самі данскія казакі выдалі Разіна маскоўскім стральцам. Ён быў вывезены ў Маскву і там пакараны, быўшы падставай з'яўлення шматлікіх былін і паданняў у асяроддзі прыволжскіх народаў, а ў XIX стагоддзі нават і паэм ідэалістычнага зместу.

Праз сто гадоў пасьля яго другі данскі казак Ямяльян Пугачоў спрабаваў паўтарыць яго паволжскія паходы, абвясьціўшы сябе ў 1773 годзе імператарам Пятром III (у рэчаіснасьці пазбаўленым пасады і забітым сваёй гвардыяй на карысць Кацярыны II адзінаццать гадоў перад тым у 1762 годзе). Справа ў тым, што Пятра III стараверы лічылі ў той час чамусьці сваім, хаця будучы ўраджэнцам Германіі, ён быў у рэчаіснасьці лютэранінам і прыхільнікам германскай культуры. Але і для Пугачова паволжскія поспехі працягваліся нядоўга. Спачатку ён таксама пайшоў на ўсход уздоўж берага Каспійскага мора на раку Ўрал і ў кастрычніку 1773 года пры Кацярыне II аблажыў Арэнбург, але не змог яго ўзяць і ў сакавіку 1774 адступіў ад яго і пайшоў на захад, так як мясцовае староверчаскае сялянства Казанскага і Пензенскага краёў паднялося за яго, забіваючы маскоўскіх чыноўнікаў і землеўладальнікаў. Але, нягледзячы на гэта, ён не пайшоў далей на захад на Маскву, а павярнуўшы на поўдзень, прайшоў праз падпарадкаваўшыяся яму Пятроўск і Саратаў назад да Каспійскага мора, прычым яго войска было пераможана ідучым следам за ім войскам Кацярыны II на павароце Волгі да Каспійскага мора каля сучаснага Чарнаярска. Пугачоў паспешліва пераправіўся на ўсходні бок Волгі разам з часткай сваіх прыхільнікаў, але быў там схоплены імі самімі і выдадзены пераследаваўшаму яго рускаму войску, пасля чаго ён быў адвезены ў Маскву дзе і быў пакараны сьмерцю ў студзені 1775 года.

Мы тут назіраем ужо сухапутны паход правадыра данскіх казакаў, але толькі таму, што на прыканцы XVIII стагоддзя пазначаныя месцы былі пакрыты хаця яшчэ і рэдкім, але ўжо аселым земляробчым насельніцтвам, а таму тут ўжо існавалі і сухапутныя шляхі паміж імі. Але і ў гэтым выпадку спроба нападу на Маскоўскую дзяржаву з паўднёвага-ўсходу не мела поспеху, нягледзячы на падтрымку самага рускага мясцовага насельніцтва, нягледзячы на тое, што паход быў начат не з боку дзікіх качэўнікаў, а пад сьцягам "законнага рускага і прававерннага государа", пераследуемага ўзурпатарамі за абарону веравызнання самай шматлікай часткі насельніцтва.

Я зноў тут нагадаю тое, што ўжо не раз выказваў. Дарэмна нас пераконваюць, што народная память захоўвае ў былінах і паданнях даўно мінулыя факты. На справе яна іх не захоўвае, а пераіначвае, і гэта мае дачыненне нават і да запісаў па меры таго, як яны капіруюцца, прыкладам чаго служаць шматлікія розныя варыянты тых жа самых паданняў у манускрыптах. Мы трывала памятаем у галіне гістарычных ведаў толькі тое, што мы вывучылі, г. азн. некалькі разоў паўтарылі грунтуючыся на падручніках, у тым жа самым выглядзе. Але тут жа выяўляецца і недахоп: мы перастаем ставіцца да завучаннага крытычна і машынальна паўтараем яго падобна таму, як усклікаем: "ах!" калі нас нечакана штурхнуць у спіну ззаду.

Нас навучалі ў школе, што татары прыйшлі на пачатку крыжовых паходаў на Русь із азіяцкіх стэпаў як дзікае качуючае племя і вымусілі больш культурныя, а таму і больш моцныя Кіеўскую, Наўгародзкую і Маскоўскую дзяржавы ездзіць да сябе за край свету ў заволжскія стэпы, каб атрымаць ад іх зацверджанне на сваё княжанне, а бо заплаціць тамашнім качэўнікам даніну. І вось мы міжволі імкнемся не падвяргаць сумневу і рацыянальнай апрацоўцы ўсе гэтыя завучаныя апавяданні, зацвердзіўшыяся ў нашым ўяўленні ў якасьці ўмоўнага рэфлекса, а апраўдаць іх якімі-небудзь сумневамі ці проста закрыть вочы на ўсе падзеі, склаўшыяся абставіны, пазбаўляючыя іх рэалістычнага сэнсу. Я сам толькі з вялікімі цяжкасьцямі змог пазбавіцца ад зацвердзіўшыхся ў мяне пад час юнацтва і дзяцінства рэфлектыўна гістарычных уяўленняў, ды і то таму, што я вярнуўся да іхнай распрацоўкі ўжо пасьля таго, як прайшоў праз працяглае гарніла прыродазнаўства і зацікавіўся палітычнай гісторыяй дзяржаваў, толькі пасьля таго, як глыбока пазнаёміўся з палітычнай эканоміяй і з гісторыяй наукі і тэхнікі.

Толькі тады і для мяне стала цалкам відавочным, што ніякае іга не магло прыйсьці ні ў Кіеў, ні ў Ноўгарад, ні ў Маскву із заволжскіх стэпаў ад сярэднеазіяцкіх качэўнікаў, а толькі з захаду. Толькі тады адначасовасць татарскага іга з крыжовымі паходамі і адсутнасць згадванняў пра іх у асноўных тэкстах рускіх летапісаў, ды і сама анамастыка (іга ад лацінскага jugum, арда ад лацінскага ordo, мясцовасць Татары ад карпацкай мясцовасьці Татры і г. д.) прывялі мяне да атаясамленьня абодвух ігаў.

Потым для мяне стала зразумелай нагода, згодна з якой падмосткі гістарычнай пастановы былі перанесены ў нашым уяўленіі з захаду на ўсход. Крыжакі-татраўцы (яны ж татараве, таурмены і печанегі), якія прыйшлі, як паведамляе Лаўрэнцьеўскі летапіс, "невядома адкуль і адзін бог ведае куды пайшлі", замяніліся на Балканскай паўвыспе туркамі і перасталі згадвацца. Гэтая назва захавалася за імі толькі ў найбольш глухіх местах таго часу, галоўным чынам, у Крымскіх і азоўскага-марскіх калоніях генуэзцаў і потым распаўсюдзілася адтуль па Дону да яго збліжэння з Волгай і па Волзе і яе прытоках, дзе ўтварыліся берагавыя паселішчы гандлёвага і рыбалоўнага характару, даўшыя пачатак сучасным гарадам Астрахані, Царыцыну (сучаснаму Сталінграду), Саратаву, Самары і Казані. Успамінам пра баўгарскіх месіянераў і каланістаў таго часу засталося паблізу вёскі Ўспенская мястэчка Булгары, на поўдзень ад Казані, недалёка ад Цецюшы, на адлегласьці 6 кіламетраў ад Волгі, і вось, дзякуючы гэтаму, у разагрэтых галовах старажытных гісторыкаў узнікла цудоўная казка пра быццам бы існаваўшае тут некалі Волжска-Баўгарскае царства, знікшае, быццам бы, у XV стагоддзі нашай эры і вёўшае да таго часу шырокі гандаль не толькі з Ноўгарадам і Масквой, але нават і з Багдадам у Месапатаміі...

Падумайце ж толькі, якой была гэтая наша вёска Ўспенскае! Яна вяла шырокі гандаль нават са знакамітым Багдадам у Месапатаміі! Дык што ж можна сказаць пра самі Цецюшы? Мабыць, яны гандлявалі гадоў шэсцьсот таму назад нават з Нью-Ёркам у Амерыцы!

Але, на жаль, я ўжо паказаў вышэй, што ўся гэтая Цяцюшская Вялікая Баўгарыя спісана з Першага Баўгарскага царства Асперуха на Дунаі, а яе "Славуты Вялікі горад" быў не вёскай Ўспенскае паблізу Цяцюш, а горадам Прэслаў на тым жа Дунаі.

Мы бачым, што з падобнага боку гледжання шлях культуры і дзяржаўнасьці ў старым сьвеце быў ад захаду на ўсход, а не з усходу на захад.

І гэта знаходзіцца ў поўнай адпаведнасьці з дынамічнай геалогіяй.

Не будзем разважаць пра вялікую і яшчэ загадкавую Ціхаакіянскую ўпадзіну зямнога шара, якая ўзнікла, відаць, яшчэ да ўтварэння сучасных нам водных наслаенняў зямной кары, так як сілурыйскія марскія адкладанні пакрываюць сярэдзінную выспу гэтай упадзіны – Новую Зеландыю, што азначае што яна паднялася са дна мора ўжо пасьля сілурыйскай эпохі, а звернем увагу на ўжо адзначаную ўсімі геалагічную акалічнасць: чаму ўсе галоўныя масівы зямной сушы маюць выгляд кліноў, павёрнутых вастрыямі да паўднёвага полюса? Такімі асабліва выглядаюць Паўночная і Паўднёвая Амерыкі, такая Афрыка, асабліва калі мы далучым да яе і Аравію, палічыўшы расколіну Чырвонага мора пазнейшым утварэннем; такой з’яўляецца і Азія, як адно натуральнае цэлае з Яўропай, асабліва калі мы аддзелім ад яе Аравію і далучым тую да блізкай да яе згодна з прыродай Афрыкі. Такая і Аўстралія, асабліва, калі мы далучым да яе выспу Тасманія. А калі мы прызнаем Зондскі архіпелаг паміж Ост-Індыяй і Аўстраліяй аналагічным Вэст-Індыйскаму архіпелагу паміж Паўночнай і Паўднёвай Амерыкай, і схематычна злучым з дапамогай гэтага Зондскага архіпелага Яўропа-Азію з Аўстраліяй, то атрымаем і ў Старым Сьвеце падабенства Новага Свету, прычым у апошнім не будзе толькі даставаць аналога Афрыкі ў Ціхім Акіяне. Але я ўжо сказаў, што Ціхаакіянская ўпадзіна з’яўляецца вынікам нейкага выключнага па сваёй магутнасьці ўздзеяння, прадавіўшага гэтую частка зямной паверхні. Не цяжка заўважыць таксама, што разнастайныя выемкі і выпукласьці сучаснай зямной паверхні павінны залежаць не ад адных толькі хімічных працэсаў, адбываўшыхся пад воднымі адкладаннямі больш старажытнымі чым Сілурыйскія, Лаўрэнцьеўскія і Гуронаўскія пласты і выклікаўшых вулканічныя зрушэнні і выкіданні размешчаных над імі пластоў воднага пласта і іхныя горнаўтвараючыя складкі, але таксама і ад знешніх уздзеянняў месяца і солнца, выклікаючых прыліўныя хвалі, і ад прэцэсійных і мутацыйных ваганняў зямной восі. Нельга ігнараваць таксама і ўздзеянне на Зямлю таго магутнага нябачнага цэнтра ў сярэдзіне галактыкі, вакол якога яна верціцца разам з нашым сонцам і ўсімі бачнымі зоркамі, і, нарэшце, ўздзеяння метэарытных катастроф, якія зараз пачалі сур'ёзна вывучацца ў сувязі з іхным уздзеяннем на паверхню месяца, дзе іхныя сляды не залечваюцца, як на мяккіх пластах нашай зямлі пад уздзеяннем дажджавой, падглебавай і праточнай вады, ператвараючай іх у азёры і запаўняючай іх спаўзаннямі і наносамі пяску і глею.

Але пакінуўшы ў баку ўсе прыватныя ўплывы, меўшыя наступствам мудрагелістую разнастайнасць, як выгляду, так і берагавых абрысаў сучаснай нам зямной паверхні, мы не можам выпусціць із пад увагі асноўную асаблівасць – клінападобнае размяшчэнне ўсіх галоўных яе масіваў і тое, што вадой паўднёвае паўшар’е зямлі заліта нашмат больш, чым паўночнае. Такая агульная асаблівасць канфігурацыі зямной сушы не тлумачыцца цалкам працэсамі, якія маюць аснову выключна ў самым зямным шары. Нягледзячы на конусападобныя хваляванні зямной восі і прылівы і адлівы яе вадкіх масіваў, пасьлядоўныя цьвёрдыя адкладанні зямнога эліпсоіда павінны былі ўтварацца абсалютна правільнымі канцэнтрычнымі пластамі, а таму і апошняе із гэтых адкладанняў – акіянская вада – павінна была б, наогул, раўнамерна размясьціцца як на поўначы зямнога шара, так і на поўдні. А мы бачым, што вадой заліта цалкам уся паўднёвая прыпалярная вобласць зямлі да глыбіні ў сярэднім ад 6 да 12 кіламетраў, а далей да паўднёвага полюса ідуць напластаванні, відаць, ужо донных ільдоў, якія за выключэннем некалькіх уздымаў

накшталт горных хрыбтоў і вулканічных выспаў, даходзяць да такой жа таўшчыні. Адным словам, паўднёвае паўшар’е зямлі перажывае зараз патопны і ледніковы перыяд, а паўночнае паўшар’е наадварот. Але гэта раўназначна перамяшчэнню цэнтра зямнога прыцягнення ад 6 да 12 кіламетраў на поўдзень ад геаметрычнага цэнтра зямнога шара, чым тлумачыцца і клінападобны выгляд паднімаюшчыхся над вадой валападобных ў дачыненні да геаметрычнага цэнтру зямлі масіваў суш з вастрыямі на поўдзень.

Бо ж прыліўныя ўздзеянні на ўсякі пластычны эліпсоід вярчэння павінен утвараць у ім хвалі, якія ідуць паралельна мерыдыянам, робячы з іх падабенства дыні з валападобнымі ўзвышэннямі ад аднаго полюса вярчэння да другога. Але засыпце ўсякі вал з абодвух бакоў сыпкім пяском так, каб з поўначы ён застаўся ўвесь вонкі, а з поўдня закрытым да вяршыні, і тады выступаюшчая із пяску яго частка набудзе выгляд кліна. Тое ж самае і з дынепадобнымі ўзвышэннямі ўсякай планеты, калі яе водная абалонка будзе значна перацягнута да аднаго із двух яе палюсоў вярчэння; ўсе яе мерырыдыяльныя валападобныя ўтварэнні набудуць выгляд кліноў, павёрнутых вастрыямі да таго канца восі, да якога перацягнулася вада. Але ўжо сам гэты клінападобны выгляд сведчыць нам, што вада перацягнулася да дадзенага канца восі ўжо пасьля ўтварэння валападобных кантынентаў, а таму і гэтая з'ява павінна быць часовай. Яна павінна змяніцца затапленнем супрацьлеглага полюса, прычым вастрыі кантынентаў будуць павернуты да поўначы, і паўночнае паўшар’е стане марскім і ледніковым, а паўднёвае – кoнтынентальным. А потым павінна зноў заліцца паўднёвае паўшар’е і г. д. без канца, падобна ваганням маятніка. І гэтая з'ява, як я толькі што сказаў, будзе раўназначнай перыядычнаму перамяшчэнню цэнтра цяжару планеты ад 6 да 12 кіламетраў, то на поўнач, то на поўдзень ад геаметрычнага цэнтра.

Але як жа можа перамяшчацца цэнтр цяжару зямлі сам па сабе?

Зразумела, што тут павінен быць нейкі знешні ўплыў нябеснай прасторы. І вось мы бачым, што цэнтр зямлі зараз зсунуты як раз да таго месца, дзе ззяе сузор'е Паўднёвага крыжа, заслоняючае сабой нейкую невымяральна вялікую навалу цёмнага рэчыва, маючага назву "вугальны мяшок". А акрамя таго, і на бліжэйшай да нам планеце Марс адбылося тое ж самае! І ў яе цэнтр цяжару ссунуты на поўдзень ад геаметрычнага цэнтру, так як морамі пакрыта таксама паўднёвае паўшар’е, і прытым павёрнутае ў той жа бок неба, як і наша. А на паўночным паўшар’і, як і ў нас, і там сканцэнтраваны кантыненты.

У астатніх жа планет мы не можам разлічыць ні кантынентаў, ні мораў з нагоды вечнай воблачнсьці іхнай атмасферы. Гэта азначае, калі б мы маглі дапусціць, што "вугальны мяшок" Паўднёвага Крыжа служыць цэнтрам абарачэння нашага зорнага воблака, то атрымалася б, што пасьля паловы абарачэння вакол яго, да яго выявіліся б павёрнутымі ўжо паўночныя паўшар’і Зямлі, Солнца і Месяца і ўсіх астатніх нашых планет, і тады іх паўночныя часткі выявіліся б затопленымі. Але, на жаль, у наш час ў нас няма магчымасьці вызначыць іншыя цэнтры абарачэння нябесных свяцілаў акрамя спадарожнікаў вакол сваіх планет і планет вакол солнца. А цэнтр абарачэння самога солнца не можа быць вызначаны яго індівідуальным рухам адносна сузор’я Геркулеса, а толькі праз даследаванне цэлых зорных плыняў, так як зоркі, больш блізкія да цэнтра агульнага абарачэння, павінны аддаляцца. І перпендыкулярна да таго накірунку, у якім зоркі нас найбольш пераганяюць, і перпендыкулярна да таго, у якім яны найбольш ад нас аддаляюцца, павінен быць цэнтр абарачэння нашага зорнага воблака. Гэта спачатку

Чарнігаўскую вобласць. Не было, такім чынам, ніякай магчымасьці ні даведацца пра набег, ні здзейсніць нейкія захады для абароны насельніцтва. Хуткасць, з якой рабіліся гэтыя набегі, выдатна характэрызавана візантыйскім аратарам XII стагоддзя, Еўстафіем Салунскім:

"У адно імгненне палавец блізка, і вось ужо яго няма. Зрабіў наезд і імгненна, з поўнымі рукамі, хапаецца за аброць, падганяе каня і пугай, і віхуром нясецца далей, як бы жадаючы перагнать хуткую птушку. Яго яшчэ не паспелі пабачыць, а ён ужо схаваўся із вачэй".

"Рускія князі, – кажа з гэтай нагоды Галубоўскі, – Разумаючы немагчымасць папярэдзіць напад, імкнуцца толькі адбіваць палонных і нарабаваную маёмасць. Рэдка князям шчасьціла дагнаць полаўцаў пад час прамога праследавання, а таму яны выкарыстоўвалі іншы манеўр. Калі полаўцы рабавалі на Суле, то бліжэйшыя рускія атрады, не паказваючыся ворагам, пераходзілі раку дзе-небудзь у іншым месцы ці ішлі да ракі Псёл імкнучыся незаўважна перарэзаць зваротны шлях. Гэты спосаб абароны насельніцтва і выратавання жыхароў ад цяжкага палону выявіўся самым эфектыўным. Так, калі полаўцы парабавалі наваколлі Кіева ў 1172 годзе, то Міхалка, з берандзеямі, рушыў ім насустрач із Паросся. Неўзабаве яны сустрэлі ворагаў і перамаглі іх, адбіўшы ўвесь палон. У 1174 Ігар Святаславіч, даведаўшыся, што полаўцы рабавалі каля Пераяслава, пераправіўся цераз Ворсклу каля Лтавы, сустрэў іх і вымусіў кінуць палонных. У 1179 годзе Канчак пустошыў наваколлі таго ж няшчаснага Пераяслава. Даведаўшыся пра гэта, Святаслаў Усеваладавіч, які стаяў каля Трыполля, хутка пайшоў адсюль за Суды і стаў насупраць Лукомскага гарадзішча. Полаўцы збеглі".

Згодна з падлікамі П. Галубоўскага ўсіх нападаў, здзейсненых полаўцамі самастойна без княжых запрашэнняў, адбылося, на працягу перыяда ў паўтары сотні гадоў (ад 1061 да 1210), не менш 46. З іх на долю Пераяслаўскага княжества прыпадае 19 на Пароссе – 12, на Кіеўскую вобласць – 4, на Паўночную вобласць – 7, на Разань – 4. Але не трэба забывацца, што побач з такімі незалежнымі нападамі полаўцы прыходзілі згодна з запрашэннем таго ці іншага князя, што суправаджалася не менш цяжкімі спусташэння. Але вось, нягледзячы на гэтыя сваркі і набегі, полаўцы не толькі сябравалі, але нават радніліся з рускімі князямі. Як прыклад узаемных раўнапраўных дачыненняў паміж палавецкімі каганамі і рускімі князямі я прывяду іхныя ўзаемныя сямейныя сувязі.

"Першы прыклад – сведчыць П. Галубоўскі (с. 172), – адружальнага хаўруса паміж рускімі князямі і палавецкімі ханамі мы бачым у 1094 годзе. Тады Святаполк Ізяславіч кіеўскі адружыўся з дачкой Тугорхана[155]. Юры Ўладзіміравіч адружыўся з дачкой Аэпы, унучкай Гіргеня[156]. У 1117 годзе Ўладзімір Манамах адружыў свайго сына, Андрэя з дачкой Туркхана[157]. Рурык Расьціславіч атрымаў ад бацькі ў жонкі дачку палавецкага хана Беглюка[158]. У 1205 годзе Усевалад Суздальскі сасватаў для свайго сына, Яраслава, дачку палавецкага хана Юр'я Канчакавіча[159]. Даніла Галіцкі меў намер зрабіць сваім сватам палавецкага хана, Цегака[160]. У 1187 годзе Ўладзімір Ігаравіч вярнуўся з палавецкага палону з новай жонкай, дачкой

[155] Іпацьеўкі летапіс, с. 157.
[156] Лаўрэнцьеўскі летапіс, с. 272.
[157] Васкрасенскі летапіс, 1, с. 24; Ніканаўскі летапіс, II с. 53.
[158] Іпацьеўкі летапіс, с. 357.
[159] Васкрасенскі летапіс, 1, с. 112; Ніканаўскі летапіс, II с. 292.
[160] Іпацьеўкі летапіс, с. 543.

знакамітага Канчака. Былі адружанні паміж рускімі і полаўцамі і ў рамантычным характеры. Так, маці Святаслава Ўладзіміравіча, пасьля сьмерці свайго першага чалавека Ўладзіміра Давыдавіча, захапілася палавецкім пыгажуном і збегла да хана Башкерду. І верагодна гэта не адзінкавы факт.

Полаўцы асабліва былі схільнымі да боку северскіх князёў, і мы бачым іх большай часткай на баку Вольгавічаў. Яны заўсёды былі гатовы дапамагчы ім і пасяброўску заяўлялі пра гэта:

– *Пытаем пра тваё здароўе,* – казалі яны Святаславу Алегавічу праз свайго пасланніка, – *а калі загадаеш нам з войскам да цябе прыйсьці* (на дапамогу)?

І пры патрэбе яны з’яўляліся да яго са сваімі атрадамі.

Зараз паглядзім, як рускія князі ў сваю чаргу ставіліся да палавецкіх "ханаў".

– *Ойча,* – казаў Даніла Кацяну, – *адмяні вайну сю, прымі мяне ў шанаванне сабе.*

На прыкладзе Ігара Святаславіча відаць, як спагадліва ставіліся палавецкія ханы да рускіх князёў, нават у палоне. Яны толькі для бяспекі атачылі Ігара ганаровай вартай із 20 чалавек, у ліку якіх было пяць з вышэйшых станаў, але гэтая варта бяспрэчна выконвала ўсе яго загады. Яму дазвалялася мець пры сабе пяць ці шэсць рускіх служак. З імі і ўсёй вартай ён ездзіў вольна, куды хацеў, цешыўся паляваннем. Яму было дазволена мець пры сабе святара з усім неабходным для здзяйснення службы. Тым больш спагады і гасьціннасьці выказвалі полаўцы князям, якія з'яўляліся да іх добраахвотна. Былі князі, якія ўсё сваё жыццё правялі сярод сваіх палавецкія сваякоў, такія як, напрыклад, Ізяслаў Уладзіміравіч, унук Канчака па маці, пляменнік Юрыя Канчакавіча.

І акрамя таго, полаўцы мелі, як і палякі, славянскія імёны. Мы сустракаем сярод іх і Яраполка, і Юр’я, і Глеба.

"Ужо із таго, што полаўцы былі ў роднасных сувязях з амаль усімі княжымі радамі Русі, можна бачыць, што ў гісторыі Рускай зямлі яны мелі ролю ўраўнаважваючай магутнасьці, якая не давала магчымасці якому-небудзь аднаму князю цалкам набыць перавагу над астатнімі, – выказвае здагадку П. Галубоўскі. – Каб ажыццявіць ідэю самаўладдзя, – працягвае ён, – было патрэбна: 1) знішчыць або зрабіць цалкам падручнымі ўдзельных князёў, 2) пазбавіць асобныя вобласьці магчымасьці мець для кожнай свайго князя, падавіць веча, 3) падпарадкаваць баярскі пачатак, забраўшы ў яго магчымасьці ператварыцца ў палітычную магутнасць, а ўжо потым 4) ператварыць усіх у "дзяржаўных халопаў". А менавіта гэтаму і перашкаджалі полаўцы". Наколькі правільныя гэтыя апошнія меркаванні Галубоўскага, сказаць цяжка. Цэнтралізацыі рускай дзяржавы ў XIII-XIV стагоддзях магла перашкаджать вялікая тэрыторыя яе самой. Бо із распрацоўваемага тут мной заходнічаскага боку гледжання на ход культуры, гэтыя Кіеўскае, Маскоўскае, Наўгародзкае і Суздальскае княствы былі толькі фарпостамі руху еўрапейскіх народаў на ўсход, што працягвалася і пасьля аб'яднання Русі аж да таго часу, пакуль яна ў XIX стагоддзі дайшла да Ціхага акіяна, а ангельцы захапілі Індыю і каланізавалі Аўстралію. Пры гэтым руху ў глыбіню вольных або малакультурных азіяцкіх прастораў, нават было проста немагчыма ператварыць гэтых "украінцаў" (г. азн. "ускраінных людзей") у "халопаў гасударавых". Але для нас тут важна не гэта, а сваяцкія дачыненні рускіх XII-XIII стагоддзяў з полаўцамі, як з народам культурным. Таму што нічога падобнага не магло быць, калі б гэтыя полаўцы былі напалову дзікімі стэпавымі качэўнікамі, збягаўшымі ад рускай каланізацыі, усе далей і далей на ўсход.

Я не ведаю, ці звяртаў хто-небудзь із рускіх гісторыкаў увагу на тое, што як раз у той час, калі згодна з рускімі летапісамі на паўночным беразе Чорнага мора качавалі гэтыя "полаўцы", на ім згодна з заходнееўрпейскімі запісамі пасяліліся пад абаронай крыжацкіх ордэнаў генуэзскія гандлёвыя каланісты. Генуэзскія мораплавацелі, заснаваўшы ўмацаванні пры вусьцях Дняпра, Дона і Кубані, сплаўлялі па гэтых ракам як раз у той час і ў тых мясцовасьцях у Паўднёвую Расію свае тавары ў абмен на мясцовыя ўпрыгожванні і маглі тут атрымаць назву плаўцоў, што лёгка магло ператварыцца ў полаўцаў, падобна таму, як слова глас перайшло ў голас, град ў горад, градзец у гарадзец, і плавец ў полавец.

Толькі ў гэтым выпадку рускія летапісныя паданні прыйшлі б у пагадненне з заходне-еўрапейскімі, так як нельга ж, чытаючы гісторыю генуэзскай каланізацыі паўночнага чарнаморскага ўзбярэжжа, забывацца пра тое, што рускія летапісцы, ні разу не згадваючы пра генуэзцаў, засяляюць гэтыя мясцовасьці полаўцамі, а заходне-еўрапейскія, не згадваючы ні разу пра полаўцах, насяляюць іх генуэзскімі мараходамі. А пры параўнанні вынікае, што гэта два рознамоўныя паданні  пра той жа самы народ.

І гэта таксама падцвярджае маю тэорыю пра тое, што і паляне нашых летапісаў былі палякамі (Polonais). Бо нават самаго слова "паляк" у нашых летапісах нідзе не сустракаецца, а што да іхнай украінскай назвы ляхі, то ў Лаўрэнцьеўскім летапісе таксама паведамляецца: "ад тых ляхаў празвашася паляне" (Polonais), ды і ў Наўгародзкім Сінадальным летапісе, дзе не павінна б было быць цалкам гэтай украінскай назвы для палякаў, мы нечакана знаходзім яе ў некалькіх местах, Апошні раз пад 1410 годам: "і было той восенню тры пабоішчы ляхаў і літвы з немцамі, і ва ўсіх гэтых пабоішчах шмат хрысьціян, і літоўцаў, і ляхаў забіта было, і ўзялі (немцы) Марыін горад (Маріенбург?). А перад гэтым толькі за 200 гадоў назад, пад 1219 годам, калі Мсціслаў пайшоў із Кіева на каралевіча ў Галіцію, "*выйшлі супраць яго і галічане, і чэхі, і ляхі, і мараўцы, і вугры, але дапамог бог Мсціславу, заехаў ён у горад Галіч, а каралевіча (тамашняга) з жонкай рукамі ўзяў*".

Што ж да яшчэ больш ранняга згадвання пра ляхаў пад 1073 годам, то яго апакрыфічнасць прызнана і да мяне. Ды і ў прыведзеных двух выпадках слова лях з'яўляецца толькі далучаным пры пералічэнні суседніх з Польшчай народаў, як бы для кампаніі, і ні пра адно сутыкненне рускіх з самімі ляхамі вы не знойдзе ў рускіх летапісах за ўвесь час іхных запісаў, якія даходзяць да паловы XV стагоддзя. Але ж гэта немагчыма, калі толькі палякі, якія з'яўляюцца самымі блізкімі суседзямі Русі, не фігуруюць там пад імем полаўцаў!

І зноў для нас не застаецца іншага выйсьця, як прызнаць, што ў гэтых адружальных сувязях і сутычках палякі фігуруюць пад найменнем полаўцаў. Месца падзей і тут была перенесена з захаду на ўсход "у стэп".

Да такой жа высновы прыводзяць і чыста геаграфічныя мяркаванні. Кінуўшы погляд на геагафічную мапу мы бачым, што для тлумачэння гэтых палавецкіх набегаў ад Рязані да Кіева, калі яны зыходзілі ад качавога народа з усходу, мы павінны дапусьціць яго неверагодную шматлікасць, так як у малалікай колькасьці яны нічога не змаглі б зрабіць з умацаванымі і агароджанымі гарадамі пры існаванні назіральных і вартавых памежных пунктаў, якімі з'яўляліся так званыя гярядзішчы, аточаныя часам нават і падвойнымі валамі.

"Да гэтага часу, – выказваецца П. Галубоўскі, – не вызначана нічога істотнага пра паходжанне гэтых гарадзішчаў і, як здаецца, ледзь ці магчыма нейкае

становучае рашэнне. Давядзецца адмовіцца ад тлумачэння гэтых манументальных помнікаў старажытнасьці пры якіх бы то ні было даследаваннях гісторыка-геаграфічнага характеру".

"Калі магчыма тут рашэнне, – адказвае ён, – то толькі агульнае, якое мае дачыненне да таго ці іншага вядомага гарадзішча, узятага паасобку, ці згуртавання гарадзішчаў, то пры дапамозе археалогіі і гісторыі мы маем права прыйсьці да той ці іншай высновы і аднесьці яго да якой-небудзь эпохі".

Апошняя заўвага, вядома, цалкам правільная, але ці трэба губляць надзею знайсьці і агульнае рашэнне? Асабліва цікава тут тое, што некаторыя із гэтых гарадзішчаў прыпісваюцца народу франкоў[161], г. азн. з нашага боку гледжання – крыжакам, што вельмі праўдападобна, калі мы згадаем гісторыю ўзнікнення замкаў ў Заходняй Яўропе, развіўшыхся дакладна із такіх жа зародкаў. Вось такімі яны ў агульных рысах выглядаюць па Любцы.

У VIII-X стагоддзях пры Каралінгах, калі Яўропа стала распадацца на дробныя феады, драўляныя і гліняныя ўмацаванні абносіліся тынам, атачаліся ірвамі, у іхнай сярэдзіне будавалі чатырохкутную вежу. У глыбіні ўзвышша, на якім будавалася вежа, капаўся калодзеж на выпадак працяглай аблогі. Першапачаткова замкі мелі чыста вайсковае назначэнне.

Жыллём замкі зрабіліся пачынаючы з X стагоддзя з равіццём феадалізма. Пастаянныя напады вымусілі землеўладальнікаў, дзеля бяспекі, будаваць сваё жытло на непрыступных скалах, пасярод балот або абгароджваць пабудаваную сярод раўніны сядзібу сьцяной і ірвамі, часам напоўнымі вадой. У XIII стагоддзі чатырохкутная драўляная вежа замяняецца каменнай, тын застаўся, але за ім будавалася новая каменная сьцяна з моцнымі вежамі, а за імі паўстаў цэлы шэраг новых пабудоваў гаспадарчага прызначэння для задавальнення жыццёвых патрэб. За брамай размяшчаўся першы замкавы двор, які змяшчаў гаспадарчыя пабудовы, памяшканні для рамеснікаў, кавалёў, цесляроў, вясковых працаўнікоў і месца для рыцарскіх практыкаванняў. Пры захопе яго ворагам, усе насельнікі ратаваліся ў другім двары, які таксама быў аддзелены ровам, сьцяной і брамай ад першага. У другім двары сярод стайняў, склепаў, амбараў у вочы перш за ўсё кідалася чатырохкутная, васьмівугольная або круглая масіўная каменная вежа. Яна узводзілася на скале або на штучным насыпе. Часта і навокал яе былі роў і сьцяна. Калі усё было страчана, барон шукаў выратавання тут. Уваход у вежу быў высока падняты над зямлёй. У яе можна было патрапіць або па масту, перакінутаму ад суседняй пабудовы, або па лесвіцы, якую знішчалі пры першай жа небяспецы. Вежа мела тры паверхі. На самым версе пад дахам жыў вартаўнік, на другім і трэццім – спалі барон і яго сям'я, на ніжнім размяшчалася скляпеністая, слаба асветленая зала з невялікімі вокнамі, прабітымі праз тоўстыя сьцены. Сюды збіраліся васалы, тут частавалі гасьцей. Яшчэ ніжэй на скляпеністым паверсе знаходзілася вязніца за жалезнымі дзвярамі і часам спуск у падзямелле з патаемнымі ходамі за межы сьцены, каб падтрымліваць стасункі са знешнім сьветам падчас аблогі. Побач з вежай у замках асабліва буйных уладальнікаў будаваўся і палац.

Пазнейшыя замкі, княжыя і каралеўскія палацы, якія павінны былі змяшчаць шматлікіх рыцараў, былі большай часткай двухпавярховымі. Скляпеністы ніжні паверх занімалі кухня, каморы, пагрaбы; верхні – парадная зала. Уваход у залу быў са двора. У яе вяла адкрытая лесвіца з ганкам. Зала, занімаўшая ўсю даўжыню

[161] Галубоўскі П. Печанегі, тарцы і полаўцы. с. 91.

пабудовы, была з каменным скляпеннем, абапіраўшымся на калоны або на перакрыжаваныя бэлькі. Каменная падлога была засьцелена дыванамі або скурамі. Каштоўныя дываны закрывалі таксама і сьцены. У глыбокіх нішах былі прабіты невялікія вокны, а ў адной са сьцен быў уладкаваны камін. Із залы дзверы вялі ў маленькія памяшканні, таксама абаграваемыя камінамі і таму меўшымі назву камінаты, адкуль і рускае слова “комната”. Яны прызначаліся для гаспадыні і яе блізкіх, для служанак і для жаночых прац. Там жа была і капэла для задавальнення рэлігійных патрэбаў жыхароў замка. З часоў крыжовых паходаў на замкавым двары з'явіліся і лазні, запазычаныя ва ўсходніх народаў.

Больш старажытныя замкі, у грубым раманскім і гатычным стылі, былі пазбаўлены камфорту і не вызначаліся вытанчанасьцю і прыгажосьцю. Такі імператарскі палац у Гаслары XI-XIII стагоддзя ў Германіі, замак Ары паблізу Дэна ў Францыі, замок Тауэр у Лондане. Пачатак паляпшэнню мастацкага густу ў замкавай архітэктуры паклалі каралеўскія французкія замкі XIV стагоддзя (Луўр ў Парыже, Марыенбург у Прусіі).

Чым бліжэй да XV стагоддзя, тым замковыя пабудовы ўсё больш пачалі набліжацца да прыгожых і зручным для жыцця палацаў. Гэта змяненне было наступствам галоўным чынам таго, што ў XIV і XV стагоддзях пасьля вынаходніцтва пораху і з’яўлення артылерыі, замкі страцілі сваё вайсковае значэнне. У новых замках-палацах эпохі Адраджэння павялічылася колькасць пакояў, пашырыліся лесвіцы, і план атрымаў закончаную правільность. З XIV стагоддзя яны пачалі набываць характар месцаў адпачынку і забавы, куды на летні час выязджала знаць.

Разглядаючы на гэтым нашым фоне стэпавыя гарадзішчы, мы не можам не бачыць, што яны дакладна адпавядаюць пачатковай стадыі развіцця ўмацаваных замкаў Заходняй Яўропы падчас крыжовых паходаў, калі там яшчэ будаваліся не каменныя, а самаразбураючыяся праз некалькі дзесяткаў гадоў драўляныя вежы. Але гэта яшчэ не азначае, што час узнікнення нашых гарадзішчаў не быў і больш пазнім за тыя. Бо "каменны век" ў архітэктуры павінен быў замяніць "драўляны век" не аднвчасова ў разных краінах, ды акрамя таго, спосаб пабудовы павінен быў залежаць і ад "мясцовых умоваў". У месцах, дзе на зямную паверхню выступалі зручныя для абцёсавання вапнякі, "каменны век" ў архітэктуры павінен быў пачацца нашмат раней, чым у такіх, дзе даводзілася рабіць цэглу. Вось чаму і ў паўднёварускіх стэпах павінны былі яшчэ доўга ўзводзіцца замест заходнееўрапейскіх каменнных сьцен земляныя валы, а замест каменных вежаў знікаючыя пазьней без следу драўляныя, нават і ў той час, калі ў Заходняй Яўропе замкі ўжо ператварыліся ў палацы.

Парэшкі такіх валоў і захаваліс да нашага часу пад назвай гарадзішчы. Каля Крэменчуга, напрыклад, іх вядома цэлых пяць. Сярод іх Ліпецкае гарадзішча існавала яшчэ ў XVI стагоддзі, як гэта відаць із апісання 1571 года: "А раку Псёл (патрэбна) пералезьці каля Ліпецкага гарадзішча, ды на верх Бароўні"[162]. "Гарадзецкае гарадзішча" існавала яшчэ да 1642 года[163]. "Каменнае гарадзішча" пазначана ў акце размежавання земляў паміж Расіяй і Польшчай 1547 года, дзе пастанаўляецца "вярнуць Расіі Каменнае гарадзішча на Пеле, ад Пуціўля едучы да Пелы, на Пуціўльскім баку, ды да таго гарадзішча слабаду Каменную[164]. Пра

[162] Гісторыка-статыстычнае апісанне Харкаўскай епархіі, ч. III, с. 279.
[163] Там ж. с. 498.
[164] Там жа. с. 530-531.

Міхайлаўскае і Заяцкае гарадзішчы няма паведамленяў у дакументах, але іхнае становішча на лініі старажытных гарадзішчаў можа служыць, здаецца, некаторым аргументам на карысць таго, што ўсе яны паўсталі адначасова і служылі адной і той жа мэце – быць абарончай лініяй.

Пераходзячы на раку Ворсклу, мы зноў знаходзім цэлы шэраг гарадзішчаў, пра якія згадваюць дакументальныя крыніцы. У 1642 годзе польскія пасланнікі прапаноўвалі: "мяжа паміж Расіяй і Польшчай ідзе да ракі Ворскла, а Ворсклай уніз да Скельскага гарадзішча, якое ў царскі бок застанецца, а мяжа ад яго паміж Бельскім гарадзішчам і адтуль праз раку Ворсклу Вельскае гарадзішча падзеліць папалам"[165]. У адным акте 1689 года мы сустракаем Немерскае гарадзішча, у роспісе 1572 года яно мае назву проста Немер. У "Гісторыка-статыстычным апісанні Харкаўскай епархіі"[166] паведамляецца, што яно вялізных памераў, аточана дрымучым лесам, само зарасло вялізнымі дубамі, а роў яго, пачынаючыся ад ракі Ворсклы, абводзіць значную прастору з усходу на захад, і яно мае назву Журавенскае гарадзішча. Уверх жа па Ворскле існуюць яшчэ два гарадзішчы паміж вёскамі Літоўка і Багалюбаўка, із якіх адно носіць найменне Кукуева, а другое, згодна з паданнем, уяўляе парэшткі некалі існаваўшага тут горада. Яшчэ вышэй на левым беразе рэчкі Ворскліцы таксама знаходзіцца вялікае гарадзішча. І выдатна, што ўсюды, у дадзенай мясцовасьці, гэтыя гарадзішчы размяркоўваюцца правільнымі лініямі па плынях рэк, і відавочна праглядаецца ў іхным размяшчэнні мэта: выкарыстаць для памежнай абароны натуральныя перашкоды. І ўжо із саміх гэтых дакументаў відаць, што частка пазначаных гарадзішчаў была пабудавана яшчэ да вызначэння руска-польскай мяжы ў XVI-XVII стагоддзях, і таму даводзіцца шукаць на гэтай жа самай лініі нейкую ранейшую, пазней забытую, але ніяк не дагістарычную мяжу паміж напалову міфічнай да-хрысьціянскай Руссю і цалкам міфічнымі полаўцамі і, а не раней крыжовых паходаў.

Іншыя ж гарадзішчы, сапраўды, маглі служыць перадавымі пунктамі пры руху рускай каланізацыі ўглыб стэпаў на паўднёвы-ўсход. Так, пры зліцці рэк Можа і Данец, у Харкаўскай вобласьці яшчэ на пачатку XVII стагоддзя, існавала Зікеўскае гарадзішча[167]. за ім стаіць Кукулеўскае паміж ракой Ардынкай і вяршыняй ракі Мерэфы[168]. Вялізныя дубы больш за 2 аршыны ў папярочніку раслі на вяршыні вала. Гэтае гарадзішча вялізных памераў. Яно складаецца із двух роўнасьцей, узнёслых адна над другой і над суседнічаючым наваколлем.

На водападзеле паміж рэкамі Можа і Каламак размешчана Хазарскае гарадзішча ва ўрочышчы Казараўскім, сярод вялізнага лесу, які мае назву Рынцавы Рог. Яно да такой ступені зарасло лесам, што яго цяжка агледзець[169]. Гэтая лінія ўмацаванняў на рацэ Каламак пачынаецца Высокапольскім гарадзішчам і працягваецца да гарадзішча Каламацкага. Пра апошняе мы маем дакументальнае паведамленне ў раз’ездным роспісе 1571 года, дзе гаворыцца: "Каламак (патрэбна) пералезьці пад Каламацкім гарадзішчам праз Ровень, ды полем праз Мураўскі шлях, ды на верх Адалага". У процілеглы бок гэтая абарончая лінія відавочна даходзіць да зліцця рэк Уды і Данец. Тут мы знаходзім два гарадзішчы – Махнач і Кабанава, іхныя рэшткі існавалі на прыканцы XVI стагоддзя. Першае

[165] Там жа. с. 279.
[166] Там жа. с. 107.
[167] Кніга, глаголемая Вялікі чарцёж. М., 1846. с. 37.
[168] Марозаў Ю. Пра гарадзішчы. с. 22-24.
[169] Рускі Гістарычны Зборнік. 1838 т. III, кн. Н, с. 211-212.

прыкрываецца Данцом, яго залівамі і возерам Круглым, а Кабанава знаходзілася пры самым вусьці ракі Уды[170]. Усе іншыя гісторыкі прызнаюць існуючае яшчэ і зараз Данецкае гарадзішча рэшткамі старажытнага горада Данца. Сведчанне раз'язднога роспісу 1571 года прыводзілася і Філарэтам: "ды ўніз па Ўдам (ехаць) праз Паўлава паселішча да Данецкага гарадзішча ды да Харошаўскага гарадзішча праз Харошаў калодзеж, ды праз Удзкія Роўні..."[171].

"Узнікае пытанне, – ставіць пытанне П. Галубоўскі, (с 99.) – якім чынам гэтае ўмацаванае паселішча магло існаваць так далёка ад межаў Северскага княства? Калі разглядаць існаванне тут ўмацаванага месца як вынік вайсковай (бо іншай у стэпе быць не магло) каланізацыі, то неабходна згадаць, што ўсякі каланізацыйны рух ідзе паступова, прычым будуюцца адно за другім ўмацаваныя месцы і за імі ідзе насельніцтва. Яны ідуць наперадзе, засланяючы сабой перасяленцаў. Такі парадак каланізацыі быў паўсюдна і заўсёды. Рэшткамі гэтых умацаваных ліній і могуць быць пазначаныя намі гарадзішчы[172]. Паралельна гэтаму шэрагу ўмацаванняў на Ўдзе існуе цэлая лінія рэштак абарончых месцаў і на Данцы. Такімі з'яўляюцца гарадзішчы Солтаўскае, Каткоўскае, Гумнеінне і Чугуеўскае, пазначаныя ў кнізе Вялікага Чарцяжа. Солтаўскае ў 1639 годзе было перададзена з сенажацямі таварышам Астрэніна, а ў апісанні горада Салтава, праз 35 гадоў – у 1674 годзе гаворыцца: "*горад Салтаў пабудаваны на Салтаўскім гарадзішчы, абстаўлены дубовым лесам*". Пра Гумнінскае гарадзішча Белгародзкага ваяводства ў 1668 чытаем: "(Чугуеўцы) *стаяць у Чугуеве ў сотнях па 50 чалавек і на адыходжых старожах на татарскіх перелазах, на рацэ Данцы на Салтаўскім гарадзішчы; ды на Гумнінскім па 37 чалавек*". А пра Чугуеўскае гарадзішча мы знаходзім у царскай грамаце 1641 года: "*У мінулым* (1638) *годзе прыйшоў у нашу Маскоўскую дзяржаву з Літоўскага боку гетман Яцко Астрэнін, а з ім сотнікі і шэраговыя чаркасы",* якія (прасілі) "*у імя крэсцьянскай веры ад пагублення ўратаваць і прызначыць іх на вечнае жыхарства на Чугуева гарадзішча..., а горад і астрог паставяць самі*".

Чытач бачыць, што ўсе гэтыя гарадзішчы будаваліся ўжо ў перыяд Маскоўскай Расіі, а, як следства, іх існаванне сведчыць не пра што іншае, як пра пераможны рух нейкай культурнай каланізацыі на паўднёвы-ўсход у сярэдзіне XVII стагоддзя. Але што ж выводзяць із гэтага прыхільнікі да-мангольскай Русі?

Вось ўласныя словы П. Галубоўскага, які разважае пра тыя ж самыя факты (с. 101).

"Калі чытач згадае зараз сувязь ўсіх павядомленых намі дадзеных і зверне ўвагу, што пад час Маскоўскага перыяду нашай гісторыі рабіліся раз'езды, будаваліся мястэчкі, былі ўмацаванні лясныя і балотныя, то ледзь ці магчыма, нават проста немагчыма, аспрэчваць, што і ў да-мангольскі перыяд рабілася тое ж самае(!!), бо падобныя жыццёвыя абставіны маюць наступствам і тыя ж самыя вынікі: насельніцства пад час двух гэтых перыядаў знаходзілася ў аднолькавых умовах – былі полаўцы, з'явіліся татары. Пярэчанне, што летапіс не паведамляе нам пра нейкія іншыя гарады ў дадзенай мясцовасьці, акрамя Данца, не мае значэння:

---

[170] "Ніжэй студзёнага кладеся, рака Уды, ад Студзенска з вярсту, ана усць Уды Кабанава гарадзішча, па левым баку". "А ніжэй Кабанава гарадзішча, з крымскага боку, ўніз па Данцу, Мухначава Гарадзішча, ад Кабанава вёрст 5". (Кніга, глаголемая Вялікі Чарцёж, с. 32) і Гісторыка-статыстычнае апісанне Харкаўскай Епархіі, ч. 1, с. 162.

[171] Гісторыка-статыстычнае апісанне Харкаўскай Епархіі. 4.1. с. 81.

[172] Кніга, глаголемая Вялікі Чарцёж, с.32.

мы гаварылі раней і зноў паўтараем, што ён не цікавіцца вельмі шмат чым, або, кажучы інакш, цікавіцца вельмі нешматлікім".

Такім чынам, і тут, як і ў класікаў, праглядаецца своеасаблівы рэнесанс. Выяўляецца, што Московская Русь у барацьбе з крымцамі (дзяржаўнасць якіх, вядома, таксама пачалася не раней часу Крыжовых паходаў і генуэзскай каланізацыі) толькі карысталася ўсімі згаданымі намі гарадзішчамі, заснаванымі быццам бы задоўга да маскоўскага "збірання Русі". А калі самі летапісы нічога не гавораць нам пра гэта, то гэта нічога не азначае: бо "яны цікавяцца вельмі нешматлікім".

Але ці так гэта? – запытаемся мы.

Бо калі мы дапусьцім, як ужо зрабіў я; што слова "арда" з’яўляецца толькі напісаным рускімі літарамі лацінскім словам ordo-ордэн; што мясцовасць "Татары", адкуль зацвярджліся рускія князі на працягу ўсяго часу існавання Лацінскай імперыі на Балканах, з’яўляецца толькі напісанай рускімі літарамі ў рускім вымаўленні назвай Паўночнай Вугоршчыны і Галіцыі – Татрамі; што сталіцу Залатой Арды (г. азн. Залатога Ордэна.). – Сарай не варта шукаць у бязлюдных стэпах за сучаснай Волгай, каля быўшага горада Царава, а прама паказаць на мапе пальцам на Баўгарыю[173], дзе і зараз, акрамя Сараева ў Босніі пазначаецца кружочкам і горад Сарай, былы фарпост на шляху ў Цар-Горад із варварскіх краін; што слова ярмо – з’яўляецца лацінскім jugum-падатак; што басурман, інакш бесермен, з’яўляецца старажытна-нямецкім словам Besteuermann, г. азн. зборшчык падаткаў; што ардынскія кановічы, экзаменуючыя прыязджаючых туды рускіх князёў – папскія канонікі; што "татарское ярмо (jugum tartaricum sive tatricum)" і пачалося, і закончылася адначасова з перыядам валадарання каталіцкіх ордэнаў ва ўсходняй Яўропе з часоў Лацінскай імперыі на Балканах; і што рускія князі ад XIII да XV стагоддзяў маглі б ездзіць за зацверджаннем на свае пасады да іншаверных ханаў толькі ў стане страты розуму; а ў перыяд валадарання лацінян на грэка-славянскім усходзе ўсе схіліліся да ўніяцтва, якое потым адкінулі пасьля паслаблення каталіцызму на ўсходзе Яўропы, у сувязі з націскам магаметанства, – то мы, наадварот, прыйдзем да высновы, што за ўвесь перыяд Крыжовых паходаў і наступнага лацінскага валадарання на еўрапейскім ўсходзе рускія летапісы поўняцца іхнымі адгалоскамі, ды і само ўзнікненне дзяржаўнасьці ў Расіі, і ў Крыме, і нават у самой унутранай Азіі пачынаецца ад крыжакоў.

Трэба толькі дапусціць, што падзенне Лацінскай імперыі на Балканах, як і павінна быць, мела наступствам узнікненне наўзамен яе шэрагу параўнальна маленькіх нацыянальных дзяржаў, а пераход славян пасьля выгнання лацінян ад каталіцтва да грэцкага праваслаўя прывяло да таго, што ранейшае веравызнанне пачало называцца ў іх бесерменствам, г. азн. збіраннем падаткаў, а затым, дзякуючы адыходу лацінян і з'яўленню наўзамен іх з поўдня магаметан, назва крыжакоў "татараве" перайшла ў пазначэнне гэтым тэрытарыяльным словам татары – іншаверцаў магаметан. Пазней гэтае слова было асімілявана з грэцкім словам тартары, г. азн. пякельныя людзі, і іхнае месцазнаходжанне перанеслі на сучасную Волгу і прымусілі іх там, ператварыўшы ў працаўнікоў, качаваць па саланчаковаму стэпу і, што горш за ўсё, падпарадкаваць адтуль і Кіеў, і Ноўгарад, і Маскву і дайсьці да сваёй радзімы Татраў. Але ж гэта недарэчна!

---

[173] Зноў пазначу, што Баўгарыя і вымаўляецца Баўгарыяй па-візантыйску, дзе гук ? больш падобны на В, чым Б на В.

Таму што цалкам жа наадварот: самі рускія князі малююцца нашым пачатковым летапісам рабаўнікамі. Не будзем падманваць саміх сябе, як дзеці, сенсібільна выбранымі славамі, называючы адну і тую ж справу то злачынным набегам ворагаў, то "геранічным паходам на ворага".

Вось, напрыклад, пад 964 годам "пачатковай часткі" ўсіх нашых поўных летапісаў напісана: "*Калі взрос і вазмужаў князь Святаслаў* (Кіеўскі), *ён пачаў збіраць шмат харобрых ваяроў і, ходзячы лёгка, як леапард, здзяйсняў шмат войнаў. У паходах не вазіў з сабой абозаў і катлоў, не варыў мяса, але, тонка нарэзаўшы каніну, звярыну ці ялавічыну, еў яе іспеча на вуглях*" (або дакладней сырую, так як здабываць вуглі ў стэпе яму было не так лёгка ў 964 годзе, як зараз, пасьля вынаходніцтва запалак хімікам Камерэрам роўна за сто гадоў да нашых дзён[174], а каля 1000 гадоў таму назад пры Святаславе здабыванне полымя пад час паходу было амаль немагчымай справай). "*Ён не меў шатра, але сьцяліў пад сябе потнік із пад сядла, а сядло клаў сабе пад галаву. Такімі ж былі і яго ваяры. Ён пасылаў да краін, кажучы ім так: "Хачу на вас ісьці" І так хадзіў на раку Аку і Волгу і напрапіў на вяцікаў (вяцічаў) і запытаў вяцічаў: "каму даеце даніну?" Яны ж адказалі: казарам даніну даем па шэлягу ад арала* (сахі)".

Але ж усё гэта малюе рускіх князёў да пачатку крыжовых паходаў не як культурных кіраўнікоў, а менавіта як атаманаў шаек неадружанай мужчынскай моладзі, зараз маючых назву хуліганаў, якія, выйшаўшы са сваіх аседлых буйных пасяленняў, маглі цалкам нечакана ў летні час з'яўляцца то тут, то там, сілкуючыся на шляху мясам сваіх уласных коней і рабуючы аселыя пасяленні іншых, не вельмі далёкіх народаў. Такія ж атрады буянай моладзі маглі, вядома, высылацца і супраць уласных гарадоў, але гэта ні ў якім разе не маглі быць цэлыя плямёны з усімі іхнымі жонкамі, сёстрамі, малалетнімі і груднымі дзецьмі, бацькамі, састарэлымі і кволымі дзядамі і бабулямі і з усімі статкамі, палаткамі і пераносімым гаспадарчым скарбам.

А ў дадзеным месцы мы знаходзім і іншую цікавую падрабязнасць. Выяўляецца, што "вяцікі", якіх напаткаў у сваіх рабаўнічых набегах кіеўскі князь Святаслаў, каля тысячы гадоў да нашага часу плацілі даніну хазарам па "шэлягу з сахі". А "шэляг" ужо даўно і не без падстаўна атаясамляецца гісторыкамі з існуючай і да гэтага часу ангельскай манетай шылінгам[175]. Як патрапіў (у дастатковай для штагадовай даніны з кожнай сахі колькасьці) із Лондона шылінг за тысячу гадоў да нашага часу да вяцікаў, у 964 годзе? Мне пярэчаць, гэтыя вяцікі не жылі па сучаснай рацэ Вятцы, зліваючайся з Камай на процілеглым, паўночна-ўсходнім канцы еўрапейскай Расіі, дзе размяшчаецца і сучасны Вяцкі край, а ўжо даўно лічацца паганскім адгалінаваннем палякаў, знікшае з твару зямлі ў XIII стагоддзі нашай эры. Але нават і ў такім выпадку карыстанне шылінгам з'яўляецца цалкам немагчымым, як дарэчы, геагафічна немагчымы і паход Кіеўскага князя Святаслава на Волгу, калі, паўтараю, гэтым найменнем не называлася ніжняя частка русла Дуная бягучая па славянскім землях. Як бы для падцверджання гэтага, ўжо праз два гады, у 967 годзе, той жа Святаслаў (відавочна, таксама сілкуючыся ўласнымі коньмі) сапраўды пайшоў на Дунай на баўгар (валгароў) і, перамог іх, захапіў 80 гарадоў па Дунаю і сеў там княжыць "у Пераяслаўцы", збіраючы з грэкаў даніну.

---

[174] Пісана летам 1933 года, а Запалкі вынайдзены ў 1833 годзе.

[175] Гл., напр., Слоўнік да "Летапісу Нестара" з уключэннем павучання Ўладзіміра Манамаха ў "Рускай класічнай бібліятэцы" пад рэдакцыяй М. Н. Чудзінава (СПб., 1903).

Але які ж гэта Пераяславец ў Баўгарыі? Яе гісторыкі запэўніваюць нас, што першай сталіцай Баўгарскага царства сапраўды быў Прэслаў (або Прэслава, згодна з ранейшай арфаграфіяй Пръслав), заснаваны першым яе царом – Асперухам ў 979 годзе, і толькі з 1186 года сталіца была перанесена ў Тырнава. Але ў рускім "Пачатковым летапісе" пад імем Пераяславец разумеецца, відаць, сучасны ўкраінскі Пераяслаў, на ўсходнім баку Дняпра, каля 80 кіламетраў ніжэй Кіева, размешчаны на заходнім баку гэтай ракі, хаця заснаванне гэтага Пераяслава адносяць да 993 годзе, на 25 гадоў пазней. І тут мы зноў знаходзім падцверджанне таго, што печанегі былі захаднім, а не ўсходнім народам.

Так, пад 868 годам (у лета 6467) мы чытаем:

"*У першы раз прыйшлі печанегі на рускую зямлю. Святаслаў зачыніўся (*ў Пераяслаўлі) (г. азн. у былой сталіцы Баўгарыі Прэславе на Дняпры), *а Вольга з унукамі сваімі Яраполкам, Алегам і Ўладзімірам ў Кіяві... Печанегі ў цяжкай*(?) *сіле абступілі горад, незлічоным мноствам, немагчыма было ні вылезьці із гарада, ні паслаць весткі. Знемагалі людзі ад голаду і смагі. І на другім (г. азн. ўсходнім) баку сабраліся людзі ў ладзях, але заставаліся па той бок, і немагчыма было ўвайсьці ў Кіеў ні аднаму з іх, ні із гарада да іх. Загаравалі людзі ў горадзе*:

*– Ці няма каго, хто мог бы дабрацца да таго боку і паведаміць* (тамашняму атраду рускіх): *калі не выручыце да раніцы, нам давядзецца сдацца печанегам?*

*– Я перайду!* – панадзіўся адзін хлопчык, і сказалі яму:

*– Ідзі!*

*Ён выйшаў із гарада з аброццю і бегаў сярод печанегаў, пытаючы:*

*– Ці не бачыў хто-небудзь каня?*

*Ён умеў размаўляць па-печанежску, і яны палічылі яго за свайго.*

Наблізіўшыся да Дняпра, ён распрануўся, кінуўся ў раку і пайшоў. Пабачыўшы гэта, печанегі кінуліся, страляючы ў яго, але не маглі яму нічога зрабіць. А людзі з другога (г. азн. ўсходняга) *боку, бачачы гэта, паехалі да яго ў ладзях, забралі і прывялі да сваёй дружыны, і ён паведаміў ім:*

*– Калі заўтра не падступіце да горада, то людзі хочуць здацца печанегам.*

*Ваявода на імя Прэціч адказаў:*

*– Падступім заўтра ў ладзях і, патрапіўшы туды, забярэм на гэты бок княгіню і княжычаў, таму што, калі не зраблю гэтага, то загубіць нас Святаслаў* .

*Раніцай селі яны ў ладдзі супраць святла* (сьвяціла ў твар печанегам, г. азн. ехалі з усходу), *моцна затрубілі, а быўшыя ў горадзе закрычалі. Печанегі, думаючы, што прывялі князя* (Святаслава), *пабеглі ў разброд ад горада* (г. азн. на захад). *Вольга з унукамі і людзьмі выйшла на бераг да ладзей. Пабачыўшы гэта, адзін князь печанежскі вярнуўся і, падышоўшы да ваяводы Прэціча, запытаў:*

*– Хто гэта прыйшоў?*

*– Людзі з таго* (ўсходняга) *боку*.

*– А ці не князь ты сам?*

*– Я яго ваяр і прыйшоў з вартавым атрадам, але за мной ідзе полк з самім князем, мноства без ліку.*

*Прэціч адказаў так, пужаючы...*

*І памёрла Вольга праз тры дні. І плакалі і дзеці яе і ўнукі яе, і ўсе людзі яе. І яна не запавядала здзяйсняць па ёй трызну, бо мела таемна прэсвітэра* (прэзвуцера), *і той пахаваў яе, блажэнную Вольгу*. *Яна была папярэдніцай хрысьціянскай зямлі, як світанне перад сонцам, як зарніца перад святлом. Яна*

*была сярод неверуючых людзей, свяціўшая як бісер ў кале, як калены неамавенныя ад грахоў святым хрышчэннем*".

І аўтар суправаджае гэтыя словы цэлым патокам красамоўства на карысць святога хрышчэння і самой святой Вольгі, прыводзячы цытаты із Давыда і Саламона. А заканчвае ён так:

"*Абараніў бог гэтую блажэнную Вольгу ад суперніка, супастата-дз'ябла*".

А пра жаданне Святаслава княжыць у баўгарскім "Пераяслаўцы" згадваецца толькі праз год у 971 годзе.

"*У лета 6479* (год 971) *прыйшоў Святаслаў да Пераяслаўца* (г. азн. да Баўгарскай Прэславы*), і баўгары зачыніліся ў горадзе. Яны вылезлі із гарада на сечу, і была сеча вялікая. Пачалі адаляваць баўгары.*

*І давядзецца нам тут пасьці, – прамовіў Святаслаў. – Напружым жа мужна сілы, о браты, о дружына!*

*Да вечара адолеў Святаслаў, узяў горад прыступам і сказаў:*

*– Вось мой горад!*

*Ён выправіў да грэкаў, кажучы:*

*– Хачу на вас ісьці і ўзяць ваш горад, як гэты.*

*Але грэкі пачалі яму лісьлівіць падчас яго пахода на іх, спрабуючы правесьці яго любоўнымі прэгаворамі і прапановай даніны.*

*Ён узяў шматлікія дары, вярнуўся да Пераяслаўца зь вялікай пахвалой і сказаў:*

*– Пайду ў Русь, прывяду пабольш войска, і пайшоў у ладзях. Свекельд ваявода бацькавы сказаў яму:*

*– Ідзі, князь, на конях, бо стаяць печанегі ў парогах* (дняпроўскіх).

*Але ён не паслухаў яго і пайшоў у ладзях... Прыйшоў да парогаў і, так як нельга было прайсьці праз іх, стаў зімаваць ў Белабярэжжы. І быў вялікі голад: па паловугрыўны конская галава.*

*Вясной* (972 года) *ён пайшоў у парогі. Там на яго напаў печанежскі князь Кура, забіў Святаслава, зрабіў чарку із яго ілба і піў з яе*".

Такім з'яўляецца адзінае месца, дзе старая баўгарская сталіца Прэслава фігуруе ў рускіх летапісах у сваім уласным выглядзе і прытым у хаўрусе з печанегамі.

І ўслед за гэтым Прэслава знікае са старонак летапісаў, і замест "Пераяслаўца" з'яўляецца Пераяслаў Кіеўскі і Пераяслаў Залескі, каля Ўладзіміра. Ні пра якія бойкі з печанегамі каля іх ужо не паведамляецца. Апошні раз пра іх згадвае Наўгародзкі летапіс пад 1016 годам, паведамляючы:

"*І пабяжал Святаполк* (сын Уладзіміра Сьвятога, які прыняў каталіцтва) *у Печанезі* (г. азн. у печную краіну) *паміж Чэхамі і Ляхамі* (чэхамі і палякамі), *нікім не ганімы, і прапаў акаянны, худа закончыў сваё жыццё, як дым да сяго дня*".

Але і гэта апошняе паведамленне адносіць печанегаў не на ўсход, а на захад ў вобласць Татрскіх гор.

* * *

Паглядзім зараз і на іншыя загадкавыя, нібыта "невядома адкуль прыйшоўшыя і невядома куды знікшыя народнасьці" на Русі да крыжовых паходаў. Дзейнічаючы згодна з агульным правілам, перш, чым пачаць параўнанне і разгляданне летапісных паведамленняў, пашукаем іхныя лінгвістычныя сляды у нашай сучаснасьці.

Вось, напрыклад, хазары і аланы. Такіх назваў зараз не існуе ні ў аднаго народа, але пра іх нагадвае коннае войска: гусары і ўланы, існаваўшае ў нас аж да рэвалюцыі.

Гусары, – як я ўжо паведамляў, – перш за ўсё з'явіліся ў Вугоршчыне і згадваюцца там ў 1458 годзе пры каралю Мацвею Карвіну як коннае апалчэнне, набранае па адным із каждых дваццаці дваран, а потым іх завялі Польша і шмат якія іншыя краіны. Гэта было чыста дваранскае войска, адлюстраваўшаяся ў картачнай гульні ў назве козыры (сугучна з гусары і хазары), г. азн. прывілеяваныя карты[176].

Усё гэта прыводзіць нас да высновы, што хазары былі не народам, а вугорскім (ці польскім) конным войскам.

Тое ж самае можна сказаць і пра аланаў. Уланы таксама коннае войска, узброенае акрамя шаблі таксама і пікай, якое з'явілася ў Польшчы, і адтуль было запазычана Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. А што ж нам паведамляюць пра іх?

– Уланы (г. азн. аланы), – адказваюць нам, – было качавым племенем сармацкага (г. азн. цалкам правільна – польскага) паходжання.

Затым ужо пачынаецца храналагічная і геаграфічная блытаніна:

"Вандравалі яны (г. азн. уланы) на поўнач ад Каўказа (замест Карпат) да ракі Дона. У 375 годзе яны былі заваяваны гунамі (г. азн. ханамі-каганамі-святарамі), ўварваліся ў 410 годзе ў Гішпанію і зліліся з партугальцамі, так што зараз ад іх не засталося і сляда".

Але мы бачым, што гэты след застаўся да гэтага часу.

Дакладна гэтак жа і пра вугорскіх гусараў нас пераконваюць пад найменнем хазар або казар (адкуль магчыма і слова "казак"): "Блукалі гусары-хазары, – кажуць нам, – спачатку (як і ўланы-аланы) з VI ст. паміж Каспійскім і Чорным марамі, потым заваявалі праваліўшуюся пасьля таго скрозь зямлю Заволжскую Баўгарыю каля Казані, і Кіеўскае княства на Дняпры, і Крым. Паляне (г. азн. polonais – палякі), севяране (правей ад іх, каля Смаленска па рацэ Дзясне), вяцічы (г. азн. не жыхары сучаснай Вяцкай зямлі па рацэ Вятцы, а нейкія знікшыя з твару зямлі ў XIII стагоддзі без сляда..) і радзімічы (г. азн. сучасныя беларусы, на ўсход ад палякаў) плацілі ім даніну.

Якім жа магутным войскам былі гэтыя гусары, калі змаглі завалодаць такой вялізарнай вобласцю – ад Варшавы да Крыма і ад Кіева да Казані, не кажучы ўжо пра сумнеўную Вятку! Але, бяспрэчна, гусары або хазары былі войскам, а не народам, і яго найменне сапраўды магло распаўсюдзіцца на ўсю гэтую мясцовасць як агульная назва своеасабліва ўзброеных вершнікаў усякай нацыі.

Разгледзім зараз і летапісны край Парусію (Парусcе). Лінгвістычныя сляды прыводзяць нас прама ў Прусію, першапачатковае найменне якой было Preussen, перамяніўшымся пазней у Барусію. Ад гэтага, верагодна, паходзіць і імя Барыс, г. азн. Барус або Парус.

---

[176] Таму што і сама картачная гульня з’явілася падчас крыжовых паходаў. Паведамленні пра тое, што быццам бы яна існавала ў кітайцаў яшчэ пад час глыбокай старажытнасьці, даказваюць толькі невялікую старажытнасць самых гэтых паведамленняў. Яна хутка пачала атачацца забабоннымі ўяўленнямі, адлюстраваўшыміся ў картачных гаданнях, з нагоды чаго ў 1254 Людовік Сьвяты выдаў супраць яе забараняючы загад. Не цяжка бачыць, што шасьцёркі, сямёркі і іншыя плямістыя карты сімвалізуюць атрады войска: слова валет паходзіць ад лацінскага valeo, набыўшае па-французку спачатку сэнс каралеўскага служыцеля, а потым і наогул служкі. Слова туз – нямецкае Daus – відавочна паходзіць ад лацінскага deus – бог, які "крые" і атрады, і валетаў, і дам, і каралёў. А ў шахматнай гульні назва "феразь" нішто іншае, як стара-руская назва французскіх рыцараў фразь (francais).

Але нам кажуць, што гэта была мясцовасць на заходнім беразе Дняпра паміж рэчачкамі Стугнай і Россю, хаця Рось настолькі нязначны прыток Дняпра, што хутчэй за ўсё сама магла атрымаць сваё найменне прама ад ранішняй расы. З непараўнальна больш вялікім правам можна сказаць, што горад Старая Руса, на паўднёвым беразе возера Ільмень на поўдзень ад Ноўгарада, з'яўляецца ўспамінам пра быўшую ў гэтым краі Старую Русь, замяніўшуюся пазней новай, адкуль і найменне яе другога цэнтра – Новы горад.

Тады большасць геаграфічных мясцовасьцей, найменні якіх паходзяць ад кораня русы або рускі, пачынаюць аб’яднoўвацца ў адну геагафічную вобласць і, прытым, сапраўды населеную русым народам, між тым, як на Ўкраіне жыве ўжо чарнавалосае насельніцтва.

Я, вядома, не ігнарую таго, што тлумачальнікі паведамленняў нашых летапісаў пра паходы князёў у тым выглядзе, у якім яны дайшлі да нас, паказваюць для Паросіі іншае месца, дзе і да гэтага часу цячэ рака Рось, заходні прыток Дняпра, зліваючыся з ім каля Канева, паўднёвей Кіева, назва якой лічыцца перажыткам гэтага наймення, распаўсюджваўшагася на вялікую вобласць.

Так, напрыклад, у апакрыфічным павучанні Манамаха, змешчаным у Лаўрэнцьеўскім летапісе без пазначэння года[177], мы чытаем пра гарады Юр'еў, Торчаск і Белы горад у сувязі з нейкімі-та чорнымі клабукамі (інакш берандзеямі).

"*Гналісь* (рускія) *за полаўцамі спачатку на Святаслаўлъ, потым на Торчаскі горад, потым на Гюргеў* (Юр'еў*) і яшчэ раз на тым аке баку, каля Красна, перамаглі іх і потым з Расьціславам палаткі ўзялі ў Варана (барона?)*..."

А ў Іпацьеўскім летапісе, пад 1159 годам: "*Полаўцы, беглі ад Бела-гарада на Гюргеў (Юр'еў), і шмат іх злавілі берандзеі* (хаўруснікі рускіх, інакш чорныя клабукі), *і гюргеўцы, а іныя патанулі ва Рэі*".

І там жа пад 1162 годам: "*У тое ж лета шмат полаўцаў прыйшло да Гюргева і ўзялі шмат палатак па Роту* (нямецкае Чырвонае). *Чорныя ж клабукі, усе злучыўшыся, ехалі за імі і насьцігглі на Росі, іх шмат пабілі і забралі ўсіх палонных*".

Дзе б мог быць горад Юр'еў? Барсаў у сваёй "Геаграфіі першапачатковага летапісу" і ў "Матэрыялах для гісторыка-геагафічнага слоўніка Старажытнай Русі" пакідае гэта без вызначэння, Карамзін першым абвясьціў яго страчанае месцазнаходжанне не інакш, як на плыні Росі, прытоку Дняпра. Але Галубоўскі аспрэчыў гэта (с. 142) і паказвае на сляды ўмацавання больш паловы кіламетра у папярочніку, аточанае з трох бакоў звілінай ракі Ярута і балотам, а з чацвёртай земляным валам, дзе згодна з народным паданнем быў горад Сакалоў, а зараз вёска Сакалоўка. Але з якой нагоды Юр'еву перамяняць назву на Сакалоў або Сакалоўка?

Адзіныя гарады з імем, падобным на Гюргев, – гэта ліфляндскі Юр'еў, інакш Дорпат або Дэрпт, затым Юр'еў на паўднёвы-ўсход ад Пераяслаўля, на палове шляху ад Масквы да Яраслаўля, і, нарэшце, Юр'еў Паволжскі, на Волзе ніжэй Кастрамы, ды яшчэ, дарэчы, Гур'еў на рацэ Урал, каля Каспійскага мора.

Але пра тры апошнія не мае сэнсу і згадваць. Адзіным Юр'евым, у які маглі б часта хадзіць полаўцы із Палавецкага княжества, верагодна, яшчэ не аддзеленага ад Польшчы, мог быць ліфляндскі Юр'еў, і тады Торчаскім горадам мог быць сучасны Тарапец. Звычайна ж яго лічаць горадам Таращча ў Кіеўскай акрузе або за вёску Торчыца каля яго, і на гэта ёсць падставы.

---

[177] Лаўрэнцьеўскі летапіс, с. 240.

Вось, напрыклад, у Іпацьеўскім летапісе пад 1169 годам сказана: "*Далучыць Валадзімеру* (Мсціслававічу, Дарагабужскаму, валынскаму князю) *да сваёй воласьці* (горад) *Торцскі з усім Пароссем*". А яшчэ раней, пад 1163 годам, мы знаходзім: "*Расьціслаў* (Кіеўскі) *сатвары мір з Мсціславам* (Валынскім), *вярнуў яму гарады: Торскі і Бель-горад* (лічымы за вёску Белгародку Кіеўскай вобласьці), *а за Трэполь* (лічымы вёскай Трыполле) *даў яму Канеў* (існуючы і зараз на заходнім беразе Дняпра ніжэй Кіева)".

З першага запісу відаць, што Пароссем называлася таксама і вобласць, дзе знаходзіўся горад Торцкі, а з другога, што гэта было недалёка ад Валыні. Аднак, ці можна пагадзіцца з меркаваннем Галубоўскага, лічыўшага на падставе артыкула Рэвякіна[178], што горад Торцскі быў каля вёскі Старыя Бязродзічы, каля ракі Стугны, прытока Дняпра, дзе на ўзгорку існуюць парэшткі землянога вала і колодзезя? Ці не занадта гэта дробязна для летапісных паведамленняў?

А што да ракі Рота, то нельга пакінуць без увагі, што гэта відавочна нямецкае найменне са значэннем "красны". Гэта падцвярджаецца і першай із трох прыведзеных намі цытат, дзе гаворыцца, што рускія "гналіся за полаўцамі і на Юр'еў і яшчэ на тым жа баку перамаглі іх каля Красна". Не цяжка бачыць, што гэтая манамахава "Красна" і ёсць нічым іншым, як Рот (Roth) з трэццяй нашай летапіснай выпіскі. Гэта азначае, справа адбывалася ў такім краі, дзе было перамешанае рускае і нямецкае насельніцства, так што адна і тая ж рэчачка называлася жыхарамі і Чырвоная, і Рота.

Загадкавы тут і горад Святаслаўль у апокрыфе, устаўленым ад імя Манамаха-Адзіназмагальніка нейкім познім капіістам у Лаўрэнцьеўскі спіс. Не існуе і горад Карын, а горад Халет лічыцца за пераіначанне наймення Халоі, так як у тых краях існуе вёска Халонне.

Я лічу надзвычай небяспечным карыстацца гэтым відавочна нашмат пазнейшым апакрыфічным дадаткам ад імя князя Адзіназмагальніка (Манамаха), дзе, відаць, сабраны разам для засмучэння гісторыкаў і архівістаў вельмі аддаленыя гарады, да ліку якіх я далучаю і Ян-горад.

"Да над-дняпроўскіх гарадоў Кіеўскага княжества трэба б, здаецца, дадаць, – кажа Максімовіч, – Ян-горад, каля якога ў 1151 годзе стаяў князь Ізяслаў са сваімі хаўруснікамі супраць Юр’я... адсюль яны пайшлі начаваць у Трэполь, а із яго ў Кіеў. Відавочна, што Ян-горад быў ніжэй Трэполя: згодна з аім меркаваннем, каля Ражышчава, дзе і зараз знаходзіцца гара Ян са старажытным гарадзішчам"[179].

Але як бы гэта ні было відавочна, а ўсё ж адзінае, і прытым із самых старажытных паселішчаў паўднёва-заходняй Расіі, гэта – мястэчка недалёка ад Каменец-Падольска, г. азн. ўжо ў Галіцыі.

Увогуле ж, не рызыкуючы зрабіць буйную памылку, можна толькі сказаць, што Пароссем зваліся ў разных аўтараў разныя вобласьці той доўгай паласы, якая аддзяляла першыя рускія кнprofessional ад заходне-еўрапейскіх дзяржаваў, далучаючы сюды і Прусію і Валынь, ды і Ўкраіна атрымала назву Ўкраіна не таму, што яна была на паўднёвым краю Усходняй Яўропы (бо там на беразе Чорнага мора былі яшчэ візантыйскія і генуэзскія калоніі), а таму што яна знаходзілася на краю рускай каланізацыі ў паўднёвыя стэпы, г. азн. спачатку была таксама Пароссем (у тым

---

[178] Набліжэнне гістарычных сведчанняў з народнай легендай пра старажытны Торчаск, Кіеўскія губернскія ведамасьці 1863 года, №№28, 33, 34 і "Кіеўская старына" – 1882 года.

[179] Максімовіч. Збор твораў II, с. 346 і 352. Глядзі. таксама Іпацьеўскі летапіс, с. 295; Гарадзішча паказана і ў Фундуклея. с. 33-37; Галубоўскі, с. 143.

сэнсе, як мы кажам "Паволжа", г. азн. уздоўж Волгі) і толькі пазней атрымала найменне Мала-Росія.

А што да чорных клабукоў – яны ж берандзеі, – пра якіх як хаўруснікаў рускіх князёў згадвае Іпацьеўскі летапіс ў перыяд заваявання крыжакамі палестынскага Эль-Кудса (Ерусаліма хрысьціян), напярэдадні заваявання крыжакамі Цар-Горада, то вось што піша пра іх Галубоўскі[180]: "Уся масса разных цюркскіх качавых радоў мела на Русі агульнае найменне чорныя клабукі, г. азн. чорныя шапкі. Гэтая назва была агульнай для ўсіх дробных плямёнаў, якія аселі на Русі[181]. Так, у 1162 годзе ў рурыкавым войску былі: берандзеі, кавуі, торкі і печанегі, а праз некалькі радкоў чытаем: "*І начата прасіці чорныя клабукі ў Мсціслава наперадаць саглядаеў, каб даведацца, ці вялікая рацъ*".

У 1172 у Мсціслава былі торкі і берандзеі, і сказана: "*Торыі і бярэндзічы льсцяху іму*". Пра гэта папярэджваюць яго браты і кажуць: "*А чорны клабук нам ліслівіць*"[182].

"Чорныя клабукі" – гэта не больш, як пераклад цюркскага выказвання: "Кара-калпакі" ці Кара-гулы[183] – чорныя шапкі. Дзе ж, у якіх мясцовасьцях можна паказаць на паселішчы гэтых Чорных Клабукоў? Мы сустракаем іх на Паросcі і ў Пераяслаўскім княстве. Ёсць некалькі фактаў, паказваючых на знаходжанне іх у гарадах. На прыканцы XII стагоддзя мы ведаем нават трох чорнаклабуцкіх князёў, валодаўшых гарадамі на Паросcі. Кунтуўдзей спачатку сядзеў у Торчаску, затым яму быў дадзены горад Торн на Росі (Торн ў Прусіі?). Невядома, якія гарады належалі Чурнаю і Кульдеюру, летапіс іх не называе. Гэта былі, відаць, людзі выбітныя. Пра Кунтуўдзея летапісец кажа, што ён "*бе муж дзерз і надабен ў Русі*". Яго разам з Кульдзеюрам мы бачым у паходзе Ігара Святаславіча на полаўцаў да Харола ў 1188 годзе.

Роля чорнаклабуцкага насельніцтва ў гісторыі Русі, асабліва паўднёвай, вельмі значная. Яно прынесла новы цюркскі элемент на рускую зямлю, які з плынню стагоддзяў растварыўся ў славянстве і не мог не выказаць уплыў на славянскае насельніцтва ў культурным дачыненні. Як на поўначы чысты славянскі тып змяніўся пад уплывам фінскага, так і на поўдні не мог прайсьці бязследна ўплыў цюрак, не мог не адбіцца на наступных пакаленнях паўднёва-русаў. Не менш важнае значэнне патрэбна прызнаць за чорнаклабукамі ў ходзе падзей на Русі і ў яе барацьбе з полаўцамі (з генуэзцамі згодна з нашым поглядам). Мы бачылі характары палавецкіх набегаў, бачылі, якімі хуткімі і нечаканымі былі іхныя напады, якімі няўмольнымі былі іхныя атрады падчас уварванняў і адступленняў. Была патрэба выставіць магутнасць, роўную ім па якасьці, і такая магутнасць з'явілася служыць Русі, не ведаўшай, дзе знайсьці выратаванне ад сваіх моцных ворагаў полаўцаў. Русь набыла ў выглядзе чорных клабукаў лёгкае рухомае войска. Яны былі незаменнымі, калі была патрэба праследаваць ворага, адыходзіўшага з нарабаванай здабычай. Так, калі полаўцы парабавалі Пароссе ў 1155 годзе "*Васілька з берандзеічамі* (якіх Галубоўскі атаясамляе з чорнымі клабукамі) *дагнаў і пабіў іх*". У 1162 годзе чорныя клабукі дагналі полаўцаў на рацэ Росі і адбілі

[180] Галубоўскі П. Печанегі, торкі і полаўцы да нашэсьця татар. с. 149.

[181] Глядзі. артыкул Самчэўскага: "Торкі, берандзеі і чорныя клабукі" у Архіве гісторык.-юрыдычных паведамленняў. 1855 г., кніга II, част. 1, дзе сабраны факты і зроблена іхнае параўнанне.

[182] Іпацьеўскі летапіс, с. 375.

[183] Пра кара-калпакаў. гл. журнал міністэрства народнай асветы 1855 года, ч. 86. Бярэзін: "Нашэсьце Батыя на Расію із Рашыд-эд-Дзіна". Таксама Збор твораў М. А. Максімовіча, III, с. 188.

палонных. У 1172 полаўцы парабавалі гарады Палоны і Семыч. Хутка была сабрана пагоня са ста чалавек пераяслаўцаў і паўтары тысячы берандзеяў, якая дагнала полаўцаў і адбіла палон. Калі была патрэба ўразіць ворагаў нечакана, захапіць іх знянацку, тады чорныя клабукі былі незаменнымі. Так у 1187 годзе яны рушылі з князямі да Тацінскага броду на Дняпры. Праз некаторы час Святаслаў і Рурык выправілі чорных клабукаў на палавецкія вежы за Дняпро пад правадырствам Рамана Нездзіловіча, і экспедыцыя мела поспех, таму што чорныя клабукі папярэдне праведалі, што полаўцы пайшлі на Дунай. Ніхто лепш за іх не мог выведаць пра становішча ворага, ніхто больш спрытна не ўмеў прабрацца ў непрыяцельскі стан.

У помсту за набегі полаўцаў чорныя клабукі вырашылі самі зрабіць наезд на палавецкія вобласьці. Лепшыя з іх сабраліся, паехалі да Расьціслава ў Торчаск і сказалі яму (?):

"*Гэтай зімой полаўцы вас часта рабуюць. Мы не ведаем, падунайскія яны, ці што? Бацька твой далёка, а да Святаслава і не шлём: толку не будзе, таму што злуецца на нас за Кунтуўдзея.*

*Расьціславу спадабалася іхная думка. Ён выправіў сказаць Расьціславу Ўладзіміравічу:*

*– Брат, я хацеў бы паехаць на вежы палавецкія, а бацькі нашы далёка, і іншых старэйшых няма. Будзем жа мы з табой за старэйшых! Прыязджай да мяне хутчэй!*

*Злучыўшыся з чорнымі клабукамі, яны нечакана з'явіліся ў Пратолчы, дзе захапілі шмат статкаў і веж, якім не было куды ратавацца. Але полаўцы хутка даведаліся пра сваё няшчасьце. Яны не пабаяліся ледахода і плыўцом пераправіліся праз Дняпро* (Дунай). *Чорныя клабукі ўрэзаліся ў іхны асяродак, шмат захапілі жывымі і шмат перабілі. Патрапіў тут у рукі Чорным Клабукам і палавецкі князь, Кабан. Але яны не павялі яго да Расьціслава, пагадзіліся з ім на выкуп і вызвалілі яго. Восенню 1192 гада чорныя клабукі зноў пачалі падбіваць Расьціслава ісьці на полаўцаў, але Рурык не пусьціў. Тады Святаслаў вырашыў самастойна пакараць полаўцаў за іхныя набегі, з часу якіх прайшло ўжо гады паўтары. Ён з чорнымі клабукамі рушыў да Дняпра*".

Такой з’яўляецца афіцыйная руская версія пра "Чорных Клабукаў", нібыта з'явіўшыхся з усходу ў прыдняпроўскі край за некалькі дзясяткаў гадоў да заснавання крыжакамі ў 1204 годзе Лацінскай імперыі і зьнікшых у момант яе заснавання ў 1204 годзе.

Але вось і заходніцкая версія, якую, на жаль, ніхто яшчэ не параўноўваў з нашай усходняй. Як раз у той самы час, у XI стагоддзі, калі толькі што апісаныя "Чорныя Клабукі" змагаліся пры дапамозе рускіх праваслаўных князёў з полаўцамі, у Візантыі адбываўся такі ж чорна-клабуцкі рух, але толькі не з усходу, а із сярэдзіны. Вось як характарызуюць яго Лавіс і Рамбо ў сваёй кнізе "Эпоха крыжовых паходаў"[184].

"Манахі (у Візантыі, у XII стагоддзі) збіраліся ўзброенымі шайкамі і блукалі па Македоніі, Пелапанесу і выспам Іанічнага мора. Яны вялі рэлігійную прапаганду на свой лад, падтрымлівалі "святую вайну" супраць тубыльцаў, язычнікаў або маніхееў і прапаведвалі святую вайну супраць лацінян. Дарэмна манах Хрыстадул пісаў ад імя папы (1100-1188 годзе), дарэмна ў апошняй сваёй навэле пра царкоўнае выбранне нагадвалі ім каноны, якія маюць дачыненне да

[184] Лавіс Э., Рамбо. Эпоха Крыжовых паходаў / Пераклад Гершензона. 1904 Частка другая. с. 506.

манахаў, блукаючых па вёсках і гарадах. Дарэмна Яўстафій Фесалонікскі пад час царавання Аляксея II загадваў ім вярнуцца ў свае келлі і прыводзіў ім у прыклад святых манахаў Візантыі і выспаў Прапанціды. Еўстафій сведчыць, што гэтыя вандруючыя шайкі зрабіліся для абласьцей сапраўднай "ягіпецкай карай". Гэтыя людзі ў чорнай вопратцы (меланхлены), узброеныя лукамі і жалезнымі паліцамі, седзячы на арабскіх скакунах, з сокаламі у руцэ і лютымі сабакамі наперадзе, палявалі на людзей і несьліся па краіне як "сапраўдныя дэманы". Яны забівалі кожнага, каго падазравалі ў схільнасьці да паганства або (каталіцкай) ерасі, асабліва ж тых, чые землі межавалі з іхнымі ўладаннямі. Яны рабавалі і запрыгоньвалі сялян. Яны выстаўлялі напаказ сваю пагарду да (каталіцкіх) святароў і асабліва біскупаў, называючы апошніх "папцамі", ганілі іх у вачах народа як не маючых карысьці, рабавалі або забіралі сабе іхныя маёнткі. Яны падманвалі прастакоў, завабліваючы іх ілжывымі цудамі і прывідамі. Хутка яны пачалі набіраць у свае шайкі валацуг, ткачоў, матросаў, краўцоў, меднікаў, жабракоў, злодзеяў, нават святататцаў і адлучаных, і распаўсюджваліся па абласьцях, як "чорныя хмары". Мы не ведаем, калі спыніліся рабаванні гэтых шаек, кіруемых абатамі. Такім чынам ў царкве, як і ў імперыі, поруч з крайняй вытанчанасьцю пануе крайняе варварства".

Так пішуць Лавіс і Рамбо.

Але ці не з'яўляюцца гэтыя візантыйскія манахі, якія носяць на сваіх галовах і да гэтага часу "чорныя клабукі", адлюстраваннем нашых летапісных чорных клабукаў і ці трэба нам ісьці да Каспійскага мора, каб запрасіць іх у Кіеўскую Русь XII стагоддзя із Азіі, каб затым выправіць іх у тартарары пры заснаванні Лацінскай імперыі, калі і рускія князі, відавочна, перайшлі да каталіцызму і ездзілі ў "Татры" для зацвярджэння ў сваіх правах на княжанне?

Чытач бачыць сам, як важна параўноўваць сведчанні рускіх летапісаў з гісторыяй Крыжовых паходаў!

# Глава V.

Уніяцкія стасункі ўкраінскіх і рускіх князёў да дынастыі Раманавых. Іхнія ўніяцкія імёны да падзення Лацінскай імперыі на грэцка-славянскім усходзе. Рэзкі пераход да грэцкіх імёнаў пасьля гэтай падзеі. Паганскія мянушкі простага люду.

Вось перада мной кніжка М. Галавіна "Радаводны роспіс нашчадкаў вялікага князя Рурыка". Выдадзена яна ў Маскве ў 1851 годзе, а складзена на падставе розным генеалагічных запісаў рускай знаці і старадаўніх летапісаў. У ёй налічваецца 22 пакаленні ад Рурыка (862-879 г.) да "князя-кесаря" Хведара Рыгоравіча Рамаданаўскага, памёршага ў 1717 годзе.

Падзяліўшы прамежак (855 гадоў) на гэтыя 22 пакаленні, мы атрымліваем для каждого з іх, у сярэднім, 39 гадоў, што хаця і шмат, але не ўяўляецца асабліва неверагодным, так як тут пазначаны не адны толькі першынцы, а сумесь ўсіх дзяцей, народжаных ў сям'і. Пераемства першанароджаных атрымаецца толькі ў тым выпадку, калі пачаўшы з Рурыка, мы возьмем у дваццаць другім пакаленні

самага ранняга прадстаўніка, якім ў дадзеным "роспісе" з'яўляецца Ян Янавіч Разанскі[185], пазначаны 1521 годам.

Аднак, падзяліўшы прайшоўшыя за гэты час 659 гадоў на 22 пакаленні, мы ўсё ж атрымліваем на кожную змену першынцаў цэлых 30 гадоў, што дае дасягненне імі дарослацьці не раней як у 25 гадоў, што занадта позна.

Із гэтага відавочна, што радаводы рускай знаці (грунтуючыся на якіх Галавін складаў сваю кнігу) – фантастычныя, калі лічыць паходжанне яго князёў сапраўды "ад Рурыка-Нармана".

Амаль тое ж вынікае, калі мы паспрабуем лічыць іх і ад сучасніка чацьвёртага крыжовага паходу Рурыка Расьціславіча[186], які завалодаў Кіевам у 1205 годзе, праз год пасьля захопу Цар-Горада крыжакамі. Лічачы яго, як робіць Галіцын (і яго першакрыніцы), 10-м пакаленнем ад "Рурыка-Нармана" і падзяліўшы 316 гадоў, якія мінулі ад яго да таго ж князя Яна Янавіча Разанскага, мы атрымаем для застаючыхся 12 першанароджаных пакаленняў сярэднюю працягласць 26 гадоў, што дае для дасягнення стацевай сталасьці таксама занадта позні ўзрост (пасьля 20 гадоў). Фантастычнасць радаводу рускіх князёў у гэтых межах падцвярджаецца і асобнымі "радаводамі". Так, ад Андрэя Хведаравіча Старадубскага (№ 403), пазначанага 1380 годам, да яго прамога нашчадка Хведара Рыгоравіча Рамаданаўскага, "князя-кесаря", які памёр у 1717, прайшло 387 гадоў і дзесяць пакаленняў, на кожнае амаль 39 гадоў, што дае стацевую сталасць 30 гадоў ад нараджэння.

Аднак, нягледзячы на гэтую фантастычнасць рускіх арыстакратычных радаводаў, найбольш вядомыя "продкі" якіх выхаплены ці із летапісаў, ці із асобных гістарычных паданняў і таму даюць нам сапраўдныя запісы старажытных гісторыкаў і летапісцаў. З такога боку гледжання яны цікавыя і для нас пры адказе на пытанне: якімі былі (ці лічыліся) пад час летапіснага перыяду рускай гісторыі сямейныя сувязі рускіх князёў? Бо калі б гэтыя князі былі хрысьціянамі візантыйскай царквы, якая канчаткова адлучылася ад рымскай яшчэ ў 1054 годзе (пасьля чаго ў 1095 на Півчанскім і Клермонскім саборах папісты ўжо прапаведвалі крыжовы паход на ўсход супраць няверных, да якіх, як паказала сама гісторыя, далучаліся і ўсе візантысты), то адружальныя сувязі рускіх князёў былі б частымі з аднавернымі грачанкамі, а не з еретычкамі-каталічкамі. Бо не адружваліся ж з палячкамі, шведкамі, француженкамі, англічанкамі і немкамі маскоўскія цары да Пятра I, які за шанаванне ўсяго іншаземнага і быў абвешчаны ледзь ці не антыхрыстам.

А што ж мы бачым у рэчаіснасьці? У радаводах Галавіна, наогул не паказваючых князевы жонак і дачак, а із паказаных вельмі значная частка жонак выяўляюцца каталічкамі, а дачак – адружаых з каталікамі.

Вось некаторыя із яго паведамленняў, выпісываю іх згодна з нумарацыяй кнігі Галавіна:

### XI стагоддзе.

№ 6. – Ва Ўладзіміра Сьвятога (977-1015) былі тры жонкі іншаземкі: 1) Рагнеда (Гарыслава) дачка палавецкага князя Рогвальда (пам. у 1000 годзе), 2) Мальфрыда, родам із Багеміі, пам. у 1000 годзе і 3) Ганна, унучка візантыйскага імператара Кастуся Парфірароднага (пам. у 1011 годзе). А яго дачка Добрагнева (Марыя) Ўладзіміраўна адружылася ў 1043 годзе з польскага каралём Казімірам I.

[185] № 1061 Галавінскага спісу.
[186] № 179 Галавінскага спісу.

№ 28. – а) Кіеўскі вялікі князь Яраслаў Уладзіміравіч (1054) быў адружаны з Індыгердай, дачкой шведзкага караля, б) яго сын Ігар Яраславіч быў адружаны з графіняй арланідзкай Кунігундай, в) яго дачка Лісавета Яраслаўна была адружана у 1045 годзе з Гаральдам, каралём нарвежскім, г) другая яго дачка Ганна (Агнэса) Яраслаўна адружылася ў 1048 годзе з французкім Каралём Генрыхам I, в) трэцяя яго дачка Агмунда (Настасся) адружылася (быццам бы!) з вугорскім каралём Андрэем I.

№ 27. – (Далей працягваецца для кароткасьці без "быццам бы"). Яго сын, смаленскі князь Вячаслаў Яраславіч (1038-1057) быў адружаны з Одай – дачкой Леапольда, графа штадзенскага.

№ 41. – Еўпраксія Ўсеваладаўна, дачка кіеўскага вялікага князя Ўсевалада Яраславіча (1030-1093 гг.), адружылася спачатку з марк-графам штадзенскім, а потым у 1069 г. з германскім імператарам Генрыхам IV (1056-1106), з якім у 1095 годзе развялася, б) а сам Усевалад Яраславіч (пам. у 1112 г.) быў спачатку адружаны з грэцкай царэўнай, імя якой невядома, а потым з нейкай "Ганнай", якая памёрла ў 1111 г.

№ 34. а) Еўпраксія Ізяславаўна, дачка Кіеўскага вялікага князя Ізяслава Яраславіча (1024-1078) адружылася з польскага каралём Балеславам, б) а сам Ізяслаў Яраславіч быў адружаны з сястрой Казіміра, караля польскага (імя яе невядома).

Мы бачым, што сваяцтва рускіх валадароў XI стагоддзя было не менш міжнародным, чым у нашчадкаў Кацярыны II, і амаль усе іншаземныя адружанні былі з каталічкамі або каталікамі. Але пры тагачасных сродках стасункаў гэта уяўляецца неймаверным, а таму і падобныя адружанні маглі адбывацца толькі пазней падчас крыжовых паходаў і пры ўмове, што прыйшоўшыя із розных краін рыцары лічыліся заснавальнікамі рускіх княстваў ці адзінаверцамі ўжо існаваўшых рускіх князёў.

XII стагоддзе.

№ 173. – Верхуслава Ўсеваладаўна, дачка наўгародзкага князя Ўсевалада (Гаўрылы) Мсціславіча (пам. у 1138 годзе), адружылася з польскім князем (імя невядома).

№ 326. – Настасся Ўсеваладаўна, праўнучка кіеўскага вялікага князя Мсціслава Ізяславіча (пам. 1170 у годзе), адружылася з мазавецкім князем Балеславам Конрадавічам.

№ 153. – Марыя Казіміраўна, дачка польскага караля Казіміра (пам. у 1179 годзе), адружылася з кіеўскім князем Усеваладам Святаславічам Чорным (пам. 1215 годзе).

№ 148. – Мальфрыда Рыгораўна, дачка тураўскага князя Рыгора Яраславіча, адружылася ў 1165 годзе з сынам луцкага князя Ўсевалада Яраславіча.

№141. – Улена Расьціславаўна, дачка пярэмышльскага князя Расьціслава Уладзіміравіча (пам. у 1126 годзе) адружылася ў 1160 годзе з польскім герцагам Балеславам IV Кучаравым.

№ 128. – дачка Шворка, чэшскага князя (пам. у 1206 годзе), Марыя адружылася з уладзімірскім вялікі князем Усеваладам, Вялікае гняздо.

№ 77 і 117. Мсціслаў Уладзіміравіч (1076-1132), сын Уладзіміра Манамаха, быў адружаны з Хрысьцінай, дачкой шведзкага караля Інга Стэнкільсона (пам. 1122 годзе). Першая яго дачка Мальфрыда Мсціславаўна спачатку адружылася з нарвежскім каралём Сігурдам, потым з дацкім каралём Эрыкам Эдмундам. Другая

– з вугорскім каралём Гезу, і яшчэ дзве яго дачкі, невядомыя па іменах, адружыліся: адна з дацкім (абатрыцкім) каралём Канутам Сьвятым (пам. 1086 годзе), другая з Аляксеем, сынам візантыйскага імператара Яна.

Такое align="ounted"розна баковае іншаземнае сваяцтва было б немагчымым, калі б мы не бралі да ўвагі, што яно мела месца як раз падчас першага крыжовага паходу. Але ў такім разе даводзіцца дапусьціць, што гэты паход захопліваў і Кіеўскае княства, і што ў Кіеве тады не прызнавалі аддзяленне ўсходняй царквы ад рымскай, хаця грэкі і праклялі яе яшчэ за трыццаць ці сорак гадоў да таго часу, у 1054 годзе.

Але пойдзем далей:

№ 102. – Дачка кіеўскага вялікага князя Ўсевалада Алегавіча – Звяніслава Усеваладаўна адружылася ў 1148 годзе з польскім герцагам Балеславам IV.

№ 81. – Першая дачка Ўладзіміра Манамаха – Яўхімія адружылася ў 1112 з вугорскім каралём Каламанам. б) Другая дачка – Марыя адружылася з царэвічам Леонам, сынам візантыйскага імператора Дыягена (пам. у 1146 годзе), в) а сам Уладзімір Манамах быў адружаны (1058-1125) з Гідай – дачкой ангельскага караля Гаральда.

Зноў жа такое шырокае сваяцтва было магчыма толькі падчас крыжовых паходаў пры ўмове, што рускія князі не прызнавалі падзелу цэркваў, агалошанага яшчэ ў 1054 годзе, і былі ў уніі з рымскай царквой.

№ 78. – Невядомая на імя дачка палавецкага князя Аэны адружылася з сынам Уладзіміра Манамаха, суздальскага вялікага князя Рыгора Ўладзіміравіча Даўгарукага (пам. 1157).

№ 77. – Хрысьціна Інгаўна, дачка шведзкага караля Інга Стэнкільскага, адружылася з сынам Уладзіміра Манамаха, кіеўскім вялікім князем Мсціславам Уладзіміравічам (1076-1132).

№ 59. – а) Сбыслава Святаполкаўна, першая дачка кіеўскага вялікага князя Святаполка Ізяславіча (пам. 1112), адружылася ў 1102 годзе з польскім каралём Балеславам Крывавусным. б) Прэдслава Святаполкаўна, другая яго дачка, адружылася ў 1104 годзе з вугорскім каралевічам Ладзіславам, сынам Каламана. в) А сам кіеўскі князь Святаполк Ізяслававіч быў адружаны з невядомай на імя дачкой палавецкага князя Тутара.

XIII стагоддзе.

№ 448. – Ганна, дачка кіпчацкага хана Нагая, адружылася са смаленскім (потым яраслаўскім) князем Хведарам Расьціславічам Чорным (пам. у 1299 годзе).

№ 324. – Канстанцыя, дачка караля вугорскага Сэлы, адружылася з галіцкім князем Ільвом Данілавічам (пам. у 1301).

№ 323. – Гертруда, дачка аўстрыйскага прынца Фрыдрыха, адружылася з галіцкім каралём Раманам Данілавічам (пам. у 1260 годзе).

№ 310, 265, 209. – Агрыпіна Расьціславаўна, унучка чарнігаўскага князя Міхала Ўсеваладавіча (пам. у 1246 годзе), адружылася з польскім герцагам Лешкам Чорным.

№ 291. – Алена Мсціславаўна, дачка наўгародзкага князя Мсціслава Храбрага (пам. у 1228 годзе), адружылася ў 1226 годзе з вугорскім каралевічам Андрэем.

№ 265. – Ганна, дачка вугорскага караля Бэлы IV, адружылася з чарнігаўскім князем Расьціславам Міхайлавічам (1249 год).

№ 266. – Аляксандра, дачка полацкага князя Брачыслава, адружылася ў 1239 годзе з Аляксандрам Неўскім.

№ 207. – Яфімія Глебаўна, дачка тураўскага (менскага) князя Мсціслава Глебавіча (пам. у 1239 годзе). Адружылася з грэцкім царэвічам (імя яго невядома).

XIV стагоддзе.

№ 58 (3) 6. – Ганна Святаславаўна, дачка Святаслава Янавіча смаленскага (пам. 1386 г)., адружылася з літоўскім вялікім князем Вітаўтам Кейстутавічам.

№ 517. – Марыя Зьмітраўна, дачка Зьміцера Данскога Янавіча (пам. 1389 годзе), адружылася ў 1394 годзе з літоўскім князем Лугвініем Альгердавічам.

№ 510. – Сафія Вітаўтаўна, дачка вялікага князя літоўскага Вітаўта Кейстутавіча, адружылася ў 1391 з маскоўскім вялікім князем Васілём Зьмітравічам.

№ 485. – Ганна Андрэеўна, дачка галіцка-валынскага князя Андрэя Рыгоравіча (пам. у 1334 годзе), адружылася з літоўскім князем Любартам Гедымінавічам. Другая яго дачка адружылася з Тройдзенам, мазавецкім князем.

№ 452. – Кестуцыя Гедымінаўна, дачка вялікага князя літоўскага, адружылася ў 1375 годзе з цвярскім князем Янам Міхайлавічам (пам. у 1426 годзе).

№ 449. – Алена Альгердаўна, дачка вялікага князя Альгерда Гедымінавіча, адружылася з Уладзімірам Андрэевічам Храбрым (пам. ў 1410 годзе), унучка маскоўскага князя Яна Каліты.

№ 396. – Юльяна Аляксандраўна, дачка цвярскога князя Аляксандра Міхайлавіча (пам. у 1389 годзе), адружылася у 1349 годзе з літоўскім князем Альгердам Гедымінавічам (пам. у 1392 годзе).

№ 387. – Аўгуста Гедымінаўна, дачка літоўскага вялікага князя Гедыміна, адружылася з маскоўскім вялікім князем Сымонам Ганарлівым (пам. у 1358 годзе).

№ 384. – Марыя Альгердаўна, дачка літоўскага вялікага князя Альгерда, адружылася з суздальскім князем Барысам Кастусёвічам (пам. у 1394).

№ 357. – Другая дачка літоўскага вялікага князя Альгердаўна, Тэадора, адружылася з карачаўскім князем Святаславам Цітавічам (каля 1370 года).

№ 348. – Марыя Гедымінаўна, дачка літоўскага вялікага князя Гедыміна (пам. у 1349 годзе), адружылася з цвярскім князем Зьміцерам Грозныя Вочы (пам. у 1326 годзе).

№ 342. – Агаф’я (Канчакаўна) – сястра хана Уз-бека (пам. у 1318 г.), адружылася з унукам Аляксандра Неўскага – Рыгорам Данілавічам (пам. у 1325 годзе).

XV стагоддзе.

№ 853. – Алена Янаўна, малодшая дачка маскоўскага вялікага князя Яна III, адружылася ў 1494 годзе з польскім каралём Аляксандрам Казіміравічам.

№ 848. – Клена Сцяпанаўна, дачка малдаўскага гасудара Стэфана IV адружылася ў 1488 годзе з Янам Янавічам Цвярскім.

№ 613. – а) Ганна Васільеўна, дачка Сымона Васільевіча, сына маскоўскага вялікага князя Васіля Зьміцеравіча (пам. у 1485 годзе), адружылася з грэцкім імператарам Янам Палеолагам (пам. у 1417 годзе), б) другая яго дачка, Марыя Васільеўна, адружылася з літоўскім князем.

№ 723. – Сафія Палеолаг, дачка деспата Маройскага, пляменіца Кастуся Палеолага, апошняга візантыйскага імператора, у 1473 адружылася з вялікім князем Янам III.

Гэта было першае адружанне рускіх на прынцэсе грачанцы, пасьля падзелу цэркваў у 1054 годзе, разам з адмаўленнем Яна III ад уніі з папай (ў 1453 годзе Цар-

Горад быў узяты туркамі). А ўслед за тым мела месца і другое адружанне з грачанкай:

№ 732. – Марыя, дачка грэцкага царэвіча Андрэя і племеніца грэцкага імператара Кастуся Палеолога, адружылася у 1483 годзе з вярэйскім князем Васілём Міхайлавічам Удалым.

XVI стагоддзе.

Я тут не пералічваю пазнейшых адружванняў рускіх князёў з іншаземкамі (прычым іх пачалі спачатку перакрышчваць у праваслаўную веру), а прывяду толькі адзін выпадак, цікавы з нашага боку гледжання:

№ 853. – Еўдакія Янаўна, дачка маскоўскага вялікага князя Яна III, адружылася ў 1506 годзе з казанскім царэвічам – татарынам Пятром Кайдакула, які быў хрысьціянінам.

№ 718. – І яшчэ раней таго Настасся Пятроўна, дачка казанскага цара Пятра (татарына-хрысьціяніна), унучка Яна VI, адружылася з Васілём Васільевічам Шуйскім (каля 1450 года.), сынам суздальскага князя Васіля Рыгоравіча (1446 г.).

Але ж із гэтага вынікае, што казанскія татары ў XV стагоддзі, і нават на пачатку XVI стагоддзя, былі яшчэ адзінавернымі з рускімі князямі і толькі пазней прынялі магаметанства пад уплывам наступаўшых турак. Згадаем, што туркі ўзялі Цар-Горад у 1453 годзе, адкрыўшы гэтым сабе шлях на генуэзскія калоніі Паўночнага ўзбярэжжа Чорнага мора аж да Волгі і па ёй ад Астрахані да Казані, распаўсюджваючы паўсюль магаметанства.

А пра ранейшае ўніяцтва рускіх князёў кажуць нам, акрамя ўсяго іншага, іх уласныя імёны, цалкам адсутнічаючыя ў грэчаскіх святцах і прызнаваемыя лацінскай царквой толькі для славян. Вось, напрыклад, кіеўскія князі ў храналагічным парадку:

Ізяслав Яраславіч 1054-1078 (19 гадоў)
Святаслаў Яраславіч 1073-1076 (3 гады)
Ізяслаў Яраславіч (другі раз) 1076-1078 (2 гады)
Усевалад Яраславіч 1078-1093 (15 гадоў)
Святаполк Ізяславіч 1093-1113 (20 гадоў)
(Першы крыжовы паход германцаў і латарынгцаў 1096-1100)
Уладзімір Усеваладавіч (Манамах) 1113-1125 (12 гадоў)
Мсціслаў Уладзіміравіч 1125-1132 (7 гадоў)
Яраслаў Уладзіміравіч 1132-1139 (7 гадоў)
Усевалад Алегавіч 1139-1146 (7 гадоў)

(Другі крыжовы паход (1144-1147) праз Вугоршчыну і Цар-Горад (германцы і французы). Утварэнне на Русі некалькіх феадальных княстваў. Заснаванне Маскоўскага княства ў 1147 годзе).

Ігар Алегавіч (другі) 1146 (менш года)
Ізяслаў Мсціславіч 1146-1154 (8 гадоў)
Юры Ўладзіміравіч (ад лацінскага слова jus, juris) 1153-1157 (4 гады)
(Заснаванне Ўладзімірскага Вялікага княства).
Ізяслаў Давыдавіч 1157-1159 (2 гады)
(Заснаванне Кіева-Пячэрскай Лаўры 1159 год)
Расьціслаў Мсціславіч 1159-1167 (8 гадоў)
Удзельнае княства Кіеўскае:

У 1169 годзе Андрэй Багалюбскі (1110-1174), сын князя Юр’я суздальскага Даўгарукага і палавецкай князёўны, разам з адзінаццаццю князямі узяў прыступам

Кіеў, разрабаваў яго і перанёс вялікакняскі пасад у Суздаль, а Кіеўскае княства ператварыў ва ўдзельнае, і ў ім княжылі:

Уладзімір Мсціславіч 1169-1172 (3 гады).

Раман Мсціславіч 1169-1172 (3 гады).

Раман Расьціславіч 1173-1177 (4 гады).

Толькі ў гэты час і адбылося адлучэнне ад магаметан Візантыйскай царквы (у 1180) і, як адказ, заняцце магаметанамі Ерусаліма ў 1187 годзе.

Святаслаў Усеваладавіч 1177-1195 (18 гадоў).

Наступае трэцці крыжовы паход (1189-1193). Ангельцы, французы і германцы дайшлі пры ім да Акры. Наступае чацьвёрты крыжовы паход (1202-1204), накіраваны на грэцкую царкву. Узяцце крыжакамі Канстантынопаля ў 1202 годзе і разбаванне імі ў ім праваслаўных храмаў. Узяцце Рурыкам Расьціславічам (несумненна крыжакамі) Кіева ў 1203 г. і такое ж разрабаванне праваслаўных храмаў праз год пасьля ўзяцця крыжакамі Канстантынопаля. Узнікненне Лацінскай імперыі на Балканскай паўвыспе і на грэцкім Архіпелагу ад 1204 г. да 1261 года. За гэты час у Кіяві княжылі:

Рурык Расьціславіч 1194-1212 (18 гадоў).

Усевалад Святаславіч-Кіеўскі 1212-1214 (2 гады).

Мсціслаў Рурыкавіч 214-1224 (10 гадоў).

Уладзімір Рурыкавіч 1224-1240 (16 гадоў).

У вугорскіх Татрах у 1238 годзе засноўваецца для прапаганды каталіцызма сярод славян "Ордэн Залатога Крыжа". У 1239 годзе Батый (г. азн. па-руску Вацій, папіст) бярэ Галіч, Уладзімір-Валынскі, Кіеў, Пераяслаўль, пры дапамозе татрскага (Тэўтонскага) ордэна татрскай арды. Кіеўскія князі знікаюць са старонак гісторыі. З 1320 года Кіеў належыць Літве; з 1569 года -Польшчы; з 1685 года – Расіі.

Разгледзім анаматыку гэтых князёў. Тут 3 Святаполкі, 1 Яраслаў, 5 Мсціславаў, 1 Расьціслаў, 4 Ізяславы, 2 Святаполкі, 3 Яраполкі, 4 Уладзіміры, 3 Усевалады: 26 славянскіх імёнаў, тыя ж самыя, якія зараз пашыраны сярод славянскіх уніятаў. А із астатніх 2 Рурыкі (Родзерыкі?), 2 Ігары (Jager – паляўнічы), 1 Раман (Рымлянін), 1 Юры (ад Jus, juris – Эрык), 1 Аскольд (Скальд), 1 Алег і адна Вольга. Тут няма ніводнага грэцкага імя, у той час як у Візантыі ў гэты самы час царавалі дзве дынастыі: Македонская і Камненаў, і ў іх былі 6 Аляксееў, 4 Міхалы, 4 Кастусі, 4 Яны і г. д., найменні якіх непазбежна перанімалі б і кіеўскія князі, калі б у той час на Русі было панаванне грэцкай, а не рымскай Царквы і культуры.

Праўда, што храналогія тут сумнеўная. На прамежак ад 913 па 1240 год тут прыходзіцца 29 патрыярхальных цараванняў, на кожнае 11-12 гадоў. Выбраўшы сярод іх зразумелую радавую сувязь ад сына да бацькі, маем: Уладзімір Рурыкавіч, Рурык Расьціславіч, Расьціслаў Мсціславіч, Мсціслаў Уладзіміравіч, Уладзімір Усеваладавіч, Усевалад Яраславіч, Яраслаў Уладзіміравіч, Уладзімір Святаславіч, Святаслаў Ігаравіч і Ігар Рурыкавіч. На прамежку ад 913 па 1240 мы тут знаходзіўся 10 пакаленняў, на кожнае па 33 гады. Але нават лічачы, што пры гэтым (Рурык Расьціславіч, Яраслаў Уладзіміравіч і Уладзімір Святаславіч) былі не першынцамі, а другімі сынамі, і, адняўшы ад сумы на кожнага з іх з гэтай нагоды па цэлых 10 гадоў, мы атрымліваем каля 30 гадоў, што дае занадта пазняе дасягненне стацевай сталасьці, не менш за 25 гадоў ад нараджэння.

Але нават калі гэты пасьлядоўны спіс кіеўскіх вялікіх князёў і расьцягнуты ў часе (або нават цалкам дыстэмпараваны), ён усё ж малюе нам уяўленні нашых

першакрыніц пра Кіеўскае княства, як ўзнікшае першапачаткова пад уплывам генуэзскай і венецыянскай каланізацыі паўночнага ўзбярэжа Чорнага мора, з рачнымі шляхамі адтуль уверх па Дняпру і Дону. А канчаткова яно аформілася ў "Вялікае Кіеўскае княства" толькі падчас чацьвёртага крыжовага паходу пры Рурыку – не першым міфічным, а пры другім (1195-1211 год), відаць рэальным, і, мяркуючы па яго найменню, часу і справах уніятам-крыжаком, выгнаўшым із Кіева грэцкую партыю святарства. Але яго княства існавала нядоўга, і суверэнітэт перайшоў на поўнач дзякуючы таму, што адначасова з крыжовымі паходамі із Татраў адбываліся такія ж паходы із Прыбалтыкі. Яны далі, перш за ўсё, пачатак Наўгародзкай рэспублiцы (наладжанай па аналогіі з ужо існаваўшымі Венецыянскай, Генуэзскай і іншымі рэспублікамі таго часу), каталіцкі характар якой лёгка вызначаецца не толькі яе прыналежнасьцю ў XII стагоддзі да Ганзейскага хаўрусу прыбалтыйскіх гарадоў на чале з Любекам, але і тым, што нават на прыканцы XV стагоддзя Ян III, скасаваўшы ў Маскве татрскае ярмо, пріпісваў сваім паходам на Ноўгарад характар барацьбы за праваслаўе.

Крыжовыя паходы XIII стагоддзя Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў з паўночнага-захаду прывялі да ўзнікнення і саміх Маскоўскага, Цвярскога, Яраслаўскага, Уладзімірскага і іншых паўночных княстваў, канцэнтраваўшыхся каля ўзводзімых крыжакамі ўмацаванняў. Вялікі (г. азн. галоўны) князь прызначаўся ханам (г. азн. Царом-святаром, інакш папай) ужо не ў Кіеў, а ў розныя паўночныя гарады для таго, каб ні адно ўдзельнае (г. азн. феадальнае) княства не магло ператварыцца ў палітычны цэнтр для ўсіх астатніх. Але з падзеннем Лацінскай імперыі суверэнітэт пераходзіць да Маскоўскіх вялікіх князёў. Вось іх пасьлядоўны спіс:

## Табліца XII.

*Перамена рускай вялікакняскай сталіцы падчас "татрскага іга" і замацаванне яе ў Маскве.*

| імя вялікага князя | месцазнаходжанне | час | працягласць |
|---|---|---|---|
| Яраслаў II Усеваладавіч | Горад Уладзімір | 1238-1246 | 8 гадоў |
| Святаслаў III Усеваладавіч | Горад Уладзімір | 1246-1248 | 2 гады |
| Міхал II Яраславіч | Горад Уладзімір | 1248 | ½ года |
| Андрэй II Яраславіч | Гарады Уладзімр і Суздаль | 1249-1252 | 3 гады |
| Аляксандр Яраславіч Неўскі | Із Ноўгарада ва Ўладзімір | 1252-1263 | 11 гадоў |
| 1261 – грэкі забралі Цар-Горад у крыжакоў | | | |
| Яраслаў III Яраславіч | Горад Уладзімір | 1263-1272 | 9 гадоў |
| Перамена анаматыкі рускіх князёў са славянскай на грэцкую | | | |
| Васіль I Яраславіч | Кастрама | 1272-1276 | 4 гады |
| Зьміцер I Яраславіч | Пераяслаў-Залескі | 1276-1294 | 18 гадоў |
| Андрэй III Аляксандрвіч | Гарадзец на Волзе (Ніжагародзкі) | 1294-1303 | 9 гадоў |
| Міхал III Яраславіч | Цвер | 1305-1318 | 13 гадоў |
| Юры. Ён жа Рыгор III Данілавіч | Масква | 1319-1322 | 4 гады |
| Зьміцер II Міхайлавіч | Цвер | 1322-1226 | 4 гады |
| Аляксандр II Міхайлавіч | Цвер | 1326-1328 | 2 гады |
| Ян Данілавіч Каліта | Масква | 1328-1340 | 12 гадоў |
| Сымон Янавіч (Горды) | Масква | 1340-1353 | 13 гадоў |
| Ян II Янавіч | Масква | 1353-1359 | 6 гадоў |
| Зьміцер III Кастусёвіч | Суздаль | 1359-1363 | 3 гады |
| Зьміцер IV Янавіч Данскі | Масква | 1363-1389 | 26 гадоў |
| Выхаваны ў Ордэне (Ардзе) Зьміцер Данскі ў 1371 годзе атрымаў ад цара-святара (хана) | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| ярлык (jarlich) на вялікае княжанне і пабудаваў каменныя крамлёўскія сьцены, але пад уплывам заснавальніка Троіца-Сергіевай лаўры (недалёка ад Масквы) манаха візантыіста Сяргея Раданежскага, прадказаўшага яму хуткае падзенне лацінскага "іга" і ўрачыстасць грэцкага "праваславія", ён адлучыўся ад Ордэна і 8 верасня 1380 г. разам з далучыўшыміся да яго Растоўскім, Яраслаўскім і Белаазёрскім князямі перамог войска ордэна Мамая (ад слова мама, як Бацяй-Батый – ад слова Баця) на Доне, на Куліковым полі, чым моцна падарваў прэстыж каталікоў. | | | |
| Васіль II Зьмітравіч | Масква | 1389-1425 | 36 гадоў |
| Васіль III Васільевіч Цёмны | Масква | 1425-1462 | 37 гадоў |
| У 1453 годзе туркі бяруць Цар-Горад. Грэцкая знаць і частка сятарства бягуць у Маскву. | | | |
| Ян III Васільевіч | Масква | 1462-1505 | 43 гады |
| У 1470 годзе ён забірае ў палякаў і літоўцаў Ноўгарад. У 1472 годзе адружвацца са збегшай грэцкай царэўнай Сафіяй Палеолаг і падпадае пад грэцкіўплыў. У 1480 годзе адмўляецца плаціць даніну Ордэну. У 1505 перамагае Петленбурга – магістра Лівонскага ордэна пад Псковым. Заканчэнне "іга". | | | |
| Васіль IV Янавіч | Масква | 1505-1533 | 28 гадоў |
| Ян IV Васільевіч (Жахлівы) | Масква | 1533-1584 | 51 год |
| Барыс Фёдаравіч Гадуноў | Масква | 159-1605 | 7 гадоў |
| Зьміцер V Янавіч, малодшы сын Яна Жахлівга | Масква | 1605-1606 | 1 год |
| За спробу аднавіць унію Зьміцер V быў абвешчаны самазванцам – Грышкам Атрэп’евым – і забіты. Пад уплывам апавяданняў пра тое, што "самазванец сядзеў на рускім пасадзе" з'яўляецца шэраг сапраўдных самазванцаў, жадаўшых паўтарыць яго карьеру, аж да Пугачова. | | | |
| Васіль Янавіч Шуйскі | Масква | 1606-1610 | 4 гады |
| Міжцараванне | | 1610-1613 | 3 гады |
| Міхал Хведаравіч Раманаў | Масква | 1613-1645 | 32 гады |
| Аляксей Міхайлавіч | Масква | 1645-1676 | 31 год |
| Хведар Аляксеевіч II | Масква | 1676-1682 | 6 гадоў |
| Двухцараванне Яна і Пятра Аляксеевічаў | Масква | 1682-1689 | 7 гадоў |
| Пятро I адзін | Масква | 1689-1721 | 32 гады |
| Пятро I пераносіць сталіцу ў 1721 годзе ў Пецярбург, дзе і памірае ў 1725 годзе | | | |
| Канец Маскоўскага царства. Пачатак рускай імперыі. | | | |

Бянтэжыць незвычайна вялікая працягласць царованняў чарадуючыхся ў Маскве Васілёў і Янаў. Сапраўды, Васіль II пачынае цараваць у 1389 годзе, а Ян IV заканчвае сваё цараанне ў 1584 годзе. Прайшло 195 гадоў і ўсяго толькі пяць пакаленняў, на кожнае па 39 гадоў, што дае дасягненне стацевай сталасьці толькі ва ўзросьце не менш за 30 гадоў... Але як жа гэта магло быць? Таму што пры наяўнасьці пяці першапакаленняў (дзякуючы таму, што недахопы працягласьці царавання продкаў абавязкова кампенсуюцца лішкам працягласьці нашчадкаў і наадварот) адружальны ўзрост выяўляецца пры пяці пакаленнях дастаткова дакладна.

Вось хаця б аналагічнае чарадаванне чатырох апошніх Мікалаеў і Аляксандраў дынастыі Раманавых. Ад 1825 года, калі на пасад узыйшоў Мікалай I, і да 1919 года, калі пасьля Аляксандра I і Аляксандра II цараваў Мікалай II, прайшло 94 гады, падзяліўшы гэты перыяд на чатыры пакаленні, атрымліваем для кожнага з іх 23 гады, што дае нармальны адружальны ўзрост каля 20 гадоў і стацевую сталасць гадоў у 16.

А як жа ў чарадаванні пяці маскоўскіх Васілёў і Янаў мы атрымліваем дасягненне стацевай сталасьці толькі ва ўзросьце 30-ці гадоў? Тут нешта не тое або ў храналогіі, а бо ў радаводзе.

* * *

Паглядзім зараз яшчэ раз на анамастыку.

Апошні вялікі князь са славянскім імем – Яраслаў III Яраславіч (1263-1272) нарадзіўся яшчэ да вяртання Цар-Горада грэкамі назад ад крыжакоў у 1263 годзе. А з гэтага моманту славянскія імёны рускіх князёў знікаюць, што сведчыць пра змену рэлігіі або культурнага ўплыву з часу падзення Лацінскай феадальнай імперыі на грэка-славянскім усходзе. Наўзамен 3 кіеўскіх і ўладзімірскіх Святаславаў, 4 Ізяславаў, 3 Мсціславаў, 4 Уладзіміраў, 3 Усеваладаў і г. д., мы бачым з гэтага часу да перанясення сталіцы ў Пецярбург і да пачатку ў ім новай рускай культуры 5 Васілёў, 5 Янаў, 5 Зьміцераў, 2 Хведары, ды і астатнія адзіночкі выяўляюцца з грэцкімі імёнамі і прытым з імёнамі таго самага перыяду. Мы бачым, што Ян II у Маскве зацараваў праз 12 гадоў пасьля Яна VI у Цар-Горадзе і тры гады абодва царавалі адначасова (1353/1354 і 1355 гг.), Ян III зацараваў праз 14 гадоў пасьля сьмерці Яна VII у Цар-Горадзе, а нарадзіўся і атрымаў імя яшчэ пры яго жыцці, відавочна, у яго гонар.

Андрэй III Аляксандравіч зацараваў і памёр пры грэцкім Андроніку. Ян III Васільевіч ў Маскве нарадзіўся пры грэцкім Яне Палеолагу і таксама, верагодна, атрымаў імя ў яго гонар.

Параўнаўшы храналагічна найбольш ужываемае сярод еўрапейскіх кіраўнікоў імя Іаан (інакш Іван, Ваня, Ян, Jean, Hans, Johann-Хуан, адкуль і слова "хан", і кітайскае ван (граф) і найменне дынастыі Юаней).

Вымаўленне гэтага імя Johan дазваляе вывесьці яго і ад жыдоўскага Іо-хан, г. азн. божы святар, аналагічна такому ж вывядзенню шматлікіх жыдоўскіх імёнаў (Іо-рам, Іо-сіф, Іо-акім і г. д.). І мне зараз здаецца, што такое ўтварэнне найбольш праўдападобна.

Я тут не разглядаю час пачатку і распаўсюджвання сярод жыдоўскіх кіраўнікоў іншых хрысьціянскіх імёнаў, васілёў, міхалаў, аляксандраў і г. д., а пакажу толькі на тое, што і яны праўдзівыя толькі з часоў Крыжовых паходаў, і праз храналагічнае параўнанне паміж сабой могуць падцвердзіць або аспрэчыць склаўшыяся да нашаму часу ўяўленні пра шляхі распаўсюджвання культуры па старому свету.

Вельмі цікавыя выпіскі, зробленыя для мяне Н. Абрамавым із брашуры Чэчуліна ў 1936 годзе і дасланыя мне із Масквы. Гэта ўсё ўзята із разных архіўных запісаў. Із сучасных гістарычных імёнаў мы бачым тут толькі імя Яраслава (ды і то ўніяцкае, у 5-м выпісе), а із іншых гістарычных імёнаў толькі Мамая, ды Ермака (там жа). А астатнія стара-рускія імёны ўсе: ці назвы жывёл: кабыла, кошка, кот, лісіца, муха) або найменні рэк (Волга, Дунай, Пячора (выпіска 1), або нумарацыя нараджэння (Першы, Другі, Дзесяты, там жа). Із царкоўных жа толькі Дзяк, Крыжына і Папа. А із грэцкіх ніводнага імя!

Але як жа гэта магло быць у праваслаўнай Расіі? Зірніце толькі на "Дадатак" да гэтай главы!

Адказ на гэта адзін: згадаем царкоўнае выказванне: "аглашоныя ізыціце! Еліцы верныя пакі госпаду памолімся!" Гэта азначае, былі два згуртаванні хрысьціян: "аглашоныя", г. азн. яшчэ не пахрышчаныя, і ўжо пахрышчаныя з грэцкімі або лацінскімі імёнамі (ўніяты).

Згадаем, што амаль усе вясковыя цэрквы былі пабудаваны землеўладальнікамі пры іхных сядзібах рукамі іхных прыгонных сялян. Гэта азначае, што і хрысьціць народжаных да таго часу не было дзе і не было каму, яны і вырасталі і пaміралі з гэтымі чыста рускімі імёнамі.

Дадатак да главы V.

Выпіскі старарускіх архіўных імёнаў згодна з брашурай Чэчуліна.

1-ая выпіска.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Балахна | Безчасны | Касец | Багдана |
| Волга | Барзы | Крэсьцянін | Багданіца |
| Дунай | Бурка | Лопар | Галуба |
| Пячора | Бурэц | Любоўнік | Дасадка |
| Старадуб | Белай | Мама | Духаня |
| Таруса | Бяляй | Мамушка | Крыжына |
| Субота | Брэжнік | Мурза | Купава |
| Нядзеля | Владыка | Мурын | Някраса |
| Першы | Унук | Мешчанін | Смірэнка |
| Пярвушка | Воін | Нагой | Селінін |
| Адзінец | Валынец | Аўсянік | Скарняк |
| Другі | Вядуння | | |
| Втарышка | Гарамыка | Пан | Сотнік |
| Другая | Госць | Папа | Строй |
| Другіня | Дваранка | Пярсід | Татарынка |
| Траццяк | Дзіак | Плут | Таварыш |
| Чацьвёрты | Друг | Падаленін | Уланка |
| Чацвяртая | Дурак | Пасаднік | Халдзей |
| Пяты | Дзедка | Пасол | Хмелявік |
| Пятушка | Заіка | Пашляк | (Хазяін) |
| Пятка | Іназем | Разгільдзяй | Хохал |
| Шосты | Казак | Рыбнік | Чэлядная |
| Шэстак | Келар | Разанка | Чарамысін |
| Сямый | Клікун | Салтанка | Чаркаска |
| Асьмой | Калакольнік | Сатанка | |
| Дзевяты | Касар | | |
| Дзявятка | | | |
| Дзесяты | | | |

2-я выпіска

| | |
|---|---|
| Валакіта | Успалох |
| Дакука | Жыла |
| Замяція | Злоба |
| Істома | Надзежа |
| Надзей | Надзеінка |
| Наседка | Няўдача |
| Абразец | Прыбытак |
| Савет | Суторма |
| Храп | Хрыбет |
| Шарап | Шчыла |
| Шышка | Шчыкотка |

3-яя. Выпіска

| | |
|---|---|
| Броўка | Галава |
| Губа | Жалудак |
| Локаць | Рыла |
| Чало | Башмак |
| Япанча | Кажух |
| Лапаць | Тулуп |
| Чулок | |
| | |
| | |
| | |

4-я выпіска

| | | | |
|---|---|---|---|
| Вындыш | Гарох | Гарчак | Дубрава |
| Елка | Каліна | Капуста | Колас |
| Ракіта | Рэдзька (Рэдка) | Смародзіна | Хрэн |
| Апора | Смага | Урзан | Шашляка |
| Барыга | Сабіна | Урупа | Шабан |
| Верэляска | Сядомка | Фай | Шыбот |
| Верх(рша) | Сзыка | Фат | Шагалейка |
| Дзескіш | Самей | Фірак | Шыгань |
| Дзецеля | Старко | Фаран | Шыпке |
| Жынай | Стэхна | Фунік | Шырапай |
| Жалюн | Суганяй | Фурсік | Шырай |
| Канарка | Сулейша | Ханя | Шышалка |
| Краўсторх | Сумарок | Хлюста | Шалоня |
| Крэснячка | Сумгур | Хобар | Шчэрбак |
| Лучко | Сунбул | Хатко | Юмрак |
| Пшонка | Сура (ік) | Хацей | Юфан |
| Ратман (мір) | Сур'ян | Цыпірка | Юхно |
| Ротпіко | Сусар | Чача | Ярэц |
| Рахманін (нко) | Сурэйка | Чэрапень | Ярaслаў |
| Рамеска | Сыдаўны | Чэчуля | Яўрыла |
| Рэпчух | Танай | Чычан | Яхно |
| Разінко | Ташак | Чубар | |
| Рык (чко, уня) | Ташлык | Чур | |
| Саўмун | Тэмір | Шаўко | |
| Садык | Тэнбяк | Шаўрун | |
| Салтыр | Турсулаў | Шага | |
| Самыка | Талока | Шалганка | |
| Сапрык | Торх | Шантэй | |
| Сьвірыд | Труфонка | Шах | |
| Северга | Турантай | Шэбодца | |
| Сегіт | Турляйко | Шэдворка | |
| Селех | Тучко | Шэлпяк | |
| Свіюга | Цюмчэнь | Шэмяка | |
| | Цюцяй | Шэпшыл | |
| | Тыра | Шэпцяк | |
| | Урачко | Бык | |
| | Власон | Маўчан | Ратай |
| Бобр | Безтужка | Мясаед | Рудак |
| Варона | Валдыр | Мешай | Русак |
| Голуб | Ваула | Надзеляйка | Русін |
| Гарнастай | Верашчага | Найдзенка | Рума |
| Дракон | Вяшняк | Нашко | Саўраска |
| Дрозд | Глазунка | Няўзор | Свойцін |
| Дзяцел | Гневаш | Неведала | Сеўркж |
| Ёрш | Гадзячка | Невера(Верка) | Сіўко |
| Жаваранак | Галачэл | Нягодзяйка | Скок |
| Жук | Гараін | Няждан | Соня |
| Заяц | Грыбан | Незамайка | Суворка |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Калінка | Гуляй(ка) | Нехлюд | Сутырга |
| Кіт | Добрык (ыня) | Някрас | Таскай |
| Кітай | Дакучайка | Нелід | Цемка |
| Кітайка | Даматкан | Нялюб | Таміла |
| Кобыла | Дародка | Нямір | Таропка |
| Казёл | Дулебка | Ненаш | Труняйка |
| Каза | Ждан | Непагод | Угрум |
| Кот (Котка) | Заўʼялка | Няродна | Упрамка |
| Кошка | Загрэба | Нясвітай | Урван |
| Лісіца | Звяга | Нясмяян | Уцеш |
| Муха | Каравулка | Неупакой | Умак |
| Алушка | Кавур | Невустрой | Хрыпун |
| Рак | Кавачка | Навік | Чудзілка |
| Рапсак | Кармілка | Пеняйка | Чурыла |
| Рыба | Карнавух | Паздзейка | Шумілка |
| Сарыч | Кудраш | Палежайка | Шумята |
| Сіп | Кудраш | Паспел | Шчаўкан |
| Сіпка | Ліхар | Постнік | Шчур(ка) |
| Сабака | Лобан | Прыгала | |
| Собаль | Ламака | Путайка | |
| Сокал | Ломаш | Пуціла (цята) | |
| | Мірай | П'янка | |
| Адаш | Убісаба | Казарын | Латыня |
| Алай | Венюк | Калітнік | Лубна? |
| Алтух | Узрума | Канша | Лукша |
| Аргун | Вільям | Кіабр | Лупанда |
| Ашурак | Валассян | Кіпр | Лусця, Лут |
| Ахмат | Варэдка | Кірэй | Ляпун |
| Бажэк | Варапан | Кістэна | Максан |
| Бакака | Варахобка | Кабяк | Мамай |
| Бакланка | Вылузга | Кайрак | Макома |
| Бакулко | Глок | Калмак | Манко |
| Барсый | Голцік | Капцюк | Ман(т)сур |
| Басарга | Грыдзя | Канюта | Манша |
| Батута | Густыха | Каняшка | Мярэцін |
| Бауш | Дзей (ка) | Карэва | Мізін |
| Бахмет | Дзербыш | Кахно | Місюра |
| Бахцеяр | Дзярабка | Качэва | Мляк |
| Бачэн (чын, нко) | Дорша | Крачко | Манах |
| Баяка | Дробыш | Кубенка | Мурат (ка, шка) |
| Берсень | Дрыкан | Кудаш | Напрахлішка |
| Бобан (баха) | Душак (ан) | Кудзяяр | Неўданя |
| Бавыка | Джата | Курака | Неўруй |
| Базай (зыка) | Ярмак | Курап | Нерык |
| Бойда | Есух | Курбет | Абрута |
| Борчач | Жэгала | Курдзюмка | Абрадка |
| Бужэк | Жох | Курдзяп | Аўлюк |
| Булгак | Жуйка | Кушнік | Азарка |
| Бунай (ко) | Зворыка | Лагута | Акат |
| Бурняка | Зуй | Лазук | Акул (ла) |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бурнаш | Ібодца | Лашун | Алгазей |
| Бутак | Іняка | Ляшчук | Амена |
| Белен | Історка | Лізак | Анашка |
| Бешак | Ішута | Літавар | Анітка |
| Варанса | Кадорка | Лабза | Анцук |
| Вардамай | | Ладыга | Апалша |
| | | | Ахлопка |
| Вялікай | Шэрай | Брэх | Кавалак |
| Ветхой | Серык | Булат | Куча |
| Гразнай | Цяплай | Будатка | Лода |
| Грэшнай | Ціхай | Варган | Лапата |
| Дзшавай | Таўстай | Ватага | Лужа |
| Дзікай | Тоўсьцік | Вярыга | Май (Майко) |
| Дамашней | Танкай | Вілка | Масло |
| Дамашня | Танко | Усячынка | Мароз |
| Здзяшней | Харашэй | Гвозд | Марозка |
| Зеленай | Худай | Граза | Мачала |
| Залатай | Худзяк | Гушча | Абрэзак |
| Зубатай | Худышка | Дзеньгі | Агарак |
| Кіслай | Чарнай | Дзярэўня | Аладдзя |
| Малы | Чарнява | Дарожка | Опас |
| Малка | Чэрнат | Дружына | Арэх |
| Меншы | Чужы | Дубіна | Ахапка |
| Меншых | Чужаня | Жадоба | Палка |
| Малы | Шыракай | Заварожня | Пароша |
| Мілаванка | | Зямля | Паярок |
| Нядабрай | | Іголка | Пракуда |
| Неразвой | | Каша | Рэут |
| Несвой | | Кінжал | Рубец |
| Няхарашэй | | Кісель | Руно |
| Плахай | | Клок | Салтык |
| Прыезджэй | | Каўрыга | Сярга |
| Прастай | | Калышка | Смала |
| Рабы | | Карманка | Сноп |
| Рабуха | | Кораб | Спіца |
| Сьмірнай | | Крыло | Сусла |
| Смірка | | Крук | Тархан |
| Смірайка | | Кузюк | Ціпун |
| Сухай | | | Торг |
| | | | Труха |
| | | | Холад? |

# Частка трэццяя

Паведамленні нашых суседзей па татара-мангольскае іга

## Уступленне

# Хто такія былі манголы часоў крыжовых паходаў?

Нішто так больш красамоўна не нагадвае нам пра неабходнасць нанава перагледзець ўсю артадаксальную гісторыю дзяржаваў аж да кнігадрукавальнай эры, як сучасная "гісторыя татарскага іга" ці, дакладней сказаць, "гісторыя з татарскім ярмом", ператварыўшымся пазней, як у сне, у "мангольскае". Сапраўды, кім былі тагачасныя манголы? Здавалася б, нават і само такое пытанне цалам недарэчнае.

Зірніце на геагафічную мапу і там, пад Сібірру, вы пабачыце дакладна акрэсленую ў сваіх межах вобласць "Манголія". Паглядзіце ў які заўгодна энцыклапедычны слоўнік, і там пад літарай “М” вы знойдзе: "Манголы – некалі ваяўнічае племя, зараз мірныя качэўнікі, практыкуючыя паляванне і жывёлагадоўлю, гадуюць вярблюдаў, коней, рагатае быдла". Яны падзяляюцца, – паведамяюць нам далей, – на тры адгалінаванні:

1. Калмыкі, ад турэцкага слова "калмак", г. азн. адсталы, інакш джунгары, прычым слова джунгары вельмі нагадвае нямецкую назву вугорцаў Гунгары (Hungaren), хацця Джунгарыяй – не ведаю з якога часу, і завуць (еўрапейцы) мясцовасць на паўночны захад ад стэпу Гобі, паміж Цянь-Шанем і Алтаем, куды большасць "джунгараў" быццам бы перакачавала, ратуючыся ад нецярпімасьці рускіх імперскіх уладаў са свайго першапачатковага месца жыхарства – Астраханскай губерніі (дзе раней былі генуэзскія калоніі) каля 1700 года. Іх асноўная манаская рэлігія – буддызм (г. азн. абуджэнне пасьля сьмерці) і ламаізм (ад "ла-ма" – нябесная маці) з'яўляецца відавочным пераіначваннем каталіцызма з яго культам мадонны.

Іхная мова, маючая звычайна назву чжунгарскай або ўйгурскай (сугучна з вугорскай), выяўяе ў сваёй марфалогіі ўплыў турэцкай мовы, а яе алфабэт быў складены толькі ў 1648 годзе навукоўцам ламай Зал-Пандыта[187], пасьля чаго пачалася і свая нацыянальная літаратура. Ва ўсякім разе, яны не называюць сябе манголамі, і нязначнасць іхнай колькасьці, якая не перавышае 600 тысяч чалавек, нават на пачатку XX стагоддзя, не паказвае на іхную старажытнасць знаходжання ў гэтых краях. У Данской вобласьці яны лічыліся "казакамі"[188].

2. Бураты – г. азн. на бурацкай мове: браты (адкуль пераіначанае айраты) называюць сябе тым жа найменнем, што і балканскія славяне, называюшчыя сябе "братушкамі". Жывуць яны напалову аседла, напалову качаваннямі ў Іркуцкай і Забайкальскай абласьцях, захаваўшы радавы лад да XX стагоддзя, і размаўляюць на сваёй гаворцы джунгарскай мовы. Мяркуючы па малалікасьці (менш за 300 тысяч) нават і на пачатку XX стагоддзя, яны перакачавалі сюды ўжо ў позні час. Яны большай часткай праваслаўныя хрысьціяне або будысты (пераінчанае каталіцтва). Ці не нашчадкі яны гнаных (пасьля выгнання крыжакоў) генуэзцаў і тэўтонцаў (Дэшт-Кіпчакаў), збегшыг ад узбярэжжаў Чорнага мора ў глыбіню Азіі і перамяшаўшыхся там з мясцовым насельніцствам, засвоіўшы іхную мову?

---

[187] Там, – паведамляюць нам, – раней быў нейкі іншаземны альфабэт, у якім не хапала шмат якіх гукаў уйгурскай мовы, верагодна – лацінскі.

[188] Прычым варта адзначыць, што і самі "кітайцы", толькі ад рускіх даведаліся пра такое сваё наймнне, а самі завуць сваю краіну Дай-Цаынскай дзяржавай. Пара б, нарэшце, на нашых геагафічных мапах і ў падручніках пазначыць ўсе ілжывыя найменні, якімі перепоўнена ўся Азія.

3. Качэўнікі стэпу Гобі, якую толькі мы называем Манголіяй, а кітайцы завуць Шамо[189].

Хто ж і калі прыпісаў буратам і калмыкам найменне манголы?

Мяркуючы па таму, што назва Менгу сугучна з італьянскім Magno, а назва манголы – з грэцкім мегалы, прычым абодва словы азначаюць – вялікі, мы можам зрабіць выснову, што гэтае найменне навязана еврапейцамі, перанёсшы на мясцовы азіяцкі народ найменне крыжакоў. Відаць, гэта зрабіў, як пабачым далей, каталіцкі чарнагорскі архібіскуп Плана Карпіні з мэтай перанесьці "татрскае ярмо крыжакоў" на галовы аддаленых качэўнікаў сярэдняй Азіі.

Самі ўсходазнаўцы не могуць стрымаць свайго здзіўлення з нагоды азіяцкага паходжання "мангольскага іга".

"Поспех мангольскага заваявання, – кажа А. Якубоўскі[190], – не мог быць, вядома, абумоўлены ні ўзроўнем іхнага грамадзкага развіцця, ні колькасьцю іхнага войска (войска іхных праціўнікаў было значна больш шматлікім), ні тэхнікай ўзбраення".

"На жаль, – працягвае ён, – гісторыя Ўсходу яшчэ настолькі маладая навука, і ў ёй так шмат невысветленага, што для некаторых эпох самыя важныя бакі грамадзкага жыцця застаюцца некранутай глебай... Асабліва не пашчасьціла ў гэтым дачыненні XII стагоддзю. У некаторым сэнсе гэта самая цёмная для нас вобласць гісторыі. Ведаючы з вялікімі падрабязнасьцямі ўладкаванне рамеснай прамысловасьці ў Заходняй Яўропе пры феадалізме пад час эпохі яго разлажэння, мы пакуль, на дадзеным узроўні развіцця нашай навукі пра Ўсход, не можам даць не толькі што падрабязнага, але нават агульнага разумення пра гэта на сярэднеазіяцкім і пяреднеазіяцкі Ўсходзе. Нашы першыя паведамленні пра арганізацыі рамеснікаў гэтых краін адносяцца да XIV стагоддзя, і толькі ўяўляецца іхнае існаванне не толькі ў XII-XIII стагоддзях, але і ў больш раннія часы".

"На прыканцы XII стагоддзя, – сведчыць ён, – на Ўсходзе пачала ўзвышацца новая палітычная магутнасць – Харэзмская (сугучна з Харасанам) дзяржава, размешчаная ў вобласьці ніжняй плыні ракі Аму-Дар’я. Пры харезмшаху Такешы (1172-1200), які ў 1194 перамог войска сяльджукскага султана Заходняй Персіі Таргула, яна стала незалежнай дзяржавай. Пры яго пераемніку Мухамеду Харэзм-шаху (1200-1220) (г. азн. ўжо як раз пад час разгару чацьвёртага крыжовага паходу і генуэска-венецыянскай каланізацыі Закаўказзя і Заазоўя) амаль усе вобласьці Ірана і Сярэдняй Азіі далучаюцца да новай і разам з тым самай вялікай у той час дзяржавы на пярэднім Усходзе, сталіцай якой стаў Ургенч (на паўднёвым беразе Аральскага мора)".

"Аднак Харэзмская дзяржава не мела трывалага сацыяльнага падмурку, на які магла б абаперціся", – заканчвае аўтар свае разважанні з гэтай нагоды і не адказвае на непазбежнае пытанне: як жа ў такім выпадку яна магла ўзнікнуць не

[189] Я не магу тут утрымацца і ад таго, каб не звярнуць ўвагу чытача на напалову міфічных тангутаў-будыстаў, чужаземных продкаў сучасных тангутаў, якія жывуць у кітайской правінцыі Ганьеу на мяжы з Тыбетам. Яны зараз размаўляюць на адной із гаворак тыбецкай мовы, але раней, пра што сведчыць іхная пісьмовасць, размаўлялі на "сваёй асобнай мове", і складаліся із асобных ваяўнічых радоў, называючых сябе мыняк (г. азн. манах) і прыйшоўшых ад ракі Быйшай (г. азн. Вялікай па сугучнасьці). А другое іхнае найменне тан-гут сугучна з тан-гот, г. азн. танайскі гот, што паказвае на тое, што і "вялікая" іхная рака была ці Дунаем ці Донам. Іхная складаная ідэаграфічная пісьмовасць, – сведчаць яны, – была вынайдзена навукоўцам І-ры (г. азн. іярэем) пад час царавання іхнага імператара Іань-хао (Ян-хан) паміж 1032-1048 гадамі, г. азн. напярэдадні крыжовых паходаў.

[190] Якубоўскі А. Феадалізм на ўсходзе. 1932 с. 3-5.

маючы падмурку і не маючы апірышча ў асобе іншай магутнай і культурнай дзяржавы, як гэта было ў той жа самы час з крыжаноснымі феадальнымі дзяржавымі ў тых жа самых местах?

"Манголы, прыйшоўшыя са сваімі атрадамі ў культурныя вобласьці Сярэдняй Азіі, – працягвае Ю. Якубоўскі[191], не пазначаючы, што гэта толькі гіпотэза зайшоўшых у тупік гісторыкаў, – добра ведалі (адкуль жа?) пра найбольш слабыя бакі той ці іншай вобласьці, выдатна (чаму?) арыентаваліся ў шляхах і г. д. Больш за тое, дзякуючы пастаянным гандлёвым сувязям (якіх нават і зараз не існуе паміж Захадам і Ўсходам Азіі праз пустыню Гобі), гэтыя качэўнікі выявіліся добра ўзброенымі і тэхнічна. Падрабязныя апавяданні пра гэтыя паходы, якія мы маем у такіх аўтараў XIII-XIV стагоддзяў, як Джувейні і Рашыд-эд-Дын, малююць выяву правільнай аблогі імі гарадоў з дапамогай катапульт і іншых кідальных машын.

Нам добра вядома (??), што пры аблозе Самарканда, Бухары, Мерва і іншых гарадоў яны ўжывалі адмысловы род гаручых снарядаў, у складзе якіх была нафта (не інакш як із Баку!). Ужо гэты (такі падобны на біблейскі цуд!) факт тэхнічнага аснашчэння цалкам адназначна сведчыць пра тое, што манголы-качэўнікі былі дастаткова злучаны з эканамічна моцнымі згураваннямі ўнутры тых краін, з якімі ваявалі, і з тымі гандлёвымі кампаніямі (накшталт дзейнічаўшых у той час па суседству венецыянскіх і генуэзскіх, – дададзім мы ад сябе), якія трымалі ў сваіх руках караванны гандаль...

Не варта перабольшваць колькасць мангольскіх атрадаў. У гэтым дачыненні характэрна аблога г. Хаджэнта, дзе манголам быў выказаны моцны супраціў. Як вядома, манголаў было ўсяго 20500 чалавек, астатнія 50 000, браўшыя ўдзел у аблозе, былі палоннымі. Будучы жыхарамі заваяваных манголамі гарадоў і паселішчаў, гэтыя палонныя прапускаліся наперад (вельмі рызыкоўны захад) у самые небяспечныя пры аблозе месцы і служылі для мангольскага войска як бы шчытом ад гармат абложаных гарадоў. Гады 1219-1221 былі выдаткаваны на заваяванне Сярэдняй Азіі, і ў 1221 годзе яно было закончана. Пасьля цяжкай абогі Самарканд, Бухара, Мерв і Ўргенч, гэтыя галоўныя рамесніцка-гандлёвыя і палітычныя цэнтры краіны, былі ўзяты "монголамі". Манголы зараз маглі адчуваць сябе поўнымі гаспадарамі.

Доўгі час у гістарычнай навуцы існавала няправільнае меркаванне пра характар і ролю мангольскага заваявання. Яго малявалі як варварскае нашэсьце, тапіўшае ў крыві ўсё насельніцства захопленых краін, бачылі ў ім толькі адны разбурэнні і спусташэнні і на саміх манголаў глядзелі толькі як на насільнікаў, якія прызначалі разнастайныя падаткі і даніну. Апісанне ўсходніх крыніц XIII-XIV стагоддзяў: Іб-Асіра, Джувейні, Рашыд-эд-Дына і іншых, – даюць у гэтых дачыненні вялізны матэрыял. Асабліва зведалі разбурэнне такія гарады, як Ургенч і Мерв. Апошні быў знішчаны ўшчэнт, больш за тое, цалкам разбурана арашальная сістэма Мургаба, знакаміты Мерўскі аазіс ператвораны ў пустыню і пазней не вярнуўшыся да свайго да-мангольскага квітнеючага стану, хаця на пачатку XV стагоддзя пры Шах-руху[192] была зроблена спроба вярнуць да жыцця арашальную сістэму Мерўскага аазіса".

Так сведчыць А. Ю. Якубоўскі (с. 10), паўтараючы апавяданне пазначаных вышэй першакрыніц. Але ці можна верыць Рашыд-эд-Дыну і іншым мусульманскім аўтарам? Ці не прасьцей дапусціць, што арашальная сістэма

[191] Там жа, с. 8 (гл. с. 254).
[192] Шах-рух – сын Тымура (Тамерлана), памёр у 1447 (гл. с. 259).

Мерўскага аазіса і была пабудавана толькі згодна з загадам Шах-руха ў XV стагоддзі, прычым не спраўдзіла свайго прызначення, і што быўшае раней з'яўляецца міфам?

Бо я ўжо не раз даводзіў ("Хрыстос", кн. I-VII), што наогул ўсе "адраджэнні" у рэчаіснасьці былі нараджэннямі. Ці не так было і тут? За гэта сведчаць самі факты.

"Здзіўляе – адзначае А. Ю. Якубоўскі (с. 12), – тая хуткасць, з якой пачалі аднаўляцца разбураныя гарады і зноў ажываць земляробчыя рэгёны. У шэрагу месцаў пачалі ўпарадкоўвацца дарогі, папраўляцца старыя і будавацца новыя масты (*?*).. зноў (*?*) ажыла рамесная прамысловасць гарадоў, і з яшчэ большым уздымам пачаў развівацца караванны гандаль. Шэраг фактаў адназначна сведчыць за тое, што мангольская (*адначасовая з крыжацкай*) улада ў першую чаргу ў сваёй палітыцы лічылася з інтарэсамі таго гандлёвага капіталу, які амаль з самага пачатку быў злучаны з ходам мангольскага заваявання. Варта толькі паглядзець на склад буйнейшых мангольскіх чыноўнікаў, каб пераканацца, якую ролю мелі там купцы. Мы іх бачым і ў ролі зборшчыкаў падаткаў, і на пасадах адказных за фінансы, і ў ролі дыпламатычных пасланнікаў і г. д. Больш за тое, тады яны (*як – пазначым мы – і адначасова з імі венецыянскія і генуэзскія купцы*) фактычна былі амаль паўнавартымі кіраўнікамі цэлых абласьцей. У гэтым дачыненні вельмі характэрна гісторыя Туркестана. Вядома, што тут да 1238 года, г. азн. як раз у разгар крыжаноснага руху на Усход, уся ўлада па кіраванню заможнымі мясцовасьцямі знаходзілася ў руках Махмуда (*г. азн. ў перакладзе, дастаслаўнага*) Ялавана, прадстаўніка буйнога гандлёвага згуртавання, і потым у руках яго сына Масуд-бека, які кіраваў Туркестанам аж да самай сьмерці ў 1282. Тут мы маем яскравы прыклад таго, як пры развітых гандлёва-грашовых дачыненях у эпоху феадалізма для збірання падаткаў у ханскі скарб у нанова заваяваныя вобласьці выпраўляецца не феадал-чыноўнік, а кіраўнік буйнога гандлёвага згуртаваня, адкупляючы права збірання феадальных збораў у свае рукі. Ужо пералічанага цалкам дастаткова, каб пераканацца, наколькі трывала мангольская ўлада была злучана з заможнымі коламі трымальнікаў караваннага гандлю.

Вядома, што і самі вярхі мангольскага грамадства ў асобе ханаў, асоб іхнага двара і вайскова-чыноўнай улады, меўшых кіруючую ролю ў палітыцы, бралі (*як у гэты ж час і правадыры крыжакоў*) значны ўдзел ў гандлёвых прадпрыемствах. Вось чаму, нягледзячы на здавалася б частыя, вайсковыя сутыкненні ў гэтую эпоху (разгар чацвёртага крыжовага пахода), асноўны палітычны курс мангольскай улады на ўсёй тэрыторыі вышэйпазначаных дзяржаў быў накіраваны на стварэнне спрыяльных умоў, пры якіх караванны гандаль меў магчымасць развівацца. Гэта перш за ўсё выражалася ў тым, што была створана поўная бяспека гандлёвых шляхоў, што адзначаецца не толькі сучаснікамі (*як усходнімі пісьменнікамі, так і еўрапейцамі*), асабліва тымі, якія самі бралі дзейны ўдзел ў гандлёвых аперацыях з усходнімі краінамі. У гэтым дачыненні асабліва цікава сведчанне Пегалоцці, гандлёвага агента, які знаходзіўся на службе Фларэнтыйскага банка. Пегалоцці адзначае поўную бяспечнасць шляхоў на тэрыторыі мангольскіх дзяржаваў. Акрамя таго, стварэнне вялікіх дзяржаў мела наступствам значнае зніжэнне накладных выдаткаў на транспартаванне тавараў із адной мясцовасьці ў іншую, што дасягалася шляхам пазбаўлення шэрага феадальных валоданняў права браць мытныя зборы.

І так, гандлёвы капітал на Ўсходзе быў таксама грамадзкай магутнасьцю, з інтарэсамі якой мангольская ўлада надзвычай лічылася, бо мела з гандлю вялікія прыбыткі шляхам збірання з яе адмысловых пошлін. Для правільнага разумення ролі манголаў у гісторыі XIII і XIV стагоддзяў на Ўсходзе неабходна пазначыць адну надзвычай важную акалічнасць, пра якую мы ўжо згадвалі. Рух манголаў менш за ўсё прыходзіцца разглядаць як каланізацію. Асноўная масса качэўнікаў-манголаў (*як і крыжакоў*) засталася ў сябе на радзіме. Перайшлі на новыя месцы параўнальна невялікія вайсковыя атрады, налічваючыя дзесяткі тысяч кожны з іх. Такім чынам, манголы ляглі параўнальна тонкім пластом на заваяваныя тэрыторыі, праз што ім натуральна было наканавана праз пэўную колькасць часу зліцца з той масай, у асяроддзе якой яны патрапілі. У гэтым дачыненні асабліва цікава прасачыць лёс манголаў у складе Кіпчацкага (*г. азн. па-руску купецкага, інакш Дештцкага – Deuntsch'скага – Тэўтонскага*) стэпу на тэрыторыі Залатаардынскай (*г. азн. Залатаордэнскай*) дзяржавы. Вось што з гэтай нагоды піша арабскі пісьменнік першай паловы XIV ст. Амары:

"У старажытнасьці гэтая дзяржава была краінай кіпчакаў-полаўцаў, але калі ёю завалодалі татары, перамяшаліся і парадніліся з кіпчакамі, зямля выйшла пераможцай над прыроднымі і расавымі якасьцямі, і ўсе яны сталі такімі ж кіпчакамі, як быццам аднаго з імі роду, праз тое, што манголы пасяліліся на зямлі кіпчакаў, адружваліся з імі і засталіся жыць на іхнай зямлі"".

Я знарок зрабіў гэтую выпіску із кнігі таленавітага спецыяліста ў дадзеным пытанні А. Ю. Якубоўскага яго ўласнымі словамі, прычым толькі пазначанае курсівам у косках належыць мне. А што ж вынікае? Вельмі цікавая рэч.

Із адначасовага знаходжання на паўночных прыбярэжжах Чорнага і Азоўскага мораў і кіпчакаў-полаўцаў, г. азн. купчакаў-плаўцоў (таму што ні на адной мове, акрамя рускай, гэтае найменне не мае сэнсу), і генуэзскіх купцоў-мараходаў, несумненна вынікае, што полаўцы, г. азн. плаўцы, з’яўляліся толькі рускай назвай генуэзцаў, завалодаўшых безабароннымі (з нагоды радавога ладу і адсутнасьці дзяржаўнасьці) качавымі станамі і паселішчамі гэтых мясьцін.

Грунтуючыся на адначасовасьці гэтых падзей з крыжовымі паходамі (першы із якіх у XI стагоддзі даходзіў да Еўфрата) і на тым, што слова манголы з’яўляецца грэцкім словам мегалы, г. азн. вялікія, а гэтае слова ў старыну дапасавалася толькі да заваёўнікаў і цалкам не ўжывалася да мірных патрыярхальных пастухоў пустыні Гобі, мы прыходзім да высновы, што заходне-еўрапейскія гісторыі не паведамляюць нам гісторыю крыжовых паходаў у поўным іх памеры. Грунтуючыся на нейкіх падставах яны скарацілі рух крыжацкіх рыцарскіх і місіянерскіх ордэнаў на еўрапейскі і азіяцкі Ўсход, на самай справе даходзіўшы да Індыі і Кітая, і прыпісалі яго ўсходнюю частку да здзяйсненняў нейкіх прывідных "вялікіх μεγαλοι" азіяцскіх заваёўнікаў, прыпісаўшы ім сустрэчны рух, хаця пра непазбежныя пры такіх умовах сутыкненні крыжакоў з "манголамі" ў Азіі не гаворыцца нідзе ні слова.

Гэтая перастаноўка адбылася па ўсяму відаць ужо даўно.

# Глава I

## "Татрскае нашэсьце" згодна з армянскімі першакрыніцамі.

Пачну з армянскай літаратуры, у якой яшчэ захаваліся сляды былой рэчаіснасьці.

"Існуе старадаўняе армянскае паданне, – кажа К. П. Патканаў у заўвазе да свайго перакладу "Гісторыя манголаў інака Мігакія" (с 57). – згодна з якой армянскі патрыярх Нарсас пракляў армян за іхныя беззаконні і прадказаў ім нашэсьце "народа стралкоў"". Гэтае ж апавяданне маецца і ў Рубрука, але ён прыпісвае яго нейкаму "прароку Акакрону", прычым пазначае, што народ стралкоў "прыйшоў з паўначы"[193].

Само сабой зразумела, што тут пад выглядам прароцтва апісваецца ўжо адбыўшыся факт. Армянскі архібіскуп Стэфан Арбеліані (або той, хто пісаў пад яго імем), відаць, першым атаясаміў "стралкоў" не толькі з татарамі, але і з мугаламі (ад грэцкага мегалы – вялікія) і перанёс іхную міфічную краіну Чын-мачын "за межы Хата-стану (г. азн. краіны готаў) "[194].

Цікава, што і назва туркмены, у сірыйцаў таргаманы, сугучна са славянскім гандляры (таргоўцы), а месца гэтых таргамян (біблейскіх дзяцей "Таргона" із краіны агаранскай) паказваецца ў Скіфіі, г. азн. на поўнач ад Чорнага мора, дзе жылі генуэзскія гандляры. Ды і іншую назву тых жа "стралкоў", "мугалаў" і "татаравей" тугары можна вывесьці ад выказвання ту-горцы, г. азн. "па той бок гор", як дапускае К. П. Патканаў, параўноўваючы легенду пра Тугарына-Змеявіча з легендай па Змея-Гарыныча, і паказваючы (с. 58), што татары ў армянскіх пісьменнікаў завуцца таксама і мушкамі (г. азн. мужыкамі), адкуль і іхная біблейская назва Рош-мешэк, г, азн. Рос-мужык, у грэцкім перакладзе Бібліі Рос-Масах (Рос-Масковіч). А пад Тугарскай, г. азн. Загорскай краінай можна палічыць Забалканскую вобласць, лічачы з поўдня.

У пагадненні з гэтым знаходзіцца і лёс "манголаў", пасьля заканчэння крыжовых паходаў: яны знікаюць адначасова з крыжакамі і гандлёвымі (купчакскімі) калоніямі генуэзцаў і венецыянцаў.

Армянская літаратура пра гэты перыяд невялікая, але вельмі цікавая з нашага боку гледжання. Маюцца заўвагі ў інака Магакія ў яго рукапіснай "Гісторыі Манголіі", знойдзенай у 1847 годзе ў кляштарскай бібліятэцы на выспе св. Лазара ў Венецыі. Ёсць месцы і ў доктара багаслоўя Вардана Вялікага, памёршага, – кажуць нам, – у 1271 г., праз дзесяць гадоў пасьля падзення Лацінскай крыжацкай імперыі на Усходзе, хаця выняткі із яго былі надрукаваны толькі ў 1861 годзе ў Пецярбургу і ў 1862 годзе ў Венецыі. Акрамя таго, мы маем паведамленні ў Кіракаса Гандэакскага, памёршага, – кажуць нам, – у 1272 г. і быўшага разам з першымі двума аўтарамі вучнем знакамітага у армян Яна Ванакана. Але і яго рукапіс быў выдадзены толькі ў 1858 годзе ў Маскве і ў 1865 годзе ў Венецыі. І затым нельга не паказаць на маленькую заўвагу ў кнізе ад імя “Канетабля (як раней называўся па-французску маршал) Сембота”, выдадзеную ўпершыню ў Маскве ў 1856 годзе і ў Парыжы ў 1859 г. і на кнігу, прыпісваемую Стэфану Арбеліану, мітрапаліту Сюнійскаму, выдадзеную ўпершыню ў Парыжы ў 1859 годзе і ў Маскве ў 1861 г. Усе гэтыя паведамленні перакладзены К. П. Патканавым на рускую мову[195].

---

[193] "Prophetarict de gente jagittariorum, venture abaquilone»", – вымавіў прароцтва пра народ стралкоў, павінным прыйсьці з паўначы. Resual de voyages et de memoires, v. 385/386, Paris, 1889.

[194] Вось яго ўласныя словы: "усхваляваў бог народ стралкоў, званых (у навукоўцаў) мугаламі, а ў простанароддзі татарамі ў краіне Чын-Мачын за межам Хатастана (Стэфан Арбеліані. Маскоўскае выдане, с 298).

[195] Знакаміты Мхітар Севастыйскі (1676-1749) заснаваў у 1717 г. у Венецыі, на выспе Сан-Лацара, армянскую мясьціна. З таго часу таварыства св. Лазара, прыняўшае найменне "мхітарыстаў", пастаянна працуе на

Мы бачым перш за ўсё, што да паловы XIX стагоддзя ўсе гэтыя рукапісы, падобна арабскім, былі невядомы ні армянам, ні еўрапейскаму навуковаму свету, як і імёны іхных аўтараў. Толькі Арбеліані быў знаёмы публіцы з заканчэння XVIII стагоддзя як аўтар "Гісторыі княскага роду Арбеліані", выдадзенай у 1775 годзе пад назвай: "Дадаткі да гісторыі Арменіі і Грузіі".

Выкарыстоўваючы звычайную тэрміналогію, Патканаў дае грунтуючыся на іх такі радавод валадароў "непрацяглага мангольскага царства", якое раптоўна ўзнікла із небыцця ў момант заснавання Лацінскай крыжацкай імперыі на Ўсходзе і разам з ёю адышло ў нябыт.

Частка прыведзеных тут назваў відавочна еўрапейскія, напрыклад Джучы (італьянскае Duce) – герцаг, арда – ордэн, татар – татравец, Альчу – Алег, Конграда – Конрад, Кехату – кахецінец, Бацю – Батя, Мангу – Магно, Барка-Борко, Такудар – Тэадор і г. д., ды і большасць іншых з'яўляюцца наборам гукаў, якія не маюць ніякага значэння на турэцкай або татарскай мовах, г. азн. навязана ім іншаземшчынай.

Найбольш грунтоўны для нашага пытання твор Гандзакскага (згодна з пазнейшым тлумачэннем Елізаветпольскага ў Закаўказзі) Кіракаса (патрыярха), які заканчве сваё апавяданне абрывам на 1266 годзе нашай эры, услед за падзеннем Лацінскай імперыі крыжакоў на Балканскай паўвыспе. Мне здаецца, што гэта толькі першая палова нейкай больш доўгай гісторыі Армянскага царства, адарваная ад пазнейшага апавядання для таго, каб прыпісаць Кіракасу. Вось як аўтар пачынае яе IX главу:

"У 669 годзе (па нашаму ў 1220-1221 гг.) армянскага летазлічэння, у той час, калі грузіны ганарыліся перамогай, атрыманай імі над таджыкамі (паўночна-ўсходнімі іранцамі-персамі), у якіх яны забралі некалькі армянскіх абласьцей, знянацку з'явіліся вялічэзныя массы войска, забяспечаныя ўсімі паходнымі прыстасаваннямі, і прайшлі праз Дзербентскія вароты ў Агванію, з мэтай патрапіць адтуль у Арменію і Грузію. Яны аддавалі мячу ўсё, што сустракалася ім на шляху:.. людзей, быдла, нават сабак. Яны цалкам не шанавалі ніякай маёмасьці ні каштоўнае адзенне ні іншыя рэчы, акрамя коней. Яны хутка прайшлі да гарада Тыфліса, і зноў (калі верыць, што яны прыйшлі не з Трапезундскай імперыі венецыянцаў) павярнулі ў Агванію да межаў горада Шамхора.

Ім (г. азн. татарам) папярэднічалі чуткі, што яны магі (адкуль магчыма і іхнае найменне мангу=мангол), вызнаюць хрысьціянскае веравызнанне і здзясняюць цуды, што яны прыйшлі адпомсціць таджыкам (мусульманам) за прыгнятанне хрысьціян. Казалі, што яны маюць паходную царкву, у ёй цудатворны крыж, што перад гэтым крыжом у іх ставіцца мера ячменю, але з гэтай меры ўсё войска бярэ ячмень для гадавання коней, і яна не памяншвецца. Тое ж самае адбываецца ў іх з правіянтам для харчавання людзей. Дзякуючы таму, што такая падманная чутка распаўсюдзілася паўсюдна, жыхары тых мясцовасьцей не рабілі супраць іх ніякіх захадаў перасьцярогі. Адзін сьвятар нават выйшаў да іх насустрач са сваім прыходам з крыжамі і харугвамі; але (відавочная ўстаўка!) татары кінуліся на іх з мячамі і перарэзалі ўсіх. Паўсюдна сустракаючы такім чынам верачае ў іх бяспечнае насельніцтва, яны нішчылі жыхароў, рабавалі паселішчы. Самі ж хавалі

літаратурнай ніве. Іхнай галоўнай задачай стала адраджэнне мовы старажытна-армянскай літаратуры – грабара.

сваю маёмасць у багністых непрыступных местах, званых Багамедж (Багемія - Bohemen)".

Я звяртаю, перш за ўсё, увагу чытача на недарэчнасць гэтага паведамлення з боку гледжання здаравага сэнсу. Вось ідуць у нібыта хрысьціянскую краіну добра ўзброеныя атрады чужакоў, наперадзе якіх ляціць стовусная чутка, што яны "нясуць з сабой крыж" і маюць намер "адпомсціць" за прыгнёт хрысьціян. Ды і сапраўды, у гэты самы час, каля 1221 года, крыжакі "Дзейтшскага ордэна" ідуць з Заходняй Яўропы, рухаюцца праз Багемію на ўсход, абапіраючыся на Лацінскую феадальную імперыю, узнікшую на Балканскай паўвыспе і заснаванную ў 1204 годзе, і адначасова з імі венецыянцы засноўваюць, як раз на Чарнаморскім ўзбярэжжа Арменіі, Трапезундскую імперыю, якую гэтыя армянскія гісторыкі тут ігнаруюць.

З боку гледжання здаравага сэнсу тут незлічоныя конныя прыхадні і былі крыжакамі, а аўтар паведамляе, што яны толькі прыкідваліся імі!

Але ці магчыма прыкідвацца хрысьціянамі, відавочна забіваючы іх на сваім шляху замест абароны? Вядома, гэта магло быць толькі ў тым выпадку, калі прыйшоўшыя былі папістамі, а мясцовыя святары, якіх яны забівалі, былі праваслаўнымі, якія ў той час, як вядома, былі ў хаўрусе з мегаметанамі, супраць іхнага агульнага ворага – ваціканскага папы. Але нават і ў такім выпадку, пасьля першага ж збіцця непаразуменне выкрылася б і жыхары пачалі б ад іх збягаць. Відавочна, тут пазнейшае зроблена папярэднічаўшым, таму што толькі ўжо пазней, праз некалькі месяцаў ці гадоў, сярод насельніцтва, абуранага паборамі прышэльцаў, узнікла меркаванне, што яны самазванцы і не могуць быць пасланнікамі "добрага рымскага айца, намесьніка Хрыстава", і насельніцтва абурылася супраць іх.

Цікава, што менавіта такая канцэпцыя маецца ў Адаакра Рэйнальда ў яго кнізе "Працяг летапісання Баронія". Там прыведзены ліст грузінскай царыцы Русаданы папе Рыгору:

Tartari, eruce precedente eos, intraverunt terram nostram et sic sub specie christianae religionis deceperunt nos et usque ad VI milia interfecerunt[196] de nostris. Sed postquam intelleximus eos non esse veros christianos, nos cum gratia vestra et auxilio sante cricis insurreximus in eos et interfeci mus[197] de eis usque ad XXV milia equitum et fugovimus de finibus nostris, et ista adimplere mandatum vestrum factum eor legatum»

(Татары прад... крыжом зайшлі ў нашу зямлю, і пад выглядам хрысьціянскага веравызнання падманулі нас і спакусілі нашых да 6 тысяч. Але пасьля мы здагадаліся, што яны не сапраўдныя хрысьціяне і міласьцю вашай і з дапамогай святога крыжа паўсталі супраць іх і перабілі з іх да 25 тысяч вершнікаў, а некаторых выгналі із нашых межаў і таму (таму што іх выгналі) не маглі выканаць ваш мандат, перададзены праз легата).

Ці сапраўды тут атрымалася: свая сваіх не пазнаша? Для мяне гэта несумненна. Мне здаецца, акрамя таго, што арыгінал, разбіраемай зараз намі кнігі Гандзакскага Кіракаса, напісаны не армянінам і не па-армянску згодна з такімі меркаваннямі.

---

[196] interferectrunt ад interfotio – перарыванне прамовы. Адпаведны дзеяслоў interncere ў кодэксе Хвядоса азначае закончыць справу. У Анулія interficere virginitatem – пазбаўляць некранутасьці. Тут, відавочна, у сэнсе спакусіць.

[197] Тут зноў той жа дзеяслоў interfecere, але ўжо ў іншым яго сэнсе, відавочна, аўтар быў добрым лацiністам.

1. Ва ўсіх датах ў яго пазначаецца, як і ў прыведзеным мной урыўку, што апісваемая падзея была "у 669 (ці ў нейкім іншым) годзе армянскага летазлічэння". Але ж калі б аўтар быў армянінам і пісаў для армян, то навошта яму было кожны раз нагадваць пра сваё армянства? Хіба, пасылаючы сваім знаёмым лісты па-руску, мы пазначаеце, што датуеце іх менавіта згодна з рускім падлікам? Вам нават і ў галаву гэта не прыйдзе. Іншая справа, калі б аўтар пазначаў, ад якой падзеі ён вядзе злічэнне (накшталт Геджры ці "стварэння сусвету" ці "нараджэння Хрыстава"), тады гэта яшчэ мела б сэнс.

2. Чаму ён не паведамляе, што ў той час па ўсяму ўзбярэжжу Арменіі існавалі венецыянскія калоніі, якія ўзніклі ў сувязі з крыжовымі паходамі таго часу, і мелі не толькі заваёўніцкі і культуртрэгерскі, але і камерцыйны характар?

Адзінае месца, дазваляючае яго матэматычную праверку, гэта паведамленне, што Багдад, які ён называе сталіцай таджыкаў[198], быў забраны ў гэтых таджыкаў-мусульман правадыром татар Вялікім Гулавой, пакінуўшым у ім жывымі толькі хрысьціян ў 707 армянскім годзе ў першы дзень Вялікага паста ў панядзелак 20 Навасарда. Перавёўшы гэта на юліянскае злічэнне з дапамогай табліцы, мы бачым, што 20 дзень Навасарда 707 армянскага года прыпадае на 4 лютага 1258 года юліянскага злічэння і што дзень тыдня тады быў сапраўды панядзелак, і вялікі пост у 1258 годзе пачынаўся 4 лютага (Вялікдзень быў 24 сакавіка).

Магчымасць другой матэматычнай праверкі дае згадванне пра камету. Яно знаходзіцца ў самым канцы кнігі.

"У 714 годзе (1265-1266), – паведамляе нам Гандзакскі Кіракас, – адбылася з'ява на небе: на паўночным баку бачылі зорку ў накірунку на паўднёвы ўсход. Ад яе ішлі доўгія прамяні падобныя на слупы. Сама зорка была невялікай і хутка рухалася на працягу месяца, але не так, як звычайныя каметы, якія калі-нікалі з'яўляюцца і ідуць з захаду на поўнач (няпраўда: яны ідуць па розных накірунках). Яна выпускала доўгія прамяні, якія з дня на дзень павялічваліся і, нарэшце, зніклі. Тут неўзабаве памёр (пабожны татарскі цар) Гулаву, а за ім і яго жонка (пабожная княгіня) Дохуа (Duchess). Яго месца заняў яго сын, Апага, у 714 (1265) годзе ён адружыўся з дачкой грэцкага цара, князёўнай Дэспінай, якая прыбыла з вялікай пышнасцю, у суправаджэнні патрыярха антыяхійскага і біскупаў Тэрр-Сергіса із Евенга і доктара багаслоўя Бенера. Яны, – выказвае здагадку нейкі пазнейшы рэдактар, забыўшыся пра хрысьціянства Гулаву, – спачатку ахрысьцілі Апагу, пасьля ўжо адружылі яго з гэтай дзяўчынай.

Пераглядаючы хроніку камет у VI томе "Хрыста", мы бачым, што тут гаворка ідзе пра камету, якая была за два гады да пазначанага тут часу.

"26 ліпеня 1264 года, –ў летапісу Шэ-Кэ паведамляецца, – з’явілася камета ў вобласьці Рака і ў вобласьці Гідры. Яе бачылі вечарам на паўночным-захадзе, і яе святло асьвятляла неба. Яна прасьціралася на 100 локцяў у даўжыню, і прайшла праз Вялікую Мядзведзіцу. Раніцай яна была бачнай на паўночным усходзе на працягу 40 дзён".

Няма сумневу, што і ў Кіракаса маецца на ўвазе менавіта яна: іншых камет не было паміж 1240 і 1277 гадамі. Але толькі якім жа чынам аўтар памыліўся на два гады, калі, – як вынікае із яго слоў, – ён быў відавочцам гэтай каметы? Наадварот, тут відавочна, што ён жыў значна пазней апісваемых ім падзей, так як пераблытаў гады, ды і наогул выкладае факты тэндэнцыйна, падводзячы іх пад зараней складзенную схему, і часта наіўна.

[198] Патканаў, II с. 96 і с. 140.

Сапраўды, мы ўжо бачылі (на пачатку гэтай главы), як "татары", згодна з яго славамі, называўшыя сябе хрысьціянамі, быццам бы забівалі хрысьціян, а тут аўтар не жадае прызнаць татарскага цара хрысьціянінам ад нараджэння, так, што "грэкі спачатку ахрысьцілі Апага, а ўжо потым абвянчалі з дачкой свайго цара".

А ў далейшым у яго заўважаецца яшчэ цэлы шэраг указанняў на хрысьціянскае паходжанне татар з тэндэнцыйным перанясеннем іхнай радзімы ў Манголію, хаця і само найменне мангол, згодна са сваім асноўным сэнсам, азначае па-арабску і па-мангольску не націю, а лоб і перадавы атрад, і ў такім сэнсе, як сведчыць Патканаў, гэтае слова ўжываецца ўсімі пісьменнікамі "мангольскага перыяду ", у тым ліку і армянскімі пісьменнікамі[199].

Усе гэтыя акалічнасьці, а таксама і вышэй цытаваны мной ліст грузінскай царыцы Русаданы да папы Рыгора са скаргай на "самазваных крыжакоў" і з прапановай удзельнічаць разам з ім супраць іх у крыжовым паходзе, вельмі нагадваюць сялян-хадакоў, якія прыходзілі із аддаленых правінцый Расіі да цара скардзіцца на прыгнёт чыноўнікаў, асабліва ў пару збору падаткаў пасьля знішчэння прыгоннага права.

"Цар, – хадзіла пагалоска, якую рупліва падтрымлівалі вясковыя святары, – вельмі добры і вельмі шануе сялян, але ён далёка і таму не ведае пра вашы справы".

А сяляне рабілі із гэтага сваю выснову: трэба, азначае, паведаміць цару (цалкам так як зрабіла царыца Русадана перад папай!).

І вось, адзін за другім, з катомкамі за спіной – тады яшчэ не было чыгунак – ішлі таемныя ўпаўнаважаныя сяляне да цара ў Пецярбург, несучы яму скаргі сваіх аднавяскоўцаў на яго чыноўнікаў. Яны станавіліся перад царскім палацам у чаканні яго з’яўлення, каб кінуцца перад ім на калені і выканаць даручэнне. Але іх, вядома, хапалі ахоўнікі царской асобы і, прачытаўшы скаргу на дзеянні ўладаў, якія цалкам адпавядалі царскім дырэктывам, выпраўлялі хадака ў Сібір, а ў яго вёску выпраўлялі дазнаўцу шукаць зачыншчыкаў. Тады з'явіўся новы варыянт сялянскіх мяркаванняў:

"Злыя чыноўнікі і памешчыкі, – казалі яны, – атачылі добрага цара, падманваюць яго на конт становішча сялян і не дапускаюць да яго нікога, хто мог бы яму паведаміць праўду". Пачаліся то там, то тут мясцовыя сялянскія бунты, жорстка падаўляемыя. Услед за гэтым з'яўляліся і самазванцы, якія прыходзілі да сялян із аддаленых правінцый з граматамі ад імя цара, напісаннымі залатымі літарамі, прызываючыя іх да забівання памешчыкаў і чыноўнікаў, але гэта рэдка удавалася, дзякуючы таму, што слых пра "залатую грамату" прыходзіў да мясцовых улад раней, чым паўставалі сяляне.

І вось, падобная ж выява паўстала перад маімі вачыма, калі я ўпершыню прачытаў армянскія паведамленні пра "манголаў", якія прыходзілі прыгнятаць народы, называючы сябе "носьбітамі крыжа". Але яны, вядома, не былі самазванцамі, а сапраўднымі пасланнікамі рымскага папы. Немагчымасць іхнага выхаду із пустыні Гобі і наступнага знікнення ўжо адзначалася сур'ёзнымі гісторыкамі, але ўсе яны, паказаўшы такую немагчымасць, усё ж аб'яшчалі немагчымае адбыўшымся.

Вось, напрыклад, хаця б уласныя словы Патканава ў яго прадмове да другога выдання "Гісторыі манголаў згодна з армянскімі крыніцамі"[200].

---

[199] Патканаў К. П. Гісторыя манголаў згодна з армянскімі крыніцамі. 1873. Вып. I, 58 (манглай па-мангольску азначае "лоб", передавое войска ") і яшчэ, вып II, 138. ("мангла "– лоб, перадавы атрад).
[200] Патканаў К. П. Выд. II, с. VI.

"Выйшаўшы із глыбіні Манголіі на пачатку XIII стагоддзя яны за кароткі час, з невядомай ні да, ні пасьля хуткасьцю, захапілі ледзь не ўсе дзяржавы Азіі і Яўропы да Віслы, пакрыўшы іх разбурэннямі і акрапіўшы крывёю жыхароў. Не прайшло і двух стагоддзяў, і тыя ж манголы часткова сталі рабамі падпарадкаваных імі народаў, часткава вярнуліся на радзіму і перайшлі ў той жа пастушаскі стан, із якога іх вывеў геній Чінгіза".

І вось, замест таго, каб адразу абвясьціць байкай такое паходжанне манголаў (г. азн. па-арабскі "передавых атрадаў") із пустыні Гобі, Патканаў нечакана робіцца такую выснову:

"Дзякуючы параўнанню іхнай качавой вайсковай справы з сучасным вайсковым мастацтвам прусакаў атрымаліся вельмі цікавыя вынікі ўражваючай падобнасьцю паміж сабой, прычым прыхільніку грубай сілы мімаволі давядзецца ўшаноўваючы схіліць галаву перад геніем варвараў XIII стагоддзя".

Але ці не з'яўляецца гэтае параўнанне Чынгіз-хана з Бісмаркам лепшым аспрэчваннем ўсходняга паходжання тартараў?

Замест таго, каб "ушаноўваючы схіляць галаву перад геніем" Чынгіз-Хана, – адкажу я узбекскаму аўтару, – ці не лепш, пакінуць у баку ўшаноўваючае пакланенне, як пачуццё, асляпляючае чалавека, выкарыстаць яго ж уласнае ўдалае параўнанне ваяўнічасьці былых манголаў з ваяўнічасьцю пазнейшых германцаў і зрабіць выснову, што "мангольскае нашэсьце" было нічым іншым, як Дзейтшскім (г. азн. Тэўтонскім) ордэнам германцаў?

Зацікавіўшыся простым пытаннем пра фізічную немагчымасць нечага падобнага на павядомленае нам, мы перш за ўсё, павінны не ставіцца з вялікай пашанай і пачціва схіляцца перад апавядальнікамі, а засвоіць сабе такое асноўнае правіла: ніякі качавы народ не здольны да массіўных калектыўных пачынанняў, за выключэннем адзінага выпадак: раптоўнай касмічнай катастрофы, якая ўскалыхнула і спустошыла ўсю краіну, ды і то толькі ў тым выпадку, калі вялікая колькасць яе качавога насельніцтва паспела выратавацца. Але і тады гэтае чалавечае навадненне толькі спустошыла б суседнія краіны (і не стала б у іх пануючым станам насельніцтва) з нагоды сваёй малакультурнасьці і няздольнасьці да і якой бы то ні было дзяржаўнасьці.

Уявіце сабе качавую сям'ю: але не такую, якая існуе яшчэ і зараз і якая толькі на сезон выходзіць на качаванне, а затым вяртаецца ў аселае жыллё, а першапачатковую: сёння яна – тут, а заўтра – там. Як збярэш з яе падатак для ўтрымання агульнага валадара, яго двара і войска? Шукай вецер у полі! Вялікімі атрадамі качэўнікі збірацца не могуць дзякуючы тым жа нагодам, што і рагатыя жывёлы. Яны хутка ўсё з'ядуць навокал і для забяспячэння ўласных патрэб будуць вымушаны разысьціся ў разныя бакі асобнымі згуртаваннямі, ніяк не перавышаючымі некалькі соцень чалавек. Чым меншы качавы атрад, тым больш ён незалежны ад агульнага калектыва, і павялічваць гэты калектыў звыш той колькасьці, якая патрэбна для ўласных выгод і для абароны ад звяроў, нікому не прыйдзе ў галаву. Забабоннае пачуццё можа, вядома, прымусіць і цэлую краіну качэўнікаў мець якое-небудзь месца агульнага пілігрымства, звычайна злучанае з дзеючым вулканам або з месцам метэарытнай катастрофы, і несьці туды пасільныя падарункі для служыцеляў праявіўшагася там грознага бога. Гэта можа прывесьці да ўзнікнення там буйнога і культурнага пасялення з узначальваючым яго вярхоўным сьвятаром накшталт Далай-ламы ў Тыбеце, але такі святар ніколі не пакіне свайго спакойнага ахвярніка для таго, каб ператварыцца ў вайсковага

правадыра і весьці войска ў чужыя краіны. Ды і ці зможа ён аднымі перакананнямі прымусіць ісьці за сабой распыленае па стэпе і расплываючаяся згодна са сваёй прыродай качавое насельніцства.

Акрамя таго, для атрада захопнікаў неабходна кожны дзень харчавацца. А як гэта зрабіць ў стэпах?

Вымушаныя адказваць на такое далікатнае пытанне, прыхільнікі уяўляемых імі былых прыходаў стэпавых заваёўнікаў (зараз такіх няма!) выкарыстоўваюць вартыя жалю выкруты, адказваючы: сілкаваліся ўласнымі коньмі, забіваючы аднаго за другім. Ну, а як жа яны папаўнялі іхную калькасць падчас сваіх масавых набегаў? Забіваць сваіх коней было б для іх тым жа самым, што і забіваць саміх сябе, таму што кожны, застаўшыся без каня, ужо не мог пасьпяваць за астатнім конным войскам і быў асуджаны на пагібель.

Няма ні малейшага сумнення, што ў старыя часы ўсе ідучыя на заваяванне войскі харчаваліся выключна шляхам рабавання мясцовага насельніцства. Мне згадваецца апавяданне майго сябра па рэвалюцыйнай дзейнасьці сямідзесятых гадоў Сяргея Краўчынскага. На пачатку 1875 года ў Босніі і Герцагавіне ўспыхнула паўстанне супраць туркак, і радыкальна настроеная руская моладзь хлынула туды дапамагаць "братушкам", у тым ліку і Краўчынскі. Я не патрапіў у гэтую хвалю, таму што як раз перад гэтым быў арыштаваны. Праз год мяне вызвалілі і я выказаў Краўчынскаму сваё засмучэнне, што не змог узяць удзел ў гэтым паўстанні разам з ім.

– А я вельмі рады, што цябе там не было, – адказаў ён мне. – гэта было жудасна, зусім не тое, што малявалася ва ўяўленні. Я пайшоў у атрад да аднаго із самых вядомых чарнагорскіх правадыроў, і мы адразу ж пайшлі ў горы пільнаваць турэцкае войска. Але яно не прыходзіла, а нам не было чаго есьці. Мы спусьціліся ў бліжэйшую вёсачку, а жыхары, калі мы ім паведамілі, што мы паўстанцы і просім, каб нас накармілі, загаварылі разам, што ў іх нічога няма. Аднак, у гэты час пастухі прыгналі ў вёску статак баранаў, да іх нехта пабег, і пасьля некалькіх яго слоў пастухі пагналі статак назад. Нашы чарнагорцы кінуліся за збягаючым статкам, а ўсе насельнікі вёскі пабеллі за імі. Чарнагорцы схапілі аднаго барана за рогі, а падбегшая жанчына схапіла яго за хвост, з плачам крычучы: "Аддайце! Гэта мой баран" Падняліся крыкі, плач жанчын, бойка, і толькі тады, калі чарнагорцы дасталі пісталеты і кінжалы, насельнікі адышлі, і мы змаглі зацягнуць у горы некалькіх баранаў  і накарміць галодных таварышаў. Праз два тыдні такога жыцця я не мог больш пераносіць яго і, скарыстаўшыся неабходнасьцю передаць ў Сараева ліст ад нашага атрада, сышоў і больш не вяртаўся.

Такім жа было, несумненна, і становішча крыжацкіх "вызваліцелей Арменіі ад мусульманскага іга". З гэтага боку гледжання становіцца зразумелым і тое, чаму і праваслаўныя грэкі, якія пад час першых крыжовых паходаў былі паплечнікамі заходніх рыцараў, ператварыліся ў іхных ворагаў падчас IV крыжовага пахода, а барацьба папістаў пачалася ўжо і з імі і закончылася выгнаннех праваслаўных кіраўнікоў із Цар-Горада і заснаваннем на Балканскай паўвыспе Лацінскай імперыі.

Відавочна, і армяне гэтага ж перыяду пасьля некаторага перыяду сужыцця  з крыжакамі, якія харчаваліся за іхны кошт, прыйшлі нарэшце да высновы, што іх прыслаў не намесьнік Хрыста – добры рымскі папа, а сам чорт. Армянскія паданні пра гэта менавіта праз гэта і маюць для нас такое вялікае значэнне, што яны яшчэ захавалі шмат слядоў хрысьціянскага паходжання "пякельных людзей (тартараў)", і таму вельмі каштоўныя для сапраўднага даследчыка.

Вось некаторыя маючыя дачыненне да гэтага прадмета месцы із "Усеагульнай гісторыі" Вардана, памёршага, – кажуць нам, – яшчэ ў 1271 годзе[201], неўзабаве пасьля выгнання крыжакоў із Цар-Горада.

"У 700 (г. азн. у 1251) годзе вялікім папай рымскім (Інакенціем IV), было ўзнята пытанне пра "сьвяты дух". Ён напісаў да ўсіх народаў і прапанаваў ім вызнаваць зыходжаньне "Сьвятога Духа" ад бацьку і ад сына. На гэта не пагадзіліся сірыйцы, грэкі, грузіны і армяне. Гэтыя апошнія, даследаваўшы вызнаванне святых айцоў з дапамогай блізкага да бога доктара багаслоўя Вана-кана, знайшлі вучэнне сваёй царквы тоесным з вучэннем знакамітых славянскіх мужоў – Панаса Вялікага, Рыгора Багаслова, Рыгора Ніскага, Рыгора Асветніка і іншых святых (г. азн. далучыліся да ўсходняй царквы).

Старэйшая жонка (вялікага "татарскага" цара Гулагу) была таксама хрысьціянкай згодна з вучэннем сірыйцаў, г. азн. нестарыян. Хаця яна і не ведала усіх акалічнасьцей іхнага вучэння, але, падобна самому Гулагу, некрывадушна паважала і ўшаноўвала ўсіх хрысьціян і прасіла за іх у малітвах. За ёю і яе чалавекам паўсюдна вазілі паходную царкву ў выглядзе палаткі із халста, сьвятары і дыяканы служылі ім абедню пад гукі званоў і сьпеваў; у іх былі і школы, у якіх дзеці вывучалі вучэнне хрысьціянскай царквы. Там жа знаходзілі прытулак духоўныя асобы разных хрысьціянскіх краін, прыйшоўшыя прасіць пра мір, і задаволеныя вярталіся дадому з падарункам.

У 705 (1256) годзе памёр Вату (Батый), вялікі валадар Поўначы, а яго сын Сартак быў атручаны сваімі братамі праз зайдрасць, таму што згодна з загадам Мангу-хана (г. азн. Сьвятара) да яго перайшлі ўсе ўладанні яго бацькі, нават з дадаткам. Сьмерць Сартака моцна засмуціла хрысьціян, бо ён быў сапраўдным хрысьціянінам і часта быў выратавальнікам шматлікіх, далучаючы да хрысьціянскага веравызнання людзей свайго народа і чужых.

У 707 (1258) годзе смелы Гулагу ўзяў у персаў-мусульман Багдад на рацэ Тыгр і ўласнаручна забіў там мусульманскага Халіфа Муста-сара, а хрысьціяне, якія жылі ў Багдадзе, не зведалі шкоды.

У 1708 (1259) годзе Гулагу выправіўся ў Месапатамію і захапіў усе яе гарады і вобласьці, як пра тое падрабязна апавядаецца ў гісторыкаў Кіракаса і Бані-кана. Да яго прыйшоў армянскі патрыярх-каталікус, дабраславіў яго і быў ім аблашчаны. На працягу ўсяго часу пахода неадлучна знаходзіўся пры ім і наш армянскі цар Гетум, вызваляючы хрысьціян як духоўных, так і свецкіх. Ды аддасць яму бог сто кроць, адпушчэннем грахоў і даўгалеццем жыцця яму і дзецям яго, як ён таго пажадае!

У тым жа (1260) годзе было знішчана "татарскае" войска, пакінутае вялікім Гулагу для аховы Шамскай краіны, пад кіраваннем Кіт-бугі, таксама спавядаўшага хрысьціянскае веравызнанне. Ягіпецкі султан напаў на яго каля падножжа Фанарскай гары, карыстаючыся малалікносьцю яго войска, пабіў яго войска цалкам. Частка яго была забрана ў палон, а другая шукала выратавання ва ўцёках і з'явілася да армянскага цара, які выказаў ім вялікае чалавекалюбства. Забяспечаныя адзеннем, коньмі і харчаваннем (як тартары, так і хрысьціяне, аднолькава яму ўдзячныя), – дадае нейкі пазнейшы капііст, не жадаўшы лічыць тартараў  хрісьціянамі – вярнуліся да свайго гасудара. З тых часоў імя Хрыстова праславілася ў асобе Гетума паміж сваімі і чужымі".

---

[201] Патканаў, I, с. 8.

І тут, на 1261 годзе, калі ўпала Лацінская імперыя на Балканскай паўвыспе і грэкі зноў захапілі Цар-Горад, заканчваецца гістарычнае апавяданне Вардана і дадаецца рамантычнае апавяданне пра тое, як ён сам быццам бы ездзіў на спатканне да Вялікага Гулагу і вёў з ім літаральна апісаныя ім у сваім апавяданні ці, дакладней, цалкам прыдуманыя разумныя размовы.

"Я цябе прызваў, – закончыў іх Гулагу, – каб ты мяне пабачыў і даведаўся і каб ад усяго сэрдца маліўся за мяне.

Затым яны пілі (забароненае для мусульман) віно, а брацыя (г. азн. манахі) праспявалі царкоўны гімн і тое ж самае зрабілі прыехаўшыя туды грузіны, сірыйцы і грэкі"[202].

Закончыўшы гэтае фантастычнае месца, дзе без дапамогі сценаграфіі дакладна паўторана доўгая размова (якую я прапускаю), аўтар яшчэ паведамляе новую рамантычную падрабязнасць і пра самы свой рукапіс.

"У гэтыя дні (каля 1265 года) мой рукапіс разам з маімі служкамі патрапіў у рукі разбойнікаў за мае грахі. Людзі мае, дарэчы, вызваліліся ў той жа час, а кніга праз год з паловай была завезена разбойнікамі ў Тыфліс на продаж і куплена ў доме Мелера, аднаго із нашых братоў. За гэтую ласку, слава Госпаду ва ўсіх яго святых тварэннях, а яе пакупніку просім міласьці ў Хрыста".

Наколькі верагодны такія прыгоды рукапісу, патрапіўшага ў рукі неадукаваных разбойнікаў, прывезенага імі ў Тыфліс і вярнуўшагася да аўтара ў тым жа годзе, я пакідаю на суд чытача, а ў мяне склалася такое ўражанне: уся гістарычная частка "Гісторыі Вардана" уяўляе сабой пачатак нейкай гістарычнай кнігі, якая была даведзена да больш позняга часу, але абарвана на часе Вардана з дадаваннем да яе яго ўяўнай размовы з Гулагу.

Зараз перахожу да характарыстыкі татар ў "Гісторыі Манголіі" інака Магакія.

Я ужо згадваў, што паведамленні пра гэты рукапіс былі атрыманы толькі ў 1847 годзе, калі з яго была спісана копія, якая захоўваецца ў Азіяцкім музеі нашай Акадэміі навук. Магакій лічыцца жыўшым ужо пасьля Вардана, так як згадвае пра яго сьмерць.

"Ніякіх біяграфічных паведамленняў пра Магакія, – сведчыць Патканаў у прадмове да гэтай кнігі[203], – мы не маем. Ведаем толькі із яго рукапісу, што ён быў манахам нейкага кляштара. З некаторых месцаў тэкста можна зрабіць выснову, што ён атрымаў адукацыю пад кіраўніцтвам Вана-хана, але калі ён і вучыўся ў Вана-хана, то мяркуючы па складу яго кнігі, вучыўся дрэнна. Вядома, што ў армян з самага пачатку іхнай літаратуры і да XVIII стагоддзя ўключна мовай пісьмовасьці лічылася толькі адна, так званы "старажытналітаратурны", "грабар", а ў Магакія мы сустракаем цікавы ўзор гаворкі, якая вельмі падобная на сучасную народную гаворку".

Шмат якія яго формы, паказваемыя ў Патканава[204], чужыя старажытна-літаратурнай мове і сустракаюцца толькі ў сучасных нам гаворках. У яго прысутнічаюць словы і выразы цалкам не дапушчаныя ў армянскай літаратурнай мове, але існуючыя зараз у разных говарах армян.

"Знаўцу адной толькі старажытна-літаратурнай армянскай мовы, – працягвае Патканаў, – у кнізе Магакія будзе зразумелым толькі агульны сэнс, а не

---

202 Патканаў, I, с. 17-18.

203 Гісторыя манголаў інака Магакія XIII стагоддзя / Пераклад К. П. Патканава. 1871 г. с. 1 (Прадмова).

204 Гісторыя манголаў інака Магакія XIII стагоддзя / Пераклад К. П. Патканава. 1871 г. с. 1 (Прадмова).

прыватнасьці і адценні выказванняў. Яго нават нельга цалкам зразумець пры веданні адной старажытна-літаратурнай мовы. Неабходна вывучэнне разнастайных сучасных гаворак разам з вялікай колькасьцю чужых слоў, паступова навадніўшых армянскую мову і атрымаўшых ў ёй права грамадзянства. Таму для іншаземца, нават добра знаёмага з літаратурнай армянскай мовай, тэкст Магакія з'яўляецца цяжка пераадольваемым".

Здавалася б, ужо адных гэтых фактаў дастаткова, каб усумніцца ў старажытнасьці такой кнігі, але Патканаў абмяжоўваецца толькі мяркаваннем, што Магакій "дрэнна вучыўся ў Вана-хана", і быццам бы яго кніга даказвае зусім не блізкі час яе стварэння да нас, а тое, "як на здзіўленне мала змянілася народная мова ў Арменіі за апошнія 700 гадоў!"

Паглядзім зараз і на яе змест[205].

"Ад Ісава, сына Ісаака, пайшлі ісавіты, г. азн. скіфы, чорныя, дзікія, брыдкія. Ад іх нарадзіліся барсміджы (?) і лязгіны, жывучыя ў цясьнінах і ў засадах і робячыя шмат зладзействаў. Кажуць, што ідумэяне, г. азн. франкі, таксама паходзяць ад яго. З сумесі трох родаў: Агары, Кетуры і Ісава, пад уплывам зла паўстаў пачварны народ татары, што азначае: востры і лёгкі (?).

Ад саміх татараў[206] мы чулі, што яны са сваёй туркестанскай радзімы перайшлі ў нейкую ўсходнюю краіну, дзе яны жылі доўгі час у стэпах, займаючыся разбоем, але былі вельмі бедныя. Калі яны былі аслабелымі ад гэтага вартага жалю і бядотнага жыцця, іх раптоўна асяніў светлы разум: яны прызвалі сабе на дапамогу бога стваралніка неба і зямлі і далі яму вялікі зарок – вечна выканваць яго загады (г. азн. далі ордэнскі абавязак крыжакоў). Тады, згодна з загадам бога, зьявіўся ім анёл у выглядзе златакрылага арла і, размаўляючы на іхнай мове, прызваў да сябе іхнага валадара, якога звалі Чангыз (Konigus?). Гэты апошні пайшоў і спыніўся перад анёла-арлом на адлегласьці кінутай стрэлы, і арол паведаміў яму на іхнай мове ўсе загады божыя.

Вось гэтыя боскія законы, якія ён ім паведаміў і якія яны на сваёй мове завуць "ясак": шанаваць адзін аднаго; не прэлюбадзейнічаць; не ілжэсведчыць; не здраджваць; шанаваць старых і жабракоў (мы бачым тут амаль усе евангельскія запаведзі), і калі знойдзецца паміж імі хто-небудзь, парушаючы гэтыя законы, такіх аддаваць на сьмерць.

Даўшы гэтыя павучанні, анёл назваў валадара "каанам"[207], і ён з тых часоў стаў называцца Чангыз-Каан (Konigus-chan). І загадаў яму анёл валадарыць над шматлікімі мясцовасьцямі і абласьтямі і краінамі і памнажацца да бязмежнай колькасьці. Так і здарылася.

Калі гэты брыдкі і зверанаровісты народ даведаўся пра тое, што бог загадаў яму валадарыць на зямлі, то, сабраўшы войска, пайшоў на персаў і ўзяў у іх адзін горад (1-ы крыжовы паход). Але пэрсы, сабраўшы войска, забралі гэты горад назад і забралі ў іх яшчэ і іхныя ўласны. Тады "Татары", зрабіўшы заклік па ўсіх мясцовасьцях, дзе жылі іхныя плямёны (пар. заклікі рымскіх пап пры наладжванні крыжовых паходаў), кінуліся на персаў, перамаглі іх і завалодалі іхнымі гарадамі і ўсёй маёмасьцю.

---

[205] Там жа. с. 9

[206] Там жа.

[207] Г. азн. ханам – валадарачым святаром, адкуль і найменне Вацікан, г. азн. Дом-хана.

Гэтыя першыя татары[208], якія з'явіліся ў Верхняй краіне, не былі падобнымі на людзей, выгляд іхны быў жудаснейшы за ўсё, што можна выказаць. Галовы іхныя былі вялічэзнымі як у буйвалаў; вочы вузкія як у куранят; нос кароткі як у кошкі; скулы выдаючыяся як у сабакі; пояс тонкі як у мурашкі; ногі кароткія як у свінні. Барады ў іх цалкам не было (як у каталіцкіх патэраў і рыцараў). Пры ільвінай магутнасьці яны мелі голас больш пранізлівы чым у арла, і з'яўляліся там, дзе іх цалкам не чакалі. Іхныя жанчыны насілі востраканечныя шапкі[209], пакрытыя парчовай вуаллю (зусім як французкія таго часу), намазвалі твар румянамі і бяліламі. Яны нараджалі дзяцей, як яхідны, і кармілі іх, як ваўчыцы. Смяротнасць ў іх была ледзь заўважальная, таму што яны жылі да 300 гадоў (!) і хлеба не ўжывалі. Такімі былі тыя татары, якія ўпершыню з'явіліся ў верхняй краіне".

Мне здаецца, чытач, што аднаго гэтага апісання дастаткова для таго, каб аднесьці аўтара (інака Магакія) да такога часу, калі выразныя ўспаміны пра татараў, упершыню з’явіўшыхся ў Грузіі і Арменіі пад час разгару крыжовых паходаў, ужо зніклі сярод насельніцтва і дефармаваліся ў жахлівыя выявы, але тым большую цікавасць уяўляюць для нас некаторыя перажыткі ранейшай рэчаіснасьці, выяўляючыяся ў тым, што заваёўнікі галіліся і што іхныя дамы насілі высокія галаўныя ўборы. Ды і само апісанне іхных кавалераў з головамі як ў буйвалаў, з вачамі вузкімі як у куранят, з насамі як у катоў, нагамі як у свінні, і таліямі як у мурашак, – з’яўляецца толькі відавочна карыкатурным адлюстраваннем рыцара крыжовых паходаў у поўным узбраенні. Да такіх жа парэшткаў ранейшай рэчаіснасьці я адношу і тры астранамічныя з'явы, апісаныя "манахам Магакіем".

"Тры вайсковыя правадыры татар, – паведамляе ён, – прыйшлі ў Грузію і Агванію і захапілі шмат гарадоў і ўмацаванняў. Першага звалі Чорман, другога Бональ і трэццяга Муляр[210].

Тады ж з’явілася камета, трымалася некалькі дзён і знікла[211]. І ў тыя ж дні адбылося сонечнае зацьменне, працягваўшаяся ад 6 гадзін дня да 9 гадзін".

Вардан адносіць гэтае нашэсьце татар да 1225 года, але перад ім не было ніякіх камет. Бліжэйшая камета была ў 1222 годзе, бачная з верасня па лістапад у Скарпіёне і Шалях. А што да сонечнага зацьмення "у тыя самыя дні", то такага не было ні ў 1225 ні у 1222 годзе. За ўвесь час із сонечных зацменняў былі бачнымі толькі ранішняе 13 траўня 1221 года, ды таксама ранішняе 28 снежня 1228 года. Не больш дакладна апісваецца і другая камета, згадваемая "манахам" Магакіем.

"У тыя дні (г. азн. перад сьмерцю хрысьціянска-татарскага пабожнага хана Гулагу.)[212], – паведамляе ён, – з’явілася паласатая зорка. Яна ўпершыню з’явілася раніцай у суботу, пад час сьвята кіёта. Хвост і прамяні яе павялічваліcь з дня на дзень. Спачатку яна з’яўлася раніцамі, а праз некалькі дзён апоўдні (?), і такім чынам штодня замедляючы сваё ўзыходжанне, яна пачала паказвацца вечарам у 11 гадзін. Прамяні яе з усходу даходзілі да сярэдзіны нашай зямлі і да таго памножыліся, што прывялі ў жах усіх жыхароў, ніхто з іх не бачыў на зямлі нічога

---

[208] Там жа. с. 7.

[209] Жонкі князёў носяць шапку, нлеценую із драту вышынёй каля 3 футаў; яе упрыгожваюць парчой або золатам і жэмчугам. Над ёю яшчэ узвышаецца палка, упрыгожаная фіялетавай бахрамой... Жанчыны часам намазваюць сабе твар жоўтымі бяліламі. Гл.: Васільева ў "Запісках імператарскага археалагічнага таварыства". Том XIII, 1859 г.

[210] сугучна з Charmoi, Bonal и Moulard.

[211] Там жа. с. 9.

[212] Там жа. с. 39.

падобнага. Павялічваючы свае прамяні ў даўжыню і шырыню, зорка заставалася ў такім выглядзе да пачатку зімовых месяцаў, а пасьля таго тым жа шляхам паступова пачала памяншацца ў аб'ёме так, што патрохі святло яе прамянёў пачало слабець, і яна перестала быць бачнай.

Хан Гулагу адразу зразумеў, што з'яўленне зоркі мела дачыненне да яго, і таму ён упаў ніц перад Госпадам і пакланіўся яму. Яго жах павялічыўся, калі святло прамянёў зоркі пачало слабець. Увесь свет заўважыў, што прамяні зоркі падаўжыліся настолькі, наколькі працягваліся ўладанні Гулагу. Дасягнуўшы гэтай мяжы, яны пачалі слабець. Гулагу пражыў пасьля таго толькі год і знік з твару зямлі, пакінулі 30 сыноў. У тым жа годзе памёрла яго пабожная дама Тавус, і іхная смерць выклікала вялікую скруху ў асяроддзі ўсіх хрысьціян".

Згодна з Кіракасам, Гулагу памёр у 1265 годзе, а ў ліпені 1264 гада сапраўды з’явілася вялічэзная, працягваючаяся на сто локцяў, камета ў Гідры. Яе бачылі спачатку на паўночным-захадзе вечарам, яна прайшла праз Вялікую Мядзведзіцу і пасьля гэтага была відаць на ўсходзе на працягу 40 дзён[213].

Але толькі якім жа чынам у "інака" паказаны яе адваротны ход па небе? Замест першага яе з'яўлення вечарам ён паказвае яе ранішняе з’яўленне, а замест апошніх з'яўленняў раніцай дае вячэрнія. Чым патлумачыць такую супярэчнасць?

Мне здаецца, тым жа, чым і апісанне жудаснай знешнасьці татар. Ён, відавочна, карыстаўся і Варданам, і Кіракасам і, магчыма, еўрапейскімі паведамленнямі, але з нагоды неспрактыванасьці ў астраноміі пераблытаў раніцу з вечарам, так як ніколі гэтай каметы сам не назіраў. Ды і наогул уся яго кніга поўніцца супярэчнасьцямі. У сваіх агульных разважаннях ён абвяшчае татар ганіцелямі хрысьціян, а ў прыводзімых фактах апісвае іх абаронцамі тых жа хрысьціян ад магаметан. З нашага боку гледжання, гэта тлумачыцца тым, што заходне-еўрапейскія папскія крыжакі сапраўды пераследавалі грэцкае святарства нароўні з магаметанамі і апекавалі насаждваемых замест яго рымскіх клірыкаў. Бо гэта ж самае яны рабілі і на Балканскай паўвыспе, і ў Азіі і нападалі на праваслаўных нават з дапамогай далучыўшыхся да ўніі армян і грузін[214].

"Вялікія і незалежныя грузінскія князі, – працягвае "інак", – хто воляй, хто няволяй, зрабіліся іхнымі даннікамі, і кожны з вядомай колькасьцю вершнікаў, у залежнасьці ад стану, ішоў да іх з нагоды вайсковага абавязку. З іхнай-та (хрысьціянскай) дапамогай татары бралі нескарыўшыяся гарады і ўмацаванні, рабавалі, паланілі і без жалю аддавалі на смерць мужчын і жанчын, святароў і манахаў, вялі ў рабства дыяканаў, без жаху рабавалі хрысьціянскія цэрквы і цудатворныя парэшткі сьвятых пакутнікаў; крыжы ж і святыя кнігі кідалі прэч, як нешта нягоднае, зняўшы з іх каштоўныя ўпрыгожванні.

Як мне апісаць гора і бедствы гэтага часу? Пра што апавядаць? Ці пра гвалтоўнае разлучэнне бацькоў з дзецьмі; ці пра страту маёмасьці; ці пра знішчэнне полымем найпрыгажэйшых палацаў; ці пра забойства дзяцей у абдымках маці і вядзенне ў палон босымі і голымі пяшчотнавыхаваных юнакоў і дзяўчат?... Гора мне нявечнаму! Мне здаецца, што ўсё гэта адбывалася за грахі мае!"

Тут ужо відавочная папярэдне спланаваная падробка пад відавочцу! Бо і ўлічваючы фантастычнае апісанне зацьменняў і камет, і жудаснае апісанне татар з галовамі як ў буйвалаў, з вачамі як у куранят, скуламі як у сабак, і таліямі як у

---

[213] "Хрыстос", Кн. VI, с. 108.
[214] Патканаў I, с. 12.

мурашак, відавочна, што ён іх ніколі не бачыў. Якае ж дачыненне маюць да гэтага "мае грахі"?

"У гэты бядотны час, – працягвае манах Магакій, – ззяў, як сонца на ўсходнім зямлі, святы настаўнік наш Вана-кан, празваны другім Усходам, напоўнены святлом і ведамі ўсёведуючага сьвятога духа. Не шкадуючы працы і турбот, ён без платы раздаваў духоўную ежу, словы духоўнага вучэння, будучы падобным на нябеснага настаўніка Хрыста лагоднасьцю, пакорай, маўклівасьцю, вялікадушнасьцю. Дакладна так жа і годныя яго вучні: Вардан, Кіракас, Аравел і Аўсеп, падзяліўшы паміж сабой крыжападобную ўсходнюю краіну, прасвяцілі яе жыватворным вучэннем святога духа (г. азн. прапаведуючы зыходжаньне сьвятога духа не толькі ад бога-бацькі, але і ад бога-сына), прыносячы ўсюды хроснае жазло гасподняе, пераймаючы ва ўсім слаўнаму настаўніку свайму і выконваючы загад Госпада: "дарэмна атрымалі вы, дарэмна і аддавайце". Ды даруе Хрыстос-бог ім жыццё на славу царкве сваёй на доўгія часы! Амэн!"

Але гэта магчыма пагадніць з папярэднімі радкамі толькі ў тым выпадку калі дапусьціць, што Вардан і тры яго службоўцы, як і татары, былі папістамі. Толькі з такога боку гледжання можна патлумачыць і наступнае за гэтым паведамленне.

"У 688 годзе армянскага злічэння (1289 год) Багу-нуін, татарскі правадыр, сабраў войска і з незлічоным мноствам пайшоў на горад Карын (Эрзерум[215]). Праз два месяцы аблогі ён захапіў яго, без жалю парабаваў і разбурыў гэты заможны і квітнеючы горад. Татары абязлюдзілі кляштары і дзіўныя цэрквы, адвёўшы жыхароў у палон і абрабаваўшы іх. Князі армянскія і грузінскія ў гэты час набылі (як іхныя хаўруснікі) шмат богаслужбовых кніг, жыціі святых апостолаў, пракрокаў, здзяйсненні і пісанныя золатам евангеллі, упрыгожаныя раскошай, у славу і благалепіе дзяцей Новага Сіёну, і павезлі іх ва ўсходнюю краіну, дзе напоўніл імі свае (папістцыя) кляштары. Праз год народ стралкоў зноў пачаў збірать войска, да якога далучыліся таксама князі армянскіе і грузінскія. З незлічоным войскам яны пайшлі на Румскую краіну (на Турэччыну?) пад правадырствам Бачу-нуіна, які меў поспех ў змаганнях і пастаянна перамагаў сваіх супернікаў. Нагодай гэтых перамог былі тыя ж грузінскія і армянскія князі, якія, утвараючы перадавыя атрады, з моцным націскам кідаліся на непрыяцеля, і ўжо за імі татары пускалі у справу свае лукі і стрэлы. Як толькі яны прыйшлі ў Румскую зямлю, выступіў супраць іх султан Чыят-адан са 160000 чалавек.

Пры наступленні вечера бой заціх, і абодва войскі размясьціліся лагерам адно супраць другога, сярод далін паміж Кары-яом-Эрзерумам і Езенгай. На світанні наступнага дня татарскае войска з армянскімі і грузінскімі хаўруснікамі зноў сабраліся, каб наступаць на войска мусульманскага султана. Пусціўшы коней ва ўсю моц, яны рынуліся на лагерь, але не знайшлі ў ім нічога акрамя палатак, напоўненых вялікай колькасцю харчовых прыпасаў. Каля дзвярэй палаткі султана былі прывязаны дзікія звяры: тыгр, леў, леапард. Што ж да самаго султана, то ён збег ноччу з усім сваім войскам.

Заўважыўшы яго адсутнасць, татары пакінулі для аховы палатак невялікі атрад, і, падазраючы вйсковую хітрасць, з усім войскам кінуліся ўслед за султанам, але нікога не змаглі дагнаць, так як тыя ўжо паспелі схавацца ва ўмацаваннях сваёй краіны. На другі дзень усе бадзёра выступілі ў паход на заваяванне румскіх (турэцкіх) уладанняў; захапілі Езенгу, дзе прызначылі свайго шахана, захапілі Кесарыю, захапілі Іканію і ўсю краіну з яе вялікімі вёскамі і кляштарамі; пайшлі на

[215] Там жа. с. 14.

Севасьцію, захапілі яе з дапамогай гармат, але не забілі людзей, а абмежаваліся тым, што парабавалі іхную маёмасць, перапісалі ўсіх жыхароў і прызначылі ім падаткі згодна са сваім звычаем"[216].

Але гэта ж, чытач, быў сапраўдны крыжовы паход татар, армян і грузін, і як раз у разгар чацвёртага крыжовага пахода!

Вось яшчэ характэрная рыса для руплівага заступніка хрысьціян татарскага хана Гулагу:

"Ён быў адукаваны, справядлівы, караў сьмерцю толькі злых і сваіх ворагаў, а да добрых і пабожных быў міласэрдны. Хрысьціян ён шанаваў больш за іншыя народы. У насмешку над магаметанамі, лічыўшых свінню за нячыстую жывёлу, ён разаслаў ва ўсе мусульманскія гарады да 2 000 свіней, загадаўшы прызначыць ім пастухаў із магаметан і мыць іх кожную суботу (г. азн. у дзень юдэйскага адпачынку) мылам і акрамя травы карміць міндалем і фінікамі. Звыш таго ён даў загад караць сьмерцю ўсякага таджыка (перса), без увагі на стан, калі той адмовіцца есьці свініну. Вось такую павагу ён выказваў да мегаметан! Такія ўчынкі Гулагу рабіў, жадаючы дагадзіць сваім армянскім і грузінскім князям, якіх ён вельмі шанаваў за іх пастаянную адвагу ў бітвах. Ён называў іх сваімі асілкамі, а маладых і прыгожых іхных дзяцей прызначал у сваю варту з правам насіць лук і меч. Яны мелі назву касіты, г. азн. гвардыя.

Пасьля таго Гулагу пачаў аднаўляць разбураныя ім мясьціны, г. азн. больш дакладна засноўваць пасяленні, дзе іх не было[217]. Для гэтай мэты ён даў загад вызначыць працаўнікамі із кожнага населенага месца, із малога па адным, із вялікага па два і тры чалавекі і выправіў іх аднаўляць разбураныя мясьціны, у якіх жыхары вызваляліся ад усіх падаткаў, але былі абавязаны даваць хлеб і поліўку для падарожнічаючых татар.

Пасьля таго ён даў загад сабраць па два чалавекі із кожнага десятка свайго войска[218] і пад правадырствам Кіт-бугі выправіць іх на Алепа і Дамаск (якія былі тады ў руках магаметан). Узяўшы Алепа, татары бязлітасна зьнішчылі (магаметанскіх) жыхароў горада, частку іх павялі ў няволю і набралі пры гэтым шмат здабычы. Сам Гулагу таемна ішоў за войскам. Даведаўшыся пра заваяванне Алепа, жыхары Дамаска здалі горад і гарадзкія ключы асабіста Гулагу. У той час горад Ерусалім і святая труна з часоў султана Саладзіна знаходзіўся пад уладай мусульман. Даведаўшыся пра гэта, Гулагу пайшоў і на Ерусалім, узяў яго і, увайшоўшы ў храм святога Ўваскрасення, пакланіўся святой труне і вярнуўся ва ўсходнюю краіну.

Між тым татарскі правадыр Кіт-Буга, які не прыняў засьцярог, зайшоў у непрыяцельскую зямлю на 10 дзён шляху ніжэй Ерусаліма. Даведаўшыся пра гэта, паганыя і бязбожнікі ягіпцяне з вялікім войскам напалі на яго татараў, часткова вынішчылі іх, часткова вымусілі ўцякаць, шмат каго ўзялі ў палон і ўслед за тым забралі назад Ерусалім, Алепа, Дамаск. Усё гэта было здзейснена з дапамогай франкскіх рыцараў, якія ў той час яшчэ (??) не заключылі хаўрус з татарамі. Так гэта адбылося!"

І гэта цалкам адпавядае паведамленням заходне-еўрапейскіх гісторыкаў. Вось хаця б у Лавіс-Рамбо (т. III, с 882) чытаем: "генерал, кіруючы мангольскім войскам Най-ман Кіт-бука, быў хрысьціянінам" і, нягледзячы на гэта, тампліеры і

---

[216] Там жа. с. 17.
[217] Там жа. с. 35.
[218] Там жа. с. 38.

гаспітальеры выступілі супраць "манголаў" і забілі іхных амбасадараў" (Куглер. "Гісторыя Крыжовых паходаў", с. 404). Вынікае, што "манголамі" зваліся тэўтонскія рыцары, варагаваўшыя як прыхільнікі германскай імперыі з тампліерамі як прыхільнікамі папы, адпаведна гібелінам і гвельфам.

Пяройдзем зараз да характарыстыкі татар і ў іншай армянскай кнізе, у "Гісторыі Стэфана Арбеліяна, сюнійскага мітрапаліта"[219].

"Абудзіў бог на Ўсходзе, – сведчыць ён, – у краіне Чын і Мачын, за межамі Хадастана народ Стралкоў, г. азн. Мугалаў[220], называемых просталюдзінамі татарамі, народ без бога і рэлігіі, але шанаваўшы натуральныя законы; ненавідзеўшы брудныя заганы і ўсе гнюсныя здзяйсненні, добрамыслячы адзін да аднаго, руплівы і пакорны свайму правадыру; справядлівы ў сваіх меркаваннях і справах; норавам жабрак і ахвочы да набыцця і таму рабаваўшы і прыгнятаўшы іншыя народы; знешнасьці прыгожай, але з тварам безвалосым, як у жанчын (відавочна таму, што рыцары і каталіцкія манахі галіліся); знаёмы з хрысьціянскай верай і лашчыўшы хрысьціян, спрытны ў выпусканні стрэл і вынаходлівы ў справах, меўшых дачыненне да вайны. Але хутка, – папраўляе аўтара перапісчык, перамяшчаючы ў пачатак тое, што было ўжо на самым заканчэнні, – мугалы кінулі свае родныя норавы і звычаі бацькоў. Яны прынялі вучэнне Магамета, з нагоды чаго навучыліся ўсім мярзотам і заганам і пачалі весьці распутнае жыццё.

Яны падзяліліся на тры арміі:

Першая пайшла на паўночны ўсход, у краіну хазараў (вугорцаў), сутагаў (?), рускіх, чаркасаў (г. азн. чаркаскіх казакаў на Доне) і баўгар і забрала землі да межаў алеманаў (германцаў) і ўнгараў, г. азн. франкаў (тлумачэнне аўтара ). На чале гэтай арміі стаяў Бату-хан.

Другая армія, пад правадырствам Агата-(Гата?)-Хана, пайшла ў накірунку да Індыі і захапіла яе вялікую частку. Татары гэтай арміі падпарадкавалі сабе уйгураў, угузаў, харэзмійцаў, далемікаў, узялі Алмалех, Бешбалех і ўсе землі, знаходзіўшыяся ў тых краінах.

Нарэшце, трэцяя армія, узяўшы сярэдні накірунак паміж двума першымі, перайшла вялікую раку Джаган, якую яны на сваёй мове завуць Аму-Маран (Аму-Дарья?). Ваяры гэтай арміі, падобна бурнаму віхуру, ўварваліся ў нашу краіну, падпарадкавалі сабе за кароткі час ўвесь сусвет, перамаглі і спустошылі ўсе царствы; захапілі Харасан і разбурылі шматлюдныя гарады: Балх, Хра, Маўр, Нашавур, Туе і Дамган; захапілі Худжы-стан, Лары-стан, Персію, Курды-стан, Арабі-стан, захапілі Дыярбек у Асірыі, Шустэр, Кірман, Багдад, Басру да горада Армуза на Індыйскім моры; скарылі Азербайджан, Аран (Іран), Арменію, Грузію і частку Румскіх (Малаазійскіх) уладанняў да Анкары і Гангра (д. б. Кянкары), Смірну Эфескую, Кілікію да Акіяна і Транквеант каля Пантыйскага мора; завалодалі Шамам (Сірыяй), захапілі Вургу, Харан і ўсю прастору да Гама і Гамса.

Перш за іншых у нашу краіну прыйшлі Чарма-ган, Чага-тай, Аслан, Асавур і Гата-хан і захапілі яе ў 685 (1236) годзе. Пасьля іх прыйшоў Гулагу-хан[221], унук вялікага Чынгіз-хана, і пакарыў усё, што імі яшчэ не было заваявана. Ён узяў Багдад, дзе забіў халіфа ў 707 (1258) годзе, і захапіў Муфаргін ў 708 (1259) годзе пасьля гадавой аблогі. Ён дайшоў да самога Ерусаліма, захапіў Алепа (г. азн.

---

[219] Патканаў, I, с. 31-36.

[220] Тут ужо не манголы, а прама мугалы ад грэцкага наймення мегалы (μεγαλος) – вялікія людзі. Пры гэтым аўтар выказваецца пра іх, як пра ранейшых людзей.

[221] У Францыі са старажытных часоў вядома прозвішча Malevy.

Верыю), Дымышк, (г. азн. Дамаск), Балбек, (г. азн. Арэг), вялікую Антыохію, якая сдалася добраахвотна, забраў Ерусалім ў ягіпцян і паўсюдна паказаў подзвігі асабістай адвагі. І так як вельмі шанаваў хрысьціян, то ўсе верныя народы падпарадкаваліся яму добраахвотна і дапамагалі яму ў яго прадпрыемствах".

Мы бачым, што тут апісаны першы Крыжовы паход паміж 1096 і 1100 гадамі, але са спазненнем храналогіі на 160 гадоў, што магло лёгка здарыцца, дзякуючы разнастайнасьці тагачасных летазлічэнняў. Але далей храналогія аўтара пачынае больш адпавядаць агульнапрынятай сучаснымі гісторыкамі.

"Гэты Гулагу, вялікі і дабрачынны валадар, надзея і апірышча хрысьціян, памёр у 713 (1264) годзе. У той жа час памёрла і яго пабожная жонка, Дохуа (Duchess?), абодва атручаныя падспудным Хаджа-Саібам. Ведае бог, ці былі ў пабожнасьці яны ніжэй Кастуся і яго маці Алены! Яны царавалі 8 гадоў. Яго пераемнікам быў яго сын, Абака, муж лагодны, добры, міралюбівы і схільны да хрысьціян. Пасьля 18-ці гадовага царавання, азнаменаванага перамогамі і дабрабытам, ён памёр у Гаміане ў 731 (1282) годзе, кімсьці атручаны".

Гэта было праз 21 год пасьля выгнання крыжакоў із Цар-Горада грэкамі, і вось мы чытаем далей пра вынікі такой паразы крыжакоў.

"Пасьля сьмерці Абака-хана ў 731 (1282) годзе на ханскі пасад сеў яго пляменнік Такудар (Tangodor), які, назваўшы сябе Ахматам, адважыўся выкараніць хрысьціянства і перавесьці ўсіх у мусульманскае веравызнанне. Вясной ён з незлічоным войскам выступіў у Харасан супраць Аргуна, сына Абака-хана, з мэтай забіць гэтага хрысьціянскага спадкаемцу пасада. Ён схапіў яго і прывёз з сабой. Але хрысьціянскі бог павярнуў да Аргуна сердцы вяльможаў, якія ў тую ж ноч вызвалілі яго із ланцугоў і абвясьцілі царом, а Ахмата і яго прыхільнікаў аддалі мячу. Паміж саноўнікамі Аргуна знаходзіўся і грузінскі цар, Дземетра, якога Аргун узвысіў і аддаў яму пад кіраванне ўсю Арменію. Дземетра радасна вярнуўся на радзіму ў суправаджэнні грузінскіх і армянскіх дваран і князёў. Калі ён дайшоў да Шарура, да яго насустрач выйшаў (татарскі прадстаўнік) Тарсаідж і ўшанаваў яго вялікімі ўшанаваннямі і царскімі падарункамі... Стаўшы ата-бегам Арменіі Тарсаідж да таго быў міласэрным і спачувальным да ўсіх, што ў вёсцы Нэцік на рацэ Гураздан у гонар яго ўзвялі крыж.

Але неўзабаве біскупы, якія жылі ў Тацеве, падахвочаныя зайдрасьцю, паспелі пасеяць шмат раздораў і гэтым прынесьлі царкве шмат шкоды... Цер-Сцяпакас, армянскі мітрапаліт, сам выправіўся да вялікага валадара Аргуна, паказаўшы яму ліст армянскага каталікоса, г. азн. патрыярха, і растлумачыў усе акалічнасьці справы. Той з вялікай пашанай прыняў яго і ў адзнаку сваёй прыхільнасьці даў загад, згодна з іхнымі звычаямі, напісаць яму ярлык, у якім зацвердзіў за ім уладу над усімі цэрквамі, царкоўнымі валоданнямі і біскупамі, даў яму ад свайго двара праваднік і выправіў яго дадому (але толькі хто ж, акрамя папы або яго прымаса, мог гэта зрабіць?)".

"Гулагу, – працягвае аўтар у главе 69-й, – першым із народа стралкоў (не інакш як крыжакоў!) працараваў у нашай краіне на працягу 8 гадоў; пасьля яго старэйшы яго сын Апага – 18 гадоў; за ім Ах-мат, пляменік Апага, а пасьля яго Аргун на працягу 7 гадоў. Нагодай яго сьмерці была вельмі кахаемая ім наложніца, якая атруціла яго ў Муганскай раўніне, у дзень святога Хведара.

Вайсковыя правадыры і вышэйшыя саноўнікі двара падзяліліся на дзве партыі: адны запрашалі на пасад Байто, сваяка Аргуна із Багдада; другія паспяшаліся з прыездам Кехату, брата Аргуна, быўшага ў Румскай краіне (Малой

Азіі). Гэты апошні паспяшаўся прыбыць і заняў ханскі пасад у 740 (1291) годзе. Ён даў загад прыгатаваць діркемы і дакеканы із паперы і заверыў іх надпісам і пячаткай, маючы на ўвазе вывесьці із ужывання срэбраныя грошы, а замест іх ўвесьці ў гандаль папяровыя. І гэты загад быў абнародаваны ва ўсіх гарадах і з усёю строгасьцю прыведзены ў выкананне.

Аднак на 5 годзе яго царавання ўспыхнуў мяцеж пры яго двары. Змоўшчыкі схапілі Кегату і задушылі, пры гэтым забілі і ўсіх яго прыхільнікаў. Затым яны выправіліся на сустрэчу з Байто і з вялікай радасьцю абвясьцілі яго ханам і царом над усімі краінамі, у даліне Срав".

З'яўляецца пытанне: дзе ж гэтае месца Срав, якое не магло быць нікчэмным, калі ў ім прысвячалі на царства? Спецыялісты, прыхільнікі ўсходнічаскага накірунку, знайшлі горад Сераб у Азербайджане, паміж Ардэ-білем і Танрызам[222]. Але ж Сераб тое ж самае слова, што і серб, а таму мае права на існаванне і пытанне: ці не з'яўляецца назва парэшткаў ранейшых уяўленняў, што татары, хрысьціянства якіх так падкрэсліваецца армянскімі пісьменнікамі, прыйшлі із Сербіі?

Вось, напрыклад, што паведамляе аўтар у 70 главе: "Хутка пасьля нашага вяртання із Кілікіі мы выправіліся да валадара Аргуна і адрэкамендаваліся яму. Хан Аргун прыняў нас з вялікай пашанай і ласкай, так сведчыць Стэфан Арбеліян, мітрапаліт Сюнійскі, аўтар гэтай гісторыі (г. азн. аўтар выказваецца сам пра сябе ад імя трэццяй асобы!). Ён новай граматай падцвердзіў за намі нашы свецкія і царкоўныя ўладанні... і даў нам загад браць удзел у вызваленні новай царквы, дасланай яму рымскім папай. У гэты час пры яго двары знаходзіўся каталікос Нестар (наўрад ці такое імя было не ў нестарыяніна) разам з 12 біскупамі, і мы з іхнай дапамогай асьвяцілі царкву. Сам Аргун ўласнаручна апранаў нас у святарскае адзенне, пакрой якога сам вызначыў для каталікоса, для нас і для біскупаў. У той жа час ён са званочкам у руцэ абыходзіў лагер, званіў у яго і дабраслаўляў усіх (г. азн. быў прысвечаны ў духоўнае званне). Хутка пасьля гэтага прыбыў ад таго ж папы біскуп, ахрысціў малодшага сына цара і назваў яго Хвядосам, татары ж назвалі яго Харбанда (служка асла, пераіначыўшы так арабскае слова Хадабендэ – служка бога). Ён прыняў нас з такой жа пашанай, як і яго брат, і новай граматай падцвердзіў нашы правы. Пасьля ўцаравання Газана мы адрэкамендаваліся і яму, і ён прыняў нас з яшчэ большай пашанай, чым яго папярэднікі. Ён ўдвая падцвердзіў тую ж грамату і даў нам загад насіць перад ім крыж у нашых падарожжах. Пры гэтым ён падараваў нам залатую плітку ў 1½ чвэрці, на якой было пазначана найменне бога, хана і некалькі іншых словаў".

Але вось дайшлі мы, нарэшце, і да такога моманту, калі адрэзаным ад Рыма зачарнаморскім каталікам, дзякуючы заваяннню грэкамі Цар-Горада ў 1261 годзе і пераможнаму наступленню турак, нічога не заставалася рабіць, як адмовіцца ад перамагаўшага ватыканскага бога і прызнаць бога турак або грэкаў або, нарэшце, абвясьціць незалежнасьць сваёй нацыянальнай царквы.

У сувязі з гэтым, мы чытаем ў таго ж Стефана Арбеліана[223]: "Між тым з надыходам восені прыбыў (прыняўшы магаметанства) Газан із Харасана з усім харасанскім войскам, званым каравунас (караваны) і выступіў супраць хрысьціяніна Байто, патрабуючы ў яго саступкі бацькоўскага пасада. На чале харасанскага войска знаходзіўся вялікі і дабрачынны Хутлу-шах, г. азн.

[222] Патканаў, І, с. 94.
[223] Патканаў, І, с. 97.

"благадатны цар" і непераможны ў бітвах, хітры мусульманін Наўруз, імя якога ў перакладзе азначае – Новы год. У той час усе (г. азн. ўнукі крыжакоў, перамешаныя з мясцовым насельніцствам і страціўшыя сувязь з радзімай) ужо пакінулі свае родныя веравызнанні і прынялі мусульманскае веравызнанне.

Ненавіснік хрысьціян і вораг цэркваў Наўруз, падобна імкліваму віхуру, ішоў на чале перадавога атрада, званага магла (мангла – азначае перадавое войска) і знішчыў войска, ахоўваўшае шляхі зносін. Вестка пра паразу ўрадавага войска мела наступствам жахлівае непаразуменне ў палацы, з нагоды чаго вялікі тысяцкі Тачар перайшоў на бок Наўруза. Натхненне пакінула усіх прыхільнікаў Байто: яны пакінулі яго і збеглі, збег і сам неразумны Байто да Дукала, які са сваім войскам ў той час знаходзіўся у Нахічаванскай даліне, на беразе Аракса. Але Дукал пры яго з'яўленні спалохаўся і страціў усю прысутнасць духу: яго вайсковыя правадыры схапілі Байто, а выправілі да Газана, а самі разышліся ў разныя бакі.

Такім чынам Хутлу-шах і Наўруз, амаль без вайны і бітваў, завалодалі ўсімі краінамі і ўзвялі Газана на пасад яго бацькі Аргуна.

Ненавіснік бога Наўруз паўсюдна абнародваў загад разбурыць цэрквы, парабаваць хрысьціян і абрэзаць святароў. Так было разбурана шмат цэркваў, забіта шмат святароў, знішчана шмат хрысьціян. Тыя, хто пазбеглі мяча, страцілі ўсю сваю маёмасць. Жанчыны і дзеці былі натоўпамі забраны ў няволю. Самыя моцныя пераследы адбываліся ў Багдадзе, Масуле, Гама-дане, Таўрызе, Маразе, у Румскіх краінах і ў Месапатаміі. У нашых межах парабавалі нахічэванскія цэрквы, паланілі і закатавалі шматлікіх святароў, знішчылі вароты свяцілішчаў, скінулі з месцаў ахвярнікі. Але галоўныя вайсковыя правадыры не дазволілі "татарам" цалкам разбурыць цэрквы, асьцерагаючыся грузінскіх князёў. Частка Арменіі, праз якую цячэ Аракс, засталася дзякуючы богу, некранутай. Яны схапілі жыўшага ў Маразе сірыйскага каталікоса, закатавалі яго да сьмерці і забралі ўсю яго маёмасць. У кляштары, дзе знаходзілася труна сьвятога апостола Фадзея, разбурылі ўсе будынкі, парабавалі і знішчылі ўсё да падставы... Цар армянскі Гетум, які выправіўся вітаць Байто, прыбыў туды падчас пераследаў, жывучы ў Марагскай царкве, дзе ў той час была рэзідэнцыя сірыйскага каталікоса, ён неаднаразова сам зведваў шматлікія ўціскі. Але, нягледзячы на гэта, ён паспеў дабрацца да Газан-хана і быў ім прыняты з вялікімі ўшанаваннямі. Адрэкамендаваўшыся хану, ён давёў да яго ведама пра ўсе ўціскі, якія зведваюць хрысьціяне. Газан прыкінуўся невінаватым і ўсе зваліў на Наўруза:

"Я нічога не ведаю, усё гэта зрабіў Наўруз", – адказаў ён і адразу ж даў загад напісаць і разаслать ва ўсе месцы грамату, якая забараняла б чапаць хрысьціян і іхныя цэрквы і рабіў наказ жыць усім у міры і захоўваць веру, якую мае кожны. З таго часу пераследы некалькі паменшыліся, і цар Гетум, дараваны ўшанаваннямі і адзнакамі, мірна вярнуўся ў сваю краіну Кілікію.

А Наўруз, калі яго замыслы былі выкрыты, выдаліўся ў аддаленыя мясцовасьці Харасана. Кутлу-шах з вялікім войскам кінуўся яго пераследаваць, і бог выдаў яму ў рукі праклятага. Кутлу-шах зьнішчыў яго з твару зямлі, прычым князі нашы, Ліпарыт і Еачы, плявалі яму ў твар і наносілі жорсткія абразы".

Гэтым я і закончу свае выпіскі са Стэфана Арбеліяні. Мы бачым, што нягледзячы на прымешкі белетрыстыкі да ўжо ўсталяваўшагася ілжывага ўяўлення пра "манголаў" як пра прыхадняў з усходу, а не з захаду (што, вядома, было зроблена ўжо пазнейшымі перапісчыкамі-карэктарамі), у яго захаваліся вельмі выразныя сляды "татрскага" крыжацтва ў перыяд першага і чацвёртага крыжовага

паходаў, аж да скасавання Лацінскай імперыі Балдуіна ў 1261 годзе, пасьля чаго, як я ўжо казаў, унукі крыжакоў, ужо страціўшыя, як заўсёды бывает з ўнукамі перасяленцаў, мову сваёй аддаленай радзімы і ўсякую сувязь з ёю і ассіміляваўшыяся як згодна з адзеннем так і светапоглядам з насяленьнікамі сваёй новай радзімы, перайшлі пад уплывам сваіх новых валадароў да мусульманства або да прымірыўшагася зараз з мусульманамі грэцкага і армянскага праваслаўя.

З гэтай нагоды ў далейшых пакаленнях страціліся і самі ўспаміны пра іхнае крыжацкае паходжанне, якое сучаснаму думаючаму гісторыку даводзіцца аднаўляць па лінгвістычных слядах і па ўрыўках ісьціны ў міфічных паданнях, праглядаючых то тут, то там, як выспачкі ў затопленай навадненнем мясцовасьці.

Гэтым вызначаецца і маё стаўленне да сучасных даследаванняў А. Ю. Якубоўскага пра "феадалізм на Ўсходзе". Уся разніца паміж мной і ім заключаецца толькі ў тым, што ён не аспрэчвае ўсталяванае гісторыкамі старой школы паходжанне сярэднеазіяцкіх феадалаў із пустыні Гобі, а я вывожу іх із цэнтра тагачаснага феадалізму – Заходняй Рымска-Германскай Імперыі.

Вось, напрыклад, рэзюмэ яго даклада на сесіі Акадэміі Навук 21-25 сакавіка 1935 гада пра паўстанне Тарабы. Замяніце ў ім на слова “крыжакі” слова "манголы", з якім у нас без якой бы то ні было падставы звязваецца ўяўленне пра качэўнікаў пустыні Гобі, ніколі не называўшых сябе такім словам[224] і ўлічыце тое, што яно паходзіць ад грэцкага слова мегалы, г. азн. вялікія, і вы атрымаеце наступнае:

"У працы пярсідзкага гісторыка Джувейні "Гісторыя заваявання сусвета" захавалася такое цікавае апавяданне.

"Да 1221 года Сярэдняя Азія была пад уладай манголаў-заваёўнікаў (г. азн. вялікіх заваёўнікаў). Іхныя ханы (г. азн. іхныя князі) глядзелі на заможную краіну як на крыніцу вялікіх прыбытаў. Не маючы на пачатку ўласных магчымасьцей для кіравання складанай адміністратыўнай сістэмай, яны аддалі на водкуп зборы феадальных павіннасьцей ад насельніцства Сярэдняй Азіі купецка-ліхвярскаму дому Махмуда Ялавача... Цяжкім было і становішча рамеснікаў у гарадах, у якіх мангольская ўлада (г. азн. улада перадавых крыжацкіх атрадаў) без узнагароды забірала значную частку іхных вырабаў у выглядзе ўзбраення і вайсковага начынення. У гэтых абставінах і пачалося паўстанне Тарабы ў 1238 годзе.

Згодна са сведчаннямі Джувейні, сярод сялян і рамеснікаў шырока вялася прапаганда супраць улады. Цэнтрам руху стала Бухара. У 1238 годзе Махмуд Тарабы із паселішча Тараб рушыў са сваімі прыхільнікамі ў Бухару і наладзіў сваю штаб-кватэру ў палацы меліка (г. азн. цара) Сенджара. Разгубленасць уладаў была настолькі велікай, што Махмуд безперашкодна павёў адсюль прапаганду паўстання. Каля ўзвышша Абу-Хаўс ён наладзіў вайсковы лагерь, куды пачалі збірацца ў вялікай колькасьці сяляне із суседніх паселішчаў, узброеныя лапатамі, косамі, дубінамі. Амаль без бою была захоплена і Бухара. Махмуд Тарабы прымусам сабраў прадстаўнікоў вышэйшага святарства на чале з Садрам і прымусіў абвясьціць сябе халіфам. Ачысьціўшы горад ад феадальнай знаці і вышэйшага святарства, ён пачаў сур'ёзна рыхтавацца да барацьбы з мангольскімі (г. азн. крыжацкімі) вайсковымі правадырамі і феадаламі. А ў Керміне ўтварыўся лагерь контрпаўстанцаў.

---

[224] Слова мангу ў іх азначае фронт, лоб. Пазначыць гэтым словам народ гэта тое ж самае, што і назваць рускіх ілбамі.

Першае змаганне каля Керміна дало перамогу Махмуду. Сяляне суседніх паселішчаў, згодна з паведамленнямі Джувейні, дапамаглі дабіць парэшткі пераможанага атрада. Аднак, у гэтым змаганні загінуў Махмуд Тарабы і яго галоўны паплечнік Махмубі. Улада над паўстанцамі перайшла да братоў Махмуда – Мухамеда і Алі. Прайшло няшмат часу. Феадалы забілі трывогу. Із некаторых гарадоў было сабрана вялікае мангольскае (г. азн. крыжацкае) войска. У другім змаганні, у самой Бухары, паўстанцы былі пераможаны. Пераможцы пачалі расправу, не шкадуючы ні горада, ні паселішчаў. Згодна з паведамленнямі Джувейні, загінула звыш 20000 паўстанцаў.

Апісаны рух далёка выходзіў за межы простага пратэста супраць злоўжыванняў пры збіранні падаткаў, ён закранаў і саму сутнасць феадальнага ўпарадкавання".

Такім было рэзюме ў "Вестках УЦВК" 30 сакавіка 1935 года на справаздачу А. Ю. Якубоўскага, і вы самі бачыце, што разніца ў нас толькі ў новым тлумачэнні значэння слова "мангол", і мне здаецца, сам аўтар не можа не пагадзіцца, што пры вывядзенні татар із Яўропы, яго феадалізм на Ўсходзе станавіцца нашмат больш зразумелым, чым пры вывядзенні іх ад азіяцкіх качэўнікаў.

Я не магу не спыніцца тут і на справаздачы А. А. Фрэймана "Некаторыя вынікі расшыфравання нядаўна знойдзенных сагдыйскіх рукапісаў", зробленай на гэтай жа сесіі Акадэміі Навук. Вось кароткі рэферат на гэты даклад, якім ён дадзены таксама ў "Вестках УЦВК" 30 сакавіка 1935 года.

"У выдадзеным восенню 1934 года Акадэміяй Навук СССР Сагдыйскім зборніку ўжо паведамлялася пра тыя адкрыцці сусветнага значэння, якія былі зроблены восенню 1933 гада экспедыцыяй Акадэміі навук у Таджыкістане на адлегласьці 60 кіламетраў на ўсход ад Пенджыкента, каля зліцця рэчак Кум і Зараўшан.

У парэштках будынка на абрывістай гары Муг, на вышыні 150 метраў над Зараўшанам, знойдзены помнікі матэрыяльнай культуры, манета і рукапісныя дакументы на паперы, скуры і дрэве, напісаныя на сагдыйскай мове, якія адносяцца да першай чвэрці VIII стагоддзя (ледзь ці так рана!). Як высветлілася, гэтыя рукапісы ўяўляюць із сябе парэшткі архіва буйнога сагдыйскага феадала Дывастыча, эпохі заваявання Сярэдняй Азіі арабамі (а не туркамі?). Із арабскіх крыніц вядома, што Дывастыч, першапачаткова па-сяброўску ставіўшыся да арабаў, праз невысветленыя на гэты момант нагоды разышоўся з імі і рушыў на чале незадаволеных элементаў на Педжыкент у Фергану. Па дарозе туды ў 722 годзе (якога злічэння?) ён быў насьцігнуты арабамі, пераможаны і ўзяты ў палон на рэчцы Кум. Тут, відаць, і быў кінуты яго архіў.

Пры першым жа разгляданні гэтых дакументаў звярнуў на сябе ўвагу тытул, якім называў сябе Дывастыч, і з якім звярталіся да яго яго ж карэспандэнты. У шэрагу гэтых дакументаў яму прыпісваецца тытул "Сагдыйскі цар, уладар Самарканда" – літаральна той жа тытул, які насіў яго сучаснік сагдыйскі цар Гурэк. Высвятленню гэтай супярэчнасьці і былі прысвечаны першыя спробы разшыфравання дакументаў: цяжка было дапусьціць адначасовае існаванне двух сагдыйскіх цароў.

Сярод лістоў, актаў, справаводчых запісак, распісак, із якіх складаецца гэты архіў, звяртаюць на сябе ўвагу дакументы, датаваныя гадамі Дывастыча. Натуральна было думаць, што яны могуць высветліць яго ролю ў араба-сагдыйскіх

дачыненнях і ў прыватнасьці высветліць яго стаўленне да сагдыйскіх цароў: Гурэка і яго папярэдніка Тархуна.

Некаторыя арабскія крыніцы, а за імі і некаторыя навукоўцы лічаць слова "Тархун" не уласным найменнем. Дадзеныя нашых дакументаў вымушаюць прыняць менавіта такі погляд, так як на гэтай аснове толькі і магчыма вырашэнне паспаўленага вышэй пытання. У прыватнасьці супадзенне часу царавання Тархуна і Дывастыча (704-710 гады[225]) і колькасць гадоў царавання (5-6 гадоў) лёгка тлумачыцца, калі прызнаць, што Тархун і Дывастыч – адна і тая ж асоба.

Тытул "тархун", па ўсёй верагоднасьці, не што іншае, як "тарахан" – слова турэцкага паходжання, якім пазначалі феодалаў, залежных або знаходзяхся пад заступніцтвам турак. Сагдыйскія цары не азін раз звярталіся за дапамогай да турэцкага хакана супраць арабаў, і таму наданне сагдыйскаму цару тытула "тархун" не можа выклікаць здзіўлення.

Нашы датаваныя дакументы, у якіх прысутнічаюць назвы дзён і месяцаў, даюць шырокі матэрыял для мяркавання наконт сагдыйскага календара. Гэты каляндар меў усе асаблівасьці іранскага сонечнага календара. Год падзяляўся на 12 месяцаў, па 30 дзён у кажным, прычым кожны дзень месяца меў асобную назву, адпавядаючаму таму ці іншаму іранскаму богу, толькі 8-ы, 15-ы і 23-і дні мелі адну назву. Назва сагдыйскіх месяцаў моцна адрозніваецца ад пярсідзкіх. На прыканцы года дадавалася 7 дзён, нехапаючых да 365". Такім з’яўляецца рэзюмэ справаздачы А. А. Фрэймана.

Мы тут бачым, што атаясамленне двух разнаіменных асоб у адной пярсоне робіцца ўжо не толькі адным мной. А ў дадзеным выпадку звяртаю ўвагу толькі на адно цікавае храналагічнае супадзенне. Калі 704-710 гады, на працягу якіх, як тут паведамляецца, царавалі і Тархун і Дывастыч, мы будзем лічыць згодна з армянскай эрай, то ў перакладзе на наша злічэнне яны дадуць 1255-1261 гады, із якіх апошні з’яўляецца годам выгнання крыжакоў із Цар-Горада грэкамі і контрнаступлення турак. Толькі тады робіцца дарэчным і тытул "тархан", слова турэцкага паходжання, якім пазначаліся феадалы, залежныя або апякуемыя туркамі.

Але тут я ўжо зрабіў адхіленне ад асноўнага прадмета гэтай главы: ад даследавання татарскага нашэсьця грунтуючыся на армянскіх крыніцах. Чытач бачыць сам, што ўсе яны малююць "татар" спачатку прышлымі ваярамі для абароны хрысьціян ад насядаючых на пярэднюю Азію ісламітаў, носьбітамі крыжа, г. азн. крыжакамі, і нават атрымліваючымі свае паўнамоцствы із Рыма ад папы, як раз пад час эпохі, калі ў гэтыя краіны хлынулі рыцары Чацьвёртага Крыжовага паходу. А пазней, калі крыжакі былі ўжо прагнаны із Цар-Горада і іхная Лацінская імперыя на Ўсходзе адышла ў вобласць гісторыі, іхныя нашчадкі, адарваныя ад сваіх родных дзядоў і асіміляваныя ў асяроддзе мясцовага насельніцтва, перанялі веравызнанне сваіх пераможцаў.

Усё гэта знаходзіцца ў поўнай згодзе з высновамі, якія я атрымаў із ранейшага даследавання рускіх летапісаў.

І да падобнай жа высновы прыходзяць таксама некаторыя із заходнееўрапейскіх даследчыкаў. Возьмем, напрыклад, нямецкую кнігу Феслера (Dr. J. A. Fessler: Die Geschiehte der Ungern und ihrer Jandsassen. I Feil, Leipzig, 1815), дзе на с. 193 гаворыцца прама: "Назва татары сустракаецца ўпершыню ў рускіх летапісах пад 1154 годам. Пад гэтай назвай там разумеюцца полаўцы (г. азн. па нашаму

---

[225] Ледзь ці юліянскія, якімі іх лічаць сагдысты!

плаўцы – генуэзскія мараходы), якія хутка разам з татарамі ўтварылі адзін народ". Ды і згодна з Энгелем (Geschihte des Ungariaschen Reich, Feil I, S. 345) гэтае найменне "разам з назвай каманы паходзіць із Вугоршчыны каля 1130 гада ад куманскага князя Татара". А што азначае куманскі? Мне здаецца, што гэта пераіначанае слова каменскі, г. азн. прыйшоўшы ад нямецкага слова Kommen – прыходзіць, г. азн. прышлы князь татравец.

Я не сумняваюся, што такія ж указанні знойдуцца і ў іншых заходне-еўрапейскіх першакрыніцах. Для прыкладу я прывяду тут частку выпіскі, зробленай для мяне яшчэ ў 1935 годзе прафесарам В. Мрочакам із летапісу Харасан-Корсунь:

"Вывядзенне татар із Татраў не выклікае па сутнасьці прынцыповых пярэчанняў. Рускі летапіс паведамляе: "*Явішася языкі, іх жа ніхто ж дакладна не весьць, хто яны суць і адкуль ізыдоша і якая мова іх і якога племені суць і якая вера іхная*".

Трохі больш вызначана тое месца гэтага летапісу, дзе перададзена ўражанне ад бітвы каля Калкі: "*Гэтых жа злых татар-таурменаў не ведаем, адкуль яны прыйшлі на нас і куды дзеліся зноў; толькі бог ведае*".

“Усеагульная гісторыя з IV ст. да нашага часу” Лавіса і Рамбо, том II, с. 716 згадвае пра гэта толькі ў 4 радках (рус. Выд. 1897 года): "Прызваныя на дапамогу спужаўшыміся полаўцамі (г. азн. плаўцамі) рускія князі выступілі супраць манголаў (г. азн. вялікіх) з 80000-ным войскам і сустрэлі іх на берагах Калкі (1224 год). Рускія, аслабленыя ўцёкамі полаўцаў (плаўцоў-генуэзцаў), зведалі жорсткую паразу".

Пяройдзем зараз да іншай крыніцы, арабскага пісьменніка Ібн-Эль-Асіра, летапіс якога "Дасканаласць па частцы летапісання" выдадзена ў XIX ст. Лічыцца, што аўтар жыў з 1160 гада па 1233 год ў горадзе Масуле, так што сам на чарнаморскім ўзбярэжжы не бываў. Гэтым тлумачыцца і заўвага рэдактара рускага перакладу сп. Тызенгаузена: "Свае апавяданні пра татараў ён запазычыў, відаць, часткова із апавяданняў відавочцаў, часткова із дайшоўшых да яго чутак". Аднак, як зараз мы пабачым, ён перадаваў чуткі цалкам праўдападобна.

"Калі Татары завалодалі зямлёй кіпчакаў (купчакаў) і кіпчакі разбрегліс, як мы паведамлялі, то вялікая частка із іх пайшла ў зямлю рускіх; гэта краіна вялікая, доўгая і шырокая, суседняя з імі, і яе жыхары вызнаюць хрысьціянскае веравызнанне. Пасьля прыбыцця да іх кіпчакаў-генуэзцаў усе сабраліся і аднагалосна вырашылі біцца з Татарамі, калі яны пойдуць на іх.

Татары прабылі некаторы час у зямлі Кіпчацкай, але потым у 620 годзе (4 лютага 1223 г.-3 студзеня 1224 г.) накіраваліся ў краіну рускіх. Пачуўшы вестку пра іх, рускія і кіпчакі (купчыкі – генуэзцы), якія паспелі падрыхтавацца да бою з імі, выйшлі на шлях татар, каб сустрэць іх раней, чым яны прыйдуць у зямлю іхнюю, і адбіць ад яе. Паведамленне пра іхныя рухі дайшло да татар, і яны (татары) павярнулі назад. Тады ў рускіх і кіпчакаў (генуэзцаў) з'явілася жаданне (напасьці) на іх, лічачы, што татары павярнулі назад із баязні перад імі і праз недахоп магутнасьці каб біцца з імі, яны старанна пачалі пераследаваць іх. Татары тым часам не пераставалі адступаць, а рускія і кіпчакі ішлі па іхных слядах 12 дзён, (але) потым татары павярнулі на рускіх і кіпчакаў, якія заўважылі іх толькі тады, калі ўжо натыкнуліся на іх; для пераследуючых гэта было зусім нечакана, таму што яны лічылі сябе бяспечнымі ад татараў, будучы ўпэўненымі ў сваёй переваге над імі. Не паспелі яны падрыхтавацца да бою, як на іх напалі татары са значна

пераўзыходзячым войскам. Абодва бакі біліся з нечувалай упартасьцю, і бой паміж імі працягваўся некалькі дзён. Нарэшце татары атрымалі перамогу".

Затым ідуць падрабязнасьці пра збягаючых і пра пераследаванне іх татарамі, і параграф заканчваецца славамі: "Распавёў пра гэтую справу браўшы ў ёй удзел".

Мы адразу заўважаем, што полаўцы (г. азн. плаўцы) – гэта генуэзскія мараходы, кіпчакі, г. азн. купчыкі (гэта іхная другая назва); толькі пасьля "татарскага" (г. азн. татрскага) заваявання кіпчацкая (г. азн. купецкая) дзяржава ператварылася ў Дэшт-Кіпчак, г. азн. нямецка-купецкую і татары (г. азн. татраўцы) перамаглі іх, а потым пранікл ў Крым, дзе разрабавалі галоўны горад кіпчакаў Судак. Так паведамляе Ібн-эль-Асір, і гэта падцвярджаецца шэрагам іншых крыніц, ўсходніх і заходніх.

Але калі татары адступалі на ўсход, адкуль – згодна з рускай версіяй – яны прыйшлі, то якімі ж былі інтарэсы заходніх рускіх князёў: галічскага і кіеўскага, а яшчэ больш паўночнага чарнігаўскага князя, якія б маглі падахвоціць іх браць удзел у такой авантуры? Калі войска ў 80 тысяч чалавек рушыла ў пустынны стэп, то чым жа яно сілкавалася? Іншая справа, калі шлях адступлення "татар" ляжаў у аператыўнай вобласьці рускіх; на гэта намякае цытата із Лавіс-Рамбо: "Рускія наступілі на манголаў і сустрэлі іх". Але сустрэць адступаючага ворага можна толькі ў адным выпадку: заступіць яму дарогу! Ніякае войска, тым больш пешае, не зможа дагнаць адступаючае ў тым жа накірунку коннае войска, як мы маем у дадзеным выпадку. А пасьля ж выхаду із Крыма шлях на ўсход прамы, тады як із Галіча, Кіева і Чарнігава, значна больш заходніх мясцовасьцей, шлях складаны. Дастаткова зірнуць на мапу.

Ды і рускі летапісец падмацоўвае арабскага, калі кажа пра "злых татар-таурмен". Так як раней Крым меў назву Таўрыда (таурыда), то "таур-мен", відавочна, нямецкае словаўтварэнне: taur-manner. Можна яшчэ паверыць летапісцу, што ён не ведаў, адкуль спачатку з'явіліся гэтыя "таурмены" і куды яны пайшлі; але іхнае з'яўленне із Крыма пасьля паразы полаўцаў (г. азн. плыўцоў) яму было вядома.

Пяройдзем зараз да некаторых фактаў із гісторыі Вугоршчыны і Тэўтонскага ордэна.

У 1222 годзе кароль Андрэй II вугорскі прызывае Тэўтонскі ордэн, разлічваючы на яго ў барацьбе з магнатамі. Сапраўды, у гэтым жа годзе была выдадзена "Залатая була", падобна вядомай ангельскай "Кемскай Хартыі", абмяжоўваючая каралеўскую знаць. Андрэй II даў Тэўтонскаму ордэну асобным актам, зацверджаным 20 снежня папай Ганорыем II, вобласць Burzenland у паўднёва-ўсходняй частцы Трансільваніі з поўнай палітычнай аўтаноміяй. Яшчэ раней там пасяліліся саксонцы-эмігранты, і ўся Трансільванія з тых часоў пачала насіць нямецкае найменне Leibenburgen (Сяміградзе). Тэўтонскаму ордэну было даручана ўціхамірыць і па магчымасьці пацісунуць полаўцаў (плыўцоў)-куманаў, г. азн. прышэльцаў (comraani) ад мяжы Вугоршчыны; таму ў акте папярэдне ордэну аддавалася частка тэрыторыі куманаў (прышэльцаў, ад нямецкага Kommen) за трансільванскімі гарамі.

Даручэнне Андрэя II Вугорскага было выканана ўжо ў 1223 годзе. Паход Тэўтонскага ордэна супраць куманаў-полаўцаў (г. азн. прышэльцаў-плыўцоў) скончыўся паспяхова. Але ўжо ў 1224 Андрэй II, занепакоены замысламі гросмэйстэра Тэўтонскага ордэна, знакамітага Германа фон Зальца, забраў у яго ўсю вобласць, а папа булай ад 22 жніўня прыняў яе ў вядзенне Рымскай царквы.

Зальц – правая рука германскага імператара Фрыдрыха II – пагадзіўся скасаваць дамову з Вугоршчынай, тым больш, што яго непасрэдны кіраўнік, імператар, як раз вырашыў перавесьці Тэўтонскі ордэн у Германію і зрабіць сваёй гвардыяй (ліст Фрыдрыха II з Катаны 5 сакавіка 1224 гада да папы).

Параўнанне пералічаных вышэй фактаў і апавяданняў летапісцаў дае магчымасць намаляваць наступную гістарычную рэчаіснасць.

Куманы-полаўцы-кіпчакі былі генуэзскімі каланістамі ў Крыме і на ўсім чарнаморскім узбярэжжы.

Перамогшы куманоў-полаўцаў-кіпчакаў, Тэўтонскі (татрскі, г. азн. татарскі) ордэн пранік у Крым, каб разбурыць марскую базу генуэзцаў – Судак.

Праведаўшы пра рыхтуемы напад рускіх у хаўрусе з "полаўцамі", татрскае войска ордэна спешна выйшла із Крымскай паўвыспы і праз Дняпро, Днестр і так далей накіраваліся назад у Вугоршчыну.

А пра тое, што было далей дадзім слова Ібн-Эль-Асіру (стар. 27): "Пра вяртанне татар із зямель рускіх і кіпчакаў да свайго цара".

"Спустошыўшы землі рускіх, татары вярнуліся адтуль і накіраваліся ў Баўгар (г. азн. Баўгарыю). Калі жыхары Баўгара пачулі пра набліжэнне да іх, яны ў некалькіх месцах наладзіўшы засады, выступілі супраць іх (татар), сустрэліся з імі і, заманіўшы іх у месца засад, напалі на іх з тылу, так што яны (татары) апынуліся ў сярэдзіне;. паяў іх меч з усіх бакоў, перабіта было іх мноства і ацалелі із іх толькі нешматлікія. Кажуць, што іх было 4000 чалавек. Накіраваліся яны (адтуль) у Саксію (Саксонію), вяртаючыся да свайго цара Чынгізхана (царуючаму святару, г. азн. не інакш як да Фрыдрыха II), і вызваліліся ад іх землі кіпчакаў (купчыкаў). Хто із іх (г. азн. купцоў-генуэзцаў) выратаваўся, той вярнуўся ў сваю зямлю. Перапыніўся шлях у бок кіпчакаў з тых часоў, як ўварваліся ў яе татары, і не атрымлівалася ад іх (кіпчакаў) больш нічога па частцы мяхоў, белак, баброў і (ўсяго) іншага, што прывозілася (імі) з гэтай краіны. Калі ж татары пакінулі яе і вярнуліся ў сваю зямлю, той шлях аднавіўся і тавары зноў пачалі прывозіцца, як было і раней".

Гэты ўрывак із летапісу ўсё тлумачыць відавочна і вызначана. Краіна "Булгар" гэта Булгарыя (па-руску Баўгарыя) Прыдунайская, а не Прыволжская. Дарэчы, калі вымаўляць яе "Ваўгарыя", то ваўгары – жыхары Волгі, якая ў такім выпадку з’яўляецца Дунаем, як сведчыць і найменне Баўгарыя (г. азн. Ваўгарыя). Таму што наша руская Волга раней мела назву "Ра" (фінскае найменне, як гэтае найменне дадзена ў геаграфіі Пталямея), а сучасная назва "Волга" магла быць занесена балканскімі каланістамі пры іхным Drang nach Osten, падобна таму, як на мапе Злучаных Штатаў Амерыкі мы знаходзім Парыж, Лондан і шэраг іншых еўрапейскіх найменняў.

Загадкавая краіна "Саксін" засталася без якіх бы то ні было тлумачэнняў у каментатараў, якія шукалі яе далёка на ўсходзе. Але ж гэта вобласць саксаў у Трансільваніі, адкуль пачынаўся набег на куманаў-полаўцаў-кіпчакаў. Так гэтая мясцовасць і пазначана на мапах, адлюстроўваючых Яўропу XIII стагоддзя. Відавочна, што "татары" вярталіся менавіта ў гэтую мясцовасць, а не ў Азію.

Гэтак жа проста і без якіх бы то ні было нацяжак тлумачыцца і дзіўная, з іншых бакоў гледжання, з'ява, а менавіта: спыненне набега "татар" у якасьці крыжакоў на паўднёварускія мясцовасьці пасьля іхнага з'яўлення ў 1223-24 гг. і да паходаў 1236-40 гг. Як ужо паведамлялася, Тэўтонскі ордэн раптоўна страціў сваю базу ў Трансільваніі і быў вымушаны шукаць новае месца базіравання ў

Прыбалтыцы. Ён знайшоў такое ў Кульмскай вобласьці, якая была ўступлена ім у 1230 годзе Конрадам Мазавецкім, дзе спачатку дзейнічаў паралельна з ордэнам (ordo – арда) мечаносцаў, а пазьней – пасьля аб’яднання абодвух ордэнаў у 1230 годзе – распачаў Drang nach Osten. Паўднёвы маршрут із Татрскай вобласьці мог быць здзейсненым толькі на прыканцы 30-х гадоў, калі ўмацавалася становішча імперыі пасьля паспяховых дзеянняў Фрыдрыха II у Італіі, а цэнтральнае кіраванне ордэнам з 1239 года было перанесена ў Венецыю.

Дзе ж адбылася так званая "бітва на Калцы"? Зразумела, што не на ўсход ад Крыма, а на захад; магчыма, што на беразе адной із рэк, якія ідуць перпендыкулярна да маршрута "татараў" пры іхным вяртанні ў Вугоршчыну. Калі лічыць правільнымі сведчанні рускага летапісу: пра хаўрус трох Мсціславаў і пераслед татарамі пераможаных хаўруснікаў да Дняпра, то бітва магла адбыцца ў мясцовасьці паміж Паўднёвым Бугам і Дняпром, верагодна, бліжэй да апошняга, так як чэрнігаўская дружына праз геаграфічныя ўмовы магла далучыцца пазней па другому мерыдыяну ад Пулкава.

Звяртае, нарэшце, на сябе ўвагу і згадванне Ібн-Эль-Асіра пра "Заходнія Татры". Із тэкста яго летапісу відаць, што "Чынгізхан – ды пракляне яго Аллах – вырашыў выправіць 20000 вершнікаў, загадаўшы: "шукайце харэзмшаха, дзе б ён ні быў, хаця б ён зачапіўся за неба; пакуль не насьцігнеце і не схопіце яго". Гэты атрад, дзеля адрознення ад іншых (татар), мае назву Заходнія Татары, таму што ён пайшоў на захад Харасана (Херсона)". (Ібн-Эль-Асір, с. 11).

Мы бачым, што гэтыя "татары" з'яўляліся атрадамі Заходніх рыцараў-крыжакоў, ваяваўшых з мусульманамі. Розные маршруты, то праз паўднёва-рускія стэпы, то праз Малую Азію, маглі лёгка заблытаць неспрактыкаваных у геаграфіі XIII стагоддзя сучаснікаў. Да таго ж адныя мелі назву татары, другія манголы; і гэта тлумачыцца, калі лічыць, што адны маршруты ішлі із Татр, а другія (манголы) із вялікіх (мегалаў) румскіх і франкскіх краін. Але ўсе гэтыя паходы ўзначальваліся Чынгізханам (г. азн. царуючым святаром), а мы ведаем, што крыжовыя паходы рэжісіраваў вялікі хан – рымскі папа, ды і рэзідэнцыяй яго быў Ватыкан, г. азн. дом Хана.

Адсутнасць дэталей пра паходы супраць куманаў у заходніх хроніках можа быць патлумачана двума абставінамі:

1. Гэтае пачынанне Тэўтонскага ордэна скончылася фіяска ў Вугоршчыне, і пра яго не вельмі ахвотна распавядалі.

2. Пазнейшыя гісторыкі, пісаўшыя ў эпоху, калі манголаў ужо перакінулі ў Азію, апісалі гэты паход пад выглядам набегу із-за Волгі, як мы гэта бачылі ў Ібн-Эль-Асіра, але пры гэтым захавалі шэраг падрабязнасьцей, загадкавых з боку гледжання азіяцкай гіпотэзы і цалкам відавочных, прыняўшы вугорскую накіраванасць.

Першая акалічнасць адразу ж падцверджваецца, калі праглядаць крыніцы і творы. Так Annales de l'Ordre Teutonique, 1887 года прысвячае ўсяго адзін няпоўны радок: "les chevaliers hattirent les Cumains". У падрабязнай "Urkundenbuch Jur gechichte der Deutchen in Liebenburgen. 1882» няма ніводнага документа, які б меў дачыненне да гэтага года, ды і наогул да гэтага паходу.

# Глава II.

## Гісторыя татарскага іга на Русі згодна з арабскімі творамі.

"Гэтыя татары змаглі здзейсніць тое, падобнага чаму не чуваць ні ў старажытныя часы, ні ў новыя. Выступае іхны натоўп із межаў Кітая; не праходзіць і года, як частка гэтага натоўпу пераможна дабіраецца да зямель Арменіі, а з боку Хамадана заходзіць за Ірак. Клянуся Аллахам, я не сумняваюся, што хто ацалее пасьля нас і пабачыць гэта апісанне, той пачне аспрэчваць яго, палічыць за байку і праўда будзе на яго баку ".

Ібн-Эль-Сір.

# I.

## Некалькі ўступных слоў з гэтай нагоды.

Асноўны вынік гэтай часткі майго даследаванія такі: Вось мапы генуэзскіх калоній на берегах Чорнага і Азоўскага мораў, якія я бяру із артыкула Е. Д. Фяліцына "Некаторыя паведамленні пра сярэдневечныя генуэзскія паселішчы у Крыме і Кубанскай вобласьці"[226]. Мы бачым, што гэтая мясцовасць была падчас Чацвёртага крыжовага пахода, у перыяд націску крыжацкіх духоўных і рыцарскіх ордэнаў на Усход ўжо культурным генуэзскім краем, пачынаючы ад Балканскай паўвыспы і да паўночных ўзбярэжжаў Каспійскага мора. Шмат якія із паказаных тут назваў (як гэта бачна із табліцы і для берагоў Азоўскага мора ад ракі Дон да Сухума) не вызначаны, але і тых, якія вызначаны, дастаткова для лакалізацыі.

Заходнееўрапейскія першакрыніцы паведамляюць нам, што пачынаючы з 774 гады горад Генуя быў пад уладай франкаў, а пасьля распадзення імперыі Карла Вялікага стаў цэнтрам культурнай генуэзскай рэспублікі, праславіўшайся сваім мараходствам, асабліва ўзмацніўшымся на Чорным моры.

Першыя генуэзскія калоніі на Чорным моры, – кажуць нам усе шматлікія першакрыніцы, – з'явіліся хутка пасьля дамовы, заключанай паміж Генуэзскай рэспублікай і Візантыйскім імператарам Мануілам пра вольнае праходжанне генуэзскіх гандлёвых караблёў праз Басфор, на беразе якога генуэзцы заснавалі ўласныя пасяленні Галату і Перу каля самага Канстантынопаля, а ў Чорным моры, на паўднёва-ўсходнім беразе Крымскай паўвыспы, сваё першае ўмацаванне Кафу (Caffa), зародыш сучаснага горада Феадосія (гл. чорныя крыжацкія сьцягі на Каталонскай мапе 1375 года, на мапе Фердучы 1497 года, а так жа ўмацаванне з вежамі на мапе Піцігані 1360 года). Ужо із гэтага аднаго відаць, што сучасная Феадосія, як і ўсе іншыя старажытныя чарнаморскія гарады і парэшткі ранейшых пасяленняў, бяруць свае назвы ад генуэзцаў часу крыжовых паходаў, а ніяк не ад міфічных элінскіх мараходаў, быццам бы плаваўшых тут яшчэ "за 500 гадоў да пачатку нашай эры".

Пазней у 1261 пры падзенні лацінскай крыжацкай імперыі і ўзяцці Цар-Горада нікейцамі Генуя стала на іхны бок і ўтрымлівала за сабой свабоду мараходства ў Чорным моры. Яе прэзідэнт, як і ў Венецыі, меў назву дож, і толькі ў 1392 яна згубіла Азоў, і затым ў XV стагоддзі туркі захапілі і разрабавалі яе чарнаморскую феадальную імперыю.

Гэта – гістарычны і геагафічны факт, з якім сур'ёзны гісторык-даследчык не мае права не лічыцца. Із гэтага і асноўныя высновы гэтай часткі майго даследавання такія:

1. Кожны падарожнік XII-XV стагоддзяў па краінах, прылягаючых да паўночнага берега Чорнага, Азоўскага і Каспійскага мораў, які не ведае і не

[226] Кубанскі зборнік, том V. 1899 год, Екацянадар.

сведчыць, што тут пануюць франкі-генуэзцы і што гэтыя краіны каталіцкія, ніколі тут не вандраваў.

2. Кожны "падарожнік XII-XV стагоддзяў" па гэтых краях, які не паведамляе пра генуэзкіх каталікоў, прыйшоўшых сюды ў сувязі з крыжовымі паходамі каталіцкіх рыцарскіх і духоўных ордэнаў, асабліва Deutsch'скага (тэўтонскага) ордэна, а кажа, што тут знаходзіцца "Дэшцкая арда" ідалапаклоннікаў, таксама ніколі тут не вандраваў, інакш пераіначыўшы" Дэштцкі ордэн" ў "Дэшцкую арду", не прыпісаў бы першай качавога рабаўнічага характеру па-за сувяззю з гісторыяй Заходняй Яўропы і каталіцызма.

3. Кожны "падарожнік XII-XV стагоддзяў" па гэтых краінах, які, не паведамляючы пра генуэзцаў і пра Дейшцкі (Тэўтонскі) каталіцкі ордэн, сведчыць, што тут жывуць мангольскія (інакш магольскія) орды, ніколі тут не вандраваў, інакш ён бы не пераблытаў грэцкую назву тэўтонскага ордэна Мэгалэ ордэ[227] з мангольскай ардой, перанёсшы гэтае найменне із Яўропы на сярэдне-азіяцкіх кіргіз-кайсакаў, прычым слова "кайсак" сугучна з "казак", а слова "кіргіз" сугучна з грэцкім "кірыкас", што азначае царскі.

4. Кожны "падарожнік XII-XV стагоддзяў" па гэтых краях, які, не паведамляючы пра генуэзцаў, сведчыць, што тут валадарылі татары, ніколі тут не вандраваў, ці ж разумее пад татарамі жыхароў вугорскіх Татраў, адкуль, сапраўды, і прыйшоў у Расію Тэўтонскі ордэн разам з крыжакамі.

5. Той, хто называе генуэзкіх каланістаў таго часу (як гэта робяць рускія летапісцы) полаўцамі і, карыстаецца іхным рускім найменнем плаўцы (марагоды); той, хто называе іх кіпчакамі, карыстаецца іхным рускім найменнем купчык па перагласаванню ад нямецкага: Kaufen – kaupen – koynunumb – купіць, і хто іх называет куманамі, карыстаецца мясцовай назвай сярэдняй Вугоршчыны Куманіі.

На гэтых асноўных палажэннях мы і павінны заснаваць рацыянальную гісторыю мангольскага іга на Русі, адкідваючы ўсё, што з імі не пагадняецца.

Перш за ўсё зазірнем у цікавы дакумент: "Програма задач, прапануемых Імператарскай Акадэміяй навук для атрымання прэмій на 1834 і 1835 гады", надрукаваную ў 1832 годзе.

Вось што там паведамлялася:

"Валадаранне мангольскай дынастыі, вядомай ў нас пад найменнем Залатая Арда, у магаметан пад назвай Улус Джучы[228] або Чынгізава Ханства Дэшт Кіпчацкага (г. азн. Нямецка-купецкага), а ў саміх манголаў пад назвай Тагмак, было на працягу амаль двух з паловай стагоддзяў жахам і бізуном Расіі. Яно трымала яе ў стане безумоўнага падпарадкавання і самавольна вырашала пытанні прызначэння і пакарання яе князёў. Гэтае валадаранне павінна было больш-менш мець уплыў на лёс, уладкаванне, заканадаўства, адукацыю, норавы і мову нашай айчыны. Гісторыя гэтай дынастыі ўтварае неабходнае звяно расійскай гісторыі, і само сабой відавочна, што бліжэйшае вывучэнне першай не толькі служыць для дакладнага разумення апошняй пад час гэтага дастапамятнага і злашчаснага перыяду, але і шмат спрыяе для разумення нашых уяўленняў пра ўплыў, які Мангольскае валадаранне (г. азн., згодна з нашым разуменнем, валадаранне

[227] Uεγαλη ορδη (Мегалэ ордэ) – вялікі ордэн. Із гэтага спачатку напалову пераклаўшы, прымудрыліся ўтварыць "Вялікую арду", а затым, не перакладаючы цалкам "мангольскую арду", назваўшы манголамі кіргіз-кайсакаў ад грэцкага кірыкас-кайсарыкас (гасподне-кайзерскі).
[228] г. азн. ад італьянскага слова дуче (дуче – генерал ордэна, камандзір).

Вялікага ордэна – Мегале Ордэ па-грэцку) мела на заканадаўства і народны побыт Расіі.

З усім тым, аднак, не хапае ў нас дакладнай прыватнай гісторыі гэтага пакалення манголаў... Кожны, бліжэй пазнаёміўшыся з гэтым прадметам, лёгка пагадзіцца з тым, што ўсё, зробленае ў гэтым дачыненні, вельмі не задавальняе.

Заспакойвае думка, што пры сучасных (у 1832 г.!) такіх спрыяльных пераменах стану навук у Расіі, падобнае пачынанне не з'яўляецца больш немагчымым. Ужо пятнаццаць гадоў, як Муза Ўзыходжання зацвердзілася і ў нашай айчыне. Ужо і пецярбургскія бібліятэкі, падобна лонданскай і парыжскай, абагаціліся каштоўнымі скарбамі разнастайных ўсходніх рукапісаў і як у іншых краінах, так і ў нас з кожным годам павячлічваецца колькасць знаўцаў і аматараў усходняй славеснасьці. І так зараз ужо можна лічыць магчымым тое, што гадоў пятнаццаць назад перад сім было яшчэ немагчымым, а тым больш тады, калі Шлецэр ўпершыню намагаўся выклікаць жаданне да распрацоўкі гэтага цікавага пытання. Акадэмія ўжо зараз можа прапанаваць задачу, рашэнне якой акрамя грунтоўных ведаў расійскай мовы і гісторыі патрабуе такога ж глыбокага вывучэння моў ўсходніх, а менавіта, магаметанскіх. Гэтая задача заключаецца ў наступным:

Напісаць гісторыю Ўлуса Джучы ці, так званай, Залатой Арды, крытычна апрацаваную на падставе як усходніх, асабліва магаметанскіх гісторыкаў і захаваўшыхся ад ханаў гэтай дынастыі манетных помнікаў, так і старажытных рускіх, польскіх, вугорскіх і іншых летапісаў і іншых, сустракаючыхся ў творах сучасных еўрапейцаў, паведамленнях".

Такім быў заклік нашай Акадэміі навук ў 1832 годзе, прычым гісторыя Залатога Ордэна рускіх летапісаў ўпершыню аўтарытэтна атаясамлялася з улусам Джучы сарацынскіх пісьменнікаў, а Улус Джучы быў параўнаны з "Тагмакам" манголаў. Але і зараз мы можам сказаць, як і тагачасная наша Акадэмія Навук, што "мы да гэтага часу дарэмна шукаем арабскага, пярсідзкага, турэцкага, мангольскага ці кітайскага пісьменніка, які б, выбраўшы для сябе прадметам асабістага дазнання прыватную гісторыю чынгізавых нашчадкаў у Кіпчаку, мог бы служыць зразумелай і правільнай крыніцай для гісторыі пазначанага перыяду..." і што "на ўсходніх мовах не існуе асобнай гісторыі гэтай дынастыі; ва ўсякім разе такой не маецца ні ў адной із еўрапейскіх бібліятэк; наколькі б яны ні былі забяспечаны ўсходнімі рукапісамі, мы не сустракаем сведчанняў пра падобныя творы ні ў турэцкага біёграфа Гаджы-Халфы, ні ў нейкага іншага магаметанскага гісторыка, налічваючага свае крыніцы... Маючыя дачыненне да Вялікай Арды[229] паведамленні ў нашых летапісах сустракаюцца толькі як бы між іншым, а таму вельмі ўрыўкавыя і наогул няпоўныя і недастатковыя. Імёны мангольскіх ханаў, вайсковых правадыроў і іншых часта надзвычай пераіначаны і таму перамяшаны; гады каравання першых не ўсюды дакладна пазначаны, і пра іхныя здзяйсненні звычайна не згадваецца, калі яны не мелі дачынення да самой Русі. Імёны ж шмат якіх валадароў, не меўшых дачынення да Русі, нават цалкам не пазначаны ў (рускіх) летапісах, і вельмі памыліўся б той, хто б вырашыў, што із гэтых летапісаў можна атрымаць поўны спіс гэтых ханаў, не кажучы ўжо пра гісторыю іншых".

Адзіным чалавекам, які адгукнуўся на гэты кліч, быў вядомы ў свой час арыенталіст Ёсіф фон-Гамер Пургшталь (пам. у 1856 годзе), даслаўшы на прапанаваны конкурс працу пад псеўданімам. Але Акадэмія Наук не палічыла яго

---

[229] г. азн. Мегале-ардзе па-грэцку – Вялікі ордэн.

працу дастаткова сур'ёзнай і закончыла свой водгук пра яго такімі словамі: "Аўтар часта паказвае недахоп грунтоўнай крытыкі. Гістарычныя матэрыялы недастаткова разчышчаны і не апрацаваны належным чынам. Шмат якія важныя, цікавыя месцы, якія тут належала б даследаваць бліжэй і падрабязней, пазначаны толькі мімаходзь, між тым як дзякуючы ўключэнню іншых артыкулаў, чужых прадмету, і шматлікіх староніх, цалкам не маючых карысьці дробязяў, твор праз меру павялічаны. Храналогія часта пакідаецца занядбанай, і геагафічныя паведамленні не ўсюды задавальняючыя. Да ўсяго гэтага дадаецца шмат непатрэбных паўтарэнняў, пераіначванняў імёнаў, блытаніны ў цытаваннях, разнастайных супярэчнасьцей і непаразуменняў, нават за кошт сэнсу ўсходніх тэкстаў. Хаця шмат якія із гэтых недахопаў і можна прыпісаць вялікай паспешнасьці, з якой, відавочна, працаваў аўтар, але Акадэмія грунтуючыся на вышэйпералічаных падставах не магла прысудзіць яго працы нейкую прэмію"[230].

Праз чатыры гады гэты твор, месцамі выпраўлены ў параўнанні з ранейшым, з'явіўся ў друку[231] з дадаткам гэтых водгукаў пра яго і жоўчнымі пярэчаннямі самога аўтара, якому рэцэнзіі былі павядамлены Акадэміяй згодна з уласным жаданнем.

Затым з'явілася кніга д'Асона "Гісторыя манголаў"[232] і шэраг асобных манаграфій В. В. Бартольда, Вало, І. Бярэзіна[233]. Пасьля чаго на ніжнюю Волгу з заданнем знайсьці сляды Залатой Арды быў выпраўлены чыноўнік міністерства ўнутраных спраў Цярэшчанка, дзе ён і "знайшоў" у 1844 годзе Сарай – сталіцу Залатога Ордэна на ўсходзе[234].

Акадэмічкая задача не атрымалася, таму што, як выказваецца сам Тызенгаўзен, якога я далей тут часта цытую: "справа была пачата не з таго канца, з якога належала яе пачынаць". Але ж з якога канца патрэбна пачынаць?

## II.

## Агульнасць паходжання амаль усіх "арабскіх" манускріптаў пра татараў у еўрапейскіх музеях.

Паспрабуем пачать з найбольш грунтоўнага па знешнасьці "арабскага канца", не забываючы, аднак, што ўсе "арабскія рукапісы" былі знойдзены не ў Аравіі, Турцыі, Сірыі або Ягіпце, а больш за ўсё ў гішпанскай Андалузіі, дзе пад час маўрскага перыяду быў галоўны цэнтр "арабскай літаратуры", і калі нават які-небудзь аўтар і абвешчаны" пісаўшым у Каіры", то быў знойдзены звычайна не ў ім, а "ў Парыжы" або "ў Берліне" і г. д.

Але перш, чым пачаць деталёвае даследаванне арабскіх дакументаў, я не магу не звярнуць ўвагі на геагафічную неверагоднасць нашых сучасных уяўленняў пра тагачасныя камбінацыі дзяржаўных дачыненняў.

Нас запэўніваюць, што туркі і мусульмане, выйшаўшы із Сірыі і Малой Азіі, прагналі адтуль крыжакоў і, перайшоўшы ў Яўропу, таксама "са свяшчэннай вайной" заваладалі пасьля бітвы на Косавам полі (1389 год) усёй Сербіяй і выклікалі паніку ў сярэдняй Яўропе.

---

230 Часопіс Міністэрства Народнай Асветы за 1836. т. 1. с. 158-159.

231 Geshichte der Goldenen Horde in kiptchak d.i. der Mongolen in Russland. Von Hammer Purgstall. Pesth., 1840..

232 D'Ohsson: Historic des Mongols.

233 Нарысы ўнутранага уладкавання Ўлуса Джучыева (Працы Ўсходняга Аддзялення Археалагічнага таварыства, частка 8, 1864).

234 Цярэшчанка А. Канчатковае даследаванне мясцовасьці Сарая з апісаннем слядоў Дешткіпчацкага царства // Навуковыя Запіскі Імператарскай Акадэміі Наук па першаму і трэццяму аддзяленнях. т. II. 1854.

А як жа яны прыйшлі туды із Малой Азіі? Магчыма морам? – Але турэцкі флот не быў бы прапушчаны ў Яўропу венецыянцамі, якія былі самымі магутнымі мараходамі таго часу, валоўшымі, згодна з іхнымі уласнымі запісамі, усім грэцкім архіпелагам ад 1207 да 1572 года[235] з тытулам дучэй (duce – правадыр, венецыянскае дочжэ, doge – дож); праз што і іхныя ўладанні ў Чорным моры маглі мець назву на маўра-арабскай мове "улусамі Джучэй".

Але ж, калі, туркі із Сірыі і Малой Азіі фізічна не маглі пранікнуць у сваім анты-крыжовым паходзе ў Сербію морам да зыходу з усходу венецыянцаў і да заваявання Цар-Горада (бо нават і для пераправы праз Дарданелы ім патрэбна было б мець флот, здольны супрацьстаяць венецыянскаму, каб не быць адарванымі ад сваёй базы), то і ўсё вывядзенне турэцкай імперыі із Азіі, а не із Вугоршчыны перадвараецца ў фантазію, нягледзячы на ўсе "сведчанні (нябожчыкаў) відавочцаў".

Вось чаму я і тут буду лічыць гістарычнымі фактамі толькі самі дакументы, а тое, што ў іх напісана – толькі ўяўленнямі іхных аўтараў, якія ў большасьці заўсёды падобны на адлюстраванні ў крывых люстэрках (тым больш крывых, чым яны больш старажытныя, а ў выпадку шматразовага перадавання ад адной асобы да іншай усе гістарычныя факты пераіначваюцца пасьлядоўным шэрагам такіх крывых люстэрак да непазнавальнасьці).

Ніякія параўнанні аднаго дакумента з другім тут не дапамогуць, пакуль кожны дакумент не будзе дастаткова даследаваны пры дапамозе сучасных дакладных навук, такімі перш за ўсё як астраномія, геаграфія з эканомікай, тэорыя верагоднасьцей, псіхалогія, параўнальная філалогія, параўнальная анамастыка і параўнальная арфаграфія.

Пра першыя метады я ўжо дастаткова выказваўся ў маім даследаванні "Хрыстос", а зараз скажу толькі пра параўнальную арфаграфію.

Мы павінны прыняць за аснову, што ніякай агульнапрынятай арфаграфіі не магло існаваць да вынаходніцтва кнігадрукавання Гутэнбергам у 1450 годзе. А ксілаграфія (гравіраванне на дрэве), меўшая пашырэнне замест друкавання наборам да апошняга часу ў Кітаі з нагоды адсутнасьці там фанетычнага альфабэта, павінна лічыцца вынайдзенай, відаць, толькі ў 1701 годзе ў Лейдэне[236], у якасьці стэрэатыпа для кніг, прызначаных для некалькіх нязменных выданняў. Калі б ксілаграфаванне ўзнікла ў Кітаі, – як нас запэўніваюць кітаісты, – яшчэ ў 1593 годзе[237], пад час калі партугальцы ўжо замацаваліся ў Макаа і пачаліся пастаянныя стасункі Заходняй Яўропы з Кітаем[238], то якім жа чынам гэтыя еўрапейскія культуртрэгеры не прывезлі б у Яўропу і кітайскае ксілаграфічнае мастацтва яшчэ на прыканцы XVI стагоддзя, за сто гадоў да таго, як узнікла магчымасць яго вынаходніцтва ў Лейдэне ў 1701 годзе? Вынікае, наадварот, што ксілаграфія завезена ў Кітай еўрапейцамі і не раней XVII стагоддзя. Таму і ўсе ксілаграфічныя кітайскія выданні павінны лічыцца пазнейшымі за гэты час!

Толькі пасьля вынаходніцтва кнігадрукавання і маглі ўтварыцца агульнавядомыя арфаграфічныя правілы, аднастайна выкладаемыя шматлікімі настаўнікамі. А агульнаўжывальнымі гэтыя правілы маглі зрабіцца толькі пры дзяржаўным іх зацверджанні. Згадаем толькі ўмоўнасьці французкага і ангельскага

---

[235] Глядзі. "Хрыстос", кн. IV, с. 796.

[236] Ва ўсякім разе не раней 1461 года (Байкі Бопера).

[237] "Хрыстос" кн. VIII, с. 6.

[238] У партугальцаў з 1522 года, у гішпанцаў пасьля 1550 г., у галандцаў з 1604 г., пры гэтым каталіцкія місіянеры, накшталт Майлья і Габіля, вывозілі адтуль у Яўропу рукапісы.

правапісання. Які б страціўшы розум настаўнік стаў бы выкладаць іх, калі б адчуваў сябе вольным пісаць згодна са сваім вымаўленнем? Які вучань не збіўся б з гэтых арфаграфій, калі б яго не прымушалі да гэтага гадамі практыкаванняў? Да друкавальнага перыяду (г. азн. заканчэння XV стагоддзя), калі рукапісы яшчэ размнажаліся незалежнымі адзін ад другога вольнымі перапісчыкамі маючымі становішча падобнае да такога, калі вы пішаце ліст да свайго знаёмага, ніякай карэктуры звонку не магло існаваць, так жа як і чыіхсьці старонніх загадаў. Із гэтага відавочна, што калі мы знаходзім у разных музеях шэраг хаця б і варыянтных лацінскіх рукапісаў, але з выкарыстаннем той жа транскрыпцыі, як у Гутэнбергаўскіх выданнях граматыкі Элія Даната[239], то гэтыя рукапісы, якімі б старажытнымі ні абвяшчалі іх знайшоўшыя, напісаны пасьля Гутэнберга. Калі мы маем грэцкія рукапісы з той жа арфаграфіяй, як і ў першай друкаванай грэцкай кнізе (верагодна біблії), то гэта азначае, што яны напісаны пасьля яе друкавання і г. д.

Тое ж самае мы можам сказаць і пра арабскую літаратуру. Перш за ўсё, – як я ўжо казаў, – мы не павінны забывацца, што яна ўзнікла не ў Аравіі, не ў Ягіпце, не ў Турцыі і Персіі, а ў культурнай Заходняй Яўропе. У Аравіі і да пачатку XX стагоддзя не існавала ніводнай тыпаграфіі, у Турэччыне першая з’явілася толькі ў 1701 годзе, у Ягіпце ў 1799 годзе, у Персіі (г. азн. у Іране) толькі ў 1851 годзе, тады як у Лейдэне (у Галандыі), – кажуць нам, – "цуды вызначэння ў лёсах Тымура", паэма "сына арабскага шаха (Ібн-Араб-шаха) была надрукавана па-арабскі Галівусам яшчэ ў 1663 годзе, і там жа Манжэронам ў 1767-1772 гг. адразу і па-арабску і на-лаціне.

Вынікае як быццам бы, што гэта была першая друкаваная арабская кніга, надрукаваная на арабскай мове. Узнікае пытанне: для каго яе друкавалі? Няўжо ў галандскім Лейдэне на Рэйне, меўшым назву па-латыні Lugdunum Bataviorum, было так шмат арабаў, што была нагода заводзіть для іх адмысловую тыпаграфію, з машынамі, шрыфтам, з арабамі-карэктарамі, друкарамі і распаўсюджвальнікамі? Пра гэта нават смешна і думаць. Відавочна, гэтае выданне заведама было стратным г. азн. зробленым адмыслова з мэтай распаўсюдзіць сярод публікі "цуды" наконт Тымура, г. азн. такія паданні , якім нельга верыць.

Каран быў надрукаваны ўпершыню толькі ў Гамбурзе ў 1694 годзе. Гэта азначае, што хаця б перапісчыкі старанна перепісвалі яго рукапісы нават з 622 гада нашай эры літара ў літару, аднак пры індівідуальнай творчасьці арабскія аўтары мелі б поўную свабоду транскрыпцыі ў словах і найменнях, якіх у ім няма. А таму, калі ў нейкага арабскага "гісторыка" арфаграфія тоесная з "сынам арабскага шаха", то ўсе шансы за тое, што не араб-шах спісаў іх з гэтых адзінкавых і нікому невядомых (да іхнага апісання арабістамі) рукапісаў у разных еўрапейскіх музеях, а што аўтары гэтых адзінкавых рукапісаў запазычылі арфаграфію ў яго.

Такі крытэрый нашмат больш надзейны за палеаграфічную праверку, таму што адрозненні ў почырках і транскрыпцыі літар залежыць не толькі ад часу, але і ад мясцовасьці. Пры цяжкасьці здзясняць падарожжы да вынаходніцства параходаў і чыгунак заўсёды бывала, што аддаленная правінцыя далёка заставалася ззаду ў сваім развіцці ад цэнтра культуры, а таму і почырк ў ёй захоўваўся ранейшы на цэлыя стагоддзі, калі не больш, пад час да-друкарскага перыяду, калі не існавала агульнага для ўсіх узора.

---

[239] Каля 1456 года, прычым гэтая першая ў сьвеце граматыка была зроблена з рукапісу невядомага часу і паходжання.

І не толькі гэты параўнальна арфаграфічны метад праверкі старажытных рукапісаў, але і пазначаныя і ўжываемыя мной раней астранамічны, эканамічны, этнапсіхалагічны, філалагічны, анамастычны і пробабілітарны, ўжываліся да гэтага часу ў гістарычнай навуцы недастаткова, а для анамастыкі арыенталісты ставілі нават як бы адмыслова прыдуманныя перашкоды для таго, каб ніхто акрамя іх не змог бы разабрацца ў пытанні.

Што, напрыклад, сказалі б вы, калі б пабачылі французскі раман, маючы назву Tsarivan et Knasigor? Ці адразу вы б вызначылі, што справа мае дачыненне да рускага цара Яна і князя Ігара?

Я думаю, што толькі пасьля прачытання самога рамана, ды і то ў тым выпадку, калі б астатнія ўласныя імёны выявіліся б не у такіх жа спалучэннях са сваімі тытуламі, то вы хутчэй за ўсё падумалі б, што тут гаворка ідзе пра нейкіх старажытнапярсідзкіх рыцараў.

Але цалкам у такое ж становішча паставілі нас і арабісты XVIII і XIX стагоддзяў, злучыўшы ўласныя імёны дзеячаў з іхнымі тытуламі і называючы, напрыклад Душыхан (або Джучыхан) замест князь душы, дзе слова душы нагадвае нам італьянскае слова дучэ (duce) – правадыр, а таксама венецыянскае дожэ – герцаг, дож. Дакладна так жа і дзікунскае найменне Тах-тамыш перастает быць дзікунскім, калі мы раздзелім яго на абодва яго кампаненты: Такта і мыш. Апошняе слова выяўляецца пераіначаным рускім словам муж (вымаўляемае і зараз як мушч) у старажытным сэнсе гэтага слова – ваяр (па-нямецку Mensch), а пачатак гэтага дзікунскага імя Такта сугучна са старажытнаіталійскім словам "Docto" (зараз Dotto), зрабіўшымся міжнародным пад час сярэдніх стагоддзяў для пазначэння адукаванага чалавека. Такога дапушчэння штучных цяжкасьцей для думаючага чытача (ды і для самога сябе пры жаданні захаваць свабоду думкі) сучасны свядомы арабіст павінен пазбягаць.

Дакладна таксама можна сказаць, што і калейдаскапічна паведамляць адну за другой пасьлядоўныя прыдворныя падзеі із жыцця нейкага цара не суадносячы з агульным жыццём чалавецтва, таксама не мае карысьці, як сядзець пад адкрытым небам і старанна запісваць рухі па ім воблакаў і змены іхных формаў, не суадносячы з агульнымі метэаралагічнымі законамі і не дзеля знаходжання гэтых законаў у бачным неупарадкаванні воблачных рухаў і формаў. Гэта азначае для асэнсавання гістарычных паданняў патрэбна, па магчымасьці, патлумачыць іхную тэрміналогію і зрабіць яе даступнай і для даследчыкаў сумежных галін ведаў. А ў нас арабісты да апошняга часу, на жаль, дзейнічалі цалкам наадварот. Вось, напрыклад, хаця б нябожчык акадэмік Альдэнбург. Аднойчы мне спатрэбілася пазнаёміцца з адным із яго шматлікіх арабісцкіх даследаванняў (здаецца, з яго артыкулам "Арабскія карані міфа пра Іоа-кінфа"). Бяру названы ім нумар "Вестак Акадэміі Наук" і бачу: дзве-тры старонкі яго артыкула, напісаныя на рускай мове, працягаюцца двума-трыма старонкамі, напісанымі на арабскай, затым аўтар зноў пераходзіць да рускую мову, затым праз дзве-тры старонкі зноў на арабскай і так далей – да заканчэння. Увесь тэкст даследуемага дакумента дадзены ў яго ўрыўкамі на арабскай мове без перакладу на рускую, а ўсе высновы із яго напісаны па-руску без перакладу на арабскую. Чытаць яго даследаванне і рабіць із яго высновы не можа ніхто акрамя арабіста, і прытым выключна рускага. А дай ён тут жа, услед за арабскім урыўкам і рускі пераклад, – яго артыкулы маглі б вельмі спатрэбіцца кожнаму рускамоўнаму навукоўцу даследчыку.

Такім чынам, карыстаючыся пры даследаванні арабскіх рукапісаў як дапаможнікам перакладамі Тызенгаўзена, я не буду тут карыстацца яго анамастыкай, г. азн. буду аддзяляць імёны ад тытулаў, а таксама браць да ўвагі іхнае значэнне.

# III.

## Каляндарная праверка прыдворнага летапісу цара Назарэя, прыпісваемага Багултаю каля 1360 года.

Вось, напрыклад, рукапіс на маўра-арабскай мове, патрапіўшы невядома адкуль і калі ў Мюнхенскую Нацыянальную Бібліятэку і ўтрымліваючы "прыдворную хроніку ягіпецкага султана Эль-Меліка Эн-Насыра"[240] прыпісваемую нейкаму Магултаю, памёршаму быццам бы ў 1360 годзе.

Яна ўтрымлівае запісы нейкага, мяркуючы па знешнасьці, прыдворнага хранікёра за перыяд ад 691 па 741 год Геджры, а згодна з юліянскім злічэннем з 1291 года, пачынаючы з таго часу, калі крыжакі былі ўжо прагнаны грэкамі із Канстантынопаля, і заканчваючы 1341 годам (незадоўга да бітвы на Косавым полі ў 1389 г.), калі туркі, яшчэ не захапіўшы Канстантынопаль і Нікейскую імперыю, ужо завалодалі ўсёй Балканскай паўвыспай.

Адзначу, перш за ўсё, што слова Эль-Мелік проста азначае – цар (le roi, the king, der Konig), а Эн-Насір азначае Назарэй у тым жа спісе, як і Хрыстос (г. азн. прысвечаны ў вышэйшую навуковую ступень), і буду ў сваім выкладанні называць яго "царом-Назарэем".

Я ўзяў гэты прыдворны летапіс першым для гэтай часткі свайго даследавання, таму што ён амаль адзіны із пералічаных Тызенгаўзенам, які дае падставы для матэматычнай праверкі. У ім у шэрагу выпадкаў, пазначаны не толькі дні маўра-арабскіх месяцаў, але і дні тыдня[241]. Паглядзім жа, наколькі дні тыдня адпавядуюць тут дням арабскіх месяцаў і наадварот. Бяру ўсе выпадкі такога падвойнага вызначэння, пазначаючы ў косках, правільныя яны ці не. Вось яны:

"У суботу 26 зуль-хіджа (правільна) 713 гада (13 красавіка 1314 не высакоснага юліянскага года) прыбылі да найвышэйшага двара (мяркуемага ў Каіры, калі гэта не пераіначанне грэцкае слова Кір – "бог") пасланнікі Уз-бека, уладара краін Кіпчацкіх (г. азн. вобласьці Джучы -Duce) у вялікай колькасьці, усяго 174 чалавекі. Адначасова з імі прыехаў пасланнік Ласкарыса (найменне нікейскіх цароў, нават і пасьля заваявання імі Цар-Горада ад крыжакоў)... Наш султан запрасіў іх да сябе ў панядзелак 28-га (правільна) дзудь-хіджа 713 года (15 красавіка 1314 года).

У чацвер (а патрэбна ў сераду) 1 мухарэма 714 года (18 крас. 1314 г.) названыя пасланнікі падняліся (ў "Замак"); на ўсіх іх былі (ганаровыя) халаты. У аўторак (а патрэбна ў панядзелак!) 20-га мухарэма (6 траўня 1314 года) быў вызвалены Буралгі, малодшы па гаспадарцы Уза-бека (старшіні Уза)... У сераду (правільна) 7 сафара (22 траўня 1314 г.) з’ехалі пасланнікі Уз-бека; разам з ім выправіўся эмір Сефі-едцын Урудж, кіраўнік палацавых музыкантаў, і Эль-хусамі Хусэйн, сын Сару, із правадыроў гвардыі.

У суботу (правільна!) 6-га шэваля 715 гада (3 студзеня 1316 года) прыйшлі пасланнікі Ўза-бека, усяго 170 чалавек; прыбыў таксама пасланнік Ласкарыса...[242]

---

[240] Цыт. Згодна з В. Тызенгаузенам. “Зборнік матэрыялаў, якія маюць дачыненне да гісторыі Залатой Арды”. т. I: Выняткі із твораў арабскіх. 1884 г.

[241] Лёгкі спосаб іхнага перакладу на злічэнне дадзены ў мяне ў VI томе "Хрыста", с. 612-614.

[242] Тызенгаузен, 1, с. 265.

У суботу (правільна!) 20 шэваля (17 студзеня 1316 г.) пасланнікі ўзышлі ў "Замак", і султан запрасіў іх у дыван... У чацвер (правільна!) 15 зуль-хіджа (11 сакавіка 1316 г.) пасланнікі Уза і Ласкарыса падняліся (у "Замак") перад заходам сонца, ўвайшлі ў палац. Яны памаліліся там, спусьціліся і з’ехалі ў панядзелак (правільна!) вечарам 19 зуль-хіджа (15 сакавіка 1316 года)...

У нядзелю (правільна) 28 рэбі-эль-авеля 724 гада (25 сакавіка 1324 года) прыбылі пасланнікі Ўза-бека і, разам з імі Каракуш Эль-Кендукі, з’ехаўшы да татараў у мінулым (722) годзе. У пятніцу (а патрэбна: у суботу!) 25 ребі эль-ахіра (21 крас. 1324 г.) з’ехалі названыя пасланнікі...

У чацвер (а патрэбна: у сераду!) 6 рэбі-эль-авеля 741 гога (30 жніўня 1340 г.) прыбылі пасланнікі Ўза-бека, гасудара краін Кіпчацкіх, у тым ліку трое вяльможаў: Урук-Тэмір з сынам Мухамед-Хаджой, Кутлу-хаджа з сынам Абу-бекрам і Байдара, кіраўнік палявання. Яны былі запрошаны ў палац у панядзелак (а патрэбна: у нядзелю!) 10-га дня (3 вер. 1340 года). Ім былі падараваны халаты і залатыя паясы. Яны з’явіліся ў халатах у чацвер (а патрэбна: у сераду) 13 дня (6 верасня 1340 г.). Ім была падаравана вялікая сума дырхемаў і прызначана выдатнае ўтрыманне. Потым старэйшы із іх Урук-Тэмір захварэў і памёр ноччу ў чацвер (а патрэбна: у сераду) 27-га таго ж рэбі-эль-авеля (20 вер. 1340 года). Сабраліся эміры, прісутнічалі на яго пахаванні і здзейснілі над ім малітвы.

У чацвер (правільна!) 22 шабана (8 лютага 1341 года) згаданым вяльможам былі падараваны феразі з залатым шыццём. Потым яны развіталіся, выйшлі і першага рамазана (18 лютага 1341 года) выправіліся назад у свае мясьціны.

У суботу (а патрэбна: у пятніцу) вечарам 15-га рэбі-эль-авеля 741 года (9 верасня 1340 года) памёрла знакамітая спадарыня Дулунбія, сваячка Уза, гасудара краін Кіпчацкіх. Яна была пахавана ў нядзелю (а патрэбна ў суботу!) 16 дня (9 вер. 1340 года) у склепе, належаўшым дзецям Аргуна, султанскага намесьніка ў Эл-Карафе. Прыбыла згаданая із краін (Кіпчацкіх) у той час, калі Эль-Мелік-Энысар (цар Назарэй) выказаў намер адружыцца з ёю. Ён, сапраўды, і адружыўся з ёю. Прыезд яе адбыўся ў панядзелак (правільна!) 25 рэбі-эль-авеля 720 гада (5 траўня 1320 года)"[243].

Трохі разбярэмся ў гэтых прыдворных запісах Магултая, у якіх, бяспрэчна, было б дзіўным для прыдворнага хранікёра блытаць дні тыдня ці каляндарныя дні.

Мы бачым, што тут амаль палавіна дат не адпавядае рэчаіснасьці, і, што больш за усё важней, гэтыя недакладнасьці не могуць быць прыпісаны памылкам капіравальніка. У апошнім выпадку яны былі б не сістэматычнымі і замест, напрыклад, суботы, мог бы выявіцца які заўгодна дзень тыдня. А тут яны ў васьмі выпадках дадзены толькі на 1 дзень пазней, чым было ў рэчаіснасьці, у адным выпадку толькі на 1 дзень раней, а ў шасьці выпісанных намі і некалькіх астатніх – вельмі дакладна.

Пры якіх умовах магло так здарыцца? Толькі ў тым выпадку, калі б у арыгінале гэтых запісаў былі дадзены дні юліянскага календара, а ўжо пазней яны былі пераведзены на магаметанскае злічэнне, і, як следства, гэтая прыдворная хроніка была першапачаткова напісана не на-арабскай, а на нейкай із еўрапейскіх моў, хутчэй за ўсё на тагачаснай міжнароднай лаціне, а ўяўляемы аўтар гэтых запісаў Магул-Тай быў на самай справе не прыдворным хранікёрам ягіпецкага султана, а яе перакладчыкам[244].

---

[243] Тызенгаузен, 1, с. 268.

[244] Я не кажу пра выпадак падробкі, што таксама магчыма.

Толькі ў такім выпадку і магло здарыцца, што, пераводзячы дні месяцаў із юліянскіх на мусульманскія, ён мог праз неуважлівасць прапусьціць той ці іншы выпадак высакоснасьці мусульманскага календара, якія паўтараюцца ў няправільным парадку праз год ці два[245], пры гэтым, у выпадку высакоснасьці ў апошняга мусульманскага месяца зуль-хі-джэ лічыцца 30 дзён замест 29, табл. XIII. Тады і атрымаецца спазненне назваў дзён тыдня на адзін дзень, а пры забыванні пра юліянскі высакосны год або пры наданні простаму мусульманскаму месяцу значэння высакоснага адбудзецца дадаванне аднаго дня тыдня.

Каб чытачу-гісторыку, неспрактыкаванаму ў каляндарных выкладках, было відавочна, у чым справа, я відавочна паказваю, як гэта адбылося ў нашай першай выпісцы.

Табліца XIII.

*Агульнапрынятае чаргаванне 29 і 30 дзён у мусульманскіх месяцах года адпаведна маладзікам.*

| | | |
|---|---|---|
| *1* | *Мухарэм* | *30 дзён* |
| *2* | *Сафар* | *29 дзён* |
| *3* | *Рабі-эль-Авель* | *30 дзён* |
| *4* | *Рабі-эль-Ахір* | *29 дзён* |
| *5* | *Джэмалі-эль-Аў эль* | *30 дзён* |
| *6* | *Джэмалі-эль-Ахір* | *29 дзён* |
| *7* | *Раджаб* | *30 дзён* |
| *8* | *Шабан* | *29 дзён* |
| *9* | *Рамазан* | *30 дзён* |
| *10* | *Шаваль* | *29 дзён* |
| *11* | *Зуль-Кадэ* | *30 дзён* |
| *12* | *Зуль-Хіджэ* | *29 (30)дзён* |
| *Гэты апошні месяц мае ў мусульманскім простым годзе 29 дзён; мусульманскім высакосным 30 дзён.* | | |

Мы бачылі на яе пачатку, як у 26 дзень месяца Зуль-Хіджа 713 года Геджры прыйшлі да "найвышэйшага двара" пасланнікі ў суботу (дзень пазначаны правільна!), як яны былі прыняты пад час мусульманскага навагодняга дня 1 Мухарэма 714 года, у чацвер (патрэбна было сказаць у сераду), як быў вызвалены Бу-ральгі 20-га Мухарэма 714 года ў аўторак (а патрэбна было сказаць ў панядзелак) і як затым пасланнікі з’ехалі 6-га Сафара 714 года ў сераду (дзень названы правільна!).

Паказаўшы гэтыя суадносіны дзён і месяцаў на табліцы, мы бачым, што такое зрушэнне двух сярэдніх дзён магло адбыцца толькі ў тым выпадку, калі аўтар надаў месяцу Зуль-Хіджэ 30 дзён замест 29, што бывае толькі пад час высакоснага года, між тым, як 713 год згодна з мусульманскім злічэннем быў простым. З нагоды гэтага ўсе дні тыдня ў Мухарэме і перайшлі ў яго на наступныя дні тыдня (табліца XIV).

Табліца XIV.

*Выява Магултаевага зрушэння ўсіх дзён, пачынаючых новы 714-й мусульманскі год, месяца Мухарреэма на адзін дзень тыдня наперад, з нагоды дадавання апошняму месяцу мінулага 713 года Зуль-Хіджэ – непатрэбнага яму ў дадзеным выпадку 30-га (высакоснага) дня.*

(1314 Юліянскі, 714 Мусульманскі год).

| юліянскае | дні тыдня | мусульманскае злічэнне |
|---|---|---|

[245] Пра гэта гл. табліцу ў VI томе "Хрыстос", с. 612.

| | | |
|---|---|---|
| злічэнне | | |
| 13 красавіка | субота | 26 Зуль-Хінджэ 713 года. Прыехалі пасланнікі ў суботу (правільна!) |
| 14 | нядзеля | 27 |
| 15 | панядзелак | 28 |
| 16 | аўторак | 29. 30 Зуль-хіндзі дададзена дарэмна |
| 17 | серада | 1 Мухарэма 714 года. Прыняты пасланнікі ў чацьвер (а патрэбна ў сераду) |
| 18 | чацвер | 2 |
| 19 | пятніца | 3 |
| 20 | субота | 4 |
| 21 | нядзеля | 5 |
| 22 | панядзелак | 6 |
| 23 | аўторак | 7 |
| 24 | серада | 8 |
| 25 | чацвер | 9 |
| 26 | пятніца | 10 |
| 27 | субота | 11 |
| 28 | нядзеля | 12 |
| 29 | панядзелак | 13 |
| 30 | аўторак | 14 |
| 1 траўня | серада | 15 |
| 2 | чацвер | 16 |
| 3 | пятніца | 17 |
| 4 | субота | 18 |
| 5 | нядзеля | 19 |
| 6 | панядзелак | 20 Мухарэма 714 года. Вызвалены Буральгі ў аўторак (а патрэбна ў панядзелак) |
| 7 | аўторак | 21 |
| 8 | серада | 22 |
| 9 | чацвер | 23 |
| 10 | пятніца | 24 |
| 11 | субота | 25 |
| 12 | нядзеля | 26 |
| 13 | панядзелак | 27 |
| 14 | аўторак | 28 |
| 15 | серада | 29 |
| 16 | чацвер | (30 Мухарэма не дадзена) |
| 17 | пятніца | 1 Сафара |
| 18 | субота | 2 |
| 19 | нядзеля | 3 |
| 20 | панядзелак | 4 |
| 21 | аўторак | 5 |
| 22 | серада | 6 Сафара 714 г. З’ехалі пасланнікі ў сераду (правільна!) |

А пры пераходзе да другога месяца мусульманскага 714 года перакладчык ўжо выправіўся і лічыў дні месяца згодна з невысакосным злічэннем, з нагоды чаго ў яго знік заўсёды абавязковы для Мухарэма 30-ы дзень. У выніку і атрымалася такая неадпаведнасць: замест таго, каб даць Зуль-Хіджэ 29 дзён, а Мухарэму – 30, ён зрабіў наадварот, і гэта не праз простую апіску, а дзякуючы недасведчанасьці ў справе, таму што даў такі разлік два разы (на 1 і 20 дзень Мухарэма).

А вось і другі прыклад.

Мы бачылі вышэй паведамленне, што ў 724 годзе Геджры да "найвышэйшага двара" прыбылі пасланнікі ад кіпчацкага старшыні Ўза ў нядзелю 28 дня Рэбі-эль-Авеля, прычым дзень тыдня выявіўся пазначаным правільна. А затым у пятніцу 25 дня наступнага месяца – Рэбі-эль-Ахіра яны з’ехалі. Але вылічэнне дае для 25 дня Рэбі-эль-Ахіра не пятніцу, а суботу. Як магло здарыцца такое непагадненне?

Табліца XV наглядна паказвае гэта. Аўтар надаў месяцу Рэбі-эль-Авелю толькі 29 дзён замест 30, і таму ўсе дні наступнага за ім месяца Рэбі-эль-Ахіра перасунуліся на адзін дзень тыдня наперад.

Табліца XV.

*Зрушэнне дзён месяца Рэбі-эль-Ахіра 714 года Геджры па днях тыдня на адзін дзень наперад з нагоды таго, што peралічальнік із юліянскага злічэння надаў папярэдняму Рэбі-эль-Авелю 29 замест 30 дзён.*

| | | |
|---|---|---|
| 25 траўня | нядзеля | 28 Рэбі-эль-Авель... Прыбыццё пасланнікаў старшіні Уза ў нядзелю. |
| 26 | панядзелак | 29 (30 дзень Рэбі-эль-Авеля не дадзены) |
| 27 | аўторак | 1 Рэбі-эль-Ахіра |
| 28 | серада | 2 |
| 29 | чацвер | 3 |
| 30 | пятніца | 4 |
| 31 | субота | 5 |
| 1 красавіка | нядзеля | 6 |
| 2 | панядзелак | 7 |
| 3 | аўторак | 8 |
| 4 | серада | 9 |
| 5 | чацвер | 10 |
| 6 | пятніца | 11 |
| 7 | субота | 12 |
| 8 | нядзеля | 13 |
| 9 | панядзелак | 14 |
| 10 | аўторак | 15 |
| 11 | серада | 16 |
| 12 | чацвер | 17 |
| 13 | пятніца | 18 |
| 14 | субота | 19 |
| 15 | нядзеля | 20 |
| 16 | панядзелак | 21 |
| 17 | аўторак | 22 |
| 18 | серада | 23 |
| 19 | чацвер | 24 |
| 20 | пятніца | 25 Рэбі-эль-Ахіра 724 года з’ехалі пасланнікі старшіны Уза у пятніцу (а патрэбна ў суботу). |
| 21 | субота | |

Цалкам такімі ж дылетантскімі ўяўленнямі пра даўжыню мусульманскіх месяцаў тлумачацца і ўсе астатнія, пазначаныя мной у даследуемым рукапісе Магултая памылкі на дзень. Назва дня тыдня прыпадае у іх на "ўчора", калі ў папярэднім месяцы, які мае толькі 29 дзён, дарэмна дадзены 30-ы, і на "заўтра", калі 30-дзённаму месяцу памылкова нададзена толькі 29 дзён.

Але ці мог зрабіць такія памылкі сапраўдны мусульманскі прыдворны хранікёр? – Ні ў якім разе!

Таму што падлічэнне дзён у дванаццаці мусульманскіх месяцах надзвычай простае (гл. табл. XIII). Няцотныя месяцы маюць цотную колькасць дзён – 30, цотныя – наадварот, маюць няцотную колькасць – 29, і толькі пад час высакоснага мусульманскага года апошняму месяцу – Зуль-Хіджэ – дадаецца адзін дзень. Памыліцца тут можна толькі пры высакосным дадаванні да Зуль-Хіджэ, што вызначаецца з дапамогай асобнай табліцы, а памыліцца ў астатніх, як мы тут назіраем, ва ўсіх прыведзеных выпадках, акрамя першага, мог толькі прафан, не памятаючы нават простага чаргавання мусульманскіх месяцаў. Механіка такіх памылак тут цалкам зразумелая із маіх параўноўваючых табліц XIII, XIV і XV.

І вось канчатковая выснова із толькі што праведзенага намі даследавання:

Калі кніга аўдыенцый "цара-Магістра (Эль-Меліка Эн-Насыра) не пазнейшая падробка пачынаючага заходнееўрапейскага арабіста, з мэтай выкарыстаць яе як матэрыял для доктарскай дысэртацыі або апраўдаць камандыроўку на Ўсход, то гэта пераклад на маўра-арабскую мову нейкай прыдворнай еўрапейскай хронікі XIV стагоддзя з перанясеннем месца дзеянні ў Ягіпет.

Спачатку я схіляўся да апошняга вырашэння гэтай дылемы, але потым пачаў лічыць больш верагодным іншае, г. азн. падробку. Справа ў тым, што ў той самы час адбывалася паступовае заваяванне туркамі-асманамі малаазійскіх уладанняў Нікейскай імперыі, прычым і сам горад Нікея быў захоплены ў 1330 годзе ў Андроніка III (1328-1341). Гэта азначае, пазначаныя тут пасланнікі Ласкарыса былі пасланнікамі яго папярэдніка Андроніка II (1282-1328 гады), таксама знаходзіўшагася пад пастаяннай пагрозай мусульман. Але з якой жа нагоды ім была патрэба выпраўляць пасланнікаў у Ягіпет да адзінаверцаў іхнага ворага, ды яшчэ і морам побач з выспамі грэцкага архіпелага якія знаходзіліся ва ўладанні каталікаў-венецыянцаў? І як маглі ездзіць да іх пасланнікі ягіпецкага султана-мусульманіна тым жа самым, пазначаным намі шляхам? Вынікае, што ўсё гэтае апавяданне не вытрымлівае крытыкі не толькі з нагоды неведання аўтарам дзён магаметанскіх месяцаў, але і згодна з самой палітычнай кан'юнктурай таго часу.

## IV

### Параўнанне Дукмака, Макрызі і Нувейры.

Разгледзім зараз і астатнія "мусульманскія" дакументы пра тое ж "мангольскае іга".

Адносна большасьці такіх рукапісаў мы не маем, як я ўжо згадваў, сведчанняў, адкуль і калі яны патрапілі ў заходнееўрапейскія сховішчы. Мы ведаем толькі, што ні ў Каіры, ні ў Багдадзе і ні ў нейкіх іншых заходне-азіяцкіх ці афрыканскіх царствах ніколі не было кнігасховішчаў аж да сярэдзіны XIX стагоддзя. Давяраць галаслоўным паведамленням пра тое, што аўтар таго ці іншага іх гэтых рукапісаў жыў "ад такога-та да такога-та года Геджры" ці юліянскага злічэння таксама мала падставаў, як і паведамленням першага сустрэчнага. Ды і самі апавяданні часта вымушаюць адукаванага чалавека, не верачага ў цуды, толькі адмахвацца ад іх абедзвюма рукамі.

З падобнага боку гледжання заўсёды цікава даведацца, у якім годзе і на якой мове выйшла першае друкаванае выданне дадзенага твора, так як пазначыць толькі што выдадзеную ў шматлікіх экземплярах кнігу даўно мінулым годам азначала б выклікаць размовы карэктараў і наборшчыкаў. Але, да нашага здзіўлення, амаль ніводны із прыведзеных Тызенгаузенам арабскіх рукапісаў, нягледзячы на цікавасць, абуджаную да арабскай літаратуры з часоў крыжовых паходаў, не быў не толькі што надрукаваны, але і перакладзены ні на адну із еўрапейскіх моваў да

самага Тызенгаузена, выдаўшага свае ўрыўкавыя рускія пераклады ў 1884 годзе. А між тым рукапісы ў адзіных ва ўсім сьвеце экземплярах знаходзіліся амаль у кажным еўрапейскім музеі, і прытым большая частка із іх у аснове паказвае нейкія цуды (калі ён напісаны не ў Яўропе!) перапісвання адзін у другога, але не простыя, а з варыянтамі, дапаўненнямі і выключэннямі таго, што не падабалася капіісту.

Вось, напрыклад, хаця б запіс Мак-Рызі, які жыў, – паведамляюць нам, – паміж 1364 і 1442 гадамі нашай эры і напісаўшага "Кнігу шляхоў для пазнання дынастый царскіх", даючую палітычную гісторыю Ягіпта ад 1171 па 1441 гады.

Параўнанне яе з летапісам сына Дук-Мака, які жыў, – запэўніваюць нас, – паміж 1308 і 1388 гадамі (прычым слова Дук сугучна з французскім Due), мы знаходзім, напрыклад, для 1317 года:

| У сына Мак-Дука | У Мак-Рызі. |
|---|---|
| (паміж 1308 і 1388 гг.) | |
| У 717 годзе | (паміж 1364 і 1442 гг.) |
| (у 1317 г. нашага злічэння) | Пад час Рамазана 717 года |
| вярнуліся | (у лістападзе 1317 года нашага злічэння) |
| ад | прыбылі |
| Хана Уза і | із валоданняў |
| гасудара Канстантынопальскага | старэйшыны Уза |
| Айдагды-эль Білікі | (адсутнічае) |
| Эль-Харэзмі, | князь Ала-Эддзін-Айдагды |
| Хусейн, сын Сару | Эль-Харэзмі |
| і патрыярх Мелькіцкі. | Хусейн, сын Сару |
| Разам з імі пасланнікі | і патрыярх Мелькіцкі. |
| Старейшын Уза | Разам з імі пасланнікі |
| Шарык, Бугуртай, Куртук, | цара старэйшыны Ўза |
| Амар Крымскі | Шарык, Бугуртай, Куртук, |
| і пасланнікі ад Яаскарыса | Амар Крымскі |
| цара Канстантынопальскага | і пасланнікі Ласкарыса |
| і еўнуха яго | (адсутнічае) |
| ён жа старэйшы ў доме яго | І служка яго |
| Міхал Эль-Абрукацімус | старэйшына дома яго |
| Гэтая назва па-грэцку | Міхал Катыманус |
| паказвае на пасаду | Гэтае тлумачэнне адсутнічае |
| яго пры цары яго і другі – Ян | Абрукатэменас (о-Προκαθηπενος – азначае пасьцельнічы) |
| і трэцці Тэадорас. | (адсутнічае) |
| Яны з’явіліся да найвышэйшага | і Тэадорас. |
| Двара, прадставілі свае граматы і паднеслі свой падарунак. | (адсутнічае) |
| Падарунак старэйшыны Ўза | Пры іх былі падарункі. |
| складаўся із | Падарункі старэйшыны Ўза |
| 3 сокалаў, 6 нявольнікаў, | складалі |
| 3 кальчуг | 3 сокалаў, 6 нявольнікаў |
| булатнага мяча | кальчуга |
| і шлема. | булатны меч |
| Ніхто із цароў гэтых раней | і шлем |
| не прыносіў нічога падобнага, таму што ў іх у звычаі беражлівасць | (Гэта разважанне адсутнічае у Мак-Рызі). |

Ужо з першага погляду звыклы крытычны погляд тут бачыць, што Дук-Мак перапісваў гэтае месца із Мак-Рызі, папаўняючы яго прыходзіўшымі ў яго галаву думкамі і здагадкамі, а ніяк не Мак-Рызі, скарачаючы Дук-Мака, пераіначыў грэцкае слова о-Προκαθηπενος із Абракаціменуса ў Каціманусa, паменшыўшы колькасць пасланнікаў із трох да двух, колькасць падараваных кальчуг із трох на адну і выключыўшы тлумачэнне, што ніхто із гэтых цароў раней не прысылаў такіх каштоўных падарункаў.

На падобнае ж удасканаленне складу і на папаўненне перепісанага ў Мак-Рызі паказваюць і іншыя паралельныя месцы Дук-Мака.

Але якім жа чынам Дук-Мак мог выпраўляць і папаўняць летапіс Мак-Рызі, які выйшаў ужо пасьля яго (Дук-Мака) сьмерці?

Бо я толькі што паказаў, што згодна з цверджаннямі самім жа арабістаў Макрызі нарадзіўся ў 1364 годзе, а памёр ва ўзросьце сямідзесяці васьмі гадоў у 1442 годзе. Нават, выказаўшы неверагодную здагадку, што ён пачаў пісаць свой летапіс гадоў 22 ад нараджэння, ён напісаў бы гэтае сярэдзіннае месца не раней як гады праз тры, г. азн. не раней 1389 года, калі Дук-Мак ўжо памёр.

Дык якім жа чынам гэты Дук-Мак выправіў і палепшыў паданні Макрызі, лежачы ў магіле, пасьля сваёй сьмерці? І ва ўсякім выпадку, чалавек, памёршы за 54 гады да сьмерці іншага чалавека, не можа быць яго працягвальнікам.

Чаго ж вартыя ўсе гэтыя вызначэнні гадоў нараджэння і сьмерці арабскіх аўтараў?

Геаграфічныя найменні на мапе Бенікaзы ад вусьця Дуная да вусця Рыёна.

| | | |
|---|---|---|
| San Giorgio | trinici | vospro |
| Solina (Суліна) | saline | pondico |
| lichostoma (Кілія) | Chalamita (Инкермань) | Charcavognj |
| fidonisi (выспа ў моры) | | Secham |
| | fanar (на моры) | saline |
| saline | Giriconda (Херсон) | chumania (Куманія) |
| falchonair | | San Gorgio |
| monchastro (Акерман) | Zembano (Балаклава) | lena de Gospori |
| | | pertetti |
| la Ginestra | calojani | Polonixi |
| flordelix | san todero (Аі Тодар) | palastra |
| barbarexe | | lo Chachi |
| Grotte de tonnj | Garcovi (Гурзуф) | papacomo |
| porto bo | pangropoli | fiume rosso |
| Zagori (выспа ў моры) | Soldaya (Судак) | |
| | lustra (Алушта) | porto pixiani |
| erexe | Scuti (Ускют) | margomixi |
| magaticho | meganome | la tana |
| pidea | callitra | Cassar de li rossi |
| Isola rossa | pecsidema | Ja charia |
| G(olfo) de Nigropoli | Caffa (Феадосія) | bacinachi (Печанегі) |
| saline | Zavida | |
| largoxida | Cipico | far mango |
| varangito | cavallari | far parvo |
| rosofar | Aspro miti | lo pexo |
| san Giorgio | porto de cusacho | savastopoli (старажытная Дыяскурыяда) |
| la Cincopa | alba Zichia | |

*а па-руску Оз-бяк*), якія мусульмане; кіпчакі чаркасы (*старадаўняя назва казакаў ад горада Чаркасы на Доне*), рускія і візантыйцы, якія з'яўляюцца хрысьціянамі. Кожны народ жыве асобна на тэрыторыі свайго раёна; там і іхныя базары. Купцы ж і чужаземцы із двух Іракаў, із Ягіпта (!!), Сірыі і іншых месцаў жывуць у асобным раёне, дзе сьцяна агароджвае маёмасць купцоў.

Царскі палац мае назу Алтунташ (Золатагаловы), алтун пішацца праз "а", "л", "тун" і азначае золата, а таш пішацца праз "та" і "ш" – азначае галава.

Ёсць там келля прававеда, вучонага імама Наман-эддзіна Эль-Харэзмі. Я бачыў яго; гэта адзін із выдатнейшых шэйхаў, дзіўнага нораву, шляхетнай душы, сціплы і надзвычай строгі да ўладальнікаў мірскіх даброт. Цар Уз-бек кожную пятніцу прыходзіць наведваць яго, але імам не выходзіць да яго насустрач і не паднімаецца перад ім. Цар садзіцца перад ім, размаўляе з ім самым ласковым чынам і зміраецца перад ім, а шэйх паводзіць сябе процілеглым гэтаму чынам. Цалкам іншымі былі дачыненні старца з факірамі, жабракамі і падарожнікамі: ён ставіўся да іх паблажліва, размаўляў з імі ласкава і выказваў ім павагу. Ён ушанаваў і мяне – ды верне бог яму дабром! – і прыслаў мне цюркскага нявольніка. Я быў асабістым сведкам адной яго благадаці. Я меў намер із Сарая паехаць у Харэзм, але ён паведаміў мне:

– Табе давядзецца застацца.

А я ўсё-такі наважыўся ехаць, і раптам у мяне збег служка і я застаўся. Гэта адно з відавочных цудаў. А пасьля заканчэння трох дзён адзін із маіх спадарожнікаў знайшоў гэтага збегшага служку ў горадзе Хаджытархане (*Астрахані*) і прывёз яго да мяне. І толькі тады я выправіўся ў Харэзм. Паміж ім і сталіцай Сараем стэп ў 40 дзён шляху. Па ім не ездзяць на конях з нагоды недахопу пашы; арбы возяць там толькі вярблюды. Із Сарая мы ехалі 10 дзён і дайшлі да горада Сарай-Джук (*Сарайчык*[275]). Джук пішацца праз "Джу" і "к" і азначае маленькі, так што Сарай-Джук азначае Малы Сарай. Ён размешчаны на беразе вялікай і хуткай ракі, якая мае назву Ўлуса – пішацца праз "у", "лу", "су" – што азначае "вялікая вада" (*рака Урал?*). На ёй мост із караблёў, як багдадзкі мост. Каля гэтага гарада закончылася наша язда на конях, вязучых цяжкія арбы. Мы прадалі іх там і для перавозкі арбаў нанялі вярблюдаў.

У едучых гэтым стэпам у звычаі хуткасць, з нагоды недахопу свежай вады. Вярблюды, перасякаючыя стэп, большай часткай гінуць, а тых із іх, якія застаюцца жывымі, выкарыстоўваюць толькі на другі год, пасьля таго, як яны патлусьцеюць. Вада ў гэтым стэпе сустракаецца каля вядомых вадапояў праз два-тры дні. Гэта вада дажджавая і назапашваецца ў пясчанай глебе (*што відавочна немагчыма*). Прайшоўшы гэты стэп, мы прыбылі ў Харэзм".

Але такога горада ў Азіі няма, толькі із маршрута відаць, што аўтар так называе Хіву. Чаму ж такая назва, калі ў самой Хіве яе ніхто не ведае? Праглядаючы старажытную гісторыю, мы бачым што Харэзмам класікі называлі краіну царства Ахеменідаў (Безшлюбнікаў), якую гісторыкі эпохі Адраджэння размясьцілі без асаблівага абгрунтавання ў гэтай самай мясцовасьці. Але ж Харэзмскае царства, – кажуць нам, – знікла з твару зямлі яшчэ да пачатку нашай эры? Як жа гэта імя ажыло ў сына Батуты? Чаму ён не называе гэты гарад проста Хіва, а згодна з класікамі? Вось як ён яго апісвае:

"Гэта адзін із самых вялікіх, значных і прыгожых турэцкіх гарадоў, з вялікай колькасьцю слаўных базараў, прасторнымі вуліцамі, шматлікімі пабудовамі,

---

[275] Тызенгаузен, 1, 307.

адзначаючыхся прыгажосьцю. Ён быццам бы вагаецца ад шматлікасьці сваіх жыхароў і хвалюецца ад іх, як марскія хвалі. Аднойчы я паехаў па ім верхам і заехаў на базар. Дабраўшыся да яго сярэдзіны і патрапіўшы ў самы вялікі натоўп на месцы, якое мела назву шаур, я не быў у стане прабрацца праз яго з нагоды шматлікасьці народу. Я разгубіўся і вярнуўся толькі пасьля вялікіх намаганняў. Адзін з натоўпу паведаміў мне, што ў пятніцу на гэтым базары бывае менш людзей, таму што харэзмійцы наведваюць у гэты дзень Кайсарыйскі[276] базар і іншыя...

Гэты горад пад уладай цара Уз-бека, у якім ад яго кіруе князь на імя Кутлу-думур, наладзіўшы там вучэльню з належачымі яму памяшканнямі, а мячэць пабудавала яго жонка, пабожная дама Тура-бек – пішацца праз "ту", "ра", "бэ" і "к". У Харэзме існуе шпіталь, пры якім сірыйскі лекар. Не бачыў я ў іншых краінах людзей ні лепшых характарам, чым жыхары Харэзма, ні шляхетнейшых душой, ні ласкавейшых да чужаземцаў.

У іх па частцы малітвы існуе выдатны звычай, ён заключаецца ў тым, што калі нехта не з'яўляецца на малітву разам з усімі, то караецца імамам бізуном у прысутнасьці абшчыны. З гэтай мэтай у кожнай мячэці павешаны бізун. Акрамя таго, не прыйшоўшы плаціць пяць дынараў, якія выкарыстоўваюцца на патрэбы мячэці і раздаюцца жабракам і бедным. Харэзмійцы сцвярджаюць, што гэты звычай існуе ў іх з даўніх часоў. За межамі Харэзма – рака Джэйхун, адна із чатырох рэк, якія выцякаюць із рая. Падчас сцюжы яна замярзае, як і рака Ітыль; людзі ходзяць па ёй і яна застаецца замёрзшай 5 месяцаў. У летні ж час па ёй плаваюць на лодках да Тэрмедза і прывозяць адтуль пшаніцу і ячмень. Для спускаючагася ўніз па рацэ – гэты пераезд занімае 10 дзён.

Пасьля ранішняй малітвы прыйшлі да нас у Харэзме мясцовы кадзі і разам з ім некалькі старэйшын горада. Гэта мужы доблесьці і высакародства. У іхным вучэнні перабольшвае ітызаль (*раскол*), але яны не выказваюць яго, таму што цар Уз-бек і кіраўнік горада Харэзма Кутлу-думур, суніты (*а раней Уз-бек называўся "ханефійцам, п'ючым віно"*)... Імя Кутлу-думур пішацца праз "ку", "т", "лу", "ду", "му" і "р" і азначае "шчаслівае жалеза", так як "кут-лу" азначае – шчаслівы, а думур (або Цімур) – жалеза. Гэты эмір, сын цёткі вялікага цара Ўза-бека, старэйшы із яго князёў і яго кіраўнік Харасана. (*Зараз Харасан пярсідзкая правінцыя з галоўным горадам Мешдхедам, але паміж ёю і Хівой знаходзіцца туркменскі стэп з горадам Мервам*)..."

Я не даю далейшых паведамленняў сына Батуты, так як у дадзеным выпадку нас цікавяць толькі яго уяўленні пра Расію. Калі яшчэ не было геаграфічных мап і курсаў геаграфіі, была магчымасць як заўгодна ператасоўваць паміж сабой усе гарады і народы і прыпісваць ім якія заўгодна цуды, чаргуючы іх з цалкам праўдзівымі паведамленнямі сапраўды бываўшых там людзей. А для таго, каб чытач не задаваў пытанняў, ад каго аўтар даведаўся пра ўсё гэта, самым лепшым спосабам было выкладаць усе свае апавяданні ад імя вандраўніка, які быццам бы сам усё гэта бачыў. Так, несумненна, зрабілі і аўтары кніг Плана Карпіні, Марка Пола і Рубрука (або як яго інакш завуць Рубруквіса); так зрабіў і аўтар кнігі Ібн-Батуты і аўтары ўсіх астатніх арабскіх і "не арабскіх" падарожжаў у далёкія краіны аж да XIX стагоддзя нашай эры.

Нам не цікава тут дазнавацца, ад каго сын Батуты атрымаў свае адпавядаючыя рэчаіснасьці веды пра бухарскія дыні, пяшчаныя стэпы і гэтак

[276] Але Кайсарыя ў сярэдзіне Малой Азіі, за Антытаўрыйскімі гарамі. Ніхто і не чуў пра такі базар у Хіве.

далей[277], а цікава высветліць паходжанне не адпавядаючых рэчаіснасьці апавяданняў. Пра некаторую частку іх няцяжка здагадацца.

Апавяданне пра горад Ваўгар на Волзе, паблізу якога "сонца летам узыходзіць так хутка пасьля заходу, што не паспяваеш прачытаць і некалькі малітваў", цалкам аспрэчваецца сучаснай астраноміяй, показваючай, што самы кароткі гадавы тэрмін паміж заходам і ўзыходам солнца працягаецца там, як і ў Маскве, Рызе або Капенгагене, каля 6 гадзін, час цалкам дастатковы не толькі для таго, каб памаліцца, але нават і выспацца пасьля гэтага. Такі кароткі прамежак адсутнасьці солнца, які апісвае сын Батуты, бывае летам толькі на шыраце сярэдзіны Скандынаўскай паўвыспы і на Шатландзкіх выспах, так што і апавяданне пра яго магло дайсьці да Андалузіі, дзе пісал аўтар, не інакш, як праз ангельскіх маракоў. А міф пра "краіну-змроку" на паўначы зямлі, мог утрарыцца толькі шляхам пераболышвання апавяданняў нарвежскіх рыбакаў, бываўшых на мысе Нордкап, дзе сонца не ўзыходзіць зімой два месяцы, прычым не паведамлялася пра тое, што летам яно не заходзіць там на некалькі дзён даўжэй такога ж тэрміну, так што тую ж самую краіну можна назваць не толькі месцам "вечнага змроку", але і месцам "вечнага сьвятла".

Апавяданне пра тое, што людзі ў гэтым "царстве вечнай ночы" ездзяць на собаках, грунтуецца відавочна на апавяданнях сібірскіх тубыльцаў, але яны маглі дайсьці да Гішпаніі не раней таго, як Ярмак дайшоў да ракі Табол, ці, ва ўсякім разе, не раней заснавання Страганавых у Пермскай вобласьці ў палове XVI ст. стагоддзя.

Апавяданне пра незвычайную галантнасць "сарайскіх" цароў і ўсіх культурных жыхароў Сарайскага царства ў дачыненні да "дам" магло паўстаць толькі ад перанясення за Волгу рыцарскіх нораваў, распаўсюджаных у Канстантынопалі падчас існавання там Лацінскай імперыі Балдуіна і яго пераемнікаў паміж 1204 і 1261 гадамі, што цалкам зразумела не толькі таму, што рыцары перанеслі туды культ жанчыны із рыцарскай Гішпаніі, Італіі і Францыі таго часу, а каталіцкія місіянеры прынеслі туды культ Мадоны, але і таму, што жанчыны заходняй Яўропы бралі ўдзел у крыжовых паходах нашмат радзей, чым мужчыны. Із аднаго гэтага робіцца вельмі зразумелым, што рыцары за іх біліся там адзін з адным на двубоях, а іхным дамам шмат што даравалася.

Аналагічнае гэтаму але толькі ў больш паслабленым выглядзе адбывалася і на пачатку каланізацыі Амерыкі і Аўстраліі, хаця пры большай адданасьці ангельскіх жанчын новага часу сям'і двубоі із-за іх там і не мелі пашырэння.

Культ заходне-еўрапейскіх жанчын у Лацінскай імперыі Балдуіна[278] і знайшоў адлюстраванне ў Ібн-Батуты з перанясеннем на магаметанскі Ўсход, дзе яны былі на самай справе на становішчы заняволеных у гарэмах, прадаваліся для адружання сваімі бацькамі і не паказваліся староннім мужчынам інакш, як у чадрах.

Усё, што тут аўтар распавядае пра яго прыёмы жонкамі султана і пра публічную глыбокае ўшанаванне іх з боку іхных чалавекаў, настолькі ж недарэчна для магаметанскага Ўсходу, як і апавяданне пра краіну вечнага змроку на паўночнай зямлі.

Із гэтага вынікае, што "сын Батуты" ні ў якім разе не можа лічыцца пісьменнікам XIV стагоддзя, а на самай справе наўрад ці раней XVII ст, калі пра

[277] Вядома, ад езьдзіўшых туды каталіцкіх місіянераў і гандляроў.

[278] Казка пра цара "Балду".

паездкі на сабаках у тайзе паўночнай Сібіры стала вядома ў Заходняй Яўропе грунтуючыся на апавяданнях прыдворных баяраў і чыноўнікаў прыязджаўшым у Маскву заходнееўрапейскім пасланнікам. Але гэта ўжо быў час не раней Яна Жахлівага (1547-1584) або нават імператара Пятра I (1689-1725), калі каталіцкае ярмо Русі было ўжо падменена мангольскім ігам, і каталіцкія цар-грады (Сараі) былі ўжо перанесены із-за Дуная за Волгу.

Гэтай храналагічнай высноваі і закончу свой крытычны разгляд псеўда-падарожжа сына Батуты. Ён не вандраваў, а сядзеў дома ў Гішпаніі, збіраючы ўсё, што мог знайсьці па гісторыі і геаграфіі Ўсхода не вельмі адрозніваючы праўдзівае ад недарэчнага.

Высновай гэтай главы можна лічыць тое, што ўсё вышэй павядомленае ў першакрыніцы ды, відавочна, і шмат што іншае, напісана не раней XVI-XVII стст., а наблытана так шмат, таму што ўсё пісалася грунтуючыся часткова на паведамленнях відавочцаў, часткова із чужых слоў, часткова ж бралася із іншых крыніц. Заканчваючы главу, можна сказаць, Іціль і Сарай (або Царай) за Волгай былі спісаны із царыцы тагачасных мораў Венецыі, само імя якой чытаецца Венчаная і заснаванай каля пратокаў ракі По, як і міфічны Сарай размяшчаўся фантазерамі каля пратокаў Волгі. Ад італійскага слова дучэ (Duche) – правадыр – магла паўстаць і трэццяя назва Дэйтшскага царства Улус Джучы (г. азн. надзел Правадыра), а назва першай часткі гэтай дзяржавы Душы-хан – нагадвае і Дучэ-хана і Дожэ-хана (Doge-chan).

Згадаўшы, што ў рыцараў крыжовых паходаў быў звычай, акрамя жонкі, мець яшчэ і дамаў сэрдца, якім яны прысвячалі сваю вайсковую карьеру і сваё шанаванне, мы зразумеем і сутнасць паведамленняў Ібн-Батуты пра сарайскіх (г. азн. венецыянскіх і генуэзскіх) хатуней, г. азн. фаварытак герцагаў і пра тое незвычайна паважнае і далікатнае стаўленне, якое ім выказвалася як самімі герцагамі (ханамі) так і ўсімі атачаючымі, і толькі з падобнага боку гледжання становяцца зразумелымі і чыста французкія строі гэтых дам, цалкам тоесныя з заходне-еўрапейскімі строямі эпохі гуманізму, і іхныя фрэйліны і пажы, нясучыя за імі шлейфы. А без гэтага тлумачэння ўсе прыведзеныя Тызенгаузенам "Арабскія апавяданні пра "Залатую Арду" з'яўляюцца толькі казкамі падобнымі на "1001 ноч". І нездарма сам Ібн-Эль-Асір, распавёўшы сваю гісторыю прышэсьця татараў із Манголіі, усклікае (Тызенгаузен, 1,16):

"Клянуся Аллахам! Я не сумняваюся, што хто ацалее пасьля нас і прачытае гэтае маё апісанне, той пачне аспрэчваць яго, палічыць за байку і будзе праўда на яго баку".

# Глава III
# Мусульманскія пісьменнікі пра славян і пра Расію.

Паглядзім зараз і на так званых "арабскіх пісьменнікаў", пісаўшых да часу крыжовых паходаў і пасьля іх.

Вось перада мной кніга арыенталіста А. Я. Гаркаві: "Паданні мусульманскіх пісьменнікаў пра славян і рускіх". Адчыняем яе на 230 старонцы, і бачым пераклад такога месца із "Кнігі Шляхоў і Дзяржаваў" Абул Касіма Магамета па прозвішчу Ібн-Хаукаль, які адносіцца да 967 года нашай эры.

"Русы складаюцца із трох пляменаў, із якіх адно бліжэй за іншыя да Булгару (*г. азн. да "Горада Валгара", адкуль можна зрабіць выснову, што ніжняе цячэнне Дуная ў славян мела назву Волга*).

Цар гэтага племені Русаў жыве ў горадзе Куяба (г. азн. Кіяві)[279], які большы за горад Булгары. Другое племя вышэй першага мае назву Славія (*Славонія*), а цар яе.... (*імя прапушчана, ці, хутчэй, сьцёрта ў рукапісе, верагодна з нагоды анахранізма, каб не выявіць больш позні час стварэння кнігі, раней аднесенай да X стагоддзя)*. А трэццяе племя мае назву Артанія (*г. азн. ардэнія, у іншым варыянте – Арта, г. азн. Ардзея*), і цар яго жыве ў Артэ (*г. азн. ў Ардзе*)".

Із паведамлення аўтара пра чорных собаляў можна зрабіць выснову, што аўтар ніколі не бачыў іхных футраў, а паведамленне пра прывоз свінцу (або волава) славянамі-артанцамі можна лічыць правільным толькі ў тым выпадку, калі яны жылі каля Татрскіх або Карпацкіх гор або ў Чэхіі. Што ж да сцвярджэння, што ў Арду нікога не пускалі, то гэта толькі доказ таго, што кніга Хаукаля напісана не ў X стагоддзі, а не раней XV, ужо пасьля зыходу крыжаносных ордэнаў із рускага ўсходу Яўропы, калі сляды іхнага неўдалага руху туды ўжо былі сьцёрты рымскімі клерыкаламі.

Але агульная этнаграфічная схема "трох рускіх пляменаў" дадзена тут аўтарам цалкам выразна: гэта кіяўляне, славінцы і артанцы (інакш ордэнцы, падпарадкаваныя нейкаму ордэну).

Кіяўляне і славінцы не выклікаюць вялікіх непаразуменняў у спецыялістаў. Але лакалізаваць артанцаў або ордэнцаў немагчыма са звычайнага боку гледжання, калі лічыць, што Ібн-Хаукаль пісаў сваю "Кнігу Шляхоў і Дзяржаваў" сапраўды ў X стагоддзі нашай эры. Толькі дапусьціўшы, што ён жыў не раней XIII ст., калі крыжаносныя ордэны (а згодна з ранейшай тэрміналогіяй – орды) панавалі на Русі, гэтае месца набывае цалкам выразны сэнс.

Тады выходзіць наступнае. Уся Татрская вобласць, і тое, што было ў уніі з папскай царквой пры дапамозе свецкіх і духоўных каталіцескіх ордэнаў, натуральна называлася мусульманамі Ардэніяй са сталіцай гэтай вобласьці Ордай. Там павінна была знаходзіцца рэзідэнцыя папскага намесьніка (прымаса Русаў), дзе-небудзь каля Татрскіх гор, а таму і сведчанне Ібн-Хаукаля атрымлівае лагічны сэнс і нават высвятляе нам агульнае становішча на славянарускім Усходзе ў тым самым выглядзе, як гэта вымалёўваецца з нашага боку гледжання на татарскае ярмо.

Але магчыма толькі Ібн-Хаукаль прытрымліваўся такой этнаграфічнай схемы?

Цалкам не. Вось іншы, амаль сучасны яму, пісьменнік Аль-Істахры, у сваёй "Кнізе Кліматаў"[280] выказваецца тымі ж самымі словамі, так што цяжка разабрацца, хто ў каго спісаў:

"Русь, – паведамляе ён, – складаецца із трох пляменаў, із якіх адно бліжэй да Булгару (*горада Ваўгар*), яго цар жыве ў горадзе маючым назву Кунба (*Кіеў*), які

[279] Пазначу, што ў Кастуся Парфірароднага купцы (із Візантыі) выпраўляюцца гандляваць з русамі – у Кунбу (Кіеў). А што да Артаніі (Ардэніі), то не чуў, каб хто-небудзь згадваў пра падарожжа туды, таму што яны забіваюць усякага іншаземца, які ступіў на іхную зямлю. Але самі яны спускаются па вадзе і вядуць гандаль, нічога не паведамляючы пра свае справы і тавары, і нікому не дазваляюць праводзіць іх. Із Арты (г. азн. Арды) вывозяцца чорныя собалі, чорныя лісіцы і волава.
[280] Liber Climatorum anetore scheicho Abu Ishoko el Farese c (или el Parisi) vukgo El-Istachri. Curavit I. H. Moller Rathae, 1839.

большы чым горад Булгар. Другое племя мае назву Славія (*славяне*), а трэццяе племя мае назву Артанія (*Ардэнія*), і цар яе знаходзіцца ў Артэ (*Ардзе*).

Купцы із Візантыі ездзяць у Кунбу (*Кіеў*), што ж да Арты (*Арды*), то ніхто туды не заходзіць, бо жыхары забіваюць усякага чужаземца, які вандруе па іхнай зямлі. Із Арты (*Арды*) вывозяцца чорныя сабалі і сьвінец. Русы паляць свае целы пасьля сьмерці, а разам з заможнымі спальваюцца іхныя жанчыны для задавальнення іхных душ. Іхная вопратка – кароткія курткі. Арта (*Арда*) знаходзіцца паміж Хазарам (*г. азн. нямецкім кайзерам*) і Вялікім Булгарам, мяжуючым з Румам (Візантыяй) на паўноч. Яны, г. азн. ордэнцы, шматлікія і такія моцныя, што прызначылі даніну памежным месцам Рума (Візантыі). Унутраныя ж – булгары – хрысьціяне".

Ітак, сумневаў няма. "Кніга Кліматаў" Аль-Істахры і "Кніга Шляхоў і Дзяржаваў" Ібн-Хаукаля адносяцца не да X стагоддзя, а не раней XIV стагоддзя, так як ужо ведаюць, што трэццяе племя русаў было пад уладай крыжацкіх ордэнаў. А становішча горада Орды паміж Баўгарыяй і Хазарыяй, г. азн. краінай Кайзера, паказвае на тое, што аўтары ўжо мелі дакладныя ўяўленні пра геаграфічнае становішча славянскіх народносьцей (незалежно ад таго, хто ў каго спісал гэтыя радкі).

Ва ўсякім разе, называнне часткі "русаў" ордэнцамі з'яўляецца агульным у мусульманскіх пісьменнікаў часоў крыжовых паходаў, таму што акрамя Аль-Істахрі, Ібн-Хаукаля і Ідрысі, мы сустракаем падобнае і ў Ал-Балхі, Дымешкі, Ібн-Аяса, Ібн Аль-Вардзі і інш.

Вось што піша з гэтай нагоды А. Я. Гаркаві[281]: "Трэццяе племя русаў называецца ў Аль-Істахры, Ібн-Хаукаля і Ідрысі – Артанія або Arthania. А што да наймення сталіцы артанцаў – Арта або Арна, як яе называе Аль-Вардзі, то гэта без сумненняў Арта або Артакі, як дадзена ў пярсідзкім перакладзе Істахрі і як у Ібн-Аяса. Літары Ф і З адрозніваюцца па-арабскі толькі колькасьцю кропак пры аднолькавым напісанні. Гэтае імя памылкова чытаў Мардтыяні ў сваім перакладзе, называючы краіну русаў Утанія або Аўтанія, таму што пры арабскім напісанні дастаткова цяжка разлічаць У і Р. Але ў гэтым выпадку, фарсі пераклад Істахрі, Ібн-Хаукаля, Ідрыса, Дымешкі, Ібн-аль-Вардзі і Ібн-Аяса пераконваюць нас, што першым складам у гэтым слове з’яўляецца Ар, а не У або АУ"[282].

Сталіца гэтага плямені згодна з молеравым тэкстам Істахрі і ў Ібн-Хаукаля названа Арбой, але ў пярсідзкім перакладзе гэтае імя пішацца, як і імя краіны, Арта або Artha.

"Племя яго – працягвае Гаркаві, – на думку Фрэна[283], з’яўляецца адгалінаваннем (*неіснуючага зараз*) мардоўскага плямені Эрса або Эрза (*эране*), імя якога захавалася, на думку таго ж навукоўцы, у назве ніжагародзкага гарада Арзамас[284].

---

281 Я лічу, што слова Хазарыя, з’яўляецца толькі іншамоўным вымаўленнем грэцкага слова Кайсары, г. азн. – Кайзерская вобласць, але не атаясамляю яе, вядома, з малаазіяцкай Кесарыяй на паўднёва-ўсходнім беразе Чорнага мора.

282 А. Я. Гаркаві: "Паданні мусульманскіх пісьменнікаў пра славян і рускіх", с. 199.

283 Ібн Foszlan – прыкладанне года, с. 102 і наст.

284 Другая палова слова Арзамас, г. азн. МАС, з’яўляецца, згодна з меркаваннем Фрэна, мардоўскім прыметнікам МАСІ – прыгожы.

З меркаваннем Фрэна пагаджаецца Дасон[285] і А. Савеўёў[286]. Рэно ж, які лічыць правільным чытанне Арба замест Арта выказваецца: "Я вымушаны дапусьціць, што горад Арба – гэта горад Перм"[287].

Але паважаемы французкі арыенталіст выпусціў із пад увагі:

а) што амаль усе пісьменнікі, пазначаныя намі вышэй, чытаюць Арта для гарада і Артанія для племені;

б) што лічачы яго чытанне нават Арба для горада ў значэння Пярмі, рашуча нельга зразумець, чаму найменне Аутанія або, згодна з Мордтманам, Утанія, атаясамляецца менавіта з пермякамі.

"Акрамя Рэно, – заканчвае гэтую спрэчку Гаркаві, – ніхто не спрабаваў патлумачыць гэтае найменне інакш, чым Фрэн. Можна было б атаясаміць слова Арта з арсітамі Пталямея, у якіх гісторык пазнае славянскае племя, так як яны згадваюцца александрыйскім географам паміж іншымі славянамі. Але гэта азначала б закрыць адну дзірку другой, таму што гісторык не змог знайсьці прыдатнага тлумачэння найменню арсіты ў Пталямея. Пагэтаму праз адсутнасць лепшага, будзем пакуль прытрымлівацца фрэнаўскага тлумачэння, лічыць, што гаворка ідзе пра Эрзе (г. азн. трэццім племем рускіх былі арзамасцы), а што да таго, што Істахрі прылічвае мардоўскую эрзу да русаў, то гэта зроблена проста праз адсутнасць ведаў, ці ж, як думаюць Фрэн і Савельеў, на падставе таго, што эрзяне былі на імя русы".

Такім з’яўляецца становішча з трэццім племем русаў у мусульманскіх пісьменнікаў. Першымі іхнымі двума плямёнамі былі кіяўляне і балканскія баўгары, а трэццяе племя рускіх, калі верыць тлумачальнікам, правалілася скрозь зямлю яшчэ падчас крыжовых паходаў або нават проста прыдумана адмыслова для гэтага месца – арзамаская мардва. Ды і сапраўды: што лепш можна было б прыдумаць са звычайнага боку гледжання? З такім жа правам можна было б сцвярджаць, што трэццім племем рускіх было літаратурнае таварыства Арзамас, заснаванае ў 20-х годах XIX стагоддзя Жукоўскім, Пушкіным і іншымі тагачаснымі пісьменнікамі ў адзнаку ўшанавання памяці Карамзіна ў Маскве і Пецярбургу. Ці не лепш лічыц, напрыклад, перажыткам Арты валахскую акругу Арджыш (Argesu) на поўнач ад Бухарэста на рацэ маючай тое ж найменне, якая бярэ пачатак на ўсходнім заканчэнні Карпацкіх гор, прарваўшы Трансільванскія Альпы, бяжыць у Дунай, прайшоўшы адлегласць каля 375 кіламетраў? На яе берегах і да гэтага часу знаходзяць золатаносны пясок, адкуль і магла з'явіцца назва Залатая Арда.

Толькі пагадзіўшыся з нашым меркаваннем, мы ўсё тут прывядзём у парадак. Трымя плямёнамі русаў былі: кіяўляне, зараз украінцы, паўднёва-заходнія славяне, ордэнскія славяне, г. азн. астатнія даўшыя пачатак назве вялікаросы і тады знаходзіўшыяся пад пратэктаратам ордэна тампліераў у ўніі з каталікамі.

Нам кажуць, што ў геагафічных уяўленнях Аль-Істахрі вялікая блытаніна, што ён напрыклад, нічога не ведаў пра Каспійскае мора, што яго Хазарскае мора, пры агульным параўнанні паданняў, з’яўляецца ні чым іншым як Чорным морам, і рака Ітыль больш падобна на Дунай, чым на Волгу[288].

---

[285] Geographie Aboilfeda, стар. 306.

[286] Yesrenrles du Caucase, p. 220.

[287] Мухаметанская Нумізмацікія, с. CXW і наступныя, дзе яшчэ выказана здагадка пра тоеснасць Арсы з Ларсамі (?) Пталямея і Страбона (с. СХХ, заўв.). Я лічу, што яно паходзіць ад грэцкага словы АРСАН – мужны.

[288] Мапа Кіпнерта, дададаная да выданя Liber Clrnatorrum austore scheicho abu Jschako el Faresi Vulgo el Istachri не мае ніякага дакументальнага значэння, так як выраблена грунтуючыся на пагадненні з сучаснымі мапамі і перакананнямі тлумачальнікаў.

Але ці не з’яўляецца частка гэтай "блытаніны" следствам не яго, а нашых уяўленняў?

Вось, што ён піша ў сваёй "Кнізе Кліматаў" (с. 3).

"Што да хазар, то гэта найменне племені людзей, а не назва сталіцы, найменне іхнай сталіцы Ітыль: яна названа так па рацэ, якая бяжыць па ёй у Хазарскае, г. азн. згодна з нашым словаўтварэннем, у Кайсерскае мора. Хазары (*як сербы*) знаходзяцца паміж Хазарскім морам, Русам, Рузіей (*візантыйскія вузы*) і Сярырам інакш Сербарам, г. азн. Сербіяй[289].

Хазар – гэта імя краіны, століца якой мае назву Ітыль, а Ітыль таксама з’яўляецца найменнем ракі, якая цячэ ў яе із Руса і Булгара".

І яшчэ там жа: "Што ж да ракі Ітыль, то яна бярэ пачатак паблізу Кархіза (*найменне не маючае ніякага сугучча з Цвярской мясцовасьцю, із якой бярэ пачатак наша Волга*) цячэ паміж Каймакіяй (*Кумакіяй*?) і Гузіяй (*Вузіяй*), (назвы *не маючыя ніякага сугучча з Яраслаўскай і Кастрамской мясьцінамі, праз якія далей цячэ наша Волга, з якой да гэтага часу атаясамляецца рака Ітыль*) так, што ўтварае мяжу паміж імі. А затым Ітыль цячэ да захад (*чаго нідзе не робіць Волга*) па верхнім Булгару і зноў паварочвае на ўсход, пакуль не праходзіць па Русі, потым (*зноў*?) па Булгару, затым па Буртасу, пакуль не зліваецца з Хазарскім (г. азн. Кайсерскім) морам".

Дапасуйце ўсе гэтыя тры апісання да Волгі (*хаця б нават узяўшы Каму за яе пачатак*). І вы не выявіце нават ценю падабенства. А калі лічыць Ітылем Дунай, прызнаўшы яго верхавінамі таксама і Цісу, і Прут, то праглядаецца хаця б некаторая магчымасць такога атаясамлення, тым больш, што і хархізы, і кумакі, і вузы лічацца плямёнамі турэцкага народа не толькі ў Якубі, але таксама і ў Ібн-Хардадрэ, і ў Ідрысі, і ў Істархі. Тое ж самае мы знаходзім і ў Ібн-Хаукаля.

У прадмове да сваёй "Кнігі шляхоў і дзяржаў" ён перш за ўсё паведамляе, што падчас сваіх вандраванняў, ён увесь час меў на руках творы папярэднічаўшых географаў: Ібн-Хардадбе, Кадамы і Джайгані.

"Затым, – кажа ён, – я сустрэўся з Абу-Ісхакам аль-Фарсі (*г. азн. Істахры*), які паказаў мне геаграфічныя мапы свайго складання і перадаў мне свой рукапіс, кажучы: "Я заўважаю, што ты нарадзіўся пад шчаслівай зоркай: пагэтаму вазьмі мой твор і выправі яго згодна са сваімі меркаваннямі".

І я ўзяў у яго, выправіў у шмат якіх месцах і вярнуў яму. Затым я пачаў пісаць гэты свой твор, не перанімаючы са згаданай мной кнігі".

# Глава IV.
# Татарскае іга ў польскім хроніках і ў аўтарытэтнейшых із навейшых замежных творах.

(Напісана пры супрацоўніцтве прафесара В. Р. Мрочака)

Цікава падцверджанне непасрэдным вопытам немагчымасьці татарскіх паходаў із-за Каспійскага мора.

Мне было асабліва цікава пазнаёміцца, якім чынам адлюстравана так званае "ханскае", а на самай справе ватыканскае ярмо, у каталіцкіх славянскіх першакрыніцах і, хаця я чытаю па-польску, але для хуткасьці працы я парасіў

[289] Такой з’яўляецца арабская транскрыпцыя слова Сербія (Гаркаві, с. 192).

перагледзець польскія хронікі свайго супрацоўніка па Дзяржаўнаму Навуковаму Інстытуту імя Лесгафта праф. В. Р. Мрочака, з дзяцінства валодаючага польскай мовай. І вось, тут я рэзюміру́ю асноўную частку яго выпісак.

## I. Польская хроніка магістра Вікенція, кракаўскага біскупа[290].

Яе першае выданне выйшла ў 1612 годзе ў годзе Дабраміле, на лацінскай мове. Існуе звыш 30 яе рукапісаў, адносімых да XV стагоддзя, але ўсе яны копіі з нязнойдзеннага арыгінала. Арыгінал "адносяць" да канца XIII стагоддзя, хаця яго нідзе няма. У тэксце на палях ўсюды прыпісаны спасылкі на грэцкую і рымскую гісторыю, з якімі параўноўваюцца падзеі польскай гісторыі. У іх ёсць згадванні і пра "цароў Расіі"[291], і гэта паказвае на час яе складання, не раней XVI стагоддзя. На старонцы 202 існуе прыпіска: "Гетамі (*г. азн. готамі*) завуць усіх літоўцаў, прутэнаў і іншыя народы"[292].

Дакладна так жа на старонцы 47 патлумачана: "Гунамі завуцца вугорцы".

Хроніка заканчваецца XII стагоддзем, г. азн. да так званага "тартарскага іга". Пра яго ў ёй, вядома, нічога няма.

## II. Хроніка Краковскага каноніка Яна Длугаша[293].

Яна лічыцца найбольш грунтоўнай. Яе аўтар нібыта памёр у 1480 годзе, да часу якога і давёў запісы, якія, згодна з яго славамі, ён пачаў у 1455 годзе. Рукапісу гэтай "Хронікі" таксама нідзе няма. Сцвярджаюць, што яе арыгінал быў у Кракаве, але згубіўся і із яго нібыта былі зроблены копіі ў XVII стагоддзі. Але, ва ўсякім выпадку, гэтая кніга была ўпершыню надрукавана толькі ў 1616 годзе і зноў-такі, у горадзе Дабраміле! Першае яе выданне – няпоўнае, другое ў 1711-1712 гг, папоўненае. У ім, у II-м томе (на с. 118-119) маецца нечаканая ўстаўка, пазначаная 1188 годам. Яна ніяк не злучана ні з папярэднім тэкстам, ні з наступным, аж да 1211 года. Вось яна ў перакладзе з польскай:

"Пачатак татарскага народа, і як вырасла яго магутнасць". "Народ татараў вядзе свой пачатак ад армян (Armenezykow), падабенства з якімі заўважаецца як у іхным знешнім выглядзе, так і ў мове. Ён быў у ранейшыя стагоддзі невядомым сьвету, і ўпершыню з'явіўся ў гэты час (г. азн. у 1188 г.). Ён качаваў каля горада Карачары (Koroczory) на поўначы, у стэпах, дзе не было ні гарадоў, ні вёсак, і плаціў даніну каралю Бухаму (Buchamowi), якога завуць Поп Ян (Joannes Presbiter). Калі яны, татары, сталі ўжо вялікім народ, яны выбралі сабе караля із уласнага племені; на імя Тынхіс (Tinchis – замест Чынгіза або Хінгіса), мужа вялікага розуму, пад правадырствам якога пачалі здзясняць наезды на суседнія краіны і падпарадкоўвацца іх сваёй уладзе. Адусюль збегліся да яго і аб'ядналіся татары, падначаленыя разных краін, быўшы прыцягнуты славай новага караля. Іхная магутнасць так узмацнілася, што яны выправілі пасланнікаў да ранейшага караля ("папа Яна") і прасілі адружыць яго дачку з іхным каралём, але той пагардліва адмовіў ім. А калі ён пажадаў прымусіць іх плаціць сабе ранейшую даніну і абвясьціў ім вайну, то, будучы пераможаны, страціў жыццё. З гэтага часу татарскі народ пачаў павялічваць сваю магутнасць і перавагу".

---

[290] Magistri Vincentii episcopi. Cracowiensis Cronica Polonorum sive originate regum et principum poloniae quae e codice velustissimo Eugeniano Edit. A. Przezdiecki. Cracowiae, 1862.

[291] Reges russiae

[292] Тут для мяне ўзнікае пытанне: ці варта пад пруценамі разумець прусакаў, ці жыхароў вколля ракі Прут – прытоку Дуная, г. азн. малдаван і бесарабцаў? (Tete dicumter omnes Littuani, Pruteni et alie).

[293] Iana Dlugosza kanonica Krakowskiego Dziegow Polskich Ksiag dwa nascie b Krakowie, 1868.

Так заканчваецца гэтая відавочна пазнейшая і фантастычная згодна са сваім зместам устаўка. Пра татарское іга ў Расіі тут ні слова.

Наступныя згадкі пра татараў тут пачынаюцца толькі з 1211 года, ды і то не адпавядаючыя рэчаіснасьці, адно з іх, напрыклад, такое: "Гэтага ж (1211) года ў траўні месяцы з’явілася камета, якая, расцягваючы свой хвост з усходу на захад, на працягу 18 дзён ззяла на небе. А так як яна бліжэй за усё была да рускіх зямель, то прадказвала ім паразу, якую яна і зведала ў наступным годзе ад нашэсьця татар" (с. 183). Вось першае паведамленне пра нашэсьце татар, ды і то храналагічна няправільнае.

Тут гаворка ідзе пра з'яўленне каметы Галея, але яна з’явілася не ў 1211 годзе, а ў 1222, чым і выяўляецца, што гэтае месца летапісу складзена ўжо нашмат пазней XIII стагоддзя. Ад 1151 гада і да 1222 не было ніякіх камет (гл. "Хрыстос", кніга VI). А гэтая была вельмі добра бачнай на працягу двух месяцаў і прайшла із сузор'я Панны ў Шалі і ў Скарпіён.

Далей ў Длугаша апісана бітва на Калцы, адносімая ім замест рускага 1224 да 1212 года і змяшчаюцца згадванні пра далейшыя набегі "татар" з 1228 гада на Разань, Смаленск, Чарнігаў, запазычаныя, відаць, із рускіх хронік. Пад годам 1241 (с. 254) мы чытаем: "Баты, трэцці хан татар ад пачатку іхнага існавання, пераправіўшыся праз самыя глыбокія рэкі Дон, Волгу, Дняпро, Днестр і перайшоўшы Сармацкія горы, якія мы завём таксама Вялікім лесам (Silwae Magnae – г. азн. Трансільванскія горы, паміж Вугоршчынай і Румыніяй), перамог і парабаваў гэтыя краіны".

Адмысловыя даследаванні польскіх гісторыкаў, рэзюміраваныя ў кнізе А. Сямковіча "Крытычны разгляд здзяйсненняў польскіх"[294], паказалі, што ўсё павядомленае тут пачынаючы з 1241 года – не адпавядае рэчаіснасьці. Так, "Батыхан, – кажа ён, – у Польшчы не быў і толькі паход называўся яго імем".

Сумнеўна і адзначанае тут спусташэнне Вугоршчыны татарамі, і змешванне Сармацкіх, г. азн. "польскіх" гор з Трансільванскімі Альпамі. Выклікае цікавасць у Длугаша толькі кур'ёзнае месца на с. 258: «Як шмат хто сцвярджае татары, раней званыя манголамі, атрымалі сваё найменне ад слова "мноства", так як на іхнай мове мноства мае вымаўленне "тартар"».

Сапраўды добрая філалогія!! Нічога пра тартарскае "іга" у гэтай хроніцы праф. В. Р. Мрочак не знайшоў.

## III. Польская хроніка Марціна Бельскага, выдадзенная нанова сынам Яўхімам[295].

Не гледзячы на тое, што ў яе загалоўку пазначана "nowo wydana" – аднак гэта – першае выданне.

Тут – усё напісана грунтуючыся на Длугашы і нават непасрэдна на "рускіх хроніках". Нічога самастойнага пра "татарскае іга" тут таксама няма, а, наадварот, пад 1246 годам маецца абзац пра тое, што "ў 1246 годзе ад Н.Х. францысканскі манах Асцэлін быў выпраўлены папай Інакенціем, разам з іншым братам да вялікага хана (цара) татарскага, з прапановай прыняць хрысьціянскае веравызнанне".

Але куды і як яны ехалі, ні слова! Заканчваецца толькі адзнакай, што нічога із паездкі не атрымалася. Так мала мы знаходзім у польскіх хроніках самастойнага

[294] Semkowiez A. Krytyczy rosbior dziejow Polskich Długosza, 1887.
[295] Хроніка Polska Марціна Bielskiego. Кракаў, 1597.

пра "татараў"! Усе яны відавочныя запазычанні, якія сведчаць пра сваё позняе паходжанне і цьмяныя ўяўленні, ды і іх так мала, што вынікае, як быццам бы што пра "мангола-татарскае іга" ў Расіі польскія хранікёры нават і не чулі.

Я папрасіў праф. В. Р. Мрочака прагледзець, акрамя польскіх хронік, таксама і найбольш вядомыя навейшыя кнігі, якія маюць дачыненне да дадзенай эпохі. І вось яго ўражанне перададзенае яго ўласнымі словамі.

1. "Кніга парыжскага акадэміка, барона Д'Асона: "Гісторыя Манголіі"[296] ахвотна цытуецца ўсімі гісторыкамі. Аўтар пераважна цікавіцца перыядам ад паловы XII стагоддзя да заканчэння XIV і вывучаў свой прадмет па арабскіх і пярсідзкіх крыніцах, якія маюць дачыненне да XIII стагоддзя і пазней, г. азн. ад эпохі, калі ўпершыню з'явіліся паведамленні пра манголаў. У тэксце ён называет іх часта і "тартарамі".

Усяго Д'Асон карыстаўся 21 аўтарамі, у тым ліку і Абул-Газі. Яго стаўленне да ўсіх крыніц цалкам не крытычнае: ні адзін аўтар не выклікае ў яго сумневаў.

Сведчанні цалкам немагчымыя згодна з рэальнымі ўмовамі прасторы і часу, узроўнем тагачасных ведаў і фізічных магчымасьцей чалавека, перамешаны з праўдападобнымі, і самі набываюць у яго знешнасць праўдападобнасьці. Заспакоены яго звязаным апавяданнем, чытач пачынае толькі запамінаць яго паведамленні без атачаючых геагафічных і культурных абставін, як чарцёжны малюнак без фону і з гэтым ўражаннем застаецца і пасьля заканчэння чытання.

Але такім жа з'яўляеццца агульны недахоп і ўсіх сучасных нам, па знешнасьці звязаных і нават цікавых гісторый старажытнасьці і паловы сярэдніх стагоддзяў, прычым у дакументальнай іхнай частцыі, вядома, маюцца і павучальныя факты.

Так, сам Д'асон паведамляе, што ў Абул-Фараджа гаворыцца пад 1264 годам пра абранне Авакума Гуляці татарскім ханам мудрай і вучонай кангрэгацыяй князёў і ўплывовых асоб, цалкам як пра выбранне кардыналамі рымскага папы[297].

Але асабліва цікавыя выпіскі з кнігі Лавіса-Рамбо: "Усеагульнай гісторыя з IV стагоддзя да нашага часу" (II, 1897 г.). Вось што гаворыцца там на с. 717: "Ці не візантыйскага паходжання тыя, або іншыя звычаі, пачатак якім доўга шукалі ў Сараі, напрыклад, ўжыванне кнута і жорсткасць пакаранняў, заняволенне жанчын у цераме, звычай падаць ніц перад гасударом?"

А затым на стр. 840: "Тагруль – рубака, валадар ахрышчаных цюрак-кераітаў, ў 1193 годзе пайшоў, як і Цемучын, на службу ў Кітай. Ён атрымаў (у Кітаі ж) тытул ханг – кароль, які выключна і насіў да сьмерці. Мусульманскія летапісцы (як думае Лавіс-Рамбо) пераіначылі гэтае слова згодна з цюркскай фанетыкай у Онг-хан. Так як легенда пра "святара Яна" (г. азн. папа Яна) першапачаткова была злучана з іменем самога Кераіта, то можна думаць, што імя Ян узнікла дзякуючы сугучнасьці са словам Уанг, калі толькі Тагруль і ў рэчаіснасьці не атрымаў пры хрышчэнні імя Ян, у чым няма нічога невераగоднага".

А вось, затым (на с. 878) апісваецца і паход "кітайскіх татар" на захад і, можаце сабе ўявіць, у Італію (!!) у 1241 годзе.

"Сутубай, – паведамляе Лавіс-Рамбо, – імкнуўся да безумоўнага падпарадкавання кіпчакаў, баўгар і мадьяраў, ён лічыў (а якім чынам даведаўся пра яго думкі аўтар ў XIX стагоддзі?), што зняславіць сваю нацыю, калі не давядзе

[296] D'Osson. Histoire des Monguls depuis Tchingiskhan jusque a Timour-bey on Tamerlan. La Haye, 1834.
[297] Posthaec congregati filli pricipe et dominae unanimi consensu statuerunt, Abacani Hulaei (ilium in solio regio collocandum cum prudentia, sufficientia, eruditione et sciepraeditus esse (ссыпка на Abul Pharadj; Dun. 395).

пачынання да заканчэння, калі не скорыць тыя ўлусы (супольна з русамі), якія некалі высяліліся із Вялікай Вугоршчыны і Вялікай Баўгарыі, аж да аддаленай Туны". Манголы здзейснілі нашэсьце на Вугоршчыну, Польшчу, Багемію, Сілезію, Маравію і Ілірыю да Адрыятычнага мора. Яны дайшлі да Ўдына (паблізу Венецыі, г. азн. былі ўжо ў Італіі!). Але венецыяанцы, валоданні якіх вельмі блізка мяжуюць з Удына, не выказалі ніякага хвалявання, яны ведалі(??), што шукаюць манголы (а менавіта што ж, калі не іх саміх??)".

"Але чаму ж, – працягвае аўтар, – не крануліся з месца пры набліжэнні ворагаў ні папа, ні германскі імператар. Чаму манголы не пайшлі на Вену, чаму паміж імі і імператарскім войскам адбылося толькі некалькі дробных непаразуменняў, як быццам бы яны былі ў змове загадзя, пры гэтым вялікі татарскі палкаводзец, патрапіўшы ў палон, выявіўся ангельскім рыцарам-храмаўнікам – гэта пытанне, на якое мы даем магчымасць адказаць жадаючаму".

І вось мне зараз і даводзіцца быць такім "жадаючым супраць уласнай волі", і заявіць прама і рашуча:

– Уся гэтая "гісторыя" вайсковага падарожжа манголаў-тартараў із пад Пекіна пад Венецыю, такая геаграфічная і стратэгічная недарэчнасць, што даводзіцца толькі здзіўляцца, як да гэтага часу ніхто гэтага не адзначыў, а тое, што вялікі татарскі (г. азн. татрскі) вайсковы правадыр быў ангельскім рыцарам ордэна тампліераў, красамоўна сведчыць і без далейшым маіх доказаў, што крыжацкія ордэны і тартарскія орды былі адным і тым жа.

А што да згадваемага тут "папа Яна", няцяжка здагадацца, што гэта міф пра жыўшага ў той самы час (1196-1206 гг.) царгародзкага патрыярха Яна Камаціра (г. азн. Зняможанага), збегшага ў 1204 годзе разам з візантыйскім імператарам Аляксеем V у Малую Азію, дзе ён стаў патрыярхам Нікейскай імперыі. Адносна Субутая ў мяне пакуль няма здагадак, хаця род Субоцічаў вядомы ў Сербіі, але мяркуючы па канчатку на “ай”, гэта хутчэй за ўсё пераробка нейкага франкскага імя на вугорскі лад (накшталт Іакай, Калантай і г. д.). Само слова манголы паходзіць, магчыма, зусім не ад усходняга імя Мангу, а ад зліцця з ім грэцкага слова мегалы, г. азн. вялікія, як маглі сябе называць крыжакі.

І, ва ўсякім разе, ужо адзін той факт, што згодна з думкай (а не з выказванем) Лавіса-Рамбо вялікі татарскі вайсковы правадыр, патрапіўшы ў палон, выявіўся ангельскім крыжацкім рыцарам-храмаўнікам, перестает быць "неразгаданай вечнай загадкай" толькі пры маім тлумачэнні, што ніякага нашэсця мангола-татарскіх ордаў із-пад Пекіна на Кіеў і Маскву (нават да Венецыі!) ніколі не было, а было толькі нашэсьце рыцарскіх ордэнаў (г. азн. па-лаціне таксама ордаў).

Але гэтыя "орды" сварыліся і адзін з адным, як толькі што апісана.

Так, 20 сакавіка 1239 года, у разгар "татарскага іга", папа адлучыў ад царквы Фрыдрыха II, які захапіўшы Ламбардыю меў намер "прывесьці цэнтр Італіі ў пакорлівасць і адзінства са сваёй імперыяй" (ліст Фрыдрыха да біскупа Комо). У той жа час Фрыдрых быў і каралём абедзвюх Сіцылій, і на службе ў яго былі сарацыны, перапраўленыя ім у Паўднёвую Італію ў 1225 годзе із Сіцыліі.

Што ж да вугорцаў, то іхнае нямецкае найменне гунгары[298] паходзіць ад скарачэння першапачатковага Гун-Вугры, а так як яны жылі за Татрскімі гарамі,

[298] Hun-Ugrien, Hungarien, Hongrois – венгры, вугры, адсюль жа і французское бранное слова ogre – людаед, паказваючыя на іхную славу, як жорсткіх людзей пад час сярэдніх стагоддзяў. Таму зразумела, што да іх жа ставіцца і назва тартары (les Tartares), г. азн. пякельныя людзі.

якія падзяляліся на Вялікія Татры і Малыя Татры, то яны ж павінны былі называцца і татарамі.

І вось як апісвае гэтых гуна-вуграў, або згодна з рускім вымаўленнем венграў, тыя ж самыя Лавіс-Рамбо (т. 1, с. 746):

"Яшчэ ў палове XII стагоддзя, яны (г. азн. вугорцы) жылі летам у палатках, а для зімы ў іх не было іншага жытла, акрамя бедных хацін із трыснягу. Іхнае галоўнае багацце складалася ў конскіх табунах і ў статках рагатага быдла. Яны елі мяса напалову сырым, чым і тлумачыцца легендарные апавяданні пра тое, што яны сілкаваліся чалавечым мясам і пілі кроў сваіх ворагаў. Маленькія ростам, з запалымі вачамі, з паголенай галавой, на якой заставаліся толькі тры доўгія касы, падаўшыя на плечы, яны ніколькі не былі падобнымі на тую гордую расу, адну із самых прыгожых у Яўропе, якая явілася наступствам зліцця гэтых фінаў з арыйцамі (германцамі, славянамі, румынамі і іншымі латынянамі). Вайна была іхнай прафесіяй, а дысцыпліна ў іхным войку была здзіўляючай. Яны былі на дзіва спрытнымі стралкамі із лука, іхныя верхавыя коні вызначаліся незвычайнай цягавітасьцю і хуткасьцю ў яздзе. Пераможаных ворагаў яны звычайна забівалі, краіну, па якой праходзілі, яны звычайна бязлітасна спусташалі, забіваючы мужчын і састарэлых жанчын, а маладых дзяўчат забіраючы з сабой".

І ці не падобна гэтае апісанне вугорцаў-мадзяраў на апісанне татараў і манголаў у рускіх летапісах і іншаземных паданнях пра татарскае іга? І як раз толькі падчас крыжовых паходаў, на пачатку XI стагоддзя, Вугоршчына далучылася да хрысьціянства, і імператар Атгон III разам з папай Сільвестрам II утрарылі із яе каталіцкае каралеўства. Валадарачы вугорскі князь Штэфан адружыўся з Гізэле, сястрой баварскага герцага Генрыха III і атрымаў карону з тытулам "яго апостальская вялікасць", які захаваўся да цяперашняга часу.

Адзначым таксама, што ў адмысловых працах па гісторыі духоўных ордэнаў, якой, напрыклад, з’яўляецца кніга Шустэра "Таемныя таварыствы і ордэны" (т. 1, 1905 г.), нідзе не паведамляецца пра барацьбу гэтых ордэнаў з ордамі. А са звычайнага ж боку гледжання, гэта было б непазбежным, хаця бы дзеля абароны рускіх князёў, якіх папы, як мы бачылі із іхных уласных булаў, лічылі каталікамі, толькі часова далучыўшыміся да схізмы.

# Эпілог

## Русь і мангола-татары

# Глава I

## Сарай на Волзе

Сарай – паведамляе нам сучасны падручнік па рускай гісторыі – быў сталіцай Залатой Арды. Але слова арда з’яўляецца ні чым іншым як лацінскім словам ordo, якое азначае – вайсковы атрад. Dux Ordinis, г. азн. правадыр ордэна меў асаблівую назву цэнтурый, г. азн. сотнік, а выраз Ordinis exlicase – азначалаў разгортваць вайсковыя шэрагі.

Але як жа сталіца Залатога ордэна патрапіла на Волгу, дзе нам не паказана ніякіх вайсковых ордэнаў, хаця у гэты самы час і было найбольшае пашырэнне крыжовых паходаў, так званага Drang nach Osten?

Паўстаў гэты ордэнскі (або згодна з ўсходнім вымаўленнем Ардынскі) Сарай, кажуць нам, на прытоку Волгі – Ахтубе каля 1261 года, калі ён упершыню згадваецца ў рускіх летапісах, паведамляючых пра заснаванне там Сарайскай епархіі і як раз у гэтым 1261 годзе. І вось у гэты ж самы час у 1263 годзе, згодна з заходнімі летапісамі, на Балканскай паўвыспе на прытоку ракі Босны паўстаў іншы Сарай, які па-турэцку і да гэтага часу мае назву Босна-Сарай, што захавалася і на заходніх мовах (Sarai), а па-руску ён называецца Сараева, г. азн. Палацавае месца.

Заходне-еўрапейскія крыніцы паведамляюць, што тут жа было галоўнае засяроджванне баснійскай знаці, відаць, тут засяроджвалася таксама ж і месца пілігрымства таму, што нават і ў XIX стагоддзі ў Сараева яшчэ дейнічалі дзве праваслаўныя царквы, тры каталіцескія (адна із іх старадаўні сабор у раманагатычным стылі), два каталіцкіх кляштары, дзве юдэйскія сінагогі і аж 106 мячэцеў, із якіх асабліва цудоўная Царава княжая (Сараева джамамія) мячэць. Акрамя таго, захавалася старадаўняе ўмацаванне, заснаванае яшчэ ў XV стагоддзі, сведчачае, што Баснійскі Сарай быў не толькі рэлігійным, але і адміністрацівным цэнтрам.

Нават на прыканцы XIX стагоддзя, калі цэнтры культуры ўжо далёка аддаліліся ад гэтай мясцовасьці, тут заставалася акрамя гарнізона ў 4000 чалавек, амаль 40000 чалавек мясцовага насельніцства пры ажыўленай прамысловасьці і гандлю. А вось Сарай на Волзе – на паказаным нам месцы на пачатку XIX стагоддзя не пакінуў ніякіх успамінаў, пакуль туды не прыехаў чыноўнік Міністэрства ўнутраных спраў Цярэшчанка, адмыслова туды камандыраваны із С-Петербурга для адшукання там сталіцы Залатога ордэна (або арды па-руску). Але вось і яшчэ адно дзіва. Прыгарадам гэтага Сарая, кажуць нам, быў Палістан, г. азн. у першапачатковым варыянте Галістан – Гальская стаянка, падобна таму як Туркістан азначае Турэцкая стаянка. Цікава так жа і лацінскае паданне, што згодна з прашэннем Аляксандра Неўскага золатаардынскі хан Верка (Берг) заснаваў у 1261 годзе ў Вялікім Сараі і цэнтр рускіх япархій, а праз шэсць гадоў пасьля гэтага ў 1267 годзе да яго была далучана Пераяслаўская вобласць, так што гэтая епархія уключыўшы ўсю тагачасную Паўднёвую і Заходнюю Расію, даходзіла да мяжаў Разанскага княства, уключыўшы і Падольскую вобласць. Цалкам відавочна, што гэты Сарай, цэнтр паўднёварускай і пры тым нават заходнерускай япархій, не мог быць або нават узнікнуць у тагачасным заволжскім краі, дзе жылі яшчэ толькі качэўнікі, і куды цяжка было дабрацца не толькі Аляксандру Неўскаму із берагоў Нявы, але нават і багамольцам із Падолля.

А акрамя таго вось і яшчэ факт. Нашы складальнікі падручнікаў мінулага стагоддзя яшчэ сцвярджаюць, што аб’яднаны тытул біскупа Сарайскага і Падольскага трымаўся аж да 1364 года, хаця месцазнаходжанне рускага біскупа было перанесена із Сарая ў Маскву, зацвердзіўшы сваё знаходжанне ў Круціцку, стаўшы да заканчэння XIII стагоддзя падворкам для прыезду "Сарайскіх біскупаў".

Уся гэтая недарэчная з боку гледжання рацыянальнай сацыялогіі геаграфічная блытаніна так кідаецца ў вочы, што проста даводзіцца здзіўляцца, як яе не адзначыў А. Салаўёў у сваім артыкуле "Сарайская і Круціцкая епархія" у часопісе "Чытанні Маскоўскага таварыства гісторыі старажытнасцей Расіі" 1894 года, №3.

Цалкам відавочна, што тут адно выйсьце: баснійскі Сарай быў перанесены праваслаўнымі манахамі на сучасную Волгу, якая пад час сярэдніх стагоддзяў нават і не мела назву Волга, а заўсёды Ітыль, выключна маючы на ўвазе тэндэнцыйнае мяркаванне, каб знішчыць ўсякія ўспаміны пра ўніяцкае паходжанне Рускай Царквы пасьля скасавання "татрскага іга", а разам з гэтым і рака Ітыль была пераназана ў Волгу, а ранейшая Волга атрымала назву Дунай, г. азн. Данная рака, рака, на якой плацілі даніну, хаця за атачаючай яе краінай і захавалася да гэтага часу назва Баўгарыя (па-грэцку Βολγαρια).

## Сарай

Вазьміце часопіс Міністэрства Ўнутраных Спраў за 1847 год, частку 19-ю і прачытайце на стар. 373-374 у артыкуле Рыгорава і Цярэшчанкі, пра знаходкі пры раскапваннях Сарая:

"... знаходзілі ў вялікай колькасьці пабіты шкляны посуд, чаркі, чарнільніцы, кавалкі скур, скуры выкраеныя для шыцця чобатаў і чаравікаў, тканіну, шаўковую матэрыю, вопратку, – усё гэта перегарэўшае; нажы, ятаганы, шпажныя клінкі, сякеры, заступы, патэльні, тазы, качэргі, трут, агнівы, ножычкі, чыгунныя катлы, медныя чаркі, медныя кубкі, медныя падсвечнікі, касьцяныя спіцы, ужываемыя пры вязанні, адломкі ад нажніц, маністы, перапаленую паперу, начнікі, вяровачкі, бярозавую кару, перагарэлыя цыноўкі плеценыя із травы "куга" (якая расьце ў тутэйшых месцах у вялікай колькасьці), цвікі, крукі, завесы дзьвярныя, замкі устаўныя і вісячыя, кавалкі перагарэўшага печанага хлеба, жыта і пшаніцу, арэхі грэцкія і звычайныя лясныя, чарнільныя арэшкі, жалуды, міндаль, разынкі, чарнасліў, слівы, вінныя ягады, салодкія рожкі, персікі, фісташкі, гвазьдзіку, перац, гарох, бабы, сарацынскае проса і часткова каву. У тых каменных, на гэтым месцы, склепах ляжалі кучай: кавалкі крышталю, фарбы: сіняя, жоўтая, блакітная, зялёная, чырвоная і белая, кружкі ад хамутоў і аброцяў, цуглі, ланцугі жалезныя, падковы, жалезныя затычкі ад колаў, смала, лісты медзі, асялкі, вастрыльныя брускі, грыфельныя дошчачкі, камяні для расьцірання фарбаў, гліняныя кеглі і шары, медная провалака, матыкі, сера, квасцы, соль, салетра і проса. Па разнароднасьці знойдзенных тут на адным месцы прадметаў, можна выказаць здагадку, ці не быў тут базар, у сярэдзіне якога магла знаходзіцца каменная пабудова для захавання тавараў..."

А ці не прасьцей, – спытаем мы, – растлумачыць гэта тым, што гэта нацягалі туды навакольныя жыхары ў насмешку над прыехаўшым чыноўнікам або каб атрымаць ад яго абяцаныя грошы за падобныя знаходкі? Пойдзем жа далей.

"У адным месцы, – паведамляюць яны, – быў склеп і цагляная лесвіца з разбуранымі драўлянымі дзьвярамі. Па сьценах і каля пабудоваў былі пракладзены вадаправодныя трубы, накіраваныя да атачаючых іх некалі водаёмаў. Із некалькіх печаў у гэтых пакоях, адна была абкладзена блакітным із разцом, каля яе ляжалі печаныя яйкі, хлеб, курыныя і рыбіныя косткі, рыбіная шалуха, два паламаныя нажы, патэльня і заканчэнне качаргі. Каля дзвярэй знаходзіліся ў кучы: міндаль, вінныя ягады, салодкія рожкі, разынкі, грэцкія арэхі і 107 шкляных маністаў".

– Але, чаму ж, – запытаеце вы, – печаныя яйкі, хлеб і рыбіныя косткі ляжалі разам з купкай міндаля і іншых ласункаў каля дзвярэй, а не на накрытых абрусамі сталах? Бо прыкметы высокай культуры былі тут відавочнымі, – выказваецца Рыгораў.

Выяўляецца, што ў той час быў ужо вядомы і фаянс. (Сваю назву ён атрымаў ад назвы італьянскага гарада Faenza, дзе быў вынайдзены і вырабляўся толькі з XVI стагоддзя.)

Былі знойдзены "чарачкі фаянсавыя і шкляныя: гаршкі звычайныя, паліўныя і блакітныя, чарнільніцы разнакаляровыя і з узорамі: адна з іх з кругавым надпісам, а другая нават з чарнільным асадкам; сатлеўшая папера, свінцовая пячатка з намалявным на ёй тыграм; плавільныя чарачкі з парэшткамі ў іх металаў, формы для адліўкі разных прадметаў, вагавыя медныя чарачкі, фунтавыя долі (гэта азначае вымяралі фунтамі, як ў нас да рэвалюцыі), галоўка ад бязьмена, медныя іголкі, абухі, сярпы, пілы, скоблі, начнікі, падсвечнікі, лампы, калёсікі, пярсцёнкі, з іх два залатыя і тры пазалочаныя: напёрсткі, медныя завушніцы, пазалачоная падвеска ад завушніцы, гузікі, званочак, дзіцячыя свістулькі, падліковыя косткі, дзьве медныя кулі, два медныя наканечнікі ад стрэл, шкляны біты посуд ўпрыгожаны кветкамі і пазалотай; біты фаянсавы і фарфоравы посуд з намаляванымі на ім кветкамі і птушкамі; талеркі паліўныя, бутэлечкі, флакончык, два медныя кубкі, медная выява быка; медныя донцы ў выглядзе сподачкаў з разнымі ўпрыгожваннямі: на адным знаходзіцца выява ў выглядзе крыжа, на іншых паказаны сланы, а на некаторых гатычныя ўпрыгожванні; мармуровая пілястра з татарскім надпісам; кавалак бела-сіняватага мармуру з выявай на ім аленя і вакол яго парэшткі татарскіх слоў; дзве дошчачкі паліраваныя, здаецца яшмавыя; серабрыстая шпілька, упрыгожаная ільвом ў сядзячым становішчы – цудоўнай апрацоўкі; палавінка пазалочанага бранзалета з выразкай на яго заканчэннях тамгі; акамянеўшы хлябец (?), які падаецца і зараз пад час рамазана бейрам-муле, за вымаўленне ім малітвы ў доме прававернага; кавалак мядовых сотаў (?), паміж якімі месцамі заўважаецца крысталізаваны белы мёд; два наперсныя крыжы: на адным намалявана ўкрыжаванне, а на яго завяршэнні выразаны крыжык; на другім – таксама ўкрыжаванне, а на яго адваротным баку малячаяся божая маці; ўвесь крыж абсыпаны дробным белым жэмчугам; літары жа на ім І.И.Х.Р. (Ісус Хрыстос, у ніканаўскім напісанні) і М.Р. (Божая Маці, магчыма і не), крыжыкі наверсе выяваў і самые выявы выратавальніка і божай маці, вылітыя са шкла".

Ці не відавочна і без каментараў, што ўсё гэта падкідвалася мясцовым насельніцствам?

Тут дадзены пералік толькі чвэрці ўсіх падобных знаходак, каб не стамляць чытача. Мы толькі што апісалі, грунтуючыся на першакрыніцы, якімі былі абставіны адкрыцця "Сараю" на Волзе разам з палавінай кілаграма падкінутых разынак, вінных ягад і грэцкіх арэхаў, з флакончыкамі для адэкалона, і з часткамі паламаных сучасных нам сохаў, пілаў, жбаноў і звычайнага ўпрыгожвання ўсіх падобных знаходак разнастайных манет, і якімі былі непасрэдныя ўражанні ад гэтага дзівоснага адкрыцця, адбыўшагася роўна сто пяцьдзесят гадоў таму назад.

Вось маленькая, але цікавая кніжка А. Якубоўскага "Сталіца Залатой Арды"[299], са зместам якой з нашага боку гледжання можна амаль ва ўсім пагадзіцца, акрамя таго, што купкі руінаў на ніжняй Волзе некалі мелі назву "Сарай" і "Сталіца Залатой Арды" (г. азн. Залатога ордэна), а не з'яўляюцца парэшткамі гарадкоў Астраханскага царства, заснаванага пры Тымуроідах (якіх я таксама лічу нацяналізаваўшыміся ў Туркестане нашчадкамі крыжацкіх захопнікаў) у 1480 годзе і далучанага да Расіі ў 1557 годзе пры Яне IV.

299 Выдавецтва Дзяржаўнага Эрмітажа, 1932 г.

"Палітычныя гаспадары стэпаў паўднёва-ўсходняй Яўропы – кіпчакі-полаўцы (г. азн. генуэзска-венецыянскія купчыкі-плаўцы), – кажа А.Ю. Якубоўскі, (с. 14), – хаця і марудна і ў невялікай колькасьці, пераходзілі на аселае становішча і земляробчую працу, аднак іхныя пануючыя згуртаванні здолелі хутка заўважыць выгады таго таварнага абмену, які тут адбываўся, тыя выгады, якія можна было мець шляхам збірання гандлёвых пошлін;. больш за тое, яны і самі бралі ў гэтым непасрэдны ўдзел. Да моманту прыходу манголаў (г. азн. вялікіх захопнікаў з захаду) пазначаны тавараабмен, здзяйсняемы (венецыянцамі і генуэзцамі) пад вялікім уздзеяннем ўсходніх (?) краін, ператварыўся ў настолькі вялікі фактар эканамічнага жыцця, што самымі гістарычнымі абставінамі было пастаўлена пытанне пра неабходнасць утварэння такога дзяржаўнага аб'яднання, якое магло б стварыць гэтаму таваабмену найбольш спрыяльныя палітычныя ўмовы. Натуральна, што заснавальнікамі такой дзяржавы маглі быць толькі феадалы, непасрэдна зацікаўленыя ў поспехах вышэйпазначанага таварабмену. Пад час эпохі разбурэння феадалізму эканамічнае і палітычнае панаванне знаходзілася ў руках той часткі феодалаў, якія прысвойвалі дадатковы прадукт пазаэканамічным (г. азн. падаткавым) шляхам не толькі для непасрэднага спажывання сваім "дварам" і служкамі, але ў вядомай ступені для перадання яго на рынак. Гэтая частка феадалаў і з'яўляецца тым іхным аб'яднаннем, якое бярэ дзейны удзел ў гандлёва-грашовых дачыненнях".

"Калі мы гаворым пра заходнееўрапейскі горад пад час эпохі разбурэння феадалізму, то нам добра вядома, што развіццё гарадзкога жыцця, яе рамеснай прамысловасьці і гандлю галоўным чынам заахвочваецца павелічэннем тавараабмену паміж горадам і вёскай. Аднак, гэтае неабвержнае цверджанне цалкам не можа растлумачыць рост гарадоў у абставінах стэпавага качавога атачэння і, як следства, цалкам не мажа быць дапасавана да спецыфічных абставін развіцця гарадоў, размешчаных на тэрыторыі ніжняга Паволжа. У XIII і XIV стагоддзях памеры земляробчых паселішчаў у гэтай мясцовасьці ў параўнанні з нашым часам былі вельмі невялікімі. Па-сапраўднаму можна казаць толькі пра вузкую паласу па ніжняй Волзе і яе адгалінаванню Ахтубе. Натуральна, што такі вялікі горад, як Сарай, не мог вырасьці грунтуючыся толькі на тавараабмене з гэтай палоскай".

І вось праз адсутнасць лепшага тлумачэння для ўзнікнення тут сталічнага горада і, не адважваючыся цалкам аспрэчыць яго існаванне, аўтар выкарыстоўвае такую выснову.

"Значна большую ролю ў справе развіцця рамеснай прамысловасьці Сарая меў качавы стэп, які даваў вялікую колькасць быдла, воўны, коз у абмен на рамесныя вырабы апошняга. Велізную ролю меў і той караванны гандаль, які ішоў праз гэтыя (??) мясцовасьці па напрамку тавараабмену Ўсходняя Яўропа і Сярэдняя Азія з Кітаем (чаго і зараз няма). Не падлягае сумневу (?), што агульнае павелічэнне прадукцыйнай магутнасьці паўднёва-ўсходняй Яўропы плюс дзве гэтыя абставіны і былі асноўнымі ўмовамі развіцця Сарая".

Але ўсё гэта, – адкажу я, – толькі здагадкі, дзеля таго каб растлумачыць невытлумачальнае.

Узнікненне ўмацаванага паселішча сярэдняй велічыні на месцы найбольшага збліжэння Волгі з Донам было, вядома, непазбежным, як і ўзнікненне Антыохіі і Алепа на месцы найбольшага набліжэння Еўрата да Міжземнага мора, асабліва да Кіпра з яго ў меднымі руднікамі. І цалкам зразумела, што першы шлях у Індыю

быў па Еўрату ўздоўж усходняга берага Пярсідзкага заліва, а не праз Самарканд. І відавочна таксама, што памеры гандлёвых стасункаў генуэзскіх калоній на Азоўскім моры і па Доне праз тыя парэшткі, якія мы завём Сарай-Берке і Сарай-бату паміж Волгай і Ахтубай, магчымы толькі да Бухары, Самарканда і Ташкента. А тавараабмен тут мог існаваць толькі ў параўнальна малых памерах, так як у гэтых местах няма ніякіх каштоўных дзівосаў, а перавозіць грувасткія тавары на гарбах вярблюдаў можна было толькі ва ўмеранай колькасьці. Выказаць здагадку пра пастаянны гандлёвы шлях адсюль у Пекін праз Каракумскія пяскі можа толькі той, хто не мае ніякага ўяўлення пра падарожжы па бязьмежнаму стэпу, асабліва да 1300 года, калі для мараплавання быў прыстасаваны компас. А што да размяшчэння ў прыволжскім стэпе сталіцы магутнай "Залатаардынскай" дзяржавы, то гэта мог прыдумаць толькі мала адукаваны чыноўнік першай паловы XIX стагоддзя, накшталт Цярэшчанкі, а ніяк не дзяржаўны чалавек, хаця б сярэдняй кваліфікацыі. Сам А. Ю. Якубоўскі (с. 17) выказваецца:

"Раскопкі Цярэшчанкі так жа, як і невялікія раскопкі ў Сараі прафесара Балода ў 1922 годзе не даюць нам дастатковых дадзеных, каб ўявіць сабе ў падрабязнасьцях тапаграфічнае ўладкаванне горада. Ні пра адну са знойдзеных Цярэшчанкам рэчаў нельга дакладна сказаць, із якога месца гарадзішча яна паходзіць, і цалкам немагчыма сказаць, у якім культурным пласьце і ў якім комплексе яна была знойдзена. Больш за тое, ні для аднаго із раскапаных будынкаў, ні для адной із раскапаных майстэрняў не праведзены дакладныя вымярэнні і не зроблена іхнае навуковае апісанне".

"Таму, – заканчвае Якубоўскі, – даводзіцца задаволіцца апісаннем двух старажытных арабскіх аўтараў. Першы з іх Амары (памёр у 1348) ніколі ў Сараі не жыў, а пісаў у Ягіпце (як лічыцца!) грунтуючыся на сведчаннях быўшых там купцоў. Другі аўтар: Ібн-Батута, – таксама пісаўшы на арабскай мове, – быў родам із Магрыба і Марокка. Ён быццам бы ў 1333 годзе наведаў Сарай-Берке (Сарайбург?) і нават некаторы час пражыў у ім дзякуючы дапытлівасьці. Але яго назіранні павярхоўныя".

Так выказваецца адзін із сучасных значных спецыялістаў у дадзеным пытанні, а я ўжо паказаў вышэй, што і "сын" Батуты ніколі не быў у "Сараі за Волгай", і што ўся арабская літаратура на гэты конт – пазьнейшае фантазёрства.

## Глава II
## Заканчэнне мангольска-татарскага іга і "смутны" час на Русі.

У падцверджанне сваёй здагадкі, што мангольска-татарскае ярмо і крыжовыя паходы каталіцкіх ордэнаў (Drang nach Osten) былі адным і тым жа, я не магу не прывесьці наступнае храналагічнае супадзенне.

1. Правадыр мангольскай арды Чынгіз-Хан (імя якога падобна на Kingish Chan – царуючы святар) памёр у 1227 годзе, ды і папа Ганорый III, заснавальнік ордэна дамініканцаў, памёр у тым жа самым 1227 годзе.

2. Пераемнік Чынгіз-Хана Актай-Угедэй (падобна на Актавій Дагоднік), да якога, быццам бы, выпраўляецца ў нейкую "Манголію" на паклон уладзімірскі князь Яраслаў Усеваладавіч, валадарыў ад 1227 да 1241 годм, і пераемнік Ганорыя III рымскі папа Рыгор IX таксама валадарыў ад 1227 па 1241 год, і яго крыжакі

змагаліся між іншым з не дагадзіўшымі папе хрысьціянскімі ж ваярамі Фрыдрыха II.

Ужо і гэтых двух прыкладаў (якія я бяру із кнігі рускага манаха кітаіста Іаакінфа) дастаткова, каб пераканаць кожнага матэматычна адукаванага чалавека, знаёмага з тэорыяй верагоднасьці, што манголы, найменне якіх па-грэцку азначае "вялікія", прыйшлі із Вялікай Рымскай імперыі, г, а. зусім не із Азіі, а із заходняй Яўропы. Ды і само месца знаходжанне папы – Вацікан – азначае па-жыдоўску "Дом Хана".

Праўда, што час кіравання далейшых "татарскіх" князёў, якіх манах Іаакінф пералічвае грунтуючыся на кітайскіх крыніцах, г. азн. хана Ундур-Хамара, Ілюй-Чуцая і Мунке (падобна са словам манах) не цалкам адпавядае часу кіравання наступных рымскіх пап, але іх няма і ў рускіх летапісах.

Зараз нам застаецца толькі высветліць, калі ж адбылося перанайменне каталіцкіх крыжовых паходаў у татарскія нашэсьці? Калі гістарычны Drang nach Osten ператварыўся ў фантастычны Drang nach Westen?

Відаць пад час таго "Смутнага часу", які не дарэмна называецца такім найменнем і занімае апошнія гады царавання Барыса Гадунова (1601-1605 гг.) з кароткачасовым цараваннем яго сына Хведара Барысавіча (1605) і гады, так званага ў старажытных паданнях "Ілжэ-Зьміцера".

Вось перш за ўсё мапа фон Герарда, выдадзенная ў 1614 годзе, як пазначана на ёй самой (бяру яе із "Гісторыі Масквы" Назарэўскага). Яна намалявана згодна з нашай звычайнай шаравой праекцыяй, так як яе мерыдыяны дугападобна звужающца ў напрамку да паўночнага полюса. Яе першы мерыдыян лічыцца ад Парыжа, а градусы шыраты ідуць ад экватара, прычым паўночны палярны круг паказаны правільна каля 67 градуса. Мы знаходзім на ёй, як пазначана караблікамі, і суднаходства на "Мурманскім моры", а таксама і на Каспійскім моры, значна выцягнутым у шырыню. Складзена яна была быццам бы згодна з чарцяжамі Хведара Барысавіча Гадунова і выдадзена аўтарам у 1614 годзе. Але, вось, на заволжскім яе баку мы бачым выявы трох "манголаў", адзін із якіх узброены стрэльбай "мушкетам", ледзь ці вядомым у той час азіятам, але ўжо вядомым у Яўропе і ў Расіі, так як мушкеты ў той час ужо ўжываліся войскам шведзкага караля Густава-Адольфа, захапіўшым з дапамогай гэтай зброі ад Расіі ўсё ўзбярэжжа фінскага залива.

Адзначым, што і апрануты гэтыя тры "манголы" па-еўрапейску: направа, як канонік, у сярэдзіне, як ваяр, а налева, як князь ці баярын.

Гэты малюнак сведчыць нам, што ў 1614 годзе, г. азн. пад час маскоўскага смутнага часу, частка крыжацкіх ордэнаў лічылася ўсходнімі "мангольскімі ордамі".

Гэта азначае, пераназванне адбылося яшчэ да "смутнага часу". Паглядзім жа, пры якіх абставінах яно адбылося.

Згодна з сучаснымі школьнымі падручнікамі "смутны час" абдымае перыяд ад канца XVI стагоддзя (каля 1590 году) да пачатку XVII стагоддзя, калі Мінін і Пажарскі вызвалілі Маскву ад палякаў-уніятаў, якія падтрымлівалі "царэвіча Зьміцера" і замацавалі сучасную грэка-рускую царкву".

Самай выбітной асобай гэтага часу з'яўляецца Зьміцер, які атрымаў у праваслаўных гісторыкаў найменне Ілжэ-Зьміцер. Вось як выказваецца пра яго афіцыйная школьная гісторыя (раблю выпіску для зручнасьці праверкі маіх слоў із

"Энцыклапедычнага Настольнага Слоўніка Граната і K°", пятае выданне 1901 года, с. 2712).




Сучасныя ўяўленні пра размячшчэнне імперыі Тымура ў Сярэдняй Азіі.

"Яго асоба да гэтага часу застаецца спрэчнай. Агульнапрынятае меркаванне, што ён беглы манах Цудава кляштара, аспрэчваецца шмат кім із гісторыкаў. Першапачаткова ён абвясьціўся на тэрыторыі (ўніяцкай) Польшчы. Адам Вішнеўскі і Юры Мнішак першымі падтрымалі яго. Із Польшчы ён разаслаў граматы па Русі, з заклікам да народа паўстаць супраць Гадунова (абаронцу грэка-рускага праваслаўя). Варожая Гадунову (відаць за перасследы ўніятаў-стараавераў) партыя баяраў распаўсюдзіла пра яго (як пра сапраўднага сына Яна Жахлівага, збегшага ў Польшчу ад Гадунова) спрыяльныя чуткі. А ў стараверчаскім (уніяцкім) народзе, у асяродзі якога ўжо даўно блукалі чуткі пра ўцёкі царэвіча Зьміцера (у Польшчу), з'явілася сімпатыя да яго".

"Уступіўшы (з польскім ўніяцкім войскам) у межы Расіі, ён пераважна не сустрэў супраціву, хутка павялічыў сваё войска і перамог Мсціслаўскага і Басманава, якія былі выпраўлены супраць яго Гадуновым. А пасьля раптоўнай сьмерці Гадунова (у 1605) ён увайшоў у Маскву пры поўнай падтрымцы народа".

"Калі ж царыца Марфа (жонка Яна IV Жахлівага), якую ён выехаў сустрэць перад Масквой, прынародна заключыла яго ў абдымкі, як сына, усякія сумневы ў яго асобе зніклі. Праз некаторы час ён павянчаўся з (уніяткай) Марыяй Мнішак, дачкой Юр’я Мнішка (згодна з іншымі паведамленнямі ён абвянчаўся з ёю яшчэ да паходу на Маскву) і каранаваўся".

"Каб умацаваць сваю уладу, ён імкнуўся набыць агульную прыхільнасць, пазбягаў пакаранняў, імкнуўся палегчыць становішча служачых, палагодзіць і абмежаваць халопства, зрабіў суд безкаштоўным, пачаў барацьбу супраць хабарніцтва, абвясьціў вольным і бязпошлінным гандаль і рамёствы. У знешняй палітыцы ён падтрымліваў сяброўскія дачыненні з Яўропай".

"Але Васіль Шуйскі (відавочна, візантыіст) абурыў народ супраць палякаў (уніятаў)" і – працягаю я ўжо сваімі словамі – карыстаючыся ўзнікшай разгубленасьцю, яго падзельнікі, згодна з аднымі паведамленнямі быццам бы "забілі самазванца", а згодна з іншымі паведамленнямі ён выратаваўся ад іх і зноў з'явіўся ў 1606 з войскам каля вёскі Тушына на адлегласьці каля 12 вёрст ад Масквы, пры гэтым ворагі празвалі яго "Тушынскім злодзеем". А згода з трэццімі паданнямі ён, прагнаны із Тушына, зноў зьявіўся ў 1611 годзе "сярод казакаў паблізу Пскова" і з іхнай дапамогай захапіў гэты горад, а потым "быў (невядома кім) схоплены і пакараны сьмерцю ў 1613 годзе".

Так паведамляецца ў "Энцыклапедычным Настольным Слоўніку" Граната і К°.

А для яшчэ большай пераканаўчасьці я прашу праверыць мае словы пра Зьміцера грунтуючыся таксама на маючымся ў мяне зараз пад рукой "малым энцыклапедычным слоўніку" Брокгауза і Эфрона. Гэта ўсё ж не стара-школьны падручнік, па якім вучыўся між іншым і я ў царскай праваслаўнай гімназіі.

Вось што тут паведамляецца пад словам "Ілжэ-Зьміцер":

"Ілжэ-Зьміцер I, цар Маскоўскі 1605-1606 гг. Яго паходжанне да гэтага часу невядома. Граматы Барыса Гадунова (яго суперніка) паведамлялі яго гісторыю, як Грышкі Атрэп’ева, збеглага манаха. Гэтае апавяданне было ўключана ў летапісы і ў працы старых гісторыкаў і ўключана ў "Гісторыю Салаўёва". Выказвалі сумневы ў яго праўдзівасьці гісторыкі Пагодзін і Кастамараў. Зьміцер не быў звычайным ашуканцам і сам верыў у сваё паходжанне. Яго ж лёсам распараджаліся іншыя, як лічаць – баяры... Вучыўся ён у арыянскай школе (а дзе такая існавала – невядома ), потым жыў у літоўскага князя Вішнявецкага, дзе абвясьціў сябе сынам Яна Жахлівага Зьміцерам і быў падтрыманы польскімі вяльможамі, схіліўшы на свой бок і святарства асабістым прыняццем каталіцства і абяцаннем усталяваць яго ў Расіі. Ён атрымаў руку Марыны Мнішак, паабяцаўшы замацаваць за ёю Ноўгарад і Пскоў".

"У 1604 годзе ён рушыў да Масквы з каталіцкім войскам. Рускае войска неахвотна змагалася супраць яго, і 20-га чэрвеня 1605 года, абвешчаны царом, ён прыехаў у Маскву. Ён пераналадзіў баярскую думу, падвоіў заробкі служачым людзям, марыў пра палітычны хаўрус еўрапейскіх дзержаў супраць Турцыі (падтрымліваўшай праваслаўе)... Адыход ад старажытных звычаяў не спадабаўся прыдворным старажылам, а народ, відаць, шанаваў яго".

"Змова баяраў супраць яго на чале з Шуйскім была выкрыта пад час першых жа дзён царавання новага цара, але атрымаўшы ад яго дараванне Шуйскі працягваў сваю цёмную працу. У ноч на 17 траўня 1606 гады (г. азн. праз год царавання) народ, падмануты ілжывымі крыкамі, быццам палякі б'юць цара, натоўпам кінуўся да палаца (відавочна абраняць цара)".

І тут яго быццам бы застрэлілі. Але ці праўда гэта і куды ж дзеўся яго труп? І ці не больш праўдападобна паведамленне, што ён збег і ў наступным жа 1607 годзе раптоўна з'явіўся ў вёсцы Тушына, чаму і быў празваны сваімі ворагамі "Тушынскі злодзей".

"Вёска Тушына на адлегласьці 12 верст ад Масквы – паведамляецца там жа – хутка пратварылася ва ўмацаваны горад. Царыца Марыя прызнала яго сваім чалавекам. Польскія ваяводы Сапега і Лісоўскі служылі яму (са сваім уніяцкім войскам). Няўдалая аблога (палякамі) Траецкага кляштара затрымала яго поспехі.. Скопін-Шуйскі выратаваў Маскву (ад уніатаў)... Калі паход польскага караля да Смаленска адцягнуў ад Зьміцера палякаў, ён збег ў Калугу і яго прызналі (за выратаваўшагася ад візантыістаў) цара паўднёвыя і паўднёва-ўсходнія вобласьці Расіі. А калі яго забіў із помсты (за што ж? Ці не за ўніяцтва?) татарын Урусаў, Калуга абвясьціла царом яго і Марыны сына – Яна".

Усё гэта вы знойдзе без цяжкасьцей ў малым Энцыклапедычным Слоўніку Брокгауза і Эфрона пад словам "Ілжэ-Зьміцер". І ўжо адна тая акалічнасць, што царыца Марына (дачка сандамірскага ваяводы Юр’я Мнішка) суправаджае свайго чалавека ў 1605 годзе ў Маскву на рускі пасад, а пасьля яго сьмерці едзе з сям'ёй свайго бацьку ў Яраслаўль, дзе жыве да 1608 года, калі едзе пад Маскву да "Тушынскага злодзея", як да свайго ранейшага чалавека, а пасьля яго ўяўнай сьмерці ў 1610 годзе застаецца пры ахоўваўшым яе ўвесь час старшыне данскога казацтва Заруцкім, які, разрабаваўшы Каломну і частку Разанскай воласьці, накіраваўся па Дон на поўдзень, але насьцігнуты ў 1613 годзе маскоўскім войскам каля Варонежа, павярнуў да Волгі, каб падняць волжскіх казакаў, што яму і ўдалося. Але пазней начынаюцца нязгоды, маскоўскае войска Заруднага выбіла яго із Астрахані і ў 1614 прывезла ў Маскву, дзе ён і быў пакараны сьмерцю, ды і Марына з сынам, прывезеная ў Маскву, загінула таямнічым чынам.

Скажыце ж самі, чытач, наколькі праўдападобная ўся гэтая гісторыя? Настолькі ж, адкажу я, наколькі і паданне пра Мядузу з валасамі ў выглядзе змей.

Вось ганарлівы польскі пан Мнішак набывае да сябе ў сям'ю самазванца Грышку Атрэп’ева і дазваляе сваёй дачцэ Марыне адружыцца з ім. Ды ён хутчэй бы павырываў ёй усе валасы, чым дапусціў бы такі мезальянс. А ён у дадатак ідзе з ім у Маскву, дзе бачыць, як удава Яна Жахлівага, царыца Марфа, сустракае і прынародна абдымае Грышку, як сына. Ужо адно гэта доказвае, што Грышка не быў самазвацам. Ён карануецца ў Маскве, але царуе, быццам бы, толькі тыдзень, хаця паспявае за гэты час здзейсніць шэраг демакратычных рэформаў і завесьці стасункі з дзяржавымі Заходняй Яўропы. Баяры-візантыісты ўтвараюць супраць яго змову, але ён знікае і раптоўна з'яўляецца на адлегласьці 12 вёрст ад Масквы ў вёсцы Тушына. Баяры даюць яму мянушку Тушынскі злодзей і Самазванец, але яго жонка Марына прызнае яго сваім чалавекам і ўсё яе сямейства таксама. На дапамогу яму прыходзіць із тагачаснай "Польскай Украіны" правадыр данскіх казакаў (г. азн. нашчадкаў чарнаморскіх каталіцкіх каланістаў) Заруцкі, але пераможаны маскоўскім войскам адвозіцца ў Маскву ў 1614 годзе, дзе і гіне разам з Марынай і яе сынам (якія таемна знікаюць).

Ну, хіба ж гэта "гісторыя", а не "раман", і прытым вельмі дрэнны роман? Але і гэты раман ўсё ж знайшоў адгалоскі ў розумах наступных фантазёраў: "калі нейкі Грышка Атрэп'еў, уявіўшы сябе царэвічам Зьміцерам, змог захапіць маскоўскі пасад, дык чаму ж не змагу і я?"

І вось пачаліся небывалыя ў астатніх дзяржавах зямнога шара спробы самазванства ў Расіі, самым выбітным із якіх быў Пугачоўскі бунт.

Вось як апавядае пра гэта праваслаўная гісторыя: "Сярод казакаў-раскольнікаў імя Пятра III было ў вялікай пашане. Згодна з паходжаннем ён быў немец, сын цэсарэўны Ганны Пятроўны і Фрыдрыха Галштэйн-Гаторнскага і

нарадзіўся ў Кілі ў 1728 годзе, а потым быў выхаваны, як лютаранін і прэтэндэнт на шведзкі пасад. Але яго цётка, руская імператрыца Лісавета Пятроўна, паклікала яго із-за мяжы, прымусіла прыняць праваслаўе і ў 1742 годзе абвясьціла спадкаемцай рускага пасаду. Фрыдрых Вялікі ў 1744 годзе прыслаў яму ў жонкі прынцэсу Ангальт-Цэрбскую Сафію-Фрэдэрыку-Аўгусту, якая прыняла ў праваслаўі імя Кацярына Аляксееўна (Кацярына ІІ). Але перамена веравызнання не зрабіла Пятра ІІІ праваслаўным ў душы і навязанае яму адружанне з Кацярынай не было шчаслівым. 25 снежня 1761 года, калі памёрла імператрыца Лісавета Пятрона, яго ўцараванне зьдзейсьнілася без перашкод, пачаліся рэформы, былі спынены ўсе раскольнічыя справы (г. азн. уніяцкія) і тым з іх, якія збеглі ў Польшчу і іншыя замежныя мясьціны, было дазволена вярнуцца з дараваннем ім зямель за Уралам для жыхарства (нагода, чаму імя Пятра ІІІ мела такую вялікую папулярнасць у асярдзі раскольнікаў). Апальныя ранейшых цараванняў былі ім вернуты із высланняў... Але намер забраць ў скарб кляштарскія маёнткі выклікаў незадавальненне ў асяроддзі (праваслаўнага) святарства, якое яшчэ павялічылася праз відавочную схільнасць Пятра ІІІ да лютаранскага (і ўніяцкага) веравызнанняў. Не менш незадаволенай была і гвардыя, да якой Пятро ІІІ ставіўся пагардліва... З Прусіяй быў заключаны цесны хаўрус (зноў глядзіце "Энцыклапедычны Слоўнік" Граната і К°), але тут адбыўся палацавы пераварот... 28 чэрвеня раніцай Аляксей Арлоў[300] прыбыў у Пецяргоф, дзе знаходзілася імператрыца і заахвоціў яе неадкладна ехаць у Санкт-Пецярбург, дзе яна з захапленнем была сустрэта гвардэйскімі палкамі. Жаўнеры і афіцэры прысягнулі ёй. У Казанскім саборы арцыбіскуп Наўгародзкі з найвышэйшым (праваслаўным) святарствам адслужыў падячны малебен, урачыста абвясьціў Кацярыну "Самаўладнейшай імператрыцай"... Даведаўшыся пра гэта, Пятро ІІІ, уражаны такім ўчынкам, падпісаў дасланы яму акт адрачэння ад пасада і быў выпраўлены ў суправаджэнні вайсковага атрада пад арышт у замак Ропша каля Пецяргофа, дзе, як кажуць, памёр праз некалькі дзён 7 ліпеня 1762 года, як, быццам бы, "было павядомлена ў лісьце вартаваўшага яго Ал. Арлова да Кацярыны ІІ".

Так паведамляецца ў афіцыйнай гісторыі. Але ці праўда, што Пятро ІІІ памёр там праз некалькі дзён пасьля свайго заняволення 5 ліпеня 1762 года?

Я не буду тут разглядаць гэтае пытанне, а толькі нагадаю, што "14 кастрычніка 1773 гада Пугачоў пад імем Пятра ІІІ (або сам Пятро ІІІ), аблажыў Арэнбург з 15-тысячным войскам і ўся Башкірыя паўстала... Яго войска выявілася на Волзе і захапіла Казань, потым Пензу. Ён павярнуў на поўдзень, захапіў Саратаў і накіраваўся на Дон і Кубань. Але 24 жніўня выпрашлены супраць яго Міхельсон цалкам перамог яго войска каля Чорнага Яра. "Пугачоў" быў выдадзены сваімі прыхільнікамі і, прывезены ў Маскву ў жалезнай клетцы, быў чацвяртаваны 10 студзеня 1775 года, праз 13 гадоў пасьля пазбаўлення пасады імператара Пятра ІІІ.

Ці сапраўды ён быў выратаваўшымся Пятром ІІІ ці не, але само яго імя "Пугачоў (або Пугач)" ледзь ці сапраўднае імя, а не мянушка, дадзеная яму яго ворагамі (накшталт прозвішча цара Зьміцера "Тушынскі злодзей") і, ва ўсякім разе, яго бунт быў толькі апошняй стадыяй той старой спрэчкі паміж ранейшымі ўніятамі (стараверамі) і візантыістамі-ніканіянцамі.

А што да таго, што нашы звычайныя ўяўленні пра гэтага "Пугачова" не адпавядаюць уяўленням пра тое, каб ён сапраўды, быў сынам Фрыдрыха Галштэйн

---

[300] Ён, згодна з інтымнымі гаворкамі, якія я не раз чуў пад час дзяцінства ў асяроддзі памешчыкаў, быў палюбоўнікам Кацярыны ІІ.

Гаторнскага, выхаванага як лютаранін, то не будзем забывацца, што уяўленне пра яго мы склалі яшчэ пад час дзяцінства грунтуючыся на рамантычнай "Гісторыі Пугачоўскага бунта" Пушкіна, падобна таму, як і ўяўленні пра казакаў складіся грунтуючыся на "Тарасе Бульбе" Гогаля, і гэтыя уяўленні, як звыклыя, трывала заселі ў нашы галавы. Адна мая знаёмая, прачытаўшы гэтае месца ў маім рукапісе, усклікнула: "але я ж сама бачыла яго постаць на адной выяве, гэта быў звер, а не чалавек!" А я адказаў ёй на гэта пачутым мной гумрыстычным апавяданнем, як адзін разбагацеўшы мясны гандляр з'явіўся да мастака, кажучы:

– Намалюй мне вялікі партрэт майго нябожчыка бацькі. Не пашкадую грошай!

– Але, як жа я намалюю яго партрэт, ні разу яго не бачыўшы?

– Згодна з маім апісаннем. Ён быў невысокага росту, валасы чорныя, з сівізной, барада чорная, лапатой, ледзь не да вачэй, а на канцы носа барадаўка.

Мастак падумаў і пагадзіўся. Калі праз тыдзень мясны гандляр з'явіўся і пабачыў партрэт, ён каля хвіліны глядзеў на яго са здзіўленнем, а потым усклікнуў:

– Бацька ты мой, бацька! Ды як жа ты перамяніўся пасьля сваёй сьмерці! Каб не барадаўка на носе, ні за што б цябе не пазнаў!

Так бы і мы не пазналі ўсіх мінулых гістарычных дзеячаў па партрэтах і характарыстыках. А адносна Пугача-Пугачева я запытаю толькі адно:

– Чаму, схапіўшы яго на Доне, вайсковы правадыр Міхельсон не пакараў яго сьмерцю тут жа, а выправіў у жалезнай клетцы, відавочна, у Пецярбург, дзе жыла імператрыца Кацярына і дзе цараваў Пятро III, за якога Пугачоў сябе выдаваў, і дзе ўсе прыдворныя ведалі Пятра III асабіста? Згодна з чыім загадам яго асудзілі і пакаралі на палове дарогі туды, у Маскве, дзе ніхто не відаў Пятра III? Не ведаю як для вас, а для мяне гэты вышэйшы загад вельмі падазроны. Бо Масква тады была такім жа правінцыйным горадам, як і Яраслаўль.

Але вернемся яшчэ раз назад. Яшчэ да Пугачова, каб спыніць якія б то ні было чуткі што тое што цар Зьміцер, чалавека ўніяткі Марыны і сам, відаць, уніят быў сапраўдным сынам Яна Жахлівага, візантыісты надумалі ахрысьціць яго імем нейкі высахшы труп і аб'явсьціць яго цудадзейным. Але спыніўшы гэтым сваім вынаходніцтвам ўсякія размовы, яны спынілі і якія то н было далейшыя даследаванні і нават выданне старажытных дакументаў.

Так, наколькі мне вядома, да гэтага часу застаюцца не выдадзенымі (гл. слова "Тацішчаў" у тым жа слоўніку), захоўваючыяся ў Маскоўскім Галоўным музеі міністерства Іншаземных Спраў запіскі гісторыка Тацішчава "пра цараванне Гадунова, Ілжэ-Зьміцера і цароў Міхала і Аляксея".

У выніку усіх гэтых царкоўных сварак і падробак пра "смутны час" засталіся толькі супярэчлівыя паведамленні.

Вось, напрыклад, у тым жа "Энцыклапедычным слоўніку" Граната і К° (5-е выданне 1901 г.) чытаем на старонке 2888 пра Пракопа Ляпунова: "У 1605 годзе ён стаў на бок Самазванца, лічачы яго сапраўдным царэвічам Зьміцерам. Пасьля яго забойства (як я ўжо даводзіў прыдуманага) ён далучыўся да разанцаў і да Балотнікава, паверыўшы, што Зьміцер жывы, і некалькі разоў перамог войска (візантыіста) Шуйскага... калі ў Маскве пачалося валадаранне (ўніятаў) палякаў, Ляпуноў на пачатку лічыў лепшым выйсьцем абране на пасад царэвіча Ўладзіслава (ўніята), але даведаўшыся пра дзеянні Сігізмунда (польскага ўніяцкага караля) пад Смаленскам і зразумеўшы своекарыслівыя мэты палякаў, ён разам з патрыярхам Гермагенам (дбайным абанцай візантыізма) смела і горача стаў дзейнічаць на

карысць справы вызвалення Масквы (ад палякаў). Да ўтварыўшагася апалчэння далучыліся апалчэнні Прасавецкага, Трубяцкога і Заруднага, і хутка Ляпуноў, стаў пад Масквой у 1611 годзе (г. азн. праз 6 гадоў пасьля першага ўваходу ў яе Зьміцера) наладзіў бітву з палякамі, пасьля якой польскі ваявода Гансеўскі ўтрымаў за сабой толькі Крэмль".

Але як жа – запытаю я – ён мог сядзець толькі ў Крамлі, абложаны варожым войскам і без харчавання?

Паглядзім жа на гісторыю і іншых дзеячаў гэтага сапраўды "смутнага" часу.

Вось, напрыклад, Мінін і Пажарскі. У тым жа Энцыклапедычным Слоўніку (т. VI, с. 3187) чытаем: "Мясны гандляр Мінін выступіў на ніве палітычнай дзейнасьці, калі граматы (праваслаўных) улад Траецка-Сергіеўскага кляштара зноў прызывалі гарады падняцца на абарону (праваслаўя) і ачышчэння Рускай зямлі (вядома, ад уніятаў). Усхваляванае траецкімі граматамі насельніцства шмат якіх гарадоў чакала толькі рэзкага, энергічна руху, каб рушыць услед за ім на ачышчэнне дзяржавы ад знешніх ворагаў (г. азн. уніятаў-палякаў) і ад унутраных (г. азн. ад уніатаў-старавераў)".

Гэты мясны гандляр "знайшоў і ваяводу ў асобе стольніка князя Д. М. Трубяцкога, ужо вядомага сваёй барацьбой з палякамі ў Маскве 19 сакавіка 1611 года... 27 лістапада 1612 г. года старое апалчэнне князя Трубяцкога і новае земскае апалчэнне Мініна і князя Пажарскага ўжо слухалі на Чырвонай плошчы ў Маскве падзячны малебен".

А прыведеная ў нас вышэй лацінская мапа фон-Герарда (Меркатара), пазначаная, як паказана на ёй самой 1611 годам, была выдадзена азначае праз полтора або два гады пасьля вызвалення Масквы ад палякаў, а таму і пазначаныя на ёй тры "татарыны", выдаленыя за Волгу, павінны быць таксама палякамі-ўніятамі – ксяндзом, рыцарам і панам. Вось што паведамляецца пра гэты "смутным" час ў тым жа "Энцыклапедычным слоўніку" пад словам "унія":

"Калі Ян III у 1472 годзе (г. азн. праз 140 гадоў пасьля таго, як унія была праклятая візантыістамі на Ерусалімскім саборы) адружыўся з грэцкай царэўнай Сафіяй Палеолаг, прыехаў із Рыма папскі легат кардынал Антоній і пераконваў яго (а не яе) прыняць унію... такімі ж безпаспяховымі былі спробы папы Ільва X і Клімента VII на пачатку XVI стагоддзя пры Васілю III Янавічу (1479-1533 гг.) сыне Сафіі Палеолаг і Яна III і пры яго сыне Яне IV Жахлівым у 1533-1608?, калі вядомы Антоній Пасевін (Antonius Possevinus, памёр у 1611 годзе) прыехаўшы ў Маскву апошні раз безпаспяхова спрабаваў дамовіцца з Янам Жахлівым пра прыняцце ўніі. Пасьля гэтага прыезда спрэчка паміж старaверамі (г. азн. уніятамі) і новаверамі (візантыістамі) стала ўжо унутранай справай і замежныя ўніяты больш не бралі ў ёй удзел". Нават сам перыяд "татарскага валадарання "крыжацкіх ордэнаў з Захаду ператварыўся ў татарскае панаванне (г. азн. у іга, або "ярмо") татарскіх ордаў з Усходу.

І гэта цалкам падцверджваецца сучасным станам рэлігіі ў Азіі.

Вынікае, што крыжовыя паходы не абмяжаваліся толькі Еўрапейскай Расіяй, але ішлі і за сучасную нам Волгу і Ўрал у Азію: рэлігія крыжакоў распаўюдзілася пад найменнем ламаізм і ў Тыбеце, і ў Манголіі. Найменне "ламаізм" адносяць да 632 года і паведамляюць (гл. той жа "Энцыклапедычны слоўнік Граната і К°", "ламаізм"):

"Падчас мангольскага (г. азн. крыжацкага) валадарання адзін святар, які знаходзіўся на чале буддыйскага (г. азн. будзіцельнага крыжацкага) кляштара на

імя Паспі (пераіначанае: папа?) атрымаў ва ўладанне Тыбет і стаў на чале ламаістцкай іерархіі..."

"Духоўная ўлада ламаў зараз распасьціраецца далёка за межы Тыбета (у буратаў, калмыкаў і ў ламаіцкіх кляштарах ў Кітаі). Ламаістцкае манаства (відавочны водгалас каталіцкага манаства) падзяляецца на чатыры прыступкі:. настаяцель кляштара, святар, аглашоны (гетул) і паслушнік... Белага святарства ламаізм (як і каталіцства) не прызнае. Усё святарства не адружваецца і ўсе жывуць у кляштарах. Існуюць таксама і жаночыя кляштары, на чале якіх стаяць увасобленыя настаяцельніцы. Сукупнасць ўсяго святарскага персаналу складае ламаістцкую царкву.

Адзенне кожнага стану дакладна вызначана. Кожная духоўная асоба дае прысягу жыць выключна дабраахвотнымі ахвяраваннямі. Ламы з'яўляюцца не толькі заступнікамі простых сьмяротных перад богам, але разам з тым (як у старыя часы ў каталікоў) і лекары, і астролагі і вешчуны".

"Ламаіцкія храмы (як і хрысьціянскія) маюць выгляд прамакутнікаў, бакі якіх (як і ў еўрапейскіх хрысьціян) размешчаны адпаведна з бакамі сусвету. Акрамя таго, існуюць капніцы і інш. Ужыванне пацерак падчас малітвы мае шырокае распаўсюджванне. Галоўную частку набажэнстваў складае асьвячэнне вады (праз адсутнасць у Сібіры вінаграднікаў) і хлеба, і раздача іх вернікам".

Я знарок перадаю гэта не сваімі словамі, а цытую са слоўніка Граната для лёгкай магчымасьці праверкі.

Скажы ж зараз сам, чытач, няўжо ты не пазнаеш тут парэшткі былога каталіцызма, які мог быць занесены сюды не інакш, як крыжацкімі паходамі? Цалкам відавочна, што крыжакі ў сваім "імкненні на Усход" распаўсюдзіліся далёка за межы Ўральскіх гор і былі ператвораны рускімі праваслаўнымі гісторыкамі ў "татарскія орды, якія прыйшлі із Кітая".

Дакладна таксама і індуская "Трымурці" (г. азн. па-руску – "Тры морды") з яе Брамай (богам бацькам), Вішну (г. азн. Вышнім, богам сынам з яго шматлікімі ўвасабленнямі ў чалавечым выглядзе, галоўнейшым з якіх быў Крышна, г. азн. Хрыстос, герой Магабгараты) і з богам Сівай (відавочна, святым духам) носіць усе сляды крыжовых паходаў, дасягаўшых, як паведамляецца ў хрысьціянскіх гісторыкаў, да Індыі.

Ні адзін вольна думаючы чалавек не можа, вядома, нават і падумаць, што ўсе гэтыя супадзенні былі "простымі выпадковасьцямі", а не асобнымі этапамі той ж самай эвалюцыі, і яна малюецца непрадузятаму навукоўцу ў такім выглядзе. Поспехі крыжовых паходаў, як рэлігійна-вайсковых пачынанняў, знаходзяцца ў цеснай сувязі з вынаходніцтвам новых невядомых да таго часу ў сьвеце прыстасванняў абароны і знішчэння.

І тут мы, перш за ўсё, адзначаем дзве наступныя стадыі.

1-я стадыя. Вынаходніцтва выплаўкі медзі із яе руд, магчымае толькі ў краінах, маючых, як Гішпанія, медныя руднікі, даўшае магчымасць вырабляць шлемы і латы для сваёй абароны, і лукі з меднымі стрэламі для забівання суперніка, а таксама прыручэнне коней для хуткага перамяшчэння (медны век).

2-я стадыя. Вынаходніцтва пораху манахам Шварцам, здейсненае ім, як кажуць, каля 1250 года, адначасовага, відаць, з узяцьцем Канстантынопаля ў 1261 годзе ўсходне-рымскім імператорам Міхалам VIII Палеолагам (знішчыўшым Лацінскую імперыю) і з восьмым крыжовым паходам на Усход пры Людовіку IX у 1280 годзе. Тут жа з'явіліся і туркі-асманы. Некаторыя асобныя дэталі пра

суадносіны вынаходніцтва пораху з палітычнымі пераменамі таго часу для мяне яшчэ не цалкам высветлены, але яны несумненна мелі месца і далі еўрапейцам новую перавагу над азіятамі. Толькі з падобнага боку гледжання і зразумела, чаму і VIII крыжовы паход (асабліва пасьля вынаходніцтва компаса каля 1300 года Флавіем Джойо) быў здзейснены таксама з Захаду на Ўсход.

А ў Азію завабіла старажытных дамаседаў-гісторыкаў больш іхнае ўласнае ўяўленне. Так, напрыклад, можна лічыць бяспрэчным, што падставай да біблейскага падання пра зямны рай была дэьта Ніла з яе ўрадлівай дзякуючы штогадовым разлівам глебай яго вусьця, якое атрымала найменне Міжрэчча (па-грэцку – Месапатамія), а не шырокая прастора паміж рэкамі Тыгр і Еўфрат, уяўляючая пустынную раўніну з камяністай пяшчанай глебай. У міжрэччы дэльты Ніла мы знаходзім і спробы пабудовы "вежы да нябёсаў" ў выглядзе ягіпецкіх пірамід, а паміж Тыграм і Еўфратам няма і намёку на нешта падобнае.

Дакладна так жа і міфічную Трою, апетую "Гамерам" (г. азн. згодна з адным старадаўнім паведамленнем маркізам Дэ-Сэнт-Амер падчас валадарання крыжакоў у Грэцыі), калі ўжо ёсць патрэбна шукаць гэты горад у рэчаіснасьці, мы хутчэй знойдзем ў старажытным французскім горадзе Troyes (зараз чытаецца як Труа) на Сене, заўважаемы дзякуючы свайму гатычнаму сабору, а не ў форце Кум-Кале на паўночна-заходнім ускрайку Малой Азіі, як нафантазіраваў гэта сае археолаг-шукальнік Генрых Шліман, знайшоўшы тут у 1870-1890 гг. парэшткі нейкага царскага палаца, двух храмаў, театра і шмат залатых і срэбных упрыгожванняў разных стылей і эпох і абвясціўшы гэтыя парэшткі Трояй.

Я не магу тут абцяжарваць сваё выкладанне і іншымі шматлікімі прыкладамі таго, што крыжакі, карыстаючыся неабарненасьцю ўсходняга насельніцтва перад агнястрэльнай зброяй заходніх еўрапейцаў і прыручанымі імі коньмі, заходзілі (хутчэй заязджалі) далёка ў глыбіню Азіі, і што непазбежная (з нагоды адсутнасьці ў іх уласных жанчын) асіміляцыя іх з мясцовым насельніцтвам праз мясцовых дзяўчат захавала там іхнае нашчадства пад найменнем манголаў (г. азн. вялікіх), а іхную рэлігію захавала ў выглядзе ламаізма, буддызма, індуізма і іншых веравызнанняў.

Але і гэтых прыкладаў, мне здаецца, цалкам дастаткова, каб паказаць, што ўсе гэтыя этнаграфічныя перамяшчэнні – па-сутнасці адгалоскі крыжовых паходаў, не дарэмна называемых па нямецку Drang nach Osten.

# Глава III

## Паход туркменскіх вершнікаў 1935 года.

Калі гэтае маё даследаванне было ўжо закончана, я нечакана атрымаў доследнае падцверджанне маіх тэарэтычных высноваў пра геаграфічную немагчымасць "мангольскага іга" із "Сярэдняй Азіі".

Усе рускія газеты 26, 27 і 28 жніўня 1935 года выявіліся перапоўненымі захапляючыміся апісаннямі "НЕ МАЮЧАГА ПРЫКЛАДУ Ў СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ" коннага пераходу трыццаці туркменскіх вершнікаў ў Маскву із Ашхабада каля пярсідзкай мяжы за Каспійскім марам. Бяру вытрымку із самых сьціплых паведамленняў пра гэта ў "Вестках Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР".

"Амаль чвэрць свайго шляху – тысячу кіламетраў – яны прайшлі па бязлюднай пустыні, па пяску і скалах, дзе няма ні дарог, ні расьлін. І адзіны чалавек, якога яны сустрэлі на гэтай тысячы кіламетраў, быў рыбак, выпадкова выйшаўшы на нежылы бераг Аральскага мора".

"Наравістая прырода, здавалася, выкарыстала ўсю сваю злую вынаходлівасць, прыдумляючы ўсё новыя цяжкія перашкоды на іхным шляху. Яна на доўгі час пакідала іх без вады, яны ішлі пад ліўнямі і абпальваючымі прамянямі солнца, іхныя коні загрузалі ў пясок па калена. Прырода выпрабоўвала трываласць людзей і цягавітасць коней".

"Але вершнікі няспынна ішлі наперад. На цэлыя кіламетры выкладалі шлях саксавулам, які збіралі ў стэпе. Знімалі халаты з уласных плячэй і накрывалі імі коней. Аддавалі апошнюю ваду із паходных баклаг сваім чацвераногім сябрам. Ва Ўсць-Урце цягалі па скалістаму схілу пяціпудовыя бочкі з вадой із крыніц, якія удавалася знайсьці пад пятой пласкагор'я. Капалі студні, шукалі, калі заканчваўся фураж, дзікарастучую люцэрну, рвалі яе рукамі, збіраючы яе штодня столькі, каб конь быў сыты".

"Дык яны ішлі 84 дні на сваіх ахал-тэкінцах і йамудах, на сухіх тонкашыіх конях праз Кара-Кум, Усць-Урт, паволжскія стэпы – да сэрца Союзу, у сталіцу Радзімы".

"Таварыш Сталін, – паведаміў ім на ўрачыстым прыёме нарком абароны К. Я. Варашылаў, – вельмі ўважліва сачыў за ўсімі паведамленнямі пра ваш пераход. Ён абмяркоўваў яго са мной, характэрызуючы яго як гераічны ўчынак, які маглі здзейсніць толькі людзі нашай краіны.

Потым Нарком абароны ўзнагародзіў усіх гераічных удзельнікаў перахода за слаўны подзвіг імяннымі залатымі гадзіннікамі".

І там жа мы чытаем далей: "Слаўныя коннікі Туркменіі, якія здзейснілі не маючы прыкладу пераход Ашхабад-Масква, ўчора, 23 жніўня, былі прыняты ў Крамлі старшынёй ЦВК Союза СССР тав. М. І. Калініным і старшынёй Савета Народных Камісараў СССР тав. Молатавым.

У вялікай светлай зале паседжанняў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР сабраліся лепшыя калгаснікі сонечнай рэспублікі, слава пра якіх прагрымела па ўсёй краіне. У яскравых нацыянальных халатах, махнатых папахах, бронзавыя ад загару, яны занялі месцы за шырокім сталом. Тав. М.І.Калінін уручае ўзнагароды трыццаці адважным удзельнікам не маючага прыкладу ў гісторыі коннай кавалерыі пераходу Ашхабад-Масква".

"Услед за гэтым выклікаюцца вершнікі тыя, хто абслугоўваў гераічны пераход, забяспечваў яго поспех. Гэта лекары, дастаўшчыкі, шафёр, майстар сядзельных спраў, радыст, фуражыр і іншыя. Тав. Калінін уручае ганаровыя граматы ЦВК Союза ССР".

А яшчэ далей чытаем:

"Вечарам адбыўся прыём туркменскіх удзельнікаў гістарычнага коннага пераходу Ашхабад-Масква Наркомам земляробства СССР.

Усе ўдзельнікі пераходу прэміраваны наркомам земляробства СССР роварамі. Трыццаці двум калгасам Туркменіі, наладзіўшым слаўны пераход, нарком прызначыў сродкі для пабудовы культурных устаноў".

А затым пад буйным загалоўкам прыводзіцца і тэкст урадавай пастановы:

"Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза ССР пастанаўляе:

За не маючы прыкладу ў гісторыі коннікаў конны пераход Ашхабад-Масква, здзейснены калгаснікамі-ўдарнікамі Туркменскай ССР на сваіх калгасных конях па маршруту, пралягаючаму значнай часткай па бездаражжы ў бязводнай мясцовасьці:

Узнагародзіць ордэнам "чырвонай Зоркі":

(пералічваюцца 30 вершнікаў).

Узнагародзіць граматай ЦВК Саюза ССР удзельнікаў коннага пераходу Ашхабад-Масква, суправаджаўшых і абслугоўваўчых пераход (усяго пералічана 17 чалавек).

Слава смелым джыгітам гарачай Туркменіі!"

Што ўжо казаць пра шматлікае, не рэгулярнае і разнастайнае войска (фактычна велізарны табун коней, які гоняць людзі за шматлікія тысячы вёрст па чужой зямлі) ідучае з фантастычнай хуткасьцю і фантастычна ж паспяхова скараючы пройдзеныя землі. Пры гэтым гэтае войска не толькі не памяншаецца, а наадварот павялічваецца (незразумела за кошт якога насельніцтва і якіх рэсурсаў). У гэта можна паверыць, толькі не ведаючы асаблівасьцей каняводства. Нават у спрыяльных і стацыянарных ўмовах развядзення вельмі не проста захаваць пагалоўе. Асобны клопат – падрыхтоўка пашы, які падзяляецца па адмысловым порам года. І ўсе словы, выказаныя пра незвычайную цягавітасць, ваяўнічасць і массавае марадзёрства "мангол і К °", дазваліўшыя ім не проста без страт, але і з прыбыткам прайсьці ўсю Азію з усходу на захад, з’яўляюцца проста фантазіяй, далёкай ад рэчаіснасьці.

Ужо гэтага дастаткова, каб усе апавяданні пра грандыёзныя заваёвы манголаў лічыць пераіначанай гісторыяй реальных захопаў нямецкімі ордэнамі паўднёвых і заходніх тэрыторый сучаснай Расіі. Што ж да іншых цяжкасьцей падобнага паходу, то хочацца адзначыць, што ў адрозненні ад туркменскіх вершнікаў усходнія заваёўнікі рухаліся зусім не з дапамогай мапы і ездзілі яны цалкам без аўтамабіляў, лекараў, сядзельных справаў майсроў і прылад для кавання і радыёсувязі з гарадамі, куды едуць і адкуль выехалі.

У туркменскіх вершнікаў былі пад рукой дакладныя геаграфічныя мапы, карыстаючыся якімі яны нават і без дарог ведалі ў якім накірунку патрэбна ехаць да бліжэйшага населенага месца, дзе можна знайсьці ежу і прытулак для 47 чалавек і корм для іхных коней. Яны мелі компасы, каб не заблудзіцца і даехаць да патрэбнага пасялення, калі туды не было пракладзена дарогі, а тыя – манголы, – кажуць нам, – нават і не маючы ніякага разумення пра геагафічную мапу, а разам з гэтым, вядома, і пра накірунак, па якому патрэбна ісьці ў Кіеў, Маскву ці Цвер, беспамылкова прыходзілі туды і вярталіся адтуль цэлымі дзесяткамі тысяч і пры гэтым не па тэрыторыі хаўруснікаў, забяспечваючых іх усім неабходным, а ва ўмовах разбягаючагася ад іх ва ўсе бакі варожага і напалоханага насельніцтва.

Колькі ж часу яны ішлі? Вось, зараз перад намі ўжо не разлік, а факт. Трыццаць туркменаў, паставіўшы "сусветны рэкорд", прыехалі верхам із-за Каспійскага мора ў Маскву за тры месяцы без шасьці дзён, пад час самай светлай і цёплай пары года – у чэрвені, ліпені і жніўні, калі дзень доўжыцца ў сярэднім больш за 18 гадзін, а цемень менш чым 6 гадзін. І вось, яны ўжо не вяртаюцца такім жа шляхам на радзіму, лічачы гэта фізічна немагчымым, так як нават і ў тым выпадку, калі б яны і назад ехалі толькі тры месяца, то не вярнуліся б дадому раней снежня, тады як з заканчэннем кастрычніка і на працягу ўсяго лістапада зямля была б пакрыта сьнегам, а перад гэтым быў бы перыяд восеньскай непогодзі і хлюпаты. Яны паехалі назад ўжо чыгункай, і вось што мы чытаем ў "Вестках" ад 13 верасня:

"Гераічныя вершнікі – удзельнікі перахода Ашхабад-Масква – учора наблізіліся (ў цягніку) да мяжы Туркменіі насустрач ім прыскакала некалькі соцень вершнікаў-туркменаў. З вышыні паветра іх сустракала эскадрылля самалётаў "Дынама". Шматлікі натоўп калгаснікаў закідаў герояў кветкамі. 13 верасня вершнікі прыбылі ў Ашхабад. Гэты дзень абвешчаны ўсенародным туркменскім сьвятам".

І справядліва, – дададзім мы ад сябе. А параўнаўшы гэта з паходамі "манголаў" адтуль жа ў Маскву і нават далей і назад, зраблю ж, нарэшце, і належную выснову. Відавочна, што і мангольскі атрад Батыя, выехаўшы вясной із прыкаспійскага Сараю і прыбыўшы, як гэтыя рэкордныя вершнікі, толькі да верасня ў Маскву, Цвер або Старую Русу, паблізу Вялікага Ноўгарада, ужо не змог бы вярнуцца дадому без дапамогі чыгункі або даць пра сябе туды паведамленне без радыётэлеграфа раней верасня наступнага года, г. азн. "героі" прапалі б без вестак для свайго вялікага заволжскага хана больш чым на год. Якім жа чынам такі далёкі хан змог бы трымаць ў падпарадкаванні сваім зборшчыкаў падаткаў усе рускія буйныя гарады без пастаянных моцных акупацыйных атрадаў і не пазбавіўшы права мясцовых рускіх князёў мець рускае і па сваёй прыродзе варожае яму войска?

Непасрэднае назіранне жыцця бліжэйшых жа да нас народаў паказвае нам, што ўсё гэта магло б быць толькі ў тым выпадку, калі б вялікі хан, як рымскі папа ў асяроддзі каталіцкіх народаў, ці як Далай-лама ў тыбетцаў, лічыўся б у рускіх кіраўнікам іхнай царквы, намесьнікам бога на зямлі.

А між тым артадаксальныя гісторыкі як раз і адкідваюць такое тлумачэнне, абвяшчаюць "татар" ці "манголаў" іншавернікамі, трымаючыміся выключна дзякуючы вайсковай магутнасьці. Яны сцвярджаюць, што самі рускія князі на працягу 300 гадоў штогадова па чарзе здзяснялі такія ж "не маючыя прыкладу ў гісторыі" конныя пераходы, як днямі прыехаўшыя ў Маскву 30 туркменаў, але толькі ў адваротным накірунку і не з мэтай паказацца сваім заступнікам, а з мэтай пакланіцца сваім прыгнятальнікам, не лічачыся ў сваіх высновах ні з кліматычнымі ўмовамі мінаемых краін, ні са станам культуры і тэхнікі ў дадзены час, ні з фізічнымі магчымасьцямі людзей і коней.

З нашага боку гледжання амаль трохмесячны пераход 30 туркменскіх вершнікаў із Ашхабада ў Маскву мае нават непараўнальна большае значэння, чым надалі яму ў Маскве: гэта дасьледны доказ немагчымасьці батыевых паходаў, і застаецца пажадаць, каб веруючыя ў мангольскае ярмо гісторыкі паспрабавалі паўтарыць паходы Чынгіз-хана, каб даказаць доследным шляхам іхную яшчэ большую фізічную немагчымасць. Там, дзе выяўляецца магчымасць сумневу, вопыт заўсёды вырашае справу. Але толькі... ці не дастаткова для гэтага і толькі што апісанага вопыта?

# Том II.

## Крытычны агляд папярэдніх заходніх усходазнаўцаў.

# Пралог.
## Псіхалогія прыдумвання гістарычных сведчанняў.

# Глава I.
## Кароткае рэзюмэ папярэдняга тома.

Для таго, каб мой чытач не заблытаўся ў шматлікіх і разнастайных дэталях, якія мне, праз неабходнасць, давялося выказаць для дастатковага абгрунтавання маіх такіх нечаканых высноваў пра "татарскае іга", я тут рэзюмую іхную асноўную сутнасць, і лепш за ўсё ў той пасьлядоўнасьці пошукаў і разважанняў, з дапамогай якіх, насуперак майму асабістаму жаданнія, я да іх прыйшоў.

Калі я пайшоў па лінгвістычных следах, то заўважыў: вось, у рускіх летапісах мы знаходзім, што татарскія зборшчыкі падаткаў мелі назву бесермены, адкуль паходзіць рускае слова бусурман. Але ж гэта нямецкае слова Besteuerman – зборшчык падаткаў: ад дзеяслова besteuern – збірать падаткі, і ад назоўніка steuer – падатак.

Вось, у рускіх летапісах правадыры татарскіх атрадаў маюць назву баскакі, і гэта выводзіцца ад цюркскага слова баскан – націскаць. Але ж які чыноўнік будзе сам сябе афіцыйна называць націскацелем? Так маглі б яго назваць толькі рускія на сваёй, а не на яго мове, якой яны нават і не ведалі... І навошта ўсё гэта сапраўды "націскальнае" словаўтварэнне, калі само сабой навязваецца іншае значна прасьцейшае. Толькі перакладзіце на рускую мову слова капітан, паходзячае ад лацінскага caput – башка, навершнік, і вы атрымаеце башкак, г. азн. главак, адкуль і зараз засталося слова "галоўнакамандуючы" і "главар". Дакладна так жа і па-нямецку ротны камандзір мае наву гаўптман, г. азн. главак, інакш башкак, ператварыўшыся пазней у лацінскім вымаўленні носьбітаў гэтай рускай назвы – у баскака, праз тае, што на лаціне чужаземны гук Ш заменяется на С.

Далей я пачаў вывучаць і эканамічныя дачыненні і суадносіны магутнасьці рускіх і татар.

Вось наўгародзкі князь Аляксандр Неўскі ў 1240 годзе ў вялікай бітве на Няве перамагае шведзкага правадыра Біргера, з нагоды чаго і атрымлівае сваю мянушку. А затым, як гэта відаць із іншаземных крыніц, ён наносіць моцную паразу злучанаму войску рыцараў Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў на лёдзе Чудзкага возера пры так званым "Лядовым пабоішчы" (у 1242 г.), "пераможным паходам супраць ліцвінаў забяспечвае незалежнасць ад іх Наўгародзкага княжества", а што ж гэты герой і пераможца робіць пазней? Ці не страціў ён розум? Праз тры гады пасьля сваіх бліскучых перамог, ён разам з братам Андрэем едзе ў 1245 годзе з вялікімі цяжкасьцямі і выпрабаваннямі, пры тагачаснай адсутнасьці пракладзеным шляхоў, па дыяганалі праз усю ўсходнюю Яўропу – не інакш як праз Цвер, Маскву, Разань, Тамбаў, Саратаў і па маланаселеных стэпах у нейкі Сарай на ніжняй Волзе, нежыццёваздольнасць якога даказваецца тым, што ад яго пазней нічога не засталося. Ён едзе, пераадольваючы ўсе перашкоды, у арду да

бусурманскага Баці-хана (г. азн. бацюшкі – святара, так як "хан" з’яўляецца біблейскім словам, азначаючым сьвятар, а Батый пераінначанае рускае Бацяй[301]).

А затым справа станавіцца яшчэ горшай: Бацюшка-святар (Бацяхан) выпраўляе яго па непраходных, пры тагачасных умовах развіцця культуры, шляхах, у Забайкалле, у нейкае пазней знікшае без слядоў урочышча на рацэ Амур да Вялікага Хана (г. азн. у перакладзе да Вялікага Святара – Pontifex Maximus на лаціне) і праз 7 гадоў падарожжа, ў 1250 годзе, Аляксандр Неўскі вяртаецца назад з паперай ("ярлыком") на княжанне ў Кіяві і Ноўгарадзе, а яго брат Андрэй з ярлыком на княжанне ва Ўладзіміры. Пазней за вялікую пакорлівасць і стараннасць Аляксандр Неўскі атрымлівае яшчэ ярлык[302] на вялікае княжанне ва Ўладзіміры і дабрачынна памірае праз адзінаццаць гадоў 14 лістапада 1263 года, пасьля чаго, нягледзячы на такую сваю адданасць бусурманам і бусурманству, прылічаецца праваслаўнай царквой да ліку сьвятых. Яго парэшткі ўшаноўваюцца яшчэ ў 1381 г., што азн. за сто гадоў да скасавання "татарскага іга" маскоўскім вялікім князем Янам III, а ў 1724 пераносяцца, быццам бы, із Уладзіміра ў Пецярбург у Аляксандра-Неўскую Лаўру.

Але ж усё гэта да такой ступені недарэчна, што мне для апраўдання застаецца толькі выправіць чытача да якога заўгодна падрабязнага энцыклапедычнага слоўніка для праверкі такой біяграфіі. Бо ехаць із Вялікага Ноўгарада пасьля перамогі над шведамі, над Лівонскім і Тэўтонскім ордэнамі і над ліцвінамі за ніжнюю Волгу ў Прыкаспійскую Арду, а затым яшчэ і ў Забайкалле (!!) на раку Амур (!!), каб атрымаць зацверджанне ў тамтэйшага бусурманскага Вялікага Першасвятара у праве на хрысьціянскае княжанне ў бліскуча абароненым Вялікім Ноўгарадзе, гэта тое ж самае, як калі б рускі цар Аляксандр I пасьля выгнання Напалеона паехаў зацвярджацца ў сваіх праве на цараванне ў Расіі да шамана на Чукоцкі Нос і вярнуўся б адтуль з "нянецкай" граматай на Усерасійскае цараванне, пасьля чаго, нягледзячы на такую вялікую адданасць шаманству, быў бы прылічаны рускай царквой да ліку сьвятых.

Іншая справа, калі пасьля сваёй бліскучай перамогі на лёдзе Чудзкага возера над Лівонскім і Тэўтонскім ордэнамі ён адчуў, што яны ўсё-такі не пакінуць яго ў спакоі і вырашыў пайсьці пад заступніцтва да больш уплывовага гросмайстара Ордэна Сьвятога Крыжа на не суседнічаючай з ім і таму больш бяспечнай Балканскай паўвыспе, і паехаў не ў Сарай ў стэпах за Волгай, а ў Сараева ў Босніі, дзе жыў папскі намесьнік[303], і затым не ва ўрочышча на р. Амур, а ў Рым на рацэ Тыбр, да рымскага вялікага Першасьвятара (пантыфіка) і, далучыўшыся да ўніяцтва, прывёз адтуль булу на княжанне. Тады зразумела, што ён бы цалкам абараніў сваё княства ад нападаў суседніх з ім Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў. А за такую сваю стараннасць ён, натуральна, быў бы прылічаны да сьвятых сваёю царквой, калі б яна ў той час была ўніяцкай і ў Кіеве, і ў Ноўгарадзе, і ва Ўладзіміры.

---

[301] Хан па-жыдоўску (Кен або Хен) – сьвятар. Ад гэтага ангельскае слова КІН (King) – кароль, нямецкае Konig ў значэнні сьвятая асоба. Такую назву першапачаткова меў і рымскі папа, пра што сведчыць яго жыллё Ватыкан (г. азн. Дом Хана, а так жа словы канон, канонік). Што ж да імя Батый, то яго міжволі параўнаўваеш са словам Мамай, як найменнямі служак бога – бацькі і багіні – маці (мадоны).

[302] Ад нямецкага слова Ihrlich – ганаровае званне, або ад jarlich – гадавое леннае абязацельства даніны. Ці не адсюль ангельскае званне earl – граф?

[303] Нагадаем, што і да гэтага часу гросмайстар Ордэна Святога Крыжа жыве ў Празе і лічыцца першым прэлатам Багеміі, носячы на грудзях залаты мальтійскі крыж (з 1238 года).

Толькі тады ўся гэтая недарэчнасць знікае і пачынае праглядацца цалкам разумны сэнс і, пры тым, цалкам гармоніруючы з астатнімі характэрыстычнымі феадальнымі дачыненнямі таго часу.

Вось, напрыклад, каля сямідзесяці гадоў да гэтага рымска-германскі імператар Фрыдрых I Рыжая Барада (1152-1190) таксама ваюе супраць волі папы з італьянскімі папістамі, але ў 1177 едзе ў Венецыю прынесьці папе зямны паклон і пакаянне і, атрымаўшы дараванне, зацверджваецца папай у сваіх "імператарскіх правах". Але і гэтага мала. Ён ладзіць на карысць папскай улады крыжовы паход супраць магаметан-сельджукаў ў Малой Азіі і там, згодна з паведамленнямі гісторыкаў, нават топіцца ў славу папства пры пераправе праз раку Салеф ў старажытнай Кілікіі (Cilicia), ужо адышоўшай да Арменіі (хаця, згодна з нямецкім народным паданнем, ён яшчэ і да гэтага часу спакойна спіць у адным із далёкіх усходніх замкаў, але прачнецца і паднімеццца ў той дзень, калі Германіі будзе пагражаць смяротная небяспека, і аднавіць у ранейшым бляску і магутнасьці Германскую Рымскую імперыю).

А вось і другі прыклад.

Ужо падчас самога Аляксандра Неўскага (1220-1263 гг.), унук толькі што згаданага спячага да гэтага часу рыжабародага Фрыдрыха – Фрыдрых II, імператар заходняй Рымскай імперыі, кароль "абедзьвух Сіцылій" (1220-1255 гг.), таксама, быўшы каталіком і нават крыжаком, вядзе пазней "жорсткую барацьбу" з самім папай Рыгорам IX, які за гэта адлучае яго ад царквы, але працягвае барацьбу і з пераемнікам Рыгора Інакенціем IV і за сваю ўпартасць абвяшчаецца, нарэшце, адлучаным ад германскага пасада цэлым каталіцкім саборам ў Ліёне ў 1245 годзе. Аднак і тут відавочна, што калі б Фрыдрых II замест "упартасьці" паехаў да папы, як яго дзед "Рыжая Барада", то папа прыняў бы яго назад ва ўлонне сваёй царквы.

І вось, уся гісторыя Аляксандра Неўскага, спачатку перамогшага тэўтонскіх рыцараў, а потым паехаўшага ў Рым прасіць у папы зацверджання на сваё княжанне, так падобна з гісторыяй гэтых сучасных яму Фрыдрыхаў, што мімаволі прыходзіць думка: ці не дзейнічаў ён згодна з прыкладам Фрыдрыха і ці не закончыў сварку больш разумна, чым Фрыдрых II?

Так усё недарэчнае згодна з сучасным нам заволжскім і з забайкальскім разм яшчэннем манголаў у гісторыі рускага псеўдамангольскага іга прыходзіць у лагічнае ўпарадкаванне і ў адпаведнасць з рэальнай гісторыяй таго часу, як толькі Чынгізхана (г. азн. Царуючы Святар)[304] мы прызнаем мангольскім прывідам рымскага царуючага хана-сьвятара. А разам з тым знікае і цэлы шэраг іншых непаразуменняў, якімі поўніцца ўся гісторыя "татарскага іга", калі мы будзем працягваць лічыць яго за мангольска-татарскае, а не за ўніяцка-татрскае ярмо, якое абцяжарвала рускі народ сваімі зборамі на карысць папскай царквы. Вось хаця б летапісныя запісы пра растоўскага князя Барыса Васільевіча (1231-1277), які за 14 гадоў княжання восем разоў ездзіў у "Арду" і двойчы выпраўляўся да "Вялікага хана". Але як жа ён паспеў, калі Вялікі Хан жыў не ў Ватыкане?

[304] Па ангельскі Kingish-chan (Кінгіш-хан) прычым слова Kingish замест сучаснага Kingly (ад Kinglike) цалкам дапушчальна, як састарэлая форма, аналогічная іншым прыметнікам на іш, накшталт girlish – дзявочы, english, russish і г. д. І гэта тым больш верагодна, што ў старажытных першакрыніцах і Чынгіз-хан называецца Хінгіс-ханам, ды і само слова Ватыкан (па жыдоўску Бат-Кен, што азначае на біблейскай мове "Жыллё хана" паказвае, што рымскія папы пад час сярэдніх стагоддзяў мелі назву ханаў.

У пагадненні з гэтым знаходзяцца і іншыя геаграфічнія факты, напрыклад, што мы нідзе не знаходзіўся краіну Татарыю за выключэннем вугорскіх Татраў. Агульная схема рускай гісторыі уяўляецца з новага боку гледжання такой.

Першы яе перыяд, да ўзяцця Цар-Горада крыжакамі, з'яўляецца напалову міфічным.

Не адкідваючы хрышчэнне "Ўладзіміра Святога" згдна з грэцкім звчаем, а, як следства, і грэцкага ўплыву хаця б на адно Кіеўскае княства, як першы зародак будучай рускай гісторыі, мы павінны прызнаць, што пасьля ўзяцця Цар-Горада крыжакамі ўсе славянскія народнасьці на Балканах, а з імі і Кіеўскае княства, прынялі ўніяцтва. Яны прытрымліваліся яго і пасьля адваротнага заваявання грэкамі Цар-Горада аж да 1480 года, калі маскоўскі вялікі князь Ян III, адружыўшыся з Сафіяй Палеолог і ў хаўрусе з крымскім ханам Менглі-Гірэем, адмовіўся плаціць папе, а не мангольскаму першасьвятару, уніяцкі падатак пры спачуванні ўсяго свайго народа і нацыянальнага рускага святарства, перастаўшага абагаўляць рымскага папу пасьля Авіньёнскага паланення (1305-1377) і каталіцкага расколу (1378-1417 гг.) і памятаўшага толькі каталіцкія паборы і падаткі.

З гэтага моманту і з гэтай нагоды ўвесь перыяд рускага уніяцтва і стаў называцца татрскім, у рускім народным вымаўленні – татарскім, а па-грэцку нават "тартарскім", г. азн. пякельным, ярмом. А затым началося наўмыснае перанясенне папістамі падмосткаў гістарычнай пастановы ў Манголію.

Сапраўды, пасьля бітвы на Косавым полі ў 1389 годзе, калі быў забіты наступаўшымі на славян туркамі апошні незалежны кіраўнік Сербіі Лазар, і югаслаўскія хрысьціянскія землі падпалі пад іншае ярмо – магаметанскае. З гэтым новым ярмом наступныя пакаленні міжвольна пачалі аб'ядноўваць і былое лацінскае ярмо і, такім чынам, перасяляць яго з захаду на ўсход, што было як раз на руку папству, якому туркі пагражалі таксама.

Злучыўшыяся інтарэсы лацінян і славян, а з імі, магчыма, і грэкаў, пачалі падказваць ім, як гэта пастаянна бывае, новыя думкі:

– А ці сапраўды татрскае ярмо было хрысьціянскім, каталіцкім, а ці не пякельным, тартарскім, якое прыйшло ад турэцкіх адзінапляменнікаў у Туркестане?

Такая думка, як адпавядаючая інтымным жаданням абодвух бакоў, павінна была здацца вельмі трапнай навукоўцам клерыкалам згодна з італьянскай прыказкай: se non e'vero, e'ben trovato (калі і няпраўда, то ўдала прыдумана).

– Замест таго, каб памятаць старыя крыўды, ці не лепш забыцца пра іх на ўвазе неабходнасьці аб'яднацца супраць агульнага врага?

Але для таго, каб пра ўсё забыцца, было неабходна растлумачыць, адкуль жа прыйшло гэтае татарскае ярмо, пра якое яшчэ хадзілі ў народах жудасныя паданні? Вядома, патрэбна вывесьці яго адтуль жа, адкуль прыйшлі і існуючыя прыгнятальнікі – туркі. І гэта лёгка было зрабіць.

Усходняя назва рымскіх святароў "ханы"[305], а вялікіх першасьвятароў (pontifices maximi) хаганы, а згодна з іншым вымаўленнем ка-ганы і ха-каны, была ўзята прама із Біблії. Возьмем, напрыклад, біблейскую кнігу "Цары", якая, як мы бачылі ў I і VII тамах, ў рэчаіснасьці уяўляе нібыта згубленыя "Царгародзкія кансуляры"[306] і паведамляе пад найменнем богазмагальніцкіх і богаславячых царстваў – ізраільскіх і іудэйскіх – пра цезараў Усходняй і Заходняй Рымскай

[305] Па-біблейску Кен або Хен.
[306] Consularia Constantinopolitana.

імперый. Там святар Іадай пры цары Іаасе (Цары ІІ, 12,3) які адпавядае, мяркуючы па яго часе, патрыярху Яну Златавусту пры царгародзкім імператоры Аркадзю (395-408), названы ханам. Гэта азначае, што і наогул хрысьціянскія патрыярхі мелі тытул хана, як пра гэта сведчыць, між іншым, і назва месца жыхарства папы ў Рыме – Ватыкан, г. азн. жыллё хана.

Такім чынам, сама хрысьціянская царква, у аснове якой ляжыць Біблія, карысталася такой тэрміналогіяй. Гэтая тэрміналогія выкарыстоўвалася і ў свецкіх колах у Заходняй Яўропе на працягу ўсяго часу крыжовых паходаў. Вось, напрыклад, хаця б тагачасныя нарвежскія цары: Гакон (г. азн. хаган) Добры (936-961), які загінуў пры спробе ўвесьці хрысьціянства; Гакон Стары (1247-1263), які далучыў, быццам бы, да Нарвегіі Ісландыю і Грэнландыю (яшчэ да вынаходніцтва компаса!!!) і Гакон Апошні, спрабаваўшы далучыць да Нарвегіі Швецыю ў 1361 годзе.

А калі мы згадаем, што "Кнігай Гаканаў", г. азн. "Кнігай вярхоўных першасьвятароў (Hakonar-bok)" і да гэтага часу называецца ў Ісландыі зборнік старадаўніх нарвежскіх законаў, якія адносяцца да таго ж XIII стагоддзя, то мы пабачым, што біблейская назва Гакон (Ha-kon ці інакш Ha-chan) ужывалася як найменне царуючага першасвятара Cingish-chan'a у паўночна-заходняй Яўропе.

З'яўляецца пытанне: якім жа чынам і пад сьценамі Кітая гэта найменне нарвежскіх каралёў прыняў у тую ж самую эпоху нейкі мангольская заваёўнік Хінгіс-Хан?

Гэтая загадка з боку гледжання нашай тэорыі вырашаецца вельмі проста: рымскія папы, гэтыя сапраўдныя Кінгіш-ханы, жадаючы аднавіць унію з усходнімі хрысьціянскімі народамі, не прызналі ўсходняе найменне га-ханаў за сваё, тым больш, што ў сябе на радзіме яны ўжо называліся на лаціне pontifici maximi. Пакінуўшы гэты біблейскі тытул выключна за магаметанамі, якія, дадам, былі адлучаны ад хрысьціянскай царквы толькі на пачатку крыжовых паходаў у 1180 годзе, яны тым самым аддзялілі сябе і ад усіх паданняў пра сябе, захаваўшыхся ў славянскіх і рускіх летапісах. Магчыма, што яны і самі сябе не пазнавалі ў гэтых паданнях. Не цяжка было адрачыся і ад назвы "татарскае ярмо", нагадваўшае пра тое, што яно ішло з захаду із Татраў, а не з усходу. Яно было лёгка праз сугучнасць ператворана заходнімі гісторыкамі-клерыкаламі ў тартарскае, г. азн. пякельнае ярмо, але яго першапачатковая назва ўсё ж захавалася ў славянскіх першакрыніцах.

У інтарэсах Рымскай царквы, усё яшчэ свабоднай і магутнай на захадзе, было неабходна, перш чым пачаць перамовы з застаўшыміся па-за Турэччынай славянамі і грэкамі пра новае прызнанне першынства папы і пра другое аб'яднанне з лацінянамі, прымусіць іх цалкам забыцца пра ранейшы горкі вопыт. Патрэбна было, шляхам трансплантацыі першапачатковых паданняў у чужыя землі, стварыць сапраўдную складную гісторыю якой-небудзь недасягальнай праз сваю аддаленасць краіны. І вось, клерыкаламі прыдумляюцца цэлыя этнаграфіі ўнутраных азіяцкіх татаравей і цэлыя падарожжы да іх, якімі з’яўляюцца кнігі чарнагорскага біскупа Яна Плана-Карпіні і манаха-бенедыкцынца із Браслаўля, нібыта яго спадарожніка, падарожжа арцыбіскупа Рубрука і нават, нібыта, свецкай асобы Марка Пола, прадыктаваўшага свае ўспаміны свайму таварышу па зняволенню ў турме ў 1298 годзе.

Фантастычны характар ўсіх гэтых твораў я пакажу ніжэй. Але ім усе верылі пад час той некрытычнай эпохі, і яны дасягнулі сваёй мэты. Яшчэ застаючыся незалежным ад турак візантыйскі імператар Ян Палеолог са шматлікімі грэцкімі

біскупамі выправіўся, як раз пад час эпохі распаўсюджвання гэтых кніг, у 1438-1439 гадах, на збіраемы папай Яўгенам IV з мэтай заключэння ўніі Ферара-Фларэнтыйскі сабор, і унія была прызнана з дазволам для ўсходніх святароў адружвацца, а міранам карыстацца пры прычашчэнні віном з прызнаннем рымскага папы сваім кіраўніком.

У адказ на гэтую ўнію туркі робяць націск на грэцкае святарства ў сваіх землях, і яно, сабраўшыся праз пяць гадоў на сабор у ісламістцім Ерусаліме, аддае (у 1443 г.) Фларэнтыйскую ўнію анафеме. Затым яшчэ праз дзесяць гадоў, у 1453 годзе, туркі бяруць сам Цар-Горад і, стаўшы валадарамі ўсёй Візантыі, падпарадкоўваюць сабе ўсё грэцкае святарства. Зразумеўшы адсутнасць усякай карысьці далейшага навязвання яму ўніі, папская курыя накіроўвае ўсе свае намаганні на застаўшыхся незалежнымі або напалову залежных ад Турэччыны славян, ужываючы, як сродак заваблівання іх да сябе, прыдуманае каталікамі мангольскае "паходжанне" іхнага ўласнага іга, і, выпускаючы новыя "падцверджанні" яго прыходу із Азіі, замяніўшы Сараева ў Босніі нейкім Сараем за Волгай і падмяніўшы захоплены крыжацкімі ордэнамі Цар-Горад, захопам, нібыта мангольскімі ордамі, Пекіна.

І гэтыя намаганні, супадаючы з насоўваючайся на рускіх і славян небяспекай ад туркаў, мелі сваё ўздеяне. Праз сотню гадоў такіх запэўніванняў сапраўдная гісторыя "татарскага іга" была цалкам забытая, і ў 1596 годзе Берасьценьскі сабор у Літве, на які прыехаў і кіеўскі мітрапаліт Міхал Рагоза і шмат славянскіх рускіх біскупаў, прызнаў унію, якая потым і пачала распаўсюджвацца ў паўднёва-заходняй Русі, Валыні, Падоллі і Беларусі, сустрэўшы супраціў толькі ў казацтве і ў Масковіі. Тут Ян III, абапіраючыся на сяброўства з крымскім ханам Менглі Гірэем, яшчэ ў 1480 адмовіўся плаціць даніну татарам, г. азн. каталіцкаму святарству з легатам на чале, пад назіранне якога ён быў аддадзены Рымам, і наўзамен гэтага ліквідаванага папскага татарскага іга пачала ўсё больш і больш распрацоўвацца версія "пякельнага тартарскага" іга із уяўляемай Мангольскай Тартарыі.

Царуючы хан (Кінгіш-хан) – папа Інакенцій III – канчаткова ператварыўся замест заваёўніка Цар-горада ў заваёўніка Пекіна, заваяванне крыжакамі дунайскіх немцаў (данай-готаў) ператварылася ў заваяванне тан-гутаў[307], лічымых чамусьці нават не за сугучных згодна з найменнем сібірскіх тунгусаў, а за кітайска-тыбецкае качавое племя Сі-фан, г. азн. Заходніх Варвараў.

Часовае заваяванне на прыканцы XII і на пачатку XIII стагоддзя крыжакамі магаметанскіх краін ператварылася ў заваяванне шырокага царства Махамеда-Харэзм-Шаха, быццам бы прасьціраўшагася ад Індыі да Каспійскага мора, заваяванне вуграў (венгерцаў) – па-нямецку хунгараў – ператварылася ў заваяванне уйгураў у Бухары.

У канчаткым выглядзе гэта першым зафіксаваў знакаміты історыёграф Карамзін, які рэзюміраваў усю гэтую трансфармацыю у сваёй "Гісторыі дзяржавы Расійскай".

Год 1224. Паходжанне татар.

"У сучаснай кітайскай Татарыі (такой няма!) на поўдзень ад Іркуцкай губерніі, у стэпах качавалі орды манголаў, аднапляменнікаў з усходнімі туркамі. Гэты народ дзікі, раскіданы, сілкаваўся лаўленнем звяроў, жывёлагадоўляй і рабаваннямі, залежаў ад татар ніучэй (сугучна толькі з рускім словам невукі, а

---

[307] Адзначу, што ў Чэхіі знакаміта прозвішча Тун (von Thun).

зараз перароблена ў нючжэней), валадарыўшых у паўночнай частцы Кітая, але каля паловы XII стагоддзя гэты дзікі раскіданы народ набыў магутнасць і пачаў славіцца перамогамі. Яго хан, на імя Езукай Багадур (сугучна толькі з Ісакій Богадар), заваяваў некаторыя суседнія вобласьці і, закончыўшы свае дні ў квітнеючых гадах, пакінуў у спадчыну свайму трынаццацігадоваму сыну Цемучыну 40000 падначаленых яму сямействаў або даннікаў. Гэты хлопчык, выхаваны сваёй маці ў прастаце пастырскага жыцця, павінен быў здзівіць свет геройствам і шчасьцем, скарыць мільёны людзей і зруйнаваць дзяржавы знакамітыя моцным войскам, квітнеючыя мастацтвамі, навукамі і мудрасьцю сваіх старажытных законадаўцаў.

Пасьля скону Багадура шмат хто із даннікаў адышлі ад яго сына. Цемучын сабраў 30000 ваяроў, перамог мяцежнікаў і ў сямідзесяці катлах, напоўненых кіпячай вадой, зварыў галовы завадатараў бунту. Юны хан ўсё яшчэ прызнаваў над сабой уладу манарха татарскага, але хутка, натхнёны бліскучымі поспехамі сваёй перамагаючай зброі, пажадаў незалежнасьці і першынства. Палохаць ворагаў помстай, заахвочваць стараннасць сяброў шчодрымі ўзнагародамі, здавацца народу чалавекам звышнатуральным – было яго правілам.

Усе асобныя правадыры мангольскіх і татарскіх ордаў добраахвотна ці пад прымусам скарыліся яму: ён сабраў іх на беразе адной хуткай ракі, з урачыстым звычаем піў яе ваду і прысягаў дзяліць з імі ўсё горкае і сладкое ў жыцці. Але кераіцкі хан, адважыўшыся падняць меч на гэтага другога Атылу, страціў галаву, і яго чэрап, акаваны срэбрам, быў у Татарыі помнікам тэмучынага гневу.

У той час, як шматлікае мангольскае войска, размешчанае ў дзевяці станах паблізу пачатку ракі Амур пад разнакаляровымі шатрамі, з глыбокай пашанай глядзела на свайго юнага манарха, чакаючы яго новых загадаў, зьявіўся там нейкі святы пустэльнік, ці ўяўны прарок, і абвясьціў сабраўшымся, што бог аддае Цемучыну ўсю зямлю, і што гэты валадар сусвету павінен надалей звацца Чынгізханам або Вялікім Ханам. Ваяры і чыноўнікі аднадушна выказалі згоду быць прыладамі нябеснай волі: народы пайшлі за іхным прыкладам. Кіргізы адзінай Сібіры і слаўныя асветай ігуры або уйгуры (г. азн. згодна з нашым меркаваннем вугорцы!), жыўшыя на межах Малой Бухарыі, назвалі сябе падданымі Чынгізхана. Гэтыя уйгуры, абагаўляўшыя ідалаў, мірыліся ў сябе з магаметанамі і нестарыянскімі хрысьціянамі, шанавалі навукі, мастацтвы і навучылі грамаце ўсі іншыя татарскія народы. Цар Тыбета таксама прызнаў Чынгізхана сваім уладаром.

Дасягнуўшы (не інакш як з дапамогай чарадзейства – Н. М.) такой значнай ступені велічы, гэты горды хан ўрачыста адмовіўся плаціць даніну манарху ніучэй (зараз перароблены ў нючжэней – Н. М.) і паўночных абласьцей Кітая, загадаўшы сказаць яму ў насмешку:

"Кітайцы спрадвеку называюць сваіх валадароў сынамі неба, а ты чалавек – і смяротны!".

Вялікая каменная сьцяна, служыўшая мяжой для Кітая, не спыніла смелых маголаў: яны ўзялі там 90 гарадоў, перамаглі незлічонае няпрыяцельскае войска і забілі шмат палонных старцаў, як людзей не маючых карысьці. Манарх ніучэй абяззброіў свайго жорсткага ворага, даўшы яму 500 юнакоў і столькі ж прыгожых дзяўчат, 3000 коней, вялікую колькасць шоўку і золата. Але Чынгіз-хан, другі раз уступіўшы ў Кітай, аблажыў яго сталіцу, цяперашні Пекін. Адчайны супраціў жыхароў не змог выратаваць горад: маголы захапілі яго (ў 1215 годзе, г. азн. праз 11 гадоў пасьля ўзяцця Цар-Горада), спалілі палац, які гарэў каля месяца. Лютыя пераможцы знайшлі ў Пекіне вялікую здабычу і мудраца, на імя Ілі-Чуцай, сваяка

апошніх кітайскіх імператараў, слаўнага ў гісторыі дабрадзея людзей: бо ён, заслужыў павагу і давер Чынгізхана, выратаваў мільёны няшчасных ад пагібелі, памяншаючы яго жорсткасць і даваў яму мудрыя парады для адукавання дзікіх маголаў.

Татары-ніучы яшчэ процідзейнічалі Чынгізхану. Пакінуўшы моцнае войска ў Кітаі пад кіраўніцтвам мужнага правадыра, ён накіраваўся ў заходнія краіны і гэты рух яго войска зрабіўся нагодай бедства для Русі. Мы гаварылі пра алтайскіх турак: хаця яны, уціскаемыя з аднаго боку кітайцамі, а з другога – аравіцянамі, у XII стагоддзі завалодаўшы Персіяй, страцілі сваю магутнасць і незалежнасьць, але іхныя адзінапляменнікі, служыўшыя доўгі час каліфам, вызваліліся, нарэшце, ад іга і выявіліся заснавальнікамі разнастайных мутных дзяржаваў. Так на зыходзе XI стагоддзя монарх туркаў-сельчукаў, на імя Челаддзін (зараз Чжэладдзін), валадарыў ад мора Каспійскага і Малой Бухарыі да ракі Гангеса, Ерусаліма, Нікеі, і давал загады багдадзкаму каліфу, папе магаметан. Гэтая дзяржава знікла, паслабленая сваркамі яе прыватных уладальнікаў і заваёвамі крыжакоў у Азіі: на развалінах яго, на прыканцы XII стагоддзя, паўстала новая турэцкая дынастыя манархаў хараўскіх або хівінскіх, якія завалодалі большай часткай Персіі і Бухарой. У гэты час там цараваў Магамет II, горда называўшыся другім Аляксандрам Вялікім[308]. Чынгізхан (г. азн. па нашаму Інакенцій III) меў да яго павагу, шукаў яго сяброўства, меў намер заключыць з ім выгадны для абодвух хаўрус, але Магамет загадаў забіць мангольскіх пасланнікаў. Тады Чынгізхан звярнуўся да суду неба і свайго мяча; тры ночы маліўся на гары і ўрачыста абвясьціў, што бог у сне абяцаў яму перамогу вуснамі хрысьціянскага біскупа, які жыў у зямлі ігураў. Гэтая акалічнасць, выдуманая для падбадёрвання забабонных, была велмі счаслівай, для хрысьціян, бо яны з таго часу карысталіся асаблівай зычлівасьцю магольскага хана. Пачалася война (па нашаму крыжовыя паходы), жудасная азвярэннем варварства і пагібельная для Магамета, які, маючы незлічонае войска, але бачачы мужнасць непрыяцеля, баяўся біцца з ім у поле і адзіна думаў пра абарону гарадоў. Гэтая частка Верхняй Азіі (Аўстр-Азіі?), маючая найменне Вялікая Бухарыя (ледзь ці не сучасная Румынія са сталіцай Бухарэстам), а раней Сагдыянай і Бактрыяй, спрадвеку славілася не толькі сваімі пладзючымі далінамі, багатымі рудамі, прыгажосьцю лясоў і вады, але і народнай асьветай – мастацствамі, гандлем, шматлюднымі гарадамі і квітнеючай сталіцай, да сёньня вядомай пад назвай Бахары, дзе знаходзілася знакамітая вучэльня для юнакоў магаметанскага веравызнання. Бахара не магла супраціўляцца (ўявіце сабе геаграфічную адлеглаць, калі Чынгізхан прыехаў із пад Пекіна!). Прыняўшы гарадзкія ключы із рук старэйшын, ён заехаў на кані ў галоўную мячэць і, бачачы там лежачым Алкаран, з пагардай кінуў яго на зямлю. Сталіца была пераворана ў попел. Самарканд, па-мастацку ўмацаваны (згадаем біблейскую Самарыю – Вартавы горад, Цар-Горад), змяшчаў у сваіх сьценах каля ста тысяч ваяроў і шмат сланоў, галоўную апору старажытных ваяроў Азіі; нягледзячы на гэта, грамадзяне звярнуліся да вялікадушнасьці маголаў, якія, узяўшы з іх 200.000 залатых манет, яшчэ не пайшлі дадому. Яшчэ ўзялі 30000 палонных і такую ж колькасць скавалі ланцугамі вечнага рабства. Хіва, Тэрмез, Балх (дзе знаходзілася 1200 мячэцяў і 200 бань для падарожнікаў) – такі ж лёс напаткаў і шмат якія іншыя гарады. Лютыя ваяры Чынгізхана за тры гады спустошылі ўсю зямлю ад мора Аральскага і далей

[308] Цікава, што знакаміты фарсі паэт Нізамі (пам. кля. 1209 года) адносіць Аляксандра Вялікага да гэтага ж часу, так як у яскравых выразах апісвае яго вайну з "русамі" і канчатковую перамогу над імі.

на захад так, што яна пазней на працягу шматлікіх гадоў ужо не змагла зноў дайсьці да свайго ранейшага квітнеючага стану. Магамет, гнаны з месца на месца жорсткім няўмольных ворагам, з'ехаў на адну із выспаў Каспійскага мора і там у роспачы скончыў сваё жыццё.

У гэты час – каля 1223 гада – жадаючы завалодаць заходнім берегам Каспійскага мора, Чынгізхан выправіў двух знакамітых вайсковых правадыроў: Судая Баядура і Чанавіяна з загадам захапіць Шамаху і Дэрбент. Першы горад сдаўся, і маголы намерыліся ісьці самым кароткім шляхам да Дэрбент, пабудаваны разам з каспійскай сьцяной (такой няма) у VI стагоддзі слаўным царом пярсідзкім Хазроем I, або Нушырванам, для абароны сваёй дзяржавы ад казараў. Але падманутыя праваднікамі, маголы зайшлі ў вузкія цясьніны і былі з усіх бакоў абдожаны аланамі-ясамі, жыхарамі Дагестана, і полаўцамі, прыгатаванымі да жорсткага бою з імі. Бачачы небяспеку, чінгізханаў вайсковы правадыр выкарыстаў хітрасць, выправіў падарункі да полаўцаў і загадаў паведаміць ім, што яны, будучы адзінапляменнікамі маголаў, не павінны паўставаць на сваіх братоў і сябраваць з аланамі, якія цалкам іншага роду. Полаўцы, спакушаныя ласкавым прывітаннем або падарункамі, пакінулі хаўруснікаў, а маголы скарыстаўшыся гэтым спрыяльным выпадкам, перамаглі аланаў. Хутка галоўны палавецкі хан, на імя Юры Канчакавіч, пашкадаваў пра сваю памылку: даведаўшыся, што ўяўныя браты маюць намер валадарыць у яго зямлі, ён намерыўся збегчы у стэп, але маголы забілі яго і іншага князя, Данілу Кабякавіча, гналіся за іхнымі таварышамі да Азоўскага мора, да вала палавецкага, або да самых нашых межаў, пакарылі ясаў, абазінцаў, касогаў або чаркесаў і наогул сем народ у азоўскіх ваколіцах.

Шматлікія полаўцы сышлі ў Кіеўскую вобласць са сваімі жонкамі, быдлам і маёмасьцю. У ліку ўцекачоў знаходзіўся знакаміты Кацян, цесць Мсціслава Галіцкага; гэты хан (Кацян) усхваляваў Расію паведамленнем пра нашэсьце маголаў; абдараваў князёў вярблюдамі, коньмі, буйваламі, прыгожымі нявольніцамі, і прамовіў:

"Зараз яны забралі нашу зямлю, заўтра забяруць вашу".

Расійцы спалохаліся і са здзіўленнем пыталі адзін другога: хто гэтыя прышэльцы (г. азн. войска Чынгізхана), да таго часу невядомыя? Некаторыя называлі іх таурменамі, другія печанегамі, але наогул татарамі. Забабонныя пераконвалі, што гэты народ, яшчэ за 1200 гадоў да Нараджэння Хрыстова, пераможаны Гедэонам і некалі заняволеныя ў пустынях паўночнага-усходу, павінен перад канцом сусвета з'явіцца ў Азіі, у Яўропе і захапіць ўсю зямлю. Храбры галіцкі князь, палаючы жаданнем зведаць шчасьця з новым, ужо такім слаўным ворагам, сабраў князёў на нараду ў Кіяві і пераканаўча паведаміў, што разважлівасць і дзяржаўная карысць абавязваюць іх ўзброіцца, што прыціснутыя полаўцы, быдучы пакінуты імі, абавязкова злучацца з татарамі і навядуць іх на Расію, што лепш змагацца з небяспечным непрыяцелем за межамі айчыны, чым пусьціць яго ў свае межы. Мсціслаў Раманавіч Кіеўскі (званы ў летапісах старым і добрым), князь чарнігаўскі таго ж імя (брат Усевалада Чэрмнага), і Мсціслаў Галіцкі старшынствавалі на нарадзе, у якой удзельнічалі такія палкія юнакі, як Даніла Раманавіч Валынскі, Міхал, сын Чэрмнага, і былы наўгародзкі князь Усевалад Мсціслававіч. Яны доўга разважалі. Нарэшце, аднадушна вырашылі шукаць непрыяцеля. Полаўцы радаваліся, выказваючы ўдзячнасць, і іхны хан Батый прыняў тады ж хрысьціянскае веравызнанне. Ужо наша войска стаяла на

Дняпры каля Заруба і Варажскай выспы. Там з'явіліся дзесяць татарскіх пасланнікаў.

"Чулі – паведамлі яны расійскім князям, – што вы, спакушаны полаўцамі і ідзеце супраць нас; але мы нічым не абразілі расіян: не заходзілі ў вашу зямлю, не бралі ні гарадоў, ні вёсак вашых, а маем адзінае жданне пакарць полаўцаў, сваіх рабаў і конюхаў. Ведаем, што яны спрадвечныя ворагі Расіі; будзьце ж нам сябрамі; карыстаючыся выпадкам, адпомсьціце ім сёньня, знішчыце ліхадзеяў, і вазьміце іхную маёмасць".

Гэтае разважлівае міралюбства здалося нашым князям ці нясмеласьцю, ці падспутствам. Забыўшыя пра правілы народнага гонару, яны загадалі забіць пасланнікаў. Але татары прыслалі яшчэ новых, якія, сустрэўшы расійскае войска на семнаццаты дзень яго паходу на берегах Дняпра, паблізу Алешша, паведамілі князям:

"І так, вы, паслухаліся полаўцаў, забілі нашых пасланнікаў і жадаеце біца. Ды будзе так. Мы вам не рабілі зла. Бог адзіны для ўсіх народаў: ён за нас вырашыць".

Такім з’яўляецца апавяданне бацькі нашых гісторыкаў... Батый быў князь полаўцаў і хрысьціянін, а полаўцы (плаўцы) згодна са сваім часам і геагафічным становішчам атаясамляюцца з генуэзскімі мараходамі, запоўніўшымі сваімі калоніямі Крым і ўсё паўночнае ўзбярэжжа Чорнага і Азоўскага мораў і заснаваўшымі свае ўмацаванні ў вусцях Дняпра, Дона і іншых рэчак гэтай мясцовасьці і ў гэты ж самы час...

– Але як жа пагадніць ўсё гэта з паданнямі арабаў і кітайцаў, якія лічылі маючымі сваю старажытную нацыянальную літаратуру?

– А ці сапраўды яна існавала?

Арабскую літаратуру стварыць было лёгка, так як да культурных рэформаў Мурада II на пачатку XV стагоддзя ўся "арабская" свецкая літаратура знаходзілася яе яўрапейскімі шукальнікамі не ў Багдадзе або Дамаску, або нават у Стамбуле, а ў Гішпаніі, галоўным чынам, у Кардоўскіх кнігасховішчах, і яе больш правільна патэбна было б зваць маўрытанскай. А азяцкае апавяданне пра "татараў" мангольскага іга ўпершыню, як мы бачылі, стварыў у Лейдэне на французскай мове нейкі нідэрландзец, пад псеўданімам "Бацька Храбраца" Абул-Газа Бага-дур-хан, а потым з яго быў зроблены ў першай палове XIX стагоддзя, верагодна, адным із туркестанскіх студэнтаў Казанскага ўніверсітета, палепшаны вольны пераклад на джагатайскай мове, які зараз і лічыцца за арыгінал (з'яўленне гэтага рукапісу ў свеце апісана ў главе 5).

Але для замацавання мангольскай версіі татарскага іга неабходна было знайсьці кнігу і ў Кітаі і на-кітайскай мове, так як не магло ж там застацца незаўважаным завяванне Пекіна Чынгізханам?

І вось зараз зноў мне даводзіцца падняць пытанне: ці сапраўды кітайская літаратура настолькі старажытная, як нас запэўніваюць?

Калі мы разгледзім усё безстаронне, то паручыцца за дакладнасць Кітайскай гісторыі мы можам толькі з часоў Манчжурскай дынастыі (дынастыі Цын), зацараваўшай у Пекіне з 1644 года, ды і сам Пекін стаў сталіцай Кітая толькі з 1421 гада нашай эры, калі там усталявалася дынастыя Мін, цараваўшая да яе звяржэння манчжурамі. Толькі ў семнаццатым стагоддзі нашай эры ў перыяд ад 1662 па 1722 гады імператар Шэн-Цау (інакш Кан-сі) далучыў да Кітая Тыбет і выспу Фармоза і толькі ў XVIII стагоддзі імператар Цянь-Лун, у перыяд 1736-1796 пашырыў межы

Кітая да Туркестана. А ў перыяд крыжовых паходаў із Заходняй Яўропы на Візантыю і Заходнюю Азію, г. азн. ў XIII-XIV стагоддзях, у Кітае, як сцвярджаюць самі яго гісторыкі, "быў смутны перыяд", калі быццам бы нашчадкі гэтага самага Чынгізхана, інакш папы Інакенція III, заснавалі там ў перыяд ад 1289 па 1367 сваю псеўдамангольскую дынастыю, скончыўшую сваё існаваніе амаль як раз падчас Авіньёнскага паланення пап (1376). Вынікае, што ўся гэтая мангольская дынастыя кааптавана ў кітайскую гісторыю з ужо склаўшайся ў Яўропе версіі татарскага іга. Мы ўжо бачылі із кнігі манаха Іакінфа "Гісторыя першых чатырох ханаў із дому Чынгізава", што сляды еўрапейскага паходжання гэтай дынастіі захаваліся ў ёй і ў назве парасона па-французкі "параплюй", і апісаннях гарадскіх умацаванняў, а позні час стварэння выяўляецца і праз ўжыванне манголамі агнястрэльных гармат і ракет. Нават у Яўропе порах пачаў выкарыстоўвацца у вайсковай справе толькі пад час Стогадовай вайны ў другой палове XIV стагоддзя. А ў Кітаі, нават у паўднёвым і прыморскім, агнястрэльныя прылады ніяк не маглі ўжывацца раней заснавання партугальскімі маракамі гандлёвай калоніі ў Макао паблізу Кантона ў 1522 годзе. Услед за тым у прыморскі Кітай хлынулі і гішпанцы, і галандцы, і іхныя каталіцкія місіянеры, і пачалі ўсімі сродкамі навучаць яго, вядома, на біблейскім і еванёльскім грунце. Не будучы ў стане прыстасаваць свой аднабокі лацінскі альфабэт да кітайскіх гаворак, у якіх у тры разы больш гукаў, яны і маглі выкарыстаць ужо быўшыя ў іх ва ўжыванні ў алхіміі, астрономіі і матэматыцы сімвалічныя ідэаграфічныя значкі міжнароднага характару, стварыўшы аналагічныя ім фігуркі для кожнага ўжываемага слова і, камбініруючы мала ўжываемыя і іншаземныя імёны напаловуфантастычным спосабам, як у нашых ребусах са спалучэння блізкіх да іх аднаскладовых назваў, не звяртаючы ўвагі на набываемы праз гэта кітайскі сэнс іншаземнымі найменнямі.

З гэтага боку гледжання, Кітай не меў да з'яўлення там хрысьціянскіх місіянераў у першай палове XVI стагоддзя ніякай сваёй нацыянальнай гісторыі і пісьмовай літаратуры, і яны абедзьве створаны каталіцкімі місіянерамі, перакладаўшымі на ўжо існаваўшыя ў іх і нанова створаныя ці сімвалічныя значкі, накшталт нашых лічбаў, сваё святое пісанне і свае асноўныя гістарычныя і навуковыя творы, адразу ж набываўшыя праз гэта кітайскі нацыянальны сэнс і каларыт. Ператварыўся, напрыклад, як гэта сапраўды здарылася аднойчы ў старажытных рускіх канцылярскіх запісях XVII стагоддзя, горад Стакгольм ў горад Шкляны, а французскае прозвішча (як таксама здарылася) Паскаль-Пуатвэн ў "Пускаючы пад Овін"; назавіце французскую альтанку "павільон", як выказваецца, здаецца, Забелін, "павалушай" і вам будзе здавацца, што вы чытаеце чыста фантастыческую казку:

"Пускай пад Овін сядзеў у павалушы ў Шкляным горадзе...".

А ці не гэта ж самае з'яўляецца агульным правілам пры перакладанні ўсіх еўрапейскіх уласных імёнаў на кітайскі альфбэт. Ўсякае паказанае з дапамогай яе намінацыйных чарцёжыкаў іншаземнае паданне павінна здавацца і сапраўды здаецца нацыяльным кітайскім.

І вось мы толькі што бачылі, як панаванне лацінскіх крыжакоў у Візантыі ператварылася ў кітайскіх кнігах, вывезеных манахам-місіянерам Іакінфам Бічурыным, у панаванне ў Кітаі мангольскіх заваёўнікаў.

Таму, натуральна, узнікае пытанне: ці не з'яўляецца і ўся папярэднічаючая крыжовым паходам гісторыя Кітая непаразуменнем дзякуючы місіянерскай трансплантацыі на кітайскую тэрыторыю ўжо нарадзіўшайся ў тагачаснай

еўрапейскай навуковай літаратуре ідэаграфічнай граматы, а з ёю і таго, што адбывалася ў культурным дзяржавах Яўропы, пачынаючы ад прыдуманых Ромула і Рэма, або нават самога прапродка Аўраама? Ды і тыя запісы камет, якія я прывёў у VI томе із Ма-Туан-Ліня, ці не ўяўляюць просты пераклад на сімвалічныя значкі хронікі нейкага Матфана Ліня (Mathpan Ligne).

Бо апошнія каталіцескія місіянеры былі прагнаны із Кітая толькі сто гадоў таму назад, у 1824 годзе, ды і то, верагодна, таму, што пасьля прыбыцця туды "праваслаўных рускіх" пачалося такое ўзаемнае выкрыванне двух секцый найноўшага хрысьціянства, што як адны так і другія скампраментавалі сябе.

Аднак гэтыя "кітайскія" заўвагі я стаўлю толькі ў выглядзе пытання, якое патрабуе адмысловага даследавання грунтуючыся на спосабе ўжо выкарыстаным мной у першым томе астрамічных апірышчаў і храналагічных спектраў[309]. А зараз я толькі зноў адзначу, што тэорыя трохтысячагадовага застою і нерухомасьці Кітая, якая прывяла гісторыкаў першай паловы XIX стагоддзя нават да мяркавання, што жоўтая раса няздольна ні да якога б то ні было прагрэсу, зараз відавочна аспрэчана самімі кітайцамі, а таму і ўся існуючая гісторыя старажытнага і сярэднявечнага Кітая апрыёры абсурдная, і карані яе патрэбна шукаць, як і карані іншага гісторыяпадобнага міфа, у рэальных падзеях, якія адбываліся ў іншыя час і ў іншых краінах і пры іншых гістарычных абставінах.

# Глава II

## Як прыдумляліся старажытныя гістарычныя паведамленні.

Я добра разумею, якімі нечаканымі для артадаксальных гісторыкаў з’яўляюцца гэтыя мае высновы, і таму хачу паказаць, што і іншыя добра адукаваныя людзі даўно прыходзілі да маіх жа высноваў. "Незалежнасьць ад грамадзкай думкі, – кажа Гегель, – ёсць першая ўмова вялікага і разумнага як ў рэчаіснасьці, так і ў навуцы". А "грамадзкае" меркаванне, завучанае ў школе, забівае галовы людзей, а таму з ім патрэбна змагацца.

А як яно вельмі старонне стваралася ў галіне гісторыі, у якім суб'ектыўным стане прыдумлялася, прывожу наступны ўрывак із Весніка Яўропы 1895 года (кастрычнік і лістапад):

"Калі я думаю, – кажа нам Аляксей Талсты, – пра прыгажосць нашай гісторыі да праклятых манголаў і агіднай Масквы, якая яшчэ больш пазорная, чым яны, мне хочацца ўпасьці і качацца па зямлі ад адчаю... Мая нянавісць да Маскоўскага перыяду такая велікая, што я не абмяжоўваю сябе, каб казаць пра яго тое, што кажу". Але хіба можна зразумець гісторыю, качаючыся па зямлі? А вось іншы ўрывак.

"Калі б хрышчэнне Русі было да 1125 года, у тым выглядзе ў якім яно прадстаўляецца Нестарам, – выказваецца біскуп Кіпрыян, – Казьма Пражскі не абышоў бы яго маўчаннем", (с. 120) "Іверію – Карталінію Мар ператварае (і справядліва!) у гішпанскую калонію" (" Каўказ". 1901г., №280).

---

[309] Згадаем астранамічныя пазначэнні сузор'яў, планет, зорак (літарамі), згадаем алхімічныя значкі металаў, згадаем ўсе нашы лічбы і ўсю нашу алгебру са значкамі +, -, <,> і г. д. А кітайская граматыка толькі давяла колькасць падобных значкаў да 3000, ахапіўшы імі ўсе карэнныя словы кітайскай мовы.

"У армянскай пісьмовасьці літара "а" не адрозніваецца ад "о" як і ў сучасным жыдоўскім (іберыйскім) альфабэце".

А пра армянскую пісьмовасць мітрапаліт Віфлеемскі выказваўся архімандрыту Парфірыю Ўспенскаму: "Не верце, бацька архімандрыт, дакументам армян, яны ашуканцы, прыдумляюць, падробліваюць дакументы, кладуць іх пад гной або ў сырыя месцы, каб яны пастарэлі, пажоўклі і змяніліся..." так выказваецца і біскуп Кіпрыян: у сваёй кнізе "Культурная роля Іверіі ў гісторыі Русі" (с. 370): "яны – (пра армян) могуць яшчэ падрабіць рукапіс і вытрымаць яго ў сырым падзямеллі, а потым яго знойдзе знаўца старажытных рукапісаў, ён з'явіцца ў друку з вялікай прадмовай і пасьляслоўем. Армянскія кніжнікі ўдасканалілі сваё майстэрства ў падобных справах "(там жа, с. 370).

Ды ці сапраўды падобнае рабілі адны армяне? Вось, напрыклад, "Codex Sinatokus", знойдзены Тышэндорфам на Сінаі ў кляштары і захоўваўшыся пад час царскага перыяду ў С-Пецярбургскай Публічнай бібліятэцы. Я яго там аглядаў на свае вочы і адразу ж заўважыў, што яму кімсьці быў нададзены старажытны выгляд менавіта такім спосабам: пачатак і канец амаль згнілі, а сярэдзіна цалкам не пашкоджана.

Такія творы як, напрыклад, спіс грузінскіх цароў у грузінскім "Картліс-Цхарэба", – выказваецца праф. Болатаў, – хутчэй за ўсё з’яўляюцца вынікам прыдумак якога-небудзь позняга грамацея, які большай часткай пісаў ад ветру сваёй галавы[310].

У рускіх летапісах дадзены сакавіцкі падлік месяцаў, валадарыўшы да заканчэння XIV стагоддзя, калі згодна з прыкладам Візантыі быў здзейснены пераход да вераснёўскага пачынання... (Культурная роля Іверіі ў гісторыі Русі, с. 44).

Старажытная польская хроніка, вядомая пад найменнем Гала (1113 г.), падрабязна паведамляючы пра пераможныя паходы караля Болеслава "на Русь", ні адным словам не згадвае ні пра князя Ўладзіміра, ні пра Хрышчэнне Русі (там жа, с. 291).

"Каля 1480 гада было ўнесена ў архіярэйскую прысягу абяцанне не прызначаць грэкаў ні на мітрапалічыя, ні на архібіскупскія катэдры" (там жа, с. 205).

Некаторыя рускія навукоўцы хутчэй з'яўляюцца аўтарамі псіхалагічных раманаў, панегірыстыкамі Нестара, чым безстароннімі даследчыкамі. Адны, развянчаўшы яго як летопісца, лічылі ўсе паведамленні пра старажытную Русь да XIV стагоддзя легендарнымі, за што ім са стану патрыётаў падносілі з'едлівы хімічны парашок, гонар вынаходніцтва якога бясспрэчна належыць знакамітаму Ламаносаву (там жа, с. 203).

"Складанне "Аповесьці мінулых гадоў", няправільна прыпісваемае Нестару, не можа быць ранейшым за XII-XIII стагоддзі".

"Маскоўская дзяржава, – кажа Салаўёў, – для заходнееўрапейскіх гісторыкаў была адкрыта ў адзін час з Амерыкай: у 1486 годзе[311]. Выпадкова патрапіўшы ў Маскву Мікалай Попель, вярнуўшыся ў Германію, паведаміў імператару пра сваё адкрыццё Маскоўскай Русі, якая з гэтага часу і стала вядомай еўрапейцам".

Вельмі часта відавочнае складальніцтва можна выявіць па лінгвістычных слядах.

---

[310] Культурная роля Іверіі ў гісторыі Русі, с. 316.

[311] Гісторыя Расіі Салаўёва, кн. 1 с. 1482.

Вось, напрыклад, "бацька гісторыкаў" Герадот, які нарадзіўся, кажуць нам, яшчэ ў 484 годзе да "Нараджэння Хрыстова " і "неаднаразова падарожнічаўшы ў глыб нейкай Персіі" (па-жыдоўску Парызін падобна са словам Parisien), хаця азіяцкія "персы" і завуцца выключна арыямі, а сваю краіну завуць толькі Іранам. Ён, кажуць нам, падарожнічаў і па Ягіпту, па-жыдоўску маючаму назву Міц-Рым (г. азн. Пагардлівы Рыма). Гэты Герадот таксама наведваў і нейкую Сірыю, найменне якой проста азначае імперыя (у Ангельшчыне і зараз захавалася назва валадароў сэр і стара-французкае sir, адкуль, верагодна, паходзіць і рускае слова – цар). Але возьмем першую із існуючых старажытных геагафічна-этнаграфічных мап, прыпісваемых гэтаму Герадоту, вядомую пад назвай "Круг зямель" па Герадоту.

Перш за ўсё, мы са здзіўленнем бачым, што гэтая мапа складзена згодна з сістэмай Меркатара, якая была створана ім у 1594 годзе нашай эры. Аўтар мапы, як і Меркатар, ужо ведаў, што Зямля шарападобная, або колападобная і "мае экватар" таму, што лічыў градусы шыраты, як і мы, ад яго на поўнач, пачынаючы, як паказана збоку ад яго мапы, ад 10 да 60 градуса паўночнай шыраты, прычым, напрыклад, вусьце Ніла ў Ягіпце пазначана, як і патрэбна, каля 31 град. N, а паўночны канец Адрыятычнага мора каля 45 град. N.

А затым мы бачым і нешта яшчэ больш дзіўнае. Бо, калі аўтар лічыў зямлю кругам (orbis terrarum), то адлегласьці паміж мерыдыянамі звужаліся б да паўночнага канца восі, як на сучасных мапах паўночнага поўшар'я а ў яго яны пазначаны паралельна адна адной, і нават прама пазначана знізу, што ўсе яны роўныя 132 "герадотавым стадыям", як магчыма толькі на мапах Меркатара, а не ў рэчаіснасьці. Але ж сама гэтая сістема малявання геагафічных мап цалкам пераіначваючая рэчаіснасць паблізу палюсоў прыдумана Меркатарам толькі ў 1594 годзе нашай эры, на прыканцы эпохі Адраджэння (XIV-XVI стагоддзе) для зручнасьці аддаленага мараходства з ужываннем компаса, вынайдзенага Флавіо Джойя толькі ў 1300 годзе. Гэта азначае, тут мы маем поўны доказ з'яўлення "Герадотавых мап" толькі на самым канцы Эпохі Адраджэння, не раней XVI стагоддзя нашай эры.

І на гэтае ж пазняе сярэдневечнае паходжанне паказвае і шэраг назваў на "Пталемеевай мапе". Вось, напрыклад, назвы у яго "Барусіі" (Borussia) на берегах Паўночнага акіяна. Мы бачым тут Гродна (!), Варшаву (!), Берлін (!), Гамбург (!) (Grodno, Varsovia, Berlinum, Hamburgum). Але як жа мог Герадот ведаць пра іх яшчэ за 484 гады да пачатку нашай эры, хаця не ведаў ні Кіева, ні Масквы, і лічыў усю сярэднюю Расію населенай людаедамі (androphagi, гл. яго мапу)!

Вядома, аўтар прыдумаўшы гэтую мапу, кіраваўся не сучаснымі яму геагафічнымі і этнаграфічнымі ведамі, а ўяўляемымі ім старажытнымі паведамленнямі, але ад гэтага яго этнографія і геаграфія не робіцца больш адпавядаючай рэчаіснасьці для краін і народаў па-за межамі бассейна Міжземнага і Чорнага мораў, а ўжыванне лацінскага альфабэта і назва Італіі E-Notris (La Notre), г. азн. наша краіна, сведчыць, што ён працаваў у Італіі. Але мы бачым і на гэтай напалову фантастычнай мапе нямала лінгвістычных слядоў, наводзячых нас на сапраўдныя шляхі развіцця народаў. Так, напрыклад, рака Дунай названа тут нямецкім словам Ister, г. азн. Аўстрыйская рака ад размешчанай на яе беразе Аўстрыі (Oster-reich), але яна магла ж мець назву і Волга згодна з найменнем Баўгарыя, г. азн. Ваўгарыя (па-грэцку), таксама размешчанай на яе берагах.

Старажытныя паведамленні можна правяраць па іхных лінгвістычных слядах. Вось, напрыклад, паўночная частка Індыйскага акіяна названа на мапе "па Герадоту" Эрытрэйскае мора (more Erithreum). Згадаўшы, што па нямецку рыцары мелі назву Ritter, мы робім здагадку, што з далучэннем вызначанаючай часткі (э) грэцкай мовы гэтае слова азначае рыцарскае (эрытрэйскае) мора. І тут жа мы бачым на яго беразе назву народа Germani (германцы) і назву ніколі не існаваўшых тут у якасьці мясцовага народа Persis (Parisis) ад горада Paris, таксама і народ Paricani, відаць парыжане, а на паўночны захад ад Persis бачым яшчэ Espanan сугучна з Гішпаніяй (Espagne па-французскі).

Увесь доўгі надпіс на правым баку гэтай мапы аж да Індыі "Regnum Persicum Dario Hystaspis»" паказвае не на нейкае доўгае асабістае царства, а на шлях крыжакоў ад Міжземнага мора да Індыі (Drang nach Osten), прычым і імя Дарый Гістасп не іранскае, а грэцкае, і азначае Дараваны стаўленік (Божы).

Калі губляюцца дакладныя або праўдападобныя гістарычныя паведамленні, на дапамогу ім паднімаюцца із праху часоў лінгвістычныя сляды, і яны нярэдка вядуць нас цалкам у іншы бок, чым вядомыя нам з дзяцінства гістарычныя паведамленні. Возьмем хаця б некаторыя із іх.

Вось, напрыклад, слова **Атаман**. Цалкам відавочна, што гэта нямецкае слова Autmann, г. азн. службовая асоба. Вось слова Гетман. Відавочна, што і гэта нямецкае слова Hauptmann – кіруючая асоба. Вось слова "іга". Зноў відавочна, што гэта лацінскае слова Jugum – ярмо.

Вось слова арда. І гэта відавочна слова ордо (orde) – ордэн, прычым на мапе ўсходняй Яўропы мы знаходзім на паўночы каля XII стагоддзя нашай эры Лівонскі і Тэўтонскі ордэны, а на поўдні па беразе Чорнага мора Эдзісанскую арду (каля Адэсы), Крымскую арду, Нагайскую арду і так далей. Замест ордэн ўсюды пішацца арда. І ўсё гэта амаль адначасова. Возьмем і шэраг іншых слоў. Вось, напрыклад, **Полаўцы**. Мы прывыклі уяўляць іх качэўнікамі на поўнач ад Чорнага мора, а між тым, гэта несумненна былі "плыўцы", г. азн. генуэзскія мараходы, якія каланізавалі ўсе берагі Чорнага і Азоўскага мораў.

Дакладна гэтак жа і слова **казак** відавочна італьянскае і паходзіць ад італьянскага Casa – дом, адкуль і слова "казарма", і ў этнаграфіі пазначае зусім не качэўніка, а менавіта "сядзельца на месцы" (жупана у адрозненні ад скіфа, г. азн. валацугу). Слова жупан верагодна паходзіць ад Jupon (спадніца), г. азн. спаднічнік.

Усе гэтыя лінгвістычныя сляды паказваюць, што біблейская гісторыя патрабуе перагляду з гэтага заходнічаскага боку гледжання і што царства багазмагальніцкае (Ізраільскае) спісана з Заходне-Рымскай багазмагальніцкай імперыі, а царства Богаслаўскае (Юдэйскае) з Усходняй.

Дакладна так жа, калі мы зірнем на ўжо згаданую намі мапу Герадота, то пабачым, што неіснуючае ў Азіі "Пярсідзкае царства[312]" "Regnum Persieum sub Darium Histaspis" ахоплівае там усе краіны паўднёва-заходняй азіі ад Грэцкага Архіпелага ў Міжземным моры да Індыі, г. азн. усю "Палестыну", Асірыю, Вавілонію, Іран і прасьціраецца нават за Гімалаі. А між тым, яго імя Regnum Persieum чыста міфічнае, ды і цар яго Дарый па-грэцку азначае дараваны, і ўвесь яго радавод грэцкі: Дарый, сын Гістаспа, па-грэцку азначае: Дараваны, сын Пастаўленіка (Божага) ад грэцкага слова – ставіць, а па-іранскі не мае сэнсу, і я ўжо казаў, што тут жа, на вышэйзгаданай мапе Пталямея, мы знаходзім паміж

[312] Не забудемся, што "персы" называюць сябе выключна арыйцамі, а сваю краіну Іранам.

"Пярсідзкім" залівам і Індыяй ніколі не існаваўшых тут германцаў (Germanii), парыжан (Paricana – Parisiens) і азіяцкіх эфіопаў (Aethiopes Asiatici). Возьмем і шэраг іншых лінгвістычных слядоў. Адкуль, напрыклад, слова **Германія**? Я ўжо паказваў, што яно тоесна з грэцкай назвай Х-Ρωμα (г. азн. Раманія) і азначае краіну Раманія, г. азн. Рымская імперыя, дакладна так жа як і **Арменія** пры выключэнні пазначаючай часьцінкі "а" ператворыцца ў Раманію (у "Рымскую" вобласць), а слова **Арамея** (А-Рамея) у Рамею. Ды і слова **Аравія** (а-равія) пры выключэнні пазначаючай часьцінкі “а” ператвараецца ў "краіну Равінаў". А назва **Равін** з дадаткам пазначаючаючай часьцінкі жыдоўскай мовы ператвараецца такім спосабам у а-раб (а-рабі), г. азн. настаўнік, а яго краіна ў А-Равію (краіну Навукоўцаў), г. азн. і Аравія магчыма не за Чырвоным морам, дзе не было і няма ніякай універсітэтаў, а размешчана ў Італіі і мае назву італьянскай вобласьці Равена (ад жыдоўскага раві – настаўнік), былую ў V стагоддзі сталіцай остгоцкіх каралёў.

Цалкам зразумела, што гэтая мапа складзена пад час "Эпохі Адраджэння" і дае нам узор геаграфічных ведаў часу апошніх крыжовых паходаў, не раней 1291 гада нашай эры.

Такімі гістарычнымі слядамі, паказваючымі геаграфічныя шляхі народаў, перапоўнена ўся старажытная гісторыя, і яны наглядна пазначаюць гістарычныя шляхі.

Возьмем, напрыклад, біблейскае апісанне "царстваў Ізраільскага і Юдэйскага" (г. азн. Багазмагальніцкага і Богаславячага) у так званай Палестыне, найменне якой, звыш таго, невядома на ўсходніх берегах Міжземнага мора, дакладна так жа як і найменне яе сталіцы, горада Ерусаліма, якое з’яўляецца грэцкім, і азначае "Горад мірнага жыцця".

Як гэта ні нечакана для сучаснага чалавека, але ўсё лінгвістычныя сляды, падобна слядам вандраўніка на снезе, вядуць не ў Азію, а ў сучасную нам Гішпанію.

Бо найменне жыд (юдэй, габрэй, па-французску hebreu) тое ж самае, што Эвэр, Гевэр, Хебр. А гішпанская паўвыспа да гэтага часу называецца Іберыйскай (г. азн. Габрэйскай) і па яму цячэ рака Эбро, г. азн. Габрэйская. Дакладна таксама Гібр-Алтар, г. азн. Габрэйскі-Алтар, не кажучы ўжо пра шмат якія іншыя назвы мясцовасцей, падобных з біблейскімі.

Ды і сам евангельскі і біблейскі горад **Ерусалім** (г. азн. горад Міру) існуе ў наш час пад сваім габрэйска-арабскім найменнем Кадыкс у Гішпаніі і перанесены ў Палестыну пад назвай **Hierosolima sive Cadys** (Ерусалім інакш Кадыкс), як гэта відаць на мапе сярэдніх стагоддзяў, прыпісваемай Герадоту. Дакладна так жа слова **Іберыя** (гэта значыць, Юдэя).

А ў гісторыі Іберыйскай паўвыспы мы бачым і факт высокай культуры пры тамтэйшых універсітэтах аж да Крыжовых паходаў.

А пасьля Крыжовых паходаў, якія не дарам маюць назву **Drang nach Osten**, мы бачым імкненне на ўсход і каланізацыю наваколляў Чорнага і Азоўскага мораў, прычым парэшткі гэтай каланізацыі мы бачым у сучаснай Грузіі, якая да гэтага часу называецца **Іверыяй**, г. азн. Габрэяй, тады як у Палестыне няма і слядоў яе. Палестынскі Ерусалім на мясцовай мове мае назву **Эль-Кудс**.

Нагадаем таксама, што юдэйская культура валадарыла ў Гішпаніі аж да 1262 года, калі ў іберыйцаў-юдэяў была забрана ўся іхная паўвыспа і яны разышліся адтуль па ўсёй Яўропе, Паўночнай Афрыцы і Заходняй Азіі падчас VI крыжовага похода. Ды і шматлікія навуковыя тэрміны юдэйскага паходжання прыйшлі із

Гішпаніі ў культурныя краіны Яўропы. Адсюль, напрыклад, слова ал-гебра, што ў перакладзе азначае "юдэйская навука", ды і наша дзесятычная сістэма злічэння бярэ пачатак на Іберыйскай паўвыспе, а з ёю і ўся астатняя матэматыка.

Так і слова **Галілея**, із якой быццам бы прыйшоў Хрыстос, невядомае каля сучаснай Палестыны ў Азіі, існавала яшчэ ў сярэднія стагоддзі на паўнач ад Іберыйскай (юдэйскай) паўвыспы пад назвай "Галія". А Кана Галілейская (г. азн. Канна гальская або Канна французская), дзе згодна са словамі Евангелля Хрыстос здзейсніў першы свой цуд – ператварэнне вады ў чырвонае віно, таксама і да гэтага часу існуе пад тым жа найменнем Канна (Canne) ў Францыі на беразе Міжземнага мора, дзе квітнее вінаробства. Так што і сам Хрыстос уяўляецца толькі вынаходнікам віна. Евангельская рака Іардан, у якой хрысціўся Хрыстос, была старажытнай назвай сучаснай ракі По ў паўночнай Італіі паблізу мяжы з Галіяй – Галілеяй. Гэтая рака была не дарэмна перенесена і на астралагічнае неба пад найменнем "ракі Эрыдан" каля ног Арыёна-Быказмагальніка, верагодна сімвала Хрыста. Евангельскі горад Сіён існуе і зараз пад наменнем Сіена ў італійскай Таскане, а міфічная гара **Везефа** на поўнач ад Сіёна-Ерусаліма[313] існуе і зараз у Італіі пад найменнем Везувій.

Само слова жыд (па французскі – Hebreu, па нямецку – Hebraer, па ангельскі – Hebrew) з’яўляецца нічым іншым, як іберыец, г. азн. гішпанец.

Апісанне даравання богам дзесяці запаведзей Майсея, як я ўжо даводзіў у І томе маёй кнігі "Хрыстос", відавочна адбылося ў ваколіцах Везувія падчас вывяржэння, ды і міфічнае разбурэне Садома і Гаморы носіць ўсе прыкметы разбурэння Геркуланума і Пампеі. Ўсё выглядае так, як быццам бы царства Юдэйскае, г. азн. Багаславячае спісана з Гішпанскага (або із Візантыйскага), а царства Ізраільское (г. азн. багазмагальніцкае, вядома, змагаючаяся за Бога, а не супраць бога) спісана з Рымскай імперыі, характэрызуючайся крыжовымі паходамі. Згадаем, акрамя таго, што і Ягіпет у Бібліі мае назву не Ягіпет, а Міц-Рым, г. азн. Напышлівы Рым, што імя патрыярха Аў-Раама (АБ-РМ) азначае Бацька-Рыма, а Лот (па-жыдоўску ЛАТ) азначае латынянін, што слова Араб (А-РАБІ, дзе “а” з’яляецца толькі вызначаючай часьцінкай накшталт французскага "Le" і нямецкага "Der") азначае проста: настаўнік; што суседняя з Гішпаніяй краіна Марокка пад час сярэдніх стагоддзяў мела назву Маўрытанія і да гэтага часу мае сталіцай Мекі-нес (сугучна з Меккай) і часткова населена юдэямі.

Такіх лінгвістычных слядоў дастаткова шмат ва ўсёй старажытнай сусветнай гісторыі, у тым ліку і рускай. І няўжо мы павінны ўпарта закрываць вочы на іх ва ўгоду нашым школьным завучаным уяўленням?

Такімі лінгвістычнымі слядамі напоўнена і ўся не толькі старажытная, але і новая гісторыя. Вось хаця б слова: швейцар, сама назвай якога сведчыць, што яно прыйшло са Швейцарыі або Швецыі і, калі нас будуць запэўніваць, што яно з'явілася із Кітая, то мы толькі засмяёмся. Дакладна так жа і назва "гусар" носіць ўсе прыкметы паходжання ад хазар.

Але хто такія былі хазары? Нам кажуць, што ў VIII стагоддзі яны заваявалі "волжскіх баўгар". Але дзе знаходзілася іхная Волга? Вядома ж што сучаснае нам найменне "Волга" тады не было вядомым для гэтай ракі. На прыведзенай мапе Герадота яе цалкам няма. У старажытнасьці яна называлась Ра, а пад час сярэдніх стагоддзяў "Ітыль" або "Атэль", у-калмыкаў да гэтага часу – Іджыл. Усе

[313] Глядзі мапу: Ерусалім часоў разбурэння яго Цітам, на стар. 3712 Энцыклапедычнага слоўнікя Граната і К°, пятае дапоўненае выданне 1901 года.

лінгвістычныя сляды вядуць да таго, што назву Волга ў старажытнасьці меў Дунай ў сваім ніжнім цячэнні, так як краіна пад назвай Баўгарыя па-грэцку Ваўгарыя, г. азн. прыволжская, як я ўжо казаў, існуе і да гэтага часу на ўсім ніжнім цячэнні Дуная, а, як следства, яна і мела назву Волга.

З гэтага боку гледжання станавяцца зразумелымі і паведамленні пра баўгараў-валгараў, але толькі пры той умове, што яны прыйшлі на гэтую раку не з усходу, а з захаду, так як згодна са словамі гісторыкаў яны вызнавалі іберыйскае (г. азн. гішпанскае, не прызнаючы Талмуд) веравызнанне і вялі дзейны (не інакш, як марскі) гандаль аж да Індыі, а перад крыжовымі паходамі з 1016 гада "знікаюць з палітычных падмосткаў", і іхныя парэшткі некаторыя бачаць у караімах паўднёвай Расіі, атаясамляючы з евангельскімі саддукеямі (Мельхі-Седэк – цар саддукееў).

І вось, лінгвістычныя сляды (**хазары** – вугорскія гусары) дазваляюць выказаць для далейшай распрацоўкі здагадкі, што вугорскія гусары – іхныя нашчадкі. Яны ўпершыню згадваюцца ў Вугоршчыне ў 1435 годзе, і, магчыма, іхная назва паходзіць ад слова **Kaiserich**, г. азн. кесарскі.

(Такім чынам, можна паставіць пытанне: ці не паходзіць і слова "ўланы" ад германскіх вершнікаў аланаў? Ці не ад гэтага слова паходзіць і назва "Алаунскае ўзвышша", г. азн. Валдайскія горы. І ці адпавядае рэчаіснасьці, што аланы сышлі із Расіі у Афрыку? Зразумела, што я стаўлю гэтую апошнюю здагадку толькі для далейшай распрацоўкі.)

Але вось і больш выразныя сляды, якія вядуць да Заходняй Яўропы. Акрамя гусар (хазар) існавалі і кірасіры ў латах. Адкуль паходзіць іхнае найменне? Згадаем, што сярэднявечныя валадары пастаянна імкнуліся трымаць каля сябе, ды і трымалі, наёмнае іншаземнае войска, каб у выпадку народных бунтаў зручней ўціхамірваць сваіх падданных, і мы зразумеем, што і кірасірскае войска (вершнікі ў латах) былі іншаземнага паходжання, блізкімі да крыжакоў, а іхная назва (як і слова: кіраса) таксама іншаземнае, падобнае на Кір-асірыйскі, г. азн. "войска цара асірыйскага. Але ж Асірыя (гл. які заўгодна энцыклапедычны слоўнік), кажуць нам, была яшчэ "ў VII стагоддзі да нараджэння Хрыстова знішчана паўстаўшымі супраць яе мідыйцамі", г. азн., згодна з нашым атаясамленнем, сярэдне-еўрапейцамі і не магла даць гэтаму войску найменне "асірыйскага валадара". Але і тут нам дапамагаюць лінгвістычныя сляды. Нагадаем старажытна-французскае слова Sire – государ, ангельскі паважны зварот "Сэр", ды і рускае "цар", а таксама імёны біблейскіх валадароў: Валта-САР ( інакш Балта-САР – Балтыйскі цар), САР-да-напал (цар-дэ-Наполі – Неапалітанскі цар), прычым цар вавілонскі азначае цар Брамы Госпада, г. азн. уладар Рымскай імперыі. Ды і слова цар існуе ў старажытнаюдэйскай (іберыйскай) пісьмовасьці пад тэрмінам sar. Гэта азначае, што і сама назва "коннага латнага войска" у Яўропе кір-асірамі таксама з'яўляецца лінгвістычным следам із Заходняй Яўропы.

Усё гэта вымушае сур'ёзнага навукоўцу нанова перагледзець усю старажытную "гісторыю народаў" да адкрыцця компаса і кнігадрукавання Гутэнбергам каля 1450 года, так як паведамленні кітайцаў пра адкрыццё гэтых асноў сапраўднай гісторыі народаў не заслугоўвае ніякага даверу.

Дакладна таксама і існаванне генуэзскіх і іншых мап лацінскай каланізацыі Чорнага мора паказвае, што яны зроблены ўжо пасьля адкрыцця компаса Флавіем Джойа каля 1300 года. Вось, напрыклад, хаця б самая ранняя із усіх мап, венецыянская мапа XIII стагоддзя, захаўваючаяся ў бібліятэцы св. Марка. На ёй яшчэ адсутнічаюць падзел па градусах шыраты і даўгаты, а толькі дадзены

пазначэнні па накірунках радыусамі із чатырох пунктаў назірання. Гэта азначае, яна была складзены да Меркатара, да 1594 года. І сапраўды, яна памечана XIII стагоддзем, на прыканцы якога толькі што пачаў ужывацца компас, і з’явілася магчымасць плавання не бачачы берагоў, але захоўваючы накірунак і вымяраючы даўжыню сухапутнага шляху, як робяць і сучасныя каморнікі непасрэднай меркай, а даўжыню марскога шляху, хаця б з дапамогай кола, ніз якога, маючы лапаткі, апускацца ў мора падобна сучасным параходным колам. І на самай гэтай старажытнай мапе мораў мы бачым: у коле пазначана асобна восем компасных накірункаў, у якіх чамусьці "о" абазначае поўдзень, "т" – поўнач, і адсутнічаюць якія б то ні было прыкметы знаёмства з шыротамі і даўготамі Меркатара.

Згадаем таксама пра паданне, што компас быў быццам бы вынайдзены не Флавіем Джойа ў Раманіі на пачатку XIV стагоддзя, а яшчэ арабамі (гл. Малы Энцыклапедычны слоўнік Брокгауза і Эфрона", т. 1, 1899, с. 214, радок 16), і што адзін із пазнейшых біблейскіх патрыярхаў (г. азн. родапачынальнікаў народаў) у Бібліі мае назву Рас-Мешак, г. азн. Рос-Масквіч, дакладна так жа як і найменне фарысеі (па жыдоўску – парызі), лічымыя за жыхароў краіны не існуючай ў Азіі – Персіі (пішацца парызі, больш падобна на французское слова parisiens, г. азн. парыжанін).

Можна яшчэ прывесьці прыклад із дадатковых недарэчнасцей да-друкарскага перыяду гісторыі. Гэта казка пра каланізацыю Ісландіі нарвежцамі за 450 гадоў да вынаходніцства компаса. Гэта не азначае, што нарвежцы не маглі туды патрапіць. Чыста выпадкова, як вынік буры або непагодзі, карабель мог пасьля доўгага хаатычнага плавання быць прыбітым да берегоў новай зямлі. Але вярнуцца пасьля гэтага назад – падзея неверагодная. Таму паведамленні пра адкрыццё Ісландыі і Грэнландыі і затым іх рэгулярнае наведванне да адкрыцця компаса варта аднесьці да відавочных прыдумак. А рэальнае адкрыццё гэтых выспаў варта аднесьці прыблізна да XVI стагоддзя.

Але як жа і навошта маглі адбыцца падобныя змены? Чыста псіхалагічным шляхам.

Як мы набываем свае першапачатковыя веды? Выключна шляхам запамінання школьных гіпнозаў без якой бы та ні было іхнай крытыкі, падобна таму, як дзіця механічна запамінае ўсе паведамляемае яму бацькамі, не задумваючыся пра адпаведнасць рэчаіснасьці.

Гэтыя першапачатковыя перакананні і застаюцца ў кожнага чалавека на ўсё жыццё да таго часу, пакуль яно само не пакажа яму іхную няпраўдападобнасць.

У натуральных навуках гэта з’яўляецца вынікам уласнага назірання, а ў гістарычных якім чынам? Мы ж не можам паводле сваёй волі пайсьці ў мінулае і на ўласныя вочы пераканацца ў праўдзівасьці павядомленага нам. Ды і ў геагафічных навуках нашы продкі доўга не маглі рабіць праверку апавяданняў пра мала даступныя для іх краіны. Вось хаця б на старых багаслоўскіх факультэтах ў Заходняй Яўропе. Кожны малады студэнт механічна, г. азн. шляхам простага школьнага завучвання, запамінаў апавяданні па вавілонскую "вежу да нябёсаў" і пра былы зямны рай ў Месапатаміі. Ён бліскуча заканчвае курс, і настаўнікі прапануюць яму за дзяржаўны кошт пабываць ў гэтых краінах. Ён, нягледзячы на цяжкасьці і небяспекі шляху, з радасьцю пагаджаецца і атрымлівае вялікія грошы на падарожжа. Ён пераадольвае ўсе цяжкасьці і небяспекі, дабіраецца да прызначанага месца і, раптам, да сваёй вялікай роспачы, не знаходзіць там нічога із так жадаемага.

Як яму вярнуцца назад на радзіму ні з чым, нягледзячы на выдаткаваныя ім чужыя грошы? Бо гэта ж будзе азначаць загубіць ўсю яго навуковую карьеру, ніхто не паверыць, што там няма хаця бы нават маленькіх парэшткаў вежы да нябёсаў, якія не маглі ж цалкам знікнуць.

І вось, не жадаючы правесьці астатнюю частку свайго жыцця ў пагардзе, ён прыдумляе ўласныя фантазіі і падрабляе партатыўныя псеўдастаражытныя рэчы і напісаныя ім самім дакументы. Замест не знойдзеных слядоў старажытнай вежы да нябёсаў (падставай да якой маглі быць толькі ягіпецкія пірамiды) вялізная вежа ствараецца із падробленых "старажытных рэчаў" ў заходне-еўрапейскіх музеях, якія і служаць падмуркам для старажытнай школьнай "гісторыі народаў".

Вось чаму вельмі важно ўжываць тут акрамя псіхалагічных і разные іншыя спосабы праверкі, як з дапамогай астранамічных сведчанняў часу датаванных летапісцамі нябесных падзей накшталт зацменняў сонца і месяца, лёгка вылічаемых астранамічна, так і грунтуючыся на геаграфічнай праўдападобнасьці апісанняў, і фізічнай магчымасці апісаных падзей, і па лінгвістычных слядах.

Але акрамя такіх гісторыка-геаграфічных праверак старажытных гістарычных паведамленняў, даводзіцца дадаваць да іх і псіхалагічныя. Вось, напрыклад, хаця б паданне пра гібель Садома і Гаморы за нейкія вялікія грахі. Ва ўсёй свецкай старажытнай гісторыі падставай да падобнага біблейскага падання магла быць толькі гібель Геркуланума і Пампеі ад вывяржэння Везувія, што адносіцца гісторыкамі да 20 лістапада 79 года "хрысьціянскай эры". Пра тое, наколькі правільна гэтая эра, разважаць не будзем, а толькі пазначым што час гібелі гэтых гарадоў ужо падчас хрысьціянства, падцвярджаецца і геалагічнымі даследаваннямі. Для разумення чалавека, яшчэ не ведаўшага фізічных нагод вулканізма, не заставалася тут, вядома, ніякага іншага выйсьця, як прыпісаць гэтую падзею жахліваму гневу бога Грамавержца за нейкія ўсеагульныя абуральныя грахі жыхароў гэтых гарадоў. І такімі грахамі маглі быць, вядома, толькі ненатуральныя калектыўныя заганы, якія мелі месца падчас тамашніх літургій (г. азн. оргій), следам якіх і засталося паданне пра "садомскія грахі", магчымыя толькі на баляваннях у п'яным выглядзе і меўшыя месца хутчэй за ўсё ў старажытнай італьянскай Рамее і ў Галіі, дзе было вынайдзена вінаробства. Гэта, хутчэй за ўсё, дало пачатак звычаю адкрытага прычашчэння, пры якім людзі, як тлумачыцца ў царкоўнай гісторыі, пачыналі размаўляць, як і зараз размаўляюць п'яныя, "на іншаземных мовах" і лезуць абдымацца і цалавацца з кім ні пападзе. І вельмі магчыма, што ранейшыя папойкі да ап'янення (г. азн. да сыходжання св. Духа) і былі абмяжаваны, як зараз, да "аднаго глытка чырвонага віна і кавалачка хлеба" толькі пасьля жахлівага разбурэння Садома-Геркуланума і Гаморы-Пампеі.

Чітаючы старажытныя гістарычныя паданні (напрыклад, Біблію, Евангеллі, Жыціі Сьвятых і іншыя багаслоўскія кнігі), мы бачым, што старажытныя гісторыкі былі вялікімі фантазёрамі, і таму іхныя творы патрэбна выпрабаваць навуковай крытыкай, як з псіхалагічнага боку, так і з этнаграфічнага, лінгвістычнага і наогул натуральнанавуковага.

Акрамя таго, варта мець на ўвазе, што складальнікі старажытных хронік былі выхаднікамі не із самых заможных станаў грамадства і, натуральна, з гэтай нагоды былі носьбітамі ідэалогіі свайго стану, носьбітамі сваёй уласнай ідэалогіі. І гэта адбывалася праз тое, што кіруючая эліта згодна з узроўнем сваёй адукаванасьці стаяла нашмат ніжэй сваіх "вылучэнцаў" і не мела магчымасьці супрацьпаставіць ім сваю ўласную ідэалогію.

З цягам часу сітуацыя перамянілася. Правячую эліту пачало абслугоўваць шмат народу, і гісторыкі пачалі выконваць заказы улады.

І такое становішча будзе, бяспрэчна, аж да таго часу, пакуль сацыяльныя, і гістарычныя навукі прыраўнаюцца да дакладных навук і, злучыўшыся з імі, выпрацуюць такія ж абавязковыя прылады для ўсіх, як табліцы памнажэння ў арыфметыцы.

Усё гэта мае вельмі блізкае дачыненне і да гэтай маёй працы. Гістарычная навука да XIX стагоддзя праводзіла ідэалогію толькі кіруючай часткі насельніцства, ды гэта і зразумела. Самыя першыя запісы пра дзяржаўныя справы былі зроблены прыдворнымі летапісцамі, хаця б яны і былі із кляштарнікаў, г. азн. такіх жа вылучэнцаў із рабаў, як і евангелісты. І як апошнія празмерна ўхваляялі свайго Езуса, так і першыя ўхвалялі сваіх спадароў і акрамя іхных спраў ды нябесных знаменняў нічога не лічылі годным для запісвання ў свае хронікі. А ў пазнейшых кампілятараў, г. азн. артадаксальных гісторыкаў XVIII-XIX стагоддзяў, выпрацавалася і яшчэ адна асаблівасць: патрыятызм, які зводзіўся да таго, каб падоўжыць гісторыю сваіх дзяржаў як можна далей ў глыбіню стагоддзяў, карыстаючыся для гэтага ўсімі магчымымі сродкамі.

Вынікам такіх тэндэнцый і атрымаўся той вавілонскі гармідар, які мы завём старажытнай гісторыяй, і які неабходна, нарэшце, цалкам разбурыць для таго, каб на яго месцы можна было пабудаваць новую, ужо сапраўды навуковую гісторыю чалавецтва, незалежную ад інтарэсаў станаў. А для гэтага неабходна пагадніць яе з прыродазанаўствам, што я і спрабаваў тут ўсюды зрабіць у дачыненні да старажытнага свету.

Я мог бы прывесьці шэраг і іншых прыкладаў для рэальнага тлумачэння непраўдападобных старажытных паданняў у старажытных кнігах і летапісах, але і гэтых цалкам дастаткова, каб чытач зразумеў, што і паданні першых рускіх летапісцаў неабходна праверыць як з дапамогай лінгвістычных слядоў, так і з прыроданавуковага боку гледжання, што я і спрабую зрабіць для старажытнай рускай гісторыі.

# Частка першая

## Заходнія славянафілы

# Глава I.

## Кніга Яна Плана Карпіні, каталіцкага арцыбіскупа ў Чарнагорыі: "Гісторыя манголаў, называемых намі татарамі" (г. азн. ўпершыню атаясамлённых з імі аўтарам), як першая спроба падмяніць страціўшыя папулярнасць на ўсходзе Яўропы рыцарскія ордэны IV крыжовага паходу мангольскамі ордамі ў інтарэсах папскай улады.

Згодна з афіцыйнай біяграфіяй, Плана Карпіні – гэта італьянец Джавані дэль П'яна-Карпіні із горада Пяруджы, які нарадзіўся ў 1180-х годах ў заможнай сям'і. Лічыцца, што ён быў сябрам Францыска Асізскага, заснавальніка знакамітага ордэна францысканцаў. І сам Плана Карпіні лічыцца заснавальнікам ордэна мінарэтаў. Да свайго падарожжа на ўсход ён ужо выканаў шэраг даручэнняў папы ў

Гішпаніі і Партугаліі. Пры падарожжы на Усход яму былі нададзены правы папскага легата, г. азн. афіцыйнага і паўнавартага прадстаўніка Ватыкана ў нехрысьціянскіх краінах.

Да манголаў Плана Карпіні выправіў папа Інакенцій IV з лістом да "Вялікага хана манголаў". У ім, нібыта, папа быў незадаволены дзеяннямі манголаў за разрабаванне заваяваных імі зямель і прапаноўваў мірныя дачыненні і сардэчную згоду. У другім лісьце папа пераконваў іх перайсьці ў сапраўдную веру.

Пасьля вяртання ў Яўропу Плана Карпіні быў узведзены ў сан арцыбіскупа. Памёр ён не дажыўшы да 70 гадоў, не пазней за 1252 год.

Тэкст узяты згодна з кнігай Языкова "Збор падарожжаў да татараў" 1825 г.

У тэксце кнігі падарожжаў Яна дэ Плана Карпіні велізарная колькасць неадпаведнасьцей, сведчачых пра яе больш позняе паходжанне і недарэчнасьцей, сведчачых, што гэта не асабістыя ўражанні аўтара. Так, ў гл. 7, п. 1 патрабавалі даць скуры белага мядзьведзя, собаля, бабра. Адкуль на Русі XIII стагоддзя скуры белага мядзведзя?

У іншым месцы аўтар кажа "... і ўсё гэта рускія князі". А чаму не славянскія? – запытаем мы, бо найменне Расія тады яшчэ не было, аж да Уладзіміра-маскоўскага князя Яна Каліты 1340 г.

Мы ўжо згадвалі, што бусурмане, сустракаючыяся ў тэксце, першапачаткова паходзяць ад бесерман – гэта нямецкае слова: зборшчык падаткаў (Besteurmann) ад besteuern – збірать падаткі. У Ісіда Гішпанскага, аўтара VII ст., Плана Карпіні запазычыў апісанне цыклапедаў, жывучых паміж Арменіяй і Кіргізіяй. Навошта спатрэбілася гэтае запазычанне, калі, як лічыцца, ён сам там быў і мог сведчыць, што ніяк цыклапедаў там няма.

У цэлым шэрагу месцаў (гл. 7 п. 1, гл. 1 п. 2, гл. 5 п. 3, гл. 5 п. 1, гл. 1 п. 1, гл. 4 п. 3, гл. 5 п. 8) паведамляецца пра гісторыю Сербіі пад час IV крыжовага паходу. Яе росквіт пачаўся ад дынастыі Няманічаў (родапачынальнік Стэфан Немань I). Яго сын Стэфан Першавенчаны (1195-1224) быў каранаваны папай у 1217 годзе ў каралі "Раскай", г. азн. Рускай зямлі. Ён быў як раз сучаснікам Чынгіз-Хана, адносімага да 1155-1227 гадам, але нідзе ў сербскай гісторыі не паведамляецца, каб ён быў пераможаны прыйшоўшым туды із Манголіі "хінгісам". І менавіта з яго пачалася магутнасьць гэтай "Расіі", уключаўшай тады ў сябе Сербію, Чарнагорыю, Герцагавіну.

Магутнасьць Няманічэй ўсё павялічвалася і дасягнула вяршыні пры Стэфане Урашы IV, празваным Душанам. Але Ураш – гэта толькі іншае вымаўленне слова Урус, г. азн. рускі, і вынікае, як быццам бы сама назва Расія ці Росія бярэ пачатак не з берагоў Балтійскага мора, а ад балканскіх славян.

У 1349 годзе Законнік Стэфан Душан заснаваў уласны патрыярхат.

У гл. 5, п. 6 і п. 9 ён адносіць Залатую арду ў Забайкалле.

У главе 7 паведамляецца: "... Даніла (Галіцкі) і Васілька, яго брат, наладзілі нам вялікае баляванне, трымалі нас супраць нашай волі дзён восем, і ўсе аднадушна адказалі нам, кажучы, што жадаюць мець папу сваім пераважным гаспадаром і бацькам, а святую рымскую царкву ўладальніцай і настаўніцай, пры гэтым падцвердзілі усё тое, пра што раней паведамлялі з гэтай нагоды праз свайго абата, і выправілі так жа з намі ў дачыненні да гэтага і спадару папе сваю грамоту і пасланнікаў".

Гэта ёсць пацвярджэнне таго, што яны былі ўніятамі. Аднак, Плана Карпіні не апісвае свой прыём у папы.

Карыстаючыся тым, што французкія, ангельскія і нямецкія словы пераіначваліся да непазнавальнасьці ў вуснах грэкаў, славян і турак, а найменні шмат якіх мясцовасцей не толькі пераіначваліся, але і згубіліся, стала магчымым аддзяляць грэцкі і славянскі дакорлівы варыянт крыжовых паходаў ад ухвальнага франка-італьянскага варыянта, як цалкам незалежны варыянт апавядання, які мае дачыненне да зусім іншага народу. І вось, грэцкае слова мегал (μεγαλος), г. азн. вялікі, як тітулаваўся і вялікі Рымскі пантыфікс, навяло Плана Карпіні на думку зблізіць грэцкае найменне рымскіх папаў з манголамі, або згодна з яго вымаўленнем з мангаламі, і перанесьці падмосткі дзеяння з захаду на ўсход.

Так паралельна гісторыі крыжовых паходаў і стваралася ўяўная гісторыя мангольскіх паходаў; вандруючыя ордэны ператварыліся ў вандруючыя орды, і замест лацінскага jugum утварылася татарскае ярмо.

Рымскі "цар-святар" (koning-chan) ператварыўся ў Кінгіс-хана (па-рускі Чынгіз-хан), із папскай Лацінскай імперыі выпрацавалася гісторыя мангольскай імперыі, нібыта ўзнікшай із нічога і праз некалькі дзесяткаў гадоў зноў зышоўшую ў нірвану разам з Лацінскай імперыяй і яе крыжацкімі атрадамі.

Гэтая гісторыя Лацінскай імперыі была перакладзена нават на кітайскую мову, стварыўшы ўяўленне пра існаванне ў Кітаі падчас IV-га крыжовага паходу асобнай мангольскай дынастіі, якую грунтуючыся на стратэгічных мяркаваннях рашуча немагчыма там дапусціць таму, што качавыя народы здольны толькі да асобных дробных нападаў з мэтай рабавання, а ніяк не да масавых заваёўніцкіх рухаў з мэтай стварыць аснову новай Вялікай імперыі.

Кніга Плана Карпіно была напісана, верагодна, неўзабаве пасьля бітвы на Косавам полі, якая адбылася ў 1389 годзе і перадала сербаў пад уладу турак, так як біскуп блытаў, відаць, манголаў з туркамі. Таму із сэнсу кнігі Плана Карпіні вынікае – неабходна ўнія усіх хрысьціянскіх народаў супраць магаметан. Гэтая кніга была створана для падрыхтоўкі і абгрунтавання Фларэнтыйскай уніі, сапраўды і заключанай у 1438 годзе, але хутка распаўшайся дзякуючы нецярпімасьці каталіцкага святарства.

І яшчэ деталь. Плана Карпіні, апісваючы падарожжа ў Залатую арду, усюды пазначае дакладныя дні апісваемых падзей: на 2-і дзень сьвятога ачышчэння нашай Уладычыцы, у дзень апостолаў Пятра і Павла і г. д., але нідзе не пазначае год адбыўшайся падзеі.

Усё гэта замацоўвае мяне ў меркаванні, што гэта зроблена наўмысна, каб схаваць, што яна напісана на прыканцы XIV стагоддзя і створана для барацьбы з туркамі.

# Глава II.

Манах Рубрук як прадаўжальнік чарнагорскагага арцыбіскупа Яна Плана Карпіні ў стварэнні татарскага іга замест татрскага. Клерыкальная падстава гэтага.

Я ўжо пазначаў у мінулых главах, што гісторыя чацвёртага крыжовага паходу ў некалькіх словах зводзіцца да таго, што лацінская царква з вялікім рымскім пантыфіксам Інакенціем III напала на ўласную маці – Фамейскую (Візантыйскую) царкву і, перамогшы яе, была пазней сама прагнана з Усходу агаранамі-туркамі, завалодаўшымі наўзамен яе Усходам. А гэта павінна было, пры

малой адукаванасьці таго часу і адсутнасьці друкаванага слова, стварыць пра IV-ы крыжовы паход, яшчэ раней яго заканчэння і крушэння створанай ім на грунце грэка-славянскіх краінах Лацінскай імперыі, дзве асобныя гісторыі.

Адну – заходне-еўрапейскую – ухвальную, не бачыўшую ў крыжовых паходах і ў сваёй Лацінскай імперыі на Ўсходзе нічога, акрамя доблесьці, справядлівасьці і славы, і другую – грэка-славянскую – ганьбавальную, не знаходзіўшую ў гэтым нападзе на сябе і ў самой Лацінскай імперыі нічога, акрамя несправядлівасьці, гвалту і рабаўніцтва. Пры гэтым, дзякуючы адрозненню навыкаў і няздольнасьці вымаўляць чужыя найменні і дзякуючы схільнасьці замяняць іх сваімі прозвішчамі, павінны былі ўтварыцца значныя адрозненні ў абодвух версіях, па сваёй сутнасьці, адной і той жа гісторыі. А потым, на працягу наступных двух-трох пакаленняў, дзякуючы зыходу латынян з Усходу, натуральнай дрэннай памяці неадукаваных пакаленняў і таго, што тэрыторыя ўсходняй царквы была ўжо амаль цалкам пад уладай сарацын, на якіх і перанеслася варожасць абодвух раней варагуючых бакоў, яны набылі схільнасць да уніі адзін з адным супраць агульнага ворага.

І я ўжо згадваў, што гэтая ўнія і была абвешчана спачатку на Фларэнтыйскім саборы, скліканым папай Яўгенам IV і візантыйскім імператарам Янам Палеолагам ў 1438 г., яшчэ за 15 гадоў да ўзяцця Цар-Горада туркамі, але ўжо пасьля захопу імі Сербіі.

На ім былі прызнаны светская ўлада і царкоўнае першынство папы, як агульнага заступніка, у чым уласна і заключалася галоўня зацікаўленасць абодвух бакоў, і для маскіравання гэтай асноўнай палітычнай мэты праваслаўным бокам было прызнана зыходжанне святога духа не ад аднаго толькі бога-бацькі, але таксама і ад бога-сына (як здагадаліся дапоўніць каталікі), і была дадзена згода з боку грэкаў і славян на існаванне дзесьці паміж раем і падземным пеклам яшчэ чысьцілішча для не зусім святых і не цалкам грэшных душ. А каталікі ў абмен за гэта прызналі за ўсходнім святарствам права заставацца, як на і захадзе да 1080-х гадоў, адружанымі, хаця ужо і не шматжонцамі, і за ўсходнімі міранамі было прызнана права запіваць прычашчальны хлеб віном і захаваць нацыянальныя мовы ў набажэнстве. Аднак, як і патрэбна было чакаць, у Ерусаліме, ужо быўшым пад уладай агаран, і, відавочна, пад іх ціскам, гэты хаўрус Усходу і Захаду супраць турак быў праз 5 гадоў аддадзены праклёну (у 1448 г.), да якога, вядома, павінна было праз дзесяць гадоў далучыцца і ўсё грэцкае святарства, пасьля захопу Цар-Горада тымі ж туркамі.

Адчуўшы сябе страціўшай уплыў на поўдні Балканскай паўвыспы, папская курыя здзейсніла (як прызнана і без мяне гісторыкамі) велізарныя намаганні каб утрымаць унію ў Польшчы і ў паўднёва-заходняй Расіі, дзе яе староннікамі стала амаль усё святарства, у тым ліку і кіеўскі мітрапаліт Міхал Рагоза, падпісаўшы ўнію на Берасьцейскім саборы ў 1596 годзе. А гэта было як раз за два гады да друкавання толькі што разгледжанай намі кнігі чарнагорскага арцыбіскупа Яна дэ Плана Карпіні, надрукаванай Гаклюйтам ў 1598 годзе ў адным і тым жа томе з разбіраемай намі зараз кнігай манаха Рубрука.

Я думаю, чытач і сам ужо здагадаўся, навошта я нагадваю яму пра ўсё гэта – агульнавядомае сярод гісторыкаў. Справа ў тым, што адзначанаму тут мной імкненню каталікоў XV стагоддзя да ўніі са славянскімі народамі павінна была моцна перашкаджаць яшчэ меўшая пашырэнне на Ўсходзе, аж да XV стагоддзя, ганьбуючая версія славянскіх летапісных паданняў пра чацьвёрты крыжовы паход.

– Вы жадаеце, – казалі тагачасныя "папы", адзіныя граматеі, – аднавіць сваё татарское ярмо?

Папскай курыі для поспеху сваёй справы неабходна было так або інакш пазбавіцца ад падобных нязручных успамінаў, і адзіным сродкам для гэтага было пераканаць, што ўсё паведамляемае славянскімі летапісцамі пра тое, што было за дзьвесьці ці нават трыста гадоў, мае дачыненне не да татрскіх рыцарскіх ордэнаў, а да пякельных (па-грэцку – да тартарскіх) ордаў, прычым Чарнагорскі арцыбіскуп Ян дэ Плана Карпіні першым здагадаўся атаясаміць гэтых тартарцаў з монголамі, а Рубрук наблізіў іх да Расіі, надаўшы гэтае найменне, як пабачым далей, калмыкам. Такое перанясенне падмосткаў падзей бліжэй зрабілася неабходным, дзякуючы хуткаму павелічэнню тагачасных геагафічных ведаў пасьля вынаходніцтва марскога компаса каля 1300 гада італьянцам Флавіо Джоя і адкрыцця марскога шляху ў Індыю і Кітай партугальцам Васка ды Гама ў 1498 годзе, роўна за сто гадоў да выхаду ў свет разбіраемых намі зараз кніг.

Пры існуючых тады геаграфічных уяўленнях няцяжка было чарнагорскаму арцыбіскупу выпраўляць рускіх князёў на паклон да Кінгіс-хана, замяніўшага ў яго Інакенція III (ці "кінга" Рычарда Ільвінае сэрца) із заходняй Расіі ў забайкальскую залатую арду. Але навукоўцу-монаху Рубруку, ужо валодаўшаму лепшымі геаграфічнымі звесткамі, давялося перанесьці гэтую "Залатую Арду" бліжэй да сапраўднага "Залатога Ордэна за Дунаем" на ніжняе цячэнне ракі Ітыль (Волгі), хаця нават і гэтая лакалізацыя геаграфічна і стратэгічна недарэчная.

Ітак, шмат што сведчыць пра тое, што абедзве разбіраемыя намі кнігі з'яўляюцца фальсіфікацыяй рымскіх клерыкалаў XV стагоддзя з мэтай пзбегнуць заўсёды гатавага ўзнікнуць пярэчання тагачасных грамацееў, што сваёй "уніяй" яны хочуць аднавіць ўжо зведанае славянамі ад каталіцкіх патэраў "пякельнае ярмо" (jugum tartaricum).

Зараз станавіцца зразумелым, чаму і аўтар кнігі "Падарожжа Венецыянскага двараніна Марка Пола" (якая ўпершыню надрукавана па-нямецку у 1477 годзе, а напісана, верагодна, перад першым уніяцкім фларэнтыйскім саборам 1438 года) распаўсюдзіў "тартараў" амаль па ўсёй Азіі і вымусіў юнака Марка ехаць да Вялікага Хана (пантыфіка на лаціне) не ў Рымскую вобласць, а ў Кітай; зразумела і тое, чаму чарнагорскі біскуп Ян дэ Плана Карпіні як раз каля часу Берасьцейскага ўніяцкага собору здагадаўся, нарэшце, атаясаміць тартар з манголамі і гэтым канчаткова знішчыць непрыемныя ўспаміны пра мінулае. Зразумела і тая велізарная колькасць сведак, аж да самога бога, якіх гэты чарнагорскі арцыбіскуп прызваў для падцверджання свайго нечаканага для славянскіх грамацеяў меркавання, быццам татары іхных летапісных паведамленняў зусім не татрскія духоўныя і свецкія рыцарскія ордэны, а далёкія манголы, наехаўшыя знянацку не толькі на Кіеў, Маскву і Ноўгарад, але і на Польшчу, і на паўднёва-славянскія землі, і нават на саму Вугоршчыну. Зразумелы і заключныя словы яго прадмовы: "Калі ў нашай кнізе мы пішам нешта такое, што невядома ў вашых краінах, то вы не павінны з гэтай нагоды называць нас хлуслівымі".

Мне невядома, ці выклікаліся на Берасьцейскі ўніяцкі сабор 1596 года цені ўсіх гэтых даўно памёршых сведак, якіх запрашаў Плана Карпіні для падцверджання сваіх слоў, і нават ці чіталась там яго кніга, але фактам з’яўляеца тое, што пры першым яе выданні Гаклюйтам праз два гады пасьля гэтага собора, быў выкліканы сведкам яго правільнасьці другі манах, Вільям Рубрук, нібыта падарожнічаўшы ў тых жа краінах, а ён адзін каштаваў шмат дзесяткаў. Бо, можаце

сабе ўявіць, ён падарожнічаў згодна з асабістым загадам яго каралеўскай вялікасьці Людовіка Святога, караля французкага. Гэта быў той самы кароль, які ў 1226 годзе яшчэ адзінаццацігадовым хлопчыкам атрымаў у спадчыну пасад свайго бацькі пад апекай сваёй маці Бланкі Кастыльскай, а потым пачаў крыжовы паход у Сірыю, быў у Даміеце захоплены ў палон сарацынамі, але праз месяц быў вызвалены за вялікі выкуп, вярнуўся ў Францыю і на прыканцы свайго жыцця распачаў яшчэ паход на сарацынаў у Туніс, дзе і памёр. І вось што піша яму Рубрук ў прадмове сваёй кнігі:

"Найпаважанейшаму і хрысьціянейшаму гасудару, Людовіку, божай міласьцю слаўнаму каралю франкаў, брат Вільгельм дэ Рубрук, наіменшы ў ордэне братоў мінарэтаў (шле) прывітанне і (зычыць) заўсёды радавацца ў Хрысьце.

Пісана ў Еклезіасьце пра мудраца: "Ён выправіўся ў зямлю чужых народаў, выпрабуе ва ўсім добрае і благое".

Гэтую справу ўчыніў я, спадар Кароль мой, але, калі б як мудрэц, але не мудра, а больш па-дурному; баюся, што я належу да іхнага ліку.

Усё ж, якім бы чынам я ні здзейсніў бы гэта, але, калі вы загадалі мне, пад час майго зыходжання ад вас, каб я апісаў вам усё, што пабачу сярод тартар, і нават пераканалі, каб я не баяўся пісаць вам доўгія пасланні, я раблю тое, што вы загадалі, праўда, раблю з баязню і павагай, так як у мяне не хапае адпаведных слоў, якія я павінен быў бы напісаць вашай такой слаўнай вялікасьці".

Із гэтай прадмовы, здаецца, патрэбна было б зрабіць выснову, што аўтар асабіста прадставіў сваю кнігу Людовіку Сьвятому, так як далей ідзе апісанне яго шляху без усякіх дадаткаў. Бо зразумела, што калі б былі нейкія перашкоды да высылання справаздач каралю, выправіўшага яго ў камандзіроўку, то ён згодна з натуральнай асацыяцыяй ідэй тут жа паведаміў бы пра гэтыя перашкоды, а не стаў бы адкладваць іх да таго часу, пакуль кароль знойдзе час прачытаць ўсю яго доўгую кнігу. Бо на гэта пры маруднасьці рукапіснага чытання і немагчымасьці чытаць запар некалькі дзён з раніцы да вечера, адкінуўшы ўсякія хатнія і гаспадарчыя справы, давялося б выдаткаваць не адзін месяц. А між тым у канцы кнігі выяўляецца, што перашкоды да своечасовай дастаўкі яе каралю былі, а ён адклаў паведамленне пра іх да заканчэння яе чытання каралём. Вось што піша ён у заключнай главе: "Із Арменіі я пераправіўся на Кіпр і ў Нікозіі знайшоў вашага Правінцыяла (г. азн. галоўнага святара ў каталікоў), які ў той жа дзень павёз мяне з сабой ў накірунку да Антыёхіі, якая знаходзілася ў вельмі дрэнным стане. Там мы правялі сьвята апосталаў Пятра і Паўла".

"Адсюль мы прыбылі ў Трыпалі, дзе, у дзень Успення Святой Дзевы, мелі сход нашага ордэна і вам правінцыял вызначыў, каб я абраў (для жыхарства) кляштар у Акры, не дазволіў мне (што цалкам немагчыма!) ехаць да вас і даў загад, каб я напісаў вам тое, што хачу, праз падзеля гэтага паслання. Я ж, не адважваючыся пярэчыць абяцанню слухацца, склаў, як мог і ўмеў, гэтую кнігу, просячы прабачэння ў вашай непараўнальнай лагоднасьці як за лішкі, так і недахопы, або за выказанае не зусім разумна, а хутчэй неразумна, так як я чалавек не дастаткова разумны і не прывык складаць такія доўгія апавяданні. Свет божы, які пераўзыходзіць усякае разуменне, ды беражэ ваша сэрца і разум ваш! Ахвотна б я сустрэўся з вамі і некаторымі асабліва блізкімі мне сябрамі, якіх я маю ў вашым каралеўстве. Таму, калі гэта не брыдка вашай вялікасьці, я хацеў бы маліць вас, каб вы напісалі правінцыялу пра дазвол мне з'явіцца да вас, пад умовай хуткага вяранння ў Святую Зямлю".

І вось, чытач, калі ў вас ёсць хаця б маленькі літаратурны досвед, вы ускліknеце:

– Але чаму ж Рубрук, якога сілком не пусьціў у Парыж да караля нейкі "правінцыял", не напісал яму пра гэта зараз жа, яшчэ із Акры, ці не паведаміў пра гэта ў сваёй прадмове, а адклаў да заканчэння чытання каралём 53 главы яго вялікай кнігі? Бо ўсю гэтую кнігу кароль павінен быў чытаць, яшчэ цалкам не разумею, чаму яго ўласны пасланік не вярнуўся да яго асабіста, а выправіў сваю справаздачу праз нейкага "падацеля гэтага"? Бо пасьля заканчэння чытання праз тыдзень ці нават праз месяц Людовік, хаця і "сьвяты", мог бы нават разлавацца за тое, што аўтар трымаў яго ў няведанні так доўга, не кажучы ўжо пра непраўдападобнасць паведамлення, што нейкі акрскі правінцыяльны сьвятар мог затрымаць вяртаўшагася каралеўскага пасланніка і загадаць яму "выбраць сабе для жыхарства адзін із кляштароў у Акры ў Сірыі"!

Адказ на такое пытанне магчымы толькі адзін:

– Калі б правінцыяльны сьвятар, не лічачыся з меркаваннем свайго караля, забараніў вяртацца да яго пасланніку пасьля бліскучага заканчэння ім цяжкага і далёкага падарожжа, здзейсненага згодна з асабістым загадам самога караля, то падарожнік ў самым пачатку паведаміў бы каралю пра гэта, а не пачынаў бы так, як быццам бы ўсё было ў поўным парадку. Із гэтага відавочна, што і пачатковы зварот Рубрука да караля, і заключны зварот да яго ж, зроблены не для Людовіка Сьвятога, а прыдуманы для чытача, каб надаць ў яго вачах дакладнасць і аўтарытэтнасць складзенай дома кнізе.

Гэта старажытны наіўны літаратурны прыём, зараз дарэчны толькі для пяра пачынаючага пісьменніка і незаўважальны толькі для нязначнага літаратурнага вопыту неспрактыкаванага ў чытанні чалавека.

Але калі гэта так, то і сярэдзіна кнігі – такое ж складальніцтва, прыгатаванае грунтуючыся не на асабістых ўражаннях, а як хатняя кампіляцыя ўсяго прачытанага аўтарам ў разных падарожнікаў і забяспечаная для большай пераканаўчасьці ніколі не адбываўшыміся прыгодамі і ўяўнымі асабістымі ўражаннямі аўтара.

Хто такі Рубрук? – Ніхто не ведае. У розных рукапісах нават і прозвішча яго пішацца па-рознаму: Рубрук, Руброк, Рісбрук, Рюісбрук, Рюісброк, Рюісбрек[314] і г. д.

Паказваюць, што каля горада Каселя ў Паўночным дэпартаменце Францыі і да гэтага часу існуе фламандская вёсачка Rubruk, але ці азначае гэта, што ён нарадзіўся там? Пра яго час таксама няма ніякіх звестак. Пра нацыянальнасць таксама. Але ён ведае Парыж, так як параўноўвае шырыню Дона пры сваёй пераправе праз яго з шырынёй Сены ў Парыжы і параўноўвае свае штодзённыя пераходы з адлегласьцю паміж Парыжам і Арлеанам, што азначае гэтую кнігу пісаў французкі манах.

Выданне, якім я тут карыстаюся, – пераклад А. І. Малеіна, выдадзенае ў 1910 годзе із Лонданскага выдання 1803 года, якое выйшла пад назвай "Тэксты і пераклады Джона дэ Плана Карпіні і Вільяма дэ Рубрукіса у тым выглядзе, як яны надрукаваны першы раз Гаклюйтам ў 1598 годзе разам з некаторымі больш кароткімі творамі". Але гэта няправільны загаловак. У Гаклюйта кніга Рубрука надрукавана толькі да 25 главы, уключна да таго месца, дзе апавядаецца, што "Тыбетцы – людзі, з’ядаючыя сваіх бацькоў, так як праз пачуццё сыноўняга шанавання яны не прызнаюць для іх іншай магілы, акрамя сваіх вантробаў. Зараз,

[314] Rubruk, Rubroc, Risbrouc, Ruysbroc, Ruisbroca, часьцей усяго Rubruquis.

аднак, яны гэта пакінулі, так як пачалі абуджаць агіду ва ўсіх народаў. Аднак, яны ўсё яшчэ вырабяюць прыгожыя чаркі із галоў сваіх бацькоў, так як пры піцці із гэтых чарак згадваюць пра іх падчас свайго задавальнння. Гэта паведаміў мне відавочца..."

А ў Лонданскім выданні 1803 гада пасьля такага цікавага паведамлення, дадзенага Рубруку "відавочцам падчас яго знаходжання ў тых самых месцах", дададзены маючыся толькі ў пазнейшых рукапісах ў выданнях яшчэ толькі 28 главаў, у апошняй із якіх паведамлецца:

"Пра Турэччыну ведайце, што там із дзесяці чалавек толькі адзін не сарацын, а ўсе яны армяне ды грэкі. Дзеці валадараць над гэтым краем".

Гэта азначае, нават і гэтую найстаражытнейшую частку аўтар пісаў ўжо пасьля бітвы на Косавым полі 1389 года, не раней XV стагоддзя, калі сапраўды ў Турэччыне прамяшаліся і туркі, і грэкі, і армяне.

Пра "тартараў" у гэтай частцы даюцца толькі блытаныя этнаграфічныя паведамленні, у якіх яны атаясамляюцца то з туркамі[315], то з кіргізамі, падобна якім яны "п'юць кумыс».

"Мы прыбылі, – паведамляе аўтар ў першай жа главе, – у вобласць Газарыю (Хазарыю) або Касарыю (Кесарыю), якая ўяўяе як бы трохкутнік, які мае з захаду горад, называемы Керсон (г. азн. Херсон пры вусьці Дняпра), у якім быў закатаваны сьвяты Клімент. І, плывучы перад гэтым горадам (чаго яны не маглі зрабіць, так як ён далёка ад мора за ліманам на р. Дняпро, а, акрамя таго, і Клімент быў закатаваны не ў Таўрычаскім, а ў Фракійскім Херсанэсе каля Дарданельскага праліва), мы заўважылі выспу, на якой знаходзіўся знакаміты храм, пабудаваны, як кажуць, рукамі анёлаў (чаго зноў такі няма). У сярэдзіне ж, прыблізна ў накірунку да паўднёвага заканчэння, Кесарыя мае горад, маючы назву Салдаія (і лічымы за Судак ў Крыму, але гэтае найменне сугучна толькі з горадам Сольдау ва ўсходняй Германіі ці ж гэта пераіначанае слова Султанія, як пераклад слова Кесарыя), які павёрнуты наўскос да Сінопаля (г. азн. Сынопа, на процілеглым паўднёвым беразе Чорнага мора) і туды (у Судак-та!) прыплываюць ўсе купцы, як едучыя із Турэччыны і маючыя намер направіцца ў паўночныя краіны, так і едучыя назад із Русіі і паўночных краін і жадаючыя перапрaвіцца ў Турэччыну. Адны прывозяць гарнастаяў, белак і іншыя каштоўныя футры, а трэццея прывозяць тканіну із хлапчатай паперы, бумазею (gambasio!), шаўковыя тканіны і духмяныя карані. Ва ўсходняй частцы гэтай вобласьці ёсць горад, маючы назву Матрыка (накшталт Цемрука, на ўсход ад Керчанскага праліва[316], дзе рака Танаід зліваецца з морам Понт, маючы на вусьці 12 міль у шырыню. Менавіта гэтая рака, перш чым зліцца з морам Понт, утварае на паўночы як бы нейкае мора (Азоўскае), якое мае ў шырыню і даўжыню сямсот міль, але нідзе не мае глыбіню звыш шасьці крокаў (passus); таму вялікія караблі не заходзяць у яго, а купцы із Канстантынопаля, даходзячы да вышэй згаданага горада Матрыке, выпраўляюць (адтуль) свае лодкі (Barcas) да ракі Танаіда (Дона), каб закупіть сушанай рыбы, менавіта асятроў, чабакаў (posas barbatas) і іншых рыб у бязмежнай колькасьці.

Вышэй гэтага вусьця знаходзіцца Скіфія (г. азн. Украіна[317]), якая не падпарадкуецца Тартарам, а на ўсход свевы і іверы (сваны і грузіны), якія (таксама)

[315] Адзначу, што па-грузінску для туркаў няма іншай назвы, як татары.

[316] Па-грэцку Тама-Тарка, у рускіх летапісах – Цьму-Таракань.

[317] Я бяру згодна з першапачатковым выданнем Гаклюйта 1598 года, у яго Szythia, а пазнейшыя варыянты перарабілі яе ў Zithia, Zichia, Sittia, Ziquia і Zikia.

не падпарадкуюцца Тартарам. Затым на поўдзень знаходзіцца Трапезундыя, якая мае ўласнага гасудара на імя Гвіда (Андронік II Гід, пам. у 1235 годзе), належаўшага да роду імператараў канстантынопальскіх; ён падпарадкоўваецца Тартарам. Затым знаходзіцца зямля Вастацыя (г. азн. Нікейская імперыя, дзе перад гэтым валадарыў Ян III Вастац (1222-1254), сын якога па дзеду з боку маці называецца Аскар (г. азн. Хведар Ласкарыс, 1255-1259 гг.), ён не падпарадкоўваецца (тартарам). А ад вусьця Танаіда (Дона) да захаду, да Дуная, усе належыць ім; таксама і за Дунаем, у накірунку да Канстантынопаля плацяць ім даніну Валахія, зямля, належачая Ассану (г. азн. Баўгарыя, кіруемая Асенем II ад 1218 па 1241 гг.) і малая Баўгарыя да Славоніі; ўсе яны плоцяць тартарам даніну. I нават звыш прызначанай даніны тартары бралі пад час нядаўна мінуўшых гадоў з кожнага двара па адной сякеры і ўсё жалеза, якое знаходзілася ў злітках".

Мы бачым тут дастаткова правільны ў геаграфічным сэнсе пералік гарадоў па берегах Чорнага мора. Мы бачым нават і імёны цароў XIII стагоддзя, хаця іхны час трошкі і пераблытаны. Так, напрыклад, Андронік Гід памёр згодна з візантыйскімі гісторыкамі ў 1235 годзе, а Хведар Ласкарыс зацараваў толькі праз дваццаць гадоў пасьля гэтага – у 1255, а аўтар аб'ядноўвае іх царуючымі аднагасова. У турак толькі Асман (паміж 1288-1326 гадамі) прыняў тытул султана, г. азн. праз 33 гады пасьля сьмерці Хведара Ласкарыса, і праз 53 гады пасьля сьмерці Андроніка Гіда, а аўтар сцвярджае, што Сіноп ўжо ў іхны час належаў султану Турэччыны. Ды і Турэцкая імперыя заснавана толькі ў 1453 годзе пасьля заваявання Цар-Горада туркамі. Відавочна, што аўтар не вандраваў у XIII стагоддзі па Чорным моры ў той час, так як застаўшы ў яго гарадах адну із названых ім асоб, ён не мог бы застать там двух астатніх. Але яшчэ цікавей, што ў першым выданні гэтай кнігі было напісана, што Скіфія (Scythia) не падпарадкоўваецца тартарам. Але ж Скіфія згодна з усімі іншымі першакрыніцамі занімала ўсю паўднёвую Расію, г. азн. была на месцы Ўкраіны, у тым ліку і Кіеўскага княства. I вось, каб зацямніць гэта, нейкі пазнейшы карэктар дае Скіфіі назву Ціхія, сугучна з Чэхіяй[318] так як гук "Ч" не вымаўляемы для сярэдне-еўрапейца, і падпарадкоўвае тартарам не толькі ўсё паўночнае ўзбярэжжа Чорнага мора, але і Баўгарыю, і Валахію.

Але якімі ж былі гэтыя тартары згодна з Рубрукам?

"Мы накіраваліся, – кажа аўтар на прыканцы 8 главы, – да Батыя, кіруючыся прама на ўсход, а на трэцці дзень дабраліся да Этыліі; пабачыўшы яе воды, я здзівіўся, адкуль з паўначы магло прыйсьці столькі вады. Перш, чым мы змаглі пакінуць Сарката (племяніка Батыя, нібыта княжыўшага паміж Донам і Волгой[319]) нестарыянец Кайяк (інакш Куюк старэйшы пры двары Сарката) разам са шматлікімі іншымі пісцамі двора паведаміў нам:

"– не называйце нашага валадара хрысьціянінам. Ён не хрысьціянін, а Маал (Магол), так як "хрысьціянства" уяўляецца тут назвай нйкага народа"[320].

"Яны ўзносіліся да такой вялічыні гонару, што хаця, магчыма, колькі-небудзь і верацьу Хрыста, аднак не жадаюць называцца хрысьціянамі, жадаючы сваё назвай, г. азн. Маал (Магол, ад грэцкага мегал – вялікі) падняцца вышэй за ўсякае найменне. Не жадаюць яны таксама звацца і Тартарамі. Бо Тартары былі іншым народ".

---

[318] Пішацца ў разных рукапісах то Zikia, то Ziquia, Zichia, Zithia, Zittia, а першапачаткова — Seythia.

[319] Адзначу, што імя "Саркат" сугучна і асэнсавана толькі са славянскім Царко, а Батый (Баця-хан) з бацюшкай = першасьвятаром.

[320] Гл.: Арбелі І. Е. Асан Джалал, князь Хачэнскі // Весткі Акадэміі Наук. 1909 №5. С.423.

Я звяртаю тут сур'ёзную ўвагу чытача на апошнія радкі. У першапачатковых апавяданнях прама паведамляецца, што пляменік Баці-хана Саркат (г. азн. Царко), перайменаваны пазней у Сертаха (і ў Цартака), быў хрысьціянін і нават меў сан дыякана, і такое меркаванне трымалася вельмі доўга. Так і павінна быць, калі ён быў славянін-крыжак. Рубрук, відаць, першым тэндэнцыйна усумніўся ў яго хрысьціянстве, нягледзячы на тое, што ўслед за тым у 19 главе сам жа згадвае пра хрысьціянскі народ найманаў, г. азн. не інакш, як пра Сербію, у якой у той жа менавіта час і царавала дынастыя Неманей, тады як у Сярэдняй Азіі ніхто і не ведае такога найменя, хаця яно і патрапіла ў "Гісторыю першых ханаў із роду Чынгізава", быццам бы здабытую ў Кітаі бацькам Іакінфам Бічурыным і якая, верагодна таксама складзена каталіцкімі місіянерамі ў Кітаі.

Аднак хвасты крыжовых паходаў усюды тырчаць із гэтай перастаноўкі. Вось хаця б пра "тартарскае" святарства ў главе 47:

"Некаторыя з іх, і асабліва із кіруючых, ведаюць із астраноміі і прадказваюць зацменні солнца і месяца. І перад тым як гэта павінна здарыцца, увесь народ рыхтуе ім ежу, таму што яны не павінна ў гэты час выходзіць за дзьверы свайго жытла. І калі адбываецца зацьменне, яны б'юць у барабаны і іншыя інструменты, ствараючы вялікі шум і крыкі. Пасьля ж заканчэння зацьмення, яны аддаюцца папойкам і баляванням, выказваючы вялікую радасць. Тартары ніколі не збіраюць войска і не начынаюць вайну без іхнага рашучага слова; яны (Тартары) даўно вярнуліся б у Вугоршчыну, але прадказальнікі не дазваляюць гэта".

І вось вынікае, што радзімай татар былі вугорскія Татры... Калі б у мяне было тут месца, то я мог бы набрать із Рубрука яшчэ дзясяткі такіх хвастоў даказваючых тое, што гэтая кніга напісана адмыслова з мэтай палегчыць заключэнне ўніі са славянскімі народамі, яшчэ памятаючымі адмоныя бакі чацвёртага крыжовага паходу, калі каталіцкае святарства абцяжарвала іх падаткамі. Але месца ў мяне тут няма, я задаволюся толькі адной заўвагай пра манголаў і москалёў. Пачну з апавядання пра караля Кон-Хана, г. азн. караля першасьвятара (перарobленага потым у Куюка), пра караля Яна і Кінгіс-хана.

"У той час, калі франкі захапілі Антыохію (у 1098 г.), адзінаўладдзе ў згаданых паўночных краінах належала адной асобе, на імя Кон-хам (у архібіскупа Плана-Карпіні – ён пераіначаны ў Куюка). Кон – імя ўласнае, а хам – пазначэнне годнасьці і азначае яно тое ж, што і прарок".

І вось адразу ж неправільнасть:

Кон-хам тут, вядома, Кэн-хан, г. азн. цар-першасьвятар, хаця тлумачальнікі і лічаць гэтае слова за пераіначаны тытул Гур-хан, г. азн. "усеагульны першасьвятар". Усходазнаўцы кажуць нам, што гэты тытул упершыню прыняў заснавальнік "Сярэднеазіяцкай Чорна-кітайскай імперыі Йе-лу Та-Шых, г. азн. Юлій-шах (таму, што Йе-лу і Юлій тое ж самае імя), але не ў 1098, а ў 1125 г. на 27 гадоў пазней. А калі мы паглядзім на захад, то пабачым, што і там упершыню вялікі рымскі пантыфекс Рыгор VII (1073-1085 гг.) загадаў называць сябе і сваіх пераемнікаў папамі, г. азн. ўсеагульнымі бацькамі. Але працягнем нашу выпіску, з пачатку 19 главы.

"Усіх прадказальнікаў (астролагаў) яны (манголы) называюць хамамі. Ад гэтага і іхныя гасудары маюць назву хамамы, так як пад іхнай уладай знаходзіцца кіраванне народам шляхам прадбачання. І вось у гісторыі Антыохіі мы чытаем, што туркі паслалі за дапамогай супраць франкаў да караля Кан-хама, із краіны якога выйшлі ўсе туркі. Гэты кан быў кара-катаец. Кара азначае тое ж, што "чорны", а

Катай назва народа, адкуль Каратай азначае тое ж што – чорны Катай" (а ці не чарнагорац?). І гэта кажуць для разлічэння іх ад катаеў, якія жывуць на ўсходзе каля мора. Чорныя катаі жылі на нейкіх гарах, праз якія я перапраўляўся, а на адной раўніне паміж гэтымі гарамі жыў нейкі нестарыянскі пастыр (pastor) (і вядома, у сэнсе духоўнага кіраўніка, а не пастуха рагатага быдла), чалавек магутны і валадарачы над народам, меўшым назву Найман (Неманямі ў гэты час звалася дынастыя сербскіх каралёў і належаўшая да хрысьціян-нестарыянцаў)[321]. Пасьля сьмерці Кан-хама (якога пазней перарабілі ў Куюк-хана), гэты нестарыянец услявіў сябе ў каралі, і нестарыяне звалі яго каралём Каанам, распавядаючы пра яго ў дзесяць разоў больш, чым гэта адпавядала ісьціне. Менавіта так робяць нестарыяне, прыбываючыя із тых краін: із нічога яны ствараюць вялікія размовы, пагэтаму яны распаўсюдзілі і пра Сарката (г. азн. царка), быццам бы ён хрысьціянін. Тое ж казалі яны і пра Мангу-хана (Махмуд-хана?) і пра Кен-хана таму толькі, што тыя выказвалі хрысьціянам большую павагу, чым іншым народам. І, аднак, на самай справе яны не хрысьціяне. Такім-та чынам распаўсюдзілася гучная слава і пра згаданага караля Яна; і я праехаў па яго пашах (г. азн. па яго пасторыях), але ніхто не ведаў там нічога пра яго, акрамя нешматлікіх нестарыян. На яго пашах (г. азн. пасторыях) зараз жыве Кен-хан (г. азн. цар-першасьвятар), пры двары якога быў брат Андрэй, і я таксама праязджаў той дарогай пры вяртанні. У гэтага Яна быў брат, таксама магутны пастар, на імя Унк (г. азн. Унік – адзіны, аналагічна з імем Секунд, Тэрцый, Квінт). Ён жыў за гарамі Кара-катаеў, (г. азн. чарнагорцаў), на адлегласьці трох тыдняў шляху ад свайго брата. За яго пашамі (г. азн. пасторыямі) на адлегласьці ў 10 і 15 дзённых пераходаў, былі пашы (пасторыі) Маалаў. Гэта былі вельмі бедныя людзі, без улады і без закона, за выключэннем веры ў вядзьмарства і прароцствы, чаму адданыя ўсе ў тых краях (і гэтыя-та беднякі трымалі пад сваім ярмом ўсю Расію! Ці не браты ўжо гэта мінарэты, г. азн. па-руску: малыя?). І побач з Мааламі былі іншыя беднякі, на імя Яркары (Jarcari), атаясамлямыя з тартарамі. Кароль Ян памёр без нашчадка, і брат яго Ўнк (г. азн. Унік-Адзіны) абагаціўся і даў загад называць сябе ханам; вялікія і дробныя яго статкі (паствы) хадзілі да межаў маалаў. У той час у народзе маалаў быў нейкі рамеснік Хінгіс (сугучна з ангельскім прыметнікам King's), па-руску Чынгіз-Кан. Ён выкрадаў, што мог із жывёл Унк-хана, так што пастары Ўнка паскардзіліся свайму гаспадару. Той сабраў войска і паехаў у зямлю Маалаў, шукаючы самога Хінгіса, а той збег да тартараў і там схаваўся. Унк, узяўшы здабычу ад маалаў і ад тартар, вярнуўся, а Хінгіз звярнуўся да тартараў і маалаў з наступнымі словамі:

"– Так як ў нас няма правадыра, нашы суседзі цісунуць нас".

Пасьля гэтага Тартары і маалы абралі яго сваім правадыром і кіраўніком (вось як тады лёгка было зрабіцца царом!).

Сабраўшы таемна (??) войска, ён кінуўся на самога Ўнка (Уніка) і перамог яго. Унк збег у Катайю, дзе патрапіла ў палон да маалаў яго дачка, якую Хінгіс аддаў ў жонкі аднаму са сваіх сыноў. Ад яго яна нарадзіла царуючага зараз Мангу. Хінгіс ў сваіх войнах паўсюль выпраўляў наперад спачатку тартар (г. азн. татраўцаў) і адсюль распаўсюдзілася іхнае імя, так як пры назіранні войска Хінгіса ўсюды крычалі: "– Вось ідуць тартары!" Але ў нядаўніх частых войнах амаль усе яны былі перабіты. Згаданыя маалы зараз хочуць знішчыць і саму гэтую назву і ўзвысіць сваю. Тая зямля, у якой яны спачатку былі, і дзе яшчэ знаходзіцца двор

---

[321] Я звяртаю ўвагу, што слова нестарыянін па-грэцку азначае "вяртанне" і відавочна верылі ў вяртанне із памёршых на зямлю з таго свету, як прадказана ў Апакаліпсісе на тысячу гадоў.

Хінгіс-хана, называецца Анан-керуле (лічымая за раку Анон, прыток Амура ў Забайкаллі)".

Вось куды закінулі ўніяты крыжакоў, каб пазбавіцца ад нязручных успамінаў! Вынікае, што татары былі ўсе перабіты яшчэ ў XIII стагоддзі нашай эры. Гэта азначае сучасныя татары – самазванцы. А хто ж жыў на іхным месцы на поўдні Расіі?

Вось адказ Рубрука (гл. 20):

"На шляху паміж ім (г. азн. Саркатам або Царком) і яго бацькам (Бата-ханам, г. азн. Бацюшкай ханам, Бацяем, Бацієм або Батыем) мы адчувалі моцны жах: рускія, вугры і аланы, іхныя рабы, колькасць якіх дастаткова вялікая, збіраюца зараз па 20 ці 30 чалавек, выбягаюць ноччу з калчанамі і лукамі і забіваюць усякага, каго толькі застануць ноччу. Удзень яны хаваюцца, а калі іхня коні стомяцца, яны падбіраюцца ноччу да табуноў на сваіх пашах і падмяняюць коней, ды і яшчэ аднаго або двух зводзяць з сабой, каб у выпадку патрэбы перасесьці. Наш праваднік вельмі баяўся такой сустрэчы".

Але як жа так! – усклікнеце вы, – паміж манголам Саркатам або Сартахам, жыўшым дзесьці на поўдзень ад Саратава, і Батыем, жыўшым за Волгай, рыскалі вугорцы і рускія. Вы чытаеце далей, а там яшчэ горш:

"Мы дабраліся да Этыліі, дастаткова вялікай рэчкі. Яна ў чатыры разы большая, чым вельмі глыбокая Сена: пачынаецца Этылія ад Вялікай Баўгарыі, размешчанай на поўнач, накіроўваецца на поўдзень і зліваецца з нейкім возерам або з нейкім морам, якое зараз мае назву мора Сіркан (?), згодна з найменнем нейкага горада, размешчанага на яго беразе ў Персіі. А Ісідор заве яго Каспійскім морам. На поўдзень ад яго знаходзяцца Каспійскія Горы і Персія, а на ўсход горы Мулігек, г. азн. душагуб (axa sinorum), якія датыкаюцца з Каспійскімі гарамі. На паўноч ад яго знаходзіцца тая пустыня, у якой зараз жывуць (нядаўна перабітыя ў войнах) тартары. Раней там жылі нейкія каманы, меўшыя назву Кангле (?). З гэтага боку мора прынімае раку Этылію, якая летам павялічваецца, як ягіпецкі Ніл. Да заходу ж ад Каспійскага мора знаходзяцца Аланскія (?) горы, лезгі (лязгіны) і Жалезная Брама".

Але ніякай "Жалезнай Брамы", г. азн. заслугоўваючага такую назву вузкага праходу, абмяжованага з абодвух бакоў стромкімі горамі на заходнім беразе Каспійскага мора няма. Ёсць такія (і нават знакамітыя) толькі на Дунаі пры яго прарыве праз Трансільванскія Альпы.

Праўда, нам кажуць, што такую назву некалі мела вялікая старажытная каменная сьцяна ў Табасеране, але на якім падставах? Бо і да гэтага часу яна мае назву толькі "Дзербентская сьцяна", і ніякіх успамінаў пра тое, каб у ёй існавала жалезная брама няма.

Прачытаем зараз і пра маскалёў у главе 16.

"Узяўшы коней і быкоў, мы ехалі ад станавішча да станавішча, пакуль 31 ліпеня (а год Рубрук нідзе не пазначае!) не дабраліся да месцазнаходжання Сартаха. Краіна за Танаідам (лічымым не Дунаем, а Донам) вельмі прыгожая і мае рэкі і лясы. На паўнач знаходзяцца вялізныя лясы, у якіх жывуць два роды людзей, менавіта: мокселі (г. азн. маскалі), якія не маюць ніякага закона, чыстыя язычнікі. Гарадоў у іх няма, а жывуць яны ў маленькіх хацінках ў лясах. Іхны гасудар і большая частка людзей былі забіты ў Германіі (Germania). Тартары вялі іх разам з сабой да ўступлення ў Германію, пагэтаму мокселі (маскалі) вельмі паважаюць германцаў, спадзяючыся, што пры іхнай дапамозе яны яшчэ вызваляцца ад рабства

тартар. Калі да іх прыбудзе купец, то той, у каго ён першы раз спыніцца, павінен клапаціцца пра яго ўвесь час, пакуль той пажадае прабыць у іхным асяроддзі. Калі хто спіць з жонкай іншага, чалавек не турбуецца пра гэта, калі не пабачыць на уласныя вочы: яны не раўнівыя. У вялікай колькасьці ў іх маюцца сьвінні, мёд і воск, каштоўныя футры і сокалы. Ззаду іх жывуць іншыя народы, маючыя назву мердас (мардва), якіх лаціны завуць мердзініс, і яны – сарацыны. За імі знаходзіцца Этылія (Волга). Гэтая рака пераўзыходзіць сваёю велічынёй усе, якіе я бачыў. Яна цячэ з паўначы, кіруючыся із Вялікай Баўгарыі на поўдзень, і зліваецца з нейкім возерам, якое мае ў акружнасьці чатыры месяцы шляху".

Але калі ж маскалі ваявалі разам з татарамі супраць Германіі і які ж іхны гасудар пры гэтым быў забіты? А сумнявацца ў тым, што мокселі – пераіначанае польскае найменне рускіх маскавітаў – нельга: іхнае месцазнаходжанне апісана правільна, ды і мардва пазначана пры іх.

Гэтым цікавым месцам я і закончу свае выпіскі, даючы магчымасць чытачу самому пазначыць астатнія шматлікія анахранізмы Рубрука, калі яго не пераканалі нават паведамленні пра маскалёў, што гэтая кніга адмыслова тэндэнцыйная.

Я пазначу тут толькі яшчэ раз тое, што першапачатковы, не дайшоўшы да нас рукапіс Рубрука, перапрацоўваўся пры ўсіх яго пазнейшых капіраваннях, і гэта працягвалася нават і пасьля першага друкавання адной із яго варыянтных копій Гаклюйтам у 1598 годзе, г. азн. ўжо на пярэдадні XVII стагоддзя. І ўсе пераробкі выяўляюць адну і тую ж тэндэнцыю: палегчыць стварэнне ўніі ўсіх хрысьціянскіх дзяржаваў пад першынством папы супраць насядаўшых на іх турак, асабліва пасьля бітвы на Косавым полі ў 1389 годзе, усталёўваючы новае меркаванне, быццам jugum tartaricum, якое пазначала. татарскае ярмо рускіх і славянскіх летапісаў, было не папскім ярмом, якое прыйшло із Рыма, а (як ужо здагадаўся прыдумаць архібіскуп Плана Карпіні) – мангольскае. Але так як па-ранейшаму выводзіць яго із Забайкалля ў качавых кібітках было занадта недарэчна з нагоды выявіўшайся тады вялікай адлегласьці, то грэцкая назва крыжакоў пякельныя людзі (тартары) распаўсюдзілася і на калмыкаў, і на ўсе магаметанскія народносьці ў Крыме і па Ніжняй Волзе, і ім прыпісалі здзяйсненні крыжакоў на Ўсходзе, што было прыймальным для новых пакаленняў славян, якія ўжо асабіста не адчувалі "пякельнага іга".

Падобныя замены адных уяўленняў іншымі, больш выгаднымі для сябе – звычайная з'ява чалавечай псіхікі. Вось хаця б выпадак са мной два дні таму назад, калі я пачаў пісаць гэтую самую главу, знаходзячыся ў былым маёнтку майго бацькі – Барку, зараз "Дом Працы і адпачынку Акадэміі Навук СССР". Каб сабрацца з думкамі, я намерыўся ў гэты вясновы дзень прайсьціся па адасобленай сцежцы, аточанай дрэвамі з абодвух бакоў, як алея сярод палёў. Але яе, да маёй вялікай скрухі, за дзень да гэтага сапсаваў хуліган-матарыст, знарок апусьціўшы пры пераездзе па ёй перавозімы ім плуг, так што прыгожанькая маляўнічая сьцежка ператварылася ў пачварныя грудкі перавернутай нізам уверх голай зямлі. Выходзячы із яе за парк ў лёгкім адзенні, я адчуў халодны сустрэчны вецер і, павярнуўшы, пайшоў у процілеглы бок за паркам, дзе было ціха, але не так самотна. Я сустрэў там працуючага селяніна, які загаварыў са мной і гэтым перарваў нітку маіх роздумаў пра Рубрука.

Скончыўшы размову, я пайшоў далей, кажучы пра сябе:

– Што за чэрці гэтыя хуліганы-матарысты! Сапсавалі маю сьцежку і мне няма дзе зараз спакойна засяродзіцца! І калі б хто-небудзь із добрых знаёмых,

сустрэўшы мяне, запытаў, чаму ў мяне незадаволены выгляд, то я цалкам шчыра паведаміў бы яму, што дзякуючы матарысту. Але раптам я згадаў, што я ж пайшоў за парк не таму, што мая звычайная сцежка сапсавана, а з нагоды падуўшага мне там насустрач халоднага ветру!

"Якім чынам, – падумаў я, – у маёй галаве адбылася падмена сапраўднай стыхійнай нагоды майго прыходу сюды, нагоды, на якую немагчыма злавацца, другою, чалавечай нагодай, якая гарманіравала з маёй скрухай на тое, што тут са мной загаварыў сустрэчны селянін перарваўшы нітку маіх роздумаў?"

І я адразу ж адчуў, што гэты працэс цалкам зразумелы з псіха-фізіялагічнага боку гледжання.

Толькі нязначная частка нашых разумовых імпульсаў усведамляецца намі сярод велізарнай колькасьці ўсіх падзей, якія адбываюцца ў нашым розуме. Вось, напрыклад, вы ідзеце па вуліцы або нават у полі, жвава размаўляючы са знаёмымі. Уся ваше ўвага і свядомасць засяроджаны на іх і на тэме вашай размовы. А хто ж падтрымлівае ваша цела ў яго надзвычай няўстойлівым становішчы, падобна на палку, пастаўленую на адзін із яе канцоў, і нават не толькі стаячую на ім, але і пераскокваючаю з кожным крокам на іншае месца, нягледзячы на няроўнасьці глебы і на парывы ветру, маючага намер вас паваліць? Які не адчуваемы вамі праваднік вядзе вас так па-акрабатычнаму майстэрскі па няроўнасьцях і выгінах, калі ўся ваша свядомасць засяроджана на іншым прадмеце? Вядома, гэты праваднік – падсвядомая дзейнасць вашага ж ўласнага мозгу. Ужо із гэтага відаць, што наша свядомае мышленне толькі малая частка падсвядомага, г. азн. не інакш як выпадкова ўрыўкамі даходзячага да нашай свядомасьці. Асабліва відавочна гэта выяўляецца, калі вы імкнецеся згадаць нешта забытае, напрыклад, імя, або тое, што вы збіраліся зрабіць, але забыліся, дзякуючы таму, што вашу ўвагу адцягнулі. Прамень вашага відавочнага ўсведамлення блукае, як пражэктар, ад мазжачка па ўсёй вобласьці вашых падсвядомых ведаў у цемры вашых мазгавых паўшар’яў, і раптам асвятляе тое, што вам патрэбна.

Так і ў вобласьці мышлення кожны із нас мае ў выгінах свайго вялікага мозгу, яшчэ іншага, падсвядомага кіраўніка, імкнучагася весьці нас для нашага самазахавання па ўжо пратаптаных сцежках мышлення, і супраціўляючагася кожнаму нашаму зварочванню з іх.

Гэта як бы суфлёр, пад падказкі якога шмат то із нас і думае, і выказваецца, і нават адчувае сябе на працягу ўсяго свайго жыцця, як актор, які звыкся са сваёй роляй. А гэты суфлёр імкнецца падказаць нам, перш за ўсё, тое, што для нас выгадна або прыемна, і сам застаецца нябачным і неадчуваемым у цыліндрычных нервовых клетачках у звілінах кары чалавечых мазгавых паўшар’яў.

Гэта ён падмяніў і мне пад аккампанемент майго настрою вецер матарыстам.

І чым слабей разумовае развіццё чалавека, чым больш абмежавана шырыня яго сьвядомасьці, тым большую ролю мае гэты падсвядомы суфлёр у яго жыццёвай ролі. Тэндэнцыя ж такога суфлёра заўсёды адна і тая ж: падказваць вобласьці выразнага ўсведамлення ў чалавечым мозгу (якая мне ўяўляецца лакалізаванай у мазжачку) тыя ўяўленні пра наваколле, і мінулае і будучае, якія яму выгадныя: гэта першапачатковы інстынкт самазааваня, па-латыні: кансерватызма.

Пакуль чалавечая думка накіравана на пытанні, вырашэнне якіх ў споноўчым або адмоўным сэнсе не закранае інтарэсы думаючага, суфлёр ў яго мазгу маўчыць, як гэта бывае пры сучаснай нам распрацоўцы прыродазнаўчанавуковых або матэматычных пытанняў.

Іншая справа пры абмеркаванні пытанняў сацыяльных, закранаючых інтарэсы цэлых згуртаванняў людзей. Тут выпрацоўка безстаронніх, дагаджаючых ўсяму чалавецству рашэнняў бывае вельмі часта цяжкай. Тое ж самае і ў вобласьці гістарычнай наукі, якой яна была да паловы XIX стагоддзя.

Клерыкалы перш за ўсё прыстасоўвалі асобныя выбітныя асобы і цэлыя народы да свайго клерыкальнага светапогляду, а свецкія уладары – да сваіх палітычных ідэалаў. Усё, што не адпавядала інтарэсам дадзенага гістарычнага моманту і дадзенага стана, перараблялася на новы лад, і добрым узорам гэтага служыць толькі што мною разабраная трансфармацыя "татрскага іга" крыжакоў у тартарскае, а потым і ў татарскае ярмо манголаў.

Вымушаны карыстацца падобнымі першакрыніцамі сур'ёзны гісторык, паўтараю, павінен лічыць за гістарычны факт не тое, пра што паведамляе яму старажытны дакумент, а толькі сам гэты дакумент, які ён і павінен разглядаць, як узор меркаванняў і тэндэнцый таго часу. А для таго, каб не заблудзіцца ў разнастайнасьці і разнагалоссі гэтых дакументаў, ён павінен заўсёды мець на ўвазе такія дзве асноўныя аксіёмы:

1. Усякая духоўная ўлада ўнікла із першапачатковага шаманства. А так як яно магло незалежна развівацца ў разных кутках зямнога шара, то ні адна шаманская школа не магла стать пераважаючай і паўсюднай без апірышча на магію і асабліва на свецкую ўладу.

2. Усякая светская ўлада ўзнікла із валодання жалезнай зброяй і із магчымасьці стасункаў з падуладнымі ёй пасяленнямі, а таму і цэнтрамі яе ўзнікнення маглі быць толькі мясцовасьці, дзе з’явілася магчымасць массавага вырабу жалеза пры зручных шляхах воднага або сухапутнага паведамлення. Такой зручнай мясцовасьцю першапачаткова была толькі Балканская паўвыспа. Але і гэтага мала.

Тут былі, вядома, і жалезныя руды, і шляхі воднага паведамлення па Дунаю і яго прытоках і па грэцкаму архіпелагу; тут былі паблізу і стэпы, дзе вадзіліся табуны дзікіх коней, гэтая основа далёкіх сухапутных стасункаў і першапачатковаго коннага войска для распаўсюджвння і падтрымання свецкай улады ў далечыні ад суднаходных рэк.

Гэта азначае, першы парыў развіцця дзяржавенной улады на зямным шаре мог ісьці толькі ва ўсе бакі ад Балканскай паўвыспы, з Вялікай Рамеі, г. азн. Візантыі.

З'яўленне конных "рамейскіх" авантурыстаў з жалезнай збраяй у руках павінна было вырабіць на ўзброенае толькі каменнемі сякерамі ды драўлянымі стрэламі пешае навакольнае насельніцства такое ж ўражанне, як і з'яўленне гішпанцаў у Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы пад правадырствам Картэса і Пісарра. Яны імгненна падпарадкаваліся новым уладарам і іхнаму "веравызнанню".

І, як улада гішпанцаў хутка ахапіла ўсю Паўднёвую і Цэнтральную Амерыку да яе аддаленых берагоў (і ахапіла б і Паўночную Амерыку, калі б не перашкодзілі зрабіўшыя тое ж самае французскія і ангельскія авантюрысты), так і ўлада візантыйскіх рамейцаў пасьля адкрыцця вытворчасьці жалезных прылад і вайны на феадальных, з нагоды аддаленасьці, пачатках і пад сьцягам тэакратыі павінна была распаўсюдзіцца і на захад Яўропы аж да Ангельшчыны, і на ўсход Азіі аж да Індыі і Ціхага акіяна, прычым першапачатковая тэалогія павінна была лепш захавацца ў аддаленых глухіх мясцовасьцях, чым у ініцыятыўным цэнтры, заўсёды ідучым наперад. А таму і троіца (тры Мурта) індыйскіх брамінаў, і іхны рытуал павінны

нам больш нагадваць першапачатковае рамейска-візантыйскае хрысьціянства, чым моцна эвалюцыянаваўшае з тых часоў, дзякуючы равіццю свецкіх навук і мастацтваў, пазьнейшае хрысьціянства ў Яўропе. А магаметанства з яго шматжонствам і адзінабожжам павінна, ды і сапраўды, больш захоўвае біблейскае юдэйства[322], чым сучасны еўрапейскі равінізм.

Такой была першая хваля феадальнага імперыялізму і тэалагічнай містычнай навукі ў Старым Сьвеце, якую можна пазначыць агульным найменнем "хрысьціянства" у грэцкім сэнсе гэтага словы: "пасьвячэнне ў таямніцы містычных ведаў". Яна павінна была распаўсюдзіцца, як гук, ва ўсе бакі.

Але вось яшчэ больш вялікія залежы жалезнай руды, знайшліся ў Заходняй Яўропе, па Рэйну і ў Брытаніі, іхная распрацоўка дала новы стымул да развіцця земляробства, прамысловасьці і культурнага жыцця. Заходняя Рымская імперыя перарасла Ўсходнюю, і рыцары, апранутыя ў жалезныя латы, непраніцаемыя для стрэл, рынуліся на адстаўшы Ўсход, імкнучыся ўсё падпарадкаваць і асіміляваць згодна са сваім светапоглядам да крайніх межаў Азіяцкага кантынента (так як у Афрыцы гэтаму перашкаджалі пустыні і тагачасная адсутнасць прамежкавага аселага насельніцтва), азіяцкая мянушку Чынгіз-хана Цемучынам, г. азн. Жалезным, яшчэ больш зблiжает яго з правадырамі закаваных у жалеза рыцараў.

Нам кажуць, што крыжакі першага крыжовага пахода пад правадырствам Готфрыда Бульёнскага і яго брата Балдуіна, да якога ў Цар-Горадзе далучыліся Гуга Вернандуа, Баэмунд Тарэнтскі, Танкрэд, Раімунд Тулузскі і Роберт Нарманскі, імгнена захапілі Нікею (1095) і затым і Антыохію, і "Эдесу", размяшчаемую гісторыкамі на зусім непрыдатным у стратегічным дачыненні месцы ў цяперашняй Урфэ ў баку ад Еўфрата. Але гэты гарадок прыдатны толькі для пілігрымства да мячэці праайца Аўраама, пабудаванай, – запэўніваюць нас, – на тым самым месцы, дзе ён меў намер закалоць у ахвяру богу-айцу свайго сына Ісаака, і цалкам непрыдатны ў стратэгічным дачыненні для сталіцы княжества або каралеўства. А для пілігрымства яно вельмі прыдатнае, калі тут упал метэарыт, даўшы нагоду да ўзнікнення міфа пра сыходжанне тут з неба вогненнага анёла. Мы бачым, што ў лакалізацыі сталіцы Эдэскага крыжаноснага графства[323] нешта наблытана, але па аналогіі з подзвігам Пісарра ў Амерыцы вельмі праўдападобна зрабіць выснову, што крыжакі ў гэты час завалодалі не толькі Палестынай, але і Месапатаміяй, а із яе праніклі і ва ўнутраную Азію, у якой будыйскае манаскае святарства надзвычай нагадвае каталіцескае. Нават і канфуцыянства ў Кітаі магчыма перараджэнне таго ж самага хрысьціянскага Drang nach Osten з дапамогай каня і железа пад сьцягам біблейскай хрысьціянскай тэалогіі, якая тады яшчэ была перамешана з дэманалогіяй і з магіей. А брамiны з іхнымі баядэркамі шмат бліжэй да першапачатковага хрысьціянства, чым нашы посныя святары. Згадаем толькі, што і ў італійскім Рыме, аж да першага крыжовага паходу, святарства было адружваемае і нават "усеадружваемае", і на чале яго стаялі класічныя "вялікія пантыфексы", аж да таго часу, калі ў перыяд 1073-1085 гадоў апошні із гэтых пантыфексаў – Рыгор VII, як антытэзіс мінулага, цалкам забараніў каталіцкаму святарству адружвацца,

---

[322] Нагадаем, што слова магаметанства азначае праваслаўе у сэнсе годнай славы рэлігіі, як і слова іудэйства.

[323] Легенда сведчыць, што гэтае мястэчка было заснавана вялікім біблейскім паляўнічым Німародам, і да ператварэння ў рамейскую вайсковую калонію ў 217 годзе быў сталіцай Азраенічнай дзяржавы. Але, і сама назва Азраенічнае нагадвае толькі пра Хазроя, быццам бы захапіўшага Месапатамію, Калхіду толькі ў 578 годзе!

гадоў за 15 да толькі што згаданага першага крыжовага паходу, магчыма даўшага нагоду легендзе пра арганаўтаў.

Ды і ці сапраўды гэта зрабіў Рыгор VII каля 1073 года, у не Рыгор IX каля 1370 года?

Бо ўся гісторыя рымскіх пап раней XIV стагоддзя не падцверджана ніякімі дакументамі. Я не знайшоў ні аднай вылічваемай астранамічнай з'явы ў іхных жыццяпісаннях, якая б магла падцвердзіць мне час хаця б аднаго з іх.

Пры такой цьмянасьці і недаказанасьці паведамленняў, быў поўны прастор прыпісваць аднайменным папам якое заўгодна жыццё і дзейнасць, узорам чаго і з'яўляюцца толькі што разабраныя мной кнігі "Плана Карпіні" і "Рубрука", а таксама і Марка Пола, да разглядання "Падарожжаў" якога мы і пяройдзем.

# Глава III

## Падарожжа венецыянца Марка Пола як узор уяўленняў XV-XVI стагоддзяў у Заходняй Яўропе пра азіяцкія краіны і народы.

Да вынаходніцтва кнігадрукавання, пад час сярэдніх стагоддзяў, чарговы перапісчык лічыў сваім абавязкам дапаўняць старую кнігу новымі паведамленнямі, – захоўваючы пры гэтым імя ранейшага аўтара. Таму цалкам верагодна, што дадавалі ў пазнейшыя рукапісныя копіі кнігі Марка Пола паведамленні, атрыманыя ў выніку марскіх падарожжаў у Індыю – сланоў, насарогаў, людаедаў і г. д.

Мы скарыстаемся фундаментальным навуковым выданнем кнігі Марка Пола, дапоўненым падрабязнымі каментарамі.

Марка Пола (1254-1324) лічыцца найвядомейшым падарожнікам XIII стагоддзя н. э., родам із італійскай Венецыі. Здзейсніў шматгадовая падарожжа (1271-1295 гг.) па далёкіх краінам тагачаснага свету. Наведаў Татарыю, царства Вялікага Хана, затым, нібыта, быў у Індыі, у Кітаі, на Мадагаскары, Цэйлоне, у Афрыцы.

Недарэчнасьці пачынаюцца менавіта із біяграфіі. Бацька Марка Пола – Мікола, як паведамляецца ў пралогу, вандраваў са сваім братам Мацвеем ва ўсходніх землях девятнаццать гадоў (19) (!). Прыбыўшы дадому ён знайшоў дванаццацігадовага сына Марка.

Звычайны гандаль таварамі з Усходам здзяйсняўся не транзітам дзесяткі тысяч кіламетраў і ў суправаджэнні адных і тых жа людзей, а ў некалькі этапаў ад торжышча да торжышча, перапрадаючыся із рук у рукі. Тым жа шляхам прыходзілі і паведамленні пра далёкія краіны. Але пасьля шматразовага пераказвання яны абрасталі неверагоднымі падрабязнасьцямі. Вось адна із магчымых нагод перапляцення паведамленняў адпавядаючых рэчаіснасьці з відавочнымі выдумкамі ва ўсіх кнігах пра падарожжы ў глыбіні Азіі людзьмі там ніколі не быўшымі – Плана Карпіні, Рубрук і Марка Пола.

Першым, хто паспрабаваў сабраць і ўпарадкаваць паведамленні пра жыццё Марка Пола, быў яго зямляк Джон Баптыст Рамусіо (John Baptist Ramusio – Ян Хрысьціцель Рымскі – вось што азначае яго імя па-руску). І то, ва ўсякім разе, гадоў праз трыста пасьля таго, калі, як лічыцца, жыў Марка Пола. Дарэчы, магілы такога вялікага вандраўніка няма. Нібыта яе знішчылі на прыканцы XVI стагоддзя. І так паставіліся да памяці такога вялікага суайчынніка менавіта тады, калі ім зацікавіліся землякі?

Не засталося і прадстаўнікоў такога слаўнага роду, знікшага яшчэ на пачатку XV стагоддзя. Такім чынам, у XVI стагоддзі, калі ўпершыню зацікавіліся яго біяграфіяй, ніякіх слядоў сапраўднага Марка Пола ў Венецыі выявіць не атрымалася.

Акрамя таго, першае друкаванае выданне кнігі Марка Пола з'явілася на нямецкай мове ў 1477 годзе ў Германіі, а зусім не ў Італіі па-італьянску, як можна было б чакаць. А пад партрэтам "слаўнага вандраўніка", зешчаным у гэтым выданні красуецца надпіс: "Das ist der edel Ritter. Marcho polo von Venedig...", г. азн.: "Гэта – шляхетны рыцар Марк паляк фон Венедыг".

А вось яшчэ цікавы факт. У кнізе сам Марка Пола згадваецца ад трэццяй асобы, і тлумачыцца гэта тым, што не ён пісаў гэтую кнігу праз хворую руку, а дыктаваў яе. І, акрамя таго, тэкст быў зменены, пабываўшы пад пяром прафесійнага літаратра Рустыцыяна.

Акрамя таго, не вядома на якой мове наогул быў напісаны арыгінал. Адны лічаць, што на-лаціне, іншыя, што па-французку.

Некалькі слоў пра кнігу Марка Пола. У 1477 годзе ў Нюрнбергу з’явілася невялікая кніжачка, перавыдадзеная ў Аўгсбургу ў 1481 годзе. Другое яе выданне маецца ў Ленінградзкай ГПБ (№356). Яна мае загаловак Marcho Polos Reysebuch. Тытульнага ліста няма. Усяго 120 старонак буйнога шрыфту каля 21.280 знакаў, заканчваецца кніга так: " Diss hot gedruckt..."

Мова кнігі лаціна-нямецкая, транскрыпцыя слоў паказвае гэта відавочна. Рукапісы, із якіх друкаваліся абодва выданні, засталіся невядомымі.

У 1484-90 гг. (так як дакладны год да гэтага часу не вызначаны) з'явілася яе першае лацінскае выданне. Невядомы дакладна нават горад, дзе яно надрукавана, не то ў Рыме, не то ў Венецыі.

Копія кнігі ў Брытанскім музеі пераплецена разам з іншай славутай кнігай "Iohannis de Mandeville Ifinerarius in partes Thero Iobimi tanes et in ulteriores transmarinas" з паметкай 25 octobris 1503.

У 1496 годзе выйшла першае выданне на італьянскай мове, надрукаванае ў Венецыі per Ianne Babtista da Sessa Micanese del MCCCCX-CVI.

У 1502 годзе – першае выданне на партугальскай мове ў Лісабоне, у 1520 – гішпанскае, у 1532 – лацінскае, ў 1534 годзе – трэццяе нямецкае і ў 1556 – першае французкае выданне – пераклад з лацінскага выдання, а не з французскага рукапісу!

Калі ў 1865 годзе з'явілася выданне французкага рукапісу з шырокімі камэнтарамі Пацье (G. Pouthier) у 2-х тамах, то ўсіх выданняў на разных мовах налічвалася 57. Менавіта: італьянскіх – 23, ангельскіх – 9, лацінскіх – 8, нямецкіх – 7, французкіх – 4, гішпанскіх – 3, партугальскіх – 1, галандзкіх (1664 г.) – 1 і адно рускае 1863 гада – пераклад з нямецкага выдання Бюрка 1855 года.

Сярод грунтоўных выданняў наступных гадоў вылучаюцца: ангельскае Юле-Кардзье і факсіміле французкага рукапісу, прыпісваемага XIV стагоддзю, выдадзенага вельмі старанна ў Стакгольме ў 1882 годзе, а ў 1931 з'явілася і кітайскае выданне.

Розных рукапісаў гэтай кнігі ў іншаземных бібліятэках налічваецца каля 85.

У XIX ст. было яшчэ незразумела, на якой мове былі напісаны першыя кнігі: на лацінскай, французкай або італьянскай. Самі італьянцы вызначылі, што іхны старэйшы спіс – гэта пераклад з французкай мовы.

Параўноўваючы разныя рукапісы, можна зрабіць наступныя агульныя высновы:

Матэрыял ў іх размешчаны разнастайна.

У некаторых параграфах шмат дадаткаў, часта перамяючых сэнс першапачатковага выказвання.

Паступовае павелічэнне кнігі: ад першых двух выданняў на нямецкай мове да адкрыцця іхных дапаўненняў у 1824 годзе.

З'яўленне ўсё новых главаў, аісваючых падрабязнасьці знаходжання Марка Пола ў "Вялікага Кана".

Ўзмоцненае падкрэсліванне двух момантаў – а) Марк Пола ўсюды сустракае хрысьціян і б) астатнім народам ён паведмляе пра папу.

Складанасць шляху, па якому рукапісы дайшлі да нас, прыцягвае да сябе ўвагу.

Напрыклад, фоталітаграфія французкага рукапіса выдадзеная ў 1882 годзе ў Стакгольме дапаўняецца даследаваннем Леапольда дэ Ліля (Дырэктара нацыянальнай бібліятэкі ў Парыжы). Ён робіць выснову грунтуючыся на ходзе і характары пісання і гісторыі самога рукапіса, знаходзіўшагася ў адмысловай калекцыі ў Луўры і належаўшай Карлу V (1364-1380), што яна адносіцца самае пазняе да XIV стагоддзя. Аднак, ў 1411 годзе, кажуць нам, яна была апісана спецкамісіяй пры падліку бібліятэкі Луўра. Затым яна знікае і з'яўляецца толькі ў XVI стагоддзі ў Нармандыі, у карсарскім парце Онфлер (Honfleur), што засведчана на апошняй старонцы: Pour Simon du Solier demorant a Honnefler. Іншых доказаў яе знаходжання ў Нармандыі няма.

Хто такі дзю Салье – невядома. Нарэшце, ў 1650 годзе Аляксандр Пето прадаў шведзкай каралеве Хрысьціяне шэраг рукапісаў, належаўшых яго бацьку, у іх ліку і гэтую копію Марка Пола, і яна праляжала ў Стакгольме да яе выдання ў 1882 годзе.

Гэты рукапіс абрываецца словамі із прамовы "да сіньёраў, баронаў і вершнікаў". Цалкам гэтая прамова, а таксама рашэнне схода баронаў і ўсе далейшыя падзеі надрукаваны толькі у 1824 годзе.

"Кніга цудаў" Мандэвіля, напісанная на французкай мове паміж 1357-1371 гадамі нейкім доктарам-фізікам ў горадзе Льежы, званая ці Jehan de Bourgogne, ці Jehains de la Borbe.

Міфічны рыцарь Джон Мандэвіль вандраваў па тых жа местам, што і Марка Пола.

Параўноўваючы спосаб выкладання Мандэвіля і МП, адразу заўважаюцца вялікія адрозненні ў стылі і ў выкладанні. Яго пераказ значна больш нагадвае гісторыка новага часу, чым сярэднявечнага аматара выдумак і легенд. І, такім чынам, можна зрабіць выснову пра больш позні час складання кнігі МП.

Хто ж усё-ткі аўтар гэтай кнігі? У рукапісах, як і ў першых выдадзеных кнігах, няма паведаленняў пра жыццё Марка Пола і яго сям'і. Адзіная яго біяграфія належыць венецыянцу Рамузо (1485-1557) і з таго часу размяшчалася ў розных выданнях. Гэты Battista Ramusio быў з 1583 года сакратаром знакамітай рады дзесяці. Напісаў тры тамы апавяданняў гісторыка-белетрыстычна характеру: першы – 1550 г., трэцці – 1556 г., другі – 1559 г. Гады нараджэння і сьмерці Марка Пола і даты яго жыцця пазначаюцца толькі ўмоўна.

Першы свой рукапіс Марка Пола діктавал – кажуць нам – свайму турэмнаму таварышу ў 1298 г. (прадыктаваў таварышу італьянцу на французкай мове, а чаму

не напісаў сам і на блізкай да італьянскай мовы – лаціне? Хаця сам ён нават не быў у Францыі, так як з дзяцінства ездзіў па Азіі). І гэты рукапіс пізанца Рустычыяна не захаваўся, а існуе толькі копія, надрукаваная толькі ў 1824 годзе.

Другі рукапіс запісаў нібыта са слоў Марка адзін француз у 1307 г. Трэцці скарочаны лацінскі прыпісваецца нейкаму даміниканскаму манаху Франчэска Піпіна, склаўшага яго, нібыта, каля 1320 года.

Транскрыпцыі самога імя і прозвішча аўтара вельмі разнастайныя: у нямецкіх выданнях XV стагоддзя Marcho Polo, у лацінскіх Marcus Polus, у французскіх XVI стагоддзя Marc Paul. Існуе цікавая транскрыпцыя "Martpol". Гэта відавочная аберацыя, і я прыйшоў да высновы, што яна азначае толькі адно: Martinus Polonus. А пошукі такага аўтара прыводзяць толькі да адной падыходзячай гістарычнай асобы, а менавіта, што гэта ніхто іншы, як Martinus Bohemus Sire Polonus інакш Martinus de Bohemia ці яшчэ інакш Martinus Bohaim, 1459-1506.

У 1492 годзе падчас знаходжання ў Нюрнбергу Марцін Бехайм стварыў першы глобус, знакаміты "зямны яблык", карыстаючыся для гэтага, згодна са словамі гісторыкаў, Плінія, Страбона, Пталямея і Марка Пола.

Першае выданне кнігі МП выйшла ў Нюрнбергу ў 1477 годзе, Бехайму ішоў тады толькі 18 год. Калі верыць таму, што ён памёр ва ўзросьце 47 гадоў.

Партрэт Марка Пола, змешчаны на тытульным лісьце 1-га выдання і перадрукаваны ў 2-ім Аўгсбургскім выданні, так сама малюе маладога чалавека. Гэтае супадзенне цікава.

Калі ўсё паставіць на свае месцы, то мы маем наступнае. Вось у 1483 г. Калумб упершыню звяртаецца да партугальскага караля Яна са сваім праектам патрапіць ў Індыю замест ўсходняга па заходняму шляху з нагоды шарападобнасьці зямлі. А прызначаная каралём камісія навукоўцаў прызнае гэтую думку фантастычнай, не маючай ніякіх падставаў, і толькі гішпанскую каралеву Ізабэлу пераконваюць яго доказы і яна дае яму ў 1492 годзе для такой спробы тры караблі. І дзіўнае супадзенні: у тым жа 1492 г. Мартынус Палоніус стварыў першы на сьвеце глобус.

На падставе аднаго гэтага супадзення я лічу відавочным, што да Калумба зямля лічылася проста за круг (orbis terrarum), а не за шар (globus terrarum). Бо калі б географы лічылі Зямлю і раней за шар, то чаму ж ні Арыстоцель, ні Пталямей не здагадаліся паказаць уяўляемыя імі абрысы нашага "старого свету" на глобусе? Бо гэта ж было псіхалагічна непазбежна: стварыўшы зямны шар ў сваім ўяўленні, кожны паспрабаваў бы перанесьці вядомыя яму абрысы земель з плоскага ліста папірусу або пергаменту на паверхню рэальнага шара, які няцяжка было прыгатаваць і наглядна паказаць прыхільнікам старой думкі пра плоскі зямны круг – яго сапраўдную форму.

Гэта быў бы толькі другі крок, непазбежны адразу ж пасьля першага згодна з самой інэрцыяй руху думкі ў гэтым накірунку. Дык чаму ж не зрабіў гэтага непазбежнага другога кроку Пталямей і ўсе яго паслядоўнікі?

А пасьля гэтага другога кроку быў непазбежным і трэцці: спроба даведацца, як далёка знаходзяцца крайнія ўсходнія краіны – Кітай і Індыя, – калі кіравацца да іх на захад па Атлантычнаму акіяну? Чаму патрэбна было чакаць Хрыстафора Калумба? Могуць запярэчыць, што да вынаходніцтва марскога компаса спроба плыць некалькі дзён не бачучы бераг была рызыкоўнай.

Гэта праўда. Але ж і компас быў прыстасаваны да мараплавання яшчэ з 1302 года шкіперам Флавіо Джоя, і з таго часу з’явілася магчымасць неабмежаванага

плавання па-за бачнасьцю берагоў, а як следства, і магчымасць марскога шляху ў Кітай і Індыю па заходняму накірунку. Дык якім жа чынам, калі ўсе географы ўжо больш за 1000 гадоў ведалі пра шарападобнасць Зямлі, нікому із гішпанскіх і партугальскіх адміралаў і маракоў на працягу пўтары сотні гадоў не прыйшла ў галаву такая простая думка, як патрапіць у Індыю заходнім шляхам? І чаму "камісія партугальскіх навукоўцаў" прызнала такую думку Калумба не за геніяльны праект, а за фантазію, калі як нам кажуць, амаль за 2000 гадоў да Колумба, і Арыстоцель, і Сенека, і Пліній сцвярдалі, што Індыя размешчана на другім баку Атлантычнага акіяна, і што із Кадыкса туды можна патапіць за некалькі дзён? Бо Калумб прама мог бы пакласьці на стол перад вышэйназванай" камісіяй партугальскіх навукоўцаў" і ўсе гэтыя творы, ў тым ліку і фаліянты бацькі астраномі Пталямея з Зямлёй у выглядзе шара, калі б Пталямеева астраномія і географія былі напісаны яшчэ да яго, а не пасьля яго ўрачыстага вяртання із Амерыкі.

З гэтага боку гледжання і Арыстоцель, і Пліній, і Пталямей былі толькі адлюстраваннем вялікіх навукоўцаў XV і XVI стагоддзяў на туманным фоне далёкага мінулага, і першым хто прыйшоў да ідэі шарападобнасьці Зямлі і даказаўшым правільнасць сваёй высновы на справе, быў Хрыстафор Калумб, або Марцініус Палонус. З такога рацыянальнага боку гледжання ўся справа уяўляецца ў наступным выглядзе.

Пасьля крыжовых паходаў і развіцця аддаленага мараходства, з нагоды вынаходніцства кілевага карабля і выкарыстання компаса, геаграфічныя мапы ахапілі ўжо шмат зямель. Грунтуючыся на павышэнні вышыні Палярнай зоркі пры руху на поўнач і грунтуючыся на назіранні там заходячых на поўдні зорак зрабілася відавочным, што і на поўдні нябесныя сьвяцілы не пагружаюцца на захадзе ў моры-акіяны, каб, нырнуўшы ў яго вечарам, выплыць раніцай у тым жа парадку на ўсходзе.

У выніку такіх паведамленняў падарожнікаў, магчыма адначасова як Калумб, ак і Мартын Палонус прыйшлі да думкі, што Зямля – шар, які вісіць у пустой пасторы, акружаны сферычным зорным небам, па якім рухаюцца зоркі, Месяц, планеты, каметы. Магчыма, гэтая думка бла запазычана ў трэццяй асобы.

Іншымі словамі – адзін паказаў гэта на глобусе, другі ж паспрабаваў аб’ехаць шар; гэта азначае, усе тры лагічныя крокі чалавечай думкі і прадпрымальнасьці непазбежныя адзін пасьля другога сапраўды і зроблены хутка адзін за адным. А яны мелі наступствам і чацвёрты крок, ідэю, што кожнасутачныя рухі зорнага неба вакол Зямлі значна прасьцей растлумачыць процілеглым вярчэннем самой Зямлі, а затым і пяты крок, што рух планет вакол Зямлі, незалежны ад зорак, і з’яўляецца вынікам іхных уласных арбіт з эпіцыкламі; нарэшце, шосты крок – пераход ад эпіцыклічных геацэнтрычных рухаў да рухаў Зямлі і ўсіх планет вакол Сонца.

Першы крок у гэтым ланцугу, вынікаючы адзін із другога як мы бачым, быў практычна зроблены Калумбам і Мартынам Палоніусам ў 1492 годзе, апошні крок Капернікам ў 1542 годзе. І ўвесь гэты працэс астранамічнай думкі здзейсніўся роўна за 50 гадоў, падрыхтаваўшы шлях Кеплеру, Ньютану і Лапласу. Тут усё пасьлядоўна і пераемна, а апавяданне пра тое, быццам бы Калумб пры сваіх захадах пра заходні шлях у Індыю спасылаўся перад камісіяй партугальскіх навукоўцаў (а ў тым ліку, вядома, і географоў) на шарападобность Зямлі як ужо вызначаную за паўтары і нават за дзьве тысячы гадоў "да яго Пталямеем і Арыстоцелем", такая ж белетрыстыка, як і ўсе астатнія размовы, прамовы і

здзяйсненні вялікіх людзей класічнай старажытнасьці, якія жылі за 2000 гадоў да нараджэння іхных біёграфаў.

Я карыстаўся тэкстам кнігі П. П. Мінаева "Падарожжа Марка Пола", пад рэд. Бартольда В. В. СПб., 1902.

Мы бачым у ёй збор усіх ведаў пра Афрыку і Азію, якімі яны ўяўляліся еўрапейцам XV стагоддзя.

На больш позні час стварэння рукапіса Марка Пола, чым гэта лічыцца афіцыйна, паказвае згадванне бразільскага дрэва (атрымлівалі фарбу), а Бразілія адкрыта пасьля 1500 года.

Частае згадванне Палярнай зоркі сведчыць пра марское падарожжа, а не пра сухапутнае.

Апісанне малпаў як людзей з сабачымі галовамі і хвастамі кажа пра тое, што аўтар сам іх не бачыў, так як пра абезьян выказваецца асобна. І ўсё гэта стала вядома пасьля падарожжа Васка ды Гамма.

Поп Ян – патрыярх Цар-Горада Ян Камацір 1198-1206.

У апісані Кітая Пекін – століца з 1421 года, а ламбардцы, немцы і французы з’явіліся ў Кітаі ў першай палове 1522 года.

Залатая дынастыя (па-кітайску дынастыя Цзінь) валодала, кажуць нам, паўночным Кітаем ад 1125 да 1234 года, і ў гэты ж час была Залатая орда і Залаты ордэн у Яўропе, а таму ў далейшае апісанне закралася шмат еўрапеізмаў, як, напрыклад, "партрэты продкаў", чаго ніхто яшчэ не бачыў у азіяцкіх уладароў.

Толькі з 1368 года, з дынастыі "Мін" пачынаецца доставерная самастойная гісторыя Кітая.

Прарок Ісус Навін пабудаваў другі храм ў 535 годзе да н. э. У гэты ж час у Кітаі з'явіўся Кунт-Фу-Цзы (Кун – жыдоўскае Кен – сьвятар).

Дынастыя Ханаў – буддызм (у гэты ж час хрысьціянства із Палестыны ў Візантыю (202-223) Хан (Кэн – сьвятар)).

Распад адзінай Рымскай імперыі ў 395 годзе. Распад Кітая на некалькі царстваў.

У 622 годзе агране перамаглі і распаўсюдзілі сваю рэлігію ўглыб Азіі (Дынастыя Тан 618-907).

Захоп крыжакамі Візантыі. Кітай захопліваюць манголы.

Жывучы ў Кітаі, ён вырашыў не паведамляць пра кітайскі чай, вялікую кітайскую сьцяну, фарфор, пра адмысловае дэфармаванне ног жанчын, кітайскія іерогліфы, кнігадрукаванне.

Із таго, што Марка Пола карыстаецца для наймення кітайскіх месцаў цюркскімі або пярсідзкімі словамі, вынікае, што ён ніколі ў Кітаі не быў і карыстаўся паведамленнямі пра яго із іншых крыніц.

На прыканцы прывядзем некаторыя месцы із кнігі.

Глава 2. "У той час, калі Балдуін быў імператарам у Канстантынопалі, г. азн. ў 1250 годзе, два браты Мікалай Пола, бацька Марка , і Мацвей Пола – знаходзіліся таксама там;. былі яны з добрага роду, разумныя і кемлівыя. Параіліся яны паміж сабой. Ды і вырашыліісьці ў Вялікае мора за нажывай, ды за прыбыткам. Накупілі розных каштоўнасьцей ды паплылі із Канстантынопаля ў Салдацік (Судак)", г. азн. месцам іхнага пастаяннага знаходжання была не Італія.

Глава 8. "... Загадаў потым вялікі хан прыгатаваць на турэцкай мове граматы для выпраўлення да апостала, передаў іх братам... ды даручыў ім так жа і на словах перадаць ад свайго імя апосталу. У пасланніцкай грамаце ды на словах значылася,

ведайце, вось што: прасіў вялікі хан апостала выправіць да яго каля ста хрысьціян, разумных, у сямі мастацствах дасведчаных, у спрэчках спрытных, такіх, якія б змаглі ідалашануючым і людзям іншых веравызнанняў талкова давесьці, што ідалы ў іхных дамах, якім яны моляцца, – справа дз'яблава, ды распавялі б язычнікам разумна і выразна, што хрысьціянства лепш іхнай веры...". Чаму гэтую грамату была патрэба пісаць на турэцкай мове? Гэтая мова чужая і аўтару пісьма і адрасату, ды і навошта яму хрысьціяне?

Глава 10. "... дома Мікалай даведаўся, што яго жонка памёрла і пакінула яму дванаццацігадовага сына Марка, пра якога гаворыцца ў гэтай кнізе". Гэта пасьля 19-гадовай адсутнасьці!

Глава 17. "... паведамлю вам па праўдзівай праўдзе, без лішніх слоў, пражыў Марка з вялікім ханам 17 гадоў і ўвесь гэты час хадзіў у пасланніцтвах".

Глава 71. "на поўнач ад Каракарана і ад Алтая, ад той мясьціны, дзе, як я паведамляў, хаваюць татарскіх цароў, ёсць раўніна Бангу, яна працягваецца на 40 дзён. Народ тамашні дзікі і мае назву мекры (тлумачальнікамі дакладна не вызначаны), займаюцца жывёлагадоўляй, шмат у іх аленяў; на аленях, скажу вам, яны ездзяць. Норавы іх і звычаі тыя ж, што і ў татар; яны вялікага хана. Ні хлеба, ні віна ў іх няма. Летам у іх ёсць дзічына і яны палююць і на звяроў, і на птушак; зімой ад вялікага холаду там не жывуць ні звяры, ні птушкі". Калі зімой там ніхто не жыве, то як там жывуць алені? Бо ездзяць на іх не верхам, а запрагаючы ў лёгкія сані, а для гэтага пажадана мець снег.

"Праз 40 дзён – мора-акіян, там жа горы, дзе сокалы-пілігрымы ладзяць гнёзды. Няма там, ведайце, ні мужчыны, ні жанчыны, ні звера, ні птушкі, а толькі адна птушка, завуць яе баргкенлак, сокалы ёю кормяцца; яна з курапатку, а ножкі як у папугая, хвост як у ластаўкі, лётае хутка. Калі вялікаму хану спатрэбяцца такія сокалы, ён выпраўляе за імі туды. У тым моры ёсць выспы, дзе водзяцца крэчаты. Месца тое, скажу вам па праўдзе, так далёка на поўнач, што поўначная зорка застаецца ззаду на поўдзень. Птушак гэтых, якія водзяцца на той выспе, скажу вам яшчэ, вялікае мноства; у вялікага хана іх столькі, колькі ён пажадае, і не думайце, каб тыя, якіх прыносяць із хрысьціянскіх краін да татараў, даставаліся яму; тых нясуць у Левант, да Аргуна і да іншых левантскіх князёў". Каб Палярная зорка засталася ззаду, патрэбна пераваліць праз Паўночны полюс.

Глава 72. "Ад таго Канчыпу, пра якога вам ўжо паведамляў, едзеш 5 дзён, і шмат тут духаў, начамі яны часьцяком размаўляюць, а праз 5 дзён на ўсход – царства Ергінул вялікага хана; яно з’яўляецца часткай Тангуцкай вялікай вобласьці, дзе шмат царстваў. Жывуць тут хрысьціяне-нестарыяне, ідалапаклоннікі, ёсць і такія, што Мухамеду моляцца. Дастаткова тут гарадоў". Вось яны цуды. І сёння там няма ніякіх царстваў і гарадоў, акрамя пастаўленых рускімі казакамі, асвайваючых гэтыя месцы.

Пра казачнае багацце гэтых краін. Глава 117. "... Грошы ў іх вось якія: у іх, ведайце, золата ў палачках; развешваюць яны яго на sais, па вазе ўсяму кошт; чаканнай манеты ў іх няма, а дробязь у іх такая: возьмуць соль, зварацць яе і кінуць ў форму, вагой каля паловы фунта; восемдзесят такіх кавалкаў роўныя аднаму sais чыстага золата. Гэта і ёсць іхная дробная манета".

Глава 120. "... на захад ад Караіяна праз 5дзён – вобласць Ардандан. Народ вялікага хана – ідалапаклоннікі. Галоўны горад гэтай мясцовасьці мае назву Ночыян. У тутэйшых людзей зубы пазалочаныя; кожны зуб пакрыты золатам, яны

робяць залатыя злепкі з зубоў і надзяваюць іх на верхнія і ніжнія зубы; гэта ў мужчын, а жанчыны такога не робяць".

"... Адзін sais золата, скажу вам па праўдзе, яны аддаюць за пяць срэбра, таму, што срэбра бліжэй як за 5 месяцаў шляху не знайсьці".

Глава 140. "... на венецыянскі сярэбраны грош тут можна купіць 3 фазанаў".

А вось і поўнае неразуменне эканамічных перадумоў развіцця.

Глава 216. "... У іх вялікія мядзведзі, усе белыя і даўжынёй дваццаць пядзей... На кожнай стаянцы ў іх да сарака вялікіх сабак трохі меншых чым асёл, і гэтыя сабакі возяць пасланнікаў ад стаянкі да стаянкі ад днёўкі да іншай днёўкі". У такіх умовах не можа ўзнікнуць ніякай дзяржавы. А вось апісанне Русі.

Глава 218. "Расія – вялікая краіна на паўначы. Жывуць тут хрысьціяне грэцкага веравызнання. Тут шмат цароў і свая ўласная мова; народ прастадушны і вельмі прыгожы; мужчыны і жанчыны белыя і сьветлавалосыя. На мяжы тут шмат цяжкіх пераходў і ўмацаванняў. Даніну яны нікому не плоцяць, толькі крыху цару Захада, а ён татарын і называецца Так-Тактай, яму яны плоцяць даніну, і нікому больш. Краіна гэтая не гандлёвая, але у іх шмат каштоўнага футра высокага кошту; ў іх ёсць і собалі, і гарнастаі, і вавёркі, і эркаліны, і шмат слаўных лісіц, лепшых у свеце. Шмат у іх срэбных руд; яны здабываюць шмат срэбра.

Пра іншае тут няма чаго і гаварыць, а таму пойдзем із Расіі і паведамім вам пра Вялікае мора, пра навакольныя мясцовасьці і пра тамашніх жыхароў. Пачнём з Канстантынопаля.

... Хачу паведаміць пра Расію нешта, што я забыўся. Ведайце, па праўдзівай праўдзе, самы вялікі холад на сьвеце ў Расіі; цяжка ад яго схавацца. Краіна вялікая, да самога мора-акіяна; і на гэтым моры ў іх некалькі выспаў, дзе водзяцца крэчаты і сокалы-пілігрымы, усё гэта вывозіцца ў разныя краіны свету. Ад Расіі да Нарвегіі шлях не доўгі, і калі б не холад, дык туды можна было б хутка дайсьці, а праз вялікі холад туды хадзіць не лёгка".

У главе 226 апісана бітва на Косавым полі 15 ліпеня 1389 г. Хан Берк – гэта Барыс.

# Глава IV.

## Ватыканскія архівы пра татарскае іга.

(напісана пры супрацоўніцтве з праф. В. Р. Мрочакам)

Я не меў магчымасьці асабіста перагледзець папскія архівы ў Ватыкане, але ў гэтым і няма патрэбы.

Яшчэ ў 1841 годзе ў Пецярбургу выйшла кніга А. Я. Тургенева: "Гістарычныя помнікі пра Расію, выпісанныя із архіваў і бібліятэк іншаземных народаў"[324]. Яны былі прагледжаны для мяне маім супрацоўнікам па Дзяржаўнаму Навукова-Даследчаму Інстытуту імя Лесгафта праф. В. Р. Мрочакам, выбраўшым з іх усё істотнае, і я тут карыстаюся яго выпіскамі, прыводзячы ў фактычнай частцы яго ўласныя словы, а таксама і некаторыя яго думкі ў сувязі з маімі ўласнымі.

Том першы гэтага цікавага падбору актаў зьмяшчае выпіскі із Ватыканскага закрытага архіва і із іншых рымскіх бібліятэк і архіваў, з 1075 па 1584 гады. Гэтыя выпіскі былі складзены на прыканцы XVIII стагоддзя абатам Альбетрандзі для

[324] Historia Russia Monumenta ex antiquis exterarum gentium archivis et bibliothecis depromta.

польскага караля Станіслава Панятоўскага. Імі карыстаўся гісторык Нарушэвіч, а затым часткова і Карамзін. Асобнік гэтых "выпісак" быў падораны польскім каралём рускаму пасланніку ў Варшаве – Я. І. Булгакаву, а ад яго перайшоў да надрукаваўшага яго камергера А. Я. Тургенева. У далейшым Тургенеў сабраў, акрамя таго, вялікую калекцыю актаў у Германіі, Італіі, Францыі, Англіі, Швецыі і Даніі.

Усе ватыканскія выпіскі засведчаны подпісам тамтэйшага загадчыка "Таемнага Архіва", графа Марыно Марыні і архіўнай пячаткай.

Але, – як гаворыцца ў прадмове Археаграфічнай Камісіі, надрукаваўшай гэты зборнік, – "у ватыканскім архіве ляжыць больш за два мільёны адных папскіх бул, і захоўваюцца, пачынаючы з VII стагоддзя, усе стасункі Рыма з іншымі дзяржавымі..." Таму можна задаць пытанне:

– Ці надрукаваны ў згаданым зборніку А. Я. Тургенева ўсе паперы, якія маюць дачыненне да рускіх спраў пад час "татарскага іга", ці ж там ёсць і іншыя дакументы, якія яшчэ да гэтага часу лежаць пад спудам?

Што ж да сапраўднасьці "актаў", то частка з іх аспрэчана самім складальнікам "Зборніка". Дастаткова паказаць, што стасункі Рыма з іншымі дзяржавымі вяліся, нібыта, з VII стагоддзя, г. азн. з часу, калі яшчэ не было ні рымскай, ні іншых дзяржаў, за выключэннем Візантыі.

Аднак і тых папскіх пасланняў да рускіх князёў, якія прыведзены Тургеневым, цалкам дастаткова для нашай мэты: паказаць, што ў Ватыкане – Доме Хана[325] – лічылі рускія княжаствы ўніяцка-каталіцкімі, хаця і адпадаючымі калі-нікалі, дзякуючы дзейнасьці грэцкага святарства, да праваслаўя, за што не аднойчы і зведвалі караючыя экспедыцыі сваіх верных каталіцтву суседзяў, пры дапамозе Тэўтонскага, Храмаўнічага і іншых рыцарскіх ордэнаў (на лаціне – ordo), а па-руску – татрскіх ордаў.

Першыя два пасланні ў якіх гаворыцца пра Расію, прыпісваюцца Рыгору VII і пазначаны 1075 годам.

Адно з іх адрасавана "да рускага цара" Зьміцера (ці не да Зьмцера Самазванца) і да царыцы – яго жонкі[326]. Папа паведамляе ў ім, што сын "цара" (regis) прыбыў у Рым з прашэннем зацьвердзіць яго спадкаемцам рускага пасада, і што Рыгор VII пагаджаецца на гэта і выпраўляе ў Расію сваіх легатаў для далейшым перамоваў.

Другі ліст адрасаваны Балеславу, герцагу Польскаму (Boleslao Duci Poloniorum), і ў ім, між іншым, папа раіць вярнуць грошы "цару русаў" (Regi ruscorum).

Але тут, з боку гледжання звычайнай храналогіі, застаецца незразумелым, чаму Балеслаў называецца "правадыр", г. азн. герцаг, што значна бліжэй да наменклатуры феадальных князёў, а Зьміцер названы "rex"? Чаму "кароль рускаў" выпраўляў сына ў Рым, калі ўжо з 1054 гада ўсходняя і заходняя цэрквы падзяліліся? І Балеслаў II Сьмелы, толькі ў 1076 годзе (а не ў 1077) ускладў на сябе каралеўскі вянец са згоды Рыгора VII.

І, акрамя таго, чаму ў зборніку маецца такі вялікі перарыў ад 1075 да 1207 года? Ведаючы гісторыю Захаду і буйныя падзеі на Ўсходзе, якімі з’яўляюцца крыжовыя паходы I, II, III і IV-ы, барацьбу Рыма і "франкаў" з Візантыяй, нарэшце,

---

[325] Яшчэ раз нагадаю, што слова Ватыкан згодна з біблейскай транскрыпцыяй ВІТКЕН, складаецца із ВІТ – дом і КЕН, інакш Хен – хан, г. азн. сьвятар.

[326] І ў загалоўку паслання, і далей у тэксце ўсюды " Ad Demetrium regem ruscorum et ad reginam uxorue ejus".

заваяванне Візантыі ў 1203-1204 гг. і яе феадалізацыю франкамі, міжволі задаеш пытанне: а хіба Расіяй і, ў прыватнасьці, Кіеўскай Руссю – папства не цікавілася?

Па сукупнасьці ўсіх "абставінаў справы" тут магчымы толькі адзін адказ:

Абодва гэтыя пасланні мюць дачыненне не да Рыгора VII Гільдэбранда (1073-1086)[327], ўпершыню ўсталяваўшага забарону адружання для каталіцкага святарства і загадаўшага называць рымскіх першасвятароў не "вялікімі пантыфексамі" (г. азн. Вялікімі выявіцелямі)[328], як у класікаў, а папамі, г. азн. айцамі. Яны маюць дачыненне да Рыгора IX (1227-1241), альбо да Рыгора X (1271-1276), якія жылі ў разгар татрскага іга, працягваўшагася ў Расіі з 1237 па 1502 гады, і аднесены да часоў Рыгора VII адным із пазнейшых класіфікатараў Ватыканскага архіва грунтуючыся на нейкіх тэндэнцыйных меркаваннях, хаця бы дзякуючы "дзіўнай павазе да старажытнасьці".

Але справа ў тым, што пры Рыгоры VII у Ноўгарадзе не было князёў, а была рэспубліка з вечавым кіраваннем. Маскоўскага і Ўладзімірскага княстваў яшчэ не існавала, і было толькі ўкраінскае, Кіеўскае княства, у якім княжыў пры Рыгоры VII зусім не Зьміцер, а Ізяслаў Яраславіч... І вось да гэтага месца Тургенеў робіць заўвагу: "Зьміцер – гэта вялікі князь Ізяслаў"(!!!).

Чаму такое дзіўнае атаясамленне? – Толькі таму, што Ізяслаў княжыў з цяжкасьцямі паміж 1054 і 1078 гадамі ў Кіяві і, нібыта, у 1075 выправіўся ў Германію да Генрыха IV і потым да папы прасіць дапамогі супраць сваіх супернікаў Святаслава і Ўсевалада, і з дапамогай каталікаў-палякаў – вярнуў сабе Кіеў у 1077. Усё гэта, вядома, сведчыць пра тое, што і Ізяслав Яраславіч быў уніят, але ж у лісьце папы, нічога не гаворыцца пра зацверджанне яго самога або пра абставіны яго жыцця.

Зразумела, што становішча гісторыка тут безнадзейнае, калі із павагі да дакументальнасьці ён будзе пераконваць "розуму насуперак, наперакор стыхіям", што рымскі папа адказваў Ізяславу, не ўдакладніўшы папярэдне яго імя ад прыехаўшага сына, і што сын узяў такі ліст, адрасаваны яго бацьку на чужое імя.

А з нашага боку гледжання на "татарскае ярмо" усё ўпарадкуецца. Станавіцца відавочным, што гэты ліст належыць не «першаму папе" Рыгору VII, цараваўшаму (калі наогул зручна ў дачыненні да пап ўжываць тэрмін "царавацць"? Паколькі характар іхнай улады быў своеасаблівым і яе немагчыма ўціснуць у рамкі звычайнага ўяўлення пра цароў. Ці не лепш ўжываць тэрміны: папа, папства, папстваваць ) у Рыме ад 1073 па 1086, а каму-небудзь із двух пазнейшых Рыгораў: ці Рыгору IX, сядзеўшаму на папскім пасадзе ад 1227 па 1241 год, г. азн. як раз пры лацінскай феадальнай імперыі, заснаванай крыжакамі на парэштках разбуранай імі Рамеі-Візантыі, і ў разгар націску каталіцкіх, рыцарскіх і манаскіх ордэнаў (гэтых, з боку гледжання славян і візантыйцаў, дзікіх ордаў тартарскіх) на праваслаўныя землі. На карысць гэтага сведчыць тая акалічнасць, што як раз пры "Рыгору Дзявятым" (1227-1241) жыў юр'ева-польскі князь Зьміцер Святаславіч, браўшы ўдзел у паходзе Аляксандра Неўскага на Вялікі Ноўгарад у 1255 годзе і памёршы, пастрыжаным у манахі ў 1267 годзе. Час яго нараджэння ў дакладнасьці невядомы, але калі мы выкажам здагадку на падставе яго далучэння да ханжаства, як бывае галоўным чынам у старэчым узросьце, што ён памёр у кляштары не раней 67 гадовага ўзросту, г. азн. нарадзіўся не пазней 1200 года, і што ў яго самога нарадзіўся нашчадак не раней, як на 23 годзе яго жыцця, то ў апошні год папства

---

[327] Нагадаем, што нумарацыя аднолькавых імёнаў прыдумана гісторыкамі толькі ў найноўшы час.

[328] Pontifici Maximi ад patefacio (выяўляю, высвятляю) – волю нябёсаў.

Рыгора IX (каля 1241 года) гэтаму спадкаемцу было б не менш за 18 гадоў, і ён як раз мог бы паехаць у Рым для свайго зацверджання папай у правах спадкаемства, калі гэта сапраўды залежала ад "папы" па-руску "Бацяя", пераіначага пазней у "Батыя", і калі пад Сараем, г. азн. Царуючым горадам, разумець не нейкі Сарай у закаспійскіх стэпах, а "Дом Хана" – Ваты-Кан, жыллё теакратычнага цара-цароў[329].

Ці ж ліст "да Зьміцера, цара рускіх і да яго жонкі царыцы" належыць Рыгору X (1271-1276), так як у гэты самы час жыў Зьміцер Аляксандравіч, сын Аляксандра Неўскага, вялікі князь Уладзімірскі (1246-1294). Калі мы дапусьцім, што ліст папы да яго быў напісаны ў 1276 годзе, то Зьміцеру ў гэты час было гадоў 30, сыну яго гадоў 10, і ён мог выправіць яго ў Рым для добраславення папай Рыгорам разам з канонікам-гувернёрам. Толькі тады ўсё і ўпарадкуецца, але пры дапушчэньні, што Русь была тады ўніяцкай.

Дакладна тое ж самае можна сказаць і пра ліст папы Рыгора да польскага герцага Балеслава.

Герцаг (dux) Балеслаў, якому папа загадваў вярнуць грошы рускаму цару, ніяк не польскі кароль (rex) Балеславаў II Сьмелы (1058-1080), як лічаць класіфікатары, а сапраўды герцаг (dux) Балеслаў II Сарамлівы (1226-1279), які ўжо з дзевяцігадовага ўзросту (з 1233 года) кіраваў "Малой Польшчай", адным із феадальных надзелаў распаўшагася ў 1150 годзе Першага Польскага каралеўства, чым і тлумачыцца ўжыванне папай тытула герцаг, што было б недарэчным у дачыненні да караля Балеслава Сьмелага, які жыў у XI стагоддзі, а цалкам дапасуе згодна з часам да Балеслава II.

Гэтым жа "астаражыцьваннем" пазнейшых дакументаў тлумачыцца і адзначаны праф. В. Р. Мрочакам "перарыў" згадак у польскіх пасланнях пра Расію ад 1075 да 1207 гадоў, г. азн. на працягу амаль паловы стагоддзя. Ніякага перарыву на самай справе не было, так як і гэтыя абодва дакументы былі напісаны ўжо пасьля 1207 года. Цікавасць папскага пасада да рускіх спраў магла пачацца толькі з часу разрабавання кіеўскіх праваслаўных кляштароў відавочным крыжаком і варагам Рурыкам Расьціслaвічам, ў 1205 годзе, амаль адначасова з узяцьцем Цар-Горада крыжакамі ў 1207. Гэты Рурык і даў нагоду да ўзнікнення міфа пра Рурыка, Сіневуса і Трувора.

І так, сам Ватыканскі архіў сведчыць, што "пякельнае ярмо" прыйшло не із Азіі ад манголаў, а із Рыма, і што рускія князі ў сваіх правах на княжанне зацверджваліся не мангольскімі князямі, прыкачаваўшымі із пустыні Гобі, а самімі рымскімі папамі.

Паглядзім зараз і на далейшыя папскія лісты. Наступныя пасланні, пачынаючы з 1216 года, накіраваны ордэнам: Гаспітальераў і Тэўтонскаму, для далучэння да каталіцызму, а затым і замацавання Лівоніі, Эстоніі і Прусіі. Засноўваецца новая вобласць "Семігалія", г. азн. Паловуфранцыя (!!), лічымая зараз за частку Курляндскага герцагства, прычым з 1231 года біскуп Сямігальскі

[329] Яшчэ раз нагадаю, што слова "Сарай" паходзіць ад біблейскага слова САР – цар, адкуль і імя Сара – царыца, і ангельскае слова сэр, і французкая назва гасудара sir, не кажучы ўжо пра рускае слова цар. А слова хан было ў старыну назвай і рымскага папы, як відаць із наймення самога яго жытла ў Рыме – Ваты-кан г. азн. Дом-хана. Адносна паходжання гэтай назвы не можа быць сумневаў. Першая яе частка "ваты" з'яўляецца трансфармацыяй еўрапейскага слова БІТ, вымаўлямага зараз як "байт" у значэнні "дом", "храм", адсюль французское bater-будаўнік таксама habiter – насяляць і стара-руская назва кляштара – абіцель і горада Віфлеема (Bethlehem) – Дом-Хлеба. Усюды корань "БТ" інакш "ВТ". А "Кан", "Хан" і "Кен" толькі розныя вымаўленні слова сьвятар.

прызначаецца папскім легатам у Лівоніі, Гатландыі, Вінландыі, Эстоніі, Сямігаліі, Курляндыі і ў іншых правінцыях новадалучаных і язычнікаў.

Пра рускіх і русінаў (Rutheni) – згадваецца ў шэрагу пасланняў з 1222 года, як пра каталікоў, або як пра грэцкіх сектантаў. З пасланняў Ганорыя III відаць, што ў Расіі (Russia) былі каталіцкія біскупы, падначаленыя легату Сямігальскаму (г. азн. Курляндскаму).

З 1226 гада Лівонскаму ордэну (у тэксце: Магістру і братам Хрыстовага ваярства ў Лівоніі)[330], дадзены дазвол набіраць місіянераў, прыбываючых для абароны веры і яе распаўсюджвання, і пакідаць іх на службе ў сваіх замках.

І зноў дзіўнае, з боку гледжання мангольскага іга, пасланне ад лютага 1227 гада Ганорыя III (1216-1227) "да ўсіх цароў Расіі"[331], дзе гаворыцца пра выпраўленне лягата для зацверджання іх у веры каталіцкай, калі яны прызнаюць свае памылкі і будуць гатовы ад іх адмовіцца, а таксама прапаноўваецца гэтым "рускім царам" захоўваць трывалы мір з каталікамі Лівоніі і Эстоніі[332], і гаворыцца:

"Вашы пасланнікі, выпраўленыя да нашага глыбокашануемага легата, біскупа Модэнскага, прыніжліва прасілі яго, каб ён асабіста наведаў вашы краіны".

А праз чатыры гады, у 1231 годзе папа Рыгор IX (1227-1241) піша Рыгору, прэслаўнаму цару Расіі, павучанне, "каб і ён адмовіўся ад грэцкіх і русінскіх звычаяў[333], выратаваў сваю душу і ўсталяваў у сябе хрысьціянства згодна з "лацінскім звычаем", гэта азначае, толькі Рыгор вагаўся тады паміж грэцкім і лацінскім ўплывамі!

І як раз у гэты час мы знаходзім Рыгора (інакш Юр’я Ўсеваладавіча (1187-1238), пра якога звычайная версія рускай гісторыі выказваецца так: "З 1219 года ён стаў вялікім князем уладзімірскім, удала ваяваў з баўгарамі, заснаваў Ніжні Ноўгарад, выправіў сына княжыць у Вялікі Ноўгарад у 1237 годзе (г. азн. праз 6 гадоў пасьля разглядаемага намі ліста да яго папы Рыгора IX), адмовіў разанцам ў дапамозе пры іхным паўстанні супраць "бацюшкі" (Батыя), а ў 1238 годзе сам загінуў у бітве супраць яго каля ракі Сіць, прытоку Мілогі..."

І вось, я зноў запытваю: як гэта пагадніць з мангольскім ігам, калі яно было сапраўды мангольскім, а не каталіцкім, прызнаваемым большасьцю рускіх князёў, але не без асобных спробаў ад яго пазбавіцца, пры падбухторванні грэкаў?

У наступным 1232 годзе мы маем шэраг пасланняў, якія рэгулююць польска-рускія дачыненні: пра забарону адружванняў паміж каталікамі і рускімі (ці не рутэнамі?), так як чалавекі перахрышчваюць жонак у праваслаўе; пра збегшых сялян, ратуючыхся із Польшчы ў Прусію і Расію (ці не ў Рутэнію?); пра забарону польскаму архібіскупу і іншым прэлатам падчас вайны карыстацца дапамогай сарацынаў, русінаў[334] і іншых ворагаў каталіцкай веры, а таксама, ці будзе карысным перанясенне арцыбіскупства Галіцкага ў іншы горад мясцовасьці, так як Галіцыю з усіх бакоў атачаюць тартары[335] (г. азн. татраўцы) і літуаны і схізматыкі із

---

[330] Magistro et Tratribus Milisiae Christi in Livonia.

[331] Universus regibus Russiae.

[332] Georgio Illustri Redi Russiae.

[333] Graecorum et Ruthenorum mores.

[334] Sarracenos Rutenos ET Alios catholice Fidei inimicos.

[335] Я взяртаю ўвагу чытача на тое, што Rutten і зараз нямецкая назва вугорскага славянскага насельніцтва, з мовай блізкай да ўкраінскай, якое жыве на абодвух схілах Карпат і Татраў, а таксама ў Галіцыі (г. азн. Французіі!) і Букавіне.

іншых краін[336], а далей гаворыцца пра разныя ільготы ордэну прапаведнікаў (дамініканскаму), пацуючаму ў Расіі (in Russia).

І тут зноў нечаканасць, калі глядзець на справу з ранейшага боку гледжання. Падумайце самі: Якое ж тут мангольскае ярмо?

"У Расіі (in Russia) працуе ордэн (а не арда) прапаведнікаў дамініканцаў, а русіны (Ruthenes) атаясамляюцца яшчэ з царэўцамі (сарацынамі[337]), ворагамі каталіцызма, а Галіцыю атачаюць тартары і схізматыкі із іншых краін".

Ці не выцякае із гэтага, што насельнікі Татраў у 1232 годзе, г. азн. нават праз 9 гадоў пасьля бітвы на Калцы, былі яшчэ арыянамі, г. азн. згодна з нашым атаясненнем, зробленым у першых тамах гэтага даследавання, прытрымліваліся Аронава закона? І калі мы згадаем пра вялікую колькасць жыдоў, насяляючых гэтыя мясьціны нават і зараз[338], дык не здзівімся такой здагадцы. А назва бітвы на Калцы – бітва рускіх з тартарамі, магла быць дадзена дзякуючы асіміляцыі наступных пакаленняў татраўцаў, якія перайшлі ў каталіцызм.

Затым, у 1234 годзе папа прынімае пад заступніцтва св. Пятра нейкага Ўльрыха, яго братоў і іншых каталікаў ў Кіяві (Kiob) і папярэджвае Сандамірскае біскупства ў Польшчы, каб яно ахоўвала такіх людзей.

У 1237 годзе папай аб'ядноўваюцца два ордэны – Тэўтонскі (заснаванны яшчэ ў 1128 годзе для абароны Палестыны) і Мечаносцаў (заснаваны лівонскім біскупам Альбрэхтам ў 1200 годзе). Тэўтонскі ордэн перабраўся із Палестыны ў Яўропу яшчэ на пачатку XIII стагоддзя і спачатку ўсталяваўся ў паўднёва-ўсходняй частцы Трансільваніі, але ў 1224 годзе кароль Андрэй II Вугорскі пасварыўся з ім і ордэн перебраўся ў Польшчу – ваяваць з русамі. Згодна з дамовай 1230 года ён атрымаў у карыстанне Кульмскую вобласць каля ніжняй Віслы, і ў 1234 годзе папа Рыгор IX абвясьціў яго ўладанні "ўласнасьцю св. Пятра" і "ленам рымскай царквы". Яшчэ раней, у 1226, германскі імператар, Фрыдрых II (1215-1250), знакаміты сваёй сваркай з папай Рыгорам IX, які адлучыў яго ад царквы, даў паўнамоцствы гросмайстэру гэтага "Тэўтонскага ордэна" Герману фон Зальце, "завяваць па-рускую зямлю", аддаючы "назаўсёды яму, яго пераемнікам і ордэну ўсе землі, якія ён атрымае ад Польшчы і якія заваюе сам".

Пасьля аб'яднання Тэўтонскага ордэна з ордэнам Мечаносцаў атрымалася магутная прыбалтыйская каталіцкая дзяржава. Асобнае пасланне Рыгора IX у 1238 годзе апавясьціла біскупаў Рыжскага, Дэрптскага і Эзельскага[339] пра прыняцце гэтага аб'яднанага ордэна Крыжакоў пад асаблівае заступніцтва папы, каб ордэн быў наймацнейшым супраць ворагаў. А акрамя таго, было выпраўлена асобнае пасланне – пра тое ж – папскаму легату ў Прыбалтыцы, біскупу Модэнскаму.

Пасьля гэтага, у зборніку Тургенева няма ніякіх пасланняў да крыжакоў у славянскіх землях, аж да 1243 года, калі ім даецца шэраг прывілеяў і павучанняў.

І вось зноў паўстае пытанне: а дзе ж знакамітае татарскае нашэсьце на Расію, Польшчу, Вугоршчыну, Чэхію, запаўняючае згодна з нашымі сучаснымі "падручнікамі гісторыі" як раз ўвесь гэты прамежак часу? Хіба папы на яго ніяк не рэагавалі?

---

[336] Infideles tartaros et Lithuanos etiam infideles et schismaticas ex aliis partibus.

[337] Корань гэтага слова sar – цар.

[338] Нагадаем хаця бы Бесарабію. Гэтая назва паходзіць ад слова "байса", мясцовага вымаўлення жыдоўскага слова "біта" – дом, храм, і ад "арабі" – араб, у суме Байс-арабія – дом арабаў, якія хрысьціянамі блыталіся з юдэямі.

[339] Episcopos Rigensem, Tarbatensem et Ociliensem.

Відавочна Ваты-Кану (дому Хана) нічога не было вядома пра заволжскіх ханаў і каталіцескім ордэнам пра заволжскую арду!

Праўда, што з 1241 года папам было нялёгка. Ішла барацьба Фрыдрыха II з папствам за Італію; Рыгор IX ледзь не стаў палонным сарацынаў (г. азн. на руску - цараўцаў), спусташаўшых гэтую краіну пад сьцягам германскага імператора, і толькі сьмерць выратавала яго ад прыніжэння. Праўда, што і спадкаемца Рыгора IX, Інакенцій IV, быў вымушаны часова бегчы ў Францыю... Але ж некалькі дзясяткаў гадоў татарскага нашэсьця не маглі б не адбіцца на справах і Заходняй царквы! Чаму ж у зборніку "выпісак із Ватыканскага сакрэтнага архіву" і з іншых рымскіх архіваў і бібліятэк, так дбайна сабраных А. Я. Тургеневым, няма пра гэта ніводнага дакумента? Ды і далейшыя папскія лісты пасьля 1243 гада таксама не згадваюць пра знакамітае татара-мангольскае нашэсьце, цікавячыся дробнымі пытаннямі. Так, у 1246 годзе, ігнаруючы "іга", папа дае права свайму легату, арцыбіскупу Прусіі, Лівоніі і Эстоніі, прызначаць біскупаў у рускіх краінах. Затым, із Ліёна, у траўні 1246 года, папа піша "Цару Росіі (Regi russiae – імя не пазначана) пра прынянцце яго (нягледзячы на ярмо!) пад заступніцства св. Пятра і папы, і пра выпраўленне пастаянных духаўнікаў, з паўнамоцтвамі" як у тых, якія прызначаны да Тартараў (г. азн. відавочна да татраўцаў). Гэта – два дамініканцы із Багеміі (па-руску Чэхіі) – брат Алексій і яго таварыш, імя якога адсутнічае.

Але як жа можна было так пісаць, калі "рускія цары" ў той час былі "грэцкага веравызнання", ды яшчэ пад мангольскім ігам?

У тым жа 1246 годзе мы бачым дзіўнае пасланне папы Інакенція IV "Яну прэслаўнаму цару Расіі"[340], пра далучэнне яго да каталіцтва, згодна з прашэннем самога Яна, для чаго выпраўляецца папскі легат, арцыбіскуп Прусіі і Эстоніі[341].

Адначасова гэты легат можа даць парады і супраць "тартар". Пасланне датавана 5 траўня із Ліёна.

Гэтае пасланне адносяць да 1246 года, і прыпісваецца яно Інакенцію IV (1243-1294), але вось зноў гістарычная неадпаведнасць: ніякага "Яна прэслаўнага цара Расіі" у гэты час не было і ў згадках, а быў талькі пры папе Інакенціі VI (1352-1362). Гэта быў вялікі князь Маскоўскі і Уладзімірскі Ян II Лагодны (1326-1358), сын Яна Каліты, збіральніка Зямлі рускай, ажыццяўляўшага гэтае збіранне, быццам бы, пры дапамозе не папскіх рыцарскіх ордэнаў, а мангольскіх ордаў. Ды і сам Ян II, кажуць нам, "атрымаў ярлык[342] на вялікае княжанне" ад хана і змагаўся да 1359 года з непрызнаваўшымі гэты ярлык разанскім, суздальскім і наўгародзкім князямі".

І вось зараз з новай боку гледжання выяўляецца, што ён атрымаў "ярлык" ад хана із Ватыкана, ад папы Інакенція VI, і быў не праваслаўным, а каталіком... ды і бацька яго збіральнік зямлі рускай – таксама.

І зразумела, што для пагаднення гэтай перапіскі з усталяваўшыміся пазней уяўленнямі пра "татарскае іга" давялося перадаць толькі што прыведзены ліст замест Інакенція VI Інакенцію IV, ды і то з дэфектам, так як у той час не было ніякага "рускага цара Яна".

Не лепш ідзе справа і з наступнымі лістам.

Пад 1246 годам прыводзіцца перапіска Інакенція IV з Данілам Галіцкім, яго братам, а таксама з арцыбіскупам Расіі, Лівоніі і Эстоніі з нагоды прывядзення

[340] In Russiae partibus.

[341] Ioanni illustri redi Russiae.

[342] Ehplage – ганаровае становішча, хаця зараз такое слова і не ўжываецца ў германцаў.

караля Данілы і ўсяго народа да ўніі (a fidei unione). Але ўжо ў 1257 годзе, папа Аляксандр IV дакарае Данілу за ўхіленне ад каталіцства. Далейшае іхнае ліставанне невядома, так як пасьля гэтага ліста да 1284 гада ў зборніку Тургенева матэрыялаў няма, але ўвогуле гэта і павучальна.

Даніла Раманавіч (1201?-1264), сын Рамана галіцка-валынскага, вёў, кажуць нам, спачатку "вандраўнічае жыццё", верагодна ў сувязі з крыжовымі паходамі. Затым ён адружыўся на дачцэ Мсціслава Ўдалога і ў 1223 годзе галічане прызвалі яго да сябе на княжанне. Ён, кажуць нам, "паехаў у "Арду", дзе зычліва быў прыняты ханам". Але ехаць із Галіцыі ў заволжскі стэп, каб прадставіцца нейкаму князьку вандруючых за Волгай манголаў, было б магчымым толькі ў выпадку страты ім розуму, а таму, як гэта падцвярджаецца і толькі што цытаваным мной лістом папы, ён ездзіў не ў арду, а ў ордэн (ordo), а затым пасьля сьмерці Інакенція IV і ўступлення на рымскі пасад папы Аляксандра IV (1254-1261) ён "адпаў ад Рыма", чым і тлумачыцца і першае, і другое із прыведзеных Тургеневым лістоў.

Цікавы таксама і ліст Інакенція IV ад 1248 г. да Аляксандра Неўскага с дзіўнай прапановай: доблеснаму мужу Алендру герцагу Суздальскаму[343] пра злучэнне з каталіцкай царквой, і пра сувязь з Тэўтонскім ордэнам супраць "тартар"...

Са словаў "доблеснаму мужу Алендру герцагу Суздальскаму" відаць, што папа не лічыў Аляксандра вялікім князем. Сапраўды, толькі праз чатыры гады пасьля гэтага ліста, у 1252 годзе Баця-хан, г. азн.., згодна з нашым меркаваннем, сам жа рымскі папа Інакенцій IV зацвердзіў яго вялікім князем Уладзімірскім. А да таго часу ён у вачах папы мог быць толькі "прэслаўным мужам", ваяваўшым на правах феадальнага ўладальніка са шведамі і лівонскімі рыцарамі, як і іншыя каталіцкія валадары паміж сабой пры "малітвах папскай царквы за той і другі бок". А што да выказвання "супраць тартар", г. азн. пякельных людзей, то тут маглі мецца на ўвазе і не татраўцы, а проста магаметане.

Вось усё сбраныя Тургеневым выпіскі із "сакрэтнага Ватыканскага архіва" пра рускія справы пад час існавання Лацінскай імперыі на Балканскай паўвыспе і націску рыцарскіх і манаскіх ордэнаў на славянскія і рускія землі.

Мы бачым, што яны не толькі не аспрэчваюць, а самым сапраўдным чынам падцверджваюць маю выснову, зробленую на падставе грунтоўнага даследавання рускіх летапісаў і прывядзення іхных паведамленняў у пагадненне з гісторыка-геаграфічнымі ўмовамі, што ніякага мангольскага іга ў нас не было, а было каталіцкае ярмо, і што аж да адмаўлення маскоўскага вялікага князя Яна III у 1480 годзе плаціць даніну папскай царкве (а не манголам) рускія князі з часу ўзяцця Цар-Горада крыжакамі, г. азн. ад 1204 па 1480 гады, былі ўніятамі, а потым пачалі называць гэты перыяд "татарскім", г. азн. татрскім або па-грэцку – пякельным (тартарскім) ярмом.

# Глава V

## Абдул Газі Багадур-хан і яго кніга пра азіяцкіх татараў.

Гэтая кніга выйшла пад выглядам французкага перакладу із рускай мовы ў 1726 годзе ў Галандыі ў Лейдэне пад загалоўкам: Histoire genealogique de Tatars, дзе

[343] Nobili viri Alendro duci susdaliensi.

гаворыцца наступнае: (із ананімна зробленага перакладу паэта Васіля Кірылавіча Траццякоўскага ў 1770 годзе з гэтага ўжо перакладу на рускую мову і ў 1854 годзе Саблучавым "Радаводная гісторыя пра татараў...").

Вось што гаворыцца ў прадмове да яе. "Толькі на прыканцы мінулага стагоддзя (г. азн. каля 1690 года, хаця першае выданне кнігі Плана Карпіні і выйшла ў 1598 годзе) началі намагацца (у Заходняй Яўропе) мецць сапраўдныя паведамленні пра гэтую прасторную зямлю, і мы павінны падзякаваць расейцаў за іхныя пошукі (??) таму, што без іх мы б доўгі час былі ў тым жа недасведчаным стане пра такую вялікую частку круга зямнога".

Эта кніга была напісана (згодна з яе ўласнымі паведамленнямі) у малавядомым мястэчку Хаюк паблізу Хівы, сынам аўтара, якому ўласнаручна давялося яе перапісваць таму, што мала ёсць вучоных (псьменных) людзей у яго краіне.

Гісторыя гэтай кнігі таксама не простая.

"Што да мяне, Абдулы Багадур-хана, то я выправіў і зрабіў (г. азн. закончыў) гэтую кнігу ў Хагоку ў 1076 годзе (згодна з эрай геджэры, а згодна з нашым злічэннем у 1698 годзе)".

У 1665 годзе гэты рукапіс існаваў толькі ў адным экзэмпляры, напісаным сынам аўтара. Знаходзіўся ў Табольску і знойдзены, нібыта, палоннымі шведзкімі афіцэрамі, накіраванымі для жыхарства ў Табольск пасьля Палтаўскай паразы.

У 1716 годзе была наладжана экспедыцыя ў Хіву пад кіраваннем Аляксандра Бяковіча-Чаркаскага, у якой бралі ўдзел і палонныя шведы. Верагодна, з імі рукапіс і патрапіў у Табольск.

У 1720 годзе ў Пецярбург із Табольска ў Медыцынскую канцылярыю Данілам Готлібам Месершмідтам была выпраўлена пасылка з разнастайнымі рэдкасьцямі, сабранымі палоннымі шведамі – капітанам Матэрнам і лейтенантам Шмідтам. У той пасылцы, ў прыватнасьці, знаходзіўся рукапіс "Гісторыя татар" Абдул-газі Баядур-хана, ужо к таму часу перакладзены капітанам Філіпам Ёганам Страленбергам.

Гэтая гісторыя пра татараў пачынаецца з абвяшчэння Чынгіз-хана вярхоўным ханам манголаў.

Сустракаючыяся ў тэксце ўласныя імёны можна адаптаваць праз іхную транскрыпцыю да германа-лацінскіх і праз сэнс паказаць іхнае паходжанне:

Угадай-хан – прадказальнік.

Туркі – торкі – вугорцы. Туркістан – Вугоршчына.

Бухара – Бухарэст, Балах, Балак – Валахія, Горы з Чарнагорыяй, народ Карлікі – Каралінгі, Улус Хан – рускі князь Фама, Самарканд – Адрыянопаль (Самарканд – Самарыя – вартавы).

Гэта ўсе сляды вядучыя на Захад, а не на Ўсход.

# Глава VI

## Цуды сына арабскаха шаха.

Перайду зараз да іншай не менш характэрнай "мусульманскай" кнігі, маючай загаловак "Цуды прызначэння Божага ў лёсах Жалезнага цара (Тымура хана)"[344], прыпісваемай сыну арабскага шаха (Ібн-Араб-шах).

Напісаны гэты цуд рыфмаванай прозай і, у адрозненні ад іншых арабскіх твораў пра монголаў, не «хаваўся" у выглядзе адзінкавага рукапісу да XIX стагоддзя ў заходне-еўрапейскіх кнігасховішчах без пазначэння ад каго і калі яны туды патрапілі, а згодна з паведамленнем Тызенгаузена, – быў ўпершыню надрукаваны (на лаціне?) Гоніусам ў Лейдэне ў Нідэрландах ў 1636 годзе, а потым Манжэрам ў Лейвардэне (у тых жа Нідэрландах) у прамежку паміж 1767-1772 гг., пры гэтым разам з лацінскім дададзеным (ўпершыню?) і арабскім тэкстам.

Турэцкі пераклад гэтага твора згодна з паведамленнямі Journal Asiatique,, размешчанымі ў 1863 і 1868 гг., быў надрукаваны ў Канстантынопалі спачатку ў 1729[345], потым яшчэ ў 1861 годзе. Акрамя таго, там яшчэ пазначаецца выданне ў Каіры ў 1869 годзе і два выданні ў Калькуце ў Індыі ў 1818 і ў 1848 гг.

Мы бачым, што гэта ўжо быў не невядомы нікому да XIX стагоддзя рукапіс, а старажытна-друкаваны твор, які меў распаўсюджванне. Выклікае здзіўленне толькі, чаму на Лейвардэнскім выданні, дзе, відаць, ўпершыню прыведзены арабскі тэкст, нам паказваецца не дакладны год, а прамежак паміж 1767 і 1772 гадамі, як быццам бы на гэтай кнізе не пазначаны год яе выхаду ў сьвет?

Нам кажуць, што яе аўтар быў сынам арабскага "шаха" і нарадзіўся ў Дамаску ў 1388 годзе, адкуль дванаццацігадовым хлопчыкам быў вывезены ў палон у Самарканд, дзе вывучыў фарсі і мангольскую мову, пабываў у Астрахані, Крыме, Сараі і Адрыянопалі, дзе пазнаёміўся з турэцкай мовай, вёў у якасьці сакратара турэцкага султана Магамета I (1374-1421 гг.) перапіску з яго Дэшт-Кіпчацкім ханам, нарэшце, перабраўся ў Каір, дзе і памёр у 1450 годзе

Устрымаемся ад ацэнкі гэтай біяграфіі (за выключэннем недарэчнасьці выказвання "арабскі шах") і, кіруючыся толькі тым, што першае выданне гэтай кнігі выйшла ў Галандыі ў 1665 годзе, мы можам лічыць доказаным, што напісана яна не пазней пачатку XVII стагоддзя, і таму паведамляе нам уяўленні таго часу, існаваўшыя калі не ў Самарканде, то ў Заходняй Яўропе, пра "Цуды божага прадвызначэння ў лёсах Жалезнага Віцязя Тымура – цара Персіі і Туркестана, які нарадзіўся ў 1333 годзе, пабудаваў Самарканд, захапіў у сваёй вайне з туркамі ў палон іхнага султана Баязета II у Ангоры і захапіў генуэзскія ўладанні на паўночных берегах Каспійскага і Чорнага мораў, і памёр у 1405 годзе.

Гэтыя ўяўленні можна лічыць збольшага адпавядаючымі еўрапейскім паданням, а храналагічныя прыкрасы самі сабой высвятляюцца пры нашым выкладанні.

"Калі, – паведамляе сын арабскага шаха[346], Тахта (які згодна з рускімі летапісамі паграміў у 1382 годзе Маскву), – султан Дэштскі і Татарскі пабачыў, што Тымур забіў Хусейна, кроў яго сэрца закіпела і забушавала з нагоды радства і суседства з Хусэйнам. Сабраў ён незлічонае войска і накіраваўся на вайну з Тымурам, а Тымур выступіў супраць яго із Самарканда. Сышліся яны абодва на ўскрайку Туркестана паблізу ракі Хаджэнскай, г. азн. ракі Сейхун. Паміж абодвума войскамі пачаўся абмен вайсковымі справамі, і млын вайны не перастаў круціцца

[344] Тызенгаузен, т. 1, с. 455.
[345] Першая тыпаграфія была там наладжана ў 1727 годзе, так што калі гэта праўда, то разбіраемую намі зараз кнігу даводзіцца лічыць адной із самых першых турэцкіх кніг, так як у арабаў ніколі не бывала "шахаў".
[346] Тызенгаузен, 1, с. 456.

да таго часу, пакуль не патрушчыў войска Тымурава. Але раптам із яго парэшткаў выехаў чалавек на імя Сеід Берке, злез са свайго каня, схапіў жменю пяску, пусціў яго ў твар непрыяцелю-пагубніку і крыкнуў моцным голасам: "Вораг пабег!"

Тымур таксама закрычаў тое ж самае сваім зычным голасам, як у чалавека ззываючага прагнучых вярблюдаў і крычаўшага: "джаут джа-ут!".

І павярнулася войска Тымура, як вяртаюцца каровы да сваіх цялят, і зноў уступіла ў бойку са сваімі непрыяцелямі і супастатамі. Не засталося ў ягоным войску ні маладога, ні старога, хто б не крычаў: "вораг пабег!"

І вось войска Тахтымыша адступіла, кінулася ва ўцёкі і па яго слядах пайшлі раней вяртаўшыяся назад. Войска Тымура наклала на іх меч і дало ім выпіць чарку сьмерці. Захапілі ваяры Тымура маёмасць і быдла іхнае і паланілі галоўных правадыроў і сьвіту...

І пайшоў Тымур у Дэшт-Кіпчацкую зямлю, шчыруючы па частцы шпаркасьці і спешносьці".

"Гэтая вобласць выключна татарская[347], перапоўненая разнымі жывёламі і турэцкімі плямёнамі, з усіх бакоў агароджаная і ва ўсіх частках абробленая, шырокая па аб'ёму, здаровая вадой і паветрам. Людзі яе – мужы ў поўным сэнсе, ваяры яе – цудоўныя стралкі. Згодна з мовай – гэта самыя відавочныя туркі, па жыцці – самые пабожныя, на твар – самыя цудоўныя, па прыгажосьці – самыя дасканалыя. Іхныя жанчыны – солнца, іхныя мужчыны – як поўны месяц, іхныя цары – галовы, іхныя баяры – грудзі. Няма ў іх ні хлусні, ні падманаў, няма паміж імі ні хітрасьці, ні падспутства. Іхны звычай ездзіць на павозках з упэўненасьцю, не ведаючай баязні. Гарадоў у іх мала і іхныя пераходы працяглыя. Межы Дэшцкай зямлі[348] з поўдня – мора Кальзумскае, ды мора Ягіпецкае (згодна з далейшым апісаннем – Чорнае), завярнуўшае да іх із вобласьці Румскай (Рамейскай). Гэтыя два моры амаль што зліваюцца, калі б не было паміж імі гор Чаркескіх, складаючых паміж імі "мяжу непраходную", аж да Кітайскіх межаў, належачых уладанням Манголіі і Хатайцаў (Хэтаў-готаў?).

"На паўначы яго – Ібір (??) і Сібір, пустыні і стэпы ды пяскі, нагрувашчаныя падобна гарам. І колькі гэтага стэпу, дзе блукаюць толькі птушкі і звяры. З захаду Дешцкай зямлі – ускраіны зямель рускіх і баўгарскіх, ды ўладанні хрысьціян-нечасціўцаў (г. азн. каталікоў); да гэтых ускраін прылягаюць Румскія (рамейскія) ўладанні, размешчаныя па суседстве з землямі, падпарадкаванымі туркам-асманам".

"Выязджалі, бывала, караваны із Харэзма (Харасана) і ехалі сабе на павозках спакойна[349] без баязні і апаскі ўздоўж да самога Крыма"...

"Не вазілі яны з сабой ні харчавання, ні корму для коней і не бралі праваднiка з нагоды шматлікасьці тамашняга насельніцтва, ды багацця ежы і пітва ў жывучых там людзей. Вандравалі яны ад аднаго племені да другога і спыняліся толькі ў таго, хто сам прапаноўваў ім у сябе памяшканне... А сёньня ж у тых мясцовасьцях, ад Харэзма (Харасана) да Крыма, ніхто із тых народаў і людзей не жыве і няма там іншага насельніцтва акрамя газелей (іх тут ніколі не было!) і вярблюдаў".

"Сталіца Дэшта – Сарай[350]. Гэта горад мусульманскай пабудовы, цудоўнай моцнасьці. Султан Берке, ды памілуе яго Аллах, прыняўшы іслам, пабудаваў яго,

---

[347] Там жа. с. 459.
[348] Там жа. с. 459.
[349] Там жа. с.460.

абраў сталіцай свайго царства і ўшанаваў яго. Ён заахвоціў народы Дэшта да ўступлення на пашу ісламa, і вось чаму Дэшт стаў зборным месцам рознага дабра і багацця, так што да ранейшай назвы "Кіпчак" дадалася яшчэ назва "Берке" (г. азн. Раскошны). А зараз Хаджы Ісаі-эддзін, стаўшы кіраўніком у Самаркандзе, прадэкламаваў мне наступны свой верш у Астрахані, адным із Дештціх гарадоў, зведаўшы на шляху туды разные нягоды:

"– Я чуў, што Берке знаходзіўся ў стэпе, празваным адпаведна свайму султану – стэпам раскошы. Даў я вярблюдзіцы маіх падарожжаў спыніцца на адным із ускрайкаў гэтага стэпу, але не знайшоў там ніякага Берке (г. азн. раскошы)".

Мне здаецца, што тут мы ўжо бачым расчараванне чалавека, начытаўшагася пра цуды ў Дешцкім царстве, але не знайшоўшых іх пры сапраўдным падарожжы.

А далей мы бачым, што ў гэтым царстве было ўсталявана "ханефейскае" (г. азн. ханабожае) веравызнанне, "дазваляючае ўжыванне віна". Лічачы, што імя Іаан, па-гішпанску Хуан, скарацілася (па маўра-арабску) у Хана і стала сінонімам духоўнага ўладара, мы можам выказаць здагадку, што тут пад імем ханіфееў (г. азн. хуанабожнікаў) маюцца на ўвазе яніты. І гэта тым больш дарэчы, што духоўна-рыцарскі ордэн крыжакоў-янітаў, якія насілі чорныя плашчы з белым крыжам на грудзях, быў заснаваны ў Ерусаліме Раймундам Дзюпюі ў 1118 годзе і працягваў працаваць на Блізкім Усходзе да 1522 года, пасьля чаго яніты, вярнуўшыяся ў Яўропу, пачалі называцца мальтыйскімі рыцарамі, а застаўшыяся ў Крыму перарадзіліся, відаць, у караімаў. Разгледзім жа на гэтым фоне далейшыя паведамленні "сына арабскага шаха".

"Калі Берке-хан, – працягвае ён, – быў ушанаваны ганаровым адзеннем ісламу і паставіў у Дэштціх землях сьцягі ў гонар ханефейскага веравызнання, то ён запрасіў да сябе навукоўцаў із усіх краеў і шэйхаў з усіх бакоў і канцоў, каб яны навучылі людзей падставам сваёй рэлігіі і прызначыў ім за гэта каштўныя падарункі, і на тых із навукоўцаў, якія прыйшлі на яго заклік, выліў цэлае мора дароў. Ён апекаваў навукі і навукоўцаў, шанаваў закон бога ўсявышняга і статуты прарокаў. Былі ў яго ў гэты час, а пасьля яго ў Уз-бека і ў Джані-бека наш мулла Кутбеддзін, навуковец Эрразі і іншыя знакамітыя ханефейскія і шафійскія...". "Пры садзейнічанні гэтых сеідаў Сарай зрабіўся цэнтрам навукі і рудніком дабротаў. За кароткі час у ім набралася[351] здаровая доля навукоўцаў і знакамітасьцей, славеснікаў і мастакоў, і розных людзей заслугоўваючых павагі, падобна якой не набіралася ніколі ні ў разных частках Ягіпта[352], ні ў наваколлі яго. Паміж пабудовай Сарая і разбурэннем яго і тамашніх мясьцін прайшло 63 гады. (А Лацінская крыжацкая імперыя на Балканскай паўвыспе існавала каля 60 гадоў, ад 1202 да 1263). Гэта быў адзін із найвялікшых гарадоў згодна са сваім становішчам і колькасьцю насяляючага народа. Распавядаюць, што ў аднаго із ягоных валадароў збег нявольнік і, пасяліўшыся на месцы, аддаленым ад вялікай дарогі, заснаваў там лавачку і гандяваў у ёй, знаходзячы сабе пражытак. Так гэты нягоднік пражыў каля 10 гадоў, і яго гаспадар ні разу не сустрэўся з ім там і не бачыў яго з нагоды вялікасьці горада і шматлікасьці яго жыхароў. Ён быў на беразе ракі, якая адлучаецца ад ракі Ітыль (лічымая за Волгу), адносна якой падарожнікі, летапісцы і

[350] Там жа с. 460.
[351] Там жа с. 463.
[352] Не будзем забывацца, што арабская назва Мазр, з'яўляецца толькі асобным вымаўленне еўрапейскага Міц-Рым, г. азн. Развеянны Рым (гл. Хрыстос кн. II, 198, 220)

вандраўнікі згодны, што большай за яе няма ні адной із ліку праточных рэк і прэсных нарастаючых вод. Пачынаецца яна з зямлі рускіх і няма ад яе ніякай іншай карысьці, акрамя той, што яна радуе душы. Зліваецца яна з морам Кользумскім (Каспійскім), хаця яно закрытае і аточана некалькімі пярсідзкімі ўладаннямі: Гілянам, Мазэндаранам, Астэрабадам, Шырванам. Найменне сарайскай ракі – Сінгіля (а не Ахтуба, як у Волгі), праз яе перабіраюцца не інакш, як на вялікіх караблях, не ўступае ў яе нага ні пешага, ні вершніка. І колькі адглінаванняў аддзяляецца ад гэтай доўгай і шырокай ракі, а кожнае адгалінаване большае чым Еўфрат або Ніл!"

"Распавяду зараз і пра тое, як пачаўся гэты патоп (г. азн. тымурава нашэсьце) і змыў дэшцкія (deutsch'скія) народы. Прыбыў Тымур (із Туркестана – стана турак) у гэты край з войскам незлічоным – не! – з морамі бурнымі, з уладальнікамі стрэлаў лятучых, мячоў сякучых і дідаў зыбучых, з ільвамі задушаючымі і тыграмі нападаючымі, з разнастайнымі насьцігацелямі, вымяшчаючымі на непрыяцеля сваю помсту, абараняючым дабро сваё і суседзяў сваіх, логвішча сваё і прытулак, здабычу сваю і род свой, з кідаючыміся ў бездані баявога мора і супрацьстаячым яго хвалям і патокам".

"А Дэшцкі цар Такта выправіў ганцоў да старейшын сваіх людзей і да кіраўнікоў сваіх народаў, да жыхароў сваіх пяшчаных стэпаў і насельнікаў сваіх ускраін, да правадыроў сваёй радні – да карэнных зубоў сваіх, запрашаючы да супраціву і змагання з Тымурам. Валакучы за сабой вопратку падпарадкавання і накіраваўшыся да яго з усіх краёў, яны сабраліся згодна з плямёнамі і радамі, конныя, пешыя, узброеныя мячамі і стрэламі, надзвігаючыся і наступаючы, адбіваючы і забіваючы сваім вострым мячом і дзідай. Гэтыя людзі самыя абраныя і трапныя стралкі; іхныя кіданні не даюць промахаў. Як толькі яны нацягнуць ціцевы, так і патрапяць ў жылы і дасягаюць мэты, ці сядзіць яна нерухома або лётае. З імі Такта рушыў у бой і падрыхтаваўся да бітвы з войскам Тымура, падобнаму на пясок праз сваю шматлікасць і на горы па вялікасьці сваёй".

"Калі абодва строі супрацьстаялі адзін аднаму і абедзьве раці пчалі бой, то із войска Такта-Мыша выступіў адзін із правадыроў правага крыла, які меў злобу на аднаго із эміраў, і запатрабаваў дазволу забіць яго. А Такта адказаў яму:

– Тваё жаданне будзе ўважена, але ты бачыш, што здарылася. Так пакінь нас у спакоі, пакуль мы не ўправімся і не дасягнем таго чаго жадалі. Тады я аддам табе твайго суперніка, і ты спагоніш на ім тваю лютасць і задаволіш твае жаданні.

Але той адказаў:

– Не! Мне ён патрэбен зараз. А калі не, то няма табе ад мяне ні паслухмянасьці, ні падпарадкавання!

Такта запярэчыў яму:

– Мы знаходзімся ў цяжкім горы, якое турбуе нас больш за тваё жаданне, мы ў змрочным становішчы, якое з’яўляецца больш небяспечным за тваю бяду. Дык пацярпі і не прыспешвай, супакойся і не бойся. Ні ад каго не сыдзе тое, на што ён мае права. Не прымушай жа сляпога шукаць прыстанішча на абрыве і не будзь із тых, якія шануюць бога деля прыбытку. Ты зараз, як пасьля ночы няшчасьця, ужо мінуўшай, і пасьля зарніцы дабрадзейства, ужо заняўшайся. Дык заставайся ж на сваім месцы і нападай на сваіх праціўнікаў, наступай і не адставай, рабі, што табе загадана.

Але князь не паслухаў і сышоў з вялікай часткай. За ім пайшлі ўсе здраднікі і адступнікі і ўсё яго племя, найменне якому Актау. Ён выправіўся ў Румскія ўладанні, прыйшоў у адрыянопальскія землі і пасяліўся там.

Разладзілася войска Такты і стрэлы яго жадання не патрапілі ў тое месца, у якое яны выпускаліся. Не бачачы магчымасьці ўхіліцца ад сутычкі з Тымурам, ён падбадзёрыў сваё войска, адкінуў сваю пыху і сваю лёгкадумнасць, выставіў наперад удальцаў са свайго войска, паставіў коннікаў і пяхоту, ўмацаваў цэнтр і флангі і наладзіў свае стрэлы і мячы. Што ж да войска Тымура, то яно абышлося без гэтых падрыхтовак, таму што становішча яго было відавочным і на яго сьцягах былі намаляваны словы перамогі і валадарання. Абедзьве раці сышліся, ударылі адна на другую, перамяшаліся і запылалі полымем змагання.

Сутыкнуліся вораг з ворагам і выцягнуліся шыі пад сякучымі мячамі і падставіліся грудзі б'ючым дзідам. Памрачылі свае твары і ашчэрылі свае зубы баявыя ваўкі і завылі; ажарсьцьвелі зласлівыя тыгры і выпрасталіся да скоку; счапіліся ільвы і сталі дыбам; пакрыліся скуры пер'ем стрэл і здрыгануліся; апусьціліся аблічча правадыроў і галовы кіраўнікоў у звычаі бітвы, як бы станавячыся для малітвы, і пападалі ніц; закруціўся пыл і ўзвіўся прах; пагрузіліся ў моры крыві і шляхетныя і простыя; лятанне стрэл у змроку пылу здавалася кіданнем снарадаў у дэманскіх правадыроў, а ззяне мячоў у хмарах праху здавалася бліскучым ззяннем над царамі і султанамі. Коні сьмярцей не пераставалі насіцца і круціцца, а ільвы атрадаў нападаць на ворагаў; паднімаўся ў паветра пыл ад капытаў і лілася па стэпу кроў ад мячоў, так што зямель здавалася шэсць, а нябёсаў восем, як мораў.

Доўжыўся гэты бой і пагром каля трох дзён, затым падняўся пыл ад збягання войска Такты, паказаўшага тыл. Яго войска разбеглася і адступіла, і палчышчы Тымура разышліся па Дешцкім уладанням і размясьціліся ў іх. Яму падпарадкаваліся апошнія і першыя з іх. Забраў ён усё рухомае, падзяліў яго і панёс з сабой, сабраў усё захопленае і раздаў усю здабычу, дазволіў рабаваць і паланіць, здзейсніў пагібель і насілле, знішчыў плямёны дэшцкія, зьнішчыў гаворкі іхныя, перамяніў упарадкаванне і павёз з сабой усе захопленыя грошы, усіх палонных і маёмасць. Яго перадавое войска дайшло да Азака (Азова) і ён разбурыў Сарай, Сарайчык, Хаджы-Тархан і ўсе гэтыя мясцовасьці"[353].

Так былі ліквідаваны, згодна са словамі "сына арабскага шаха", Жалезным віцязем-Тымурам два заволжскія цудоўныя Сараі ды ў дадатак яшчэ і Хаджы-Тархан, пад найменнем якога, магчыма, тут патрэбна разумець Тмутаракань рускіх летапісаў, так як Ас-таракань пад імем Астрахані існуе і зараз.

Ці сапраўды іх разбурыў Тымур, а не проста скарыў быўшыя тут фарпосты генуэзцаў і прыйшоўшага з імі тэўтонскага (Teutsche = Deutsche) ордэна, само імя якога паходзіць ад імя Германіі Terutschreich, ператварыўшагася затым у Deutschland. Ва ўсякім разе з Тымурам связваецца і ўзнікненне ў гэты час у Крыме караімства, рэлігіі сярэдняй паміж юдэйствам і ісламам.

Толькі ў гэтым сэнсе і неабходна (?) разумець фінал барацьбы Такты (ці Лакты) з Жалезным заваёўнікам – Тымурам, дзе на змену выступае нейкі Ідыку

[353] Тызенгаузен , 1, с. 466.

(або Эдігей), імя якога нагадвае слова – iudicus[354] (іудзейскі – пар. лат. judex, ius – суддзя). Вось гэтае цікавае апавяданне[355], "пра тое, як Ідыку падмануў Тымура".

Ідыку выправіў ганца да сваіх родзічаў суседзяў і да племені левой (паўночнага боку) – усе яны належалі да ліку яго прыхільнікаў і сяброў – сказаць, без ведама пра тое Тымура, каб яны адкачавалі са сваіх родных краёў, кіруючыся туды, дзе дрэнныя шляхі і шмат небяспекі, інакш Тымур пераможа іх і загубіць усіх. Яны зрабілі так, як загадаў ім Ідіку і ішлі, не спыняючыся.

Даведаўшыся, што яго людзі выслізнулі ад Тымура, Ідыку паведаміў яму:

– О ўладыка, наш эмір! Ёсць у мяне вельмі шмат сваякоў і дамачадцаў, але яны не знаходзяцца ў бяспецы, бо пасьля майго зыходу з імі прыключацца крыўды і прыгнёт ад Такты. Я не сумняваюся, што ён загубіць і зьнішчыць іх усіх да адзінага. Пакуль я сам абаронены супраць яго з ласкі вашай вялікасьці, ён будзе вымяшчаць злосць свайго характеру на маіх дамачадцах і сваяках. Таму што я наладзіў нітку гэтых яго сутыкненняў з табой і скінуў яго ў цясьніны бедства і лахманы паразы. Ва ўсякім разе мне не весела на душы, што яны жывуць у адным з ім месцы. І ці можа быць жыццё мне прыемным, пакуль мае сябры – суседзі Такты? Калі твой светлы розум дазволіць выправіць гонца да гэтых шматлікіх плямёнаў з найвышэйшым манаршым наказам адкачаваць ад Такты і палепшыць сваё становішча, то мы ўсе будзем жыць пад тваім вялікім ценем ў тваіх ўрадлівых садах дабрадзейства, пакрытых лістотай. Мы вызвалімся із гладкага стэпу гэтага Дэшта, завяршыўшы нашы мінулыя бедствы і правядзем астатні час у тваіх вертаградах, каля падножжа якіх працякаюць рэкі. Але вышэй за ўсё найвышэйшы розум твой. Для рабаў першая справа – рабіць так як ён вырашыць".

Тымур адказаў яму:

– Ты пальмачка твайго народа і слупок, вартуючы яго. Ты ўжо хадзіў гэтымі шляхамі. Ідзі сам.

Ідыку – толькі гэтага і жадаўшы – адказаў:

– Усе людзі – рабы твае і твае паслушнікі, паслухмяныя твайму жаданню. Каго ты прызнаеш годным нейкай справы, для таго ўсякая праца лёгкая.

– Ты першы пачаў гэтую справу, – адказаў Тымур, – дык будзь і яе выканаўцам. Бо не патрабуе чужога рашэння той, хто сам уладар горада.

Далучы да мяне, – сказаў Ідыку, – аднаго із князёў з манаршым загадам адносна таго, што вырашыць твой найвышэйшы розум.

Тымур пагадзіўся з ім, выканаў яго жаданне і даў яму таго, каго пажадаў сам Ідыку. Але пасьля яго сыходжання Тымур зразумеў, што той падмануў яго. Ён выправіў да яго гонца з загадам вярнуцца да яго для нарады, для вырашэння выпадкова наспеўшага пытання, але калі ганец стаў перад Ідыкам і паведаміў яму навошта ён выпраўлены, то сказаў яму і быўшаму пры ім князю:

– Выпраўляйцеся да вашага гаспадара, пацалуйце яго рукі і паведаміце яму, што тэрміну маім стасункам з ім прыйшоў канец, і што я далей непадначалены яму, бо баюся бога.

Ім нельга было груба паставіцца да яго ў такім іх крытычным становішчы. Таму яны ласкава развіталіся з ім, павярнулі назад і з’ехалі, не спыняючыся. Тымур упыхнуў на Ідыка вялікім гневам. Са злосьці на яго ён ледзь было не забіў сябе і выпіў з горкай чаркі, як пададзена ў каране: "Настане дзень, калі пачне беззаконнік

---

[354] Цікава, што ад гэтага ж кораня паходзіць французскае слова judicature – судзейскае званне, judiciaire – судовы і г. д.

[355] Тызенгаузен , 1, с. 467.

кусаць рукі свае". Але не найшло на яго жаданне рушыць на Ідзыку, і ён выправіўся ў свае валоданні ў Самарканд, пакінуўшя яго ў спакоі.

Вось як скончыўся паход Тымура ў Дэшт-Берке, так што кажуць: "не перахітрыў Тымура ніхто акрамя Ідыку..."

Калі апошні далучыўся да сваіх староннікаў, прыяцеляў і наперснікаў, ён пачаў выведванне спраў Такты і ўбройваўся для яго адпору, не будучы ў стане выправіць тое, што разламаў. Ён прызначыў у сябе асобнага султана і асобнага хана (сьвятара), сазваў да яго правадыроў левага (г. азн. паўночнага) боку і правадыроў яго плямёнаў. Яны пачулі яго заклік і прыбылі да яго, будучы мацнейшымі за іншых і бяспечнымі ад злаславых дзеянняў джагатайцаў і іхнай несправядлівасьці. З нагоды гэтага султан яго ўзмацніўся, і хан абагаціўся цэлымі караванамі полчышчаў, яго справы ў сталіцы зацвердзіліся, і слупы яго улады ўзвысіліся".

"А што да Такты, то ён, калі яго вораг сышоў і ўсталяваўся спакой, сабраў сваё войска і прызваў на дапамогу свой народ. Не спыняліся ўдары мячоў і кіданне дзідаў паміж Тактой і Ідыку. Яны змагаліся паміж сабой 15 разоў..."

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Усходнія ўсходазнаўцы.

# Глава I

## Наколькі праўдзівыя старажытная і сярэдневечная гісторыя Кітая?

Для таго, каб мае далейшыя высновы не былі яшчэ больш нечаканымі для чытача, чым "татарскае ярмо", я павінен паказаць фантастычнасць сярэдневечнай гісторыі Кітая раней, чым у далейшым падрабязна даследую кітайскую храналогію ўсімі сваімі астранамічнымі, філалагічнымі і чыста лагічнымі метадамі.

Ужо і ранее мяне спецыяліст-ягіптолаг, акадэмік В. П. Васільеў, у XIX стагоддзі, цалкам аспрэчваў старажытную гісторыю Кітая, ды і наш найноўшы спецыяліст па Кітаю – А. В. Пужылін[356] – прыйшоў да высновы пра недакладнасьці старажытных кітайскіх паведамленняў пры параўнанні з біблейскімі, напрыклад, прысутнасць апавядання пра сусветны патоп, які пакрыў вадой усю зямлю, за выключэннем самых высокіх гор пры патрыярху Яо, які дапасуецца тут да -2357, -2261 гадам, г. азн. адбыўшыся як раз у той самы час, як і згодна з прыдумкамі найноўшых еўрапейскіх біблеістаў (-2340?), што паказвае на запазычанне у апошніх.

Дакладна так жа згадвалася і пра тоеснасць 60-гадовага цыкла ў летазлічэнні кітайцаў з такім жа цыклам сярэднявечных і пазнейшых юдэяў і г. д., і г. д.

Згадвалася ўжо і па ўнутраныя паралелізмы розначасовых кітайскіх псеўда-летапісных паданняў накшталт, напрыклад, таго, што Чжоў-Сінь, апошні патрыярх дынастыі Шан, які жыў, быццам бы, паміж мінус 1154 і мінус 1122 гадамі,

[356] Сучасны Кітай. Т. II. 1900. с. 2.

паўтарыў праз 640 гадоў усю гісторыю Ізе-Гуя, апошняга із патрыярхаў дынастыі Ся (-1818 – -1766). І той, і другі са сваімі прыгажунямі жонкамі завялі забаўляльны сад з басейнамі для купанняў, напоўненымі віном і абстаўленымі рознымі стравамі, дзе абодва аддаваліся аднолькавым оргіям, і абодва былі скінуты паўстаўшым народам і пазбавілі сябе пры гэтым жыцця, а скінуўшыя іх пераемнікі царавалі пабожна і г. д.

Пры адмысловым разгляданні кітайскай гісторыі я пагавару больш падрабязна і пра гэтыя паралелізмы, а зараз, перш за ўсё, карыстаючыся выпадкам прадэманструю на прыкладзе кітайскай храналогіі мае метады праверкі старажытных дынастычных запісаў (да якіх, уласна кажучы, выключна і зводзяцца ўсе "старажытныя гісторыі").

Ужо і ў ранейшых тамах я згадваў пра змяшчаючыяся ў курсах нашай "ўсеагульнай гісторыі" неверагодныя апавяданні пра "адраджэнне" ранейшых культур (пасьля іх сьмерці і доўгага нябыту) да новага жыцця, і нават не на ранейшым, а ў іншым месцы. Такой, – кажуць нам, – у Заходняй Яўропе была цэлая "Эпоха Адраджэння" (Ренесанс, па-французку), за час якой у Францыі "зноў адрадзіліся" даўно знікшыя з зямной паверхні старажытныя грэцкая і рымская літаратура, мастацствы і навука. Але я ўжо даводзіў і, спадзяюся, пераканаў, што гэта памылка, і што "Эпоха Адраджэння" на самай справе была "Эпохай нараджэння класіцызму", а яе прэцэндэнт быў не ў старажытнай Грэцыі і старажытным Рыме, а ў Лацінскай феадальнай імперыі падчас чацьвёртага крыжовага пахода.

І вось зараз нам зноў даводзіцца разглядаць апавяданне пра яшчэ больш дзіўныя рэчы. Ледзь мы толькі заглянем ў сучасную нам "гісторыю Кітая", як насуперак нашым высновам пра тое, што аднойчы перажытыя формы гістарычнага жыцця не вяртаюцца зноў, мы бачым, што ў Кітаі нярэдка вярталіся нават і праз тысячагоддзі нябыту не толькі цэлыя мінулыя эпохі, але нават і даўно вымершыя дынастыі.

Што б вы сказалі, калі б я выказаў апасенне, што ў Францыі хутка можа вярнуцца да ўлады, праз 607 гадоў пасьля свайго знікнення, дынастыя Капетынгаў, а ў Германію праз 1029 гадоў нябыту – Каралінгаў? Вы, вядома, толькі б пільна паглядзелі мне ў твар, каб пераканацца па выразу вачэй, ці ў сваім я розуме? Дык чаму ж вы не задаецеся такім жа пытаннем, калі бачыце ў кітайскай храналогіі цалкам падобныя адраджэнні дынастый нават і па тры, а часам і па чатыры разы пасьля шматвяковага знікнення?

Зірніце толькі на агульнапрынятую зараз храналагічную табліцу Кітайскіх дынастый.

Вось, напрыклад, дынастыя Чжоу (Chu мінус 1125-мінус 255 г.), знікшая пасьля амаль 900-гадовага царавання ў Кітаі, у -255 годзе і адрадзіўшаяся ў паўночным Кітаі праз 810 гадоў нябыту. Працараваўшы там пасьля гэтага свайго адраджэння толькі 32 гады (ад 557 па 589 год), яна зноў знікла і зноў адрадзілася на 9 гадоў пасьля амаль чатырохсотгадовага нябыту (паміж 950 і 960 гадамі), пасьля чаго ўжо не вярталася да гэтага часу і, можна спадзявацца, ўжо не адрадзіцца ніколі.

Вось дынастыя Ханаў (Han, -206 +255). Працараваўшы 470 гадоў, спачатку на захадзе Кітая, потым на ўсходзе, і потым там і тут у ліку "трох каралеўстваў", яна зноў адрадзілася праз 680 гадоў нябыту (ад 947 да 951 годзе) пад час "эпохі пяці дынастый", дзе мела толькі два пакаленні...

Вось дынастыя Цзын, працараваўшая спачатку на захадзе, потым на ўсходзе 155 гадоў (ад 265 па 420 гады). Яна знікла з твару зямлі на пяцьсот шаснаццаць гадоў і адрадзілася пасьля гэтага ў Кітаі зноў на 11 гадоў (паміж 925 і 937 гадамі), ды і яшчэ праз 678 гадоў на 145 гадоў (ад 1115 па 1260 гады), пасьля чаго ўжо не вярталася ў Кітай да гэтага часу.

Вось дынастія Сун, першапачаткова працараваўшая 59 гадоў (паміж 420 і 479 гг.). Яна адрадзілася другі раз праз чатырыста восемдзесят гадоў і царавала спачатку на поўдні, а потым на паўначы Кітая трыста дваццаць гадоў (паміж 960 і 1280 гадамі), пасьля чаго таксама ўжо не вярталася ў Кітай да гэтага часу.

Такія ж адраджэнні і вяртанні адбываліся і з дынастыяй "Вэй", і з дынастыяй "Тан", і з дынастыяй "Ці"...

Дык чаму ж, грунтуючыся на такіх прыкладах "гістарычных прэцэдэнтаў", нам зараз і не чакаць адраджэння Капетынгаў у Францыі, і Каралінгаў у Германіі, і нават ў нас "дынастыі Алега Вяшчуна і Ігара"?

А калі гэта відавочна немагчыма ў нас, то яно немагчыма і ў Кітаі. Усе гэтыя дынастыі нават немагчыма і даследаваць інакш, як для таго, каб вызначыць, із якіх першакрыніц яны запазычаны, кім і калі занесены ў "Гісторыю старажытнага і сярэднявечнага Кітая" пад тымі ж самымі імёнамі, калі была магчымасць надаваць колькі заўгодна самастойных імёнаў?

Разгледзім гэтыя дынастыі і з іншага боку гледжання. Аднойчы я, смеючыся, сказаў аднаму свайму знаёмаму астраному-матэматыку:

– Ці можаце вы вылічыць час дасягнення стацевай сталасьці старажытнымі кітайскімі багдыханамі? – Я магу.

Ён прыняў гэта за жарт і засмяяўся, але калі я растлумачыў яму свой метад, ён пераканаўся, што такое вылічэнне нават вельмі лёгкае.

Я ўжо выкладаў яго ў папярэднім томе гэтага майго гісторыка-лагічнага даследаванія[357], але, каб не выпраўляць чытача туды за даведкай, перакажу яшчэ і тут іншымі словамі.

Возьмем якую-заўгодна дынастыю цароў і паглядзім, колькі гадоў яна царавала і колькі ў ёй было першых пакаленняў.

Па-першае: дзеці нараджаюцца толькі праз дзевяць месяцаў пасьля зачацця; па-другое: зачацце, звычайна, адбываецца не з першага дня адружання, па-трэцяе: першае дзіця можа памерці яшчэ ў дзяцінстве, па-чацвёртае: першым дзіцём можа нарадзіцца і дачка і, па-пятае: адружваюцца адразу ж пасьля дасягнення стацевай сталасьці. Таму ўжо апрыёрна можна сказаць, што стацевая сталасць дасягаецца не менш, як за гады чатыры ці пяць да вызначанай намі непасрэдна нармальнай працягласьці пакаленняў.

Для праверкі я выкарыстаў свой метад да даследавання пазнейшых еўрапейскім дынастый, радаводы якіх не выклікаюць сумневаў.

Вось, напрыклад, у германской дынастычнай гісторыі ад пачатку царавання Генрыха IV (1056 г.) да зверження Вільгельма II (1918 г.) прайшло 862 гады, і было 40 перамен, пры гэтым на кожнае пакаленне прыпадае, у сярэднім, 21 год. Адняўшы ад гэтай лічбы нашы 4-5 гадоў, мы атрымліваем дасягненне імі стацевай сталасьці каля 16-17 гадоў, як і павінна быць.

Вось у французскай дынастычнай гісторыі, ад уцаравання Анры I (1030) да зверження Напалеона III (1870) прайшло 840 гадоў і было 42 змены, на кожную ў

[357] "Хрыстос", кн. VII

сярэднім прыйшлося 20 гадоў. Адняўшы адсюль нашы 4-5 гадоў, мы атрымліваем стацевую сталасць каля 15-16 гадоў. Зноў адпавядае рэчаіснасьці.

Вось ангельская дынастычная гісторыя – ад уцаравання Эдуарда III (1042) да ўцаравання Вікторыі (1837) прайшло 795 гадоў і было 37 змен. На кожную прыпадае 21 год. Зноў атрмліваем стацевую сталасць каля 16-17 гадоў.

Вось у рускай дынастычнай гісторыі: ад уцаравання Міхала Хведаравіча (1613) да звяржэння Ніколая II (1917) прайшло 304 года, і, калі выключыць забітых сваімі роднымі адразу ж пасьля ўцаравання, ды прытым і не маючых дзяцей – Яна Антонавіча і Пятра III, то атрымаем 15 змен, па 20 гадоў на кожную, прычым стацевая сталасць прыпадае ў сярэднім на 15-16 год.

Мы бачым, што, сапраўды, гэтым метадам можна вызначаць час наступлення стацевай сталасьці ў прадстаўнікоў якой заўгодна дынастыі, калі ў ёй выявяцца хаця б чатыры ці пяць пераходаў ад бацькі да сына, таму што выпадковы лішак працягласьці царавання бацькі тут нейтралізуецца адпаведным недахопам працягласьці царавання сына або ўнука, і таму нават у некалькіх пакаленнях асобныя лішкі і недахопы, натуральна, знішчаюць адзін аднаго.

Вылічым жа гэтым надейным спосабам час наступлення стацевай сталасьці і разных кітайскіх дынастый.

Вось апошняя кітайская дынастія Цын. Ад уцаравання яе першага цара Шы-Цзу ў 1644 годзе і да звяржэння апошняга – Сюань-Туна ў 1912 годзе прайшло 268 гадоў і было 10 змен, але яны былі раўназначны дванаццаці, так як Шын-Цзу (1662-1722) працараваў выключна доўга (61), больш чым два пакаленні і тое ж самае Тао-Цзун (1736-1796), працараваўшы 60 гадоў. А гэта вымушае прызнаць, што ад іх пасад перайшоў не інакш як да ўнукаў[358], і таму палічым тут 12 перамен пакаленняў.

Падзяліўшы 268 на 12, мы атрымліваем, што на кожнае пакаленне тут прыпадае 22,5 гады, што зноў дае стацевую сталасць каля 17 гадоў. Гэта азначае, храналогія гэтай найноўшай дынастыі, як і патэбна было чакаць пры яе пастаянных стасунках з еўрапейцамі, адпавядае агульначалавечай фізіялогіі.

Перад ёй была дынастыя Мін, г. азн. Ясная, ад 1368 года, калі ў кітайцаў ўпершыню ўсталяваліся пастаянныя і трывалыя стасункі з заходнімі еўрапейцамі, і ў Кітаі валадарылі каталіцкія школы і навуковыя ўстановы. Яна закончылася ў 1644 годзе пасьля 276 гадоў існавання. У ёй было 17 пакаленняў і на кожнае прыпадае толькі 16 гадоў. Дапусьціўшы, што ў іх сыны нараджаліся ў сярэднім ўжо праз год пасьля адружання, атрымліваем стацевую сталасць каля 14-15 год. Гэта малавата, але яшчэ дапушчальна, або тлумачыцца тым, што тут былі і браты, пра што, аднак, у першакрыніцах не паведамляецца.

Паглядзім зараз, што было раней усталявання стасункаў з еўрапейцамі. Непасрэдна перад дынастыяй Мін была, – кажуць нам, – мангольская дынастыя Юанаў (нешта накшталт Янаў), якую можна падзяліць на дзве часткі:

1. Чатыры першых Юана (ад Шай Цзу да Сен Цзуна, цараваўшых быццам бы адначасова з чатырма апошнімі прадстаўнікамі дынастыі Сун і дынастыі Залатых Татар (дынастыя XXXII) ад 1206 па 1260 год; іх лічаць за герояў "Татарскага іга ў Расіі": Чынгізхана, Угедэя, Куюка і Мункэ.

2. Наступныя Юаны, пачынаючы з Шы-Цзу і заканчваюч Тай-Дын Дзі, цараваўшых у якасьці пераемнікаў папярэдніх ад 1277 па 1367 год (дынастыя

---

[358] Тым больш, што іхныя нашчадкі памёрлі не хутка пасьля свайго ўцаравання, што было б з сынамі, а праз 11 або праз 23 гады царавання.

XXXII). Іх усіх лічаць за нашчадкаў Кублая, хаця апошні із гэтай дынастыі знакаміты Кульгавы Тымур (Тамерлан, 1333-1368 гады, які пабудаваў Самарканд), як вядома, ніколі не быў кітайскім уладаром. Выключыўшы яго, мы атрымліваем для гэтай пазнейшай часткі дынастыі "манголаў" працягласць 72 гады (ад 1260 па 1332 гады), прычым на кожную змену першых пакаленняў даводзіцца ў іх толькі 7 гадоў, для чаго неабходна, каб яны дасягалі стацевай сталасьці ніяк не пазней за сямігадовы ўзрост, што відавочна недарэчна. Такія кароткія тэрміны могуць атрымлівацца толькі пры абіраемым кіраванні або радавым, як не маючымі ніякага дачынення да змены пакаленняў, а між тым яны паказваюцца як бацькі і дзеці.

Акрамя таго, ніводнага із гэтых імёнаў у кітайскіх хроніках не пазначана. Там адначасова з імі (ад 1277 па 1367) царуюць нашчадкі Шы-Цзу, якія носяць зусім іншыя імёны (дынастыя XXXII), і пра тое, хто і калі атаясаміў іх з нашчадкамі Кублая і прылічыў да ліку кітайскіх імператараў ніколі не бываўшага ў Кітаі самаркандца кульгавага Тымура – невядома. Акрамя таго, і ў самой кітайскай варыяцыі гэтых уладароў (частка якіх не супадае і згодна з гадамі царавання з "манголамі") мы знаходзім сярэднюю перамену пакаленняў роўнай 11 гадам, што зноў дае недарэчную стацевую сталасць не пазней за дзевяцігадовы ўзрост. Такім чынам, гэтая дынастыя з фізіялагічнага боку гледжання не вытрымлівае ніякай крытыкі, асабліва пасьля таго, як дзве наступныя за ёю дынастыі – Мінаў і Цыноў – справўдзіліся фізіялагічна.

Із гэтага даводзіцца зрабіць выснову, што адпавячаючая рэчаіснасьці гісторыя Кітая пачалася толькі з мінскай дынастіі, калі ў Кітаі трывала ўсталяваліся еўрапейскія гандляры і місіянеры. А "мангольская дынастыя" ўціснута ў Кітай з ушчыльненнем з нагоды недахопу праторы паміж ужо пазначанай мной дынастыяй Мінаў і дынастыяй Сунаў (дынастія XXX-XXXI). Гэтая апошняя дынастыя, – кажуць нам, – царавала ў Кітаі ад 960 года па 1276 год, спачатку на поўдні Кітая, а потым на яго паўночы. За 316 гадоў яе існавання ў ёй налічваецца 16 пакаленняў і згодна з агульнай колькасьцю ў ёй валадароў прыходзіцца па 20 гадоў на кожнага, так што іхная стацевая сталасць як быццам бы каля 16 гадоў, што цалкам адпавядае рэчаіснасьці. Але вось мы са здзіўленнем бачым, што хаця ў яе гісторыі і няма ні слова пра яе абрабаванне з аднаго боку "Залатымі татарамі", а з другога "пераемнікамі Чынгіз-хана", аднак і простага погляду на храналагічныя адзнакі дадзенага перыяду нам дастаткова каб заўважыць, што тут (канец XXXI дынастыі) дадзены ў Кітаі тры царствы, доўжыўшыяся ад 1174 ці ад 1206 года да 1260 або да 1276 года. Ва ўсіх іх былі па 4 пакаленні, але ў той час як у "Сунаў" стацевая сталасць дасягалася ў нармальным ўзросьце, каля 16 гадоў, у абодвух яе непрызнаных суправіцеляў із "Залатых татар" і "манголаў" стацевая сталасць дасягалася на адзінаццатым годзе.

Сярэдні час змены першапакаленняў – 12,5 гадоў. Стацевая сталасць дасягаецца не пазней за 10-гадовы ўзрост. Ужо із аднаго гэтага параўнання бачна, што мангольская дынастыя (час дзеячаў IV-га крыжовага паходу) ўціснута сюды з ушчыльненнем. І цікава, што тое ж самае мы можам сказаць і пра "Залатых татараў" (дынастыі XXIX). Налягаючы на час першых трох крыжовых паходаў (з 1115 году), іхная дынастыя заканчваецца каля часу знікнення Лацінскай імперыі на Балканскай паўвыспе. Яна царавала 145 гадоў, утрымліваючы 10 пакаленняў на кожнае па 14,5 гадоў, і стацевая сталасць яе прадстаўнікоў дасягалася не пазней за дванаццацігадовы ўзрост.

Ню-Чжэнскія цары Дона Гінь. (Па Іакінфу – с. 237)

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1-шы | 1115-1122 | 8 гадоў | Тхай-Цзу ці Агуда (прасторны) |
| 2-гі | 1123-1134 | 12 гадоў | Тхан-Цзун ці Укаман |
| 3-ці | 1135-1148 | 14 гадоў | Сі-Цзун або Хара (чорны) |
| 4-ты | 1149-1160 | 12 гадоў | Хай-Лін ці Дугурэнэ (Поўны) ці Лян |
| 5-ты | 1169-1189 | 29 гадоў | Шы-Цзун ці Улу (свішч) |
| | 1190-1195 | 6 гадоў | Адсутнасць цара |
| 6-ты | 1196-1208 | 13 гадоў | Чжан-Цзун ці Мадагц |
| 7-мы | 1209-1212 | 4 гады | 17......... адсутнасць цара? |
| 8-мы | 1213-1223 | 11 гадоў | Сюань-Цзун ці Удабу |
| 9-ты | 1224-1234 | 11 гадоў | Ай-Цзун ці Нінгясу(Апошні) |

Яшчэ больш цікавы фізіялагічны казус адбыўся з дынастыяй "Кіданьскіх татараў", якія мелі найменне Ланаў (дынастыя XXVII-XXVIII). Спачатку яна царавала паралельна валадарам дынастыі Сун (960-1168 гады) і спачатку перамяняла свае пакаленні ў 24 гады, так што стацевай сталасьці яны дасягалі вельмі позна, каля 20 гадоў ад нараджэння. Але вось яна перасялілася на захад (дынастыя XXVIII), і з ёй здарыўся фізіялагічны казус: замест 20 гадоў яе пакаленні пачалі дасягаць стацевай сталасьці на пятым годзе ад нараджэння!

Ужо просты погляд на табліцу паказвае, што цалкам падобныя ж анамальна раннія стацевыя паспяванні ў дзіцячым узросьце былі і ў астатніх старажытных кітайскіх дынастыях, пачынаючы ад дынастыі Цынь (V дынастыя), якая з'явілася ў Кітаі, – кажуць нам, яшчэ ў мінус 255 годзе да пачатку нашай эры і царавала да толькі што пазначанай намі дынастыі Сун (960 год). Відавочна, што ўсе гэтыя "дынастыі" нахапаны аднекуль ў занадта вялікай колькасьці, таму моцна ўшчыльнены.

Але вось мы ідзем яшчэ больш у глыбіню стагоддзяў, дабіраемся да мінус 255 года, г. азн. цэлых 867 гадоў. За гэты час выяўляецца 35 змен пакаленняў, на кожнае 25,5 гадоў, г. азн. замест дзіцячага ўзросту там стацевая сталасць дасягалася толькі пасьля 20 гадоў ад нараджэння.

Мы даследуем папярэднічаўшыя дынастыі і знаходзім, што ў дынастыі Шан, зацараваўшай у мінус 1766 годзе і цараваўшай 644 годы, стацевая сталасць выяўляецца каля 20 гадоў, а ў дынастыі Ся, цараваўшай перад ёю, ад мінус 2205 гада напрацягу 439 гадоў – каля 21 года.

Што ж такое раптам здарылася з кітайскімі імператарамі, пачынаючы ад -225 г. да пачатку нашай эры і аж да з'яўлення ў Кітаі еўрапейскіх каталіцескіх місіянераў? Чаму яны началі так на здзіўленне рана паспяваць на працягу ўсіх сярэдніх стагоддзяў?

Адказ тут магчымы толькі адзін: уся кітайская гісторыя да пачатку нашай эры з’яўляецца створанай місіянерамі. Яны нахапалі гэтыя дынастыі із еўрапейскіх хронік, як паказваюць і самі тытулы. Тытул Хан у VI, VII, VIII і XXVI дынастыях – гэта жыдоўскае слова кан, г. азн. сьвятар; тытул Ван ў IV дынастыі – гэта вугорскае слова Бан, г. азн. граф, адкуль і польскае пан. Тытул Дзі, інакш Ці, паходзіць не інакш, як ад каталіцкага Дэус – бог (грэцкае Тэас, італьянское Дзіа), што цалкам пагадняецца і з сучасным кітайскім звычаем прамаўляць ад еўрапейскіх найменняў толькі першы склад. Тытул Цаун, асабліва прыйшоўшы ва ўжытак пачынаючы з дынастыі Тан (618 год) і меўшы пашырэнне да апошняга часу, сугучны з ангельскім словам Sun – сонца (нямецкае Sonne), што мажа быць растлумачана асабліва цеснымі камерцыйнымі стасункамі ангельцаў з кітайцамі.

Але якім жа чынам іншаземныя хронікі маглі быць кааптаваны ў кітайскую літаратуру?

Я ўжо даводзіў у VI томе, што гэта было нават непазбежна, дзякуючы адсутнасьці ў Кітаі фанетычнага альфабэта.

Чаму мы, чітаючы нейкае іншаземный апавяданне, ці раман, ці гістарычнае паведамленне, адчуваем, што гэта не наш рускі твор?

Толькі дзякуючы іншаземным найменням дзеючых асоб і мясцовасцей або раслін у атачаючым наваколлі і г. д. Калі б і яны былі перакладзены на рускія словы згодна з іхным сэнсам ці дзякуючы сугучнасьці, то мы, несумненна, і ўвесь твор палічылі б рускім. У гісторыі друкавальнай сравы сапраўды мелі месца такія выпадкі, калі выдаўцы былі падмануты людзьмі, выдаваўшымі свае пераклады малавядомых аўтараў за ўласныя творы, ды і іхныя чытачы нічога не падазравалі, пакуль не знаходзіўся нехта добра знаёмы з іншаземнай літаратурай і не выкрываў падман.

А ў кітайскай не фанетычнай пісьмовасьці, дзе кожны значок мае сімвалічны сэнс, такое атаясамленне перакладаў з уласнымі кітайскімі творамі было непазбежным да таго часу, пакуль для шэрагу іншаземных слоў не былі прыдуманы адмысловыя значкі. Дам некалькі прыкладаў...

Калі на кітайскім рынку з'явіўся шакалад, то яго назву давялося складаць не інакш, як із цэлага выказвання сугучных кітайскіх слоў: Шо-Ке-Лай-Дзі, што азначае: "мабыць-можна-прыйсьці-разок".

Калі ў Кітаі з'явіліся слоўнікі, для якіх па-кітайскі да еўрапейцаў не існавала нават і назвы, то давялося выкарыстаць для іх ангельскае слова Vocabulary (слоўнік). А гэта спалучэнне гукаў, дякуючы адсутнасьці абазначэння для кожнага, пішацца кітайцамі, вымаўляючымі R як L, пяццю чарцёжыкамі Во-Кэ-Бу-Лай-Ля, што азначае: "Я-мог-бы-не-прыходзіць-цалкам", пры гэтым апошні значок Ля надае гэтаму выказванню яшчэ і грэбуючае адценне.

Для нас, вядома, смешна, калі хто-небудзь замест: дайце мне "шакаладу", – вымавіць: дайце мне "калі ласка тое-што-можа-прыйсьці-разок"; або замест: паглядзіце ў "слоўніку" – вымавіць: паглядзіце ў "я-мог-бы-не-прыходзіць-цалкам", але пры існуючым да гэтага часу кітайскім альфабэце іншай транскрыпцыі і быць не можа.

Дадам у якасьці прыкладу і яшчэ некалькі слоў: па-французкі парасон мае назву paraplui, а калі б вы пажадалі напісаць гэтае слова па-кітайску, то яго давялося б складаць із ужо маючых свае чарцёжыкі кітайскіх слоў Па, Ла, Ну, Люй, што азначае: "баюся-разабюц-чыноўных-ас лоў".

Слова кофей даводзіцца пісаць "Каў-Фей", што азначае: "набяры-ў-рот-і-выплюнь".

Імя Ян давядзецца складаць із кітайскіх слоў І і Ван, што будзе азначаць: "адзін-граф". Імя Ксенія давядзецца складаць із слоў: Ке, Се, Ні, што азначае "магу-напісаць-вам".

Імя Леў давядзецца згодна са значэннем пазначыць чрцёжыкам наймення самага моцнага звера і прамаўляць Сян. Імя Роза транскрыпцыйным сімвалам гэтай расліны; імя Юры – пісаць Юй-Лі, што азначае: "жоўтая сліва".

Із сучасных еўрапейскіх гарадоў слова Ленінград ператварыцца ў кітайцаў у Ле-Нін-Чэн, г. азн. "Палкі-Мірны-Горад", слова Масква складзецца із мо-сы-коў, што азначае: «Не-гэты-гатунак", слова Берлін пратворыцца ў Бэй-Лін, г. азн. "Белы Лес" або ў Бо-Лін, г. азн. "сто дрэў".

Горад Рым згодна з заходне-еўрапейскім вымаўленнем пратварыўся па-кітайскі ў Ло-Ма, г. азн. "Сапсаваны конь" ці "Злоўлены сілкамі конь".

Каб не складаць із еўрапейскіх назваў цэлыя (збольшага смешныя ці не маючыя сэнсу) выказванні, нарэшце пашырылася правіла браць толькі першыя іхныя склады. Дзякуючы гэтаму, найменне Ангельшчына, па-ангельску Інгланд, пратварылася ў Ін-Го, г. азн. ў "Раскошную дзяржаву", Германія, па-нямецку Deutsch-land,, у Дэ-Ге, г. азн. "Доблесная дзяржава", Францыя – дзякуючы адсутнасьці ў кітайцаў гука С – у Фа-Го, г. азн. "Заканадаўчая дзяржава" і г. д.

Міжволі адзначаеш, што і сама назва Го – толькі першы склад рускага слова "государство".

Паглядзіце ж самі, што атрымліваецца пры такіх умовах із перакладa нейкага еўрапейскага апавядання згодна з кітайскай пісьмовасьцю.

Напісана, напрыклад, па-руску: "Ян паехаў ў Берлін", а па-кітайску атрымаецца: "Адзін князь паехаў у Белы Лес" і г. д.

Усякі іншаземны для кітайца каларыт, г. азн. усе сляды таго, што справа адбываецца не ў Кітаі, тут знікае. І гэта ж, відавочна, павінна было адбывацца пры перакладзе ўсякай іншаземнай хронікі на кітайскую мову, асабліва ў той час, калі яшчэ не было афіцыйна ўсталявана абавязковых назваў для ўсіх чужых краін: напрыклад для Ангельшчыны – Раскошная дзяржава, для Германіі – Доблесная дзяржава і г. д.

А гэта ж было зроблена толькі ў XIX стагоддзі! Таму і маё меркаваньне, што шмат што са старажытных еўрапейскіх хронік і апавяданняў, перакладзенае першымі місіянерамі ў Кітаі на кітайскую мову для азнаямлення яго жыхароў з мінулым сваіх краін, само сабой кааптывалася ў наступных пакаленнях ў "Гісторыю Кітая", і пазней было назад перакладзена на еўрапейскія мовы ў якасьці кітайскіх нацыянальных падзей, як я ўжо паведамляваў пра гэта ў главе пра Марка Пола.

Не будзем забывацца, што і наогул уся кітайская храналогія і гісторыя выпрацаваны із хаоса знаходзімых у Кітаі рукапісаў і літаграфічных выданняў не самімі кітайцамі, а навукоўцамі із еўрапейцаў.

Пакажу гэта на рэальным прыкладзе. Возьмем артыкул астранома Бія "Пра шатры Месяца ў індусаў"[359].

Бія нагадвае, што кітайцы з часоў князя-астранома Чжэу-кона (Tcheu-Kong), які жыў быццам бы каля 1100 гада да пачатку (!!!) нашай эры, дзеляць неба на 28 часовых шатраў (mansions temporaires) "хаця раней, як і еўрапейцы дзялілі яго на 24 гадзіны (відавочна 24 гадзіны прамога ўзыходжання)". Потым праз 2310 гадоў, у 1210 годзе нашай эры кітайскія астраномы дадумаліся, быццам бы, зрабіць папраўку, скасаваўшы адзін дом Месяца і пакінулі толькі 27 дамоў, перанёсшы пачатак падзелу шатра Це з зорачкі Ламбды Арёна на Дэльту.

Але гэта ўсё – толькі адны мяркаванні, а фактам тут застаецца толькі тое, што найвялікшым кітайскім астраномам зараз у кітайцаў лічыцца не Чжэу-кон, а Кочу-Кін (Cochou-King), які жыў толькі каля 1280 гада нашай эры, г. азн. у разгар крыжовых паходаў, і што існуючая зараз каардынатная сістэма кітайскай нябеснай сеткі датуецца толькі 1210 годам нашай жа эры, а папярэднічаўшая ёй сістэма, павінна быць згодна з патрабаваннямі простага здравога сэнсу, аднесена не да мінус 1100, а да плюс 1100. Магчыма, што гэта і быў падзел неба на 24 гадзіны

---

[359] Глядзі: Biot M. Sur le Nac-chatrae ou mansions de la lune selon les Hindoya. Extrait d'une description de l'Inde, redigee par un voyageur arabe du XI siecle. (Journales savants, Janvier, 1845 г.). Маецца ў Бібліятэцы Пулкаўскай Абсерваторыі.

прамога ўзыходжання зорак. Нам цікавей за ўсё тут наступная акалічнасць. Гэтыя ж самыя шатры выяўляюцца і ў індускай астраноміі, дзе яны маюць назву нак-шатрамі (nac-schatras), прычым межы гэтых крылаў неба, як і ў Алмагесьце, даюцца не згодна з прамымі ўзыходжаннямі і зыходжаннямі, г. азн. не ў экватарыяльных каардынатах, як зручней за ўсё для назірання, а згодна з даўжынямі і шыротамі ў эклікальнай сетцы (што прыдатна толькі для вылічэнняў), прычым кропка восеньскага равнадзенства лічыцца ад зорачкі Дзэта сузор'я Рыб, якая ў 1900 годзе, дзякуючы прэцэсіі, знаходзілася ўжо на адлегласці 17° 12' ад кропкі вясновага раўнадзенства. А ў самой гэтай кропцы яна была, згодна з Біа, каля 573 гада нашай эры, якім пагэтаму даводзіцца датаваць і час усталявання такіх каардынат, калі дапусьціць, што раўнадзенства лічыца пачынаючымся з нябачнага праходжання гэтай зорачкі за цэнтрам солнца, а не ад яе гелактычнага выхаду, што прывяло б ужо да XII стагоддзя нашай эры (калі сонца аддалілася ўжо градусаў на 7-8 ад яе). Затым, вядома, выявілася, што зорнае абарачэнне месяца[360] блізкае да 27 дзён, і таму ў X стагоддзі ў Індыі скасавалі нак-шатер Абгіджыт (Abhijit), і зрабілі толькі 27 шатраў для месяца. А ў магаметанскіх творах мы ўсё яшчэ бачым 28 месяцовых шатраў, якія, між іншым, згадваюцца і ў астраноміі Ал-Фергані.

З такога боку гледжання вялікае значэнне мае арабскі манускрыпт (Ducauroy № 22 Парыжскай Нацыянальнай бібліятэкі), згадваемы ў Біа[361]. Аўтар гэтага дакумента ўжо ведае, што зорнае абарачэнне месяца не 28 і не 27 дзён, а амаль на $^1/_3$ сутак больш чым 27, і, нягледзячы на тое, што піша на арабскай мове, ставіцца да арабаў даволі непрыхільна.

"Арабы, – выказваецца ён, – невуцкі народ, які не ўмее ні пісаць, ні вылічаць. Яны маглі лічыць толькі цэлымі лічбамі, і грунтуючыся толькі на тым, што бачылі іхныя вочы. Яны ведалі толькі фазы месяца і вызначалі яго месцазнаходжанне толькі грунтуючыся на нерухомых зорках". "А што да індусаў, то, ужываючы тую ж сістэму, яны сышліся з арабамі толькі ў некаторых дэтэрмінацыйных зорках і разышліся ў іншых. Арабы карысталіся толькі зоркамі, да якіх блізка падыходзіў месяц, а індусы і тымі, якія былі знізу і над ёю, у тым ліку і зоркай "Падаючага Арла" (зараз Альфа Ліры), давёўшы колькасць шатраў да 28. Вось чаму нашы астраномы і нашы складальнікі альманахаў не памыліліся, кажучы, што ў індусаў 28 месяцовых шатраў і што яны выкінулі той, які схаваны ў промнях сонца і мае назву "палаючы". Калі месяц яго пакідае, яны кажуць, што ён "развітваецца з сонцам пасьля абдымкаў" (separee aprez embrassement), і той свой шацёр, у які яна пры гэтым ўваходзіць, мае назву дымячы (furaant)".

"Але гэта, – дадае Біа, – памылкова, так як у санскрыцкіх кнігах ўсюды гаворыцца пра 28 шатраў месяца і нічога не гаворыцца пра абдымкі".

(Затым аўтар дакумента прыводзіць для шатраў 27 детэрмінацыйных зорак, даючы ім ісламскія найменні).

Такім чынам, узаемную сувязь індускай, магаметанскай і кітайскай астраноміі можна вызначыць нават із аднаго такага агульнага для іх штучнага вызначэння міжмерыдыяльных долек неба па днях шляху месяца. Але да гэтага доказу агульнасьці далучаюцца і іншыя, якія прыводзяць да высновы пра паходжанне наогул усёй азіяцкай астраноміі із еўрапейскай, а не наадварот, як думалі да гэтага часу, хаця і не ўсе.

---

[360] 27,32 замест 28 дзён.

[361] Арабіст Мунк (Munk) лічыць, што яго пісал ісламіт Альберуні каля 1030 года, згадваемы Абул-Фараджам, як філосаф, астраном і матэматык, але гэта, вядома, простая дагадка.

Так, напрыклад, Кальбрук адзначыў першым, што падзел задыяка ў азіяцкіх астраномаў на 12 знакаў, налічнасць эпіцыклаў, эксцэнтрыкаў, экліптыкальная сістэма зорных каардынат, падзел акружнасьці на шэсцьдзесят градусаў, цалкам даказваюць, што астраномія прыйшла ў Індыю із Яўропы, і што гэта было пасьля друкавання кнігі Пталямея. Але ён не адважыўся прызнаць, што "Альмагест" Пталямея мог узнікнуць толькі пад час эпохі гуманізму, і таму спыняецца на так званых "старажытных грэках" ці "бактрыянах".

Тое ж самае мы можам зараз сказаць і пра кітайскую астраномію.

Калі астранамічныя ўяўленні "Альмагеста" перайшлі праз ісламітаў у Індыю, ускладніўшыся пераходам ад 24 гадзіннага прамога ўзыходжання зорак да 27 або 28 месяцовым шатрам (таму што заступнікам ісламa лічыўся месяц, і да гэтага часу лежачы ў аснове магаметанскага летазлічэння), то не ўзнікае сумневаў, што і кітайцы запазычылі свае месяцовыя шатры ад магаметан, а таму патрэбна лічыць за апокрыф і якія б то ні было кітайскія паведамленні пра ўзнікненне ў іх такога злічэння яшчэ ў дамагаметанскія часы.

Але аднаму здравому сэнсу відавочна, што гэта было толькі незадоўга да таго, як у Кітаі ў 1210 годзе нашай эры ўпершыню паўстала пытанне пра пераход ад 28 шатраў месяца да дваццаці сямі, як больш блізкай лічбы па перыяду вяртання месяца ў тое ж сузор'е.

Але калі гэта так, то шмат якія дэталі і самой еўрапейскай сярэднявечнай астраноміі мы можам аднавіць па іхных перажытках, захаваўшыхся на адсталым Усходзе. Так, прэцэсія, як паказаў Кальбрук (Kolobrook), не лічылася ў асяроддзі індускіх навукоўцаў аж да XIX стагоддзя абыходзячай усё экліптыкальнае кола, а ўяўлялася толькі ваганнем пункту раўнадзенства ў адным сузор'і Рыб на захад і на ўсход па экліптыцы з амплітудай у 27 град., і гэтая акалічнасць наводзіць на думку, што такое ж меркаванне валадарыла пад час сярэдніх стагоддзяў і ў еўрапейскіх астролагаў.

Каб зрабіць спробу больш грунтоўнага і ўсебаковага астранамічнага вызначэння старажытнасьці праславутых кітайскіх летапісаў, чым гэта зрабіў Біа, адважыўшыся толькі на нязначныя перамяшчэнні ў храналогіі, мы разгледзім з гэтага боку гледжання, перш за ўсё, кітайскае сонечнае зацьменне псеўда мінус 2155 года.

У адной главе "Кнігі Гісторыі" (Шу-Цзын, па-шанхайскі Chou-King) апісана сонечнае зацьменне ў вобласьці неба, званай Фанг (Fang), г. азн. "памяшканне". Яно пазначана часамі Чжун-Кана (Tshong-Kang) із дынастыі "Ся", які жыў быццам бы каля мінус 2159 года, прычым адбылося зацьменне, – і да гэтага часу пазначаецца на кітайскіх мапах неба – паміж зорачкамі Пі і Сігма Скарпіёна. Інтэрвал паміж імі ў 1800 годзе быў усяго толькі 5 град. 34 хв., а пры ўяўляемым пачатку Кітайскай імперыі і ў мінус 2357 годзе, ён дзякуючы ўласнаму руху зорак быў яшчэ меншы (5 град. 2 хв.), і гэта вельмі зручна для астранамічных вызначэнняў. Патэр Габіль каля 1730 года вылічыў, быццам бы "ў пагадненні з вялікім кітайскім астраномам дынастыі Мін", што такое зацьменне мела месца ў 2155 дахрысьціянскім юліянскім годзе (ўзятым згодна з сітарычным злічэннем гадоў) 12 кастрычніка, у 6 гадзін 57 хвілін раніцы згодна з пекінскім

адпаловуначным часам[362] так што сонца ўзышло ў стане зацьмення у дзень тагачаснага вясновага раўнадзенства.

Але ўжываўшыяся ў палове XVIII стагоддзя табліцы Лягіра, – першыя табліцы, па якіх стала магчымым вылічваць сонечныя зацьменні, – былі яшчэ недастаткова дасканалыя, і пазней выявілася, што максімальная фаза гэтага зацьмення была толькі на 1/6 частку сонечнага дыска, што цалкам не заўважаецца непадрыхтаванымі людзьмі. Фрэр (Freret) моцна крытыкаваў такое "падцверджанне" і выставіў іншае зацьменне, якое вылічыў з гэтай нагоды Дамінік Касіні для мінус 2 007 года, але адбыўшаяся толькі "блізка" ад пазначанага месца паміж зорачкамі Пі і Ламбда Скарпіёна, а не ў ім самым. Габіль запярэчыў, спасалаючыся на гістарычныя мяркаванні, Фрэр настойваў на сваім. Але вось наступіла XIX стагоддзе, Біа папрасіў астранома Ларжэта (Largeteau), рэдактора знакамітага астранамічнага штогодніка "Connaissence des temps", паўтарыць абодва вылічэнні грунтуючыся на лепшых табліцах, прыняўшы да ўвагі стагоддзевае паскарэнне месяцовага руху, выяўленае Лапласам (справа ў тым, што пры памяншэнні эксцэнтрысітэта зямной арбіты, абарачэнне Месяца вакол Зямлі паскараецца, а пры павелічэнні, наадварот, і перыяд гэтых ваганяў такі вялікі, што за ўвесь гістарычны прамежак часу адбывалася толькі паскарэнне абрачэння месяца, а запавольванне будзе ў далёкай будучыні).

І вось, калі прынялі да ўвагі гэтую, яшчэ невядомую ў часы Габіля з'яву, то выявілася, што сенсацыйнага сонечнага зацьмення, апісанага ў кітайскіх летапісах (адкрытых місіянерам Майлья і самім Габілем) цалкам не было відаць у Кітаі! Ларжэта паказаў, што яно адбылося не 12, а 11 кастрычніка таго ж мінус 2154 астранамічнага года, і не ў 23 гадзіны 20 хвілін, а ў 17 гадзін 54 хвіліны сярэдняга парыжскага часу, г. азн. яно было відаць вечарам ў Парыжы, а ў Пекіне ў гэты час быў 1 час $30^{1/3}$ хвілін ночы, і, як следства, гэтае зацьменне не магло быць назіраемым ні із якога месца Кітайскай імперыі.

Тое ж самае выявіў Ларжэта і адносна зацьмення мінус 2007 года, якое Фрэр спрабаваў супрацьпаставіць Габілю. І яно было нябачным па ўсяму Кітаю.

"Пагэтаму патрэбна прыняць, – робіць выснову Біа (с.70), – які-небудзь іншы час для пачатку царавання Чон-на".

Пазней і я шмат працаваў над гэтым пытаннем, шукаючы, калі былі ўсе зацьменні, бачныя ў Кітаі паміж зорачкамі Сігма і Пі Скарпіёна.

Задавальнялі гэтай умове ад мінус 2 500 гады да XIX стагоддзя нашай эры толькі пяць наступных (паміж 240° і 248° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты і паміж 236° і 242° прамога ўзыходжання), лічачы дні грунтуючыся на юліянскім календары.

1. У мінус 1094-X-22. На небе яно было каля 238° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты, а ў экватарыяльных каардынатах каля 237°, г. азн. каля δ і β Скарпіёна. Паласа поўнай бачнасьці пачалася ў Туркестане, прайшла праз Тыбет, і яно было відаць каля поўдня паблізу выспы Фармоза.

2. У мінус 573 годзе-X-22. На небе яно было каля 236° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты. Паласа поўнай бачнасьці пачалася на поўдзень ад Байкала і прайшла раніцай некалькі паўночней Пекіна і Карэі праз Японію ў Ціхі акіян.

[362] Gaubil: Observations mathematiques etc. Paris. 1732. Пра гэтае зацьменне пісаў таксама патэр: De Mailla: Histoire generate de la Chine, vol. I, p. 137. А Габіля яшчэ ў Recceuil de souciet, vol. II, p. 140, і ў Lettres ediliantes, vol. XXVI.

3. У мінус 313 годзе-X-28. На небе яно было каля 241° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты, каля β Скарпіёна, пасярэдзіне ўказанага прамежка. Пачалося яно ўнутры Кітая, і паласа колападобнай бачнасьці прайшла амаль праз Шанхай ў ранішні час, закончылася каля Мексікі.

4. Колападобное ў 1444 годзе-XI-10. На небе яно было каля 243° (а экватарыяльна каля 242°), г. азн. каля самой σ Скарпіёна ўнутры ўказанага прамежка. Пачалося яно ў Тыбеце, і паласа колападобнай бачнасьці ішла на мяжы Кітая і Індакітая амаль праз Лхасу, дзе зацьменне было ў вельмі вялікай фазе.

5. Поўнае ў 1641-XI-3. На небе яно было каля 234° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты, г. азн. яшчэ ў Шалях, а не ў Скарпіёне. А геаграфічна падыходзіць, так як будучы паўдзённым на мяжы Тыбета і Манголіі, яно прайшло пасьля апоўдня амаль прама праз Шанхай ў Ціхі акіян і не магло не напалохаць кітайскую публіку, а летапіс заканчваецца 1644 годам, так што яно было на вачах яе аўтараў.

Але пасьля заканчэння гэтых вылічэнняў, забраўшых ў мяне не менш месяца ўпартай сістэматычнай працы, так як я перагледзеў для гэтай выбаркі сотні зацьменняў, я раптам апамятаўся... Бо із самога апісання відавочна, што гэта місіянерская падробка.

У 1933 годзе я змог атрымаць выяву гэтага зацьмення згодна з самой кітайскай транскрыпцыяй з перакладам нямецкага кітаіста Аўгуста Пфіцмайера, больш дакладным чым у Майлья і Габіля, ці ў Біа, ці ў Ротмана[363], і што ж выявілася?

Вось мой дакладны пераклад нямецкага Пфіцмайерава тэкста з маімі тлумачэннямі ў косках.

"У той час нашчадкі "Плана" і "Чарцяжа" (лічымыя першымі кітайскімі астраномамі-геадэзістамі) далёка адкінулі сваю дабрачыннасць. Яны пачалі бязладна пьянстваваць, закінулі свае службовыя абавязкі, адарваліся ад занімаемага імі звання. Яны ўпершыню парушылі нябесны падлік года, закінулі свае ідэі. Калі пад час апошняга (г. азн. трэццяга) месяца восені, пад час маладзіка адбыліся нелады Месяца ў Пазусе (г. азн. паміж π і σ Скарпіёна), у сляпога забарабаніла ў вушах, скнарны імчаўся куды вочы глядзяць, простыя людзі беглі. А нашчадкі "Плана" і "Чарцяжа", знаходзіліся на сваёй пасадзе, чулі гэты шум і нічога не ведалі".

Якой ні з’яўляецца цьмянай кітайская малюнкавая транскрыпцыя, але тут яна цалкам відавочная.

Для праверкі толькі што прыведзенага перакладу, я паказаў кітайскі тэкст нашай кітаістцы А. А. Жалязновай, і яна пераклала мне прыведзенае тут месца так:

"У перыяд апошняга восеньскага месяца (г. азн. трэццяга ад восеньскага раўнадзенства) ўсечаны месяц раніцай не паладзіў у нябеснай пазусе".

А астатні тэкст яна пераклала так жа як і Пфіцмайер: "усе бягуць куды бачаць, крычаць, як бывает толькі пры моцных зацьменнях і галоўным чынам пры наступіўшай поўнай цемры".

Гэта азначае, – падумал я, – гаворка ідзе пра сапраўды вялікае сонечнае зацьменне, апісанае відавочцам. І перададзена цалкам праўдзіва і выразна, што яно было раніцай, і што часам яго быў трэцці восеньскі маладзік. І тут упершыню да мяне прыйшла думка, што і без якіх бы то ні было вылічэнняў відавочна, што гэтае

[363] Rothman R. W. Esq. On an aneient solar eclipse observed in China. (Артыкул у «Journal of the Royal Astronomical Society», vol. XI, 1837.

зацьменне было ў нядаўні час. Бо толькі адзін факт становішча трэццяга маладзіка каля зорачкі Пі (π) і Сігма (σ) Скарпіёна дае нам магчымасць вызначыць экліптыкальнае становішча і першага восеньскага месяца, г. азн. такога, у якім знаходзілася восеньскае раўнадзенства, а, як следства, і само гэтае раўнадзенства, ведаючы, што маладзікі на экліптыцы паўтараюцца праз 29°. Гэта я і зрабіў на чарцяжы.

Із яго добра відаць, што калі трэцці пасьля раўнадзеньскі восеньскі маладзік быў паміж 136° і 142° па экліптыцы, то другі быў паміж 206° і 211°, а першы восеньскі быў паміж 177° і 183°, г. азн. у сузор'і Панны цалкам так як і зараз, калі кропка восеньскага раўнадзенства знаходзіцца ў Панне пад 180° экліптыкі сучаснага нам злічэння. Гэта і паказана ў верхнім радку дыяграмы.

Але ж, дзякуючы прэцэсіі, якая пры адліку ў мінулае набывает станоўчы знак, кропка восеньскага раўнадзенства ў мінус 2000 годзе была зусім не ў Панне каля сучаснага нам злічэння, г. азн. як раз у пазначаным для зацьмення прамежку, а таму і маладзік гэтага зацьмення быў бы тады ніяк не ў трэццім, а ў першым восеньскім месяцы.

Нават і на пачатку нашай эры яно магло быць толькі ў другім месяцы пасьля восеньскага раўнадзенства, а не ў трэццім, так як першы маладзік быў бы тады паміж 206° і 211°, як відаць із маёй дыяграмы. А ў трэццім восеньскім маладзіку гэта зацьменне (паміж π і σ Скарпіёна) магло быць толькі ў наш час, або ў крайнім выпадку гадоў за 500 да нас, калі лічыць, што першы восеньскі маладзік, дзякуючы несупадзенню з кропкай восеньскага раўнадзенства, прайшоў дзён за дзесяць да яго.

Намалявана Е.Л. Крынавым.




*Мал. Наглядны крытычны разбор часу знакамітага кітайскага сонечнага зацьменні. У верхняй частцы дадзены становішчы першага, другога і трэццяга восеньскага маладзіка згодна з экліптычнай даўгатй, як яны атрымліваюцца грунтуючыся на дакуменце, лічачы, што трэццяе было паміж зорачкамі σ і π каля Антарэса, грунтуючыся на кардынатах 1900 года. У ніжняй частцы дадены ў тых жа кардынатах крайнія правыя месцы трэццяга і першага восеньскага маладзіка ў разные тысячагоддзі, лічачы прэцэсію роўнай 1° 39' за стагоддзе. Із параўнанняў верхняй часткі з ніжняй добра бачна, што трэці восенькі маладзік мог быць паміж σ і π Скарпіёна толькі ў XIX стагоддзі нашай эры ці ва ўсякім разе ніяк не ранее 1400 года (інакш ён быў бы ўжо відавочна лявей σ, па-за межамі магчымай памылкі).*

І вось, із усіх разлічаных мной зацьменняў – адзіным адпавядаючым дадзенаму нам дакладнаму кітайскаму апісанню, з'яўляецца толькі зацьменне 10 лістапада 1444 гады нашай эры, каля самай Сігма Скарпіёна (σ), якое было сапраўды трэццім восеньскім зацьменнем і прытым перадмаладзіковым для ўсяго Кітая, як і напісана.

Іншага рашэння няма нават за 26 тысяч гадоў да нашага часу, калі не лічыць зацьмення 1641 года, адбыўшагася пры самім патэры Габіле каля Пі (π) Скарпіёна.

Але як жа, – скажаце вы мне, – нават Біа, і сам Апольцар, не заўважылі такую простую абставіну, як магчымасць сонечнага зацьмення паміж Сігма і Пі Скарпіёна пад час трэццяга восеньскага месяца, інакш як у наш час або ў апошнія 500 гадоў да нас? Бо тут справа даходзіць прама да смешнага! Вынікае, што кітайцы за 2000 гадоў да пачатку нашай эры лічылі пачатак восені не з

кліматычнага верасня, як патрэбна згодна з рыгарыянскім злічэннем, а з кліматычнага рыгарыянскага студзеня, з наступлення самых халодных дзён зімы! Бо летняе сонцастаянне было ў мінус 2159 годзе не ў Блізняцах, як зараз, а у Ільве, ужо паблізу Панны. 21 дзень другога летняга месяца – кліматычнага ліпеня – быў у Панне перад Шалямі, а 21 день трэццяга летняга месяца – кліматычнага жніўня – быў у Шалях перад тым самым месцам Скарпіёна, дзе адбылося апісанае сонечнае зацьменне. Гэта азначае, тады яно адбылося б летам, а не пад час апошняга месяца восені, перад зімой!

Шляхі ўсіх сонечных зацьменняў, якія праходзілі ў поўным або колападобном выглядзе праз Кітай, Тыбет, Манголію (тэрыторыя абведзена пунктырам), і паблізу ад іх ад мінус 1200 гда да пачатку нашай эры (-2000) і да 1700 года пасьля яе і бачных на небе ў прамежку паміж зоркамі π і σ Скарпіёна або паблізу ад іх.

(відаць пвінен быць малюнак)

Няўжо, – запытаеце вы, – кітайцы і зараз лічаць лета за восень, а зіму за вясну?

Вядома, не, – адкажу я. За чатыры тысячы гадоў, што прайшлі пасьля першага іхнага зацьмення, было дастаткова часу, каб нарэшце адумацца!

Чытач, без сумневу, разумее, што я тут выказваю гэта не дзеля жарту, а для таго, каб больш відавочна паказаць, як цяжка часам адразу ўлічыць ўсе пабочныя абставіны ў падобных даследаваннях. Бо і я сам выканаў цэлы шэраг непатрэбных вылічэнняў, перш чым раптам зразумеў, што і без вылічэнняў грунтуючыся на адной прэцэсіі відавочна, што тут апісана сонечнае зацьменне, адбыўшаяся не за чатыры тысячы гадоў да нас, а ў крайнім выпадку, за якіх-небудзь четыреста або пяцьсот гадоў да нас.

Паглядзім жа і на непазбежныя высновы, вынікаючыя із гэтага.

Гэтае зацьменне аднесенае згодна з ранейшай храналогіяй да мінус 2155 года, за 8 гадоў да сьмерці цара Чжун-Кана (Chung Kang) – 2159, -2176 гг. А згодна з маімі падлікамі яно адбылося ў плюс 1444, праз 9 гадоў пасьля ўцаравання цара Чжэн-Дына (Cheng Ting). Абодва найменні сугучныя ў першай частцы, а дадткі Кан і Дын азначаюць "квітнеючы" і "непахісны". І той, і другі царавалі 13-14 гадоў, г. азн. аднолькавы прамежак часу. Чжун аднесены да дынастыі Ся (-2205, -1766?), налічваўшай у сваім ліку 17 прадстаўнікоў, а Чжэн – да дынастыі Мін (1368, 1644 г.), налічваючай у сваім ліку таксама 17 прадстаўнікоў. Мімаволі ўзнікае выснова, што і ўся дынастыя Ся ёсць толькі варыянт дынастыі Мін.

Але адразу ж відаць, што гэта – вольная варыяцыя, і прамежкі цараванняў, за выключэннем самога Чжуна-Чжэна, пры якім было зацьменне паміж Сігма і Пі Скарпіёна, мала падобны. Але ўсё ж імёны часта сугучны ў абедзвюх дынастыях і ідуць у тым жа парадку, а гэта згодна з тэорыяй верагоднасьцей немагчыма выпадкова. Напрыклад, сугучныя імёны дынастыі Мін, за выключэннем чатырох адсутнічаючых у дынастыі Ся, паўтораны ў той жа пасьлядоўнасьці, але прамежкі часу іхнага царавання іншыя, за выключэннем двух выпадкаў, а таму і працягласць царавання абодвух дынастый, узятых цалкам, атрымаліся разнымі.

Але адпаведнасць зацьмення ў Скарпіёне з найменнямі цароў, што царавалі ў гэты час у абодвух выпадках, выключае магчымасць выпадковага супадзення і падцверджвае ўжо выказаную мной гіпотэзу пра ўдзел каталіцескіх місіянераў у стварэнні старажытнай і сярэднявечнай гісторыі Кітая. Падробка гэтага зацьмення пад мінус 1155 годам магла быць зроблена толькі аўтарам, які жыў не раней XVI

стагоддзя і карыстаўся табліцамі Ля-Гіра. А яна настолькі адпавядае памылкова ўсталяванаму часу дынастыі Ся, што і сама дынастыя павінна быць выпрацавана і храналагізавана таксама згона з табліцай Ля-Гіра із дынастыі Мін.

Уся задума ўяўляецца ў такім выглядзе. Із місіянерскіх перакладаў розных еўрапейскіх хронік на кітайскую мову, там назапасілася цэлая літаратура, у якой дзякуючы кітайскаму альфабэту прывёўшаму да непазбежнага акітайвання усіх назваў мясцовасьцей, асоб і гарадоў, не засталося ніякіх прыкмет іншаземнага паходання і яны былі палічаны ранейшымі назвамі кітайскіх мясцовасьцей і асоб.

Каталіцкія міссіянеры, пачаўшыя пранікаць ў Кітай яшчэ пачынаючы з 1522 года, і прагнаныя із Пекіна толькі ў 1822 годзе, жадалі давесьці грунтуючыся на гэтых матэрыялах яго гісторыю да самых крайніх межаў старажытнасьці, якая толькі была магчымай пры іхнай біблейскай храналогіі, г. азн. да так званага "сусветнага патопу", калі застаўся толькі Ной з сынамі або, ва ўсякім разе, да "рассялення народаў" із Месапатаміі, пасьля таго, як там "пачалі будаваць Вавілонскую вежу да нябёсаў", за што бог "падзяліў, быўшую да таго часу адзіную, чалавечую мову "і людзі, перастаўшы разумець адзін аднаго ў роспачы разбегліся ў разныя землі, у тым ліку і ў Кітай. Згодна з храналогіяй Скалігера, памёршага ў 1558 годе, наш прабацька Аўраам, застаўшыся з ранейшай дапатопнай мовай, сышоў апошнім ад сьцен нешчаслівай Вавілонской вежы ў Палестыну на 75 годзе ад нараджэння ў 2039 годе "да нараджэня Хрыстова".[364] А атрымаўшыя ў якасьці свайго пакарання ад бога кітайскую мову, збеглі із Месапатаміі ў Кітай яшчэ за 166 гадоў да Аўраама і заснавалі там сваю першую дынастыю "Ся" праз 143 гады пасьля патопу ў 2205 годзе "да нараджэння Хрыстова".

Праз пяцьдзесят гадоў пасьля гэтага і адбылося, згодна з вылічэннямі вярнуўшагася із Пекіна каталіцкага місіянера – патэра дэ Майлья, – не існаваўшае ў Пекіне, а бачнае толькі ў Парыже, "сонечнае зацьменне 2155 года да нараджэння Хрыстова". Само сабой зразумела, што паглыбляць кітайскую гісторыю ўглыб стагоддзяў далей за "рассяленне богам народаў" і нават раней узнікнення праз пабудову занадта высокай вежы ў Месапатаміі самой кітайскай мовы, было ўжо фізічна немагчыма. А таму і сам факт давядзення кітайскай гісторыі да самай крайняй хрысьціянскай мяжы паказвае, што яе храналогія створана не без удзелу еўрапейскіх хрысьціянскіх місіянераў. І нават сам факт малюнкавага кітайскага альфабэта з асобным значком амаль для кожнага слова, з'яўляецца псіхалагічна незразумелым без стварэння яго еўрапейскімі прышлымі навукоўцамі, якія ўжо мелі ў сваёй мове гукавы альфабэт з выкарыстаннем шматлікіх ідэаграфічных значкаў, накшталт тых, якія і да гэтага часу засталіся ў нашай арыфметыцы, алгебры, астраноміі і толькі былі палепшаны пасьля пераходу алхіміі ў хімію.

Падумайце толькі самі! Бо не маючы ідэаграфічнага кітайскага альфабэта ўжо цалкам сфарміраваным для ўсіх агульнаўжывальным слоў кітайскай мовы, нельга было рабіць з яе дапамогай ніякіх гістарычных і літаратурных запісаў. А скласьці для іх ўсіх асобныя значкі і запомніць іх, не маючы папярэдняга апірышча ў гукавым альфабэце для зацверджання наданага ім першапачатковага сэнсу, ніяк немагчыма для чалавечага розуму.

Нават навучыцца чытаць грунтуючыся на сучасным кітайскім альфабэце з дапамогай адмысловага настаўніка і з выкарыстаннем слоўніка з іхным перакладам на гукавое вымаўленне, патрабуе не аднаго года ўпартай працы, а пра яго вынаходніцства асобай ці згуртаваннем сяброў, і для яе перадачы вучням ад

[364] Патоп, згодна з разлікамі каталіцкіх біблеістаў, быў у 2348 "да нараджэння Хрыстава ".

пакалення да пакалення ў нязменным выглядзе на працягу тысячагоддзяў без апірышча на гукавы альфабэт, не пераблытаўшы паступова сэнс большасьці значкаў, – немагчыма нават і гаварыць. Кітайскі альфабэт мог быць вынайдзены толькі людзьмі ўжо добра ведаўшымі лацінскі, грэцкі, юдэйскі або арабскі гукавы альфабэт.

Толькі ад яго можна было паступова перайсьці да ідэаграфічнага, паступова дадаючы ўсё больш і больш значкаў, і гэта было нават непазбежна, па меры таго, як выяўлялася, што заходнееўрапейскія літары, не маюць ніякіх адзнак ні для мяккага вымаўлення (па-руску часткова дасягаемага з дапамогай выкарыстання сімвала Ь і ўжывання мяккіх галосных Е, Я, Ю), ні для цьвёрдых Л і Ы, ні для гучных Ч і Ц, (няправільна пазначаемых з дапамогай ЧЖ і ЦЗ), ні для гартанных ўсходніх гукаў. Пры немагчымасьці іх пазначыць пры пісанні ў аднаскладовых кітайскіх словах, спалучэннямі SCH, TSCH і г. д, так як кожная літара па-кітайску мае самастойнае чытанне, неабходна было абраць адзін із двух спосабаў: або патроіць гукавы склад лацінскага (або грэцкага, або арабскага) альфабэта, або паступова перайсьці да выкарыстання ідеаграфічных значкоў.

Вазьміце, напрыклад, рускія словы: "мать, мять, мат і мят" – усе іх давялося б пісаць праз mat грунтуючыся на лацінскім альфабэце (так як транскрыпцыя miati яшчэ горш); вазьміце словы: "был, біл і быль" – іх усё давялося б пісаць праз bil; вазьміце: "пыл, піл, пыль і піль" – іх усе давялося б пісаць праз pil. Зразумела, што пры такім альфабэце ледзь ці не із кожнага рускага выказвання атрымлівалася б смешная двухсэнсоўнасць ці ж спатрэбіліся б вымаўляемыя адным гукам спалучэнні літар: давялося б замест "чай" пісаць "тскхай" (па-нямецку tschai), замест "чучала" – "тскхутскхелэ" (tschutschelo) і г. д., і г. д. І несумненна, калі б пісьмовасць у Кітаі стварыў кітаец, папярэдне навучыўшыся ў Яўропе размаўляць і пісаць на адной із яе літаратурных моў, то ён адразу ж бы заўважыў, што для прыстасавання да яго нацыянальнага вымаўлення еўрапейскага альфабэту, яму неабходна дадаць у яго цэлы шэраг нехапаючых значкоў для адсутнічаюх у ёй гукаў, як гэта і зрабілі (хаця і не вельмі ўдала) славяне, дапоўніўшы для сябе грэцкі альфабэт.

Але ў Кітаі, відавочна, справа адбывалася наадварот. Яго пісьмовасць узяліся складаць прыехаўшыя туды навукоўцы-іншаземцы. Пераканаўшыся, што ўсе іхныя спробы адюстраваць кітайскую фанетыку (якая ўтрымлівае не менш за 60 самастойных гукаў) сваімі 25 значкамі, кожны раз даюць ў выніку слова з іншым значэннем, чым патрэбна, і не ўмеючы нават вымавіць чужыя для іхнага вуха кітайскія дадатковыя гукі, яны і пачалі пераходзіць усюды да ідэаграфічных малюначкаў, пакінуўшы сваю азбуку толькі ў складзеным імі слоўніку гэтых малюнкаў, як мнеманычны сродак, прыдатны толькі для прыблізнага адлюстравання больш складанага гукавога складу кітайскіх слоў.

Толькі такімі чынам і можна растлумачыць сучасны спосаб кітайскага пісання, і гэта паказвае на нядаўнасць усёй кітайскай літаратуры, насуперак усталяваўшайся думцы пра яе глыбокую старажытнасць.

Гэтая ж нядаўнасць даказваецца і цьмянасьцю кітайскіх апісанняў сонечных і месяцовых зацьменняў да эпохі з'яўлення ў Кітаі каталіцкіх місіянераў, якія наладзілі ў ім свае школы і абсерваторыі.

Вось, напрыклад, выпіска ўсіх сонечных з'яў із кітайскай кнігі "Цы-Юань", г. азн. "Тлумачальная энцыклапедыя" ў шанхайскім выданні 1910 года, зробленая па маёй просьбе нашай кітаісткай А. А. Жалязновай. Там гаворыцца, што (перавёўшы

на наша злічэнне) раней -43 года да пачатку нашай эры, сонечныя зацьменні былі вядомы ў Кітаі пад назвай "барацьба з чорным на сонцы", але не прыводзіцца ніводнага апісання гэтай барацьбы, а толькі паведамляецца пра зацьменні пасьля пачатку нашай эры. Вось, напрыклад, (перавёўшы гады на наша злічэнне):

"У 188 годзе, пад час 1-га месяца, на сонцы жоўта-чырвонага колеру былі бачны плямы ў выглядзе ляцячых сарок, і гэта працягвался некалькі месяцаў... У 299 годзе, пад час 1-га месяца, былі цёмныя плямы на сонцы ў выглядзе ляцячых ластавак і працягвалася некалькі дзён... У 352 годзе на сонцы была пляма ў выглядзе трохногага крумкача і працягвалася 5 дзён... У 567 годзе, пад час 3-га месяца, сонца было без сьвятла і на ім трыногі крумкач – 5 дзён... У 579 годзе, пад час 2-га месяца, былі плямы на сонцы з курынае яйка...". Пры дынастыі Сун (974-1276) было зроблена 21 назіранне чорных плям велічынёй са сліву, курынае і гусінае яйкі, іх назіралі на ўзыходзе і заходзе солнца на вадзе ў тазіку.

Скажыце самі, як можна выкарыстаць падобныя паведамленні? А першае зразумелае апісанне ў гэтай кнізе мы знаходзім толькі ў XVII стагоддзі. Вось яно:

"У 1618 годзе, пад час 5-га месяца, на сонцы з'явіўся чорны блін, які пацiху набываў фіялетавы колер і потым зноў ператварыўся ў чорную пляму".

Але і да гэтага праўдападобнага апісання дададзена відавочная недарэчнасць, быццам "так паўтаралася 3 разы на працягу 3 гадзін (апоўдні)" і быццам "гэтая з'ява працягвалася 2 дні"(!). "Пекін быў у трывозе", – заканчвае аўтар, хаця гэтаму гораду і не было ніякай нагоды трывожыцца: ў 1618 годзе сапраўды былі два сонечных зацьменні, але першае з іх – 26 студзеня 1618 года рыгарыянскага злічэння – прайшло ў колападобным выглядзе па Паўднёвай Афрыцы, а другое – 21 жніўня 1618 гада – прайшло ў поўным выглядзе па Паўночнай Амерыцы, і ні адно з іх не было бачным у Кітаі. Бліжэйшае із бачных там было 29 сакавіка (згодна з рыгарыянскім злічэннем) 1615 гада і прайшло апоўдні ў колападобным выглядзе паміж Пекінам і Нанкінам.

Гэта азначае, што і гэтае па знешнасьці праўдападобнае апісанне пераблытана, нягледзячы на свой позні час. Іншых зацьменняў або вылічаных астранамічных з'яваў у "Тлумачальнай энцыклапедыі (Цы-Юань)" – няма. Ды і ў іншых кітайскіх першакрыніцах, раней XVII стагоддзя яны не падцверджваюцца дакладнымі вылічэннямі, пра што я пагавару пазней.

Мне магчыма запярэчаць, што сам жа я ў VI томе "Хрыста" прывёў цэлы спіс камэтных запісаў, сбраных у рукапісах Шэ-Кэ і Ма-Туань-Лін, вывезеных із Кітая місіянерамі Майлья і Габілем (Mailla et Gaubil), дзе я паказваў толькі на недакладнасць гэтых запісаў да 415 года нашай эры, а пазнейшыя лічыў заслугоўваючымі ўвагі. Але я не адмаўляюся ад гэтага і зараз, а толькі стаўлю пытанне: ці не склалі іх самі ж гэтыя міссіянеры грунтуючыся на еўрапейскіх першакрыніцах?

Бо ў той жа самы час у Заходняй Яўропе было вялікае захапленне каметаграфіяй. З'явіўся шэраг камэтных псеўдалетапісаў, якія аўтарамі даводзіліся да іхнага ўласнага часу. Рокенбах скончыў таксама свой "Летапіс" летняй каметай 1596 года, Фабрыцыус – восеньскай каметай 1604 года. Рычыолі – восеньскай каметай 1607 гада (будучая камета Галея ), Эксторміус – зімовай каметай 1618 года і г. д. І ў якасьці завяршэння гэтага каметашукання па ўсіх стагоддзях і народах

была надрукавана ў 1665 годзе вялікая кніга Любянецкага "Гісторыя усіх камет, пачынаючы ад патопу і заканчваючы нашым часам (1665 годам)"[365].

І што ж мы бачым: адначасова з гэтым кометным захапленнем у Заходняй Яўропе з'яўляецца такое ж захапленне імі ў Кітаі, дзе таксама з'яўляюцца два зборнікі – "Шэ-Кэ" і "Ма-Туань-Лін" – із мінулых каметных з'яўленняў, "пачынаючы ад потопа" і заканчваючы так званым "нашым часам". А які ж гэта час?

І вось кур'ёз: апошняя рэальная камета, якой заканчваюцца абодва кітайскія сборнікі, гэта – камета 1617 года, якой заканчваецца і еўрапейскі зборнік камет Эксторміуса[366].

Магчыма гэта выпадковае супадзенне? Толькі для чалавека, які не мае ніякага уяўлення пра матэматычную тэорыю верагоднасьцей!

Ітак, уплыў каметаграфіі Эксторміуса тут не выклікае сумненняў. Акрамя таго, і ў "Шэ-Кэ" і ў "Ма-Туан-Лін" дзевяць дзесятых паведамленняў даюцца літаральна ў тых жа самых словах, г. азн. спісаны з невялікімі дапаўненнямі і выключэннямі з нейкага папярэднічаўшага ім, менш падрабязнага сборніка каметных запісаў. У Кітаі такага няма, а ў Яўропе цэлы ворах.

Тут застаецца дзіўным толькі тое, што ў Майлья і Габіля, вывезшых із Кітая гэтыя рукапісы, шляхі камет сярод сузор'яў паказаны больш падрабязна, чым у еўрапейскіх летапісах, але ці сапраўды гэтыя кітайскія падрабязнасьці, ненаходзімыя ў еўрапейцаў адпавядаюць рэчаіснасьці? Прыходзіцца адзначыць, што ў шматлікіх выпадках яны відавочна фантастычны.

Возьмем, для прыкладу, іхнае самае пазняе паведамленне (у XVII ст.), калі Галілей ужо вынайшаў тэлескоп у 1609 годзе і ў Заходняй Яўропе пры шмат якіх каралеўскіх дварах ужо існавалі адмысловыя абсерваторыі і штатныя астраномы-назіральнікі, так што не магла застацца не заўважанай і не зарэгістраванай ні адна камета. Ад 1618 да 1652 года еўрапейцы не бачылі ніводнай каметы, а ў вывезеных із Кітая міссіянерамі Майлья і Габілем двух летапісах апісаны пад час гэтага пустакаметнага прамежаку цэлых тры (у 1621, 1632 і 1640 гг.), пры гэтым для уяўнай каметы 1639 года дадзены нават і падрабязнасьці, якія ў перакладзе на нашу тэрміналогію такія:

"У 1631 годзе была відаць камета ў вобласьці α-β-γ-δ і іншых зорак Арыёна".

І такое ж апісанне тымі самымі выразамі знаходзіцца як і ў "Шэ-Кэ", так і ў "Ма-Туан-Лін". А ў Яўропе, нават і ў тэлескоп Галілея, які к таму часу дзейнічаў ужо 30 гадоў, нічога падобнага не маглі заўважыць.

Із гэтага мы бачым, што нават і ўказанне на сузор'і, у якіх "бачылі" у Кітаі камету, не гарантуе нас ад містыфікацый. А аднолькавыя гады шмат якіх камет[367], згаданых у заходнееўрапейскіх каметаграфіях і ў разбіраемых намі сборніках "Шэ-Кэ" і "Ма-Туан-Лін", даказваюць не тое, што, быццам бы, еўрапейскія летапісы падцвярджаюцца кітайскімі і наадварот, а тое, што еўрапейскія запісы ляглі ў аснову кітайскіх, і што ход камет па сузор'ях, дзе няма адпаведных паведамленняў у еўрапейскіх першакрыніцах прыдуманы самімі міссіянерамі "ад духа сьвятога", г. азн. сузор'і прыдадзены каметам згодна з астралагічнымі мяркаваннямі, у сувязі з падзеямі дадзенага года: перад вайной камета павінна была абавязкова прайсьці па

---

[365] Stanislai de Lubieniezki: Historia Universalis omnium cometarum a diluvio usque praesentem annum, 1665.
[366] Хрыстос, Кн. VI., с. 132
[367] Глядзі. "Хрыстос", кн. VI с. 131.

Стральцу, перад навадненнем – па Вадаліву, павальнай хваробай – па Скарпіёну і г. д.

Вядома, гэта толькі мае здагадкі, але без здагадак нельга абысьціся ў навукова-даследчай дзейнасьці, якая грунтуецца першапачаткова выключна на іх, пры гэтым далейшыя даследаванні падцвярджаюць або аспрэчваюць першапачатковыя здагадкі, вядучы да новых і новых здагадак, пакуль яны не прыводзяць да даказуемай для кожнага істыны. Для мяне ж тут важна давесьці толькі адно: калі запісы летапісаў "Шэ-Кэ" і "Ма-Туан-Лін", вывезеныя патэрамі Майлья і Габілем каля 1640 гады із Кітая, у шмат якіх выпадках падцвярджаюцца і еўрапейскімі запісямі, то гэта яшчэ не азначе, што яны вяліся незалежна як у Заходняй Яўропе, так і ў Кітаі ад мінус 466 года (калі ўпершыню супалі еўрапейскія каметныя запісы з кітайскімі) і да плюс 1618 года (калі яны супалі апошні раз). Гэты факт магчыма хутчэй за ўсё растлумачыць кааптацыяй разнастайных еўрапейскіх запісаў, прывозімых міссіянерамі на Ўсход, у кітайскую гісторыю. І я ўжо даказаў, што і еўрапейскія запісы ў агульным вартыя даверу толькі з 307 года нашай эры, далей чаго пачынаецца іх "вялікі перапынак" ад 307 да 220 года[368], за якім ужо ідуць чыста фантастычныя паведамленні.

Гэта азначае, і каметнымі "кітайскімі" запісамі можна карыстацца ў гістарычных даследаваннях толькі ў тых выпадках, калі яны пагадняюцца з еўрапейскімі, пачынаючы з 307 года нашай эры, як я і рабіў у маіх папярэдніх даследаваннях, дапускаючы, што Майлья і Габіль, пры іх параўнанні па-кітайску, маглі карыстацца не адным Эксторміусам, але і не дайшоўшымі да нас іншымі лацінскімі або маўрытанскімі першакрыніцамі.

З гэтымі папярэджваннямі я і перайду да выкладання сваёй тэорыі кааптацыі "татарскага іга ў Расіі", г. азн. падзей чацвёртага крыжовага пахода ў кітайскую гісторыю.

Я пастаўлю нават пытанне: ці сапраўды кітайская дынастыя Юань, пачынаючася там быццам бы з 1206 года, г. азн. праз 110 гадоў пасьля пранікнення крыжакоў на Еўфрат і заснавання за ім графам Балдуінам Эдэскага княства ў 1096 годзе, была "монгольская", а не вынікам паглыблення крыжакоў на працягу наступнага стагоддзя, яшчэ далей на ўсход, аж да Лхасы, Пекіна і Шанхая. Не забудем пра ўжо даказаны ў гісторыі Кітая факт, што разам з дынастыяй Юань ў Кітаі зацвердзіліся каталіцкія духоўныя ордэны, пачаўшыя ўсталёўваць там каталіцызм і еўрапейскія навукі: астралогію, алхімію, медыцыну, гісторыю еўрапейскіх дзяржаў і "біблейскую псеўда-гісторыю ад стварэння сусвету каля 5508 гада і да "нараджэння Хрыста". Нагадаем таксама, што ў 1583 да немалалікіх кітайцаў-хрысьціян прыехаў нават ў якасьці папскага легата і намесьніка вучоны езуіт Матыяс Рычы, пры гэтым "кітайцы-каталікі" на тэрыторыі ўсяго Кітая вольна ладзілі  богаслужэнні і засноўвалі свае кітайска-хрысьціянскія школы.

Згадаем, што нават і пры скідванні (відаць, каталіцкай) дынастыі Юаней канфуцыянцамі цынамі (дынастыя Цын) ў 1644 годзе, кітайцы-каталікі і іхнае веравызнанне карысталіся заступніцствам новых уладароў аж да 1722 года, калі пры трэцім маньчжурскім імператары Шы-Цзун (1723-1734), па мянушцы Юн-Чжэн – упершыню пачалося варожае стаўленне канфуцыянцаў-уладароў да каталіцкіх духоўных ордэнаў і да прыняўшых іхную рэлігію кітайцаў.

Аднак і пасьля гэтага працягвалася памяркоўнае стўленне да таго часу, пакуль у 1815 годзе прыехаўшыя ў Кітай пратэстанты падгаварылі пекінскі

[368] "Хрыстос", кн. VI с. 130, табліца X, слупок 8.

канфуцыянскі двор прагнаць са сваёй краіны каталіцкіх місіянераў. Але вынікам гэтага выгнання, аднак, быў не пераход кітайскіх каталікоў да пратэстантызму, а пераход простага народа да будызму. А як перажытак пашыранага раней каталіцызму ў Кітаі, яшчэ і ў 1900 годзе налічвалася каля мільёна ста тысяч кітайцаў-каталікоў.

Чытач бачыць, што ідэя пра панаванне каталіцызму ў Кітаі пры дынастыі Юань і пра яе крыжацкае паходжанне, не такая ўжо неверагодная, як нам здаецца з першага позірку. Ды і сам кітайска-мангольскі буддызм, з яго манаскім святарствам вельмі падобны на мясцовае перараджэнне каталіцызму, ізаляванага ад Рыма, які за гэты час пайшоў далёка наперад.

Першыя весткі пра карыстанне компасам у Яўропе адносяцца да часу крыжовых паходаў і ўтрымліваюцца ў некаторых сумнеўных літаратурных помніках XII стагоддзя, грунтуючыся на якіх можна зрбіць выснову, што ў якасьці першапачатковага компаса выкарыстоўваліся швейныя іголкі, якія тады рабіліся, відаць, жалезнымі, а не сталёвымі; да іх дакраналіся магнітным каменем і яны намагнічваліся; іголку клалі на саломінку ці на корачку на ваду ў круглым кубку, і іголка сваёю даўжынёй станавілася ў плоскасьці мерыдыяна. Але жалеза хутка губляла магнетызм і іголку ўвесь час даводзілася зноў намагнічваць.

"Да XII ці да пачатку XIII стагоддзя, – паведамляе акадэмік А.Н.Крылоў[369], – адносіцца апісанне компаса, у якім намагнічаная іголка была прапушчана праз вось, якая заканчвалася вастрыямі ўгары і знізу, якімі яна і вольна ўтрымлівалася ў падпятніках, зробленых у дне і ў празрыстай накрыўцы кацялка; праз гэту ж вось перпендыкулярна да магнітнай прапускалася другая медзяная стрэлка – паказальнік усходу і захаду.

Аднак гэты компас з жалезнай стрэлкай патрабаваў пастаяннага падмагнічвання і, судзячы па даволі цьмяным апісанні, яно здзяснялася без даставання стрэлкі із кацялка, а проста паднясеннем магнітнага каменя. Уладкаванне компаса з картушкай, сталёвай стрэлкай, са стойкай, якой картушка накладаецца на шпільку, замацаваную ў цэнтры кацялка, прыпісваецца большай часткай італьянцу Флавію Джоя з Амільфі на прыканцы XIII-га стагоддзя".

Адхіленне стрэлкі компаса было адкрыта Калумбам падчас яго першага плавання праз Атлантычны акіян, пры гэтым ён звярнуў увагу і на залежнасць змянення адхілення ад месца.

Так быў вынайдзены компас у Яўропе. Але вось што паведамлялі нам усходазнаўцы XIX стагоддзя.

"Пагендорф, выкладаючы ў сваёй "Гісторыі фізікі" гісторыю вынаходніцтва компаса, – працягвае А. Н. Крылоў, – прыводзіць змест ліста знакамітага кітаяведа Клапрота да Аляксандра Гумбальда, надрукаваны апошнім у 1834 годзе.

Клапрот, грунтуючыся на паведамленнях кітайскіх летапісаў, прыводзіць доказ, што ў Кітаі яшчэ за 120 гадоў да Н. Х. ужо была вядома палярнасць "магнітаў і ўласцівасць намагнічаных іголак паказваць поўдзень. Кітайцам было вядома і адхіленне стрэлкі і ўжыванне яе для мараплаўства, прытым іхная картушка падзялялася на 24 румбы".

"Апроч компаса для мэт мараплаўства ў кітайскіх летапісах паведамляецца і пра выкарыстанне магнітных шляхаводных павозак, у якіх маленькая паварочваюся фігурка ваяра ці жраца паказвала рукой накірунак поўдня. Гэтае вынаходніцтва прыпісваецца імператару Чжэу Кунгу, які жыў нават за 1100 гадоў

[369] Крылоў А. Н. Пра зямны магнетызм. 1922. с. 2.

да Н.Х., яму ж прыпісваюць і само вынаходніцтва компаса. Але Клапрот, выказваючы сумневы, што абодва вынаходніцтвы належаць адной асобе, прыводзіць спасылкі на яшчэ больш старажытныя летапісы, згодна з якімі шляхаводная павозка была вынайдзена імператарам Хуангці і дала яму магчымасць перамагчы свайго суперніка Чжысу, пераследуючы апошняга і ў тумане, і ў воблаках пылу. Гэта ўжо адносіцца да 2364 года да Н.Х., за 3800 гадоў да еўрапейцаў".

Згодна з Клапротам паведамленні пра шляхаводныя павозкі ўтрымліваюцца ў шмат якіх кітайскіх летапісах і не адносяцца да ліку тых паведамленняў пра кітайскі прыярытэт у вялікіх вынаходніцтвах, як, напрыклад, было з лагарыфмамі, калі пасьля параўнання выявілася, што ў кітайскіх табліцах паўтараюцца тыя ж самыя памылкі друку, як і ў табліцах Улаха, выдадзеных у Галандыі ў 1628 годзе.

Аднак, нягледзячы на ўсю нашу павагу да Клапрота, мы з боку гледжання простага цьвярозага розуму можам сцвярджаць, што гэта такая ж падробка першых вандраўнікаў у Кітай – езуітаў, – як і кітайскія табліцы лагарыфмаў.

Нават і ў Яўропе толькі ў XVI стагоддзі компас стаў звычайнай у мараплаванні прыладай і таксама знайшоў прымяненне і ў горнай справе, хаця сама з'ява магнетызму яшчэ не зведала сістэматычнага даследавання. Толькі ў лісьце ад 3-га сакавіка 1544 года Рыгор Гартман, пастар сабора св. Себальда ў Нюранберзе, паведамляе герцагу Альбрэхту Прускаму пра свае працы па даследаванню ўласьцівасьцей магніта, пры гэтым пазначае, што магніт не толькі імкнецца стать сваёй даўжынёй так, каб адзін канец быў накіраваны на поўнач, а другі на поўдзень, але што паўночны канец імкнецца адхіліцца ўніз і што, такім чынам, акрамя "скланення" магнітнай стрэлкі ёсць яшчэ і "схіленне".

Із гэтага відавочна, што і імператар Чжэу Кунг і імператор Хуанг-Ці жылі не раней XVI стагоддзя, калі компас быў завезены ў Кітай еўрапейскімі мараходамі.

# Глава II

## Каантацыя IV Крыжовага паходу ў гісторыю Кітая.

З нагоды "Гісторыі першых чатырох ханаў із роду Чынгізава" манаха Іакінфа Бічурына.

Попыт на "Вялікую Татарыю ў Азіі" не скончыўся кнігай Багадур-хана, а працягваўся і пасьля яе "сапраўднага адкрыцця ў Лейдэне", і вось згодна з тым жа самым эканамічным пастулатам "попыт нараджае прапанову", праз 69 гадоў пасьля друкавання перакладу гэтай кнігі Трэдзьякоўскім, з'яўляецца на рускай мове кніга: "Гісторыя першых чатырох ханаў із роду Чынгізава. Перакладзена з кітайскай мовы манахам Іакінфам. Санкт-Пецярбург. Надрукавана ў тыпаграфіі Карла Карола 1829 г.". На зваротным баку тытульнага ліста, акрамя таго, мы бачым: "Друкаваць дазваляецца з тым, каб пасьля друкавання былі пададзены ў цэнзурны камітэт тры асобнікі. Санкт-Пецярбург, 12 кастрычніка 1828 года. Цэнсар стацкі саветнік Анастасевіч".

Тут "татарскіе ханы" выяўляюцца ўжо прызнанынымі кітайскімі імператарамі.

Пазначаны тут "монах Іакінф" – сінолаг Бічурын (1777-1853), кіраўнік тагачаснай рускай місіі ў Кітаі. Ён ад 1807 да 1821 года жыў у той краіне і ў толькі што названай кнізе дае глава за главой спачатку літаральны пераклад двух хронік

на кітайскай мове, невядома якім чынам патрапіўшых ў яго рукі[370], і да іх час ад часу далучае свае "тлумачэнні" філасофскага або павучальнага характеру.

Так, напрыклад, апісваючы паразы ў 1232 годзе нейкай "Ню-Чжэньскай дзяржавы" ад Угадая (ён жа Актай і Ўгадэй, памёршы згодна з "гістарычнай традыцыяй" у 1241 годзе), Бічурын перапыняе свой летапісны пераклад такімі дададзенымі заўвагамі і "тлумачэннямі" ад сябе:

1) "Заўвага: гэтая кампанія ў Абулгазі апісана ч. IV у главе V на стар 450, 451 і 452, дзе ішоўшы тады снег прыпісаны ўздзеянню аднаго туркестанскага чараўніка".

2) "Тлумачэнне – Напісаўшы: "Давялі войска для дапамогі сталіцы", летапісец гэтым прыпісвае турботу людзей пра службу гасудару. Напісаўшы: "змагаліся каля гары Сань-фын і былі дашчэнту пабіты", летапісец кажа пра бойку з непрыяцелем і што, хаця яны былі пераможаны, але не губляюць славу. Чэнь-хо-шань раней атрымаў перамогі каля Да-чань-юань, Дао-хой-гу, але, зведаўшы паразу каля Сань-фын, сам зьявіўся ў лагерь, выказваўся мужна, вольна, і нісколькі не прынізіўся. Гэтым ён праўдзіва даказаў сваю стараннасць да гасудара. Яго адказ монголам і да сёняшняга дня робіць моцнае ўражанне на чытачоў. І ці мог бы ён дасягнуць гэтага, калі б не быў ахоплены найвышэшай справядлівасьцю? Ах! Пры гэтай падзеі загінулі ўсе цвёрдыя палкаводцы і храбрае войска царства Нючжэнскага, і ўжо не было магчымасьці супраціўляцца. Ці не ёсць гэта воля неба? Напісаўшы: "памёрлі", гісторыя прыпісала ім захаванне адданасьці".

І пад годам 1227 Бічурын ставіць цалкам справядлівае здзіўленае пытанне:

"Заўвага. Ад пачатку сусвету варвары ніколі не былі такімі моцнымі, як зараз манголы. Знішчаюць царствы, падобна як былінку істаргаюць! Да такой ступені ўзвысілася іхная магутнасць! Для чаго неба зрабіла такім чынам?"

Ды! – скажам і мы. – гэтыя іхныя здзяйсненні такія неверагодныя, што калі не лічыць іх за прыдумкі, то "акрамя" адмысловага патурання божага нічым растлумачыць нельга!

Падобнымі з’яўляюцца і іншыя заўвагі і тлумачэнні "манаха Іакінфа" да перакладзеных ім кітайскіх паданняў, у якіх некаторыя супадзенні з "Багадур-ханам Абуль-Газі", да такой ступені уражваюць, што паўстае нават пытанне, ці не сфабрыкаваны гэтыя кітайскія хронікі грунтуючыся на Яго Histoire genealogique des Tatars 1726 года?

Вось як сам аўтар характэрызуе сваю кнігу. "Гэтая гісторыя не з’яўляецца перакладам нейкай асобнай кнігі, а з’яўляецца зборам вытрымак із двух кітайскіх твораў, менавіта: із уласнай "Гісторыі Чынгізава рода, цараваўшага ў Кітаі пад назвай Юань", і із "Кітайскай Усеагульнай Гісторыі", маючай назву Тхун-цзян-ган-му. Першая із іх служыць падмуркам выдаваемай мной кнігі, а із другой запазычаны некаторыя падрабязнасьці, якія маюць дачыненне да тлумачэння таго, што ўжо павядомлена ў першай.

"Гісторыя дынастыі Юань", будучы згодна са сваім зместам нічым іншым як біяграфіяй уладароў, змяшчае нагія падзеі, без згадвання пры іх абставін, а кніга Ган-му, насупраць, тлумачыць свае тэксты кароткім апісаннем, паведамляючы падзеі некалькі больш падрабязна. Гэта заахвоціла мяне самога, для тлумачэння першай, зрабіць адпавядаючыя кожнаму году вытрымкі із апошняй.

---

[370] Мне невядома, куды яны пазней падзеліся. Таксама як і "рукапіс Абуль-Газі", вывезены шведзкімі палоннымі афіцэрамі із Табольска.

Кітайцы ўвялі ў сваю гісторыю асаблівыя выказванні, ад якіх сам іхны склад із гістарычнага пераходзіць некаторым чынам у дыплатычны. Напрыклад, "Гісторыя дынастыі Юань", напісаная ад імя гэтага рода, называе ханаў імператарамі, смерць іх – (як у хрысьціян) – прэстаўленнем. Але Ган-му, пісаная ад асобы кітайскай нацыі, ні пра аднаго іншаземнага валадара не выкарыстоўвае згаданых слоў. Гэтая акалічнасць з’яўляецца галоўным чыннікам той няроўнасьці, якая заўважаецца ў кітайскім гістарычным складзе пры дакладным перакладанні на іншыя мовы.

Кітайская пісьмовасць складаецца не з літар, адлюстроўваючых тоны голоса, а із сімвалічных знакаў, даючых само разуменне пра называемую рэч: з гэтай нагоды іхная пісьмовая мова сама па сабе не дае магчымасьці перадаць правільнае вымаўленне ў танічным паўтарэнні іншаземных уласных найменняў. Акрамя таго, нацыянальны гонар і пагарда кітайцаў да іншаземцаў мелі тое наступства, што яны іншаземныя ўласныя імёны, якія бралі ўдзел у іхнай гісторыі, больш пазначалі знакамі, якія маюць сэнс якой-небудзь з'едлівай насмешкі. Праз гэта шматлікія такія словы перакладзены далёка ад сапраўднага вымаўлення, не гледзячы на тое, што ў іерагліфічных кітайскіх значках маюцца сугучныя вымаўленні, і нават аднолькавыя з вымаўленнем іншаземных уласных імёнаў.

Царуючы зараз у Кітаі дом Цын знайшоў гэты спосаб настолькі ж нявартым вялікай націіі, колькі шкодным для гісторыі: чаму быў выдадзены гістарычны слоўнік, пад назвай "Гінь-Ляо-юань сань-шы юй-цэ", г. азн. "Тлумачэнне слоў у трох гісторыях дынастый: Гінь, Ляо і Юань. У гэтым слоўніку іншаземныя ўласныя найменні **выпраўлены** і **зноў** перакладзены **на кітайскую мову іерогліфамі, бліжэйшымі да іхнага сапраўднага вымаўлення**".

Такім чынам, ужо толькі із гэтага з'яўляецца падстава да памыла. А далей Бічурын справядліва працягвае:

"Амаль усе гісторыі зведваюць адзін і той жа недахоп, што гісторыкі, прыстасоўваючыся да асаблівасьцей сваёй мовы, пераінaчвалі вымаўленне ўласных найменняў местаў або ўжывалі назвы ўласьвыя іхнай айчыне, але адрозныя ад сапраўдных і не рабілі пры гэтым ніякіх заўваг.[371]

Звыш гэтага, само размяшчэнне старажытных месцаў не было выразна пазначана шмат кім із гісторыкаў, ці дадзена са змяненнямі, і іхныя старажытныя назвы перамяніліся...

Геаграфічныя назвы тут запазычаны мной із землеапісання Кітайскай імперыі, маючага назву Ды-цын-і-тхунь-чжы. Але некаторых месцаў я не змог знайсьці ў згаданым землеапісанні.

Так і ў апавяданні пра Чынгіз-Хана і яго пераемнікаў нярэдка сустракаецца блытаніна ў падзеях і непадабенства ў абставінах, чаму нагодай тое, што сучасныя гісторыкі не даюць нам разумення па тагачаснае геаграфічнае становішча і палітычны стан паўднёва-ўсходніх дзяржаваў Азіі...

Абу-газі-Ханава гісторыя народаў турэцкага племені, няправільна названая радаводнай гісторыяй татараў, па большай частцы ўтрымлівае гісторыю розных адгалінаванняў Чынгізава рода. Апісаныя там падзеі хаця і маюць гістарычную

---

[371] Што і зараз у звычаі. Напрыклад кітаец па-маньчжурскі называецца Ні-кань, па-мангольску Кі-тат, па-тыбецку Га-нак, па-французку Шы-нуа, па-нямецку Хі-не-зер. Усе гэтыя словы самім кітайцам невядомы... Але хто можа паручыцца, што праз некалькі стагоддзяў не страціцца значэнне некаторых са згаданых найменяў? Тады пачнуцца новыя этымалагічныя даследаванні і новыя спрэчкі (вельмі правільная заўвага Бічурына).

падставу, але наогул выкладзены не з усёй паўнатой і відавочнасьцю. Сам пераклад, мяркуючы па спосабах, ўжываемы для выраблення гэтага, не мог быць дакладным. Яго французкі перакладчык найбольш зацямніў і заблытаў сваімі недарэчнымі заўвагамі..."

Потым аўтар прыводзіць наступнае паведамленне із Кітайскай хронікі "Гісторыя Чынгізава рода" (атаясамляемага з кітайскай дынастыяй Юань).

"Аруна-гова (г. азн. Чыстая Прыгажуня па-мангольску)[372] будучы ўдавой, аднойчы ноччу пабачыла ў сне, быццам праз верхнюю адтуліну хаты да яе зайшло белае ззянне і ператварылася ў золатападобнага, незвычайнага чалавека, які лёг да яе на ложак. Чыстая Прыгажуня ад жаху прачнулася, і пасьля гэтага зачала і нарадзіла Бадан-чара (ні па-мангольску, ні па-кітайску такога наймення няма, сугучна толькі з Балдуінам – царом-правадыром крыжакоў)[373]. Ён меў незвычайны выгляд: быў важны, сьціплы і размаўляў мала. Хатнія называлі яго дуркаватым, але Чыстая Пыгажуня ў размовах з людзьмі пераконвал, што гэты сын не дуркаваты, а будзе заснавальнікам знакамітага роду. Пасьля яе сьмерці, старэйшыя браты падзялілі паміж сабой спадчынны маёнтак із якога Бадан-чару нічога не перапала.

Беднасць і нізкасць, – сказаў ён самому сабе, – багацце і шляхетнасць залежаць ад лёсу, ці шмат дапаможа маёмасць?

Асядлаўшы белага каня, ён паехаў ва ўрочышча Тыгровая Гара[374] і там застаўся жыць. Ён зведваў крайнюю патрэбу ў ежы. На яго счасьце, аднойчы сокал схапіў перад яго вачамі звярка і пачаў рзрываць. Бадані-чар, злавіў сокала з дапамогай сілкоў, прывучыў яго біць зайцаў і пачаў харчавацца дзічынай. Як толькі заканчвалася адна дзічына сокал лавіў другую, як быццам само-неба турбавалася пра яго (перайманне Іллі прарока).

Пасьля заканчэння некалькіх месяцаў, да яго прыкачавала некалькі дзясяткаў кібітак са стэпу Нябесны Дождь[375]. Бадані-чар паставіў шалаш і застаўся жыць з імі. Яны пачалі дапамагаць адзін аднаму, і Бадані-чар ужо не зведваў ніякіх цяжкасьцей для свайго ўтрымання. Аднойчы сярэдні брат, згадаўшы пра яго, сказаў:

– Бадані-чар з’ехаў адзін і без маёмасьці; думаю, што ён зведвае і холад і голад.

Ён адразу ж паехаў выведаць, і знайшоўшы яго, забраў з сабой. На адваротным шляху Бадані-чар паведаміў брату, што жыхары Нябеснага Дажджу не належаць ні да якага рода і калі хутка прыйсьці сюды з войскам, то можна падпарадкаваць іх. Брат паверыў яму і, пасьля вяртання ў дом, назбіраўшы дужых жаўнераў, даверыў іх Бадані-чару, які сапраўды падпарадкаваў іх (жыхароў краіны "Нябесны дождж"). Пасьля сьмерці Бадані-чара яму спадкаемнічаў яго сын Багарытай-хабіці (такага наймення не існуе ні ў манголаў ні ў кітайцаў), які нарадзіў Махада-даня[376] (не існуе ні ў манголаў ні ў кітайцаў). Маха-Баданева жонка, Маналунь (таксама няма такой), нарадзіла яму сем сыноў і аўдавела.

---

[372] А па-кітайску перадаецца чатырма чарцёжыкамі, якія вымаўляюцца А-Лань-Го-хо.

[373] У гісторыі Абулгазі Бадан-чар названы Бундэчжыр-магок. Гл. ч. II, гл. 15. Па-кітайску чатыры черцёжыкі Бо-Дуань-Чы.

[374] Па-мангольску Барту-ола, а па-кітайску пяць черцёжыкаў, якія вымаўляюцца Ба-Лу-Тхунь А-Лай.

[375] Па-мангольску Тэнгеры-Хура – Нябесны дождж, па-кітайску пяць черцёжыкаў, якія вымаўляюцца Тхын-Ге-Лі-Ху-Ла.

[376] Багарытай-хабіці ў Абулгазі названа Таха; Махададань названы Дугу-мін, племя ялайр завецца ў яго Чжалагір (зараз такіх плямёнаў няма).

Маналунь мела характар цвёрды і запальчывы. Аднойчы дзеці із роду Ялайр (таксама няма такога імя) накапалі карэнняў для ежы. Маналунь, едучы ў калясніцы, пабачыла іх, і сярдзіта закрычала:

– Гэтая зямлі з’яўяецца пашай маіх сыноў! Як вы асмельваецеся псаваць яе?

Яна накіравала калясьніцу на хлопчыкаў і некаторых пакалечыла, а іншых перадавіла да сьмерці. Ялайрцы ж із помсты пагналі ўвесь яе табун. Яе сыны, пачуўшы пра гэта, не паспелі надзець латы (ужо і латы былі ў іх, як у рыцараў!) і поскакалі ў пагоню. Маналунь, адчуваючы неспакой, сказала:

– Дзеці мае без латаў паехалі; ледзь ці адалеюць непрыяцеляў.

Яна загадала нявесткам ўзяць латы і ехаць да іх, але яны не змаглі іх дагнаць. Сыны яе на самай справе (як рыцары без лат!) былі пераможаны і ўсё забіты. Ялайрцы, карыстаючыся перамогай, забілі Маналунь і вынішчылі ўвесь яе дом. Выратаваўся толькі адзін старэйшы ўнук (па мянушцы "Крывабокі") Хайду[377], з якім яго карміцелька захавалася ў кучы дроў. "Таксама і Мядзведзь[378] (Націнь), сёмы сын Маналунь, задолга да таго часу быў прыняты ў якасьці зяця адным жыхаром із Худога ўрочышча[379], і з гэтай нагоды ацалеў.

Пачуўшы пра няшчасьце, якое здарылася з яго родам, ён пайшоў наведаць і знайшоў толькі некалькі дзясяткаў хворых старых, паміж якімі знаходзіўся "Крывабокі" яшчэ жывы. Ён не ведаў, што рабіць. На яго шчасьце, пры згоне табуна, рыжы конь яго брата, вырваўшыся з крукам на шыі, прыбег дадому.

Мядзведзь, сеўшы на яго, прыкінуўўшыся пастухом, выехаў на ялайрскі шлях, дзе яму сустрэліся бацька з сынам (ялайрскія князькі), якія, трымаючы сокалаў на руцэ, не на далёкай адзін ад другога адлегласьці ехалі верхам на паляванне. Мядзведзь пазнаў сокалаў і прамовіў: “Гэтаж сокалы забраныя ў маіх братоў”.

Ён адразу ж пад’ехаў да малодшага і падманна запытаў у яго:

– Адзін гняды жарабец звёў табун на ўсход; ты не бачыў яго?

– Не, – адказваў малодшы. А ў тых месцах, якімі ты ехаў, ці няма дзікіх качак і гусей?

– Шмат, – сказаў Мядзведзь.

– Ці не можаш правесьці мяне туды? – запытаў паляўнічы.

– Можна, – адказваў Націнь і паехаў разам з ім.

Пры абыходжанні рачной улукавіны, заўважыўшы, што задні паляўнічы застаўся далёка ззаду, ён закалоў ехаўшага з ім, і, прывязаўшы да яго каня з сокалам, паехаў да задняга вершніка з ранейшым падманам.

А той, насупраць, запытаў у яго:

– Пярэдні паляўнічы мой сын; чаму ён так доўга не паднімаецца з зямлі?

Мядзведзь адказваў, што ў яго кроў із носу пайшла.

Конны пачаў злавацца, а Мядзведзь, карыстаючыся гэтымі хвілінамі, закалоў яго і паехаў далей. Пад’ехаўшы да адной гары, ён пабачыў тут некалькі соцень коней і пры іх некалькі дзяцей, якія гулялі, кідаючы каменчыкі. Мядзведзь доўга глядзеў на іх і, нарэшце, запрымеціў, што гэтыя коні належалі яго братам. Ён выкарыстаў той жа падман і перад дзецьмі.

Потым, падняўшыся на гару, ён паглядзеў ва ўсе бакі, і так як у наваколлі не было відаць ніводнага чалавека, то забіў усіх хлопчыкаў, і, пасадзіўшы сокалаў на руку, пагнаў коней дадому. Забраўшы адтуль Крывабока і хворых старых, ён

---

[377] Хайду ў Абулгазі названы Кайду. Гл. ч. II, гл. 15. Па-кітайску два чарцёжыкі, якія вымаўляюцца Хай-Ду.

[378] Па-мангольску – Націнь, па-кітайску малюецца пяццю чарцёжыкамі На-Лань-Ці-ЛО-Вынь.

[379] Па-мангольску Бараху, па-кітайску тры чарцёжыкі, чытаемые Ба-Ла-Ху.

вярнуўся ў Худое ўрочышча. Як толькі Крывабок падрос, Мядзведзь з жыхарамі ўрочышчаў: Тачэе і Кумыс – абвясьцілі яго князем. Крывабок, стаўшы на чале кіраваня, пайшоў з войскам на племя Ялайр і пакарыў яго. Мала-па-малу ён узмацніўся; наладзіў свае стаўкі ў Худым урочышчы каля Чорнай рэчкі[380], а для лёгкай пераправы ва ўсякі час, наладзіў праз яе мост.

Пасьля гэтага да яго пачалі прыходзіць жыхары із разных плямёнаў, а пасьля яго сьмерці яму спадкаемнічаў яго сын Бай-шэн-Хур[381], пасьля яго спадчын перайшла да яго сына Думбагая[382]. Пасьля сьмерці Думбагая спадчына перайшла да яго сына Габул-Хана[383]. Пасьля сьмерці Габул-Хана, спадкаемнічаў яго сын Хвастун[384]. Пасьля яго сьмерці уладанні ўспадкаваў яго сын Ісукей[385], які асабліва ўзмацніўся дякуючы заваяванню іншых плямёнаў. Ісукай[386], пасьля сваёй сьмерці, пад час 3-га лета кіраваня Чжы-Юань ў 1266 годзе (верагодна апячатка і патрэбна 1206 год) названы па-кітайску Ле-цзу Шэнь-Юань-хуан-дзі.

Ён, ваюючы з племем татар, паланіў самога іхнага валадара, на імя Тэмуцзынь (г. азн. Стальны, закаваны ў сталь, як рыцары таго часу). У гэты ж час яго ханына Ўлын нарадзіла Чынгіз-Хана, які трымаў у руцэ кавалак крыві, ссеўшайся нападобе чырвонага каменчыка. Ісукай здзівіўся і з гэтай нагоды назваў сына імем свайго палоннага – Стальным (Тэмуцзынам) у адзнаку сваіх вайсковых подзвігаў.

Ад гэтага месца далей ўсюды, дзе толькі ў нас сустракаецца слова Чынгіз-Хан, на кітайскай мове ўжыта: у "Гісторыі" слова Дзі, што азначае Імператар, а ў "Ган-му" у текстах – слова: Мын-гу, г. азн. мангол; у маіх жа тлумачэннях – Мангольскі Гасудар".

Такім з'яўляецца ўступленне да кітайскага псеўда-летапісу "Гісторыя Чынгізава роду, цараваўшага ў Кітаі пад найменнем Фань", у тым выглядзе, як ён перакладзены кіраўнікам рускай місіі ў Кітаі Іакінфам Бічурыным ў яго кнізе – "Гісторыя першых чатырох ханаў із роду Чынгізава". Дзе знаходзіца зараз кітайскі арыгінал гэтай "Гісторыі Чынгізава роду", шмат у чым папраўляючы французкую кнігу, ужо цытаванага намі яго папярэдніка, богадараванага хана Абул-Газі, – я не змог даведацца (яго няма ў Акадэмыі Навук). Але паставімся пакуль да Бічурына з большым даверам, чым да Багадура Абул-Газі.

Перш за ўсё, я адзначу апошнія радкі. Выяўляецца, што бацька Чынгіз-Хана не толькі не быў татарынам, але пакарыў татар. Ён назваў свайго сына Тамудзінам ў гонар праможанага і паланёнага ім татарына па празванню Стальны[387]. Але ж гэта недарэчна! Які пераможца назаве свайго першынца імем свайго пераможанага ворага!

---

[380] На мангольскай мове Хара-гол.

[381] Такага імя па-мангольску не існуе. Па-кітайску чатыры чарцёжыкі, якія вымаўляюцца Бай-Сан-Фу-А.

[382] Такага імя па-мангольску няма. Па-кітайску чатыры чарцёжыкі, якія вымўляюцца Дунь-Бі-Най.

[383] Бей-шэнхур у Абул-Газі названы Бассі-Кірб; Думба-гай названы Туменэ; Габул-Хан названы Кабулк-Ханам, Бардам назван Бартан-Ханам.

[384] Такага імя па-мангольску няма. Па-кітайску чатыры чарцёжыкі, якія вымаўяюцца Гэ-Бу-люй-Хань.

[385] Па-мангольску Бардам, па-кітайску тры чарцёжыкі, якія вымаўляюцца Ба-Лі-Дан.

[386] Ісукей ў Абул-газі названы Іесуг-Баядур (Гл. ч. II, гл. 15). Такога імя па-мангольску няма, па-кітайску тры чарцёжыкі, якія вымаўляюцца Ао-Су-Гай, падобна з грэцкім імем Агіос-Іісус – сьвяты Ісус.

[387] Па-мангольску слова татары не мае сэнсу, г. азн. яно іншаземнае, па-кітайску яно пішацца трыма чарцёжыкамі, якія вымаўляюцца Тха-Тха-Л. Цему-чын азначае: лепшае жалеза, сталь. Па-кітайску 3 чарцёжыкі, якія вымаўляюцца Цьхе-Му-Чжэнь. А проста жалеза – Тымур, па-турэцку – дэмір, адкуль Тымур-Ленк – Кульгавы-Жалезны, перароблены французамі ў Тамерлана.

Затым адзначым заўвагу Іакінфа, што "паўсюль, дзе ў яго напісана слова Чынгіз-Хан, яно належыць яму самому", а не дакументам, якія ён, нібыта перакладаў літаральна". Ён сам сведчыць, што ў "Гісторыі рода Юань" усюды намаляваны толькі чарцёжык, вымаўляемы кітайцамі Дзі, сугучна з італьянскім Дзіа і з французскім Дзье – бажаство, хаця і ў сэнсе вярхоўнага зямнога імператара. А ў другой яго першакрыніцы "Кітайскай Усеагульнай Гісторыі", – згодна з яго ж уласнымі словамі, – усюды, дзе ён піша Чынгіз-Хан, стаяць два чарцёжыкі, якія вымаўляюцца кітайскімі грамацеямі як Мінгу.

Вядома, Іакінф Бічурын адказаў бы на гэтыя заўвагі; што ён так пераклаў, таму што яму і ў галаву не прыходзіла, каб кітайская дынастыя, званая Юань, не была тоеснай з "Чынгіз-ханавым родам"... Так, маўляў, рабілі ўсе да яго, усе верылі сваёй першакрыніцы, як богу, не адважваючыся правяраць яе ні на адпаведнасць лагічнаму сэнсу, ні на адпаведнасць геаграфічным, этнаграфічным і эканамічным абставінам. Дык чаму ж і яму, Бічурыну, не ісьці па слядах сваіх настаўнікаў?

Але сучасны вальнадумны гісторык ўжо не мае права так адказваць і рабіць. Ён акрамя вывучэння грунтуючыся на асобных архівах, кнігах, ці "гісторыях" гісторыі якога-небудзь народа і акрамя яе крытыкі з рэалістычнага боку гледжання, імкнецца даследаваць і гісторыю гэтай гісторыі, г. азн. калі і як было выпрацавана дадзенае паданне. І вось із прыведзенага мной урыўка мы бачым, што ўся павядомленая тут радаслоўная Жалезнага рыцара Тэмудзіна, маючага таксама назву Чынгіз-Хан, чысьцейшая фантазія, пачынаючы ад цнатліва зачацця яго продка ў дзесятым калене Бадані-чара Чыста Прыгажуняй ад цудоўнага золатападобнага анёла (ці не Гаўрыіла?), які сышоў да яе ноччу з неба ў белым ззянні, і заканчваючы яго ўласным нараджэннем ад жонкі богадараванага Абул-Газіева Іесугі-багадура. Але і дальнейшая гісторыя гэтага "Мудрага прарадзіцеля ваяўнічага імператара"[388] на імя Стальны, па празванню Кіёт[389] з'яўляецца чыста фантастычнай, хаця у перакладзе Іакінфа Бічурына, якім я карыстаюся, яна і мае знешні выгляд падобны на "Летапіс Нестара", пазначаны год за годам і вядзе свае апавяданне як раз ад 1201 года, калі (у 1202) начаўся чацвёрты крыжовы паход рыцарскіх і духоўных ордэнаў папы Інакенція III на азіатскі Ўсход і да 1260 года, г. азн. да знікнення Лацінскай крыжаноснай імперыі на Ўсходзе, калі ў 1261 грэкі забралі ў крыжакоў Цар-Горад.

Ужо адно гэта храналагічнае супадзенне наводзіць на крытычныя роздумы, ды і змест летапісу, дзе ён не падобны на казку, таксама навявае шэраг скептычных меркаванняў.

Вось, напрыклад, пад 1204 годам, калі крыжакі заваявалі ў грэкаў Цар-Горад, мы чытаем:

"1204 год – У лета Цзя-цзы, цар Дзі (атаясамляемы Бічурыным з Чынгіз-Ханам) прызначыў вялікі сход пры Тамага-голе, для нарады па пытанню пачатку вайны на Васьмярых (Найманей)[390]. Усе вяльможы пярэчылі яму, што зараз, на

---

[388] Па-кітайскіх чарцёжыках яго поўнае імя Тхай-цау Шэн-ву-Хуан-дзі, пры гэтым чарцёжык Тхай-цзу азначае праайцец, а Шэн-ву-Хуан-дзі азначае мудры і ваяўнічы імператар.

[389] Не мае сэнсу па мангольску, а гістарычна чалавек, які насіў гэтае імя, жыў адначасова з графам Конці, які ў 1192 стаў папай Інакенціем III, натхняльнік чацвёртага крыжовага паходу, які наводніў усход духоўнымі ордэнамі дамініканцаў і францысканцаў і свецкімі рыцарскімі ордэнамі тампліераў, мечаносцаў і г. д. Лічыцца, што кіёт тое ж слова, што тыбецкае цыёт – падносіць падарункі (у кітайцаў тры чарцёжыкі, якія вымаўляюцца Ціпу-вынь).

[390] Па-мангольску Найман азначае восем, па-кітайску тут два чарцёжыкі, якія прамаўляюцца Най і Мань.

пачатку вясны, коні худыя і патрэбна дачакаццца глыбокай восені. Але малодшы брат цара Дзі – Забраніраваны[391] прамовіў:

– Усякую справу лепш вырашаць неадкладна. Не для чаго адгаворвацца худзізной коней.

Благавеснік таксама сказаў:

– Восем (народаў) маюць жаданне забраць у нас лук і стрэлы; гэта азначае, што яны знішчаць нас. Справядлівасць загадвае нам аднадушна памерці. Яны бахваляцца, спадзяючыся на шырокасць сваіх уладанняў; але калі зрабіць на іх напад знянацку, то можна цалкам ручацца за поспех справы[392].

Цар Дзі, задаволены гэтым, адказаў, што ідучы на вайну з такімі людзьмі нельга ўсумніцца ў поспеху. І ён пайшоў вайной на Восем (царстваў) і спыніўся з войскам каля Цынь-дахань-гол (каля Заячай гары). Спачатку ён выправіў у паход Хубіры (што азначае: Усё-бяры) і Чжэба (пераіначанае іншаземнае слова) з перадавым корпусам. Валадар васьмі (народаў) Дыянь-Хан (Божы цар)[393] прыйшоў ад Ань-Тхая і размясьціўся лагерам пры падэшве Хан-гая. Да яго далучыліся:

1) Тахто, правадыр народа Не-Лі-Цы; 2) Алінь, правадыр народа стэпаў; 3) Хутук-Беці, правадыр народа князя Ва-І-Ла (па-мангольску князя Ай-рат)[394] і яшчэ народы: 4) Дурбош, 5) Татар, 6) Хатагінь і 7) Салчжут (усё іншаземныя словы: – адзначым, што гэта і ёсць царства 8 народаў, калі дададзім сюды і ўласны народ Дыян-Хана). Такім чынам Дыян-Хан дастаткова ўмацніўся. У гэты час адзін кволы конь із Чынгізханава войска ад перапугу забег у лагер васьмі (народаў). Божы цар (Дыян-Хан), пабачыўшы яго, сказаў сваім чыноўнікам, што мангольскія (?) коні худыя і слабамоцныя. Патрэбна было б заманіць непрыяцеляў глыбей у сярэдзіну краіны, а пасьля таго, зрабіўшы напад, забрать іх у палон. Але генерал "Цвёрдая Палка"[395] адказаў на гэта:

– Пры нябожчыках гасударях ў бітвах яны мужна ішлі наперад, не вяртаючыся назад, каб не паказаць непрыяцелю ні канячага хваста, ні жаўнерскай спіны. Прапануемае табой нам зараз адступленне ці не азначае ўнутранага перапалоху? А калі спалохаўся, то чаму не перадаеш Ханьпе кіраванне войскам?

Дыян-Хан (божы цар), засмучаны гэтым, той жа час ускочыў на каня і даў загад пачаць змаганне. А Чынгіз-Хан даручыў Хачжару (г. азн. Уздэ) кіраваць цэнтрам войска. У гэты час Чжамхак (іншаземнае слова), знаходзіўшыся пры Божым цару, пад’ехаў агледзець яго войска і бачачы яго ў дасканалым стане, сказаў сваім набліжаным:

– Васьмінародцы, пачынаючы вайну, лічылі мангольскае войска за статак казлянят і ягнят, яны меркавалі цалкам ператаптаць іх і не пакінуць ні скуры, ні нагі. Згодна з маім назіраннем зараз яно ўжо далёка не ў такім стане, у якім было раней.

Пасьля гэтага ён аддзяліўся са сваім войскам і пайшоў. У той дзень цар Дзі пачаў галоўное змаганне з войскам Васьмі (народаў); пасьля поўдня ён паланіў Дыян-Хана і забіў яго. Войска іншых народаў раптоўна ўсё разбеглася: адны ноччу збеглі ў горы, дзе іх загінула вялікая колькасць, падаючы са скалаў; астатнія ж на

[391] Па-мангольску – "чарапаха", відавочна ў сэнсе забраніраванага рыцара, а па-кітайску тры чарцёжыкі, прамаўляемыя Ва-Чы-Тынэ.

[392] Па-мангольску Благавеснік – Балгетай; па-кітайску Бе-Лі-Г-Тхай.

[393] У арыгінале Дыян-Хан, г. азн. божы сьвятар. Ад Дыян – боскае сузіранне.

[394] Мархіс, інакш Маркіс, названы ў Абдул-Газі Маркат, Тайшы-Айрат названы Ўірата. Ч. III, гл. 7.

[395] Хулус-бані па-мангольску, у кітайцев Хо-Лу-су-бо-ці.

наступны дзень усе скарыліся. Услед за гэтым і народы: Дурбош, Татар, Хатагінь і Сад-чжут, таксама скарыліся. Неўзабаве цар Дзі пайшоў на заваяванне Морхіс, правадыр якога Тахто[396] збег да старэйшага брата "Божага цара" Бора-Хана, а яго падданы Даір-но-сунь, прадставіўшы цару Дзі сваю дачку спачатку скарыўся, але потым зноў адпаў і сышоў".

А для 1206 года, калі была заснавана Лацінская Імперыя Балдуіна, мы чытаем:

"1206. – Першае лета Бінь-інь. Цар Дзі, собраўшы ўсіх князёў і чыноўнікаў пры верхавінах Анані[397] выставіў дзевяць белых сьцягоў і ўступіў на імператарскі (ханскі) пасад. Князі і чыны паднеслі яму званне Чынгіз-Хана. Гэты год быў шостым летам дынастыі Гінь, кіравання Тхай-хо".

А далей сам Бічурын робіцца заўвагу:

"Гэта было першае лета ад Чынгіз-Ханава ўступлення на імператарскі пасад. Кітайцы вядуць летазлічэнне па перыдах кіравання гасудароў: чаму пры ўступленні на пасад кожнага гасудара даюць назву перыяду будучага яго кіравання і зноў пачынаюць лічыць гады ад першага лета яго царавання. Апошні год нябожчыка гасудара прылічаюць да яго ж царавання, а кіраванне новага гасудара лічыцца з пачатку гада наступнага. Першыя чатыры гасудары із роду Чынгізава царавалі ў Манголіі і таму не мелі кітайскіх назваў перыядаў сваіх кіраванняў".

Ітак, мы бачым, што для 1204 года, калі крыжацкі цар-цароў Інакенція III здабыў рашучую перамогу над візантыйцамі, у склад якіх сапраўды ўваходзіла не менш за восем народаў, тут паказана рашучая перамога цара (Дзі) над царствам васьмі народаў (Найманскім царствам).

Праўда, месца дзеяння тут у кітайском тэксце паказана каля Ань-Тхая, які атаясамляецца з Алтайскімі гарамі, але я ўжо не раз пазначаў (у пагадненні і з меркаваннем самога Бічурына) тое, што ранейшыя гісторыкі, якія не мелі ніякага ўяўлення пра геаграфічную мапу, незвычайным чынам блыталі мясцовасьці.

Я ўжо меў выпадак пазначыць, што і сама Манголія не азіяцкае нацыянальнае найменне, так як гэтае слова там не мае ніякага значэння, і што, відаць, гэта грэцкае слова “Мегала”, г. азн. Вялікая краіна, а слова манголы паходзіць ад старагрэцкага мегалой, г. азн. вялікія, дакладна так жа як і слова маг паходзіць ад славянскага кораня магутны, ды па-латыні Магнус мае тое ж значэнне, як і старажытна грэцкае Мегал-ас, г. азн. вялікі. У кітайскай пісьмовасьці мы маем адпавядаючае гэтаму слову злучэнне двух чарцёжыкаў, якія вымаўляюцца кітайцамі на іхнай мове, як мангу (або адкінуўшы канчатак “у”, манг).

Лічачы, што кітайцы выкарысталі гэтыя чарцёжыкі, падрабляючыся пад гучанне нейкага іншаземнага слова, для дакладнага паўтарэння якога ў іх няма фанетычнага значка, мы прыходзім да высновы, што імя "мангол" сапраўды пераймальнага паходжання і што так кітайцам давялося б напісаць на сваёй мове слова маг. Гэта азначае мангу і магі тое ж самае слова ў двух вымаўленнях, а слова манголы з’яўляецца толькі іншай назвай ад грэцкага – мегалай, г. азн. вялікія. Дзякуючы адсутнасьці ў кітайцаў фанетычнага альфабэта і выцякаючай із гэтага для іх неабходнасьці перарабляць іншаземныя найменні грунтуючыся на сугучных з імі ўласных нацыянальных словах, амаль непазбежна нацыяналізацыя пазнейшымі кітайскімі грамацеямі ўсіх запісаў і паданняў пра іншаземныя народы і

---

[396] Тахто ў Абул-газі названы Тахта-бегі (бек) Хан Маркацкі; Бара-Хан названы Байрако-Ханам Найманскім. Гл. ч. III, гл. 7.

[397] Лічыцца за адгалінаванне сучаснай Шылкі, прытока Амура.

землі, найменні якіх перайшлі да іх ад ранейшых пакаленняў, г. азн. у нацыянальныя дзеячы нібыта старажытнай кітайскай гісторыі маглі патрапіць і Юлі Цэзар, і Карл Вялікі, і папа Інакенцій III, і герой крыжовых паходаў Балдуін, а Італія, Ягіпет, Візантыя – лёгка маглі перайсьці праз две-тры сотні гадоў на становішча ўласных правінцый Кітая. З гэтага боку гледжання і патрэбна яшчэ раз перагледзець кітайскія летапісы, ужываючы для параўнання ўсе прапанаваныя мной у маёй працы спосабы.

Пакідаючы пакуль усё гэта для сваіх далейшых дасьледаванняў у гісторыялагічнай вобласьці, я тут, у сувязі з гэтым, разгледжу толькі: ці не з'яўляюцца кітайскія паданні пра Чынгіз-Хана і яго пераемнікаў толькі кітаізаваннем герояў і натхняльнікаў крыжовых паходаў, з якімі яны маюць не толькі храналагічную ізамерыю, але і сляды якаснага гістарычнага паралелізма, з'яўляючыся як бы пераіначаным адлюстраваннем на Ўсходзе, праз крывое люстэрка таго, што ў той час адбывалася на Захадзе.

Бо, сапраўды, калі рымскі цар цароў – папа, па-руску меў назву “баця”, то і батя-хан, г. азн. Батый-хан (першапачаткова Бацяй) мог быць яго назвай, і подзвігі яго вайскавых правадыроў маглі быць прыпісаны яму асабіста, як, напрыклад, робіцца з юрыдычнымі пастановамі і законамі. Калі той жа папа па-руску яшчэ меў назву цяця, або па-дзіцячы тата, то дзякуючы заносу славянскіх слоў у Азію (дзе яны шматлікія, як я ўжо пазначаў раней, і ў санскрыце, і ў вендзкай пісьмовасьці), то і знікшы даўно народ та-тань у Маголіі можа ўяўляць сабой проста цяцін народ, г. азн. папскіх місіянераў ва ўнутранай Азіі падчас тых жа крыжовых паходаў, хаця "айцамі" – бацямі і цяцямі называліся і папярэднічаўшыя ім рамейскія прапаведнікі арыянства, так што нават і Татрскія горы, паміж Вугоршчынай і Галіцыяй, маглі першапачаткова у славян мець назву цяця-арыйскімі гарамі, г. азн. гарамі айца Арыя (г. азн. арыйскай зямлі).

Няма ніякіх сумневаў, што і арыйцы, якія перасяліліся із Ірана ў паўночную Індыю і даўшыя там для рэлігіі напалову славянскую санскрыцкую мову і боскую троіцу – тры-мурці, разам з Крышнам-Хрыстом, быў цалкам не качавым народам, прыехаўшым туды ў кібітках з жонкамі і дзецьмі, а тымі ж спачатку арыянскімі, а пазней і хрысьціянскія місіянерамі із Балканскай паўвыспы, толькі пазней нацыяналізаванымі там паданнем ў перамешку з мясцовымі багамі, і перанесены пагалоскай з грэцкага Парнаса на Гімалайскія горы.

Я не буду загрувашчваць гэтую главу велізарнай колькасцю прыкладаў прысваення сабе раней безлітаратурнымі народамі іншаземных багоў і дзеячоў, так як і гэтыя думкі я прывёў толькі для таго, каб давесьці поўную законнасць маіх сумневаў у азіяцім паходжанні "Чынгіз-Ханавага мрояння", як у рускіх летапісах называецца яго цень, якую быццам бы загадваў ушаноўваць Баця-хан – Батый, пераемнік Чынгіз-хана.

Бо і само найменне Чынгіз-хан, як я ўжо згадваў, сугучна толькі з англа-саксонскім Кінгіс-хан (King's chan) або з нямецкім (Konigschan), прычым і слова Хан тут проста скарачэнне арыянскага Каган – галоўны сьвятар. Але вернемся да нашага пытання.

Каб праверыць храналогію, я адшукаў праз 21 год пасьля заваявання царства 8 народаў – пад 1227 годам – у перакладзеным Бічурыным летапісе такое месца.

"... (нейкі вельмі недакладна лакалізаваны) двор прыслаў да Мангола (лічым за мянушку Чынгіз-Хана) свайго прыдворнага і прынца Атуна[398] з прапановай пра замірэнне. Мангол, звяртаючыся да сваіх чіноўнікаў прамовіў:

– Пасьля таго, як пад час мінулай зімы ПЯЦЬ ПЛАНЕТ БЫЛІ Ў ЗЛУЧЭННІ, я даў клятву больш не рабіць забойстваў і спусташэнняў, але забыўся выдаць літасьцівы маніфест. Зараз патрэбна паведаміць пра гэта ўсяму народу, каб і падарожнікі ведалі пра мой намер".

"У гэтым месяцы Нючжэньскі гасудар скарыўся. Мангу спыніўся ў вобласьці каля ракі Сі-цзян восенню, на сёмы месяц, у дзень Жынь-ву, ён адчуў сябе нездаровым; у дзень Сычэу (на восьмы дзень пасьля хваробы) прэставіўся пры Саліголе ў Харатускім пуцявым палацы... Ён меў глыбокі розум і вялікія разважанні. На вайне быў надзвычай хуткі: з гэтай нагоды мог знішчыць сорак валадаранняў, а пасьля заваяваў і Сі-ся. Калькасць яго бліскучых подзьвігаў вельмі вялікая. Шкада, што сучасныя гісторыкі не ўсё сабралі або шмат прапусьцілі із запісаў. Царэвіч Тулей прыняў рэгенцтва над царствам".

Калі год аўтара пачынаўся, як і ў тагачасных латынян з сакавіка, то "мінулая зіма" была перыядам ад кастрычніка 1226 г. па сакавік 1227 гада нашага студзеньскага злічэння. Я вылічыў пазначанае тут злучэнне планет і атрымаў такія цікавыя вынікі.

1) На працягу ўсяго 1226 года нашага злічэння Юпітэр ганяўся назад і наперад за Сатурнам па сузор'ю Казярога і, апeрадзіўшы яго, перайшоў у 1227 годзе ў Вадаліў, дзе і прабыў зіму 1227-1228 года, а Сатурн яшчэ заставаўся ў Казярогу.

2) У тую ж зіму ў лістападзе і студзені 1226 гада Марс апярэдзіў абедзве гэтыя планеты ў Казярогу, калі яны былі яшчэ бачнымі над толькі што згасшай вячарніцай.

3) Сярэдні студзеньскі маладзік быў каля 21 снежня 1226 года пры сонцы ў сузор'і вайны – Стральцу – каля 287° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты, а дагнаў Месяц Юпітэр, Сатурн і Марс ў выглядзе вузкага сярпа ў самую калядную ноч на 25 снежня, калі сонца было на 291° экліптыкальнай даўгаты.

4) Венера на 25 снежня 1226 года ішла ў вечаровай бачнасьці прамым шляхам ад верхняга злучэнні з сонцам каля 23 элангацыі, г. азн. побач з 314° сучаснай нам экліптыкальнай  даўгаты, у сярэдзіне Казярога.

5) Меркурый 25 снежня 1226 гады ішоў, як і ўсе астатнія планеты, прамым шляхам каля 18 элангацыі ад верхняга злучэння з Сонцам, побач 307° экліптыкальнай  даўгаты згодна з сучаснымі нам каардынатамі.

Мы бачым, што пазначанае тут злучэнне ўсіх планет у вечаровай бачнасьці ў калядныя дні ў Казярогу пасьля іх зыходу із сузор'я ваяра Стрельца для таго, каб ўслед за гэтым злучыцца з Сонцам, магло здацца (але толькі каталіцкім астролагам!) сімвалам пераможнага заканчэння іхных крыжацкіх войнаў і агульнага прымірэння і асьветы народаў.

І цікава, што ў наступны за гэтым год, у якім згодна з разглядаемымі намі першакрыніцамі "прэставіўся" вялікі мангольскі цар, памёр пераемнік і працягвацель ваяўнічай палітыкі папы Інакенція III папа Ганорый III (1216-1227 гады) і паралельна мангольскаму, так званаму "Угадаю" (сугучна з рускім словам “угоднік” і з грэцкім Агіо-дыяс – святы-бог) сеў на папскі пасад Рыгор IX (1227-

[398] Даньянь-хачжаю, пры гэтым Ваньян найменне Нючжэнскай дынастыі Цінь, а Хачжаю – пры, каля. А прынц Атун названы Атун-Ага, і сугучны з Атонам.

1241). А памёр гэты Рыгор IX, так як і Угадай (ён жа Угедэй і Актай) у 1241годзе. Вынікае як быццам Угадай быў папа Рыгор IX, а Чынгіз-Хан папа Ганорый III (абодва памёрлі 1227 годзе), але толькі ў Чынгіз-Хане з Ганорыем III аб'яднаны і яго папярэднік папа Інакенцій III, з часу ўзяцця Цар-Горада. Пры такім храналагічным параўнанні мімаволі паўстае такое пытанне:

Вышэйпрыведзены гараскоп, які ў Захадняй Яўропе, бяспрэчна, меў дачыненне да сьмерці папы Ганорыя III, ці не перанесены насільна на час сьмерці Чынгіз-Хана, пад імем якога ўяўленне азіятаў аб'яднала Інакенція III і Ганорыя III? І ці не аднесена да 1227 года смерць "Вялікага Заваёўніка" не таму, што ён сапраўды памёр у гэтым годзе (а не ў 1216-1217), а менавіта таму, што ў гэты час усе планеты сышліся паміж Стральцом і Казярогам, а затым пайшлі ў Вадаліў – хрысьціцеля планет, знаменуючы гэтым наступленне агульнага замірэння? Бо ўвесь склад кнігі Гань-му настолькі мастацкі, і ў ёй столькі прыдумак, што яна вельмі падобна на еўрапейскія творы XVIII стагоддзя.

Увогуле Чынгіз-Хан, як чытач бачыць сам, не з'яўляецца ў сваіх першакрыніцах рэальнай асобай, а паходы якія яму прыпісваецца, ён мог бы здзейсніць, мяркуючы па іхных адлегласьцях, як я ўжо даводзіў, толькі лётаючы на аэрапланах. Вось, напрыклад, пра яго паход на Індыю ў 1222 годзе[399]:

"Мангольскі гасудар выправіў на захад сваіх сыноў:. Чжоцзыя, Чаганьшая, Угадая і Тулая, кожнага з асобным корпусам: яны ўзялі гарады Хань-то-дар, Трун-хашы і інш, а сам ён узяў гарады Целімі і Балк (невядомае месца, сугучна толькі з Балканамі). Пасьля таго ён прыступам узяў умацаванне Забароненае[400] (Тарху) і наблізіўся да Магаметанскага царства, уладар якога, пакінуўшы сталіцу, збег на марскую выспу, і там за кароткі час памёр з голаду. Пасьля таго мангольскі гасудар размясьціўся ў Індыі ва ўмацаванні Жалезная Брама (па-кітайскі Цьжэ-мынь-гуань). Там целаахоўнікі заўважылі аднаго звера, які меў падабенства з аленем, конскі хвост, зялёны колер, адзін рог, і мог размаўляць па-чалавечы. Гэты звер паведаміў целахоўнікам:

– Вашаму гасудару патрэбна сваечасова вярнуцца.

Мангольскі гасудар здзівіўся і запытаў пра гэта ў філосафа Елюй-чуцая[401]. А той адказаў:

– Гэты звер мае назву Го-дуань[402] і разумее мовы ўсіх народаў; ён знамянуе бясконцае кровапраліцце. Зараз ужо чатыры года, як вялікае войска ваюе з Захадам. Таму Неба, грэбуючы забойствамі, выправіла яго для абвяшчэння сваёй волі табе, гасудар! Пашкадуй, дзеля дагаджэння Небу, жыхароў гэтых некалькіх царстваў! Гэта будзе бясконцае шчасьце для цябе"[403]. З нагоды гэтага мангольскі гасудар здзейсніў вялікае рабаванне ў Індыі, і вярнуўся.

Скажы чытач сам, міф гэта ці рэальнасць? І калі тут зялёны звер, які гаворыць па-чалавечы – прыдумка, то чаму не прыдумка і ўвесь паход? І на якую марскую выспу мог збегчы "магаметанскі гасудар" на захадзе Азіі, калі нагода да гэтай легенды не прыйша з берагоў Міжземнага мора?

---

[399] Па-кітайску чатыры чарцёжыкі, якія прамаўляюцца Юў-Лун-цзы-Чы.

[400] Па-кітайску чарцёжыкі, якія прамаўляюцца Тха-Лі-Хць.

[401] Елюй сугучна з Ілля.

[402] Па-тангутскі – Го – галава, а слова Дуань – мне невядома.

[403] Заўвага Бічурына: "Здаецца, што гэта была выдумка Елюйчуцаева, каб спыніць свавольствы Чынгіз-Ханавы".

Паглядзім зараз і на пераемніка "мангольскага імператара", які ў нас мае назву Ўгедэй[404] і які згодна з "Ган-Му" ўступіў на пасад у 1229 годзе, як раз, калі імператор Фрыдрых II пачаў V крыжовы паход у Палестыну (1228-1229).

Перш за ўсё выяўляецца, што такага імя ў даследуемай намі кнізе няма.

"У арыгінале, – сведчыць Іакінф Бічурын, (с. 148) – замест Угедэй усюды напісана імператор Тхай-цзу...". А між тым ён жа сам – Бічурын – замест Тхай-Цзу піша самавольна ўсюды Угедэй! Але на з якой жа нагоды?!

Я тут адзначу толькі адно: гэты самы Ўгедэй, згодна з іншым вымаўленнем Угадай (і згодна з трэццім Актай), быў, – кажуць нам, монгольскім імператарам ад 1227 года па 1241 год, ды і вярхоўны кіраўнік крыжовых паходаў пасьля Ганорыя III, папа Рыгор IX папаваў у Рыме таксама ад 1227 па 1241 год. "На паклон да Актая ў глыбіню Манголіі, – кажуць нам артадаксальныя гісторыкі, – ездзіў Кастусь, сын вялікага князя кіеўскага Яраслава Ўсеваладавіча (1201-1246 гг), а затым і сам Яраслаў у 1241 годзе, але ў жывых Актая ўжо не застаў", але гэта ён мог зрабіць толькі ў выпадку вострай страты розуму, так як пры тагачасных шляхах патрапіць ні манголам да Кіева, ні кіяўлянам да Манголіі было немагчыма раней года або двух, праз немагчымасць ехаць стэпам без дарог зімой і пад час летняй сушы. Іншая справа, калі ён, стаўшы ўніятам, ездзіў у Рым... Але тады хан (г. азн. кахан – сьвятар) Угедэй і быў – папа Рыгор IX.

Ён першым наладзіў прыдворныя цырыманіялы, – піша "Гісторыя роду Чынгізава" пад 1229 годам, – і згодна з імі ханскія сваякі і вяльможы чынілі пакланенні. Пры ім былі выдадзены галоўныя дзяржаўныя ўладкаванні. Нючжэнскі Двор (месца яго не вызначана) прыслаў Агудая (г. азн. Тоўстага чалавека) з прынашэннямі да пахаваньня Чынгіз-Хана. А Угадай адказаў яму (цалкам як папа Рыгор IX пасланнікам Фрыдрыха II у 1228):

"Твой гасудар доўга не скараецца і вымусіў нябожчыка хана састарыцца на вайне, пра што я не магу забыцца. Навошта дасылаць паднашэнні да пахаваньня?[405]"

Ён не прыняў паднашэнняў Нючжэнскага (г. азн.., атрымліваецца Германска-Неапалітанскага) Двара і адважыўся працягваць вайну з ім. Ён прызначыў, каб манголы штогадова плацілі з сотні коней адну кабылу, а із рагатага быдла і авечак па адной галаве з сотні. Наладзіў хлебныя крамы і заснаваў пошту для развоза указаў. Кітайцам (??), насяляючым паўночны бок ракі Жоўтая (Дунай?) прызначыў падатак, лічачы па дварах, што ён даручыў кіраванню Елюй-чуцая. У Заходнім краі прызначыў падушны чынш з паўналетніх мужчын. Гасудары Індустанскі (?) і Муруйскі (Марэйскі) прыехалі да двара. У Заходнім краі скарыўся валадар горада Ізбара. У тым жа годзе Нючжэнскі двор другі раз прыслаў пасланніка з дарамі, але яго дары не былі прыняты.

Як бачыць чытач, вайна з Нючжэнскім царствам разгарэлася толькі пры пераемніку "Чынгіз-Хана", так званым Угэдэю, адначасова з тым, як зноў запалалі крыжовыя паходы на Ўсход і пры пераемніку Ганорыя III – Рыгору IX (1227-1241), і пачалася сварка гэтага папы з германскім імператарам Фрыдрыхам II.

"Мангол, – працягвае кніга" Гань-Му" пад 1232 годам, – маючы намер вярнуцца на поўнач, выправіў пасланніка із Чжэн-чжэу ў Бянь з прапановай, каб Нючжэнскі гасудар скарыўся; звыш таго, ён патрабаваў даслаць акадэміка Чжай-

---

[404] Агэдэй або Угэтай – па-мангольску Вярхоўны, па-кітайску злучэнне чарцяжоў вымаўляемых О-Кхо-Тхай, але я ўжо пазначаў пра сугучнасць гэтага імя з грэцкім свята-богам (Агіёдыёс) і з рускім лісліевец (Угадзяй).

[405] Па-кітайску І-Сы-Ба-Лі – месца не вядома.

бінь-вынь і яшчэ Ян-шэн-гун з Кхун-юан-цо і іншых, усяго дваццаць сем прозвішчаў, таксама сямейных асоб, прызнаўшых манголаў, жонку з дзецьмі генерала Іра-бухі, швачак і птушыных паляўнічых. Але замест усяго, Нючжэнскі гасудар выправіў свайго першага міністра Лі-ці, каб даць манголам закладнікам царэвіча Ваньянь-шеў-сунь[406] і прасіць міру. Генерал-пракурор Файмо Эгудэ (-Удэ) быў прызначаны нючжэнскім пасланнікам для заключэння мірнага пагаднення. Але яны яшчэ не выправіліся, калі мангольская прынц Субут, пачуўшы пра гэта, сказаў:

"Я атрымаў загад аблажыць (Нючжэнскі) горад: іншага нічога не ведаю".

І ён наладзіў абложныя машыны, пабудаваў палісад на беразе гарадзкога вадзянога рова; прымусіў палонных кітайцаў (?), нават жанчын, дзяўчат, старых і дзяцей насіць на сабе галлё і салому, каб заваліць гарадзкі роў. За некалькі хвілін яны зараўнялі каля дзесяці крокаў. Але так як вырашылі дамовіцца пра мір, то міністр Ваньян-баксан не адважваўся біцца з манголамі.

У горадзе выявілася незадавальненне і нараканні. Нючжэнскі гасудар, пачуўшы пра гэта, у суправаджэнні шасьці або сямі конных паехаў за вароты Дуань-мынь і прыбыў да суднага маста. За гэты час ад недаўняга дажджу зрабілася топка. Дзякуючы таму, што гасудар выехаў нечакана, жыхары сталіцы здзіўлена не ведалі што рабіць, яны толькі станавіліся на калені каля дарогі, старыя і дзеці ціснуліся перад ім; некаторыя праз памылку краналіся за яго адзенне. У хуткім часе да яго прыбылі міністры і іншыя чыноўнікі. Яму падалі параплюй, але ён не прыняў і прамовіў:

"У войску ўсе ходзяць пад адкрытым небам: для чаго ж мне мець параплюй"

Але, што ж гэта такое, чытач! Бо **параплюй** – гэта французкае слова paraplui – парасон! Гэта азначае, Нючжэнскі цар гаварыў па-французку, або арыгінал першакрыніцы гэтага кітайскага летапісу быў на французкай мове! Бо сам Іакінф Бічурын ніколі не назваў бы парасон параплюем, калі б гэтае слова не значылася ў яго арыгінале. Але працягнем выпіску далей.

"Да яго (г. азн. імператара) падступіліся каля 60 жаўнераў із паўднёва-заходняга корпуса і сказалі:

– Паўночнае войска ўжо да паловы зараўняла гарадзкі роў, а міністр аддаў загад не выпускаць ніводнай стралы, баючыся перашкодзіць перамовам пра замірэнне. Што гэта за разлік?

Гасудар ім адказаў:

– Я дзеля выратавання падданых адважыўся называцца васалам (Угедэя), плаціць яму даніну і ва ўсім падпарадкоўвацца. Я маю толькі аднаго сына, які яшчэ не прыйшоў у сталы ўзрост: зараз і яго я выпраўляю ў якасьці закладніка. Пацярпіце некалькі, пакуль гэты князь выедзе. Калі пасьля таго татаньцы не адступяцца, то і тады не позна будзе адчайна змагацца.

У той жа дзень вялікі князь выправіўся ў шлях: але манголы, нягледзячы на гэта, пачалі аблажваць горад злучаным войскам.

У сталіцы будавалі балісты у палацы. Ядры былі зроблены цалкам круглымі, вагой каля фунта; камяні для іх бралі із гары Гын-іо[407]. Балісты ўжываемыя

[406] Уласнае імя спадкаемцы Нючжэньскага Шэу-Шунь. Манчжурскае слова Агю ці Агу з’яўляецца агульнай назвай прынцаў (заўвага Бачурына).

[407] Гын-Іо з’яўляецца назвай штучнай мармуровай гары, зробленай кітайскім родам Сун ў горадзе Кхай-фын, калі гэты горад быў яго паўночнай сталіцай (Пекінам); потым Кхай-фын быў заваяваны нючжэнямі і

манголамі, былі іншага выгляду. Манголы разбівалі жорнавыя камяні або каменныя кашкі (галышы) на два або на тры кускі, і ў такім выглядзе іх выкарыстоўвалі. Балісты былі пабудаваны із бамбука, і на кажным куце гарадзкой сьцяны іх было постаўлена да сотні. Стралялі із верхніх і ніжніх папераменна, не перастаючы ні днём ні ноччу.

За некалькі дзён груды каменя параўняліся з ўнутранай гарадзкой сьцяной. Мангольскае войска карысталася вогненнымі балістамі[408] і дзе быў зроблены ўдар, там праз гарачыню нельга было адразу папраўляць і дапамагаць. Старыя казалі, што гасудар Шы-цзун із дынастыі Чжэу, будуючы тут гарадзкую сьцяну, браў гліну для гэтага із Ху-лао. Гэтая гліна крэпкая і шчыльная, як жалеза, і ад udaраў із баліст на ёй былі прыкметны толькі выяміны. Мангольскае войска пабудавала за гарадзкім ровам земляны вал, які ў акружнасьці налічваў сто пяцьдзесят лі. На гэтым валу былі амбразуры і вежы. Роў у глыбіню і ў шырыню меў каля 10 футаў. На адлегласьці праз кажныя ад 30 да 40 крокаў быў пабудаваны прытын, у якім стаяла каля 100 чалавек каравульных.

На пачатку Баксань даў загад пабудаваць за гарадзкімі брамамі земляныя прысьценкі, крывыя і вузкія, каб два ці тры чалавека маглі прыходзіць і вартаваць, каб манголы не маглі адбіць браму. Генералы прапаноўвалі рабіць начамі вылазкі, але войска не магло выступать раптоўна, а калі і выходзіла, то адразу ж было заўважаема манголамі.

Потым абралі 1000 чалавек адважных жаўнераў, якія павінны былі, із пракапанай пад гарадзкой сьцяной адтуліны, пераплыўшы цераз роў, запаліць падстаўкі пад балістамі. На гарадзкой сьцяне былі выстаўлены сігнальныя фанары із чырвонай паперы, пасьля запальвання якой належала плыць цераз роў, але манголы і гэта заўважылі.

Яшчэ пускалі папяровых змеяў ў выглядзе гусей з прымацаванымі да іх аб'явамі, для падтрымкі паланёных кітайцаў(?). Калі гэтыя змеі былі над мангольскім лагерам, то нітку адрывалі. Палітыкі выказваліся, што міністры жадаюць папяровымі гусямі і фанарамі адбіць непрыяцеля, але што гэта цяжка.

У гэты час нючжэнцы мелі вогненныя балісты (г. азн. сапраўдныя гарматы-марціры), якія ўражвалі, падобна грому нябеснаму. Для гэтага яны бралі чыгунныя пасудзіны, напаўнялі іх порахам і падпальвалі полымем. Гэтыя гаршкі мелі назву чжэнь-цьхяньлэй (г. азн. устрасаючы неба гром). Калі такая баліста (гармата) стрэліць, і ўспыхне полымя, то гук прыпадабняецца грому і чутны амаль за 100 лі. Яны спальвлі (ўсё) на прасторы 120 футаў у акружнасьці, і палымянымі іскрамі прабівалі жалезную браню.

Манголы яшчэ рабілі будачкі із валовых скур, і падышоўшы да гарадзкой сьцяны, прабівалі ў ёй паглыбленне, якое магло памясьціць аднаго чалавека, якому з гарадзкой сьцяны нічым нельга было пашкодзіць. Але нючжэнцы вынайшлі супраць гэтага спосаб апускаць з гарадзкой сьцяны на жалезным ланцугу гаршкі (бомбы) чжэнь-цьхянь-лэй, якія дасягнуўшы выкапанага паглыблення, выпускалі полымя (ўзрываліся), цалкам знішчаючы чалавека, нават пакрытага валовай скурай. Акрамя таго, яны (нючжэнцы) ўжывалі лятаючыя вялізныя дзіды (ракеты), якія пускаліся з дапамогай падпальвання ў іх пораху і спальвалі ўсе на прасторы 10 крокаў ад сябе. Манголы не толькі гэтых рэчаў баяліся. Яны абложвалі горад 16

---

зроблены паўднёвай сталіцай (Нанкінам), якую зараз аблажылі манголы. Пазней гара Гын-Іо была пераведзена ў Пекін, і зараз складае цудоўную мармуровую выспу ў заходнім садзе (заўв. Бічурына).

[408] Гарматы.

сутак, дзень і ноч. Каля МІЛЬЁНА (!!!) чалавек з абодвух бакоў было забіта пры той аблозе. Пасьля гэтага і магіла маці нючжэнскага гасудара была раскапана.

Прынц Субут бачыў, што немагчыма ўзяць горад і таму, прыняўшы ласковы тон, абвясьціў, што пачынае мірныя перамовы, і што вайсковыя дзеянні спыняюцца. Нючжэнскае крўніцства пагадзілася на яго прапановы і выправіла Ян-цзюй-жынь, дарадчыка палаты фінансаў, за горад пачаставаць мангольскае войска і паднесьці каштоўныя падарункі. Субут даў слова адступіць з войскам і размясьціўся паміж рэкамі Жоўтай і Ло-шуй.

Віцэ-міністр (нючжэнскага цара) Чыгі-кацік, прыпісваючы сабе славу абароны горада, меў жаданне ў суправаджэнні ўсіх чыноў прыйсьці ў палац з віншаваннямі. Але другі віцэ-міністр, Найцзу-сэлэ, прамовіў:

– Клятва ўчыненая пад гарадзкімі сьценамі пачытаецца ў Чунь-цю сорамам: як можна віншаваць са спыненнем аблогі?

Каціка, разсердзіўшыся, адказаў:

– Пасад выратаваны, гасудар пазбаўлены ад небяспекі, а вы не лічыце гэта радасьцю?

Ён даў загад акадэміку Чжао-вынь-бін скласьці віншавальную справаздачу. Але Чжао-вынь-бін адказаў на гэта:

– Згодна са словамі Чунь-цю, калі новы палац згарэў, тры дні плакалі. Зараз пасьля такой аблогі сталіцы, у адпаведнасьці са звычаем, належыць суцяшаць, а не віншаваць.

Тым справа і скончылася.

Нючжэнскі гасудар, уступіўшы на браму[409] Дуань-мынь, абвясьціў амністыю, паведаміў пра ўзнагароды чыноўнікам і разначынцам, якія могуць паправіць або аднавіць які-небудзь важны горад; войску ён зрабіў пачастунак і ўзнагародзіў, паменшыў свой стол, скасаваў непатрэбных чыноўнікаў, адпусьціў дзяўчат із палаца, забараніў у справаздачах называць сябе прамудрым. Словы: "прэмудры ўказ" замяніў адным словам: "прадпісанне". У сталіцы былі скасаваны строгія захады, і пешыя жаўнеры пачалі выходзіць за браму Фын-цю-мынь для збірання зяляніны і дроў.

Але пасьля гэтага ў горадзе пачалася зараза, працягваўшаяся 50 дзён. За гэты час было вынесена за гарадзкую раму каля 900000 (!!!) трунаў, не лічачы целаў беднякоў, якіх не было каму хаваць".

Такім з’яўляецца апісанне аблогі сталіцы краіны Нючжэнь. Перакладчык гэтага, Бічурын, дадае ад сябе так:

"Тлумачэнне –..? Становішча Нючжэнскага двара час ад часу станавілася горшым. Дарэмна прасіў ён замірэння ў манголаў. Алень, патрапіўшы ў яму, ці можа ён збегчы? Так як цвёрдыя вайсковыя правадыры і храбрае войска загінула, то ўжо немагчыма было думаць пра адваротныя заваёвы... Хаця і так, але кожны, што робіць, то і атрымлівае як расплату. Такім з’яўляецца ўзаемная адпаведнасць нябеснага ўпарадкавання. Нючжэнцы ўціскалі Сярэдзіную дзяржаву; па-драпежніцку завалодалі землямі рода Сун. Дакладна так жа і манголы паставіліся да іх".

[409] Гарадзкія і палацавыя брамы ў Кітаі будуюць у выглядзе палат з праходам знізу; чаму над брамамі знаходзіліся прасторныя залы. – Заўвага Іакінфа Бічурына. І мы дададзім ад сябе: і ў еўрапейскіх умацаваннях таксама!

Такім з'яўляецца наіўнае тлумачэнне сінолага Бічурына да перакладзенай ім серыі главак із "Усеагульнай гісторыі кітайскай"[410]. Але гэта і добра. Мы адразу бачым, што маем права, па-першае, давяраць шчырасьці такіх прастадушных людзей, і, па-другое, крытыкаваць іхныя кнігі, ведаючы, што прастадушныя людзі лёгка паддаюцца на падман і перакладаюць арыгінал, якім ён ёсць, не замазваючы славеснай штукатуркай яго шчыліны і расколіны.

Я ўжо звяртаў увагу на словы:

"Прыбылі да яго (нючжэнскага імператара) міністр і іншыя чыноўнікі. Падалі яму параплюй, але ён не прыняў і адказаў: "У войску ўсе ходзяць пад адкрытым небам, для чаго ж мне мець параплюй"".

І вось я зараз зноў запытаю: якім жа чынам патрапіла ў кітайскую хроніку 1232 года французкая назва парасона – параплюй, г. азн. адбівальнік дажджу[411]?

Хіба не было ў кітайцаў для парасона самастойнай назвы? Падумаць, што сам Бічурын, пры яго, толькі што мной пазначанай, непасрэднасьці, падобна мадам дэ-Курдзюковай, міжвольна перамяшаў рускія і французкія словы – немагчыма. Хутчэй можна думаць, што ён пры сваёй семінарскай і духоўна-акадэмічнай адукавасьці, "павярнуўшыся тварам да ўсходу", а "спіной да захаду" (як зрэшты і большасць усходазнаўцаў), цалкам не ведаў французкую мову, і таму палічыў французскае слова якое было ў яго кітайскім рукапісе за мангольскае, і пакінуў яго без перакладу... Але ў такім выпадку і аўтар самой кітайскай "Усеагульнай гісторыі" карыстаўся для яе складання не выключна кітайскімі, а таксама і французкімі летапісамі. Гэта азначае і сама гэтая "Усеагульная гісторыя" сапраўды магчыма не нацыянальная мангольска-кітайская, а ЎСЕАГУЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ ЗЯМНЫХ НАРОДАЎ, палічаная за гісторыю міфічных кітайскіх правінцый, выключна дзякуючы кітайскаму малюнкаваму пісанню, пры якім немагчыма напісаць іншаземныя найменні, не пераапрануўшы іх у кітайскае адзенне.

А звесткі пра іншаземныя народы лёгка маглі занесьці туды спачатку рамейскія, а потым і каталіцкія міссіянеры, якія прынеслі туды будызм, браманізм і канфуцыянства, а разам з тым і гэтую малюнкавую пісьмовасць, дзякуючы, па-першае: таму, што ні ў грэцкім, ні ў лацінскім альфабэце не хапала літар для пазначэння колькасьці прамаўляемых кітайскіх гукаў, якіх у чатыры разы больш, чым у заходне-еўрапейскім вымаўленні і, па-другое: таму, што ў заходняй навуковай пісьмовасьці ўжо практыкаваўся спосаб малюнкавага і сімвалічнага пісьма (у выглядзе нашых лічбаў і шматлікіх астранамічных, алхімічных і тэматычных міжнародных значкаў, гэтых сапраўдных зародкаў сучаснай кітайской пісьменнасьці). Бо цалкам відавочна, што сучасная кітайская сістэма малюнкавага пісьма не магла ўтварыцца адразу, не прайшоўшы праз стадыю напалову фанетычнага, так як ніякі чалавечы розум не мог бы прыдумаць і замацаваць у сваёй памяці без дапамогі фанетычнага альфабэту ўсе гэтыя тысячы значкаў, і перадаць іх вучням, а ў няпоўным выглядзе яна была б такая ж безсэнсоўная, як і ў нас быў бы не маючым карысьці альфабэт, у якім ўжывалася б толькі 5-6 літар, а для астатніх не было б прыумана ніякіх сімвалаў.

Гэта азначае, такі альфабэт як кітайскі, не мог развіцца эвалюцыйна із самога сябе, а толькі шляхам паступовага ўкаранення ў якую-небудзь, хаця б і іншаземную фанетычную азбуку яе мноства сімвалічных значкоў спачатку для тых слоў, для якіх у ёй не хапала гукаў, а потым паступова ахопліваючы ўсю фанетыку цалкам, і

---

[410] Па-кітайску Тхун-цзянь-ган-му.

[411] Parapluі – Parez pluі – адбівайце дождж.

вельмі цікава было б прасачыць, ці не знойдзецца ў кітайскіх аднагучных або аднаскладовых славесных чарцёжыках нейкіх прыкмет падобнасьці іх з арабскімі, індускімі, грэцкімі і лацінскімі абрысамі?

І ці няма ў кітайскіх летапісах іншых слядоў французскага паходжання, акрамя адзначанага мной смешнага параплюя? Бо таксама цалкам відавочна, што калі б у дадзеным месцы кітайскага рукапісу стаяла, як гэта патрэбна ў малюнкавым напісанні, выява парасона, то Бічурын і назваў бы яго па-руску парасонам, а не каверкаў бы французскую мову, называючы яго параплюем, замест parapluі. Гэта азначае, што і ў яго рукапісе была не выява парасона, а такое спалучэнне чарцёжыкаў, якое ў суме прамаўлялася так, як ён передаў. Ужо адно гэтае слова з'яўляецца прыкметай таго, што яго летапіс складзены французкім кітаістам і, хутчэй за ўсё, каталіцкім місіянерам, стасункі з якімі пачаліся, калі верыць сучаснай нам версіі кітайскай гісторыі, толькі пасьля зрынання даследуемай намі Юаньскай дынастыі, яна ж быццам бы Чынгізханава, хаця дынастыя Юань зараз лічацца на кітайскім пасдзе не раней, як з 1289 па 1367 гады. А пасьля яе з 1368 па 1644 гады панавала, – кажуць нам, – дынастыя Мін, пры якой пачаліся пастаянныя марскія стасункі з Заходняй Яўропай, асабліва з 1522 года, калі партугальцы з'явіліся ў Макао, пры вусьці Кантона і заснавалі там сваю гандлёвую факторыю, і ўслед за тым з'явіліся на ўсходзе Кітая і гішпанцы, і іншыя заходне-еўрапейскія народы. Усё гэта дало магчымасць пранікнення ў Кітай і заходне-еўрапейскіх слоў і асабліва назваў для рэчаў увозімых у Кітай із Яўропы, накшталт французскіх парасонаў.

Тады ж еўрапейцы павінны былі ўпершыню завезьці ў Кітай і компас, і порах, і гарматы. Аспрэчваць тое, што компас быў упершыню вынайдзены і выкарыстаны для мараплавання толькі італьянскім інжынерам Флавія Джойа (Флавіа Джоя) з Амальфі ў 1302 годзе і што агнястрэльны порах упершыню быў вынайдзены пры хімічных дасьледаваннях з сумессю серы, салетры і вугалю, нямецкім францысканскім манахам Бартольдам Шварцам (ці як яго інакш завуць Constantin Anklit) услед за компасом і выкарыстаны для агнястрэльнай зброі ўпершыню толькі ў 1319 годзе, – рашуча няма ніяк падстаў. Апошняе вынаходніцтва настолькі гучнае, што яно не магло б быць абыйдзена маўчаннем, калі б яго зрабілі раней, ды і компас даў бы пра сябе ведаць адразу ж па ўсяму плаваючаму свету. Так і здарылася, калі яны былі сапраўды вынайдзены.

А што ж мы бачым у разбіраемай намі "Усеагульнай кітайскай гісторыі?"

Яшчэ за 80 гадоў да вынаходніцтва пораху Бартольдам Шварцам, калі пераемнік "Чынгіз-хана" Ўгедэй – аблажыў неіснуючае зараз у Кітаі нючжэнскае ўмацаванне Бянь[412], і ў якой парасон называўся па-французку parapluі, як аблажаныя нючжэнцы, так і аблажваючыя іх качавыя манголы, ўжо ўжывалі і гарматы-марціры, і ракеты, начыненыя порахам, і перакідваемыя як запальваючы сродак у аблажаны горад і із яго праз сьцяну.

Усё ў гэтым апісанні так выразна, што сумневаў быць не можа: у палацы нючжэнскага караля рабілі ў 1232 годзе, як у Яўропе толькі праз сто гадоў, круглыя каменныя ядры для гармат і марцір, а манголы ўжывалі для сваіх агнястрэльных гармат нават каменную картэч, разбіваючы жорнавыя камяні-валуны на два і на тры кускі.

---

[412] Інакш кажуць: Бянь-Лянь, і Бянь-дзынь, і атаясамляюць з Кхай-Фын-Фу, але імя гэтае сугучна толькі з Бонам на Рэйне. У Абул-Газі гэты горад атаясамляецца з Нанкінам, а ў Іакінфа Бічурына з Хай Фын-Фу акругі Ха-нань.

У якасьці пераймання агульнавядомага ў XVI стагоддзі апавядання пра тое, як Бартольд Шварц, пакінуўшы ў ступе сумесь серы, салетры і вугалю разам з таўкачом, пачаў высякаць полымя, і ад упаўшай туды іскры адбыўся жахлівы выбух, прычым выкінуты таўкач зрабіў выбаіну ў столі (што і паслужыла да вынаходніцтва гармат-марцір, якія мелі спачатку выгляд чыгунных гаршкоў), так і тут мы знаходзім наступнае апавяданне:

"Нючжэнцы (у сваёй сталіцы Бянь) мелі вогненныя балісты, якія ўражвалі падобна грому нябеснаму. Для гэтага яны бралі чыгунныя гаршкі (г. азн. нешта накшталт шварцавай ступы і першапачатковых гармат-марцір), напаўнялі порахам і запальвалі. Гаршкі гэтыя мелі назву "устрашаючы неба гром" (чьжэнь-цьхянь-лей). Калі такая баліста (г. азн. гармата) ўдарыць і ўспыхне полымя, то гук прыпадабняецца грому і чутны амаль за сто лі (каля 300 кіламетраў). Яны выпальвалі (ўражвалі полымем) усё на адлегласьці 120 футаў у наваколлі (г. азн. у дыяметры каля 5-6 сажань), і агністымі іскрамі (асколкамі) прабівалі жалезную браню".

Ракеты таксама былі добра вядомы нючжэнцам у 1232 годзе, калі крыжакі яшчэ і не падазравалі пра пушкі і пра порах.

"Яны ўжывалі лятаючыя вогненныя дзіды, якія пускаліся з дапамогай запальвання пораху, і спальвалі на дзесяць крокаў ад сябе".

Ды і вандроўныя манголы чынгізханава пераемніка Ўдэгея не заставаліся ззаду. Іхнае войска таксама (як мы бачылі) ўжывала "вогненныя балісты", "і дзе быў зроблена імі ўдар, дык там праз гарачыню было немагчыма адразу тушыць".

І калі ўсяму гэтаму верыць, то, відавочна, што порах і гарматы былі вядомы абодвум бакам ужо даўно, так як у іншым выпадку адзін із варагуючых бакоў імгненна разбегся б ў панічным жаху.

"На кажным куце гарадзкой сьцяны, – кажа аўтар, – было пастаўлена да ста (агнястрэльных гармат), страляўшых напераменку з верхніх і ніжніх (зверху із гарада і знізу ў горад?) і не пераставаўшых ні днём, ні ноччу. За некалькі дзён кучы камення (г. азн. каменных ядраў і іхных абломкаў) параўняліся з ўнутранай гарадзкой сьцяной..."

Але ж гэта тыповае апісанне аблогі заходнееўрапейскага ўмацавання XIV-XVI стагоддзя!

Тут мы бачым цалкам распрацаваны артылерыйскі бой, із тых, якія ўпершыню адбываліся ў захадніх еўрапейцаў на прыканцы феадальнага перыяду, – калі дысцыплінаванае і добра ўзброенае каралеўскае войска (а не скопішча качуючых манголаў!) абложвала непрыяцельскі ўмацаваны горад, якім тут і намаляваны нючжэньскі Вянь.

Чытач сам бачыць, што калі верыць усяму гэтаму, як таму, што адбывалася ў Кітаі ў 1232 годзе, то прыходзіцца дапусьціць, што не толькі порах, ракеты і вялікія гарматы, стрэлы якіх былі падобны нябеснаму грому і чутныя за сотні кіламетраў, але нават і жалезная браня супраць іх былі вядомы манголам яшчэ пры Чынгіз-Хане, памёршым у 1227 годзе, г. азн. усяго за 5 гадоў да апісанай тут аблогі. Так чаму ж ён не ўжываў іх? Чаму іх не ўжывалі яго вайсковыя правадыры, калі перамаглі рускіх князёў на рацэ Калка ў 1224 годзе, паклаўшы пачатак "мангольскаму ярму", за восем гадоў да толькі што апісанай выбітной аблогі? Чаму не ўжываў іх Батый ў знакамітай бойцы каля ракі Сыць нават і праз шэсць гадоў пасьля гэтай аблогі, у 1238 годзе?

Чаму не навучыліся ў манголаў гэтаму мастацтву іхныя суседзі, азіяцкія магаметане, у іхнай барацьбе з крыжакамі? Бо гарматы не іголкі, каб іх утаіць, і порах занадта гучны сродак для таго, каб яго замаўчаць пасьля толькі што апісанай аблогі сталічнага горада Бяня, калі прытым жа порах ужо быў вядомы не адным кочуючым мангольскім князькам ў іхных кібітках, але і іх культурным супернікам, абараняючымся ва ўмацаванні, пабудаваным згодна з узорам Маскоўскага Крамля... як гэта магло здарыцца? Бяспрэчна, толькі ў казцы, а не ў рэчаіснасьці. І, акрамя таго, адкуль бралі качуючыя манголы нашчадкаў Чынгіз-Хана салетру і серу для выпрацоўкі пораху у такіх велізарных памерах? Будзем лічыць, што салетру яны куплялі ў Індыі, дзе яе вышчалачваюць і зараз із салетраносных навалаў арганічных адкладанняў... Але дзе яны збабывалі серу? Бо сучаснае яе тэхналагічнае атрыманне із сернага калчадана стала магчымым толькі ў нядаўні час, а аж да ўзнікнення навукова-абсталяваных заводаў яе здабывалі выключна ў вялікіх заляжах, так званай самароднай серы ў Сіцыліі, як выніка дзейнасьці яе вулканаў. Мы бачым, што толькі што прыведзеныя подзвігі качуючых манголаў не вытрымліваюць самай найменшай крытыкі не толькі з тэхналагічнага боку гледжання і з боку гледжання матэрыяльнай культуры, але нават і з самога архіўна-гістарычнага боку гледжання.

Для параўнання псеўда-кітайскіх крыніц з рускімі ў справе Батыева нашэсьця, я зноў зраблю тут выпіску із "Гісторыі Чынгізханава роду", цараваўшага ў Кітаі пад найменнем "Юань" (згодна з Іакінфам Бічурыным). Вось напрыклад пад 1235 годам:

"Вясной хан (Угедэй) абвёў сьцяной горад Харынь (месца яго не вядома) і пабудаваў у ім палац Бань-Ан-Гун. Ён выправіў князя Бату (Батыя), царэвіча Куюка і племяніка Мунка[413] скарыць заходні край". І далей пад 1236 годам:

"Згодна з уяўленнем (філосафа) Елюй(Іллі)-Чуцая заснавана (ў Харыні) Гістарычнае таварыства. Для яго бібліятэкі ўзяты кнігі із гарадоў Ян-цзын і Пхін-Ян. Вучоны Лцы-Чжэ быў прызначаны гісторыёграфам; Ван-Вань-Цын і Чжао-Чжо яго памошчнікамі".

А згодна з "Тань-Леу" ў тое ж лета напісана так:

"Кінча (лічымая за Расію) размешчана ад Сярэдняй дзяржавы на 30 тысяч лі (французкае lieu). Летам ночы там бываюць надзвычай кароткімі. Сонца ледзь зайшоўшы той жа час узыходіць. Гэтая краіна вырабляе добрых коней, і заможныя разводзяць іх у вялікай колькасьці. Жыхары звычайна спяць на метале і скуры[414]. Мужныя і храбрыя; цьвёрдыя і палкія. Вочы маюць сінія (блакітныя), валасы рыжаватыя. Мунка з войскам прыйшоў да мора Кхунь-шьхянь-гі-сы. Нечакана падняўся моцны вецер, і воды марскія перасохлі. Пасьля гэтага ён пайшоў далей і высек народ, а старэйшыну Ва-чы-ман жывым узяў у палон. Потым ён аблажыў гарады Гань-ласы і Ме-цыа-сы, і пакарыў іх".

Гэтае месца і атаясамляецца з нашэсьцем Батыя на Русь, адбыўшымся згодна з рускімі летапісамі не ў 1236, а ў 1238 годзе.

"... і п'янства, асабліва ў апошні час, стала пастаянным. Філосаф Елюй-Чуцай[415] неаднаразова павучаў яго, але хан не слухаўся. Таму Елюй-чуцай аднойчы, показваючы яму жалезнае кола, заржавеўшае ад віна, прамовіў:

---

[413] Згодна з Іакінфам Бічурыным, Бату азначае – Моцны, па-кітайску Ба-Ду; Куюк азначае – Спрытны, па-кітайску Гуй-ю; Мунка азначае – Вечны, па-кітайску Мын-га.

[414] Пад металам разумеецца зброя, пад скурай – вайсковыя даспехі.

[415] Адзначу, што Елюй – сугучна з грэцкім Геліёс – сьвяты.

– Гэтае жалеза набыло такі выгляд, будучы з'едзенае вінам. Што ж гаварыць пра пяць чрэваў чалавека?

Пасьля таго мангольскі гасудар некалькі паменшыў меру віна. На другі месяц таго ж года яго хвароба ўзмацнілася і пульс перарваўся. Шостая ханына не ведала, што рабіць. Яна пазвала Елюй-чуцая. У адказ ён сказаў, што зараз пасады даручаюць людзям нявартым, прадаюцца пасады і гандлююць судаводствам, шмат хто ўтрымліваецца ў турме без віны. Належыць дараваць памілаванне ў паднябеснай. Ханына неадкладна пажадала зрабіць гэта, але Елюй-чуцай сказаў ёй, што без загады самога гасудара не можа гэтага зрабіць. Неўзабаве мангольскі гасудар некалькі апрытомеў. Ханына паведаміла яму пра дараванне амністыі і ён адразу ж пагадзіўся на гэта. Пасьля выдання памілавання, яго пульс прыйшоў у звычайны стан, але праз месяц хвароба ўзмацнілася. Елюй-чуцай, грунтуючыся на выкладанні на лічбах вялікай адзінкі, знайшоў, што яму не належыць выязджаць на зьвярынае паляванне.

"Калі не страляць з каня, – сказалі набліжаныя, – то ў чым задавальненне?" І хан выехаў на паляванне на пяць дзён. На адваротным шляху ён прыехаў да Атага хулань-оле, дзе Ўньдур-хамар прапанаваў яму віно. Хан весяліўся да самай поўначы, а на другі дзень памёр.

Мангольскі гасудар яшчэ раней прызначыў сваім спадкаемцам свайго ўнука Шымынь. Але ханына пазвала Елюй-чуцая і запытала ў яго пра гэтую справу. Елюй-чуцай адказаў:

– Гэтага я, як вельможа старонняга роду, ведаць не магу. Ёсць запавет нябожчыка імператара. Належыць зрабіць згодна з ім.

Ханына не паслухала яго парады і абвясьціла сябе кіраўніцай у Харыні".

Далей я цытую із "Ган-Му" пад 1243 годам.

"Пад час яе валадарання Ўньдур-хамар набыў магутнасць ў дзяржаўным кіраванні, і перад яго магутнасьцю схіліліся ўсе, як у сталіцы, так і па-за ёю. Ханына пастанавіла, што калі нейкі сябра (сената) не падпіша бланкеча з пастановамі Ўньдур-хамара, то адсекчы яму рукі. А Елюй-чуцай сказаў на гэта:

– Дзяржаўныя справы ўсе без выключэння даручыў мне нябожчык імператар. Калі справа не супярэчыць упарадкаванню, то лічу сваім абавязкам выканаць яе. Але калі яна не павінна быць праведзена, то я не буду ўхіляцца і ад смяротнага пакарання за адмову: не кажу ўжо пра адсячэнне рук.

Ханыне быў такі адказ непрыемным.

Елюй-чуцай із роспачы і шкадавання захварэў і памёр. Ханына дала набліжаным загад агледзець яго дом. Знайшлі толькі каля дзесятка гусляў і некалькі тысяч (!!) старажытных і новых кніг, выяваў і старажытных надпісаў на метале і каменнях.

Елюй-чуцай меў найвышэйшыя дараванні і далёка пераўзыходзіў усіх іншых. Сумленна служыў ён пры двары і не зневажаўся перад магутнасьцю. Кожны раз, калі пераконваў пра карысць ці нягоды айчыны, ён выказваў магутнасць ў словах і рэўнасць ў сваім чыне. Мангольскі гасудар аднойчы сказаў яму:

– Ты зноў хочаш плакаць за народ.

Елюй-чуцай часта прамаўляў:

– Лепш выкараніць адну шкоду, чым дапамагчы адной выгадзе, лепш спыніць адну справу, перш чым пачаць новую.

Гэтыя словы былі палічаны годным выказваннем.

У першае лета кіравання Шунь-чу, пасьля сьмерці, ён быў дараваны каралеўскім тытулам, і названы Вынь-чжэнь[416]. Род Юань прыняў царства пасьля вялікіх бязладдзяў. Закон Неба знік, чалавечае ўпарадкаванне было скасавана. Далучыце да гэтага кровапралітную і жорсткую вайну паміж поўднем і поўначчу. Вяльможы, меўшыя магутнасць у кіраванні, былі із іншаземцаў, заваяваных або паддаўшыхся. Іхныя мова і гаворкі былі незразумелымі, іхныя памкненні і мэты былі неаднолькавымі. Елюй-чуцай, будучы простым навукоўцай, самотна стаяў паміж імі. Сапраўды цяжка было рабіць яму тое, чаму ён вучыў. Зрэшты, у дзейнасьці ўрада можна заўважыць дзве ці тры дзесятыя долі яго намаганняў. І калі б не было тады Елюй-чуцая, то невядома, што бздарылася з чалавецствам...».

Такім з'яўляецца запіс ў "Гань-Му" пад 1243 годам. Такой была культура манголаў у 1243 годзе. Пад гэтым жа годам гаворыцца і пра тое, як род Юань прыняў царства пасьля вялікіх бязладдзяў. Але як жа мог ведаць усё гэта аўтар ў 1243 годзе, калі, згодна з сучасным поглядам, Юаньская дынастыя ўзнікла толькі праз 45 гадоў і царавала ад 1289 года да 1367?

Пойдзем далей. У гісторыі Чынгізава рода згодна з Бічурыным чытаем: "У лета 1244 цвя-чэнь, летам, на 5-м месяцы, прэзідэнт сената Елюй-чуцай памёр". Гэта азначае ў манголаў быў і сенат, як у Рыме таго ж часу?

А далей у "Гань-му" пад 1246 годам мы знаходзім: "Куюк быў старэйшы сын гасудара Гхай-Цэунь. Яго маці, шостая ханына, кіравала царствам чатыры гады. Затым сабраўшыяся князі і вяльможы вырашылі ў (дзяржаўнай) радзе перадаць уладу Куюку. І ён уступіў на ханства ва ўрочышчы Ангі-сума-толм. Але дзяржаўнае кіраванне яшчэ было ў руках ханыні.

Праз год Куюк памёр (у 1248), 48 гадоў ад нараджэння, ва ўрочышчы Ханья. У храме продкаў ён названы Дын-цзун. У той час у дзяржаве была вялікая засуха. Вада ў рэках цалкам высахла, у стэпе выгарэла трава. Із коней і рагатага быдла загінула больш чым 4/10 частка. Магутнасць народа знясілела. Ханына Уладай-эсі прыняла кіраванне дзяржавай ад імя Шыльмыні (Саламона) сына Кучуева, але князі і вяльможы былі адваротнага меркавання".

Смерць Куюка адносяць да красавіка 1246 года, а затым Іакінф Бічурын або яго першакрыніцы ўводзяць трохгадовы смутны час і міжцараванне, пасьля чаго на пасад ўзводзіцца Мункэ-хан із іншага адгалінавання. Магчыма, што гэта міжцараванне служыць указаннем на тое, што Мункэ узяты ўжо з іншых першакрыніц і далучаны штучна. Ва ўсякім разе яго подзвігі цалкам фантастічныя.

"Некалі, – гаворыцца ў прадмове ў 1251 годзе "Гісторыі рода Чынгізханава", – ён наладзіў напад на паселішча Кіпчак, старшыня якога Бацімак збег на (якую?) марскую выспу. Хан, пачуўшы пра тое, неадкладна прыйшоў туды з войскам. Моцны вецер сагнаў марскую ваду з мелкіх месцаў, так што можна было пераправіцца сушай. Хан радасна прамовіў:

– Само неба вызваляе мне шлях!

Пасьля таго ён пайшоў далей, знішчыў бацімакава войска, і яго самога ўзяў у палон. Хан даў яму загад стаць на калені, але Бацімак адказаў:

– Я быў уладаром дзяржавы і ці магу шанаваць жыццё? Звыш таго я не вярблюд: навошта мне станавіцца на калені?

Хан даў загад трымаць яго пад вартай. Бацімак прамовіў свайму вартаўніку:

[416] Магіла Елюй-чуцая, – дапаўняе Бічурын, – размешчана каля падножжа гары Бань-шчэўшань на адлегласьці 18 верст ад Пекіна на захад. У 1751 годзе, згодна з загадам урада, каля яго магілы пабудаваны новы храм і пастаўлены каменны помнік з надпісам. Ранейшы храм над яго магілай даўно разбурыўся.

– Я, збегшы ў мора, уяўляў сябе рыбай: але ўзяты ў палон. Так небу заўгодна. Зараз нбліжаецца час вяртання вады, і вашаму войску час ісьці назад.

Хан, пачуўшы такое, неадкладна вярнуўся з войскам. У той час вада ўжо пачала прыбываць, і задняя частка войска ўжо перапраўлялася плывучы. Пасьля таго Хан з князем Бату пайшоў вайной на Расію[417]. Прыбыўшы да горада Аліцы, ён асабіста сам пачаў бітву і ўзяў гэты горад".

"У арыгінале, – робіць заўвагу да гэтага месца Бічурын, – на кітайскай мове стаіць Е-лі-цзань, і, здаецца, маецца на ўвазе Разань".

Але няўжо вам не смешна пры адной думцы пра скачку да Разані з нейкай ціхаакіянскай выспы, куды збег Бацімак. Бо ніякіх прамежкавых выспаў ад Ціхага акіяна да Разані няма!

Паглядзім зараз апавяданне пра гэтага ж Мункэ і згодна з псеўдалетапісам "Ган-Му":

"Пасьля сьмерці Куюка, – кажа "Ган-Му", – доўга не прызначалі гасудара. У сталіцы і па-за ёй ўсе хваляваліся. Князь Мункэ, вайсковы правадыр Улань-хадэ і іншыя сабраліся для нарады, каго прызначыць на ханскі пасад. Пасланнік ад ханыні Куюкавай, прысутнічаючы на гэтай нарадзе, прамовіў:

– Раней, згодна з запаветам хана Ўгадэя, яго ўнук Шылмынь быў прызначаны спадкаемцай пасада, пра што князь і ўсе чыны ведаюць. Зараз Шылмынь яшчэ жывы, але меркаванне нарады схілялася да іншага: дзе ж размясьцім Шылмыня?

Але Улан-хада і іншыя не слушалі яго. І Мункэ згодна з агульным абраннем уступіў на пасад ва ўрочышчы Куйтын-ола. Нябожчыка бацьку свайго Тулэя ён уключыў у лік імператараў, у храме продкаў назваў яго Жуі-цаун. Але Шылмынь і малодшы яго брат не маглі застацца спакойнымі. Таму Мункэ над іншадумаючымі князямі наладзіў строгі нагляд, а іхных дарадцаў пакараў сьмерцю. Пасьля гэтага ён абнародаваў пры двары пастанаўленні, якіх патрабавалі абставіны, і спыніў непатрэбныя працы. Цэтлікі і пячаткі, якія былі выдадзены князям і вяльможам без разбору, даў загад ўсе забраць. З гэтага часу кіраванне засяродзілася ў адной асобе..."

А вось што было згодна з "Гісторыяй рода Чынгізава" праз два года, ў 1253 годзе.

"Хан наладзіў аблаву ва ўрочышчы Цецек Чагань-нор. Ён сабраў князёў на паўночным беразе Аноні (ў Забайкальскай вобласьці) і шчодра адарыў іх. У Карэю ён прызначыў Чкалатая (?) усходнім галоўнакамандуючым і выправіў Біцік-берка зрабіць пералік народа ў Расіі. Даў загад генералам Да-гартаю і Салі-Торху ісьці вайной на царства Іньдустан і Кашімір (!!). А сам Хан наладзіў толькі падарожжа ва ўрочышча Хурыху-наінь-буха..."

Скажы сам, чытач, як вам гэта падабаецца. Рака Анон і зараз цячэ ў Забайкаллі, спачатку як горная рэчка, потым павольна па малазаселенаму стэпу.

Праўда, што на яе берагах маецца адно радовішча волава, але яно было вынайдзена толькі ў 1812 годзе. Праўда, што на правым беразе гэтай далёкай рэчкі знаходзіцца ў стэпе урочышча (г. азн. памежнае пасяленне) Дзелюн-Балдок, выдаваемае за радзіму міфічнага Чынгізхана. Але гэта яшчэ не дае права рацэ Анон лічыць жыхароў Ноўгарада, Масквы і Кіева, асабліва ў XIII стагоддзі, калі яшчэ не было ні аэрапланаў, ні чыгунак... Ды яшчэ і праз Гімалайскія горы адсюль выпраўляецца войска ў Індыю!

---

[417] У арыгінале Орас, па кітайску ж: Ва-ла-сы і Э-ла-сы.

Толькі як перакладчыкі вызначылі гукавы склад для найменняў усіх туташніх мясьцін грунтуючыся на кітайскім малюнкавым пісанні?

Сам Бічурын сцвярджае, што кітайскі слоўнік геаграфічных найменняў, якім ён карыстаўся (і карыстаюцца сучасныя кітайцы), быў складзены ў Кітаі толькі на пачатку XIX стагоддзя згодна з загадам цараваўшага пры Бічурыне імператара і, несумненна, з дапамогай калі не самога Бічурына, то еўрапейскіх місіянераў із каталіцкіх духоўных ордэнаў.

"У гэтым слоўніку, – кажа ён[418], – усе іншаземныя ўласныя найменні (дынастый Гінь, Ляо і Юань) выпраўлены і зноў перакладзены на кітайскую мову іерогліфамі, больш блізкімі да іх сапраўднага (іншаземнага) вымаўлення".

Але які ж давер мы можам мець да гэтай тэндэнцыйнай пераробкі, калі яе вынікі – і геаграфічна, і стратэгічна – настолькі недарэчныя, што сорамна нават і аспрэчваць! Што б вы адказалі, напрыклад, калі б хто-небудзь з перапалоху паведаміў вам:

– Як недарэчна! Раптам манголы, згадаюць пра свае подзвігі пры дынастыі Чынгіз-хана, пераробяць свае кібіткі на аэрапланы і прыляцяць да нас, наладзяць і ў нас і ва ўсім сьвеце новае мангольскае ярмо?

Вы б, вядома, толькі засмяяліся, а між тым такая падзея ў XIII стагоддзі была яшчэ больш немагчымай з нагоды адсутнасьці аэрапланаў. Скончым жа гэтую фантазію пра мангольскага кагана Мункэ, імя якога моцна нагадвае англасаксонскае monach? – манах, яго характарыстыкай у псеўдалетапісе "Ган-Му" пад 1259 годам.

"Мункэ быў сталы, рашучы, выказваўся мала, не паважаў баляванняў, пра сябе гаварыў, што ён варты прыкладу сваіх продкаў. Ён меў захапленне да зьвярынага палявання і да вар'яцства верыў прадказальнікам і варожкам. Пры кажным пачынанні прызываў іх да сябе і амаль ні адзінага дня без іх не быў. Некаторыя сцвярджаюць, што ён памёр ад ранення стралой..."

"У Абул-газі, – робіць Бічурын заўвагу да гэтага месца, – аблога ім горада Ха-Яжэц апісана ў IV частцы, ў гл 4-ай на стар. 479", дзе ён губернію Сы-чуань назваў Чынукачын, верагодна Чэн-ду-чан, галоўны ў губерніі горад; а горад Ха-чжеу назваў Чын, г. азн. Чэн, што на кітайскай мове азначае горад.

Ды і наогул кажучы, ёсць шмат прыкмет, што аўтары псеўда-мангольскіх летапісаў пра Чынгіз-Кагана і яго пераемнікаў часоў "татарскага іга" карысталіся фантастычнай кнігай богадараванага кагана, Абул-Газі, хаця ёсць і варыянты, асабліва ў найменнях[419].

А таму не можа лічыцца бездоказным і мой погляд на Чынгіз-хана і яго пераемнікаў пад час перыяду "мангольскага іга на Русі", як на прывіды із пустыні Гобі, або як на адлюстраванне ў міражах гэтай пустыні подзвігаў крыжакоў, сапраўды здзяйсняемых у той жа самы час на супрацьлеглым баку азіяцкага кантынента ў Сірыі, Палестыне, Малой Азіі, Месапатаміі і ва ўсіх тых краінах, у якіх было татрскае (а не татарскае!) ярмо.

---

418 Гісторыя першых чатырох ханаў із рода Чінгізханава перакладзена з кітайскай манахам Іакінфам. СПб. 1829, з VI прадмовамі.

419 Так у радаводзе Чынгіз-Хана Табун Мэргынь названы Дзеюн-Бакі, Бугу-Ха-таш-Бакум-Катагун, Бадонь-чар-Бундэчжыр-Магол (Абул-газі, частка II, гл. 15 і ўвядзенне да 121 года ў перакладзе Бічурына). А далей Бай-Шенхур названы ў Абул-Газі – Васн-Кір, дзе Кір з'яўляецца грэцкім "Госпадзі"; Габул-Хан названы Кабулк-Ханам, Бардам – Бартан-Ханам, Ісукай – Іесуг-Багадур, Тэмуцін – Тамучынам і г. д.

Бо ўсе апавяданні пра нашэсьці манголаў на ўсходнюю Яўропу сапраўды падобныя на невыразнае рэха крыжовых паходаў. Сама анамастыка дастаткова паказвае на гэта.

Мы бачылі тут, што Велікая і Малая Куманія (Kumanien – па-нямецку), пра жыхароў якіх – куманаў – нам паведамляюць рускія і іншаземныя летапісы, да гэтага часу знаходзіцца на сваім месцы ва ўсходняй Вугоршчыне. Вялікая Куманія паміж рэкамі Тэйсай, Дунаем, Татрскімі (г. азн. Татарскімі) і Карпацкімі гарамі. А Малая Куманія – паміж Тэйсай, Дунаем і тымі ж Карпацкімі гарамі. Нам кажуць, што гэтыя куманы (само наймене якіх азначае кумы або братушкі, як завуць сябе паўднёва-заходнія славяне) палавецкага паходжання... І з гэтым нельга не пагадзіцца, калі пад найменнем полаўцы мы будзем мець на ўвазе палякаў ці ўкраінцаў. Мы можам пагадзіцца з П. Галубоўскім і іншымі даследчыкамі рускіх летапісаў у тым, што куманы складалі адно цэлае з печанегамі, калі найменне печанег мы будзем выводзіць ад рускага слова пячнік, будаўнік печаў, так як у той жа існуючай і да гэтага часу Куманіі мы знаходзім і графства Пешт, па-славянску Пешчь (па-руску печ), і горад Офен (што па-нямецку таксама азначае печ), ды і яго славянская назва Буда-Пешт азначае Будзільная печ у сэнсе выплаўкі – чыгуну (зараз доменная печ).

Мы можам пагадзіцца з П. Галубоўскім (даследаваннямі якога я шмат карыстаўся ў гэтай главе), што і торкі рускіх летапісаў тыя ж самыя куманы ўсходняй Вугоршчыны, калі слова торкі або туркі мы будзем выводзіць ад паўднёва-рускага тур – вол[420], адкуль, здаецца, найменне Валынь – краіна валоў (хаця можна выводзіць гэта найменне і ад слова "воля").

Але дапускаць, што вугорцы і куманы прыйшлі ў сучасную Вугоршчыну із Сярэдняй Азіі ў XIII стагоддзі, азначае ўжо выходзіць із вобласьці дакладнай навукі ў вобласць фантасмагорый.

Падставай тэорый перасяленняў тут служыць, відаць, падвойнае значэнне слова туркі, выводзімае із назвы балканскіх славян тураводы (тур-нікі – быч-нікі), перайшоўшае пазней і на іхных заступнікаў магаметан, адкуль бярэ пачатак азіяцкае вывядзенне і саміх вугорцаў, і куманаў. Я ужо згадваў тут пра спробы навукоўцаў XVIII-XIX стагоддзяў знайсьці Вялікую і Малую Вугоршчыну недзе ў Сярэдняй Азіі і пра тое, што гэта прывяло да нічым не абгрунтаванай здагадкі, што Вялікая, Малая і Высокая Татарыя (як называлася ў рэчаіснасьці Вялікая, Малая і Высокая Куманія згодна з найменнем сваёй самай выбітной асаблівасьці Татрскіх, г. азн. Татарскіх Гор) знаходзілася на мяжы паміж паўднёва-ўсходняй Яўропай і сярэдне-заходняй Азіяй. Дзякуючы гэтай памылцы і пачалі называць "Малой Татрыяй", г. азн. "Татарыяй", казанскія, астраханскія і крымскія калоніі балканскіх арыянаў, збягаўшых ад націску хрысьціянства, а Вялікай Татарыяй ахрысьцілі сучасны Туркестан, на ўсходнюю ўзвышаную частку якога, звыш таго, перанеслі назву Высокая Татарыя, аналагічна вугорскім высокім Татрам. Ад такага непаразумення і ў гісторыю самой вугорскай дзяржавы закралася, як і ў рускую, лакалізацыённая недарэчнасць: "Пад час царавання Андрэя IV (1235-1270, г. азн. ў разгар прымусовага акаталічвання заходне-славянскіх арыян папскімі ордэнамі) ўварваліся, – пераконваюць нас вугорскія гісторыкі, – у Вугоршчыну татары,

[420] Аднак тут анамастыка дваіцца. Па-грэцку вол мае назву таўрас ταυροι, аткуль Таўрыда – краіна валоў і Турэччына. А назва тур, замест вол, нават і ў XIX стагоддзі захавалася ў народных паданнях на Ўкраіне (гл. Кіеўская Старына 1887 г., № 1).

прымусіўшыя караля збегчы на паўднёвы-захад ў Краацію, а потым яны былі выціснуты назад".

З нашага боку гледжання гэта быў націск на чыста мадзьярскі ўрад у тагачаснай Вугоршчыне тых жа самых куманаў із Татраў, якія пад найменнем татаравей (або тартараў – пякельных людзей) зрабілі адначасовы напад і на рускіх, а думка пра прыход сюды із прыбярэжжаў Каспійскага мора, у качавых кібітках з жонкамі і дзецьмі, яшчэ больш геаграфічна і стратэгічна недарэчная, чым і іхны прыезд із прыкаспійскага стэпу на раку Сыць, недалёка ад рускага гарады Малога.

Тое ж самае можна сказаць і пра з'яўленне татраўцаў у Польшчы пры Балеславе V (1226-1279). Із Татрскіх гор зрабіць гэта было лёгка, а паспрабуйце-ка із-за ніжняй Волгі, і прытым у рэчаіснасьці, а не на адной геаграфічнай мапе.

Такім жа чынам адбылося і перасяленне першапачатковых баўгар на рускую Волгу дзякуючы пераблытванню з ёю старой арыянскай назвы ніжняй плыні Дуная – Паздзяляючая рака (біблейскае – Фалег-Волег-Вольга). А акрамя таго і з'яўленне татар каля Яраслаўля, Уладзіміра і Ніжняга Ноўгарада ці не ме дачыненне замест паўночных гарадоў гэтага наймення да Яраслаўля, Уладзіміра Валынскага і нават да Нэйберга, г. азн. таксама Ноўгарада, але каля Вены?

І вось, калі мы станем на гэту заходніцкую тэорыю татрска-татарскага іга, то ў агульным летапісная гісторыя старажытнай рускай разумовай культуры набывае такі выгляд:

Першапачаткова з часоў Уладзіміра ў Кіеўскай Русі было грэцкае праваслаўе. Пад час эпохі крыжовых паходаў, пачынаючы з заснавання Лацінскай імперыі на Балканах, рускія князі, а з імі і насельніцтва, перайшлі да ўніі з каталіцызмам і пачалі ездзіць у Татры або за Татры для свайго добраславення і зацверджвання папскім легатам у Куманіі.

Пачатак гэтаму пераходу ад праваслаўя да каталіцызма паклаў Рурык (Расьціслававіч) у 1203-1204 годзе, калі захопіў і разграбаваў кіеўскія праваслаўныя цэрквы адначасова з захопам крыжакамі Цар-Горада і з разгабаваннем ў ім грэка-ўсходніх цэркваў Балдуінам пры заснаванні Лацінскай імперыі ў 1204 годзе.

Гэты перыяд каталіцкай уніі ў Кіеўскім, Маскоўскім, Наўгародзкім і іншых удзельных княствах працягваўся, відаць, нават і пасля адваротнага адваявання грэкамі Цар-Горада аж да 1329 года, калі маскоўска-ўладзімірскі вялікі князь Ян Каліта атрымаў ад ордэна права самастойна збіраць даніну з рускіх княстваў і адвозіць у Татары (Татры[421]). Але ў гэты час ужо пачаўся із-за каталіцкіх гвалтоўных пабораў паварот рускага святарства да бяручай верх Візантыі, дзе ў той час, пасьля выгнання із Цар-Горада каталікоў-крыжакоў у 1261, царавалі із дынастыі Палеолагаў Андронік III (1332-1341) і Ян V (1341-1391), а грэка-усходнім патрыярхом быў Ян XIV (1333-1347).

Такі паварот, вядома, быў цалкам зразумелы: упаўшы кумір – не бог, і рускаму сьвятарству было прывабным перайсьці да пераможцы, асабліва калі яго прыхільнікі самі старанна запрашалі рускіх да сябе. Із гэтага і зразумела, што яшчэ ў 1327 годзе вернаму рыцарю "Залатога Ордэна" Яну Данілавічу Каліце давялося разграміць, разам з татрскім войскам, Цвер ў пакаранне за забойства ордэнскага

[421] Працяг Наўгародзкага летапісу пад 1339 годам.

місіянера, па-руску пасланніка[422], Шчалкана (а згодна з іншымі копіямі – Шэф-Кала).

У 1340 годзе Каліце ж давялося караць Смаленск за адступніцтва ад "хана" (г. азн. кагана – валадарачага першасвятара). Аднак ужо нічога не магло спыніць пачаўшагася адліву рускага святарства ад пераможанага на ўсходзе Яўропы каталіцкага Хрыста да Хрыста праваслаўнага.

Хаця ў 1453 годзе малаазійскія асманы забралі ў грэкаў Цар-Горад і заснавалі ў Яўропе сваю Атаманскую (па-руску Турэцкую) імперыю, яны ўсё ж пакінулі ўсходняе праваслаўе недатыкальным ў сваёй краіне, як рэлігію палітычна хаўрусную з магаметанствам у яго барацьбе з каталіцкімі ордэнамі. А таму цалкам натуральна і зразумела, што і Маскоўскі вялікі князь Ян III у 1480 годзе таксама перастаў, нарэшце, плаціць даніну так званай Татарскай Залатой Ардзе (а згодна з нашай тэрміналогіяй – Татрскаму Залатому Ордэну) пры актыўнай дапамозе нікога іншага, як магаметаніна, крымскага хана Менглі-Гірэя, наладзіўшага з Масквой супраць крыжакоў сяброўскія дачыненні з 1474 года, праз дваццаць гадоў пасьля захопу асманамі Цар-Горада і спынення наступальнага руху ваяўнічага каталіцызма ва ўсходняй Яўропе.

Са звычайнага боку гледжання гэты хаўрус цалкам незразумелы, ды і не патрэбны, таму што толькі страціўшы розум маскоўскі цар стаў бы выказваць пакору і вазіць даніну нейкаму стэпаваму хану паблізу Каспійскага мора, ад сталіцы якога хутка пасьля гэтага не засталося нават і следу, так што археологам XIX стагоддзя давялося рабіць вельмі шмат намаганняў для яе пошуку, пакуль нехта прапанаваў ім ні на чым, акрамя адчаю, не заснаваную здагадку, што "магутная сталіца Залатой Арды" павінна быць не інакш як "каля гарадка Царава" (зараз Ленінск) на левым беразе передкаспійскага адгалінавання Волгі, і што знішчыў яе ніхто іншы, як той жа адзінаверац яе ханаў, толькі што згаданы Менглі-Гірэй[423] у 1502 годзе, раззлаваўшыся на сваіх аддаленых супляменнікаў і адзінаверцаў. Такім жа мала пераканаўчым чынам і сучасная нам "Сарайчыкаўская станіца" на рацэ Ўрал была ў XIX стагоддзі прызнана за "Новы Сарай" (Сарвіл Джадыд) "Нагайскага хана Залатой Арды". Не гледзячы на сваю магутнасць – кажуць нам, – і гэты Сарай быў разбураны нейкім "згуртаваннем збеглых казакаў" ў 1580 годзе, так што іхныя нашчадкі і зараз жывуць на яго забытым усімі месцы...

Чытач бачыць сам, што ўсе гэтыя падзеі больш, чым дзіўныя: яны проста немагчымыя, а таму нам застаецца толькі вырашыць, чаму і як "татарскае іга" было перанесена з Захаду на Ўсход?

Але адказ на гэта не цяжкі. І я ўжо яго даваў.

Табліца XVI.

З'яўленне імя Ян сярод еўрапейскіх валадароў, пачынаючы з часоў крыжовых паходаў і яго далейшая вульгарызацыя.

| Візантыйска-рускія дваццацігодзі | | Першыя Яны на заходнееўрапейскіх пасадах (другія і трэццця не пазначаны праз недахоп месца) | |
|---|---|---|---|
| 1000 | 1096 – пршы крыжацкі паход | | |
| 1100 | 1118-1143 Ян II Камнін | 1124-1141 Ян Васільевіч у Церабоўлі ў Галіцыі | |
| 1120 | | | |
| 1140 | | ?-1147 Ян Юр’евіч у Сузалі | |

[422] Я звяртаю ўвагу чытачоў на тое, што ў летапіснай мове адсутнічае слова місіянер і замест яго значыцца пасланнік, так што ў выпадках, дзе не пазначана дыпламатычная мэта, заўсёды можна мець на ўвазе місіянерскую.

[423] Гл. справаздачу Бруна ў працах III археалагічнага з’езду 1879 г., т. I.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1160 | | | |
| 1180 | | 1192-? Ян Ўсеваладавіч у Старадубе | 1166-1211 Джон Беззямельны ў Ангельшчыне |
| 1200 | 1202 – Чацьвёрты крыжовы паход. Пачатак Лацінскай імперыі на Балканскай паўвыспе ў 1204 годзе. | | |
| 1220 | 1222-1253 Ян Дука ў Нікеі | Лацінская феадальная федэрацыя крыжакоў на Балканскай паўвыспе. Адсутасць Янаў сярод рускіх князёў. | ?-1207. Ян Кола (Іаані Кій) у Баўгарыі. |
| 1240 | | | 1216-1222 Ян I у Швецыі.<br>1231-1237. Жан Брыен дэ Шатле – лацінскі імператар у Цар-Горадзе. |
| 1260 | 1261 – грэкі забіраюць у крыжакоў Цар-Горад. Аднаўленне Візантыі на Балканскай паўвыспе | | |
| 1280 | 1258-1296 – Ян IV Ласкарыс | | 1296-1346 – Ян Сляпы ў Багеміі. |
| 1300 | | ?-1302. Ян Зьмітравіч у Пераяслаўлі | 1316. Жан I Постум у Францыі |
| 1320 | | 1328-1340. Ян Данілавіч Каліта ў Маскве | |
| 1340 | 1341-1355 Ян VI Кантакузен апякун Яна V | 1353-1364. Ян I Янавіч Лагодны ў Звянігарадзе і Фузе | 1357 Ян I Партугальскі |
| 1360 | | ?-1359 Ян II. Памёр манахам раней бацькі. | |
| 1380 | | 1381-? Ян Уладзіміравіч у Серпухаве.<br>?-1402. Інан Усеваладавіч ў Холме | 1379-1390 Хуан I у Кастілыі і Леоне.<br>1387-1396 Хуан I у Арагоне. Увесь гэты прамежак запоўнены другімі і г. д. Янамі. |
| 1400 | | ?-1426 – Ян Васільевіч у Яраслаўлі.<br>?-1426, Ян Міхайловіч у Цвяры | |
| 1420 | 1425-1478 Ян VI Палеолаг | | |
| 1440 | 1453 – захоп Цар-Горада туркамі. Канец Візантыйскай імперыі. | | |
| 1460 | Пачатак турэцкай імперыі | ? – 1456. Ян Хведаравіч у Разані | |
| 1480 | | ? – 1490. Ян Янавіч ў Цвяры.<br>1495-? Ян Янавіч ў Рязані | 1487-1509. Ян Заполья ў Вугоршчыне.<br>1492-1501 Ян (Іаан) I Бранкавіч ў Польшчы. |
| 1500 | | ? – 1503. Ян Барысавіч.<br>1462-1505. Ян III Васільевіч "ўсяе Русі" ў Маскве | 1496-1503. Ян I Бранкавіч ў Сербіі. |
| 1520 | | 1533-1584. Ян IV Васільевіч Жахлівы ў Маскве. | ? – 1532. Ян Цьвёрды, курфюрст Саксонскі. |
| 1540 | | Апошні "Ян" на рускім пасадзе | Працяг Янаў на пасадах. |
| 1560 | | | |
| 1580 | | Заканчэнне "Янаў" на рускім пасадзе | Памяншэнне або спыненне "Янаў" на западне-еўрапейскіх пасадах і велізарнае пашырэнне гэтага наймення сярод простага насельніцтва ўсіх еўрапейскіх краін. |
| 1600 | | | |

# Глава III.

## Аткуль Жалезны Віцязь (Тымур ) і яго мімалётная феадальная імперыя ў Сярэдняй Азіі?

Тымур (Тамерлан)[424] – адзін із найвялікшых сусветных заваёўнікаў нарадзіўся 11 сакавіка 1336 гада ў горадзе Кэш (зараз Шахрысябз ў Бухарскім ханстве) або яго наваколлі; паходзіў із атурэчанага мангольскага племені Барулас. Пад час малалетства Тымура адбыўся распад джагатайскай дзяржавы ў Сярэдняй Азіі. У Мавераннахры з 1346 гада ўлада належала цюркскім эмірам, і ўзводзімыя імі на пасад ханы кіравалі толькі намінальна. Мангольскія эміры ў 1348 годзе ўзвялі на пасад Туклук-Тымура, які пачаў кіраваць ва ўсходнім Туркестане, Кульджынскім краі і Сямірэччы. Першым кіраўніком цюркскіх эміраў быў Казаган (1346-58). Тымур першапачаткова быў правадыром шайкі разбойнікаў якая склалася ў смутныя часы. З ёй ён паступіў на службу да валадара Кеша Хаджы, правадыра племені Барулас. У 1360 годзе Мавераннахр быў заваяваны Туклук-Тымурам; Хаджы збег у Харасан; Тымур пачаў перамовы з ханам і быў зацверджаны валадаром Кеша, але павінен быў пакінуць пасаду пасьля зыходу манголаў і вяртання Хаджы. У 1361 годзе хан зноў захапіў краіну; Хаджы зноў збег у Харасан, дзе быў забіты; Тымур быў зацверджаны валадаром Кеша і адным із памочнікаў мангольскага царэвіча Ільяс-Хаджы (сына хана), прызначанага кіраўніком Мавераннахра. Тымур хутка аддзяліўся ад манголаў і перайшоў на бок іхнага ворага Гусейна (ўнука Казагана); некаторы час яны з невялікім атрадам вялі жыццё шукальнікаў прыгод; пад час адной сутычкі ў Сеістане Тымур страціў два пальцы на правай руцэ і быў цяжка паранены ў правую нагу, праз што стаў кульгавым (прозванне "кульгавы Тымур" – Аксак Тымур па-цюркскі, Тымур-лонг на-фарсі, ад гэтага Тамерлан). У 1364 годзе манголы былі вымушаны ачысьціць краіну; кіраўніком Мавераннахра стаў Гусейн; Тымур вярнуўся ў Кэш. У 1366 годзе Тымур паўстаў супраць Гусейна, ў 1368 годзе паміраўся з ім і зноў атрымаў Кэш, ў 1369 годзе зноў наладзіў паўстанне. У сакавіку 1370 года Гусейн быў узяты ў палон і забіты ў прысутнасьці Тымура, хаця і без прамога яго загаду. 10 красавіка 1370 года Тымур прыняў прысягу ад усіх вайсковых правадыроў Мавераннахра. Падобна сваім папярднікам, ён не прыняў ханкі тытул і задаволіўся званнем "вялікага эміра"; ханамі пры ім лічыліся нашчадак Чынгізхана Суюргатмыш (1370-88) і яго сын Махмуд (1388-1402). Тымур абраў сваім месцазнаходжаннем Самарканд і ўпрыгожыў яго шыкоўнымі пабудовамі. Першыя гады свайго адзінаўладнага кіравання Тымур прысьвяціў упарадкаванню ў краіне і бяспечнасьці на яе мяжах (барацьба з мяцежнымі эмірамі, паходы на Сямірэчча і Усх. Туркестан).

У 1379 годзе быў заваяваны Харэзм (зараз Хівінскае ханства); з 1380 года пачаліся паходы на Персію, маючыя падставу, відаць, выключна ў імкненні да заваяванняў (выслоўе Тымура: "уся прастора населенай часткі сусвету не варта таго, каб мець двух цароў"); пазней Тымур выступаў таксама прадстаўніком ідэі дзяржаўнага ўпарадкавання, неабходнага для дабрабыту насельніцтва і немагчымага пры існаванні цэлага шэрагу варагуючых адзін з адным дробных валадароў. У 1381 годзе быў захоплены Герат; у 1382 годзе кіраўніком Харасана

[424] Біяграфія змяшчаецца ў Энцыклапедычным слоўніку "Бракгаўза і Эфрона".

быў прызначаны сын Тымура, Міраншах; у 1383 г. Тымур спустошыў Сеістан. У зах. частку Персіі і прылягаючых да яе мясцовасьцей Тымур здзейсніў тры вялікія паходы – так званы "трохгадовы" (з 1386 года), "пяцігадовы" (з 1392 года) і "сямігадовы" (з 1399 года).

Першы раз Тымур быў вымушаны вярнуцца назад, з нагоды нашэсьця на Мавераннахр золатаардынскага хана Тахтамыша ў хаўрусе з сямірэчанскімі манголамі (1387 г.). Тымур у 1388 г. прагнаў ворагаў і пакараў харэзмійцаў за хаўрус з Тахтамышам, у 1389 г. здзейсніў спусташальны паход у глыбіню мангольскіх уладанняў да Іртыша на поўнач і да вялікага Юлдуза на ўсход, у 1391 г. – паход на залатаардынскія ўладанні да Волгі. Гэтыя паходы дасягнулі сваёй мэты, так як пасьля іх мы ўжо не бачым нашэсьцяў стэпнякоў на Мавераннахр. Падчас "пяцігадовага" паходу Тымур ў 1392 годзе заваяваў прыкаспійскія вобласьці, ў 1393 годзе – Заходнюю Персію і Багдад; сын Тымура, Амар-шэйх, быў прызначаны кіраўніком Фарса, Міран-шах – кіраўніком Азербайджана і Закаўказзя. Нашэсьце Тахтамыша на Закаўказзе выклікала паход Тымура на паўднёвую Расію (1395 г.); Тымур перамог Тахтамыша на Цераку, перасьледаваў яго да рускіх межаў (дзе разбурыў Ялец), разрабаваў гандлёвыя гарады Азоў і Кафу, спаліў Сарай і Астрахань; але трывалае заваяванне краіны не мелася на ўвазе, Каўказскі хрыбет застаўся паўночнай мяжой уладанняў Тымура. У 1396 годзе ён вярнуўся ў Самарканд і ў 1397 годзе прызначыў свайго малодшага сына Шахруха кіраўніком Харасана, Сеістана і Мазандэрана.

У 1398 годзе быў здзейснены паход на Індыю; па дарозе скораны горцы Кафірыстана; у студзені Тымур пад сьценамі Дэлі перамог войска індыйскага султана (дын. Таглукідаў) і без супраціву заняўся горад, які праз некалькі дзён быў разрабаваны войскам, прычым Тымур зрабіў выгляд, што гэта адбылося без яго згоды.

У 1399 годзе Тымур дайшоў да берагоў Ганга, на адваротным шляху скарыў яшчэ некалькі гарадоў і ўмацаванняў і вярнуўся ў Самарканд з велізарнай здабычай, але не пашырыў свае ўладанні. "Сямігадовы" паход першапачаткова быў выкліканы стратай розуму Міраншахам і бязладдзямі ў даручанай яму вобласьці. Тымур пазбавіў свайго сына пасады і перамог ўварваўваўшыхся ў яго ўладанні ворагаў. У 1400 пачалася вайна з асманскім султанам Баязетам, захапіўшым горад Арзінджан, дзе кіраваў васал Тымура, з ягіпецкім султанам Фараджам, папярэднік якога, Баркук, яшчэ ў 1393 загадаў забіць пасланніка Тымура .

У 1400 г. Тымур захапіў Сівас ў Малой Азіі і Халеб (Алепа) у Сірыі (належаўшы ягіпецкаму султану), у 1401 г. – Дамаск. Баязет быў пераможаны і ўзяты ў палон у знакамітай бітве пры Ангоры (1402 г.). Тымур разграбаваў усе гарады Малой Азіі, нават Смірну (належаўшую яніцкім рыцарам). Заходняя частка Малой Азіі ў 1403 г. была вернута сынам Баязета, ва ўсходняй былі аднаўлены скасаваныя Баязетам дробныя дынастыі; у Багдадзе (дзе Тымур аднавіў сваю ўладу ў 1401 годзе, пры чым загінула да 90 000 жыхароў) быў прызначаны кіраўніком сын Міранішаха, Абу-Бекр, у Азербейджане (з 1404 г.) – другі яго сын, Амар".

І так ўсюды. Усе паходы суправаджаюцца рабаваннямі, знішчэннямі, забойствамі. Узнікае пытанне: навошта? А затым, каб паламанае, растаптанае, зьнішчанае передаць ў кіраванне дзецям. Вельмі велікадушна. У чым жа тут выяўляецца яго апісваемая ніжэй мудрасць? Адкуль жа пасьля гэтага могуць ўзяцца незлічоныя багацці? Ды няма ім адкуль узяцца, усё гэта проста міф.

"У 1404 годзе Тымур вярнуўся ў Самарканд і тады ж распачаў паход на Кітай, да якога пачаў рыхтавацца яшчэ ў 1398 годзе; у той год ім было пабудавана ўмацаванне (на мяжы сучаснай Сырдар'інскай вобл. і Сямірэчча); зараз было пабудавана яшчэ другое ўмацаванне, на адлегласьці 10 дзён шляху далей на ўсход, верагодна каля Ісык-Куля. Тымур сабраў войска і ў студзені 1405 г. прыбыў у горад Атрар (яго парэшткі – недалёка ад зліцця рэк Арыса і Сырдарья), дзе захварэў і памёр (згодна са словамі гісторыкаў – 18 лютага, згодна з надтрунным помнікам – 15-га). Карьера Тымура шмат у чым нагадвае карьеру Чынгізхана: абодва заваёўнікі пачалі сваю дзейнасць як правадыры набранных імі асабіста атрадаў прыхільнікаў, якія і пазней заставаліся галоўной апорай іхнай магутнасьці".

І не дзіўна, так як капіруюць яны па ўсёй бачнасьці адны і тыя ж падзеі.

"Падобна Чынгізхану, Тымур асабіста браў удзел ва ўсіх падрабязнасьцях арганізацыі войска, меў падрабязныя звесткі пра войска ворагаў і стан іхных зямель, меў у асяроддзі свайго войска безумоўны аўтарытэт і мог цалкам спадзявацца на сваіх паплечнікаў. Менш удалым быў выбар асоб, прызначаемых кіраўнікамі грамадзянскага кіравання (шматлікія выпадкі пакарання за ліхвярства вышэйшых сановнікаў у Самаркандзе, Гераце, Шыразе, Таўрызе). Адрозненне паміж Чынгізханам і Тымурам вызначаецца вялікай адукаванасьцю апошняга. Тымур не атрымаў школьнай адукацыі і быў непісьменным, але, акрамя сваёй роднай (цюркскай) мовы, размаўляў на фарсі і паважаў размаўляць з навукоўцамі, асабліва слухаць чытанне гістарычных твораў; сваімі ведамі ў гісторыі ён здзіўляў найвялікшага із мусульманскіх гісторыкаў, Ібн Халдуна (і не дзіўна, бо галаву шкадавалі і гісторыкі); апавяданнямі пра доблесць гістарычных і легендарных герояў Тымур карыстаўся для натхнення сваіх ваяроў. Пабудовы Тымура, у стварэнні якіх ён браў дзейны ўдзел, выяўляюць рэдкі мастацкі густ. Тымур пераважна турбаваўся пра росквіт свайго роднага Маверанахра і пра павелічэнне бляску сваёй сталіцы – Самарканда, дзе былі сабраны із разных краін прадстаўнікі ўсіх галін мастацства і навукі; толькі ў апошнія гады ім здзяйсняліся захады да павышэння дабрабыту іншых мясцовасьцей дзяржавы, пераважна памежных. У стаўленні Тымура да рэлігіі бачны толькі палітычны разлік. Тымур выказваў знешнюю павагу багасловам і пустэльнікам, не браў удзел у кіраванні маёмасьцю святарства, не дапускаў распаўсюджвання ерасяў (забарона вывучаць філасофію і логіку), турбаваўся пра захаванне яго падданнымі замацаванай рэлігіі (скасаванне забаўляльных установ у вялікіх гандлёвых гарадах, нягледзячы на вялікія прыбыткі якія яны давалі скарбу), але асабіста сабе не адмаўляў у задавальненнях забароненых рэлігіяй і толькі падчас перадсьмяротнай хваробы загадаў разбіць прылады для сваіх баляванняў. Каб апраўдаць сваю жорсткасць рэлігійнымі матывамі, Тымур ў шыіцкім Харасане і ў прыкаспійскіх мясцовасьцях выступаў абаронцам пабожнасьці і знішчальнікам ерэтыкоў, у Сірыі – мсціўцам за крыўды, нанесенныя сям'і прарока. Уладкаванне вайсковага і грамадзянскага кіравання грунтавалася амаль выключна на законах Чынгізхана; пазней багаслоўскія аўтарытэты адмаўляліся прызнаваць Тымура прававерным мусульманінам, так як законы Чынгізхана ён ставіл вышэй за патрабаванні рэлігіі. У жорсткасьці Тымура, акрамя халоднага разліку (як у Чынгізхана), выяўляецца хваравітае, вытанчанае зверства, што, магчыма, варта растлумачыць фізічнымі пакутамі, якія ён пераносіў ўсё жыццё (пасьля ранення, атрыманага ў Сеістане). Той жа псіхічнай ненармальнасьцю пакутавалі сыны (акрамя Шахруха) і ўнукі Тымура, з нагоды чаго Тымур, у супрацьлегласць Чынгізхану, не знайшоў у сваіх нашчадках ні

надзейных памочнікаў, ні працягвальнікаў сваёй справы. Пагэтаму яна выявілася яшчэ менш даўгавечнай, чым вынікі намаганняў мангольскага заваёўніка, а улада ў ардзе перайшла да Тахтамыша, які пры падтрымцы Тамерлана, аб’яднаў пад сваёю ўладай орды Сінюю і Залатую. У 1382 годзе ён паграміў Расію. У наступіўшай пазней барацьбе з Тамерланам Тахтамыш быў пераможаны, пасьля чаго Тамерлан разрабаваў Астрахань, спаліў Сарай, рушыў у Разанскую зямлю, але ад Масквы павярнуў назад, не зрабіўшы ёй ніякай шкоды. Расія ўвайшла ў склад імперыі Тамерлана, які сам прызначаў ханаў у арду; але гэтыя ханы не мелі сваёй партыі ў Сараі і не маглі там трымацца доўга, тым больш, што Тахтамыш і яго сыны пачалі рабіць смуту ў ардзе. У гэты час там узмацняецца цемнік Едыгей, які забіў Тахтамыша, ў 1407 годзе".

Пра Расію, у прыватнасьці, існуе легендарная гісторыя прыходу Тамерлана на Русь і з боку гледжання прыведзенай вышэй біяграфіі цалкам незразумелая.

"У 1395 годзе Ўсходняй Расіі пагражала жахлівая бяда. Тамерлан, перамогшы Тохтамыша, перайшоў Волгу і захапіў Ялец. Масква была ў жаху; але яшчэ былі жывымі паплечнікі Зьміцера Данскога на Куліковым полі. Маскоўскія баяры не прыйшлі ў адчай, сабралі палкі і ўгаварылі стаць на чале апалчэння, каб са зброяй у руках сустрэць грознага ворага. Але Тамерлан, прастаяўшы тыдні два ў Разанской зямлі і спустошыўшы краіну ў вярхоўях Дона, зышоў. Нагоду адступлення ўсходнія гісторыкі прыпісваюць набліжэнню восені (адступленне пачалося 26 жніўня)". Гэта пра войска, якое ваявала як летам так і зімой. "Пабожнае паданне паведамляе, што адступленне Тамерлана пачалося ў той дзень, калі ў Маскву прынесьлі абраз Богамаці із Уладзіміра".

Вось такое апісанне дае нам Брокгауз і Эфрон пра жыццё і дзейнасць "Жалезнага ваяра".

Уся гісторыя Тымура вельмі выразна дзеліцца на дзве часткі. Першая – апісвае яго здзясненні ў якасьці простага найміта. Другая – пачынаецца з апісання яго пераезду ў Самарканд ўжо ў якасьці маючага ўсе паўнамоцствы падпарадкаванага кіраўніка. Пры гэтым фармальна гэтыя часткі амаль не злучаны. У першай Тымур адзін са шматлікіх, у другой – адзіны. Ураженне ад усёй гэтай біяграфічнай гісторыі такое, як калі б пасварыліся жыхары двух тамбоўскіх вёсачак, адна із якіх перамагла, і правадыр пераможцаў пайшоў і ўзяў Маскву. Калі ўсё ж такі паверыць у гэтую гісторыю, узнікае такое, напрыклад, пытанне: з якой мэтай ўсе гэтыя бясконцыя паходы? Дзеля таго, каб "... і ўпрыгожыў яго (Самарканд) шыкоўнымі пабудовамі", "... ўзвышэння бляску сваёй сталіцы – Самарканда, дзе былі сабраны із разных краін прадстаўнікі усіх галін мастацства і навукі".

Але ж у Самаркандзе таго часу не было адміністрацыйных пабудоў. Большасць жа гарадоў Сярэдняй Азіі нагадвае хутчэй рэлігійныя цэнтры. І чаму царства Тымура імгненна лопнула пасьля яго сьмерці, не пакінуўшы колькі-небудзь прыкметнага матэрыяльнага следу. На гэтыя і іншыя пытанні не існуе колькі-небудзь разумнага адказу. А вось апісанне яго асабістых якасьцей, і ў асаблівасьці веданне грэцкай міфалогіі ў купе з яго найменнем цалкам паказваюць на яго крыжацкае паходжанне. Гэта шмат што ставіць на свае месцы. Абставіны пахода на Русь, вайна з Асманскай імперыяй і незразумелы ў іншым кантэксце паход у Індыю і не адбыўшыся паход у Кітай.

Так жа мала зразумела дзейнасць Тымура ў якасьці ўсходняга валадара з чыста вайсковага боку гледжання. Бо каб весьці паспяховую вайсковую дзейнасць і

валадарыць на значнай тэрыторыі, неабходна мець добра ўзброенае і матэрыяльна забяспечанае войска.

Як следства, Тымур павінен быў, як і папярэднія яму заваёўнікі, валодаць усімі відамі сучаснай на тую пару зброі. І такая паспяховая вайсковая дзейнасць павінна была грунтавацца на падрыхтаваным і добра ўзброеным войску. Дзе ж Аксак Тымур браў зброю, выкаваную із жалеза, не кажучы ўжо пра даспехі, якія ён па ўсёй бачнасьці насіў, робячы выснову із яго імя – Тымур (жалезны) і яго ваяры таксама. Здабыць такую зброю і даспехі ў неабходнай колькасьці для яго войска на падпарадкаваных яму тэрыторыях не было дзе. Так як нават у Яўропе таго часу, эканамічна непараўнана больш развітай, чым краіны ўсходу, жалеза і як сыравіна, і як вырабы было дарагім. Хаця зразумелае захапленне руднай справай у Багеміі і Маравіі, асноўных цэнтрах вырабу железа таго перыяду, прывяло да таго, што чэшскі ўрад быў вымушаны ў 948 і 1153 гг. абмяжаваць дзейнасць у галіне горнай прамысловасьці, так як насельніцства пачало закідаць земляробства. За вытворчасьцю металаў стаяла вельмі вялікая доля насельніцства, якое абслугоўвала працэс яго вытворчасьці, а за імі шмат людзей, якія абслугоўвалі працэс яго вытворчасьці, ад вытворцаў прадуктаў харчавання да рамеснікаў, якія абслугоўвалі першых.

Пры гэтым у Яўропе былі пастаянныя міжусобіцы і паходы крыжакоў на ўсход, патрабаваўшыя пастаяннай вытворчасьці металлаў і рэчаў вырабляемых з іх. Гэтага ж патрабавала і грамадзянскае жыццё насельніцства. Вось якімі былі реальныя гістарычныя ўмовы. Яны ж былі люстэркава перанесены на ўсходнія краіны, дзе і зараз – у ХХ стагоддзі – забяры адтуль усё еўрапейскае то застанецца голая пустыня. А ў XIV стагоддзі, несумненна, гэтыя краіны ўяўлялі із сябе тэрыторыі населеныя напалову дзікімі качэўнікамі і нешматлікімі аселымі па аазісах племянамі, здольнымі пракарміць толькі сябе.

Афіцыяльная гісторыя, як паказана, напрыклад, у Брокгауза і Эфрона, запэўнівае нас у тым, што гарады, якія яны пакаралі, зведвалі татальнае рабаванне і збіццё мясцовага насельніцства, прычым шматразова. Нават калі прыняць версію пра тое, што мясцовасьці, у якія прыходзіў "заваёўнік" азіяцкага складу, да яго і квітнелі ў дачыненні гандлю і рамёстваў, то пасьля разрабавання быў патрэбен час, каб аднавіць разбуранае, а із той гістарычнай рэчаіснасьці, якую мы маем, відаць, што набегі адбываліся так часта, што ў сапраўднасьці аднавіць гаспадарку за такі кароткі час, г. азн. час паміж набегамі, было немагчыма. А тое што мы бачым на ўсходзе – гэта шэраг суцэльных войнаў і разбурэнняў і адсутнасць, нават грунтуючыся на крыніцах, прыкмет вытворчай дзейнасьці. Дык з кім і дзеля чаго ўсё сваё жыццё ваяваў Тымур, калі ўжо да яго ўсё было разграбавана і ператворана ў пыл. Бо каб нешта стварыць, патрэбна значна больш часу, чым разбурыць. Таму не вельмі мудрагелячы скажам, што із аналіза палітычнай і эканамічнай рэчаіснасьці жыццё і дзейнасць "Жалезнага віцязя" не што іншае, як адлюстраванне заваёўніцкіх паходаў крыжацкіх ордэнаў ва ўсходнія краіны і апісаныя на свой лад ў нешматлікіх культурных центрах усхода магчыма створаных тымі ж заваёўнікамі для мясцовага насельніцства ў больш познія часы.

Афіцыйная гісторыя Тымура была напісана яшчэ пры яго жыцці, спачатку Алі-бен Джамал-ал-ісламі (адзіны асобнік – у ташкентцкай публічнай бібліятэцы), потым Нізам-ад-Дынам Шамі (адзіны асобнік – у брытанскім музеі). Гэтыя творы былі адсунуты на другі план вядомым творам Шэрэф-ад-дзінам Іездзі (пры Шахрухе), перакладзеным на французскую мову ("Histoire de Timur-Bec", P., 1722 г.).

Твор другога сучасніка Тымура і Шахруха, Хафі-зі-Абру, дайшоў да нас толькі часткова; ім карыстаўся аўтар другой палавіны XV ст., Абд-ар-Рэзак Самаркандзкі (твор не надрукаваны; шмат рукапісаў). Із аўтараў (пярсідскіх, арабскіх, грузінскіх, армянскіх, асманскіх і візантыйскіх), пісаўшых незалежна ад Тымура і тымурыдаў, толькі адзін, сірыйскі араб Ібн-Арабшах склаў поўную гісторыю Тымура («Ahmedis Arabsiadae vitae et rerum gestarum Timuri, qui vulgo Tamerlanes dicitur, historia», 1767-1772). Пар. таксама F. Neve, «Expose des guerres de Tamerlan et de Schah-Rokh dans l'Asie occidental, d'apres la chronique armenienne inedite de Thomas de Madzoph» (Брусель, 1859). Сапраўднасць аўтабіяграфічных запісак Тымура, быццам бы знойдзеных у XVII ст., больш чым сумнеўная. Із прац еўрапейскіх падарожнікаў асабліва каштоўны дзённік гішпанца Клавіхо ("Дзённік падарожжа да двара Тымура ў Самарканд ў 1403-1406 гг.", тэкст з перакладам і заўвагіямі, СПб., 1881, у "Зборніку аддзялення рускай мовы і славеснасьці Імп. Акд. Наук", Тымур , XXVIII, №1). Строга навуковага даследавання пра Тымура і яго эпоху да гэтага часу няма; пра спробы розных гісторыкаў даць характарыстыку Тымура – гл. М. Астраўмаў, "Уклад Тымура " (Казань, 1894, прадмова).